А. М. Кулагін

# КАТАЛІЦКІЯ ХРАМЫ БЕЛАРУСІ

Фатограф А.Л. Дыбоўскі

Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2008

УДК 726.5.03:272/273(476)(035.5)
ББК 85.11(4Беи)я2
К 90



У кнізе выкарыстаны ілюстрацыі з архіва выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» і *А.М.Кулагіна*, здымкі *У.А.Багданава, М.М.Дзегцярова, Дз.Э.Салаша*

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

К 90 **Кулагін**, А.М.
Каталіцкія храмы Беларусі / А.М.Кулагін; фатограф А.Л.Дыбоўскі. — Мінск : Беларус. Энцыклапедыя імя П.Броўкі, 2008. 488 с.: іл.

ISBN 978-985-11-0395-5.

Выданне прысвечана касцельнаму дойлідству з часоў старажытнасці да нашых дзён. У ім змешчана інфармацыя пра вядомыя касцёлы, кляштары, капліцы, якія ўвайшлі ў скарбніцу сусветнай архітэктуры, а таксама малавядомыя помнікі і тыя, што не дайшлі да нас па розных прычынах.

УДК 726.5.03:272/273(476)(035.5)
ББК 85.11(4Беи)я2

ISBN 978-985-11-0395-5

# Ад аўтара

На беларускай зямлі з даўніх часоў з вялікай павагай ставіліся да Бога. Сведчанне таму — велічныя высокамастацкія храмы, шматлікія капліччкі. Яны даносяць да нас многавяковую гісторыю народа, шматпакутны лёс нацыі, яе імкненне да зямнога дабрабыту, міру, ушанавання рэлігійных, агульначалавечых ідэалаў. Храмы — гэта святыні, якія беражліва, з пакалення ў пакаленне, народ ахоўваў ад гістарычных катаклізмаў, каб перадаць у будучыню ўвасоблены ў іх неацэнны духоўны скарб, неразменную каштоўнасць — душу нацыі.

Ва ўсёй сукупнасці вытокаў і праяў касцельная архітэктура Беларусі — агульнанацыянальны гісторыка-культурны здабытак. Гэтыя хрысціянскія святыні арганічна ўвайшлі ў архітэктурнае і прыроднае асяроддзе краіны, сваімі манументальнымі гмахамі, вежамі ўключыліся ў структуру гарадоў і вёсак Беларусі, фарміруючы іх маляўнічыя панарамы і сілуэты. Яны стаяць на беларускай зямлі, будаваліся ў яе гістарычным і культурным асяроддзі і з цягам часу зросліся з гэтым асяроддзем. Дзейнасць заходняй хрысціянскай царквы пакінула ў нашай культуры прыкметны след, і ў першую чаргу гэта архітэктурныя помнікі, некаторыя з якіх, напрыклад, Нясвіжскі касцёл Божага Цела, лічацца агульнаеўрапейскімі шэдэўрамі.

Велічныя храмы, манументальныя фрэскі і творы іканапісу — бясцэнная культурная спадчына народа. У творах архітэктуры ўвасабляецца непаўторнасць светаўспрымання, талент і міралюбнасць народа. Храмы мацуюць сувязь часоў, дапамагаюць асэнсоўваць перажытае. Што можа больш дакладна вызначыць каштоўнасці кожнай культурнай эпохі, як не помнікі сакральнай архітэктуры! А калі адасобіцца ад сакральнасці — ці гэта не ўвасабленне тытанічнай інтэлектуальнай і фізічнай працы, найтанчэйшых разлікаў, канцэнтрацыі ўсіх творчых магчымасцей народа ва ўсіх відах мастацтва — ад горадабудаўніцтва да аб’ёмнай архітэктуры, ад жывапісу да скульптуры, ад музыкі да тэатра?

Гэта кніга аб архітэктурных святынях каталіцызму ў Беларусі. Мэта аўтара — адлюстраваць тое высокамастацкае, культурна значнае, што ўнесла каталіцкае веравызнанне ў агульначалавечую мастацкую скарбніцу краіны.

У даведачным выданні «Каталіцкія храмы Беларусі» змешчана больш за 900 артыкулаў, прысвечаных творам касцельнага дойлідства з часоў сярэднявечча да нашых дзён. У ёй чытач можа знайсці інфармацыю пра выдатныя помнікі старажытнага дойлідства і малавядомыя касцёлы, храмы, што з’явіліся ў апошнія гады, і тыя, што знесены часам, не дайшлі да нас з-за ліхалеццяў і вандалізму.

Кніга — вынік 40-гадовай працы ў гэтай галіне гістарычнай навукі Беларусі. Пры яе стварэнні выкарыстаны публікацыі многіх беларускіх даследчыкаў архітэктуры: У.В.Алісейчыка, С.А.Друшчыца, В.Ф. Марозава, А.А.Міцяніна, А.Ю.Пятросавай, С.Ф.Самбука, У.А.Чантурыя, Ю.А.Чантурыя, В.М.Чарнатава, Т.І.Чарняўскай, Ю.А.Якімовіча і многіх іншых. Праведзена адпаведная праца над архіўнымі і бібліяграфічнымі крыніцамі.

Але асноўны ўклад належыць маладой кагорце навукоўцаў: А.Дыбоўскаму (выканаў амаль што ўсе каляровыя фотаздымкі, змешчаныя ў гэтай кнізе), У.Багданаву, Р.Кісялёву, Дз.Салашу і інш. Менавіта яны на пачатку 3-га тысячагоддзя пашырылі гарызонты нашай культурнай спадчыны.

Першую частку кнігі складаюць артыкулы пра канкрэтныя помнікі з характарыстыкай іх гістарычнай і мастацкай каштоўнасці. Другая частка прысвечана страчанай архітэктурнай спадчыне. Матэрыялы першай і другой частак згрупаваны па населеных пунктах і змешчаны ў алфавітным парадку. У канцы кнігі прыводзіцца рэестр менш значных і недаследаваных помнікаў. У выданні змешчана больш за 1000 каляровых і чорна-белых ілюстрацый.



# А

## в. Абадоўцы,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы як родавая пахавальня ў сядзібе Багдановічаў[1].

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, вуглы якога завершаны 4-граннымі шатровымі вежачкамі-фіяламі. Плоскасны фасад завершаны 2-схільным шчытом, прарэзаны па цэнтры высокім уваходным праёмам, над якім 4-лопасцевая гатычная разетка. Бакавыя фасады прарэзаны адзінарнымі стральчатымі аконнамі праёмамі.



Капліца ў в. Абадоўцы.



Капліца ў в. Абадоўцы.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 354.

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі. Узведзена ў канцы 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана арачнай нішай-экседрай на п'едэстале, у якой пастаўлена скульптура Маці Божай.

## в. Агароднікі (Вашкевічы),
Ганчарскі сельсавет
Лідскага раёна
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках, за касцёлам. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 3-яруснай 4-границай вежай пад шатровым пакрыццём з крыжом у завяршэнні. Грані крапаваны вуглавымі лапаткамі, верхні ярус адкрыты арачнымі прасветамі і прызначаны для сакральнай скульптуры.




Капліца ў в. Агароднікі (Вашкевічы).

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 1-схільным дахам. Да фасадзе далучаны прамавугольны нартэкс з выступаючым 6-калонным порцікам з трохвугольным франтонам, над якім надбудавана 2-ярусная 4-гранная шатровая вежачка з крыжом. З тыльнага боку далучана кароткая прамавугольная апсіда з самастойным 2-схільным пакрыццём. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках.

# в. Агароднікі,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца святога Юзафа

У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1895 г. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным вертыкальна ашаляваным павільёнам пад шатровым дахам з крыжом у завяршэнні. Франтальная грань прарэзана прамавугольным уваходным праёмам з бакавымі акенцамі. Побач пастаўлены драўляны крыж з металічнай скульптуркай «Укрыжаванне».


Касцёл святых Іахіма і Ганны ў в. Агароднікі (Вашкевічы).


Капліца святога Юзафа ў в. Агароднікі Стаўбцоўскага раёна.

## Касцёл святых Іахіма і Ганны

На могілках. Пабудаваны ў 1763 г. з цэглы. Адноўлены ў 2002 г.

# в. Адамавічы

Гродзенскага раёна

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі


Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Адамавічы.



Інтэр'ер касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Адамавічы.

Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1854 г. з цэглы. Абнесены бутавай агароджай з вуглавымі капліцамі і 4-слуповай брамай.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма спалучае прамавугольны пад вальмавым дахам аб'ём з чацверыковай шатровай званіцай над яго франтальным фасадам. Над арачным парталам увахода скульптура св. Тэклі. Гладкія атынкаваныя і пабеленыя фасады пазбаўлены архітэктурнага дэкору, прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах.

Унутраная прастора падзелена арачнымі прасветамі на малітоўную залу і апсіду з бакавымі сакрысціямі; над 3-камерным нартэксам хоры. У інтэр'еры ўзнятыя пад плоскую столь 3 неабарочныя стукавыя алтары. Уздоўж сцен гарэльефныя пано-стацыі «Крыжовы шлях Хрыста».

## в. Адэльск
Гродзенскага раёна

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1700 г. з дрэва на месцы касцёла, заснаванага ў 1601 г. польскім каралём Жыгімонтам III (парафія заснавана ў 1490)[1]. Першы інвентарны вопіс касцёла складзены ў 1782 г.[2] У 1808 г. пры касцёле пастаўлена новая драўляная плябанія[3]. Да сярэдзіны 19 ст. храм прыйшоў у аварыйны стан[4]. У 1887 і 1898 гг. аднюўлены без страты першапачатковага архітэктурна-стылёвага вобліку[5]. На 1886 г. налічвалася 1242 парафіяніны, на 1895 г. — 841, на 1997 г. — 1930. Адноўлены ў 1898 г. — нанава ашаляваны без парушэння барочнай стылёвай першаасновы. У 1992 г. капітальна адрамантаваны. Прыпісная капліца ў в. Падліпкі.

Помнік манументальнага народнага дойлідства з рысамі стылю барока. Узведзены па канону 3-нефавай базілікі. У аснове будынка — прадаўгаваты і высокі прамавугольны зруб цэнтральнага нефа з 5-сценнай апсідай, накрыты вальмавым дахам з ківорыем (шатром) фігурнай барочнай формы. Яруснае нарастанне ствараецца больш нізкімі бакавымі нефамі і кароткімі крыламі трансепта пад 1-схільнымі дахамі. Іх дынамічны рух узмацняецца вертыкальнай шалёўкай і брусамі-сцяжкамі па баках высока ўзнятых арачных вокнаў-біфорыумаў.



Алтар касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Адэльск.

Унутраная прастора, падзеленая дзвюма 5-слуповымі аркадамі на 3 нефы, мае глыбінна развітую, падоўжана выцягнутую кампазіцыю. Ансамбль з 5 драўляных алтароў — магутны мастацка-дэкаратыўны акорд у лапідарнай па архітэктуры ма-



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Адэльск.



літоўнай зале. Архітэктоніку 2-ярусных алтароў утвараюць карынфская каланада, разарваныя антаблементы, прафіляваныя карнізы, якія арганічна спалучаюцца з круглай драўлянай скульптурай і ажурнай арнаментальнай разьбой. Ёй акаймаваны шырокафарматныя алтарныя абразы. На сценах залы навешаны 12 стацый з цыкла «Крыжовы шлях Хрыста» (гіпсатура, 19 ст.). На выступаючай і адкрытай у залу вялікай аркай 3-граннай галерэі хораў устаноўлены арган, дэкарыраваны барочным франтонам. На левым слупе прэсбітэрыя навешаны гранёны амбон.

У канцы 19 ст. касцёл абкружаны бутавай агароджай з брамай у выглядзе гатычнай 3-пралётнай стральчатай аркады. Каля яе ў 1877 г. ўзведзена мураваная званіца, трактаваная ў суровых крапасных формах: глухія сцены 4-граннай вежы пад нізкім шатровым дахам толькі ў верхнім ярусе-звоне прарэзаны лучковымі праёмамі[6]. Побач з храмам надмагілле са скульптурай Хрыста.

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1721, воп. 1, спр. 51, арк. 1адв.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1721, воп. 1, спр. 8, арк. 1.
[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 1721, воп. 1, спр. 18.
[4] НГАБ у г. Гродна, ф. 1721, воп. 1, спр. 24.
[5] НГАБ у г. Гродна, ф. 1721, воп. 1, спр. 77, 78, 96.
[6] НГАБ у г. Гродна, ф. 1721, воп. 1, спр. 67.

# в. Азёрцы,
Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Маці Божай Ружанцовай і Ісуса Хрыста

Насупраць былога сядзібнага дома. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які над алтарнай часткай з бакавымі сакрысціямі пераходзіць у вальмавы, завершаны каркаснай шатровай сігнатуркай. Да фасада далучаны прытвор-званіца. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.



Касцёл Маці Божай Ружанцовай і Ісуса Хрыста ў в. Азёрцы.





Касцёл Хрыста Валадара ў в. Азёры.



Інтэр'ер касцёла Хрыста Валадара ў в. Азёры.

# в. Азёры
Гродзенскага раёна

## Касцёл Хрыста Валадара

У цэнтры вёскі побач з Духаўскай царквой. Пабудаваны ў 1994—98 гг. з цэглы. На 1998 г. налічвалася 330 парафіян.

Твор архітэктуры ў стылёвых формах раманскага сярэднявечча. Вырашаны 1-нефавай 2-вежавай базілікай з прамавугольнымі трансептам і апсідай. Аб'ёмную кампазіцыю ўзбагачаюць нізкія бакавыя прыдзелы. Франтальны фасад 3-часткавы — высунутыя наперад 3-ярусныя 4-гранныя шатровыя званіцы вылучаюць цэнтральнае 2-яруснае прасла, завершанае 2-гранным шчытом; па цэнтры партал арачнага ўваходнага праёма. Плоскасныя фасады прарэзаны адносна невялікімі і вузкімі арачнымі аконнымі праёмамі ў прамавугольных ліштвах з 2-граннымі завяршэннямі. Архітэктурна-эстэтычны эфект дасягаецца высакаякаснай цаглянай муроўкай, якой выкладзены элементы дэкору: цягнутыя лапаткі, прафіляваныя карнізы і цягі.



Капліца святога Дамініка ў в. Акцябр (Хатаевічы).

Унутры неф перакрыты драўляным лучковым скляпеннем; алтарная частка вылучана лучковым прасветам.

## в. Акцябр (Хатаевічы),

Лагойскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца святога Дамініка

На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва, адноўлена ў 1990-я гг. (абкладзена цэглай).

Вырашаны прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным дахам без выразнай архітэктурна-стылёвай характарыстыкі. Над галоўным фасадам узведзена 2-ярусная 4-гранная драўляная званічка. Сцены прарэзаны прамавугольнымі ўрубнымі аконнымі праёмамі, умацаваны пілонамі ў прасценках.

## в. Алексічы,

Зэльвенскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля шашы Масты—Слонім. Узведзена ў 19 (па іншых звестках у 16) ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана высокім 4-гранным абеліскам, завершаным бетоннай сферай у акантавым лісці з крыжом (не захаваўся). На франтальнай грані мемарыяльная дошка.

## в. Альковічы,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі



Капліца ў в. Алексічы.

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1897—1902 гг. з чырвонай цэглы. У 1950-я гг. закрыты. У 1969 г. згарэў дах. Касцёл адноўлены ў 1989—92 гг.

Першапачаткова ў 1699 г. была пастаўлена драўляная капліца з іконай Найсвяцейшай Дзевы Марыі. У 1722 г. уладальнік мястэчка біскуп Аляксандр Гараін пабудаваў на свае сродкі драўляны касцёл у гонар Раждждаства Найсвяцейшай Дзевы Марыі, які праз 30 год струхлеў; у 1754 г. перабудаваны[1].

Помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны паводле канону 3-нефавай 1-вежавай базілікі з 5-граннай апсідай і гранёнымі сакрысціямі. Аб'ёмы ярусна нарастаюць да вежы, па вуглах і ў прасценках умацаваны ступеньчатымі контрфорсамі, прарэзаны высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Альковічы.



Званіца касцёла Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Альковічы.

(раней былі запоўнены вітражамі). Арачны ўваходны партал завершаны вімпергам, над якім вялікае акно-ружа. Дэкор абмежаваны цаглянымі трыльяжнымі і аркатурнымі арнаментальнымі паясамі.

Унутраная прастора перакрыта стральчатымі крыжовымі скляпеннямі, якія трымаюцца на шматслойных калонах з характэрнымі керамічнымі капітэлямі з завіткамі лісця і гронак вінаграду. У стылі неаготыкі выкананы таксама арган на хорах.

З паўночнага боку ад касцёла была пастаўлена драўляная званіца — твор народнага дойлідства 19 ст. (разабрана ў канцы 20 ст). Цэнтрычнае 4-граннае 3-яруснае збудаванне пад шатровым гонтавым дахам; ярусы вылучаліся шырокімі гонтавымі адлівамі.

[1] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. I. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мн., 2003. С. 63—64.



Капліца ў в. Альшэва.



## в. Альшэва,
Бярозаўскі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі, у полі. Узведзена ў пачатку 19 ст. з цэглы ўладальнікам маёнтка Старыя Пескі Войцехам Пуслоўскім[1].

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 4-гранным абеліскам, узнятым на кубападобны п'едэстал, грані якога крапаваны прамавугольнымі нішамі.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2006. С. 278.

## в. Алянец,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці



Капліца ў в. Алянец.

### Капліца

Каля шашы Мінск—Смаргонь. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства з рысамі класіцызму. Цэнтрычнае, квадратнае ў сячэнні вежападобнае збудаванне. Над філёнгавым цокалем уздымаюцца 2 ярусы, верхні накрыты 4-схільным дашкам з крыжом у завяршэнні і адкрыты з 4 бакоў прамавугольнымі праёмамі ў сціплых арачных ліштвах, за якімі знаходзіцца скульптура Хрыста. Збудаванне пазбаўлена архітэктурнага дэкору, але мае дасканалыя прапорцыі, якія надаюць яму мастацкую зграбнасць.

## в. Аляны,
Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца



Капліца ў в. Аляны.

На могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з бутавага каменю.

Помнік архітэктуры архаічнага накірунку эклектыкі. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Фасады па восі сіметрыі прарэзаны арачнымі аконнымі і ўваходным праёмамі, круглай люкарнай над апошнім.

## в. Аляхнішкі,
Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з драўлянага бруса. У капліцы быў пахаваны інжынер-тэхнолаг Ян Манчынскі (памёр 6.5.1912, навешана мемарыяльная дошка). У паўзруйнаваным стане.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам («у ластаўчын хвост») пад 2-схільным дахам (не захаваўся). З тыльнага боку прырублена 5-гранная апсіда са стральчатым уваходным праёмам у бакавую сакрысцію. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарублены прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі, умацаваны брусамі-сцяжкамі.



Капліца ў в. Аляхнішкі.

## в. Амнішава,
Лагойскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1816 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Прамавугольны зруб з 3-граннай алтарнай часткай. Двухсхільны дах утварае на галоўным фасадзе трохвугольны франтон, у які была ўрэзана невялікая чацверыковая шатровая вежачка-званіца. Вертыкальна ашаляваныя фасады расчлянёны прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі. Зала капліцы перакрыта плоскай столлю, пры ўваходзе выступаюць хоры.



Капліца ў в. Амнішава.

## в. Анжадава,
Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

Пабудаваны ў 1995 г. з цэглы на месцы драўлянага храма 18 ст., страчанага пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад пакатым 2-схільным дахам. Да фасада далучана 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца, 1-ы ярус якой адкрыты арачнымі прасветамі, 2-і прарэзаны паўкруглымі люкарнамі, 3-і — высокімі арачнымі прасветамі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, аб'яднанымі высокай аркатурай.

## г.п. Антопаль,
Драгічынскі раён
Брэсцкай вобласці




Касцёл святога Андрэя Баболі ў г.п. Антопаль.


Капліца ў в. Антосіна.


Капліца ў в. Арэхаўна.



## Касцёл святога Андрэя Баболі

У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 1938 г. з цэглы. Пасля Вялікай Айчыннай вайны выкарыстоўваецца пажарнай аховай.

Помнік архітэктуры канструктывізму. Прамавугольны ў плане будынак накрыты 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай і прагібам над карнізам, што надае яму пластычную форму. Галоўны фасад вырашаны высокай 2-яруснай 4-граннай званіцай з вузкімі высокімі праёмамі яруса-звона. Над шырокім парталам навісае балкон хораў, фланкіраваны па баках арачнымі нішамі. Бакавыя фасады плоскасныя з асіметрычна размешчанымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі 1-га і 2-га паверхаў (першапачаткова былі аб'яднаны ў адзіны высокі і вузкі праём). Архітэктура будынка заснавана на спалучэнні чыстых геаметрычных форм, пазбаўленых традыцыйнага пластычнага дэкору.

# в. Антосіна,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

Узведзена ў канцы 19 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным слупом на п'едэстале пад шатровым пакрыццём з крыжом у завяршэнні. Франтальная грань крапавана арачнай нішай.

# в. Арэхаўна,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

Каля шашы Вільнюс—Полацк. Пабудавана ў канцы 20 ст. з бутавага каменю.

Твор народнага дойлідства. Вырашана ў выглядзе 4-граннага грота, завершанага крыжом. У арачнай нішы пастаўлена скульптурная выява св. Яна з Хрыстом-дзіцем.

# в. Асавая,

Столінскі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як надмагілле Ордаў.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 4-калоннай сенню пад пакатым шатровым пакрыццём.

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Каля могілак. Пабудаваны ў 2003 г. з цэглы на месцы драўлянага храма, разабранага ў 1969 г. на



Капліца ў в. Асавая.

Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Асавая.





Званіца касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Асавая.

будаўнічы матэрыял (захавалася драўляная 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца).

Вырашаны прамавугольным у плане з 5-граннай апсідай аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Плоскасны 2-ярусны фасад фланкіраваны 4-граннымі шатровымі вежамі, прасла паміж якімі завершана 2-гранным шчытом. Фасады рытмічна расчлянёны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і плоскімі лапаткамі ў прасценках.



Кляштар місіянераў ў г.п. Асвея.

## г.п. Асвея,

Верхнядзвінскі раён
Віцебскай вобласці

## Кляштар місіянераў

На ўсходняй ускраіне пасёлка, каля парку. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы. Заснаваны ў 1-й палавіне 18 ст. мінскім ваяводам Янам Аўгустам Гільзенам. Паводле іншых звестак, існаваў у 1784—1842 гг.[1] Будынак выкарыстоўваецца пад медыцынскую ўстанову.

Помнік архітэктуры барока. Кляштарны корпус П-падобны ў плане, 1-павярховы. Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Планіроўка цэнтральнага крыла калідорная, бакавых — галерэйная. Калідоры перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, сутарэнні — цыліндрычнымі, келлі — плоскай столлю.



Капліца ў в. Асінаўшчына.

[1] Misjonarze w Siemiatyczach, Smiłowiczach, Orszy i Oswieju. Kraków, 1913.

## в. Асінаўшчына,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца



Пабудавана ў канцы 20 ст. з сілікатнай цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай вежай пад шатровым бляшаным дахам з крыжом у завяршэнні. Грані прарэзаны прамавугольнымі ўваходным і 2 бакавымі аконнымі праёмамі.

## в. Аснежыцы,

Пінскі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца святога Яна Хрысціцеля

На ўскраіне вёскі, у полі. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы.



Капліца святога Яна Хрысціцеля ў в. Аснежыцы.

Вырашана калонай на п'едэстале, завершанай скульптурай (не захавалася).

## г.п. Астравец

Гродзенскай вобласці



Касцёл святых Касмы і Даміяна.

### Касцёл святых Касмы і Даміяна

На вул. Камсамольскай, у цэнтры пасёлка. Пабудаваны манахамі-дамініканцамі (запрошаны ў 1684 ашмянскім суддзёй Корсакам) у 1785—87 гг. з цэглы па фундацыі Гілярыя Цішэўскага на месцы храма, узведзенага магнатамі Корсакамі ў 1616—18 гг. замест струхнелага драўлянага касцёла 1468 г.[1]

Помнік архітэктуры барока і класіцызму. Вырашаны адзіным прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Архітэктурна-дэкаратыўны акцэнт створаны на галоўным фасадзе. Яго 2-ярусная сіметрычна-восевая кампазіцыя вылучана ў цэнтры 4-калонным іанічным порцікам з трохвугольным франтонам, фасад крапаваны пілястрамі таго ж ордэра. Другі ярус, надбудаваны ў 2-й палавіне 19 ст., — высокі парапет з 2-гранным шчытом па цэнтры, падобны на старажытнарускую 3-лопасцевую арку-нішу, па баках крапаваны арачнымі нішамі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі, шырокімі лапаткамі ў прасценках і апяразаны магутным карнізам. Калі храм быў праваслаўнай царквой, над яго дахам быў узведзены паўсферычны купал (потым зняты).

Зала храма 4 слупамі падзелена на 3 нефы і 2 сакрысціі, якія ў цэнтральным нефе вылучаюць алтарнае памяшканне, асветленае 2 высокімі арачнымі аконнымі праёмамі на тарцовай сцяне. Цэнтральны шырокі неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, больш вузкія бакавыя нефы — крыжовымі. У алтары 13 высокамастацкіх абразоў 18—19 ст. з арнаментаванымі абкладамі (латуннымі, пасярэбранымі і пазалочанымі).

---

[1] Kurczewski J. Biskupstwo wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 186.

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

На вул. Ленінскай, на каталіцкіх могілках. Пабудаваны ў 1910—11 гг. з жоўтай цэглы паводле праекта архітэктара А.Касакоўскага на парафіяльныя сродкі[1]. Узняты на высокі цокаль, выкладзены магутнымі вапняковымі блокамі. Адкрыты ў 1994 г.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. У аснове аб'ёмна-прасторавага вырашэння — 3-нефавая 2-вежавая базіліка з трансептам і 5-граннай апсідай з сакрысціямі. Галоўны фасад фланкіраваны 2-яруснымі 4-граннымі вежамі (шатровыя завяршэнні не захаваліся); аб'ём нартэкса на ўсю шырыню запоўнены магутным арачным перспектыўным парталам і акном-ружай над ім. У прасценках высокіх арачных вокнаў-трыфорыумаў 2-ступеньчатыя контрфорсы. Спічасты сілуэт ствараюць 2-схільныя шчыты крылаў трансепта. У адпаведнасці са стылем у аснову ўсіх праёмаў пакладзена форма паўцыркульнай аркі ў руставанай ліштве. Сцены крапаваны аркатурнымі паясамі, нішамі-экседрамі, апяразаны

прафіляванымі карнізамі. Груваcткі гмах будынка ўзняты на цокаль, выкладзены буйнымі вапняковымі квадрамі.

Прастора інтэр'ера 2 радамі слупоў расчлянёна на нефы, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі. Над уваходам — антрэсоль хораў.

---

[1] Kurczewski J. Biskupstwo wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 186.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г.п. Астравец.

## в. Астроўна,

Бешанковіцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл

На паўднёвым беразе возера Астроўна. Пабудаваны ў 17 (па іншых звестках у 16) ст. з цэглы. У паўзруйнаваным стане.

Першы касцёл заснаваны каралём Жыгімонтам Аўгустам, які ахвяраваў яму абраз Маці Божай у каштоўнай рызе. Пасля разбурэння быў адноўлены віцебскім ваяводам Міхаілам Пацеем. Мсціслаўскі ваявода Аляксандр Сапега каля 1620 г. заснаваў пры касцёле кляштар дамініканцаў. Пасля 1863 г. касцёл забраны пад царкву, быў пераарыентаваны апсідай на ўсход і набыў рысы рэтраспектыўна-рускага стылю.

Помнік архітэктуры класіцызму з рудыментамі рэнесансу і барока. Манументальная 3-нефавая базіліка са званіцай. Асноўны неф храма — прамавугольны ў плане аб'ём (таўшчыня сцен каля 1,5 м), завершаны 2-схільным дахам з тонкапрафіляваным карнізам. Архітэктура фасадаў лаканічная — магутныя сцены (таўшчыня 1 м) прарэзаны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі і крапаваны ў прасценках шырокімі лапаткамі. З заходняга боку да аб'ёму далучаюцца нартэкс і 3-ярусная званіца (1-ы ярус мае акруглы абрыс, 2-і — цыліндр, 3-і — васьмярык). Галоўны ўваход вылучаны лучковым праёмам.



Касцёл у в. Астроўна.

Унутры прастора храма 4 магутнымі слупамі падзелена на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі з распалубкамі і падпружнымі аркамі. Цэнтральны неф пераходзіць у прамавугольную апсіду з адкрытымі ў яе арачнымі праёмамі бакавых сакрысцій. Пры ўваходзе размешчаны хоры, на якія вядуць 2 лесвіцы ў тоўшчы бакавых сцен. Пад храмам крыпта.

## в. Астрына,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святой Тэрэзы ад Дзіцятка Ісуса



Касцёл святой Тэрэзы ад Дзіцятка Ісуса ў в. Астрына.

На заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1996 г. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над алтарнай часткай каркаснай 4-granнай шатровай сігнатуркай. У плоскасны галоўны фасад урэзана 2-ярусная 4-гранная вежа-званіца, вылучаная по восі прамавугольным уваходным парталам і 8-гранняй люкарнай над ім; верхні ярус-звон прарэзаны вузкімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Прасторавую кампазіцыю ўзбагачаюць нізкія прыбудовы сакрысцій ля алтарнай часткі і крылаў нартэкса на галоўным фасадзе. Перад храмам пастаўлена скульптура Хрыста на 4-гранным пастаменце.



Капліца ў в. Асцюковічы.

## в. Асцюковічы,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У былым сядзібна-паркавым комплексе, каля рэштак палаца. Пастаўлена ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы ў былой сядзібе Тукалаў.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 4-гранным слупом пад шатровым пакрыццём, завершаным каваным крыжом. Франтальная грань крапавана арачнай нішай, у якой пастаўлена скульптура Маці Божай.

## в. Атцэда,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца святога Роха

На могілках. Пабудавана ў 1930-я гг. з дрэва.

Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе 4-гранай шатровай званічкай. Уваход арганізаваны праз



Капліца святога Роха ў в. Атцэда.

ніжэйшы прытвор пад 2-схільным пакрыццём. Бакавыя фасады прарэзаны адзінарнымі лучковымі аконнымі праёмамі.

## в. Ахрэмаўцы,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках, каля шашы Глыбокае—Браслаў. Пабудавана ў 1858 г. з цэглы графам Плятэрам пры касцёле Узвышэння Святога Крыжа (1768; не захаваўся) у сядзібе Бяльмонты (з 1976 у складзе в. Ахрэмаўцы)[1]. У 1988 г. была пачата рэстаўрацыя.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Прапарцыянальна выцягнутыя архітэктур-



Капліца ў в. Ахрэмаўцы.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Ахрэмаўцы.

ныя формы надаюць кампазіцыі помніка вертыкальную накіраванасць, узмоцненую яго размяшчэннем на ўзгорку. Кампактны прамавугольны аб'ём пад 2-схільным дахам схаваны кулісай галоўнага фасада, вырашанага 2 вежамі і ступеньчатым шчытом паміж імі. Над стральчатым перспектыўным парталам, фланкіраваным гранёнымі фіяламі, традыцыйна размешчана акно-ружа, вежы завершаны металічнымі шпілямі з крыжамі. Мастацкай муроўкай выкладзены стральчатыя і 3-лопасцевыя нішы, фрызавая аркатура, карнізы, фіялы.

Зала капліцы перакрыта крыжовым нервюрным скляпеннем, пяты якога абапіраюцца на тонкія насценныя паўкалонкі; асветлена 2 парамі бакавых высокіх стральчатых аконных праёмаў з глыбокімі адхіламі. Цэнтральная грань апсіды прарэзана круглым акном-люкарнай, бакавыя крапаваны высокімі арачнымі нішамі-экседрамі, у якіх пастаўлены скульптуры Хрыста і архангела.

У адзіным стылі з капліцай вырашаны мураваныя агароджа-аркатура, брама, 2 вуглавыя каплічкі.

[1] Słownik geograficzny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1880. T. 1. S. 286.

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Пабудаваны ў 1988—2003 гг. з цэглы на месцы касцёла 18 ст.

Твор сучаснай сакральнай архітэктуры постмадэрнізму. Вырашаны перакрыжаванымі прамавугольнымі ў плане аб'ёмамі нефа і трансепта; з тыльнага боку далучана прамавугольная апсіда з папярочнай нізкай сакрысціяй. Фасад завершаны 2-гранным шчытом, па восі сіметрыі прарэзаны прамавугольным уваходным праёмам і паўкруглай люкарнай над ім, акаймаванымі агульнай рэльефнай аркай. Бакавыя фасады расчлянёны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі.

Інтэр'ер малітоўнай залы атрымаў суровую трактоўку ў стылі раманскага сярэднявечча: адкрытая цагляная муроўка пазбаўленых архітэктурнага дэкору сцен і адкрытая канструкцыя корабавага скляпення з драўлянымі фермамі. На плоскай алтарнай сцяне навешаны высокі крыж са скульптурай «Укрыжаванне». Уздоўж бакавых сцен навешаны гіпсавыя пано на сюжэты «Крыжовага шляху». Над уваходам антрэсоль хораў.

# г. Ашмяны

Гродзенскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў 2005 г. з дрэва на месцы струхнелай драўлянай капліцы, разабранай у 2004 г.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам. Сцены прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## Касцёл і кляштар францысканцаў

На ўсходняй ускраіне горада, на ўзгорку. Заснаваны ў пачатку 16 ст., скасаваны ў 1845 г. Захаваліся руіны касцёла 1822 г.



Капліца ў г. Ашмяны.



Касцёл і кляштар францысканцаў у г. Ашмяны.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам, які пераходзіць у 3-гранную апсіду. Галоўны фасад вырашаны высока ўзнятым накладным дарычным 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам. Бакавыя фасады прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, крапаваны пілястрамі па вуглах і ў прасценках

## Касцёл святога архангела Міхаіла

У цэнтры горада. Першы драўляны касцёл пабудаваны пры Ягайле ў 1387 г., адноўлены і асвячоны біскупам Красінскім пры вялікім князі літоўскім Жыгімонце ў 1432 г. ў памяць аб перамозе над Свідрыгайлам. Існуючы мураваны храм пабудаваны на сродкі парафіян у 1906—10 гг. Закрыты ў 1948 г. (выкарыстоўваўся як фабрычны корпус). Адкрыты пасля рэстаўрацыі ў 1989 г.

Помнік архітэктуры неабарока. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Мае ярусную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Цэнтральны аб'ём накрыты 2-схільным дахам, расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі ў пластычных ліштвах і фігурна прафіляваных нішах і пілястрамі ў прасценках, апяразаны складанапрафіляваным карнізам. Ніжэйшыя бакавыя нефы пад 1-схільнымі дахамі расчлянёны здвоенымі лучковымі аконнымі праёмамі ў агульных арачных ліштвах са здвоенымі пілястрамі ў прасценках. Галоўны фасад фланкіраваны высокімі 5-яруснымі шатровымі вежамі з лучковым шчытом і бакавымі валютамі паміж імі, у цэнтры вылучаны высокім рызалітам з трохвугольным франтонам у завяршэнні і лучковым уваходным парталам. Бакавыя нефы на галоўным фасадзе таксама завершаны фігурнымі шчытамі з валютамі і вуглавымі пінаклямі. Фасады атынкаваны. Унутры нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі.



Касцёл святога архангела Міхаіла ў г. Ашмяны.



# Б

## в. Баброўнікі,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

У цэнтры вёскі. Узведзена ў 19 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай прысадзістай вежай пад шатровым пакрыццём з крыжом мастацкай коўкі ў завяршэнні. Франтальная грань прарэзана арачным зашклёным праёмам.



Інтэр'ер касцёла святога архангела Міхаіла ў г. Ашмяны.



Капліца ў в. Баброўнікі.

## г. Бабруйск
Магілёўскай вобласці

### Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На вул. Кастрычніцкай. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы на сродкі парафіян. Захаваўся часткова (страчаны галоўны фасад, якім далучаны да адміністрацыйнага будынка).

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі і пілонамі-фіяламі ў прасценках. Алтарная сцяна завершана 2-гранным зубчастым шчытом; да яе далучана невялікая нізкая 5-гранная апсіда з бакавымі сакрысціямі. Фасады ў верхняй частцы крапаваны сплеценымі арачнымі гуртамі, аркатурнымі фрызамі.

Унутраная прастора 4-граннымі пілонамі расчлянёна на 3 нефы, высокі цэнтральны перакрыты стральчатым скляпеннем, ніжэйшыя бакавыя — плоскай столлю. Фрызавая частка бакавых сцен прэсбітэрыя запоўнена гарэльефнымі пано на евангельскія сюжэты; стральчатыя рамы над імі — фрэскавай размалёўкай. У апсідзе ўстаноўлены драўляны алтар у неагатычным стылі.

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар езуітаў

Кляштарны архітэктурны ансамбль сфарміраваўся на працягу 18 — пачатку 19 ст. Касцёл з'яўляўся цэнтрам параднай плошчы, забудаванай па перыметры будынкамі гасцінага двара, кляштара, прыходскага касцёла. Кляштар уключаў будынкі калегіума, школы (у 1760—68 дзейнічаў тэатр), гаспадарчыя пабудовы (піўніца, свіран, стайня з вазоўняй, бровар, сталярныя майстэрні); меліся сад і агарод.

Сваю рэзідэнцыю са школай і касцёлам езуіты заснавалі тут у 1527 г.[1] [паводле іншых звестак у 1623(7)[2] ці 1630[3]], у 1631 г. наведаны блаславёным Андрэем Баболем. Першы мураваны храм узведзены ў 1615 г. па фундацыі бабруйскага старосты Пятра Трызны, які ахвяраваў езуітам маёнткі Гарбацэвічы, Рывія, Устайла, пабудаваў ім дом, вылучыў 7500 флорэнаў ад закладу маёнтка Кісялевічы. Сын Пятра Трызны Пётр Казімір з жонкай Сафіяй (з Валовічаў) запісаў місіі шэраг маёнткаў, фундацыю павялічылі ў 1634 г. Пётр Суляціцкі запісам в. Шацілкі, а ў 1640 г. Шчэпан Шпількоўскі запісам в. Кабылянка. Езуіты служылі пры парафіяльным касцёле і ў сваім уласным драўляным храме, пабудаваным у 1631 г. і спаленым казакамі ў 1651 г. (згадваецца ў падымным рэестры 1638[4]). У 1623 г. рэктар ордэна Ян Аландус прыслаў у Бабруйск святароў Якуба Ражнавольскага і Рафаіла Класоўскага, якія пасяліліся пры двары Трызны. У наступныя 5 год



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Бабруйск.

сюды прыязджалі езуіты з Нясвіжа (Мацей Лескі ў 1627—30 і Міхал Крэтцмер у 1629—30). Нашчадкі Трызны ў 1638 г. перадалі езуітам в. Дваранавічы з уніяцкай царквой, у 1643 г. перадалі касцёлы ў вёсках Гарбацэвічы і Шацілкі[5]. У гэтых вёсках бабруйскія езуіты адкрылі свае місіянерскія пункты. У 1648—51 гг. падчас антыфеадальнай вайны бабруйская рэзідэнцыя прыйшла ў заняпад, у 1651 г. спалена падчас наезду казакаў, у 1681 г. адноўлена дзейнасць школы[6]. Да 1681 г. тут была толькі місія калегіі з Нясвіжа, у 1681—90 гг. — станцыя, а ў 1690 г. зноў рэзідэнцыя. Падчас Паўночнай вайны 1700—21 гг. з-за масавых эпідэмій езуіцкі прыстанак быў вымушаны спыніць сваю дзейнасць, меўся прыют для збяднелай шляхты (багадзельня ці шпіталь згадваецца ў 1638). Езуіты заснавалі Марыянскае аб'яднанне вучняў, мелі місіянерскія станцыі ў Гальчы, Голай, Гомелі, Гарбацэвічах, Кабылянцы, Рагачове і Турчыне; перасоўныя місіі ахоплівалі Украіну, дасягалі маскоўскага памежжа. Класы граматыкі адкрыты ў 1681 г., паэтыкі і рыто-



Інтэр'ер касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Бабруйск.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар езуітаў у г. Бабруйск.

рыкі — у 1705 г.; у 1707— 25 гг. школа не дзейнічала з-за Паўночнай вайны; адноўленая ў 1725 г. дзейнічала да 1771 г.; пасля скасавання ордэна засталася 5-класная школа і інтэрнат для музыкаў. Меліся бібліятэка і аптэка. У 1742 г. згадваецца арган «на 10 галасоў, устаноўлены некалькі год назад яснавяльможным панам епіскапам беларускім»[7].

У 1732—47 гг. рэчыцкі гарадскі суддзя Францішак Дзярніловіч фундаваў будаўніцтва муравана-га касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла. Пабудаваны паводле праекта літоўскага архітэктара Т.Жаброўскага. У будаўніцтве прымалі ўдзел архітэктары Казімір Мацелякоўскі (1735—36), Габрыэль Лянкевіч (1747—48), Францішак Карэва (1757—58), Якуб Руоф (1732—47)[8]. У 1773 г. кляштар закрыты, касцёл стаў парафіяльным, моцна пашкоджаны ў 1798 г. Будынкі кляштара выкарыстаны пры будаўніцтве бабруйскай крэпасці ў 1-й палавіне 19 ст. — у адноўленым будынку калегіума знаходзіліся дзяржаўныя ўстановы, касцёл перабудаваны пад цэйхгаўз (гаўптвахта). У 1885 г. касцёл згарэў, засталіся толькі сцены.



Касцёл святога Антонія ў в. Бабруйшчына.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока і класіцызму[9]. Уяўляў сабой 3-нефавую 2-вежавую базіліку з паўкруглай апсідай і 2 бакавымі сакрысціямі (вежы не завахаліся). Двухсхільны гонтавы дах на фасадзе быў аформлены фігурным франтонам з бакавымі валютамі, па баках узвышаліся 3-ярусныя шатровыя вежы — адна са званамі, другая з гадзіннікам-курантамі. У нішах вежаў былі размешчаны скульптуры святых. Бакавыя фасады чляняліся арачнымі аконнымі праёмамі і падвойнымі пілястрамі ў прасценках. Гэта апісанне зафіксавана ў інвентары 1774 г.

Унутры нефы перакрывалі цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі і парнымі падпружнымі аркамі. Над нартэксам на 2 пілонах былі размешчаны хоры. Галоўны і 6 кулісных алтароў, амбон былі выкананы майстрамі Язэпам Шылам і Антонам Марціноўскім, у іканаграфіі меліся данатарскія партрэты караля Жыгімонта III Вазы і П.Трызны. Галоўны драўляны разны алтар быў упрыгожаны 8 скульптурамі святых; меўся абраз «Беззаганнае Зачацце Найсвяцейшай Дзевы Марыі» — копія вядомай карціны іспанскага мастака Б.Мурыльё. Сцены былі размаляваны ў тэхніцы «al fresko».

К а л е г і у м (не захаваўся) — мураваны Г-падобны ў плане 2-павярховы будынак пад гонтавым дахам. Скляпеністыя калідоры і келлі мелі сюжэтную размалёўку.

---

[1] Nasze kościoły. Archidjecezja Mińska. Warszawa, 1912. S. 252.

[2] Słownik geograficzny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1880. T. 1. S. 265—266.

[3] Беларуская гістарычная энцыклапедыя. Мн., 1993. Т. 1. С. 255.

[4] Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в.: Справочное пособие. Мн., 1991. С. 37.

[5] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 28.

[6] РДГА, ф. 694, воп. 1, спр. 3417, арк. 3 адв; Дадзіёмава В.У. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: гісторыка-тэатральнае даследаванне. Мн., 2002. С. 113.

[7] Poplatek J., Paszenda J. Słownik jezuitów artystów. Kraków, 1972. S. 231.

[8] РДВГА, ф. 349, воп. 3, спр. 5906.

[9] Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Mińskiej. Warszawa,1919. S. 10.

## в. Бабруйшчына,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл святога Антонія

На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства з уплывам стылю неаготыкі і мадэрна. Вырашаны прамавугольным зрубам пад спічастым 2-схільным дахам. Да фасада далучаны прытвор, трохвугольны франтон якога рытмічна спалучаецца з 2-гранным шчытом даху, завершаным каркаснай 4-граннай шатровай вежачкай-званічкай. З тыльнага боку выступае 3-гранная апсіда пад шатровым пакрыццём. Бакавыя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі. Малітоўная зала перакрыта 3-гранным скляпеннем, абапёртым на 6 слупоў.

## в. Багданава,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл святога архангела Міхаіла

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1844 г. з дрэва на месцы знішчанага пажарам драўлянага касцёла канца 17 ст. (фундаваны старостам жмудскім П.Пацам, асвячоны ў 1690[1]; з 1792 парафіяльны). Адлюстраваны на карціне «Каля касцёла» (1899) мастака Ф.Рушчыца, які нарадзіўся ў маёнтку Багданава (10.12.1870). Касцёл быў знішчаны пажарам у 1944 г. На яго месцы быў пабудаваны новы драўляны храм, які нагадваў папярэдні. У 2000 г. замест драўлянага пастаўлены новы цагляны храм, акаймаваны бутавай агароджай 1902 г.

Папярэдні касцёл — твор народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны прамавугольным зрубам з 5-granнай больш нізкай апсідай. У высокі 2-схільны гонтавы дах з боку галоўнага фасада была ўрэзана 4-гранная шатровая вежа-званіца. Яна ўвенчвала трохвугольны франтон фасада, дэкарыраваны фігурнай шалёўкай вакол паўкруглай люкарны. Апсіда была накрыта пластычным шматгранным гонтавым дахам, які значна ўзбагачаў маляўнічасць сілуэта храма, яго яруснасць. Вертыкальная шалёўка сцен, рытм высока ўзнятых прамавугольных аконных праёмаў — сродкі архітэктурнай выразнасці ў народным дойлідстве. Малітоўная зала перакрывалася плоскай столлю.

Касцёл акаймоўвала мураваная агароджа з брамай: 2-яруснае цэнтрычнае збудаванне, накрытае пакатым 4-схільным шатром. Першы ярус вертыкальна абшыты дошкамі і мае арачны ўваходны праём. Другі ярус адкрыты, каркасны, з арачнымі прасветамі. Ярусы размежаваны шырокім гонтавым сцёкам.

Існуючы храм мае Т-падобны ў плане аб'ём, фасады якога вырашаны ў адкрытай муроўцы сілікатнай цэглай. Плоскасны фасад завершаны трохвугольным франтонам, вылучаны драўляным прытворам пад 2-схільным пакрыццём і рамбічнай люкарнай над ім. Бакавыя фасады расчлянёны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках. Бакавыя 2-паверховыя прыдзелы прызначаны для пакояў настаяцеля. У малітоўную ашаляваную залу выступае антрэсоль хораў з драўлянай балюстрадай.

Перад касцёлам пастаўлена драўляная 4-гранная 2-ярусная шатровая брама-званіца.



Касцёл святога архангела Міхаіла ў в. Багданава.



Касцёл святога апостала Яна Багаслова ў в. Багушэвічы.

[1] Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Petersburg—Kraków, 1896. T. I. S. 229—230.




## в. Багушэвічы,

Бярэзінскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл святога апостала Яна Багаслова

У паўночнай частцы вёскі, на левым беразе р. Уса, на старажытным гарадзішчы (Касцельная гара, Касцелішча). Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы як сямейная пахавальня гаспадароў маёнтка Свентаржэцкіх[1]. Уваходзіў у склад сядзібна-паркавага ансамбля, які належаў ім да 1863 г. і быў спалены

паводле загада губернатара М.Мураўёва як маёмасць кіраўніка паўстання 1863—64 гг. на Ігуменшчыне. Такая выключная мера пакарання была выклікана забойствам паўстанцамі мясцовага праваслаўнага святара Данііла Канапасевіча і агульнай жорсткасцю ўладальнікаў маёнтка да прыгонных (забарона нарыхтоўкі дроў на зіму вымусіла сялян паліць свае хаты і пакідаць свае надзелы)[2]. У 1875 г. маёнтак падараваны імператарам Аляксандрам II Шалгунову, касцёл пераасвячоны ў прыпісную праваслаўную царкву. Адрэстаўрыраваны і асвячоны як каталіцкі храм 15.11.2003 г.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Цэнтрычны 6-гранны ў плане будынак мае вертыкальна накіраваную кампазіцыю. З заходняга боку да яго прымыкае прамавугольная апсіда, з усходняга — прытвор. Па вуглах касцёла масіўныя контрфорсы, завершаныя фіяламі. Шпіль 6-граннай вежы стварае стракаты сілуэт будынка. Сцены прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі, дэкор абмежаваны аркатурным фрызам. Дзверы стральчатага ўваходнага партала філёнгавыя з выявамі мудрагеліста сплеценых вензеляў, ракавін, разетак, лісця і галінак аканта.

Кампактная ўнутраная прастора храма перакрыта зорчатым скляпеннем. Над уваходам хоры з чыгуннай ажурнай агароджай, на якія вядзе вузкая бакавая лесвіца. Пад касцёлам крыпта-пахавальня.

---

[1] Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. S. 221—242.

[2] Наш край. 1927. № 3(18). С. 30—31; Минские епархиальные ведомости. 1886. № 5. С. 30—31.

## в. Бакінічы,
Пінскі раён
Брэсцкай вобласці



Капліца ў в. Бакінічы.

### Капліца

У цэнтры вёскі. Узведзена вяскоўцамі ў 1998 г. з цэглы за ўдзячнасць Маці Божай за ратаванне «ад пажараў войнаў 1939—1945 гг.»

Твор народнага дойлідства. Вырашана 2-ярусным 4-гранным слупом пад 2-схільным пакрыццём. На франтальнай грані 2-га яруса арачная ніша са скульптурай Маці Божай з дзіцем Ісусам. На бакавой грані памятная дошка: «Маці Божай з удзячнасцю за захаванне жыцця ў пажары войн 1939 г. — 1945 г. Ахвяруюць гэтую капліцу Тэрэза Скірмунт, жыхары вёскі Бакінічы. Чэрвень 1996 г.».

## в. Баліны,
Верхнядзвінскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі, у былым маёнтку Беніслаўскіх і Зібер-Плятэраў. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы.



Капліца Найсвяцейшай Тройцы ў в. Баліны.

Помнік архітэктуры класіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам, які над магутнай паўкруглай апсідай пераходзіць у канічны. Фасад аформлены прысценным 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам, завершаным драўлянай 4-граннай шатровай званічкай з крыжом. Прамавугольны ўваходны праём завершаны паўкруглай люкарнай, бакавыя фасады парэзаны 2 «паладыянскімі» вокнамі — 3-часткавы прамавугольны праём з цэнтральнай аркай. Будынак апяразаны прафіляваным карнізам і міжʼярусным поясам.

## в. Балотчыцы,
Слуцкі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл



Касцёл у в. Балотчыцы.

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Падоўжны прамавугольны зруб накрыты 2-схільным гонтавым дахам з вальмай над алтарнай часткай, завершанай макаўкай. Прыруб больш высокага нартэкса выцягнуты па папярочнай восі і пасярэдзіне 2-схільнага даху быў завершаны васьмерыком шатровай званіцы (не захавалася). Уваход вылучаны 2-слуповым ганкам з 2-схільным гонтавым дашкам. Гарызантальна ашаляваныя сцены рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Малітоўная зала перакрыта плоскай бэлечнай столлю.

## в. Баравое (Новая Рудзіца),

Дзяржынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

За 0,5 км на поўдзень ад в. Баравое, каля шашы Дзяржынск—Рубяжэвічы. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю як родавая пахавальня ўладальнікаў маёнтка Дыбоўскіх.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашана як цыліндрычны храм-ратонда, завершаны пакатым шатровым дахам. Фасад падзелены на 2 ярусы за кошт вылучэння 1-га адкрытай бутавай муроўкай, 2-і ярус цагляны, атынкаваны, расчлянёны стральчатымі 2-граннымі ў завяршэнні аконнымі праёмамі.



Капліца ў в. Баравое.

Зала перакрыта плоскай бэлечнай столлю. У інтэр'еры па перыметры цокальнай часткі размешчаны 2 рады лучковых нішаў-склепаў для пахаванняў. Насупраць прамавугольнага ўваходнага праёма алтарная ніша.

## в. Барадзінічы,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл святога Юзафа

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1836 г. з мясцовага бутавага каменю, з яго ж вымуравана агароджа тэрыторыі храма. У гады 1-й сусветнай вайны ксяндзом В.Шутовічам быў адкрыты інтэрнат для сірот. Набажэнства ў храме вялося на беларускай мове. Зачынены ў 1930-я гг. Перададзены вернікам у 1989 г.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам, трохвугольны франтон якога на фасадзе завершаны 3-яруснай 8-граннай драўлянай званічкай. Канічны



Касцёл святога Юзафа ў в. Барадзінічы.



Інтэр'ер касцёла святога Юзафа ў в. Барадзінічы.

дах паўкруглай апсіды завершаны 8-граннай сігнатуркай. Сіметрыя фасада вылучана арачнымі праёмамі ўвахода і 2 бакавых аконных праёмаў; 4 паўкалоны і трохвугольны франтон з прафіляваным антаблементам імітуюць класічны порцік. Атынкаваныя і пабеленыя элементы архітэктурнага дэкору кантрастна вылучаюцца на паліхромным фоне бутавай муроўкі (плоскія ліштвы прамавугольных і арачных аконных праёмаў і паўкруглых люкарнаў, прафіляваны карніз і антаблемент). Франтон фасада запоўнены роспісам і скульптурай Мадонны ў арачнай экседры.

Зала храма перакрыта плоскай столлю. Цэнтральны 4-калонны і 2 бакавыя 2-пілястравыя алтары (св. Антонія і св. Іосіфа) вырашаны ў стылі неакласіцызму са стылізаваным дарычным антаблементам. У цэнтральным алтары абраз «Маці Божая Міласэрная».

## г. Баранавічы

Брэсцкай вобласці



Касцёл Маці Божай Фацімскай у г. Баранавічы.



Касцёл святога Зыгмунта ў г. Баранавічы.

### Касцёл Маці Божай Фацімскай

Пабудаваны ў 1998 г. з цэглы ў авангардным стылі намаганнямі святара Е.Мазура. Першая ва Усходняй Еўропе святыня, прысвечаная Фацімскай царыцы. Узведзены ў адзіным комплексе з кляштарам Сясцёр Місіянерак.

Прамавугольны пад 2-схільным дахам неф храма з франтальнага боку выступае 3-гранным фасадам, вырашаным па цэнтры прамавугольным вітражом і завершаным 2-гранным шчытом з круглай люкарнай у тымпане. З правага боку да бакавога фасада далучана 3-ярусная 4-гранная званіца ў выглядзе тэлескапічна высунутых 4-гранных ярусаў з шатровым верхам. Гэта дамінанта надае прасторавай кампазіцыі храма дынамічны асіметрычны характар, ураўнаважаны далучаным 2-павярховым корпусам плябаніі. Архітэктурны вобраз касцёла створаны аб'ёмна-кампазіцыйнымі сродкамі — плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі пад 2-граннымі сандрыкамі аконнымі праёмамі, круглымі люкарнамі. Цёплая каляровая гама створана спалучэннем бежавай цаглянай муроўкі і чырвонага пакрыцця даху чарапіцай. У інтэр'еры перспектыву нефа завяршае скульптура Маці Божай Фацімскай.

Размешчаны на другім плане 3-павярховы прамавугольны ў плане пад вальмавым дахам жылы корпус кляштара таксама мае асіметрычна вырашаны франтальны фасад — бакавы трохвугольны франтон, над якім узвышаецца 4-гранны шатровы ліхтар. Фасады рытмічна расчлянёны здвоенымі і адзінарнымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Пабудаваны ў 2002 г. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане 3-нефавым аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да франтальнага фасада далучаны прамавугольны нартэкс, 2-гранны шчыт якога рытмічна спалучаецца са схіламі даху нефа. Вось сіметрыі фасада адзначана прамавугольнымі ўваходным парталам і аконным праёмам хораў над ім. З правага боку да касцёла далучаны 2-павярховы корпус плябаніі пад 2-схільным дахам.

### Касцёл святога Зыгмунта

Пабудаваны ў 1990-я гг. з цэглы і бетону ў авангардным стылі. Трохнефавая 2-вежавая базіліка. Вежы завершаны аднасхільнымі перакрыццямі і высокімі металічнымі крыжамі на вяршынях. Паміж вежамі на фасадзе выступае плоскасць высокага цэнтральнага нефа, завершаная трохвугольным франтонам і запоўненая вялізным вітражным зашкленнем, расчлянёным на 3 часткі і 3 ярусы бетоннымі прасценкамі і перамычкамі. Верхнія ярусы вежаў прарэзаны шэрагам вузкіх праёмаў. Уваход арганізаваны праз нізкі прытвор пад 2-схільным дахам.

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

На вул. Куйбышава. Пабудаваны ў 1924—25 гг. з дрэва як парафіяльны на сродкі прыхаджан і ксяндза Люцыяна Жаландкоўскага, асвячоны ў тым жа годзе біскупам Зыгмунтам Лазінскім. Першапачаткова ў 1912 г. тут была пастаўлена капліца гараджанінам Гурскім[1].

Помнік архітэктуры эклектыкі: у ім увасоблены гатычны вертыкалізм аб'ёмнай кампазіцыі, барочная пластычнасць сілуэта, класіцыстычная строгасць параднага ўвахода-порціка, авангардная асіметрычнасць і жорсткая канструкцыйнасць. Адначасова вырашаны паводле базілікальнага канона каталіцкага храма — 3 нефы пераходзяць у нізкую 5-гранную апсіду з асіметрычна прыбудаванай гранёнай сакрысціяй. Вышынны перапад нефаў надае кампазіцыі ярусную дынамічнасць. З франтальнага боку далучаны прамавугольны прыруб нартэкса, аб'яднаны з асноўным зрубам агульным высокім і стромкім 2-схільным дахам. На галоўным фасадзе пластычная шматфігурная вежа-ківорый на 8-гранным барабане, трохвугольны франтон расчлянёны аконнай аркатурай-трыфорыумам. Уваход аформлены 2-калонным порцікам з франтонам. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Дах падтрымліваюць фігурна апрацаваныя кранштэйны.

Унутры рознавысотныя нефы перакрыты плоскай столлю. У інтэр'еры 4-калонны цэнтральны і 2 бакавыя 2-калонны і 3-пілястравы алтары маюць абразы, выкананыя ў 1934—35 гг. мастаком Турскім у манеры акадэмічнага жывапісу. Да 18 ст. адносяцца абразы «Св. Юзаф з дзіцем» і «Маці Божая Адзігітрыя». На хорах — арган.

Уваход на тэрыторыю касцёла вырашаны мураванай манументальнай брамай у стылі неаготыкі ў выглядзе 3-пралётнай аркады з кованымі варотамі. На фоне трохвугольнага завяршальнага шчыпца пастаўлена гіпсавая скульптура святога. Перад касцёлам зроблены грот з бутавага каменю, у арачнай нішы якога скульптура Дзевы Марыі.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г. Баранавічы.



Інтэр'ер касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў г. Баранавічы.

---

[1] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 49—50.

# в. Бараўляны (пас. Лясны)

Мінскага раёна

## Капліца Маці Божай Нястомнай Дапамогі

На паўднёвай ускраіне пас. Лясны. Пабудавана ў пачатку 2001—03 гг. з дрэва.

Твор сучаснай сакральнай архітэктуры. Вырашаны прамавугольным у плане працяглым зрубам пад 2-схільным выгнутым над карнізам дахам, завершаным на фасадзе 4-граннай шатровай званічкай. Форму даху паўтарае пакрыццё нізкага прыруба



Капліца Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў в. Бараўляны (пас. Лясны).

прытвора. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Да алтарнай часткі далучаны прамавугольныя прырубы сакрысцій пад 2-схільным пакрыццём.

## в. Барсукі,

Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе 4-граннай шатровай званічкай. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Барташы,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святой Ганны

Пабудавана ў 1992 г. з цэглы.

Вырашана прамавугольным у плане будынкам пад 2-схільным дахам. Франтальны фасад вылучаны па цэнтры 2-гранным шчытом мансарды, рытмічна расчлянёнай прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Да тарцовага фасада далучаны нізкі 5-гранны прытвор. Сакральную прыналежнасць будынка адзначае крыж па цэнтры даху.



Капліца святой Ганны ў в. Барташы.

## в. Бартнікі,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як родавая пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашана круглай ратондай са стральчатымі перспектыўным уваходным і аконнымі праёмамі. Пад капліцай скляпеністая крыпта.



Капліца ў в. Бартнікі.

## в. Баруны,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар базыльян

У цэнтры вёскі. Уключае будынкі касцёла, манастырскага корпуса, вежу-званіцу і капліцу.

У 1692 г. была пабудавана уніяцкая драўляная царква, фундаваная Мікалаем Песляком для мужчынскага базыльянскага кляштара і ў гонар абраза Маці Божай Барунскай візантыйскага пісьма[1]. У 1700—07 гг. на месцы драўлянай узведзена мураваная царква, знішчаная пажарам, у 1715 г. адбудаваная кіеўскім і галіцкім мітрапалітам Львом Кішкам[2]. У 1747—57 гг. паводле праекта архітэктара А.Асікевіча пастаўлена мураваная царква (дабудавана ў 1760—70)[3]. У 1778—93 гг. пабудаваны мураваны манаскі корпус, які ў канцы 19 ст. быў рэканструяваны. У 1833 г. кляштар перададзены праваслаўным; пасля абнаўлення царква пераасвячона ў імя Пакрова Прасвятой Багародзіцы. У 1922 г. царква перададзена католікам.

У 1700 г. з мястэчка Вішнева (Валожынскі р-н) сюды пераведзена 3-гадовая базыльянская школа, пераўтвораная ў 1793 г. ў 6-класную. У ёй навучаліся польскія пісьменнікі А.Адынец, Ю.Корсак, І.Ходзька; выкладалі базыльяне Ф.Белдоўскі, М.Лебель, Б.Ляўковіч, Г.Гамалінскі, С.Катовіч, С.Ушацкі[4]. У прыстанку з 1845 г. размяшчалася духоўнае вучылішча. У 1874 г. кляштар быў прыпісаны да Віленскага Свята-Духава манастыра, а з 1886 г. ў ім адкрыты яго філіял[5]. У гады 1-й сусветнай вайны настаяцелем М.Пятроўскім тут быў створаны інтэрнат для дзяцей-сірот. У 1920—22 гг. у былым кляштары дзейнічала беларуская настаўніцкая семінарыя, дырэктарам якой быў прадстаўнік нацыянальна-вызваленчага руху С.Рак-Міхайлоўскі. Пры польскай

уладзе ў 1922 г. храм стаў Петра-Паўлаўскім касцёлам.

Касцёл — помнік архітэктуры «віленскага барока» і стылю ракако. Мае кананічную 3-нефавую 2-вежавую базілікальную планіровачную структуру: прамавугольны аб'ём храма пад 2-схільным дахам пераходзіць у паўкруглую апсіду. Галоўны фасад арыгінальнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. На яго хвалістай плоскасці сканцэнтравана вытанчанае дэкаратыўнае аздабленне. Сярэдняя частка мае паўкруглы выгін з вялікім акном у цэнтры і завершана атыкавым франтонам з валютамі. Уваход падкрэслены масіўным парталам з фігурным франтонам. Вежы (захавалася паўднёвая, ад другой захаваўся ніжні ярус) пастаўлены пад вуглом да галоўнага фасада. З абодвух бакоў да вежаў прылягаюць барочныя брамы з маляўнічым сілуэтам і насычанай крапоўкай. Паўночная брама злучае касцёл з 2-яруснай вежай-званіцай. Усё гэта стварае шырокую, прасторава насычаную маляўнічую архітэктурную панараму. На бакавых фасадах лучковыя аконныя праёмы.

У інтэр'еры цэнтральны неф, апсіда і сакрысціі перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, бакавыя нефы — крыжовымі, насычанымі галаснікамі. Завяршае магутную перспектыву інтэр'ера стукавы барочна-ракайльны алтар, вырашаны ў выглядзе карынфскай каланады з «разарваным» і інтэнсіўна крапаваным антаблементам. Над ім 4 скульптуры архангелаў. Больш аблегчаная кампазіцыя 2-га яруса алтара разгортваецца вакол круглага акна-люкарны, фланкіраванага шчытом з выявамі Тройцы, анёлаў і ляпной кампазіцыяй «Глорыя» ў завяршэнні. Скульптурнае стукавае аздабленне амбона мае рысы стылю ракако. На хорах стары арган. Пад храмам — крыпта-пахавальня.

У касцёле шануецца абраз Маці Божай Барунскай Суцяшальніцы Засмучаных невядомага мастака. Першапачаткова належаў прапаведніку-базыльяніну і місіянеру айцу Іязафату Бражысу, які перад



Інтэр'ер касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Баруны.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар базыльян у в. Баруны.

смерцю ў 1691 г. перадаў святыню сваяку Мікалаю Пасляку[6]. У 1702 г. базыльяне, занепакоеныя набліжэннем шведскага войска, перадалі абраз літоўскаму гетману Міхалу Вішнявецкаму ў Валожын. У Баруны абраз вернуты ў 1709 г. Перад скасаваннем касцёла ў 1833 г. аддадзены Важынскім, вернуты ў храм у 1922 г. У апошнюю нядзелю 1991 г. парафія ў Барунах святкавала 300-годдзе культу Маці Божай Барунскай Суцяшальніцы Засмучаных.

Жылы корпус у выніку рэканструкцыі 19 ст. набыў рысы класіцызму. Двухпавярховы будынак мае Т-падобную планіровачную кампазіцыю з рэгулярным рытмам фасадаў, які ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы ў простых ліштвах і лапаткі ў прасценках. Перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі памяшканні аб'яднаны галерэямі з ажурнымі крыжовымі скляпеннямі.

На плошчы перад касцёлам мураваная капліца 2-й палавіны 18 ст. — цэнтрычная 2-ярусная вежа (чацвярык на васьмерыку), 2-і ярус — скразная вежачка з 4 лучковымі прасветамі, пад скляпеннем якой устаноўлена скульптура Хрыста. Збудаванне завершана невялікай 2-яруснай цыліндрычнай вежачкай з крыжом над гранёным шатровым дашкам. Капліца абнесена мураванай агароджай з брамкай.

---

[1] Православные русские обители. Полное иллюстрированное описание всех православных русских монастырей в Российской империи и на Афоне. СПб., 1909. С. 535.

[2] Палуцкая С. Барунская базыльянская школа і яе выхаванцы // Ашмяншчына: гісторыя і сучаснасць. Гродна—Ашмяны, 1995. С. 36.

[3] Karpowicz M. Sztuka polska XVIII w. Warszawa, 1985. S. 101; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu. Wilno, 1938—39. S. 153; Morelowski M. Znaczenie baroku wileńskiego XVIII stulecia. Wilno, 1940. S. 20—21; Lorentz St. Materiały do historii wileńskiej architektury barokowej i rokokowej. Warszawa, 1989. S. 56—57.

[4] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Виленская губерния / Сост. А. Корева. СПб., 1861. С. 212.

[5] Виленский календарь на 1909 год. С. 64.

[6] Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Petersburg—Kraków, 1898. T. 1. C. 63.





Капліца ў г. Барысаў.



Капліца ў г. Барысаў.

Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Барысаў.



# г. Барысаў
Мінскай вобласці

## Капліца

На каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1995 г. з цэглы на месцы капліцы 18 ст., знішчанай у 1950-я гг.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам з 3-граннай апсідай, над якой стромкі 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Шырокі ўваходны праём накрыты 2-схільным кансольным казыркам, над якім паўкруглая люкарна. Памяшканне асветлена 2 арачнымі аконнымі праёмамі ў апсідзе.

## Капліца

На могілках. Узведзена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 3-яруснай 4-граннай вежай пад шатровым дашкам. Ніжні ярус крапаваны прамавугольнай нішай, 2-і — арачнай нішай-экседрай, 3-і раскрыты арачнымі прасветамі.

## Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На вул. 3-га Інтэрнацыянала, у баку ад старажытнай гандлёвай плошчы Старабарысава. Пабудаваны ў 1806—23 гг. з цэглы намаганнямі ксяндза А.Гзоўскага на месцы драўлянага касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі (Фарнага) 1642 г., фундаванага барысаўскім старостам А.Казановічам і згарэлага ў 1806 г.[1] Перабудаваны ў 1836—37 гг. (прыбудавана вежа-званіца). Пры храме меліся шпіталь на 27 ложкаў і пачатковая школа на 80 вучняў. Пасля паўстання 1863—64 гг. зачынены, у 1899 г. намаганнямі ксяндза Гурко адноўлены. У час пажару ў 1900 г. касцельныя будынкі згарэлі. Пры касцёле існавалі парафіяльная і павятовая школы. Зачынены ў 1937 г. і выкарыстоўваўся пад склад. У гады 2-й сусветнай вайны фашысты расстралялі ксяндза Генрыха Гляබовіча (у 1995 паміж Старым і Новым Барысавам асвячоны мемарыяльны крыж). Пасля вайны выкарыстоўваўся пад кінатэатр (знесена званіца), з 1965 г. — спартзала. Рэстаўрыраваны. У 1988 г. вернуты католікам і 14.7.1990 г. асвячоны біскупам Тадэвушам Кандрусевічам.

Першы драўляны храм Божай Маці з кляштарам адлюстраваны на плане горада канца 18 в.[2] Меў даходы ад маёнтка Ратуцічы (Барысаўскі р-н) і 7 гарадскіх «пляцаў»[3]. Па акту візітацыі 1654 г. храм меў крыжовую ў плане форму, гранёную званіцу над нартэксам, 8 вялікіх аконных праёмаў, 8 круглых люкарнаў, 2 уваходы, пры апсідзе была сакрысція, 3 алтары, на цвінтары была ўстаноўлена драўляная скульптура «Укрыжаванне».

Існуючы храм пабудаваны ў стылі позняга класіцызму (ампіру) паводле канона 3-нефавай 2-вежавай базілікі. У 2-й палавіне 19 ст. бакавыя вежы знесены і па цэнтры фасада ўзведзена масіўная 5-ярусная (2 васьмерыкі на 3 чацверыках) ве-

жа-званіца з высокім гранёным шпілем і крыжом ажурнай мастацкай коўкі. Першапачаткова ўваходны партал быў вырашаны манументальным класіцыстычным порцікам, у 1830 г. замест калон узведзена вежа, у яе ніжнім ярусе створаны 3 арачныя ўваходы, афармленыя класічнымі пілястравымі парталамі з трохвугольнымі франтонамі, цэнтральны з якіх фланкіраваны 2 ярусамі арачных экседраў. Бакавыя нефы на фасадзе вылучаліся магутнымі арачнымі аконнымі праёмамі і прамавугольнымі парапетамі ў завяршэнні. Аб'ём цэнтральнага нефа больш высокі, накрыты 2-схільным дахам, які над прамавугольнай апсідай утварае трохвугольны франтон, завершаны чацверыковай сігнатуркай. У верхняй частцы сцен цэнтральнага нефа размешчаны паўкруглыя люкарны, бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і буйнымі пілястрамі ў прасценках, апяразаны шырокім карнізам на дэнтыкулах.

Унутраная прастора падзелена на нефы магутнымі архаічнымі канелюраванымі калонамі дарычнага ордэра, якія падтрымліваюць высокі, буйна члянёны антаблемент з трыгліфным фрызам. Цэнтральны неф быў перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках, бакавыя — крыжовымі. Над уваходам — хоры, пад будынкам — скляпы. У галоўным алтары, вырашаным 4-калонным порцікам з «разарваным» франтонам, знаходзіўся цудатворны абраз Маці Божай з дзіцем (Адзігітрыя) у сярэбранай рызе. Па сценах бакавых нефаў былі размешчаны тэракотавыя гарэльефныя пано-стацыі на сюжэт Крыжовага шляху (1899).

---

[1] Виленский календарь на високосный 1912 г. Вильно, 1912. С. 104;

[2] РДГА, ф. 1293, воп. 167, спр. 14, арк. 1.

[3] Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. S. 205—206.



Інтэр'ер касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Барысаў.



Капліца ў в. Бастынь.

## в. Бастынь,

Лунінецкі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

На могілках. Была пабудавана ў 19 ст. з цэглы як пахавальня Феліцыі Дваракоўскай (са Скакоўскіх), якая памерла ў 1833 г., аб чым паведамляе металічная мемарыяльная дошка на франтальнай грані капліцы. Захавалася ў рэштках, закансерваваных і захаваных пад 2-схільнай навіссю. Была вырашана гротам-горкай са скляпеністай крыптай-пахавальняй.



Капліца Маці Божай Анёльскай у в. Бахматы.

## в. Бахматы,

Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Маці Божай Анёльскай

На могілках. Пабудавана ў 1919 г. з дрэва.

Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе 4-граннай шатровай вежачкай-званічкай і каркаснай 4-граннай шатровай сігнатуркай над алтарнай часткай. Гарызантальна ашаляваныя фасады прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі. У канцы 20 ст. да фасада дабудаваны цагляны прамавугольны ў пла-




Капліца ў в. Баяркі.


Капліца ў в. Бездзеж.

не пад 2-схільнымі дахамі прытвор, да апсіды — бакавая сакрысція.

## в. Баяркі,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі, каля шашы Жалудок—Беліца, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Твор архаічна-экзатычнай архітэктуры перыяду гістарызму, вырашаны ў форме стылізаванай егіпецкай 4-граннай піраміды ці антычнага абеліска.

## в. Бездзеж,
Драгічынскі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Узведзена ў канцы 18 ст. з цэглы ў гонар перамогі канфедэратаў М.К.Агінскага над расійскім корпусам генерала А.Албічава 6.9.1771 г. (па іншых звестках у гонар Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3.5.1791).

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 3-яруснай 4-граннай вежай пад шатровым дашкам. Ніжні ярус крапаваны арачнымі нішамі-экседрамі, 2-і — глухі, 3-і адкрыты арачнымі прасветамі.

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1915 г. з цэглы паводле праекта гродзенскага губернскага інжынера А. Савіча (1906)[1].

Першы драўляны касцёл збудаваны ў 16 ст. У 1820 г. прэлатам Антоніем Гедройцам вымураваны новы храм[2], пераўтвораны ў 1865 г. ў праваслаўную царкву[3]. 27.6.1914 г. намаганнямі фінансіста Скірмунта закладзены існуючы цяпер храм[4]. Будаўніцтва санкцыяніраваў міністр унутраных спраў, які, аднак, настойваў на будаўніцтве драўлянага храма[5]. Будаўніцтва завершана ў 1915 г. па фундацыі мясцовага памешчыка Карла Орды, які яшчэ ў 1907 г. ахвяраваў на гэтыя мэты 2 дзесяціны зямлі і будаўнічы матэрыял, і на сродкі сялян[6].

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашаны адзіным прамавугольным выцягнутым па падоўжнай восі аб'ёмам пад пакатым 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Архітэктура фасадаў мае плоскасны характар. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам з невялікай цыліндрычнай сігнатуркай. Уваход афармлены парталам з паўкруглай люкарнай. Сцены ўнутры і звонку крапаваны пілястрамі і завершаны развітым антаблементам.

Малітоўная зала перакрыта плоскай бэлечнай столлю і пераходзіць у вылучаную бакавымі сакрысціямі прамавугольную апсіду. Над уваходам на 2 калонах узняты крывалінейнага абрысу хоры.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1117, арк. 43.
[2] Spis kościołów o duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 89, 112.
[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 1557, арк. 67.


Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Бездзеж.



Капліца ў в. Белагруда.

[4] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1117, арк. 81.
[5] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1117, арк. 54, 60.
[6] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1117, арк. 30.

## в. Белагруда,

Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

На могілках, за касцёлам. Пастаўлена ў 19 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 2-яруснай 4-граннай вежай пад шатровым пакрыццём. Ярусы падзелены шырокім гонтавым адлівам, прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі ў прамавугольных ліштвах.

## Касцёл святога архангела Міхаіла

У паўночна-заходняй частцы вёскі, на высокім беразе р. Дзітва, у акружжы бутавай агароджы. Пабудаваны ў 1900—07 гг. з цэглы на месцы папярэдняга драўлянага храма.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Манументальны храм збудаваны паводле канона 3-нефавай 2-вежавай базілікі. Шматаб'ёмная прасторавая кампазіцыя дынамічна нарастае ад нізкіх сакрысцій, гранёнай апсіды, крылаў трансепта да яе вертыкальных дамінант — 2 вежаў пад спічастымі шпілямі. З імі канстрастуе партатыўная 4-гранная шатровая сігнатурка ў канцы 2-схільнага даху. Уваход на фасадзе вылучаны перспектыўным арачным парталам, над якім 4-пралётная аркада і акно-ружа, аб'яднаныя арачнай 3-абломнай нішай. Такімі ж, але меншымі парталамі вырашаны бакавыя ўваходы ў ніжнім ярусе вежаў. Усе аб'ёмы, ярусы вежаў, фасадны шчыт акаймаваны аркатурнымі фрызамі. Бакавыя фасады на 1-м ярусе расчлянёны арачнымі вокнамі-біфорыумамі, на 2-м — вокнамі-трыфорыумамі і лапаткамі-пілонамі ў прасценках. Крылы трансепта на тарцовых фасадах адзначаны вокнамі-ружамі ў плоскасці 2-гранных шчытоў, завершаных масіўнымі крыжамі. Цаглянай муроўкай выкананы элементы архітэктурнага дэкору: лапаткі, ліштвы адзіночных і здвоеных арачных аконных праёмаў, рэльефныя крыжы, профілі і раскрапоўкі.



Касцёл святога архангела Міхаіла ў в. Белагруда.

Унутраная прастора размежавана на нефы магутнымі аркадамі на 4-гранных пілонах, перакрыта крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках і люнетах, упрыгожанымі фрэскавай арнаменталь-



Інтэр'ер касцёла святога архангела Міхаіла ў в. Белагруда.



Капліца ў в. Белагурна.



Капліца ў в. Белая.

на-арабескавай размалёўкай. Паўкруглая апсіда перакрыта конхай на распалубках, адмежавана арачным прасветам, над якім роспіс з вывавай укленчаных архангелаў перад Святым Крыжом. У завяршэнні нефа — манументальны шматкалонны 2-ярусны алтар у неараманскім стылі. У яго цэнтры абраз «Маці Божая Міласэрная» (2-я палавіна 17 ст.) — копія вывы Багародзіцы канца 15 ст. з Вастрабрамскай капліцы ў касцёле св. Тэрэзы ў Вільні. Аналагічныя, але меншага маштабу 1-ярусныя 4-калонныя алтары пастаўлены ў крылах трансепта. Дробная балюстрада алтара завершана 4 фігурамі архангелаў. На левым пілоне прэсбітэрыя навешана драўляная гранёная кафедра амбона, на франтальных гранях пілонаў і насценных пілястрах — тэракотавыя пано-стацыі на тэму Крыжовага шляху Хрыста на Галгофу. Над нартэксам абмежаваная балюстрадай антрэсоль хораў з арганам.

Папярэдні драўляны храм зафіксаваны на фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст. Уяўляў сабой прамавугольную зрубную пабудову пад 2-схільным гонтавым дахам з вальмай над алтарнай часткай, завершанай 8-граннай шатровай сігнатуркай. Вертыкальна ашаляваныя фасады рытмічна чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі. З боку храма сярод бутавай агароджы стаяла драўляная званіца — 3-ярусная 4-гранная збудаванне з шырокім лучковым праездам і 2 бакавымі праходамі і гонтавым шатром у завяршэнні.



## в. Белагурна,
Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы як родавая пахавальня ўладальнікаў маёнтка. У паўзруйнаваным стане.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Фасады расчлянёны лучковымі ўваходным і аконнымі праёмамі, крапаваны вуглавымі лапаткамі. Пад будынкам скляпеністая крыпта з арачнымі прадушынамі.

## в. Белая,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

Каля шашы Глыбокае—Браслаў, пры павароце на в. Вайнюнцы. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з цэглы.

Помнік народнай творчасці. Вырашана скульптурай Маці Божай, узнесенай на кубападобны пастамент над квадратным у плане падмуркам.

Накрыта шатровай з лускаватым пакрыццём навіссю на 4 металічных стойках.

## в. Беліца,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Маці Божай Ружанцовай

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1834 г. з дрэва. Асвячона 22.8. 1992 г. гродзенскім біскупам А.Кашкевічам.



Капліца Маці Божай Ружанцовай у в. Беліца.

Помнік народнага дойлідства. Прамавугольны зруб з 3-граннай апсідай. Двухсхільны гонтавы дах завершаны на галоўным фасадзе 4-граннай шатровай вежачкай-званіцай. Трохвугольны шчыт галоўнага фасада мае арачную нішу, у якой устаноўлена драўляная скульптура Хрыста. Фасады гарызантальна ашаляваны, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах.

Побач з храмам пастаўлена каркасная шатровая званіца пірамідальнай формы.

## Касцёл святога мучаніка Юрыя

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Архітэктура храма вырашана ў стылізаваных суровых і лапідарных формах раманскага стылю. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад высокім 2-схільным дахам. Плоскасны фасад фланкіраваны дзвюма 4-граннымі шатровымі вежамі, прасла паміж якімі завершана 2-гранным шчытом. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі і пілонамі-контрфорсамі ў прасценках.



Касцёл святога мучаніка Юрыя ў в. Беліца.

# в. Беніца,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

На вясковай плошчы. Пабудаваны ў 1701—04 гг. з цэглы па фундацыі трокскага кашталяна Міхаіла Казіміра Коцела; асвячоны віленскім біскупам К.К.Бжастоўскім[1]. Касцёл быў перададзены бернардзінцам, якія па фундацыі таго ж Коцела змуравалі побач 2-павярховы жылы кляштарны корпус і акаймавалі тэрыторыю мураванай агароджай з брамай. У 1780—1842 гг. пры кляштары існавала школа і брацтва Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. З канца 18 ст. касцёл стаў парафіяльным, у 1851 г. кляштар скасаваны, у 1866 г. касцёл перароблены пад царкву, а жылы корпус пасля 1863 г. зруйнаваны. У 1919 г. касцёл вернуты каталікам, у 1948 г. закрыты. З 1988 г. ў стане рэстаўрацыі.

Манументальны храм вырашаны ў стылі сталага барока. Выцягнуты неф завершаны 5-граннай апсідай. Крылы трансепта надаюць магутнаму будынку крыжовую планіровачную форму, завершаную над сяродкрыжжам 8-гранным светлавым барабанам са сферычным купалам, увенчаным гранёным шатровым ліхтаром. Другі магутны прасторава-пластычны акцэнт створаны на галоўным фасадзе, плоскасць якога выходзіць за межы асноўнага аб'ёму храма за кошт бакавых 4-гранных вежаў. Іх верхнія складаныя па малюнку ярусы з шатровымі купалкамі і фігурны франтон паміж імі надаюць франтальнаму боку храма маляўнічы сілуэт і дынамічны рух у вышыню. Святлоценявую рытміку фасадаў ствараюць лапаткі, аб'яднаныя прафіляваным



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Беніца.

карнізам над імі, высока ўзнятыя лучковыя аконныя праёмы. Крылы трансепта завершаны франтонамі, крапаванымі нішамі-экседрамі і люкарнамі. Для мастацка-стылявой характарыстыкі помніка вызначальным з'яўляецца прыўнясенне ў дэкор пілястраў стылізаваных вінаградных гронак.

Інтэр'ер мае складаную прасторавую кампазіцыю: у вышынную падкупальную прастору сяродкрыжжа шырокімі і магутнымі арачнымі прасветамі адкрываюцца гранёная апсіда, капліцы трансепта, нартэкс і сам працяглы неф з галерэяй хораў, перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках. Скульптурна-арнаментальнае, каларыстычнае багацце алтарнага дэкору ў стылі ракако было парушана ў час рэканструкцыі 1866 г. Часткова захаваліся 3 стукавыя надмагіллі рода Коцелаў. У сутарэннях касцёла былі сямейныя склепы Коцелаў і Швыкоўскіх.

Па восі касцёла размешчана брама, якая ўваходзіла ў мураваную агароджу (часткова захавалася з



заходняга боку), таксама барочнага вырашэння: 4-слуповая кампазіцыя з крывалінейным франтонам.

[1] Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Petersburg—Kraków, 1896. T. II. S. 116.

## в. Бенякoні,
Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога Яна Хрысціцеля

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1900—06 гг. з цэглы на месцы фундаванага Янам Чаплінскім драўлянага храма, што існаваў з 1634 г.[1]



Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Бенякoні.

Помнік эклектычнай архітэктуры з рысамі неабарока і неакласіцызму. Дзвюхвежавая 3-нефавая базіліка з трансептам і паўцыркульнай апсідай. Бакавыя нефы больш нізкія і на галоўным фасадзе вылучаны магутнымі 3-яруснымі вежамі-званіцамі, па баках алтара — прамавугольнымі сакрысціямі. Паўцыркульная апсіда абкружана больш нізкай прыбудовай, што надае ёй ступеньчатае вырашэнне. Цэнтральны неф і трансепт накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі 2-схільнымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі на тарцах, бакавыя нефы — 1-схільнымі. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны паўцыркульнымі архівольтамі. Верхні ярус апсіды асветлены вялікімі люкарнамі. Сцены аздоблены плоскімі і руставанымі пілястрамі, філёнгавымі нішамі, сандрыкамі, завершаны развітымі багата прафіляванымі антаблементамі. Інтэр'ер двухсветлавы. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера выканана архітэктарам К.Квяткоўскім.

Побач з касцёлам магіла Марылі Верашчакі (1799—1863), першага кахання Адама Міцкевіча.

[1] Zmigrodzki J. Nowogródek i okolice. Nowogródek, 1927. S. 48.

## в. Беразвечча (цяпер у межах г. Глыбокае)
Віцебскай вобласці

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар базыльян

Першы драўляны мужчынскі кляштар базыльян тут, у маляўнічай мясцовасці на паўночным беразе воз. Глыбокае і ўсходнім воз. Вялікае, з'явіўся ў 1643 г. па фундацыі старосты (з 1629) і ваяводы (з 1639) мсціслаўскага І.Л.Корсака (каля 1570—1643), які згодна запісу ад 19.9.1634 г. падараваў «русским черницам принявшим унию с римскою церковью» свой маёнтак Беразвечча з умовай, каб уніяты пасля яго смерці жылі пры манастыры, прапагандавалі хрысціянскае веравызнанне[1]. Адпаведна пажаданню фундатара пры манастыры пачала дзейнічаць дваранская школа з вывучэннем матэматыкі, фізікі, малявання, французскай і нямецкай моў (размяшчалася разам з 2 пансіянатамі для студэнтаў у баку ад кляштара ў асобным мураваным будынку)[2]. Паміж 1756 і 1763 гг. пад патранатам уніяцкага архіепіскапа Фларыяна Грабніцкага на месцы ранейшых драўляных будынкаў быў змураваны уніяцкі кляштар з царквой. Будаўніцтва храма распачаў вядомы архітэктар Я.К.Глаўбіц у 1751 г. (па іншай версіі — італьянскі дойлід Ф.Плачыдзі)[3]. У 1753 г. базыльяне заключылі кантракт з архітэктарам Я.Т.Дзідрэйштэнам, якога Глаўбіц запрасіў з Кракава на службу да Плятараў[4]. Будаўніцтва храма закончана ў 1756 г. Да 1767 г. быў сфарміраваны архітэктурны комплекс, які складаўся з царквы з араторыем (зімовая капліца, прыбудаваная ў 1766—67), жылога 2-павярховага корпуса, гаспадарчых будынкаў, сада, аб'яднаных мураванай агароджай з брамай. У 2-й палавіне 18 ст. рэзідэнцыя уніяцкага мітрапаліта Лісоўскага. У 1782 г. заснавана 6-класная базыльянская школа для шляхецкіх дзяцей (выкладалі 4 прафесары, у Віленскім універсітэце на сродкі кляштара навучалася 20 стыпендыянтаў), з 1782 па 1830 г. дзейнічала дваранскае вучылішча, з 1834 г. — 4-класнае праваслаўнае духоўнае вучылішча, якое з 1843 г. падпарадкоўвалася Літоўскай духоўнай семінарыі. Пасля скасавання царкоўнай уніі ў 1839 г. пачаўся заняпад архітэктурнага комплексу (валоданні канфіскаваны, зямля падзелена паміж навакольнымі вёскамі). Пазней ён быў перададзены праваслаўнаму мужчынскаму манастыру, які існаваў тут у 1847—74 гг. (быў прыпісаны да праваслаўнага Пажайскага Успенскага манастыра, царква пераўтворана ў прыходскую)[5].

Па вызначэнні Свяцейшага Сінода ад 26—31.1. 1901 г. ў ім размясціўся жаночы праваслаўны Раджджаства-Багародзіцкі манастыр са школай на 35 дзяўчат (на рамонты вылучана 10 тыс. руб.)[6]. У 1910 г. храм перабудаваны пад Раджджаства-Багародзіцкую царкву, адкрыта вучылішча. У 1921 г. царква зноў перайшла да католікаў і асвячона ў касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла, а ў манастыры размясціўся польскі Корпус аховы памежжа[7]. У 1930-я гг. кляштар рэстаўрыраваны. З канца 1939 г. па чэрвень 1941 г. ў кляштары размяшчалася турма НКУС, у гады Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкімі акупантамі на тэрыторыі манастыра быў створаны лагер смерці (шталаг № 351), пасля вайны — зноў турма. У 1960-я гг. касцёл разбураны.

Касцёл, па выказванні польскага інжынера-архітэктара А.Карчэўскага, — «апафеоз мастацтва ракако 18-га стагоддзя»[8]. Ён пабудаваны праз 10 гадоў пасля стварэння базыльянскай царквы ў Полацку (Сафійскі сабор), якая паўплывала на сучаснікаў сваёй нязвыкласцю, невядомай да таго вытанчанасцю форм і вертыкальнай струістасцю. Асноўныя кампазіцыйныя і дэкаратыўныя прыёмы полацкай царквы як у вонкавай архітэктуры, так і ў інтэр'еры прадубліраваны ў гэтым храме (у кантракце з Дзідрэйштэнам полацкі храм згадваецца як узор). Узведзены па кананічнай схеме 3-нефавай 2-вежавай базілікі з трансептам і размешчанымі ў ім бакавымі капліцамі. Накіраваная ў вышыню кампазіцыя храма — сапраўдны ўзлёт творчай фантазіі дойліда. Будынку былі ўласцівы складанасць ракурса, маляўнічасць сілуэта, пластычнасць архітэктурнай лепкі, ясны і энергічны рытм вертыкальнага руху. Прасторавай дынамічнасцю і актыўнай святлоценявой распрацоўкай вылучаўся хвалісты галоўны фасад, упрыгожаны калонамі, пілястрамі і нішамі. Хвалістыя, тонкапрафіляваныя карнізныя паясы падзяляюць фасад на 5 ярусаў. Нястрыманы рух кампазіцыі фасада ўверх падкрэслены магутным гарызантальна руставаным цокалем. У маляўнічым сілуэце храма немалаважную ролю адыгрываюць фігурныя шчыты паміж зграбнымі бакавымі вежамі, над крыламі трансепта і апсідай. Вежы афармлены фігурнымі шлемамі, лёгкімі, загнутымі ў аснаванні ў валюты пілястрамі. Дэкаратыўнасці будынка садзейнічала разнастайнасць формаў аконных і дзвярных праёмаў, чырвоны медны дах.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар базыльян у в. Беразвечча. Сучасны выгляд.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар базыльян у в. Беразвечча. Выгляд 1930-х гг.

Дэкаратыўнае вырашэнне інтэр'ера і яго начынне праектаваў Глаўбіц (мяркуецца ўдзел Л.Грынцэвіча[9]), мела адзіную ансамблевую мастацка-стылёвую трактоўку ў стылі ракако. У 1752 г. былі створаны 3 стукавыя каляровыя алтары, а ў наступным годзе на іх узор — алтары трансепта і бакавыя (усяго 7: галоўны, 2 бакавыя ў прэсбітэрыі, 2 у трансепце, 2 кулісныя пры слупах)[10]. Галоўны алтар быў выкананы ў выглядзе мураванай перагародкі ўвагнута-пукатага абрысу з уласцівымі стылю ракако тэмпераментам і складанасцю аб'ёмна-дэкаратыўнай кампазіцыі. Архітэктанічная кампазіцыя 2-яруснага алтара завяршалася «разарваным» франтонам плаўнага крывалінейнага абрысу, яго плоскасць крапавалася згрупаванымі калонамі і пілястрамі, інтэнсіўна крапаваным антаблементам. Паўавальныя скляпенні і сцены ўпрыгожвала паліхромная фрэскавая размалёўка (выяўлена падчас рамонту ў 1930-я гг.)[11]. Размалёўка была і ў інтэр'ерах кляштарнага корпуса. У інвентары 1829 г. адзначана: «Своды и частично стены различным и гысторычным малявидлом украшены».

Жылы корпус — П-падобны ў плане 2-павярховы мураваны будынак пад 2-схільным дахам, тарцы якога на франтальным фасадзе завершаны фігурнымі «разарванымі» франтонамі, крапаванымі лапаткамі. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.



---

[1] Березвечский монастырь Литовской епархии, Дисненского уезда (исторический очерк). Вильна, 1910. С. 9—11.

[2] Gozdawa M. Szkoły w woj. Połockiem w XVIII w. Po pierwszym kraju rozbiorze // Kwartalnik litewski. 1910. T. 2. № 6. S. 77—80.

[3] Bohdziewicz P. Franczesco Placidi architekt-włoch XVIII stulecia w Polsce i związki jego sztuki z barokiem wileńskim w swietle nowych danych archiwalnych i metody analitycznej // Prace i Materiały Sprawozdawcze Sekcji Historii Sztuki TPN w Wilnie. 1938/1939. T. III. S. 246; Karpowicz M. Sztuka polska XVIII wieku. Warszawa, 1985. S. 92.

[4] Morelowski M. Znaczenie baroku wileńskiego XVIII stulecia. Wilno, 1940. S. 21.

[5] Православные русские обители. Полное иллюстрированное описание всех православных русских монастырей в Российской империи и на Афоне. СПб., 1909. С. 540.

[6] Церковные ведомости. 1905. № 27. С. 339—342.

[7] Гліннік В. Базыльянская царква ў Беразвеччы // Строительство и архитектура Белоруссии. 1990. № 2. С. 31—32; Касак І. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народа. Нью-Йорк, 1956. С. 53; Краткий очерк истории Березвечьского женского монастыря Литовской епархии и Красностокской женской обители Гродненской епархии. СПб., 1901; Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 54.

[8] Buihak J. Polska w krajobrazach i zabytkach. Warszawa, 1930. T. II. S. 131; Rokoko. Studia nad sztuką 1 połowy XVIII w. Warszawa, 1970. S. 57; Skrzypek J. Województwo Wileńskie // Kalendarz ziem wschodnich na rok 1936. Warszawa, 1935.S. 212.

[9] Karpowicz M. Sztuka polska XVIII w. Warszawa, 1985. S. 101.

[10] Lorentz St. Materiały do historii Wileńskiej architektury barokowej i rokokowej. Warszawa, 1989. S. 48.

[11] Bohdziewicz P. Kościoł pobazylianski w Berezweczu // Biuletyń Historii Sztuki. 1983. № 3—4. S. 327—348.

## в. Бердаўка,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці



Капліца Найсвяцейшай Тройцы ў в. Бердаўка. 20 ст.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Бердаўка. Пачатак 21 ст.



### Капліца Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі. Учынены ў былым адміністрацыйным будынку 2-й палавіны 20 ст. як часовая да пабудовы новага касцёла.

Да тарца працяглага прамавугольнага ў плане зруба пад 2-схільным дахам далучана мураваная 4-гранная шатровая вежа-званіца. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да фасада далучана высотная 4-гранная вежа-званіца. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмам з 2-граннымі сандрыкамі над паддахавым карнізам.

## в. Бігосава,
Верхнядзвінскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца Найсвяцейшай Тройцы

Насупраць чыгуначнага вакзала. Учынена ў канцы 20 ст. ў перабудаваным цагляным будынку магазіна.

Вырашаны папярочным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Па цэнтры франтальнага фасада выступае 4-гранная вежа-званіца пад спічастым 2-гранным пакрыццём, прарэзаная па восі сіметрыі арачным уваходным праёмам і круглай люкарнай над ім. Фасад расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Блізніца,
Полацкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Божай Волі

Пабудаваны ў канцы 2001—04 гг. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай, да якой далучаны бакавыя сакрысціі. Над фасадам узведзена 4-гранная шатровая вежа-званіца. Уваход вырашаны высокім арачным праёмам, над якім 3 пірамідальна размешчаныя арачныя аконныя праёмы. Такімі ж вокнамі рытмічна расчлянёны бакавыя фасады.

## в. Богіна,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца



Капліца ў в. Богіна.

У цэнтры вёскі, на паўночнай ускраіне воз. Богінскае, каля моста. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст. з бутавага каменю. Адноўлена ў 1990-я гг.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над 2-гранным шчытом фасада 2-ярусной 4-граннай шатровай званічкай. Пазбаўленыя архітэктурнага дэкору фасады прарэзаны прамавугольным уваходным і 2 арачнымі аконнымі праёмамі.

## в. Боркавічы,
Верхнядзвінскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца святога Антонія

Учынена ў 2000 г. ў рэканструяваным будынку кніжнага магазіна.

Твор архітэктуры постнеагатычнага стылю. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе 4-граннай шатровай званіцай з арачнымі прасветамі. Нізкі прытвор з арачным уваходным праёмам завершаны 2-схільным пакрыццём, якое рытмуецца з 2-гранным шчытом фасада. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

## г. Браслаў
Віцебскай вобласці

### Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Каля старажытнага замчышча. Мураваны храм пабудаваны ў 1824 г., у 1897 г. капітальна перабудаваны. У 1950 г. закрыты і прызначаны пад склад. У 1967 г. адкрыты і адноўлены.

Каля Замкавай гары на гандлёвай плошчы некалі існаваў драўляны касцёл, які, паводле мясцовага падання, быў злучаны з ёй патаемным падземным ходам. Першы віленскі ваявода Манівід (памёр каля 1424) з дазволу вялікага князя Вітаўта залажыў у Браславе касцёл Маці Божай і фундаваў на яго «зямлю ворную і борці з сенажацямі, азёрамі і людзьмі... і дзесяціну з пашаў браслаўскіх і опескіх... і карчму ў месце браслаўскім... і возера Цно... і прыклаў яшчэ дзесяціну з дрысвяцкага двара і Обалі»[1]. У канцы 15 ст. пры намесніку браслаўскім Юрыю Зяновічу (памёр у 1499) «з Божага дапушчэння касцёл той згарэў». Паводле інвентару 1554 г., на вул. Вялікай уздоўж воз. Дрывяты стаялі касцёл і кляштар. Чарговы храм быў спалены 11.5.1794 г. падчас захопу Браслава расійскім войскам; на працягу 30 гадоў набажэнствы адбываліся ў пуні.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Трохнефавая базіліка. Падоўжаны прамавугольны ў плане аб'ём накрыты 2-схільным дахам. Сілуэт галоўнага фасада фарміруюць вуглавыя пінаклі са шпілямі і высунутая наперад ярусная шатровая вежа-званіца, да якой вядзе выкладзеная з буйных вапняковых блокаў лесвіца. Элементы архітэктурнай пластыкі — пінаклі, арачны партал бакавога і галоўнага ўваходаў (над ім — біфорыум і арачнае акно), падкарнізная аркатура, ступеньчатыя контрфорсы. Круглыя люкарны і разеткі вымураваны чырвонай цэглай, якая ў спалучэнні з ружовым бутавым каменем стварае цёплую каларыстычную гаму. У муроўцы сцен выкарыстаны мясцовы прыём так званай браслаўскай мазаікі (запаўненне швоў бутавай муроўкі дробным шчэбнем).

Зала асветлена высокімі бакавымі арачнымі аконнымі праёмамі, алтарная частка — вялікім



Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Браслаў.

круглым акном-ружай. Стылізаваны пад барока драўляны алтар вырашаны ўзнятым на высокі пастамент 4-калонным порцікам з крапаваным антаблементам, дэкарыраваны пазалочанай арнаментальнай разьбой па дрэве ў выглядзе аканта. У цэнтры алтара абраз Маці Божай Браслаўскай, паміж канелюраванымі калонамі — скульптуры апосталаў. Твор разьбярскага мастацтва — амбон. На хорах устаноўлены арган. У касцёле шануецца абраз «Багародзіца», які, паводле падання, захаваўся пасля пажару 1832 г., што знішчыў манастыр базыльян на востраве воз. Несціш.

[1] Бялецкі А. На сьв. Казімера // Chryscijanskaja Dumka. Miensk, 1992. S. 107.

## г. Брэст

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

На вул. Леніна. Пабудаваны як кафедральны ў 1856 г. з цэглы паводле праекта памочніка архітэктара Я.Фардона. Першапачаткова гарадскі каталіцкі парафіяльны храм быў фундаваны пры вялікім князі Вітаўце ў 1412 г.[1] У 1845 г. жыхары Кобрынскага фарштата Брэст-Літоўскай крэпасці Куроўскі, Бучынскі, Малеўскі і інш. звярнуліся да статс-сакратара князя Галіцына з хадайніцтвам аб дазволе пабудаваць касцёл. Яно было задаволена 25.9. 1849 г., але мураваны храм пабудаваны як кафедральны толькі праз 7 год. Гэта было звязана з тым, што гродзенскі губернатар быў незадаволены якасцю праекта і патрабаваў яго перапрацоўкі «...без прихоти, но в красивом стиле, где бы простота соединялась с изяществом католических костёлов»[2]. Брэсцкаму гарадскому архітэктару Ул.Палікарпаву было даручана распрацаваць новы праект храма, «во всем согласный с предначертаниями Государя Императора»[3]. Аднак архітэктар не мог зразумець сэнс пажаданняў імператара і адмовіўся ад задання. Якаў Фардон быў вымушаны па загадзе генерал-лейтэнанта Пяткіна распрацаваць новы праект, які быў зацверджаны імператарам 18.11.1849 г. Храм асвячоны архібіскупам В.Жылінскім у 1856 г. (10 тыс. парафіян). Да храма былі прыпісаны капліцы пры гімназіі імя Р.Траўгута, пры турме, на могілках, у доме сясцёр міласэрнасці св. Сямейства, у школе, пры пажарнай камандзе на чыгуначнай станцыі Брэст-Палескі. Разбураны ў Вялікую Айчынную вайну. У 1950—57 г. адноўлены з капітальнай перабудовай (зменены інтэр'ер, зняты 2 вежы на галоўным фасадзе). Да 1990-х гг. у будынку быў размешчаны абласны краязнаўчы музей. Перададзены вернікам.


Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г. Брэст.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны паводле базілікальнай планіровачнай схемы з паўкруглай апсідай і бакавой сакрысціяй. Галоўны фасад раней завяршалі 2 бакавыя вежы з трохвугольным на высокім атыку франтонам паміж імі (адноўлены); захавалася крапоўка пілястрамі і прамавугольнымі нішамі-блендамі з трохвугольнымі сандрыкамі. Галоўны ўваход вырашаны класічным пілястравым парталам з трохвугольным франтонам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі на 2 узроўнях, дэкарыраваны падаконнымі панэлямі з разеткамі і пілястрамі ў прасценках. У апсідзе створаны алтар, на хорах устаноўлены арган.

У храме знаходзіцца ікона «Маці Божая Браслаўская» з багатым гістарычным лёсам. З 1607 г. захоўваўся ў дамініканскім касцёле ў Шароўцах на Падоліі, з 1635 г. ў брэсцкім дамініканскім кляштары; захоплена татарамі падчас казацкіх войнаў; адбіта Мікалаем Патоцкім і размешчана ў капліцы; яго жонка пасля смерці мужа ў 1676 г. перадала ўпрыгожаны металічнай рызай абраз з гербам Дуніных-Раецкіх у брэсцкі дамініканскі кляштар; 30.6.1995 г. каранавана як цудатворная[3].

[1] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 75—76.
[2] НАРБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 418, арк. 1.
[3] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 55.

## в. Будслаў,

Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

На старажытных каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст. з бутавага каменю.



Капліца ў в. Будслаў.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, кансольна вынесеным на франтальным фасадзе трохвугольным франтонам. На фоне паліхромнай бутавай муроўкі вылучаны атынкаваныя ліштвы лучковых аконных праёмаў і вуглавыя лапаткі.

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар бернардзінцаў

У цэнтры вёскі, фарміруе яе галоўную плошчу.

У 1504 г. па фундацыі вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Аляксандра Казіміравіча Ягелончыка (надаў прывілей на 6 тыс. моргаў лесу над р. Сервач віленскім манахам-бернардзінцам) і гетмана літоўскага і ваяводы полацкага Яна Кішкі тут быў заснаваны кляштар бернардзінцаў, у якім у 1530 г. ўзведзена драўляная капліца, у 1591 г. асвячоны першы драўляны касцёл. Аўтар Бернардзінскай хронікі за 1656—71 гг. айцец Томаш Дыгань пісаў, што нагодай для пабудовы касцёла было з'яўленне Маці Божай. На сродкі віленскага гвардыяна (настаяцель кляштара) Фларыяна Калецкага, польнага гетмана літоўскага Яна Кішкі і шляхціцаў Далмат-Ісакоўскіх 28.8.1633 г. быў закладзены новы мураваны храм, будаўніцтва якога закончана 9.7.1643 г.[1] З блаславення віленскага біскупа Абрахама Войны новы касцёл асвяціў ксёндз Галамбоўскі. Архітэктарам збудавання быў нямецкі дойлід Андрэй Кромер. З 1731 г. пры кляштары дзейнічае духоўная школа на 10 вучняў, у 1756 г. — музычная школа на 25 вучняў, з 1793 г. — 2-класная пачатковая школа; у 1790 г. пабудаваны цагляны шпіталь. Схематызаваны выгляд першапачатковага кляштара надаецца ў кнізе ксяндза Элеўтэра Зелянкевіча 1650 г. «Задыяк на зямлі» і на карце Г.Ляйбовіча 2-й палавіны 18 ст.

Сучасны выгляд храм набыў пасля перабудовы ў 1767—83 гг. віленскім архітэктарам Канстанцінам Пэнсам (магчымы ўдзел варшаўскага дойліда Іосіфа Фантаны)[2]. Урачыстае асвячэнне адбылося 7.9.1783 г. біскупам Францішкам Алоізам Гзоўскім, храм быў названы ў гонар Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. У 1750—54 гг. па фундацыі Барбары Скарульскай да касцёла далучаны 2-павярховы жылы корпус кляштара; у ансамбль уваходзілі мураваныя і драўляныя гаспадарчыя пабудовы 2-й палавіны 18 ст. З 1756 г. пры кляштары дзейнічала музычная школа (заснавана Б.Скарульскай). Скасаваны ў 1859 г. касцёл стаў прыходскім, жылыя карпусы адведзены пад ваенныя казармы, да канца стагоддзя разабраны. У 1990-я гг. каля храма створана часовая папская рэзідэнцыя «Базіліка Мінорыс» (архітэктары Ю.Патапаў, А.Нямкоў), прызначаная для правядзення рэлігійных свят, сустрэч вышэйшых духоўных асоб і іншых мерапрыемстваў. Пасля працяглага перапынку ў 1992 г. адрадзілася паломніцтва да святыні. 2.7.1995 г. тут адбыўся вялікі каталіцкі фэст, на якім прысутнічаў апостальскі нунцый Аўгуст Маркета.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар бернардзінцаў у в. Будслаў.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры рэнесансу і позняга барока. Уяўляе грандыёзную 3-нефавую 2-вежавую крыжова-купальную базіліку. Асноўны архітэктурна-пластычны акцэнт створаны на галоўным фасадзе, які мае шматпланавую трактоўку:




Галоўны алтар касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар бернардзінцаў у в. Будслаў.



Ікона Будслаўскай Маці Божай у касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Будслаў.

дамінуючыя цэнтральны калонны рызаліт і бакавыя вежы выступаюць наперад, сцяна западае ў глыбіню. Шматпрофільны карніз падзяляе фасад на 2 ярусы; 1-ы прарэзаны шырокім лучковым уваходным парталам, акаймаваным пілястрамі са стылізаванымі карынфскімі капітэлямі; у 2-м — порцік таго ж ордэра з лучковым франтонам. Цэнтральны рызаліт завяршае фігурны шчыт, маляўнічая абламоўка якога паўтараецца ў франтонах крылаў трансепта і алтарнай сцяны. Чатырох'ярусныя вежы завершаны фігурнымі купалкамі. Архітэктура насычана багатай, амаль скульптурнай пластыкай: «пушча» калон, паўкалон і пілястраў, вытанчаныя графічныя прафілёўкі і інтэнсіўна раскрапаваныя антаблементы.

Унутраная прастора набыла дынамічнае развіццё ад нізкіх вуглавых травеяў у высокі працяглы неф і трансепт, над скрыжаваннем якіх пануе сферычны купал (знадворку схаваны пад дахам). Інтэр'ер перакрыты крыжовымі і цыліндрычнымі з распалубкамі скляпеннямі. Як і ў экстэр'еры, сцены крапаваны слаёнымі пілястрамі, адкрытыя плоскасці маюць перспектыўна-ілюзорную размалёўку на архітэктурную тэматыку. На высокіх выгнутых хорах — арган (канец 18 ст., фундаваны Б. Скарульскай), упрыгожаны драўлянай пазалочанай разьбой у стылі ракако. Апсіда адсутнічае; галоўны драўляны алтар Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі (1784—90, паводле іншых звестак устаноўлены ў 1649) пастаўлены ў глыбіні нефа і з'яўляецца асноўным мастацка-дэкаратыўным акцэнтам інтэр'ера, выкананым у стылі класіцызму. Роспіс касцёла зроблены мастаком К.Анташэўскім. На сценах сакрысціі пагрудныя партрэты рымскіх папаў — Сікста IV, Сікста V, Мікалая IV, Аляксандра V (18 ст.). У стылі ракако выкананы 6 спавядальняў (канфесіяналяў), у стылі класіцызму — амбон.

У капліцы св. Барбары (далучана да нефа прамавугольным аб'ёмам; захавалася ад першапачатковага храма) знаходзіцца унікальны разны драўляны алтар Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі — адзін з выдатных помнікаў мастацтва ранняга барока 17 ст. Створаны ў 1643—49 гг. намаганнямі настаяцеля кляштара айца Элеўтэра Зелянкевіча (у 1929 рэстаўрыраваны майстрам Драблеўскім)[3]. Цэнтральная яго частка 2-ярусная, плоская; бакавыя, перспектыўна накіраваныя да цэнтра, вырашаны ў выглядзе карынфскіх каланад з развітым антаблементам. Яны служаць кулісамі для 20 скульптур, размешчаных ва ўрачыстых позах у арачных нішах, на карнізах, крылах разарваных франтонаў. Кантрастная паліхромія пазалоты выяўленчых элементаў (гратэскнае спляценне ў завітках і драпіроўках галовак анёлаў, ільвоў, лістоў аканту, раслінных капітэляў, ракавін) і чорна-таніраванага фону, рэнесансавая яснасць і ўраўнаважанасць кампазіцыі спалучаюцца з выразнымі барочнымі рысамі: інтэнсіўнай раскрапоўкай антаблементаў і франтонаў, тэатральнасцю і драпіровачным багаццем скульптурнага ансамбля. Скульптурны ансамбль уключае выявы Давіда і Арона (на тарцах алтара), святых Юзафа, Захарыі, Іахіма (у левым крыле), святых Яна Хрысціцеля, Альжбеты, Ганны (у правым крыле); тарэц левага крыла завяршаюць постаці святых Станіслава і Францыска, правага — святых Казіміра і Антонія; у цэнтры фігуры 6 анёлаў і постаці святых Пятра і Паўла. Барочны сінтэз мастацтваў дапаўняецца жывапісам — абразы «Укрыжаванне» (17 ст., нададзены ў 1773) і «Маці Божая Балесная» (канец 16 ст.).

2.7.1998 г. касцёл абвешчаны санктуарыем каранаванага абраза «Найсвяцейшая Дзева Марыя Будслаўская». Паводле падання, яго першым уладальнікам быў мінскі ваявода Ян Пац, які атрымаў гэты абраз у Рыме ў 1598 г. ад папы Клемента VIII. Пасля смерці Яна Паца капеланам быў ксёндз І.Салака, які ў 1613 г. ахвяраваў абраз касцёлу. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. манахі вывез-



Алтар капліцы святой Барбары ў касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Будслаў.

лі яго ў в. Саколка (Беласточчына), адкуль ён быў вернуты пасля вайны. Абраз намаляваны алейнымі фарбамі на палатне (72 × 65 см) і замацаваны на раме, на адваротным баку якой захаваўся надпіс з 1646 г., зроблены падчас будовы алтара для новага мураванага касцёла. Адрэстаўрыравана ў 1991—92 гг. мастаком В.Лукашэвічам.[4]

Ж ы л ы к о р п у с (не захаваўся) быў пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. з цэглы ў стылі барока. Складаўся з трох 2-павярховых крылаў, якія акаймоўвалі ўнутраны двор з паўночнага боку касцёла. Уваход быў вылучаны рызалітам з фігурным франтонам, завершаным гранёнай сігнатуркай.

---

[1] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym opisana. Warszawa, 1846. T. III. S. 829; Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 111; Karpowicz M. Sztuka polska XVIII w. Warszawa, 1985. S. 253—254; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu. Wilno, 1938—39. S. 158.

[2] Morelowski M. Znaczenie baroku wileńskiego XVIII stulecia. Wilno, 1940. S. 22; Zwolski B. Wileńszczyzna, nowogrodczyzna i białostoczyzna za Zygmunta III. Wilno, 1938. S. 24.

[3] Kalamajska-Saeed Maria. Ołtarz w Budslawiu // Niderlandyzm w sztuce Polskiej. Warszawa, 1995. S.444.

[4] Ярашэвіч А.А. Будслаўская базіліка Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Мн., 2005. С. 14.

## в. Букі,
Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі, каля шашы Глыбокае—Браслаў. Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы.

Вырашана 2-фігурнай скульптурнай групай «Вадохрышча», узнятай на цыліндрычны мураваны пастамент.



Капліца святога Яна ў в. Букі.

## в. Быстрыца,
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Святога Яна

Пастаўлена ў канцы 20 ст. з сілікатнай цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным з заломам дахам. Франтальны фасад прарэзаны прамавугольным уваходным праёмам з паўкруглай люкарнай над ім. Вуглы аб'ёму крапаваны лапаткамі.

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1760—61 гг. з цэглы, магчыма, паводле праекта віленскага архітэктара І.К.Глаўбіца на месцы драўлянага храма 1523 г., узведзенага паводле загада польскага караля Жыгімонта І Старога[1]. З 1390 г. да 1526 г. тут быў кляштар канонікаў рэгулярных[2]. У 1863—65 гг. перароблены на царкву (над дахам і вежамі надбудаваны цыбулепадобныя купалы). Вернуты парафіянам у 1918 г. і адноўлены ў першапачатковым стане да 1926 г.

Помнік архітэктуры позняга барока і ракако. Дойлід, які імкнуўся да камернасці і інтымнасці, адышоў ад магутнай барочнай патэтыкі і масіўнай пластычнасці. Кампактны 1-нефавы асноўны аб'ём праз скругленыя вуглы плаўна пераходзіць у 5-гранную апсіду з бакавой сакрысціяй. Рытм фасадам надаюць тонкапрафіляваны падкарнізны пояс і вытанчаныя парныя пілястры паміж арачнымі аконнымі праёмамі. Ажыўляе аб'ёмную кампазіцыю і асіметрычна далучаная да апсіды нізкая сакрысція. Асноўны эстэтычны акцэнт зроблены на галоўным фасадзе з 2 лёгкімі струменістымі 3-яруснымі вежамі і трохвугольным франтонам паміж імі. Ніжні ярус вежаў вылучаны вязкамі пілястраў і арачнымі нішамі, сярэдні і верхні прарэзаны арачнымі прасветамі, вуглы ярусаў скошаны і апрацаваны пілястрамі.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Быстрыца.



Інтэр'ер касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў в. Быстрыца.

Вертыкальнасць фасада з увагнута-пукатай хвалістай плоскасцю падкрэслівае гарызантальная рустоўка цоколя. Лучковы праём увахода вылучаны парталам з трохвугольным франтонам. Бакавыя фасады вырашаны сціпла, плоскасна. Арачныя аконныя праёмы і парныя лапаткі ў прасценках ствараюць спакойны рытм і статычную ўраўнаважанасць.

Узнёсласць, лёгкасць архітэктуры храма ўспрымаецца і ў інтэр'еры пад высокім цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі над нефам і крыжовым — над сакрысціямі, сферычнай конхай над апсідай (з арнаментальнай размалёўкай 19 ст.). Архітэктура інтэр'ера, як і звонку, насычана крапоўкамі — падвойныя канелюраваныя пілястры з характэрнымі ракайльнымі капітэлямі, над якімі магутны прафіляваны антаблемент, падпружныя аркі. Пластыка-дэкаратыўным акцэнтам з'яўляецца архітэктанічны галоўны алтар, разгорнуты па гранях апсіды і падзелены крапаваным антаблементам на 2 ярусы. Складаная калонна-пілястравая кампазіцыя 1-га яруса, выкананая з карычневага стука і з пазалотай на капітэлях, фланкіравана 2 драўлянымі скульптурамі апосталаў. У барочна-ракайльным ключы зроблены і 2 меншыя, пастаўленыя вуглом кулісныя алтары. Барочную пластычнасць узмацняе хвалістая арганная галерэя над уваходам, парапет якой дэкарыраваны ракайльнымі панэлямі-віньеткамі.

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 124.

[2] Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912. S. 187.

# г. Быхаў

Магілёўскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы як пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашана кампактным прамавугольным у плане збудаваннем пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Фасад прарэзаны стральчатым уваходным праёмам, фланкіраваным паўкалонамі і завершаным прамавугольным атыкам з цыліндрычнай кароткай вежай над ім.

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Твор архітэктуры мадэрна. Вырашана квадратным у плане прысадзістым аб'ёмам, накрыты цагляным купалам. З франтальнага боку арачны ўваходны праём, з астатніх — арачныя нішы. Пад збудаваннем скляпеністая крыпта.

# в. Бялавічы,

Мастоўскі раён
Гродзенскай вобласці



Капліца ў г. Быхаў.



Капліца ў г. Быхаў.

## Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пастаўлена пры дарозе ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана цэнтрычнай 4-граннай 2-яруснай вежай пад перакрыжаваным 2-схільным пакрыццём з трохвугольнымі франтонамі па тарцах. Другі ярус адкрыты арачнымі прасветамі ў ліштвах з архівольтамі і пілястрамі, прызначаўся для сакральнай скульптуры. Ніжні ярус-пастамент крапаваны прамавугольнымі нішамі, верхні — вуглавымі пілястрамі, фрызам з фігурнымі філёнгамі.



Капліца ў в. Бялавічы.

# г. Бяроза

Брэсцкай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры архаікі перыяду гістарызму. Вырашана 4-граннай пірамідай з прамавугольнай нішай на франтальнай грані для мемарыяльнай дошкі.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

На ўсходняй ускраіне горада. Пабудаваны ў 1998 г. з цэглы паводле праекта архітэктара Л.Каспяровіча. Асвячоны 7 чэрвеня кардыналам К.Свёнтакам. Побач з храмам дом святароў-палатынаў.

Храм выкананы паводле канона 3-нефавай 2-вежавай базілікі ў стылі стылізаванага рэнесансу. Стрыманую дынаміку архітэктурнай кампазіцыі галоўнага фасада ствараюць фланкіруючыя шатровыя вежы (2 васьмерыкі на чацверыку), якія аб'яднаны завершанай 2-гранным шчытом цэнтральнай фасаднай плоскасцю з вялікай арачнай нішай ўвахода. Над ім у тымпане шчыта ў арачнай нішы абраз. Архітэктурны рытм атынкаваных плоскасных фасадаў ствараюць арачныя праёмы, міжʼярусныя прафіляваныя карнізы, плоскія лапаткі.

## Касцёл святых Юзафа і Казіміра і кляштар картэзіянцаў

На заходняй ускраіне горада. Кляштарны комплекс ордэна картэзіянцаў пабудаваны ў 1648—89 гг. італьянскім архітэктарам Джавані Баціста Гіслені (1600—72, «умелы майстар, італьянец»[1]) па фундацыі падканцлера літоўскага К.Л.Сапегі, які запрасіў сюды з Францыі манахаў-картэзіянцаў і зрабіў на іх карысць буйнейшае на той час ахвяраванне ў 10 тыс. злотых[2]. Заклаў касцёл папскі нунцый у Польшчы Ян дэ Торэс. Будаўніцтва скончана ў 1661 г. пад кіраўніцтвам невядомага варшаўскага архітэктара. Храм асвячоны 6.6.1666 г. віленскім біскупам А.Сапегам[3].

У касцёле быў пахаваны фундатар К.Л.Сапега (памёр у 1659), пазней яшчэ 8 пакаленняў з роду Сапег. Ад такога патранату кляштар меў вялізную маёмасць: зямельныя ўладанні на некалькі міль вакол, мястэчка Бяроза-Картузская і в. Бусяж, фальварак Грынкевічы, навакольныя лясы і рэкі. Зямельныя ўладанні кляштара павялічваліся і за кошт ахвяраванняў заможных людзей на пахаванне ў скляпах касцёла, адпісаныя ўласнікамі маёмасці. У 1665 г.



Капліца ў г. Бяроза.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г. Бяроза.



Касцёл святых Юзафа і Казіміра і кляштар картэзіянцаў у г. Бяроза. Акварэль Н.Орды. 2-я пал. 19 ст.



кляштар атрымаў фальварак Лявошкі, маёнткі Лейпуны і Панямонне ў Гродзенскім павеце, фальварак Вугляны ў Слонімскім павеце, 3 валокі зямлі ў Здзітаве (у 1672). На кляштар працавала больш за 2,4 тыс. феадальна залежных сялян. Прыбыткі ад уладанняў, гандлю гарэлкай, віном і півам былі такія вялікія, што сродкі, якія засталіся ад утрымання кляштара, склалі 400 тыс. злотых. Паводле дазволу імператара Паўла I нейкі час выкарыстоўваўся манахамі-трапістамі.

У Паўночную вайну 1700—21 гг. кляштар часткова зруйнавалі шведы. У 1706 г. быў наведаны расійскім царом Пятром I і каралём Рэчы Паспалітай Аўгустам II Моцным. Шведскі кароль Карл XII захапіў у заложнікі 3 паслушнікаў, за якіх кляштар выплаціў выкуп у 300 дукатаў; у 1708 г. шведы зноў захапілі 3 ксяндзоў, на выкуп якіх было аддадзена кляштарнае серабро; астатнія манахі былі вымушаны хавацца ў навакольных лясах. У час Барскай канфедэрацыі (1772) часткова разбураны. У час паўстання 1830—31 гг. манах Ф.Камінскі быў праваднікам аднаго з паўстанцкіх атрадаў, у атрадзе Ц.Пуслоўскага было некалькі манастырскіх служкаў. «Соучастие монахов в бывшем Польском мятеже» з'явілася для расійскіх улад падставай для скасавання кляштара ў 1831 г. і яго канфіскацыі ў казну 20.8.1834 г.[4] Касцёл стаў парафіяльным, закрыты ў 1866 г. Пасля паўстання 1863—64 гг. кляштарныя будынкі разабраны (1866—97, пры абвале сцяны загінуў селянін)[5], касцёл перададзены праваслаўным, кляштарная цэгла выкарыстана на будаўніцтва казарм, медзь з даху (449 пудоў) — на пакрыццё царквы Аляксандра Неўскага ў Гродне, мармуровыя пліты (1300 штук) — на яе аздабленне і падлогу Успенскага сабора ў в. Жыровічы (Слонімскі р-н)[6]. Усё касцельнае начынне было перададзена парафіяльнаму касцёлу ў в. Сігневічы (Бярозаўскі р-н). Свае ўражанні ад спустошанага кляштара апісаў у сваіх мемуарах польскі пісьменнік-гісторык Ю.У.Нямцэвіч[7]. Агульны выгляд кляштара вядомы па акварэлі Н.Орды 1861—77 гг., малюнку Падбельскага 1861 г.[8] і абмерных чарцяжах канца 19 ст.[9] У 1905—07 гг. на кляштарным плацы была пабудавана капліца, у 1933 г. — касцёл, які ў 1964 г. быў зруйнаваны. Захаваліся рэшткі кляштарных бу-





Касцёл святых Юзафа і Казіміра і кляштар картэзіянцаў у г. Бяроза. Сучасны выгляд.

дынкаў. У 1998 г. распрацаваны праект аднаўлення кляштара (архітэктар А.Барушка).

Планіровачная арганізацыя кляштара адпавядала жыццёваму ўкладу манахаў-самотнікаў і была заснавана на ізаляваных аднатыпных ячэйках-келлях з тыльнымі дворыкамі-агародамі, якія былі аб'яднаны па перыметры вялізнага ўнутранага двара і злучаны з касцёлам калідорам. Кляштар быў прыстасаваны для абароны: абнесены шасцівугольным валам, крапаснай мураванай сцяной з брамай і 5 вежамі з гарматамі (у адной з іх была створана капліца св. Бруна — заснавальніка картэзіянскага ордэна). Пастаўленыя на балоцістым месцы будынкі кляштара пад фундаментамі мелі глыбока забітыя палі. Па-за сценамі знаходзіліся лазарэт, дом лекара і аўстэрыя, цагельня. Кляштарная бібліятэка налічвала 39 рукапісных і 2314 друкаваных кніг.

Касцёл св. Іосіфа Абручніка — помнік архітэктуры сталага барока. Канон 3-нефавай базілікі атрымаў нетрадыцыйную інтэрпрэтацыю: 3 апсіды, уваход вырашаны абарончым барбаканам, 8-гранная шмат'ярусная вежа-званіца з франтальнага фасада перанесена да 3-граннай цэнтральнай апсіды і таксама набыла абарончы характар за кошт магутных сцен з вузкімі вокнамі-байніцамі. Ярусы, прыстасаваныя для гармат, звязвала вітая лесвіца ў тоўшчы сцяны. Франтальны фасад па восі сіметрыі вылучаўся рызалітам з трохвугольным франтонам, быў крапаваны пілястрамі, завершанымі пінаклямі. Храм быў накрыты ліставой меддзю.

Зала касцёла была падзелена на 3 часткі. У 1-й, прастольнай, адмежаванай высокімі драўлянымі кратамі, размяшчаліся манахі, 2-я адводзілася для службы і была багата дэкарыравана алтарамі з разьбой і пазалотай, 3-я частка храма прызначалася для навіцыяў (кандыдатаў у манахі). У інтэр'еры было 13 алтароў, аздобленых стукавай ляпнінай і разьбой па дрэве, паліхромнай і пазалочанай скульптурай, абразамі мясцовых і італьянскіх мастакоў. У галоўным алтары змяшчаўся абраз «Укрыжаванне» з выявамі ў поўны рост Сапегі, яго жонкі і прыслугі. Падлога была выкладзена шведскім мармурам.

Капліца св. Бруна была ўзведзена на крапаснай сцяне кляштара ў 1648—89 гг. Вядома па фотаздымку 1958 г.[10] Уяўляла сабой масіўную цыліндрычную вежу, увянчаную партатыўным барабанам, у арачных праёмах якога праглядалася скульптурная выява св. Бруна[11].

[1] Encyklopedja kościelna. Warszawa, 1877. T. X. S. 133; Miłobedzki A. Architektura polska XVII wieku. Warszawa, 1980. S. 283—286.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 27, спр. 710, арк. 1.

[3] Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 140.

[4] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 1194.

[5] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 148, арк. 60—61, 65.

[6] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 27, спр. 710.

[7] Niemcewicz J.U. Podróże historyczne po ziemiach polskich między rokiem 1811 a 1828. Parys—Petersburg, 1858. S. 396.

[8] РДВГА, ф. 349, воп. 17, спр. 1591—1595.

[9] Всеобщая история архитектуры в 12 т.: Архитектура России, Украины и Белоруссии. XIV — первая половина XIX вв. М., 1968. Т. 6. С. 492—493; Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство. 1980. № 28. С. 120—121.

[10] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // АН. 1980. № 28. С. 121.

[11] Popowska M. Rys dziejów kartuzji Bereskiej w latach 1648—1831 // Ateneum Wileńskie. Rocz. XIII. Zesz. 1. Wilno, 1938. S. 59.

## в. Бярозаўка,

**Докшыцкі раён**
**Віцебскай вобласці**

### Капліца

Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Захавалася ў рэштках.

Вырашана 8-граннай ратондай пад шатровым дахам. Франтальныя грані зруба («у лапу») маюць прамавугольныя ўваходны і 2 аконныя праёмы.



Капліца ў в. Бярозаўка.

### Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

Пабудавана ў 2002—03 гг. з цэглы і бутавага каменю на аснове перададзенага калгаснага канторскага будынка.



Капліца Маці Божай Вастрабрамскай.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам, перакрыжаваным па цэнтры трансептам. Над сяродкрыжжам 2-схільных дахаў узведзена 2-ярусная 4-гранная шатровая вежа. Уваход вырашаны 2-слуповым ганкам пад 2-схільным пакрыццём. На фоне атынкаваных сцен паліхромнай бутавай муроўкай вылучаны тарцы трансепта, 2-гранныя шчыты якіх расчлянёны строенымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў арачных ліштвах. Вуглы ўмацаваны цаглянымі пілонамі-контрфорсамі.

## г. Бярозаўка,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Спаслання Святога Духа

Пабудаваны ў 1992 г. з цэглы. Парафія зацверджана ў 1928 г. дэкрэтам віленскага біскупа Р.Ялбжыкоўскага. Папярэдні касцёл быў пабудаваны ў 1931 г. з цэглы на сродкі шклозавода, у 1932 г. асвячоны, у 1953 г. закрыты і зруйнаваны (пабудаваны рабочы інтэрнат). Намаганнямі вернікаў і ксяндза А.Стапыры, ахвяраваннямі з Польшчы 7.6.1992 г. асвячоны вуглавы камень і пачата будаўніцтва касцёла, скончанае ў 1993 г. 18.8.2001 г. асвячоны біскупам А.Дзям'янкам; пабудавана капліца, пастаўлены крыж, добраўпарадкавана тэрыторыя.

Твор архітэктуры неаготыкі. Крыжовы ў плане храм з крыламі трансепта, апсідай, нартэксам-званіцай. Асацыяцыі з сярэдневяковай готыкай выклікаюцца лапідарнасцю аб'ёмаў, суровай плоскаснасцю фасадаў, выкладзеных цэглай і чляянёных высокімі арачнымі вокнамі, высотнай дамінантай 4-граннай званіцы, аркатурай галоўнага фасада, стромкасцю чарапічных дахаў.


Касцёл Перамянення Гасподняга ў в. Вавёрка.


Інтэр'ер касцёла Перамянення Гасподняга ў в. Вавёрка.



## в. Вавёрка,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Перамянення Гасподняга

На паўднёвай ускраіне вёскі, на левым беразе р. Вавюрка. Пабудаваны ў 1932 гг. з цэглы[1] на месцы храма 1685 г., скасаванага ў 1832 г. Акаймаваны бутавай агароджай з 3-пралётнай арачнай брамай.

Помнік архітэктуры гістарызму з выкарыстаннем стылізаваных элементаў рэнесансу, барока, класіцызму, канструктывізму. Пабудаваны па канону 3-нефавай 2-вежавай базілікі з шырокім трансептам у выглядзе 5-гранных крылаў і прамавугольнай апсідай з нізкімі бакавымі сакрысціямі пад вальмавымі дахамі. Трох'ярусны франтальны фасад расчлянёны пілястравай крапоўкай на 3 праслы, бакавыя з якіх завершаны 8-граннымі ярусамі званіц пад звонападобнымі купаламі з ліхтарамі; сярэдняе — невялікім фігурным франтонам. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі, прамавугольнымі і квадратнымі аконнымі праёмамі. Тарцовая сцяна цэнтральнага нефа завершана барочным увагнута-пукатым шчытом. Класіцыстычнай рустоўкай апрацаваны ніжні ярус франтальнага фасада, у сярэдзіне якога прамавугольны ўваходны праём пад *«разарваным» 2-гранным франтонам.*

Унутраная прастора храма падзелена на нефы 2 радамі магутных аркатур на 4-гранных пілонах. Над нартэксам на шырокай арцы размешчана галерэя хораў з арганам. Неф перакрыты плоскай кесоннай драўлянай столлю ў стылі рэнесансу. Апсіду завяршае 1-ярусны драўляны алтар, завершаны ўвагнута-пукатым франтонам і расчлянёны на 3 часткі вітымі калонамі, паміж якімі 2 скульптуры.

---

[1] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936.

## в. Вайганы,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Пабудавана ў 20 ст. з бутавага каменю.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе 4-граннай пірамідальнай сігнатуркай з крыжом. Уваход вырашаны шырокім 2-гранным праёмам.

## в. Вайдзені,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы і бетону.

Помнік архітэктуры з рысамі мадэрна. Вырашана 4-гранным завершаным крыжом слупом, крапаваным на франтальнай грані стральчатай нішай для сакральнай скульптуры.

## в. Валасатка,

Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На ўскраіне вёскі, у полі, каля дарогі Валасатка—Докшыцы. Пабудавана ў 1848 г. з дрэва.

Помнік народнай архітэктурна-скульптурнай творчасці. Вырашана 6-граннай ратондай пад шатровым дахам з разной вазай-кубкам у завяршэнні. Франтальная грань прарублена прамавугольным уваходным праёмам, бакавыя — акенцамі. Унутры пры алтарнай сцяне пастаўлена драўляная скульптурная група «Укрыжаванне з прадстаячымі».




Скульптурная група ў капліцы ў в. Валасатка.

## в. Валдацішкі,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці



Капліца ў в. Вайганы.



Капліца ў в. Вайдзені.



Капліца ў в. Валасатка.



Капліца святой Марыі Магдалены ў в. Валдацішкі.

## Капліца святой Марыі Магдалены

Каля могілак. Учынена ў 1992 г. ў прыстасаваным будынку.

Твор народнага дойлідства. Вырашана звычайным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Франтальны працяглы фасад вылучаны па цэнтры 4-слуповым ганкам пад 2-схільным пакрыццём, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## Касцёл

Каля могілак. Будаўніцтва пачалося ў 1930-я гг., але скончана не было. Сцены будынка з бутавага каменю і цэглы захаваліся на ўзроўні вокнаў.

Архітэктурная трактоўка будынка меркавалася ў рэчышчы стылю канструктывізму. Планіровачна вырашаны працяглым прамавугольным аб'ёмам, да якога з фасада далучаны вузейшы 4-гранны нартэкс-званіца, па баках алтарнай часткі — сакрысціі. Бакавыя фасады рытмічна чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

# г. Валожын

Мінскай вобласці

## Касцёл святога Юзафа

На пл. Свабоды. Пабудаваны ў 1816 г. з цэглы.







Касцёл святога Юзафа ў г. Валожын.

У 1683 (1681?) г. гетман польны літоўскі, кашталян віленскі Юзаф Багуслаў Служка заснаваў ў цэнтры горада бернардзінскі кляштар і пры ім школу. У 1690 г. быў пабудаваны драўляны касцёл (1-зрубны храм з 5-граннай апсідай, меў рысы стылю барока). Перад ім знаходзіўся цвінтар, абгароджаны драўлянай абарончай сцяной з 2 вежамі (званіца і брама). Старажытны касцёл згарэў у 1715 г. Намаганнямі ўладальніка мястэчка графа Ю.Тышкевіча ў 1816 г. паводле праекта літоўскага архітэктара Л.Стуокі-Гуцэвіча (1797) узведзены існуючы мураваны храм[1]. З'яўляўся родавай пахавальняй Тышкевічаў (надмагілле Ю.Тышкевіча ў выглядзе фігуры рыцара, які спіць). У 1864 г. пераасвячоны ў праваслаўную царкву. Кляштарны корпус разбураны ў 1860 г. У выніку пажару падчас баявых дзеянняў 1918 г. амаль цалкам быў знішчаны інтэр'ер храма. У 1921 г. Валожын апынуўся на тэрыторыі Польшчы і ў выніку рэвіндыкацыі храм зноў стаў каталіцкім. У 1980-я гг. выкарыстоўваўся як вытворчы будынак.



Брама-званіца касцёла святога Юзафа ў г. Валожын.

Помнік архітэктуры ампіру. Узняты на высокі бутавы цокаль буйнамаштабны прамавугольны ў плане будынак накрыты 2-схільным дахам, над алтарнай часткай якога ўзведзена гранёная каркасная сігнатурка-ліхтарык. Адзіны, але магутны архітэктурны акцэнт створаны на галоўным фасадзе — 6-калонны порцік дарычнага ордэра з трохвугольным франтонам 2-схільнага даху. Пад порцікам на плоскасці фасада 4 арачныя нішы, у якіх раней змяшчаліся скульптурныя выявы евангелістаў. Бакавыя плоскасныя сцены рытмічна расчлянёны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах з трохвугольнымі сандрыкамі. Будынак акаймоўвае антаблемент з трыгліфным фрызам і карнізам на дэнтыкулах. Унутраная прастора падзелена магутнымі аркадамі на 3 падоўжныя нефы, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках і распалубках. У тарцах бакавых нефаў вылучаны сакрысціі, якія абмяжоўваюць прастору прамавугольнай апсіды. Над скляпеністым, з шыро-

кімі аркамі нартэксам на шырыню залы створана галерэя хораў.

Побач з касцёлам асобна размешчана **б р а м а - з в а н і ц а** (раней была аб'яднана з ім агароджай). Масіўная 3-пралётная аркада з фігурнымі контрфорсамі па баках, дэкарыравана прысценным 4-калонным порцікам дарычнага ордэра. У арках брамы навешаны 3 бронзавыя званы.

[1] Biuletyń Historii Sztuki. 1980. № 2.

## г.п. Варапаева,
Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл святога архангела Міхаіла

Пабудаваны ў 1991—96 гг. з цэглы намаганнямі мосарскага ксяндза прэлата Ю.Булко на месцы папярэдняга драўлянага храма 1930-х гг.

Твор архітэктуры постнеагатычнага стылю. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад пакатым 2-схільным дахам. Па цэнтры фасада далучана 2-ярусная 4-гранная шатровая вежа-званіца, трохвугольны франтон крапаваны стральчатай аркатурай. Фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з трохвугольнымі сандрыкамі. Уваход накрыты 2-схільным казырком на кранштэйнах.

## в. Варганы,
Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

Узведзена ў 1996 г. з бутавага каменю і бетону.

Твор народнага дойлідства. На вымураванай пляцоўцы пастаўлены стэла крывалінейнага контуру з абразом Ісуса, скульптуры Хрыста і Маці Божай на пастаментах, высокі вуглавы крыж.

## в. Варняны,
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога мучаніка Юрыя

У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудаваны ў 1760(67)—69 гг. з цэглы на месцы ранейшага храма паводле праекта архітэктара А.Касакоўскага па фундацыі 1760 г. уладальніка мястэчка і палацава-паркавага ансамбля Ю.Абрамовіча; будаўніцтва завяршала яго жонка Марцыяна (з Дорыя-Дзерналовічаў)[1]. Кансекраваны віленскім біскупам Т.Зяновічам. Касцёл дабудоўваўся ў 1880 і 1909 гг. Да пачатку 1980-х гг. быў у занядбаным стане. Рэстаўрыраваны, асвячоны 11.4.1990 г.

З касцёлам звязана першае ўпамінанне мястэчка Варняны, калі ўладальніца маёнтка М.Сангайлава ў 1462 г. ахвяравала грошы на будаўніцтва драўляна-



Капліца ў в. Варганы.

га касцёла Божага Цела і плябаніі[1]. У 16 ст. уладальнік Варнян ваявода мінскі і смаленскі Я.Абрамовіч забраў храм пад кальвінскі збор. Наступны уладальнік вёскі староста старадубскі С.Абрамовіч, які перайшоў у каталіцтва, у 1654 г. кальвінскі збор закрыў. З 1743 г. да 1842 г. пры касцёле служылі манахі-рахіты.

Як архітэктурная дамінанта касцёл завяршаў рэгулярны горадабудаўнічы ансамбль, арганізаваны вакол выцягнутай прамавугольнай плошчы[4]. Дом



Касцёл святога мучаніка Юрыя ў в. Варняны.



Франтон касцёла святога мучаніка Юрыя ў в. Варняны.



Капліца святога мучаніка Юрыя ў в. Варона.

аптэкара і плябанія (1770) утвараюць перад касцёлам раскрыты на плошчу курданёр. Першапачаткова храм і пастаўленыя да яго вуглом бакавыя 2-павярховыя плябаніі акаймоўвала аздобленая скульптурнымі кампазіцыямі мураваная агароджа з брамай. Насупраць храма, на заходнім баку плошчы, быў палацава-паркавы комплекс Абрамовічаў, ад якога захаваўся парк і павільён-вежа (палац згарэў напярэдадні 1-й сусветнай вайны). Паўднёвы і паўночны бакі плошчы фарміравалі 2 рады жылой забудовы, у якую ўваходзілі карчма і гандлёвыя рады.

Касцёл — помнік манументальнай архітэктуры позняга барока і ракако. Дынамічная вертыкальная кампазіцыя ствараецца выцягнутымі прапорцыямі 2 вежаў з фігурнымі ківорыямі, 2-ярусным шчытом паміж імі і высокімі арачнымі праёмамі і нішамі. Гарызантальная расшыўка цокальнай часткі падкрэслівае вертыкальны рух увагнута-пукатай фасаднай плоскасці. ЯрУснасць падкрэслена развітымі тонкапрафіляванымі і крапаванымі карнізнымі паясамі, архітэктурную пластыку ствараюць прафіляваныя цягі, ліштвы, вязкі пілястраў, раскрапоўкі, фігурныя завяршэнні вежаў і франтона. Уваход арганізаваны праз нізкую прамавугольную ў плане крухту, тымпан трохвугольнага франтона якой запоўнены ляпной барэльефнай кампазіцыяй «Святая Сям'я». Бакавыя фасады стрымана аздоблены падвойнымі пілястрамі ў прасценках арачных аконных праёмаў.

Адзіны працяглы неф храма перакрыты ўзнятым на падпружныя аркі цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Па баках прэсбітэрыя размешчаны нізкія сакрысціі. Вінтавая лесвіца пры ўваходзе вядзе на хоры з хвалістым парапетам. Інтэр'ер упрыгожваюць 3 барочныя алтары і амбон. Алтары храма ўпрыгожвалі абразы мастака С.Чаховіча і яго вучняў. Устаноўлена металічная мемарыяльная дошка ў гонар фундатаркі храма М.Абрамовіч (пам. 1805)[3].

[1] Biuletyń Historii Sztuki. 1980. № 2. S. 219.
[2] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 185—186.
[3] Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Kraków, 1898. T. III. S. 153.
[4] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikóm po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 314—315.

## в. Варона,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святога мучаніка Юрыя

На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 18 ст. з цэглы[1]. З'яўлялася філіяльнай капліцай пры касцёле ў в. Гервяты. Узнікненне папярэдняга невялікага мураванага храма-пахавальні ў старажытным сядзібным парку адносіцца да 17 ст. Паўзруйнавана ў 1943 г., адбудавана ў 2002 г.

Помнік архітэктуры барока. Цэласнасць прамавугольнага ў плане будынка пад высокім 2-схільным дахам парушыла нетрадыцыйная дабудова да тыльнага фасада нізкай квадратнай сакрысціі (канец 19 — пачатак 20 ст.). Плоскасны галоўны фасад завершаны 2-ярусным атыкам, крапаваным лапаткамі і прафіляванымі карнізамі, і фігурным франтонам з вежачкай, сцяна (таўшчыня 1 м) прарэзана нізкім лучковым праёмам увахода. Бакавыя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і слаёнымі пілястрамі ў прасценках.

У інтэр'еры фрэскавая размалёўка: на бакавых сценах выявы апосталаў, на алтарнай з нішай — выява перспектыўнага алтара з каланадай іанічнага ордэра, антаблементам і конхай, на столі — іміта-



Капліца ў в. Варонча.

цыя купала. Драўляная агароджа хораў размалявана кесонамі з разеткамі.

[1] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikóm po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 114.

## в. Варонча,
Карэліцкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным над трохвугольным франтонам шатровай вежачкай з крыжом. Адкрыты зруб на бакавых фасадах прарублены прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах.

### Касцёл святой Ганны

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1773 (1781) г. апошнім навагрудскім ваяводам І.Несялоўскім (пахаваны ў крыпце касцёла ў 1816) пры сядзібна-паркавым комплексе[1]. Асвячоны ў 1781 г. віленскім біскупам І.Масальскім; на 1912 г. налічваў каля 3 тыс. парафіян[2]. Будаўніцтва касцёла звязана з езуіцкай місіяй, якая існавала тут у 1749—1773 гг. Меў прыпісныя капліцы ў в. Тугановічы, Сервачы і Козлы. Перабудаваны ў 1809 г. Пацярпеў ад пажару 1943 г. Пры касцёле стаяла 2-павярховая плябанія (не захавалася). У касцёле быў хрышчоны беларуска-польскі паэт Ян Чачот[3]. Рэстаўрыраваны ў 1990-я гг.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны мураванай 3-нефавай 2-вежавай базілікай. У сілуэце храма дамінуюць дзве 3-ярусныя 4-гранныя купальныя вежы з паўцыркульнымі праёмамі і трохвугольным франтонам між імі. Галоўны фасад вылучаны прысценным 6-калонным дарычным порцікам з антаблементам, аздоблены рустам, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, бакавыя фасады — стральчатымі (уплыў рэтраспектыўнай готыкі), бакавыя паўкруглыя капліцкі — лучковымі і круглымі.

У інтэр'еры часткова збераглiся цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, што перакрываюць 3 нефы, у алтарнай частцы — насценная размалёўка ў выглядзе архітэктурных куліс.

[1] Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Mińskiej. Warszawa, 1919. S. 28; Ziemia. 1910. № 2. S. 24.
[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T.I.S. 330—331.
[3] Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 108.



Касцёл святой Ганны ў в. Варонча.



Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Васілішкі.





## в. Васілішкі,
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога Яна Хрысціцеля

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1769 г. з цэглы пры кляштары базыльян (не захаваўся). У 1832 г. пераабсталяваны пад царкву (над вежамі і дахам узведзены цыбулепадобныя купалы). З 1919 г. касцёл дзейнічаў, рэканструяваны ў 1922—28 гг., пазней зачынены. У 1980-я гг. зноў перададзены вернікам. Касцёл абкружае бутавая агароджа з 3-арачнай брамай пластычнай архітэктурнай формы. У




Помнік папе Яну Паўлу II каля касцёла святога Яна Хрысціцеля ў в. Васілішкі.



Капліца ў г. Ваўкавыск.

2005 г. на тэрыторыі касцёла пастаўлены скульптурны помнік папе Яну Паўлу II.

Першы драўляны касцёл пабудаваны ў 1489 г. паводле загада вялікага князя літоўскага і караля Казіміра Ягелончыка. У 1658 г. лідскі земскі суддзя Марцін (Дамінік) Лімант заснаваў новы касцёл і кляштар дамініканцаў (па іншых звестках — базыльян). Фундатар вылучыў кляштару сродкі на будаўніцтва, запісаў за ім маёнтак Шкордзь. У 1662 г. манахі атрымалі ад Кацярыны Францкевіч 10 тыс. злотых.

Помнік архітэктуры позняга барока. Трохнефавы аб'ём, завершаны паўкруглай апсідай з бакавой сакрысціяй. Маляўнічы сілуэт галоўнага фасада манументальнага храма фарміруюць дзве 3-ярусныя вежы (верхнія ярусы з фігурнымі ківорыямі знішчаны ў 1832). Скульптурную пластычнасць стварае насычаная архітэктурная крапоўка фасаднай плоскасці: слаістыя лапаткі, плаўна выгнутыя цягі і карнізы, прамавугольныя панэлі і лучковыя нішы; пукатыя паверхні чаргуюцца з увагнутымі, паярусна вылучаны складанапрафіляванымі карнізнымі паясамі, вуглы скруглены і раскрапаваны вытанчанымі пілястрамі іанічнага ордэра. Архітэктура бакавых фасадаў стрыманая: рытміку ствараюць лучковыя аконныя праёмы і лапаткі ў прасценках, аб'яднаныя карнізам вытанчанага профілю.

Страта скляпеністага перакрыцця нефаў і замена іх простай драўлянай столлю парушыла архітэктанічную цэласнасць барочнага інтэр'ера храма. Але ён захаваў магутны рытм 6 міжнефавых слупоў з пристаўленымі да іх стукавымі кулісными алтарамі. Малітоўная зала магутным арачным прасветам раскрываецца ў апсіду-конху, у глыбіні якой галоўны 2-ярусны алтар, вырашаны ў барочным стылі ў выглядзе карынфскай каланады, якая нясе крапаваны карніз і фігурны шчыт з круглай люкарнай па цэнтры, валютамі, ракайлямі, дэкаратыўнымі вазамі, пуццi, мудрагелістымі сцляценнямі S-падобных завіткоў. Па цэнтры галоўнага алтара — абраз «Хрышчэнне» пачатку 20 ст., у завяршэнні — стукавы картуш, афармлены валютамі і фігуркамі 2 анёлаў. Ансамбль 7 алтароў (галоўны, 2 бакавыя і 4 кулісныя), выкананых у стылі ракако ў тэхніцы стука пад ружовы і блакітны мармур з пазалотай ляпнога дэкору, надае інтэр'еру каларыстычную насычанасць. Пластычна-хвалісты абрыс маюць хоры, узнятыя над нартэксам і адкрытыя шырокім арачным прасветам; злучаны з залай лесвіцай у тоўшчы сцяны.

# г. Ваўкавыск

Гродзенскай вобласці

## Капліца

На могілках, каля касцёла. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры рэтрагатычнага стылю. Вырашана 8-граннай ратондай пад шатровым дахам, завершаным 8-гранным шатровым ліхтаром з крыжом. Грані прарэзаны стральчатымі аконнымі і ўваходным праёмамі.

## Касцёл святога Вацлава

На вул. К.Маркса. Манументальны мураваны храм узведзены ў 1846—48 гг. (асвячоны ў 1850 віленскім біскупам)[1]. Перапіска губернскага маршалка дваранства з біскупам Віленскай дыяцэзіі наконт будаўніцтва парафіяльнага касцёла пачалася яшчэ ў 1836 г. Падставай для хадайніцтва з'явілася тое, што ў мястэчку папярэдні парафіяльны касцёл быў знішчаны пажарам 1827 г. і набажэнствы вяліся ў драўлянай, крытай саломай гаспадарчай па-

будове[2]. Абкружаны бутавай агароджай з металічнай рашоткай і 3-арачнай брамай. У 1929—30 гг. адбудаваны пасля пажару і зноў асвячоны архібіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім. На 1932 г. парафія налічвала 3166 прыхаджан[3].

К а с ц ё л — помнік архітэктуры позняга класіцызму з элементамі гістарызму. Імкненне дойлідаў да спрошчанасці прасторавых архітэктурных кампазіцый адчуваецца ў прамавугольнай форме храма, аб'ём якога ярусна нарастае ад бакавых да цэнтральнага нефа пад нізкім 2-схільным дахам. Над галоўным заходнім фасадам узвышаюцца дзве 4-гранныя вежы, завершаныя купалкамі на высокіх цыліндрычных барабанах. Па восі прамавугольнага ўваходнага партала над магутным антаблементам дарычнага ордэра пастаўлены маштабна невялікі фігурны атык. Фасады маюць прынцыпова адметную трактоўку: на франтальным — складаны рытм прамавугольных праёмаў, на бакавых — дакладны рытм арачных аконных праёмаў у аркатурна-пілястравым абрамленні (матыў старажытнарускага царкоўнага дойлідства).

Унутраную прастору храма 3 пары калон падзяляюць на 3 нефы пад простым бэлечным перакрыццем. У глыбіні прамавугольная апсіда, якая раскрываецца ў цэнтральны неф арачным прасветам і асветлена вітражамі 2 люкарнаў. Алтар вырашаны стукавай каланадай са ступеньчатым атыкам, якія акаймляюць вялізны алтарны абраз «Узнясенне» і скульптуры святых апосталаў Пятра і Паўла. Бакавыя алтары паводле кампазіцыйнага і дэкаратыўнага вырашэння ідэнтычныя цэнтральнаму. Архітэктурныя плоскасці інтэр'ера ўпрыгожваюць арнаментальная размалёўка ў выглядзе аканта, кесоны з разеткамі, вітражнае шкленне. Над нартэксам размешчаны хоры. Абразы 18 ст. «Нараджэнне Хрыста» і «Св. Казімір».

К а п л і ц а. За касцёлам, у яго агароджы. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы ў гонар манашкі ордэна феліцыянак Цаліны Сэхэн (2/14.4.1841—14/26.2.1888), дачкі Тадэвуша і Аляксандры (з Вячфінскіх) Сэхэн.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад пакатым 2-схільным дахам. Фасад завершаны 2-гранным шчытом з аркатурным фрызам; па цэнтры прарэзаны шырокім арачным уваходным праёмам; па баках умацаваны 2-ступеньчатымі пілонамі-контрфорсамі; завершаны крыжом (мастацкае чыгуннае ліццё). Аналагічна трактаваны тыльны фасад пабудовы.

---

[1] Tołoczko W. Wiadomość historyczna o farze wołkowyskiej // Dwutygodnik wileński. Wilno, 1914. S. 133—136, 149—153, 163—167.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 19, спр. 1276, арк. 1, 3.

[3] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936.



Касцёл святога Вацлава ў г. Ваўкавыск.



Інтэр'ер касцёла святога Вацлава ў г. Ваўкавыск.

## в. Ваўкалата,

Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці



Капліца ў в. Ваўкалата.

Званіца касцёла святога Яна Хрысціцеля ў в. Ваўкалата.



Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Ваўкалата.





Капліца Святой Сям'і ў в. Вераскава.

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1903 г. з цэглы Б.Сакалоўскім.

Помнік архітэктуры «цаглянага стылю» ў рэчышчы мадэрна. Вырашана 2-ярусная 4-гранная вежай са спічастым шатром. Першы ярус глухі, крапаваны прамавугольнымі панэлямі (у адной з граняў мемарыяльная дошка), другі — адкрыты лучковымі прасветамі і завершаны па гранях гарадковым фрызам і трохвугольнымі франтончыкамі.

## Касцёл святога Яна Хрысціцеля

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1870 г. з бутавага каменю і цэглы. Кансекраваны 12.10.1885 г. Абкружаны мураванай агароджай з 2-яруснай шатровай званіцай у левым вугле і арачнай брамай у цэнтры.

Помнік архітэктуры неабарока. Прамавугольная ў плане (40 × 20 м) 3-нефавая бязвежавая базіліка з акруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Франтальны плоскасны фасад падвойнымі пілястрамі падзелены на 3 часткі, завершаны гарызантальна выцягнутым нізкім атыкам з вуглавымі пінаклямі, на якім узведзены прамавугольны шчыт з трохвугольным франтонам і бакавымі стылізаванымі валютамі. Уваход аформлены геаметрычным парталам з трохвугольным франтонам. Бакавыя фасады рытмічна чляпёны лучковымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках, апяразаны прафіляваным карнізам і цягай, якая вылучае высокую цокальную частку будынка. На паліхромным фоне бутавай муроўкі кантрастна вылучаюцца атынкаваныя і пабеленыя элементы архітэктурнага дэкору.

Падзел залы на 3 нефы адзначаны перападам вышыні плоскай бэлечнай столі, якую падтрымліваюць 4 драўляныя слупы. Галоўны і 4 кулісныя драўляныя алтары таксама вырашаны ў стылі неабарока: іх кампазіцыя архітэктанічная 2-ярусная, у аснове яе 2-калонны порцік з «разарваным» лучковым франтонам і выявамі анёлаў над ім. Аналагічна трактавана афармленне аргана, пастаўленага на хорах над нартэксам.

# в. Вераскава,

Навагрудскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Святой Сям'і

За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на старажытных могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы, бутавага каменю і дрэва як родавая пахавальня ўладальнікаў маёнтка Брахоцкіх. Пасля Вялікай Айчыннай вайны паўзруйнавана, вернута парафіянам і адрэстаўрыравана ў 1980-я гг.

Помнік народнага дойлідства з рысамі стылю класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. На мураваным фасадзе выступае 4-калонны порцік з трохвугольным дашчаным франтонам. Бакавыя зрубленыя з брусу фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў разных ліштвах.

# г. Верхнядзвінск

Віцебскай вобласці

## Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры горада. Пабудаваны ў 1809 г. з цэглы, адноўлены ў 1867 г. Адзначаны на плане горада 1838 г. паміж вуліцамі Дзвінскай, Маскоўскай і Новай[1]. Абноўлены ў 1867 г. (сафіт пакрыты размалёўкай, перароблены алтары, слупы размаляваны пад мармур)[2]. Побач з касцёлам у 1860 г. была ўзведзена плябанія і «флигель... посредине сени, при них возовня, стайня и сарай под одною драничною крышею» (пры плябаніі дзейнічала вучылішча). Адпаведна «Візіце Дрысінскага касцёла» 1740 г. папярэдні «касцёл драўляны на падмурку, гонтам крыты», быў пабудаваны ў 1734 г. У 1899 г. плябанія згарэла, ксёндз Какола-Кулак пабудаваў новую плябанію іаднавіў мураваны храм. У савецкі час выкарыстоўваўся ў гаспадарчых мэтах, у 1990 г. вернуты парафіянам і рэстаўрыраваны.

Помнік архітэктуры класіцызму. Прамавугольная ў плане 3-нефавая 1-вежавая базіліка з 3-граннай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавае пакрыццё. Да тарцовай грані апсіды далучана нізкая прамавугольная сакрысція пад 2-схільным пакрыццём. Асноўная архітэктурная тэма — цыркульная арка. Яе форма выкарыстана ў складаным рытме вокнаў і праёмаў масіўнай 2-яруснай 4-граннай званіцы з шатровым пакрыццём, фасаднай дэкаратыўнай аркатуры. Прафіліроўкі і абломы абрамляюць праёмы і карніз.

Унутраная прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках. Нефы размяжоўваюцца аркадай на магутных пілонах. На левай сцяне прэсбітэрыя навешаны амбон. У інтэр'еры 3 алтары, галоўны з якіх вырашаны дарычным 4-калонным порцікам з лучковым франтонам. Уздоўж бакавых сцен размяшчаліся тэракотавыя пано-стацыі «Крыжовы шлях Хрыста». У сакрысціі мелася некалькі арнатаў са слуцкіх паясоў. У 1899 г. інтэр'ер абноўлены: распісаны пад мармур сафіт і міжнефавыя слупы.

---

[1] Сементовский А.М. Витебск и уездные города Витебской губернии. СПб., 1864. С. 94.

[2] Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 424—426.



Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Верхнядзвінск.

# в. Верхняе Чарнíхова,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры ампіру. Вырашана насыпным халмом-гротам, аформленым 4-калонным порцікамі з трохвугольным франтонам, апяразаным карнізам на буйных дэнтыкулах. Фасадная сцяна



Капліца ў в. Верхняе Чарніхова.



Капліца ў в. Верхняе Чарніхова.



Капліца ў г.п. Відзы.



Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г.п. Відзы.

прарэзана прамавугольнымі 2 аконнымі і ўваходным праёмамі. Пад капліцай перакрытая цыліндрычным скляпеннем крыпта; у бакавых сценах арачныя нішы-пахавальні ў 2 ярусы.

## Капліца

Была пастаўлена пры ўездзе ў панскую сядзібу ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана 4-граннай 2-яруснай вежай пад шатровым пакрыццём[1]. Архітэктурнай выразнасцю надзелены 2-і ярус, крапаваны нішамі-экседрамі і вуглавымі пілястрамі, апяразаны высокім антаблементам.



[1] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 62.

# г.п. Ветрына,
Полацкі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца благаслаўлёнага Юрыя Матулевіча

Капліца ў г.п. Відзы.



Учынена ў 2001—04 гг. у рэканструяваным гаспадарчым мураваным будынку.

Вырашаны шырокім прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да фасада далучаны прамавугольны 2-ярусны прытвор пад 2-схільным пакрыццём, завершаным скульптурай Мадонны. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі. Побач з храмам створаны бутавы грот-горка са скульптурай Маці Божай на вяршыні.

# г.п. Відзы,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

На паўночнай ускраіне пасёлка. Пастаўлена ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Вырашана ў канструктывісцкім геаметрызаваным стылі ў выглядзе 4-слуповай шатровай навісі на квадратным п'едэстале. Пад сенню збудавання пастаўлена скульптура Хрыста.

## Капліца

На захад ад вёскі, каля дарогі на Відзы-Лаўчынскія. Пабудавана ў 1861 г. з цэглы і бутавага каменю. У паўзруйнаваным стане.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам з 4-граннай пад пірамідальным завяршэннем вежай.

## Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 1909—14 гг. з чырвонай цэглы паводле праекта архітэктара В.Міхневіча (альтэрнатыўны праект распрацаваў Л.Вітан-Дубейкаўскі). Свой уклад у будаўніцтва храма зрабіла памешчыца з Наўлян Мітаслаўская. Касцёл пашкоджаны ў 1915 г. ў выніку прыфрантавых ваенных дзеянняў 1-й сусветнай вайны. У 1920-я гг. адноўлены. З 1936 г. закрыты (прыстасаваны пад клуб). У Вялікую Айчынную вайну (16.1.1943) спалены фашыстамі разам з вёскай (загінуў і ксёндз, які адмовіўся яго пакінуць)[1]. Пазней адноўлены. У 1948 г. закрыты (выкарыстоўваўся пад склад, спартыўную залу, майстэрні, стралковы цір). У 1989 г. касцёл перададзены вернікам.

Першы касцёл заснаваны ў 1481 г., замест яго ў 1498 г. віленскі біскуп Войцех Табор узвёў новы храм для манахаў-бернардзінцаў і парафіяльную

школу пры ім. В 1754—1773 гг. тут дзейнічала езуіцкая місія.

Касцёл — адзін з найбольш выразных твораў архітэктуры неаготыкі. Аб'ёмы кананічнай 3-нефавай 2-вежавай базілікі з 5-граннай апсідай, 2-павярховымі сакрысціямі і трансептам згрупаваны ў дынамічна нарастаючую архітэктурную кампазіцыю (узмоцнена размяшчэннем храма на вышэйшай кропцы рэльефа мясцовасці). Прынцыпы гатычнага дойлідства з яго дынамікай, складанымі рытмамі, падпарадкаваннем адзінай вертыкальнай накіраванасці, кантрастнымі прапарцыянальнымі суадносінамі ў поўнай меры ўвасобіліся ў архітэктуры касцёла. Дынаміка, магутны рух галоўнага фасада падхоплены бакавымі фасадамі, расчлянёнымі ступеньчатымі контрфорсамі і прарэзанымі стральчатымі аконнымі праёмамі (раней былі запоўнены каляровымі вітражамі). Зграбныя, лёгкія вежы (вышыня 59 м) завершаны спічастымі шпілямі і аб'яднаны ступеньчата-зубчастым шчытом. Гэты архітэктурны элемент выкарыстаны ў завяршэннях трансепта, вылучэнні ярусаў вежаў. Галоўны ўваход вырашаны перспектыўным парталам з вімпергам і вялікім акном-ружай над ім. Эстэтычнае ўражанне ўзмацняецца насычаным чырвоным колерам высакаякаснай адкрытай муроўкі будынка.

У інтэр'еры калоны і пілястры складанага профілю пераходзяць у высокія спічастыя аркі скляпенняў, што надае яму, як і фасаду, вертыкальную дынамічнасць.



Партал касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г.п. Відзы.

[1] Карнялюк К. Ягоныя вежы відаць здалёк // Культура. 1999. № 6. С. 4.

# в. Вікшняны,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў 20 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадным франтоне крыжом. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарублены прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі.



Капліца ў в. Вікшняны.

# в. Вілейка,

Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл візітак

На каталіцкіх могілках фальварка Гарадзішча (зараз у межах горада). Пабудаваны ў 18 ст. Пацамі з дрэва як уніяцкі. Апекаваўся манашкамі візіткамі з Вільні, якія мелі тут свой кляштар. У 1839 г. прыстасаваны пад праваслаўную царкву. У паўзруйнаваным стане.



Касцёл візітак у в. Вілейка.



Твор архітэктуры барока. Вырашаны прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе трохвугольным франтонам і фланкіраваным 4-граннымі шатровымі вежамі. З тыльнага боку далучана 5-гранная апсіда з нізкімі бакавымі сакрысціямі. Бакавыя вертыкальна ашаляваныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## г. Вілейка
Мінскай вобласці



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г. Вілейка.

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

На цэнтральнай плошчы. Пабудаваны ў 1906—13 гг. з цэглы паводле праекта архітэктара-інжынера А.Клейна на пляцы, які належаў мясцоваму памешчыку А.Любанскаму. Адрэстаўрыраваны ў 1922—28 гг. пасля разбурэнняў 1-й сусветнай вайны. Пасля 2-й сусветнай вайны набажэнствы не адбываліся і храм быў прыстасаваны пад склад. Пасля рэстаўрацыі 1988—89 гг. (архітэктар Л.Паўлава) прыстасаваны пад Дом мастацтваў імя Н.Ю.Сілівановіча. У 1990 г. перададзены вернікам. У 2005 г. над шатром званіцы на вышыні звыш 50 м усталяваны крыж. Храму папярэднічала невялікая драўляная капліца, якая знаходзілася «ў палацы старасцянскім» з 16 ст. (згарэла ў 1810).

Архітэктура храма спалучае кампазіцыйныя прынцыпы і дэкаратыўныя формы раманскага і гатычнага стыляў. Авангардная трактоўка кананічнай 3-нефавай базілікі з развітым трансептам увасобілася ў асіметрычнай пастаноўцы вышыннай 4-граннай вежы з боку галоўнага фасада. Яе спічасты шпіль з'яўляецца акцэнтам яруснага нарастання аб'ёмаў ад нізкіх сакрысцій і 5-граннай апсіды да «карабля» нефаў. Спічасты сілуэт храма фарміруюць 2-гранныя шчыпцы над тарцовымі фасадамі аб'ёмаў, вуглавыя зграбныя фіялы, ступеньчатыя контрфорсы. Плоскасныя сцены расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі. Архітэктурныя абломы перспектыўнага ўваходнага партала, вімперга над ім, ліштваў раманскіх вокнаў-біфорыумаў і гатычных стральчатых праёмаў высокатэхнічна выкананы з фігурнай лякальнай цэглы. Цёплую каларыстычную палітру збудаванню надаюць вохрысты колер адкрытай жоўтай цаглянай муроўкі, чырвоная дахоўка, белая тынкоўка аркатурных ніш. Магутны цокаль выкладзены абчасанымі вапнавымі блокамі.

Унутраная прастора падзелена 2 магутнымі пілонамі і перакінутымі праз іх аркамі на 3 нефы пад крыжовымі скляпенчатымі перакрыццямі; над нартэксам у цэнтральны неф 3-пралётнай аркадай адкрыты хоры. Інтэр'ер упрыгожаны арабескавай арнаментальнай размалёўкай, аконныя праёмы запоўнены сюжэтным вітражным зашкленнем. У апсідзе і тарцах бакавых нефаў драўляныя алтары ў стылі неарэнесансу.

## в. Вістычы
Брэсцкага раёна

### Капліца Маці Божай

На ўсходняй ускраіне вёскі, непадалёку ад касцёла. Пабудавана ў 18 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана калонай, узведзенай на высокі 4-гранны пастамент. Калона накрыта шатровым дашкам, завершаным скульптурай Маці Божай (існавала да Вялікай Айчыннай вайны). Ніжні ярус крапаваны лучковымі нішамі, у франтальнай мемарыяльная дошка з надпісам «Калона Божай Маці. Пастаўлена ў XVIII ст. Сімвал гонару і магутнасці заможных уласнікаў гэтых мясцін. Мае гістарычную, архітэктурную і мастацкую каштоўнасць. Ахоўваецца дзяржавай».

### Касцёл і кляштар цыстэрцыянцаў

На ўсходняй ускраіне вёскі. Касцёл пабудаваны ў 1678 г. з цэглы па фундацыі ўладальніка маёнтка Ю.В.Тышкевіча і князёў Чартарыйскіх для айцоўцыстэрцыянцаў, якія аселі тут у 1670 г.[1] З дазволу імператара Паўла І быў перададзены айцам-трапістам. У 1832 г. кляштар скасаваны. У 1864 г. касцёл капітальна адрамантаваны і ў 1866 г. пераасвячоны ў Крыжаўздзвіжанскую царкву, якая дзейнічала да Вялікай Айчыннай вайны. Перад храмам у 1860-я гг. пастаўлена драўляная 2-ярусная чацверыковая званіца пад пакатым 4-схільным шатром з макаўкай; убаку — паўразбураная каплічка. Захаваўся фрагмент мураванай, крапаванай лучковымі нішамі агароджы. Свае ўспаміны аб касцёле і кляш-

тары пачатку 19 ст. пакінуў польскі пісьменнік Ю.У.Нямцэвіч: «На ўсе святы ездзілі ў Вістычы... абацтва было вялізным і спрыяльным, настаяцель жыў прыстойна, ксяндзы цыстэрцыянцы таксама; мелі яны штодзённую чарку мёду на абед, у нядзелю і свята бакальчык віна, што называлася «на ўцеху». Ва ўсіх смутках і нягодах са шчырай верай звярталіся да Маці Божай Вістыцкай»[2]. Помнік архітэктуры барока. Вырашаны паводле канона 3-нефавай бязвежавай базілікі з паўцыркульнай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Пануючая роля сярэдняга нефа, нерасчлянёная прастора якога з'яўляецца кампазіцыйнай асновай будынка, дакладна выяўлена ў плане, складаючы з апсідай адно цэлае. Бакавыя нефы значна вузейшыя і карацейшыя за сярэдні. Па абодва бакі ад сярэдняга нефа размешчаны 4 прыдзелы: 2 з іх, далучаныя да апсіды, знаходзяцца ў бакавых нефах, а 2, што выходзяць на галоўны фасад, выступаюць з асноўнага аб'ёму амаль на 3 м. Нартэкс выходзіць за габарыты галоўнага фасада і стварае яго шырокую плоскасць, над якой узвышаецца прамавугольны шчыт з трохвугольным франтонам. Сіметрычны бязвежавы фасад падзелены развітым антаблементам на ніжнюю частку і франтон з валютамі. Вось сіметрыі вылучана ўваходным арачным парталам і акном над ім, нішай і люкарнай у тымпане франтона. У дэкаратыўным аздабленні фасада выкарыстаны падвойныя паўкалоны, прафіляваныя цягі, плоскія нішы разнастайных форм. Бакавыя фасады апрацаваны падвойнымі пілястрамі, вокны апяразаны паўцыркульнымі архівольтамі. Сцены асноўнага аб'ёму расчлянёны рэдка расстаўленымі вокнамі і плаўна пераходзіць у глухую сцяну магутнай апсіды. У цэнтры яе 2-га яруса знаходзіцца амбразура закладзенага акна. Сцены бакавых нефаў расчлянёны парнымі пілястрамі, паміж якімі высока ўзнятыя вялікія паўкруглыя люкарны. Увядзенне пілястраў узбагачае пластыку бакавых фасадаў, надае ім больш дробны маштаб, падкрэсліваючы іх падпарадкаваную ролю. Кампазіцыя галоўнага фасада, расчлянёнага антаблементам на 2 ярусы, адносіцца да распаўсюджанай у эпоху барока схемы рымскай царквы Іль Джэзу. Рытмічны строй пілястраў і паўкалон, нарастаючы да цэнтра, падкрэслівае асноўную кампазіцыйную вось, якая акцэнтавана арачным парталам, аконнай нішай 2-га яруса з лучковым сандрыкам і авальнай люкарнай на франтоне. Магутныя паўкалоны тасканскага ордэра пастаўлены папарна па баках партала і падаўжаюцца больш зграбнымі паўкалонамі верхняга яруса. Дынамічнасць пірамідальнай кампазіцыі, ступеньчатасць яе пабудовы, пластычная апрацоўка сцяны, цякучыя формы крывалінейных завяршэнняў, што згладжвае пераходы ярусаў, сведчаць аб барочным характары архітэктуры храма. Пры наяўнасці знешніх прыкмет італьянскага барока помнік захоўвае манументальнасць і прастату, што ўласціва беларускаму дойлідству 16—17 ст.



Капліца Маці Божай у в. Вістычы.

У інтэр'еры цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі. Манументальныя аркады на масіўных пілонах, што ўспрымаюць нагрузку сцен сярэдняга нефа і аддзяляюць яго ад бакавых, завершаны антаблементам, які акаймоўвае па перыметры ўвесь неф і падзяляе яго на 2 ярусы. Вертыкальныя члянenні вылучаны падвойнымі пілястрамі, што крапуюць сцены і пілоны і служаць апорай магутным падпружным аркам скляпення. У яго люнетах размешчаны лучковыя аконныя праёмы, дзякуючы гэтаму высока ўзнятыя скляпенні здаюцца лёгкімі і паветранымі. Дэкаратыўнае ўбранне інтэр'ера дапаўняецца архівольтамі арак і простымі філёнгамі на пілонах і арках. Над галоўным уваходам на магутнай пакатай арцы размешчаны хоры, на якія вядзе вітая лесвіца ў тоўшчы сцяны. Абраз у абкладзе 1891 г. «Св. Параскева Пятніца».

---

[1] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 71.

[2] Niemcewicz J.U. Pamiętniki czasów moich. Tarnów, 1880. S. 5.



Касцёл і кляштар цыстэрцыянцаў у в. Вістычы.



Касцёл святой Барбары і святога Юзафа ў г. Віцебск.

## г. Віцебск

### Касцёл святой Барбары і святога Юзафа

На вул. Ленінградскай. Пабудаваны ў 1783—85 гг. (фундатар Антон Косаў) з цэглы на старажытных каталіцкіх могілках, грунтоўна перабудаваны ў 1884—85 гг. (інжынер-архітэктар В.І.Піятроўскі). Побач з храмам у 1800 г. ўзведзены мураваная капліца і драўляная плябанія (не захаваліся); знаходзілася магіла вядомага каталіцкага падзвіжніка ксяндза Мотуса, намаганнямі якога быў узведзены храм. Агароджаны цаглянай сцяной з арачнай брамай (1880-я гг.). У 1913 г. парафія налічвала 3900 вернікаў[1]. У 1922 г. касцёл закрыты, канфіскаваны



Капліца пры касцёле святой Барбары і святога Юзафа ў г. Віцебск.



касцельныя каштоўнасці. Часткова зруйнаваны ў Вялікую Айчынную вайну. Адрэстаўрыраваны ў 1990—93 гг. У студзені 1995 г. адноўлены храм наведаў і здзейсніў імшу пасол Ватыкана ў Рэспубліке Беларусь папскі нунцый архібіскуп Агасціна Маркет.

Помнік архітэктуры барока і неараманскага стылю. Храм — традыцыйная 3-нефавая 2-вежавая базіліка з паўкруглай апсідай і бакавымі прамавугольнымі сакрысціямі. Фасад фланкіраваны 3-ярусным шатровымі пластычна насычанымі вежамі, апраразанымі ў аснаванні спічастымі франтончыкамі. Верхні 8-гранны вертыкальна выцягнутых прапорцый ярус-звон вежаў адкрыты высокімі арачнымі прасветамі, сярэдні — арачнымі праёмамі-трыфорыумамі, ніжні крапаваны высокімі арачнымі экседрамі. У цэнтры фасад вылучаны 2-пілонным парталам-рызалітам арачнага ўвахода, над якім трайная аконная аркатура хораў; у завяршэнні 2-гранны шматступеньчаты шчыпец. Такая аскетычная трактоўка франтальнага фасада з панаваннем глухой цаглянай плоскасці надае храму характар унутранай замкнёнасці, сярэдневяковай архаічнасці. Чырвона-ружовыя сцены будынка апраразаны зубчастымі фрызамі і карнізамі на дэнтыкулах. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны на 1-м ярусе арачнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках, на другім — вокнамі-трыфорыумамі.

У адрозненне ад «архаічнай» архітэктуры храма трактоўка яго інтэр'ера выканана ў стылі барока. Яго прастора размежавана на нефы магутнымі аркадамі на 4-гранных пілонах, перакрыта кыжовымі скляпеннямі на падвойных падпружных арках, апсіда — конхай. Атынкаваныя і пабеленыя сцены крапаваны пілястрамі, апраразаны насычана прафіляваным карнізам. У тоўшчы сцен нартэкса бакавыя вітыя лесвіцы, якія вядуць на антрэсоль хораў (узнята на трайную аркаду) і да званоў вежаў. На паўкружжы апсіды рэльефны алтар вытанчанай неабарочнай трактоўкі, завершаны скульптурай «Укрыжаванне». Першапачаткова ў апсідзе быў размешчаны драўляны разны 2-ярусны алтар рамана-гатычнай стылёвай трактоўкі з абразамі «Маці Божая» ў абкладзе і «Св. Барбара» па цэнтры. У рэтрагатычным стылі былі вырашаны 4 кулісныя алтары (Найсвяцейшай Дзевы Марыі, св. Антонія, Маці Божай Шкаплернай, св. Юзафа)[1] і алтар у капліцы. Навешаны на левую сцяну прэсбітэрыя амбон меў неабарочную мастацкую трактоўку. Паводле інвентара 1922 г. ўздоўж бакавых сцен былі развешаны 14 стацый «Крыжовага шляху», на хорах меўся 10-галосы арган.

Побач з касцёлам у канцы 20 ст. пастаўлена мураваная к а п л і ц а з рысамі постмадэрнізму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным тарцовым фігурным шчытом з 4-граннымі пінаклямі і арачнай нішай у тымпане. Бакавыя плоскасныя фасады рыт-

мічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі, апяразаны прафіляваным карнізам. З тыльнага боку далучана 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца прысадзістых прапорцый; верхні ярус-звон адкрыты шырокімі арачнымі аконнымі праёмамі.

Капліца. За агароджай касцёла. Пабудавана ў пачатку 21 ст. з цэглы з выкарыстаннем форм барока. Кампактная прамавугольная ў плане пабудова пад 2-схільным дахам, тарцы якога закрыты фігурнымі ўвагнута-пукатымі франтонамі. З тыльнага боку выступае партатыўная 3-гранная апсідка пад паўшатровым чарапічным пакрыццём. Плоскасныя фасады прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі з вітражным ашкленнем.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 370—371.

## в. Вішнева,
Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы як пахавальня Ганны Бракоўскай (з Савіцкіх, 1822—44).

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. На франтальным фасадзе чыгунная мемарыяльная дошка, у трохвугольным франтоне чыгунная пліта з выявамі гербаў абодвух родаў.

### Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

На заходняй ускраіне вёскі, на высокім пагорку левага берага р. Альшанка. Пабудаваны ў 1637—41 гг. з цэглы навагрудскім ваяводам Ю.Л.Храптовічам (пахаваны ў крыпце правай капліцы) на месцы драўлянага храма, заснаванага ў 1424 г. вялікім князем літоўскім Вітаўтам (па іншых звестках — віленскім кашталянам П.Гедгудам). Асвячоны ў 1675 г. біскупам М.Слупскім[1]. У 1771 г. пасля пажару на сродкі А.Храптовіча прыбудаваны бакавыя капліцы і рэканструяваны інтэр'ер у барочна-ракайльным стылі. У 1906 г. да галоўнага фасада прыбудаваны вузкі нартэкс з бакавымі вежамі. З 1953 г. ксёндз У.Чарняўскі вёў набажэнствы на беларускай мове, ажыццявіў на ёй пераклад Біблії[2].

Помнік архітэктуры барока. Аднанефавы 2-вежавы будынак з паўкруглай апсідай і нізкімі бакавымі сакрысціямі. У 1771 г. дабудаваны бакавыя квадратныя ў плане капліцы, што надало храму форму лацінскага крыжа. Сілуэт галоўнага фасада фарміруюць 4-гранныя вежы з нізкімі купалкамі і фігурны шчыт паміж імі. Скульптурнасць архітэктурнай кампазіцыі ўзмацняецца складаным спалучэннем 1- і 2-схільнага дахаў, вальмавага і конуснага пакрыцця, яруснае нарастанне якіх завершана невялікай сігнатуркай над алтарнай часткай. Мяккую пластыку плоскасным фасадам надаюць тонкапрафіляваныя, хвалістыя над уваходам карнізы, лапаткі і невялікія контрфорсы, высокія арачныя і лучковыя аконныя праёмы.



Капліца ў в. Вішнева Валожынскага раёна.

Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Вішнева Валожынскага раёна.





Алтар касцёла Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Вішнева Валожынскага раёна.



Капліца пры касцёле Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Вішнева Валожынскага раёна.

Неф і сакрысціі перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з люнетамі і падпружнымі аркамі, паўночная капліца — сферычным купалам на ветразях, паўднёвая з драўлянай скульптурнай кампазіцыяй «Укрыжаванне» — плоскім плафонам, апсіда — зоркавай конхай з люнетамі 2 бакавых лучковых аконных праёмаў. Скляпенні аздоблены ляпным дэкорам 17 ст. ў выглядзе павуціны нервюрных спляценняў рэнесанснага малюнку. Сцены нефа крапаваны арачнымі нішамі, слаістымі пілястрамі, магутнымі пілонамі, якія нясуць нагрузку і распор падпружных арак. Нартэкс адкрываецца ў неф шырокай эліптычнай аркай, фланкіраванай 2 нізкімі арачнымі ўваходнымі праёмамі. Апсіда вылучана жалезнай агароджай (мастацкая коўка). У 2 бакавых лучковых нішах нефа пастаўлены спавядальні.

У тэхніцы вохрыстай грызайлі выканана арнаментальная размалёўка скляпенняў, падпружных арак і сцен (мастак Ф.Рушчыц). Галоўны драўляны алтар сярэдзіны 18 ст. ў барочна-ракайльных формах: 2-ярусны, на фігурным пастаменце, дэкарыраваным лісцем аканта, накладнымі разнымі ракайлямі. Першы ярус вырашаны 2 парамі размешчаных уступам канелюраваных слупоў, што нясуць крывалінейны шматпрафіляваны і крапаваны антаблемент, у завяршэнні якога — ракайльны картуш. Другі ярус — шчыт з загнутымі ў валюты гранямі і разной кампазіцыяй «Глорыя» ў цэнтры. Алтар дэкарыраваны драўлянымі скульптурамі евангелістаў, анёлаў, вазамі, S-падобнымі завіткамі. Аналагічна трактаваны 2 бакавыя алтары прэсбітэрыя з гіпсавымі скульптурамі Дзевы Марыі (злева) і Хрыста (справа). У тэхніцы фрэскі выкананы ілюзорны алтар паўночнай капліцы з сюжэтнай фрэскай-карцінай у цэнтры. У фігурных ракайльных абрамленнях сюжэтныя фрэскі на люнетах цыліндрычнага скляпення апсіды. У верхняй частцы сцен нефа таксама размешчаны 3 фрэскавыя карціны на сюжэты «Уваскрэсенне Лазара», «Пакаянне Марыі Магдалены», «Прыход сына да бацькі». Чацвёртае насценнае прасла мае квадратную мемарыяльную мармуровую пліту з фундушавым надпісам на лацінскай мове. Уздоўж сцен нефа і нартэкса размешчаны 14 стацый «Крыжовага шляху Хрыста» ў выглядзе разных дубовых пано (майстра-рэзчык з Польшчы У.Мастоўскі, 1992). Драўляныя амбон (навешаны на 1-м ад алтара левым насценным пілоне) і 2 лавы для духавенства (сталы) па баках прэсбітэрыя выкананы ў стылі маньерызму з накладной арнаментальнай і гербавай (Храптовічаў) разьбой. На хорах, што трымаюцца на 2 фігурных кранштэйнах і 3-пралётнай аркадзе і акаймаваны металічнай фігурнай агароджай, устаноўлены арган віленскай фірмы Ф.Астрамецкага 1907 г., які запаўняе высокую арку, і фісгармонія кампаніі Братлейбора з ЗША таго ж часу.

З усходняга боку сярод бутавай агароджы размешчана пабудаваная ў 2-й палавіне 19 ст. мурававая б р а м а — з в а н і ц а, вырашаная шырокім арачным праездам, завершаным 3-арачным ярусам-звонам. Завяршае браму-званіцу кампазіцыя з 3 франтончыкаў.

К а п л і ц а. Пабудавана ў канцы 20 ст. з бутавага каменю.

Твор народнага дойлідства. Вырашана вертыкальнай стэлай з акруглым верхам. Франтальная грань раскрыта нішай-эседрай з 2-створкавымі ашклёнымі дзвярыма, за якімі гіпсавая скульптура Маці Божай.



Капліца ў в. Вішнева Смаргонскага раёна.



---

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis wilnensis. Vilnae, 1936. S. 114; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikóm po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939.

[2] Чарняўскі У. Ліст Сьвятара. Лёндан, 1988.

# в. Вішнева,

Смаргонскі раён

Гродзенскай вобласці

## Капліца

За 1 км на поўнач ад вёскі, каля паварота на в. Чырвонаазерская. Пабудавана ў 2-й палавіне 18 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры позняга барока. Вырашана 4-граннай, узнятай на кубападобны п'едэстал вежай, завершанай цыліндрычным барабанам. Грані прарэзаны зграбнымі арачнымі праёмамі, крапаваны вуглавымі пілястрамі.

## Капліца

На цэнтральнай вуліцы вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 2-ярусная 4-граннай вежай пад шатровым пакрыццём, завершаным каваным крыжам. Грані ніжняга высокага яруса прарэзаны арачнымі ашклёнымі нішамі для сакральнай скульптуры.

## Касцёл святога апостала Тадэвуша

У паўночнай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1811 (20) г. з цэглы. Пасля 1863 г. ператвораны ў праваслаўную царкву, а прыхаджане прымацаваны да касцёла Найсвяцейшай Троіцы ў в. Жодзішкі. Адноўлены ў 1935 г.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры класіцызму. Храм вырашаны суцэльным выцягнутым прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным бляшаным дахам. Галоўны фасад — дарычны 4-калонны порцік з трохвугольным франтонам. Плоскасныя фасады лаканічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках, арачнымі нішамі-экседрамі для скульптуры па баках увахода, апяразаны буйным антаблементам з трygліфным фрызам. Над алтарнай часткай ў 1866 г. надбудавана вежа з шатровым пакрыццём, завершаным галоўкай.

У інтэр'еры бакавыя сакрысціі вылучаюць алтарную частку, вышэйшую за залу, якая аддзяляецца 2 паўкалонамі дарычнага ордэра. Яна асвятляецца 3 вокнамі (у вежы) і паўцыркульнай люкарнай над 4-калонным алтаром. Пры ўваходзе на 4 калонах размешчаны хоры на шырыню залы, на якія вядзе вітая лесвіца. Па перыметры залы пад плоскай столлю на падугах праходзіць карнізны пояс на дэнтыкулах.

Асобна ад касцёла пастаўлена 2-ярусная чацверыковая в е ж а - з в а н і ц а пад шатровым дахам. Першы ярус з бутавага каменю, другі выкладзены з цэглы і атынкаваны, адмежаваны сцёкам, прарэзаны круглымі люкарнамі. Уваход афармлены класіцыстычным парталам з арачным праёмам і трохвугольным франтонам у завяршэнні.

# в. Войстам,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца



Капліца ў в. Вішнева Смаргонскага раёна.



Касцёл святога апостала Юды Тадэвуша ў в. Вішнева Смаргонскага раёна.

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з бутавага каменю.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана узнятай на пастамент 4-граннай тумбай пад пакатым шатровым верхам з крыжом у завяршэнні. Франтальная грань крапавана арачнай нішай-экседрай



Вежа-званіца касцёла святога апостала Юды Тадэвуша ў в. Вішнева.





Капліца ў в. Войстам.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Войстам.

для сакральных атрыбутаў. Франтальная грань крапавана арачнай нішай-конхай са скульптуркай Маці Божай.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У паўднёвай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1939 г. з цэглы, бутавага каменю і бетону. Звесткі пра першы касцёл адносяцца да 1440 г., у 16 ст. ён стаў кальвінскім зборам. Аднояўлены як касцёл пры заснаванні тут у 17 ст. езуіцкай місіі. Асвячоны 8.9.1939 г.

Помнік архітэктуры стылю мадэрн (неараманскі накірунак). Вырашаны прамавугольным аб'ёмам, узнятым на высокі бутавы цокаль і накрытым 2-схільным дахам з паўвальмай над фасадам і 4-граннай сігнатуркай над алтарнай часткай. Да алтарнай сцяны далучана 5-гранная апсіда з нізкімі бакавымі сакрысціямі. Уваходны праём на глухім франтальным фасадзе фланкіраваны 5-граннымі вежамі-эркерамі, рызалітамі са ступеньчатымі атыкамі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках, крапаваны ў алтарнай частцы рызалітамі трансепта, завершанымі прамавугольнымі ступеньчатымі атыкамі.

Шырокая зала (18 м) перакрыта цыліндрычным скляпеннем са складанай канструкцыяй падпружных арак і люнетаў, абапёртых на магутныя прысценныя пілоны. Апсіда, крылы трансепта і неф адкрываюцца ў планіровачнае сяродкрыжжа шырокімі арачнымі прасветамі. Прасценак нартэкса прарэзаны шырокай аркай размешчаных над ім антрэсолей хораў.

# в. Войткавічы,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Маці Божай Міласэрнай

Пабудавана ў 1994 г. з цэглы, асвячона 12.11.2002 г., асвячона 12.11.2002 г. Касцёльны пляц абкружаны бутавай агароджай.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай, завершаным на фасадзе 2-гранным шматступеньчатым франтонам са стральчатай люкарнай па цэнтры. У завяршэнні фасада драўляная 4-гранная шатровая званічка. Плоскасныя фасады прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі.

Унутры зала перакрыта драўляным корабавым скляпеннем, бакавыя сакрысціі вылучаюць прамавугольную апсіду. Сцены і скляпенні абшыты дошкамі.

# в. Волма,

Дзяржынскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як пахавальня ў сядзібна-паркавым комплексе Ваньковічаў[1]. Захавалася ў руінах.

---

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 167—168.

## Касцёл святога Яна Хрысціцеля

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 2003 г. з цэглы на месцы драўлянага касцёла 1738 г.



Капліца ў в. Волма.



Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Волма.

Архітэктура храма заснавана на сучаснай авангарднай трактоўцы форм готыкі. У прамавугольны ў плане аб'ём нефа ўрэзана высотная 3-гранная са схілам у бок даху званіца, франтальная грань якой прарэзана акном-ружай і стрэлападобным аконным праёмам над ім. З алтарнага боку званіцы адпавядае ідэнтычны рызаліт апсіды з 2-гранным эркерам і высокім акном-крыжом над ім. Уваход вылучаны высокім перспектыўным парталам з 2-граннай перамычкай, накрыты 2-слуповым ганкам пад вальмавым пакрыццём. Бакавыя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі, вылучаны 2-servicesннымі эркерамі трансепта.

## в. Волька,

Івацэвіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры мадэрна. Вырашана прысадзістым прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам (не захаваўся), які на франтальным фасадзе прыкрыты паўкруглым франтонам з лучковай нішай ў тымпане і шырынкавым фрызам у аснаванні, на тарцовым — трохвугольным франтонам з паўкруглай люкарнай. Прамавугольны ўваходны праём фланкіраваны арачнымі нішамі з броўкамі. Такімі ж нішамі рытмічна крапаваны бакавыя фасады. Алтарная сцяна прарэзана арачным аконным праёмам. Пад капліцай скляпеністае сутарэнне.

## г.п. Воранава,

Гродзенскай вобласці

### Касцёл святых апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша

На заходняй ускраіне пасёлка, каля могілак. Пабудаваны ў 2002 г. з цэглы.

Храм трактаваны ў авангардна стылізаваных формах готыкі. Працяглы, вертыкальна выцягнуты, прамавугольны ў плане пад 2-схільным дахам аб'ём, уздоўж якога цягнуцца нізкія бакавыя нефы. Франтальны плоскасны фасад завершаны 2-гранным шчытом з круглай люкарнай па цэнтры, фланкіраваны 4-граннымі высотнымі вежамі-званіцамі са спічастымі шатрамі і прамавугольнымі прасветамі ў верхнім ярусе-звоне. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі стральчатымі аконнымі праёмамі. Шырокі прамавугольны ўваходны праём ахоплены арачным парталам, фланкіраваны і завершаны арачнымі нішамі-экседрамі. Плоскасная алтарная сцяна завершана 2-гранным шчытом з круглай люкарнай і рэльефным крыжом.

## в. Восава,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці



Капліца ў в. Волька.



Касцёл святых апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша ў г.п. Воранава.

## Касцёл святога мучаніка Юрыя

У цэнтры вёскі, у акружжы бутавай агароджы з арачнымі брамамі. Пабудаваны ў 1909—10 гг. з цэглы.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавая 1-вежавая базіліка вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам з папярочным трансептам і 5-граннай апсідай, фланкіраванай нізкімі сакрысціямі. Кампазіцыя плоскаснага галоўнага фасада пабудавана на рытмічным нарастанні стральчатых аконных праёмаў і ступеньчатых контрфорсаў да 8-граннай шатровай вежы. Двухсхільны дах над алтарнай часткай завершаны 4-граннай шатровай сігнатуркай. Цэнтральны і бакавыя ўваходы аформлены магутнымі перспектыўнымі гатычнымі парталамі з вокнамі-ружамі над імі. Бакавыя фасады расчлянёны высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі з шматабломнымі адхіламі. На фоне паліхромнай бутавай муроўкі сцен вылучаны жоўта-цагляныя элементы архітэктурнага дэкору: руставаныя ліштвы вокан і вуглавыя лапаткі, гарадковыя фрызы, прафіляваныя карнізы.



Касцёл святога мучаніка Юрыя ў в. Восава.



Скляпенні касцёла святога мучаніка Юрыя ў в. Восава.



Капліца ў в. Воўкавічы.

Унутраная прастора магутнымі 4-граннымі слупамі і перакінутымі праз іх стральчатымі аркадамі падзелена на 3 нефы, перакрытыя стральчатымі скляпеннямі з нервюрамі. Галоўны і кулісныя алтары, амбон вырашаны ў стылі неаготыкі. У залу арачным прасветам з аркатурнай балюстрадай раскрыта галерэя хораў з арганам. Абразы 18 ст. «Маці Божая Чанстахоўская» і «Маці Божая Шкаплерная», абраз 2-й палавіны 19 ст. «Св. Юзаф з дзіцем».

# в. Воўкавічы,

Навагрудскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

На могілках. Узведзена ў 19 ст. з цэглы як пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Твор архітэктуры класіцызму. Вырашана кубападобным аб'ёмам пад шатровым дахам (не захаваўся). Грані прарэзаны шырокімі арачнымі прасветамі.

# в. Воўпа,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пастаўлена ў 19 ст. з бутавага каменю як пахавальня.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана 8-граннай ратондай пад пакатым шатровым пакрыццём з крыжом у завяршэнні. Грані парэзаны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі і круглымі люкарнамі, крапаваны па вуглах атынкаванымі лапаткамі, апяразаны карнізам на дэнтыкулах.

## Касцёл святога Яна Хрысціцеля

На паўночнай ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1773 г. з дрэва.

Першы храм у вёсцы быў пабудаваны ў 1478 г. па фундацыі віленскага ваяводы Алехны Судзімінтовіча, які атрымаў мястэчка ад вялікага князя літоўскага Казіміра IV Ягелончыка за шматгадовую верную службу[1]. 27 красавіка таго ж года асвячоны віленскім біскупам Я.Ласовічам, але ў тым жа годзе згарэў. Касцёл быў надзелены вялізнай маёмасцю і льготамі (работнікамі і чыншавікамі з сынамі, мядовай данінай і дзесяціннай подаццю, агароднінай, фальваркам Міраўчына з лесам, дубравай, пасекай, лугамі) з умовай штонядзельнага адпраўлення імшы па продках і па фундатары, яго жонцы Ядвізе і дзецях. Дачка Алехны Судзімонтавіча Сафія выйшла замуж за князя Аляксандра Гальшанскага (атрымаў Воўпу ў якасці пасага), іх старэйшы сын Павел (у наступным віленскі біскуп і ўладальнік Воўпы) пасля адбудовы касцёла пашырыў парафію, для ксяндзоў вылучыў пляцы пад дамы, 2 фальваркі, мядовую подаць з в. Гудзевічы, дазволіў карыстацца лесам і млыном. У 1526 г. ён фундаваў у касцёле алтар св. Ганны. У 1643 г. Казімір Гальшанскі прымаў у ім караля Уладзіслава IV, усталяваў геральдычны алтар.

У 1753 г. па фундацыі Я.Н.Касакоўскага ўзведзены новы драўляны касцёл, прыняўшы абсталяванне і начынне папярэдняга храма, але хутка прыйшоў у заняпад і ў 1771 г. пагражаў падзеннем. Прыняўшы ў 1761 г. Воўпенскую парафію, каплан І.Касакоўскі адзначаў: «...першым здзіўленнем было, што знайшоў усё голым і спустошаным, касцёл разбураецца і ва ўсім запушчаны... Ксёндз Масальскі за дзесяць год толькі два разы тут з'яўляўся»[2]. У 1773 г. замест яго ўзведзены манументальны драўляны храм, фундатарам якога быў князь І.Касакоўскі (1738—1794), які пасля 1781 г. стаў ліфляндскім біскупам і адным з ініцыятараў Тарговіцкай канфедэрацыі[3]. З закрыццём храма пасля паўстання 1863 г. гродзенскім губернатарам генерал-маёрам Зурыевым у 1877 г. дазволены хросныя хады ў межах агароджы касцёла[4]. Рэстаўрыраваны ў 1889 г. Перад касцёлам надмагілле роду Гладкоўскіх.

Помнік народнага драўлянага дойлідства з рысамі архітэктуры позняга барока. Уяўляе сабой падоўжны прамавугольны ў плане зруб, з бакоў да якога далучаны 5-гранныя крылы трансепта. У асноўны аб'ём з боку галоўнага фасада ўбудаваны 4-гранныя 2-ярусныя вежы з выцягнутымі цыбулепадобнымі шпілямі. Каркаснай сігнатуркай завершаны дах над апсідай. Цэнтральны рызаліт фасада завершаны прамавугольнай атыкавай сценкай з трохвугольным франтонам, над якім макаўка на чацверыку. Планіровачная паліганальнасць і пластычны мансардавы дах з заломам надаюць збудаванню прасторавую скульптурнасць. Бакавыя гарызантальна ашаляваныя фасады ўмацаваны вертыкальнымі брусамі-сцяжкамі і прарэзаны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі. Па баках прамаву-


Капліца ў в. Воўпа.


Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Воўпа.


Алтар касцёла святога Яна Хрысціцеля ў в. Воўпа.

гольнага ўваходнага праёма на высокіх бутавых пастаментах устаноўлены 2 скульптуры анёлаў (вышынёй 2,5 м).

Просты і аскетычны звонку касцёл вельмі ўрачысты і святочны ў інтэр'еры. У вялікую малітоўную залу шырокімі арачнымі прасветамі раскрываюцца бакавыя крылы трансепта. Замест апсіды перагародкамі вылучаны 3 сакрысціі з самастойным знадворным уваходам. Падшыўная бэлечная столь пафарбавана ў блакітны колер і дэкарыравана маляванымі кесонамі з разеткамі, размалёўка сцен імітуе чырвонацаглянаю муроўку.

У глыбіні нефа знаходзіцца перанесены з папярэдняга храма драўляны разны алтар — твор манументальна-дэкаратыўнага мастацтва 1-й палавіны 17 ст. (паміж 1633 і 1639), які спалучае рысы маньерызму і ранняга барока. Геральдычны картуш, што захаваўся на цокальнай панэлі алтара, уяўляе герб падканцлера К.Сапегі (1609—56) — сына вядомага дзяржаўнага дзеяча ВКЛ Л.Сапегі. Архітэктанічная кампазіцыя алтара запазычана з мастацтва эпохі Рэнесансу і вырашана ў выглядзе трыумфальнай аркі, пастаўленай на масіўны высокі цокаль. Мае характэрную 3-восевую структуру з 2-ярусцай цэнтральнай часткай. Ніжні ярус — каланада карынфскага ордэра, у цэнтры якой абраз «Укрыжаванне», а па баках у арачных нішах-экседрах з ракавінамі — буйнамаштабныя (вышынёй больш за 2 м) драўляныя скульптуры св. Казіміра (патрона-фундатара) і Яна Хрысціцеля (патрона касцёла). Калоны пазалочаныя, абвітыя спіралямі вінаграднай лазы. У тымпане франтона 1-га яруса рэльефная выява Бога Саваофа на воблаку, па баках постаці 2 анёлаў. У верхнім ярусе авальны абраз «Звеставанне», фланкіраваны пазалочанымі калонкамі таго ж карынфскага ордэра і скульптурнымі выявамі св. Лізаветы і св. Кацярыны. Плоскасці алтара багата дэкарыраваны накладной арабескавай разьбой, якая спалучае ракавіны, картушы, галоўкі херувімаў. Уражвае каларыстычнае вырашэнне — кантраст чорнага фону алтарнай паверхні і пазалоты разьбы і скульптуры. Устаноўленыя ў крылах трансепта бакавыя алтары па кампазіцыі і дэкору нагадваюць галоўны, але выкананы больш сціпла, верагодна, адначасова з будаўніцтвам новага касцёла. Барочнай накладной разьбой і скульптурай дэкарыраваны амбон і ракайльны арган на хорах за філёнгавым парапетам.

Абразы «Звеставанне» (сярэдзіна 17 ст.), «Маці Божая Чанстахоўская» (17 ст.), «Маці Божая з дзіцем і святымі Дамінікам і Кацярынай Сіенскай» (18 ст.), «Стыгматызацыя св. Францішка» (1888), а таксама манстранцыя 1727 г.


Капліца ў в. Воўчын.


Капліца ў в. Воўчын.

[1] Karpyza W. Kościół w Wołpie // Białostoczyzna. 1990.4/20. S. 27.
[2] Там жа.
[3] Койта К.К. В поисках истины. Мн., 1982. С. 88.
[4] НГАБ у г. Гродна, ф. 78, воп. 1, спр. 155, арк. 1—1 об.

# в. Воўчын,

Камянецкі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы.

Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам з 3-граннай апсідай, над якой стромкі 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы, на франтальным фасадзе — у трохвугольны франтон. Плоскасныя фасады прарэзаны бакавымі арачнымі аконнымі і прамавугольным уваходным праёмам, фланкіраваным цаглянымі пілястрамі і завершаным арачнай броўкай. На фоне атынкаваных сцен вылучаны чырвонацагляныя ліштвы праёмаў, 2-абломны карніз, цокальны пояс.

## Капліца

На ўскраіне вёскі, пры выездзе на в. Высокае. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана кубападобным павільёнам, над якім узведзена прамавугольная стэла-сценка з 2-гранным верхам. Ніжні ярус збудавання адкрыты арачным лучковым пра-

светам і мае ўнутры драўляны крыж, франтальная грань 2-га яруса крапавана арачнай нішай-экседрай для культавай скульптуры.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У паўночнай частцы вёскі. Першы драўляны касцёл фундаваны ў 1638 г. смаленскім ваяводам Аляксандрам Гансеўскім[1]. У пачатку 18 ст., у выніку шлюбу кракаўскага кашталяна, падскарбія ВКЛ графа Станіслава Панятоўскага (1676—1762) і Канстанцыі Чартарыйскай, Воўчын перайшоў да роду Панятоўскіх. Новы ўладальнік у 1729 г. заклаў існуючы цяпер храм[2], узведзены ў 1733 г. італьянскім архітэктарам пры ўездзе ў палацава-паркавую рэзідэнцыю (не захавалася); у наступным годзе асвячоны[3]. У гэтым магнацкім маёнтку нарадзіўся Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1732—98), апошні кароль Рэчы Паспалітай (1764—95). Яму храм стаў хрысцільняй і пахавальняй (з 1938 астанкі караля захоўваліся ў гэтым касцёле, у 1987 перавезены ў Варшаву). Поўнае сканчэнне будаўніцтва, унутранае аздабленне і асвячэнне касцёла Святой Тройцы адбылося пры ўладальніку маёнтка М.Чартарыйскім у 1743 г. У 1770-я гг. рэстаўрыраваны архітэктарам Іахімам Хемплам і мастаком Пташынскім: з Варшавы прывезены 4 бочкі англійскай бляхі для даху, храм пабелены з вылучэннем дэкору вохрай, перабрана перакрыцце, пазалочаны верхнія вазы, скульптура. У 1866 г. касцёл аддадзены праваслаўным; усё сакральнае начынне храма паводле загада гродзенскага губернатара здадзена на захоўванне ў Барбарынскую капліцу мястэчка Высокае. У 1918 г. вернуты католікам і стаў парафіяльным. У 1924 г. архітэктарам Я.Краузе адноўлены будынак плябаніі[4]. Храм знаходзіцца ў паўзруйнаваным стане.

К а с ц ё л — шэдэўр архітэктуры позняга барока. Уяўляе сабой 8-гранную ратонду, увянчаную гранёным шатром з купальным бельведэрам, на якім было 4 гадзіннікі (куранты). Чатыры франтальныя грані будынка завершаны лучковымі франтонамі, над якімі пастаўлены скульптуры евангелістаў (разбураны ў 1980-я гг.), апрацаваны падвойнымі пілястрамі карынфскага ордэра, апяразаны антабלементам, декарыраваным арнаментальнай лепкай. Каменныя гірлянды аплятаюць высокія арачныя аконныя праёмы з фігурнымі сандрыкамі, круглыя і авальныя люкарны. Уваход акцэнтаваны невялікім прытворам, над якім раней навісаў балкон.

Зала храма мае форму грэчаскага крыжа, перакрыта плоскай столлю. Па вуглах 2-ярусныя авальныя ў плане лоджыі, якія выступаюць 3-граннымі эркерамі-ложамі і па ярусах аб'яднаны вітымі ўсходамі. Сцены шырокім антаблементам з арнаментальным фрызам расчлянёны на 2 ярусы. Больш высокі 1-ы ярус раскрапаваны канеліраванымі пілястрамі карынфскага ордэра, 2-і — тонкімі лапаткамі. Інтэр'ер упрыгожаны арнаментальна-скульптурнай стукавай лепкай у выглядзе картушаў, гірлянд, букетаў кветак, аканту, гарэльефаў пуцці і херувімаў. Яго пластыка-дэкаратыўным акцэнтам з'яўляліся 3 алтары Святой Тройцы, Звеставання, св. Станіслава, надзеленыя гербам Панятоўскіх «Цяля» (не зберагліся). Інвентар 1788 г. сведчыць аб багатым рытуальным забеспячэнні: 8 арнатаў белых, 7 чырвоных, 3 зялёных, 3 фіялетавых, 6 чорных, 7 кап, харугвы, срэбраныя манстранцыі, келіхі і інш. Зала ацяплялася камінамі.

---

[1] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1893. T. XIII. S. 566; Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 71—72.

[2] Адамович С., Старостин В. Проект реставрации и приспособления костела в Волчине // Каштоўнасці мінуўшчыны. Мн., 2001. № 5. С. 56—59.

[3] Jaroszewski W. Wołczyn dawniej i dziś // Rocznik ziem wschodnich. Warszawa, 1939. S. 181.

[4] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 169.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Воўчын.

# в. Выгаляненты,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці




## Капліца святога Яна Хрысціцеля

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1929 г. з дрэва, у канцы 20 ст. абкладзена сілікатнай цэглай.

Помнік народнага дойлідства. Невялікі 1-зрубны будынак накрыты 2-схільным гонтавым дахам з вальмамі і шатровай вежачкай над 3-граннай апсідай. Абкладзеныя цэглай сцены былі вертыкальна ашаляваны і ўмацаваны брусамі-сцяжкамі. Франтальны фасад вылучаны утрыраваным 4-слуповым порцікам з трохвугольным франтонам, акаймаваным пасамі сухарыкаў. Пры ўваходзе на 2 слупах

размешчаны хоры, абгароджаныя балюстрадай. Інтэр’ер асвятляецца бакавымі здвоенымі арачнымі аконнымі праёмамі і люкарнамі ў апсідзе.



Капліца святога Яна Хрысціцеля ў в. Выгаляненты.

Касцёл у в. Вынісцы.



Капліца ў г. Высокае.

## в. Вынісцы,

Слуцкі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

Пабудаваны ў канцы 20 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб’ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе 4-гранай шатровай сігнатуркай. Да алтарнай часткі храма далучаны бакавыя сакрысціі і паўкруглая апсіда. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны невялікімі арачнымі аконнымі праёмамі ў цагляных ліштвах.

## г. Высокае,

Камянецкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

У паўночна-заходняй частцы горада. Пабудавана ў 1909 г. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранай вежай, узнесенай на прамавугольны п’едэстал і накрытай пакатым шатровым дашкам з крыжом. Франтальная і бакавыя грані прарэзаны арачнымі прасветамі, на тарцовай сцяне крыж.

### Капліца святой Барбары

У паўночна-заходняй частцы горада, на ўзвышаным правым беразе р. Пульва. Невялікі мураваны храм узведзены ў 1772 г. ксяндзом мясцовага касцёла Сланчэўскім[1]. Верагодна, спраектавана аўтарам Троіцкага касцёла ў в. Воўчын Камянецкага раёна ці па яго падабенству, бо нагадвае яго ў мініяцюры. Пасля закрыцця Воўчынскага касцёла яго маёмасць 7.12.1869 г. была перанесена ў капліцу, а таксама з касцёлаў вёсак Стаўкі, Мілейчыцы, Мрозавічы і інш.[2]

Помнік архітэктуры барока. Невялікі 8-гранны аб’ём накрыты шатровым дахам, які завершаны фігурным ліхтаром з цыбулепадобным купалком (чыгуннае ліццё, не захаваўся). Грані аб’ёму раскрапаваны плоскімі лучковымі нішамі і лучковымі аконнымі праёмамі ў прафіляваных ліштвах, вугламі лапаткамі, гарызантальнымі цягамі цокаля і карніза.

Унутры сцены аздоблены ляпным раслінным арнаментам, рэльефнымі выявамі воінскіх даспехаў. Над уваходам на 2 слупах размешчаны хоры з ажурнай разной агароджай.

---

[1] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X — XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 170.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 258, арк. 7.



## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Быў фундаваны вялікім князем літоўскім Вітаўтам у 15 ст., вымураваны як парафіяльны ў 1603—08 гг. падчашым А.Войнам. Быў адноўлены ў 1872 г. М.Патоцкай[1]. Вядомы па малюнку Н.Орды 1876 г. У падпарадкаванні касцёла знаходзілася капліца св. Барбары, пабудаваная на месцы першапачатковага касцёла (захавалася). У 1935 г. абслугоўваў каля 2200 парафіян. Рэстаўрыраваны ў пачатку 21 ст.

Твор архітэктуры барока. Быў вырашаны 2-вежавай базілікай з трансептам і сігнатуркай над яго перакрыжаваннем з караблём храма. Высунутыя наперад 4-ярусныя шатровыя вежы фланкіравалі плоскасць фасада, завершаную 2-гранным атыкам і крапаваную пілястрамі; у цэнтры прамавугольны ўваходны праём, над якім быў размешчаны рэльефны лацінскі крыж. Пілястравай крапоўкай вылучаліся вуглы ярусаў-вежаў.

[1] Spis kośćiołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 84.

## Касцёл святога Яна і кляштар баніфратаў

Пры выездзе з горада на в. Воўчын, у мясцовасці пад назвай Марыянпаль. Пабудаваны ў 1773—85 гг. з цэглы па фундацыі канцлера ВКЛ А.Сапегі. Меўся шпіталь на 20 ложкаў (пасля скасавання ў 1840 прыстасаваны пад сялянскі лазарэт[1]). Ад кляштара, які ўключаў касцёл св. Іаана і шпіталь, захаваўся жылы корпус.

Ж ы л ы  к о р п у с — помнік архітэктуры барока. Вырашаны працяглым прамавугольным у плане 2-павяховым аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным па тарцах ступеньчатымі франтонамі. Франтальны фасад вылучаны па цэнтры мансардным аб'ёмам, расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі, крапаваны па вуглах рустам.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 14, арк. 1—14.

# в. Высоцк,

Слонімскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл

У паўднёвай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры ампіру. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам з 3-граннай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Франтальны фасад вырашаны 4-пілястравым порцікам з трохвугольным франтонам, адмежаваным магутным фрызам з дэнтыкуламі. Восі сіметрыі фасада адзначана прамавугольнымі праёмамі ўвахода і акна хораў над ім, паўкруглай люкарнай у тымпане франто-



Капліца святой Барбары ў г. Высокае.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г. Высокае.






Касцёл святога Яна і кляштар баніфратаў у г. Высокае.



Касцёл у в. Высоцк.

на. Бакавыя плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і слаістымі пілястрамі ў прасценках. Адпаведна крапаваны сцены ў інтэр'еры.

## в. Вязынь,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры вёскі. Узведзена ў 1908—09 гг. з цэглы і вапняку сярод сядзібна-паркавага комплексу Гецэвічаў[1]. Пасля Вялікай Айчыннай вайны закрыта і прыстасавана пад клуб. У 1993 г. вернута католікам, адрэстаўрыравана.



Капліца Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Вязынь.

Помнік архітэктуры неаготыкі з элементамі мадэрна. Вырашана ўзнятым на высокі цокаль прамавугольным аб'ёмам з 5-граннай апсідай, над якой спічасты 2-схільны чарапічны дах пераходзіць у вальмавы. Востраканцовы шчыпец фасада акаймаваны зубчастым фрызам, завершаны шатровай сігнатуркай-званічкай. Вуглы былі адзначаны фіяламі (не захаваліся). Уваход вырашаны 2-слуповым ганкам пад шатровым чарапічным пакрыццём; раскрыты шырокім стральчатым праёмам, выкладзеным вапнавымі квадрамі. Стральчатым праёмам вырашаны і ўваход у капліцу. Ад сярэдневяковай готыкі выкарыстаны ступеньчатыя контрфорсы, аркатурныя фрызы, стральчатыя аконныя праёмы, выкладзеныя з часаных вапняковых квадраў. У інтэр'еры зала і апсіда перакрыты зоркавымі скляпеннямі.

---

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 208—210.

## в. Вялікае Сяло,
Пружанскі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл святога архангела Міхаіла

Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам з бакавымі сакрысціямі, накрытымі агульным 2-схільным дахам, над карнізам якога выступаюць 2-гранныя ліштвы арачных аконных праёмаў бакавых фасадаў. Да франтальнага фасада далучана 4-гранная вежа-званіца пад 2-гранным пакрыццём; яе 1-ы ярус вырашаны 2-гранным парталам арачнага ўваходнага праёма.

## г.п. Вялікая Бераставіца
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Візітацыі Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На цэнтральнай плошчы. У 1615 г. уладальнік мястэчка Геранім Хадкевіч заснаваў тут місію кармелітаў, якія валодалі драўляным касцёлам. Пасля гібелі храма ў выніку пажару 1741 г. па фундацыі кракаўскага кашталяна Юрыя Мнішка быў узведзены існуючы цяпер касцёл[1]. З 1794 г. пры касцёле існаваў шпіталь і школа, фундаваныя Ю.Патоцкай. Закрыты паводле загада віленскага генерал-губернатара М.Мураўёва з перадачай маёмасці ў іншыя касцёлы (ксёндз І.Казлоўскі адзін з першых вясной 1862 уступіў у Гродзенскую рэвалюцыйную арганізацыю і прыняў актыўны ўдзел у яе стварэнні, прыводзіў да прысягі ўдзельнікаў будучага паўстання). З 1866 г. — праваслаўная царква, у 1920—39 гг. — зноў касцёл.

Помнік архітэктуры ранняга барока. Пабудаваны паводле канона 3-нефавай базілікі з трансептам,

паўкруглай апсідай і 2 нізкімі сакрысціямі па баках. Плоскасны галоўны фасад расчлянёны пілястрамі на 3 часткі і завершаны прамавугольным атыкам з трохвугольным франтонам. Шматпланавую кампазіцыю атрымалі бакавыя фасады: нізкія бакавыя нефы і сакрысціі кантрастуюць з 2-ярусным цэнтральным нефам і крыламі трансепта пад вальмавым дахам. Пілястравая крапоўка прасценкаў лучковых аконных праёмаў выкарыстана і на астатніх фасадах храма, апяразаных раскрапаваным антаблементам.

Унутраная прастора расчлянёна 4 масіўнымі слупамі на 3 нефы. Цэнтральны неф павышаны, перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках і конхай у алтарнай частцы. Бакавыя нефы адкрываюцца ў цэнтральны арачнымі прасветамі і перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках. Сцены крапаваны плоскімі пілястрамі, апяразаны тонкапрафіляванымі карнізам і паяском. Над нартэксам размешчана арганная галерэя, да якой вядуць 2 вітыя лесвіцы ў тоўшчы сцяны. Пад будынкам крыпта — 9 скляпоў, злучаных пераходамі. Алтарныя абразы работы мастака Ф.Смуглевіча мяжы 18—19 ст.

[1] Габрусь Т.В. Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001. С. 222.

## Касцёл Перамянення Гасподняга

У цэнтры пасёлка. Касцёл закладзены 23.6.1909 г. паводле праекта гродзенскага губернскага інжынера Плотнікава. Узведзены ў 1912 г. з цэглы па фундацыі ўладальніка маёнтка графа І.Касакоўскага[1]. Закрыты 17.6.1965 г., вернуты католікам у 1989 г., у 1990 г. адрэстаўрыраваны (архітэктары А.Бабіцын, С.Шыйко).

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашаны прамавугольнай 3-нефавай базілікай з 5-граннай апсідай. Галоўны фасад атрымаў дынамічную, вертыкальна накіраваную кампазіцыю, завершаную 3-яруснай шатровай вежай-званіцай, якая на 2-м ярусе дэкарыравана накладным 2-ярусным гатычным шчытом. Вертыкальнасць узмацняюць ступеньчатыя контрфорсы і стральчатыя праёмы. Уваход вырашаны магутным арачным парталам, запоўненым дзвярамі з мастацкай акоўкай. Каларыстычнае вырашэнне будынка дасягаецца спалучэннем фактурнай «аксамітавай» муроўкі сцен і атынкаваных элементаў архітэктурнага дэкору: лапатак, карнізаў, ліштваў, нішаў.

Гатычнай узнёсласцю вылучаецца і інтэр'ер храма, нефы якога перакрыты стральчатымі скляпеннямі з гуртамі. Драўляны амбон таксама вырашаны ў вытанчаных формах готыкі. Над нартэксам кансольны балкон арганных хораў, адкрытых у неф стральчатай аркай.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1173, арк. 3—4.



Касцёл у в. Вялікае Сяло.



Касцёл Перамянення Гасподняга ў г.п. Вялікая Бераставіца.



Касцёл Візітацыі Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г.п. Вялікая Бераставіца.





Касцёл Маці Божай Каралевы ў в. Вялікая Рагозніца.

## в. Вялікая Ліпа,
Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму і рэтраготыкі. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад стромкім 2-схільным дахам, закрытым на фасадзе 2-гранным шчытом з рэльефным крыжом. Алтарная сцяна прарэзана стральчатым аконным праёмам, пад карнізам металічная паласа з лацінскай сентэнцыяй, фасады крапаваны вуглавымі лапаткамі. Уваход праз прамавугольны праём на бакавым фасадзе. Пад збудаваннем скляпеністае сутарэнне.







Капліца ў в. Вялікая Свенціца.

## в. Вялікая Мыса,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пабудавана ў 1934 г. з цэглы і бетону.

Помнік архітэктуры з рысамі канструктывізму. Вырашана 2-яруснай 4-граннай вежай. Першы ярус — 4-гранны пастамент, над якім на 4 слупах трымаецца пліта перакрыцця. На франтальнай грані пастамента надпіс «Прыйдзі, Кароль, светласць твая».

## в. Вялікая Рагозніца,
Мастоўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Каралевы

На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1921—26 гг. з бутавага каменю.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Вырашаны магутным прамавугольным у плане аб'ёмам з прамавугольнай апсідай і асіметрычна прыбудаванымі сакрысціяй і 4-граннай шатровай званіцай. Плоскасныя фасады расчлянёны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Вялікая Свенціца,
Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы пры ўездзе ў прысядзібны парк.

Твор народнага дойлідства. Вырашана кубападобным аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад прарэзаны арачным уваходным праёмам, завершаны трохвугольным франтонам і фланкіраваны вуглавымі пілонамі.

## в. Вялікая Страча,
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва на бутавым падмурку капліцы 19 ст.

Вырашана прамавугольным у плане прысадзістым аб'ёмам, накрытым паўвальмавым бляшаным дахам, завершаным крыжом з укрыжаваннем на 4-гранным барабане.

### Капліца святога Войцеха

У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Учынена ў былым грамадзянскім цагляным будынку ў канцы 20 ст.



Капліца ў в. Вялікая Страча.

Прамавугольны ў плане будынак пад 2-схільным дахам. Цэнтр франтальнага фасада вылучаны 2-гранным парталам з прамавугольным уваходным праёмам. Фасад рытмічна расчлянёны квадратнымі аконнымі праёмамі.

## в. Вялікая Сэрвач,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы як фамільная пахавальня ўладальнікаў маёнтка Козел-Паклеўскіх.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Плоскасныя фасады прарэзаны арачнымі аконнымі і ўваходным праёмамі, апяразаны антабламентам, крапаваны пілястрамі.

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы ў былым сядзібна-паркавым комплексе Козел-Паклеўскіх. У паўзруйнаваным стане.



Капліца ў в. Вялікая Сэрвач 1-й пал. 19 ст.



Капліца святога Войцеха ў в. Вялікая Страча.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны трохвугольным франтонам, прарэзаны лучковым уваходным праёмам, крапаваны вуглавымі лапаткамі.

### Капліца

Пастаўлена ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 2-ярусным 4-гранным слупом з крыжом у завяршэнні. На франтальнай грані прамавугольная ніша са скульптурнай групай.

## в. Вялікія Круговічы,

Ганцавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

У паўночна-заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1830-я гг. з цэглы як пахавальня ўладальнікаў сядзібы Абуховічаў[1].

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана лапідарным прамавугольным у плане аб'ёмам пад стромкім 2-схільным дахам. Плоскасныя фасады пазбаўлены архітэктурнага дэкору, апяразаны кар-



Капліца ў в. Вялікая Сэрвач 19 ст.





Капліца ў в. Вялікія Круговічы.

Капліца ў в. Вялікія Крывічы.



Капліца Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Вялікія Навікі.



нізам простага профілю, прарэзаны арачнымі аконнымі і ўваходным праёмамі. Пад капліцай сутарэнне пад цыліндрычным скляпеннем.

---

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 126; Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 96.

## в. Вялікія Крывічы,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю як фамільная пахавальня Свентаржэцкіх. Захавалася ў руінах.

## в. Вялікія Навікі,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

У паўночна-заходняй частцы вёскі, на скрыжаванні вуліц. Пабудавана ў 1930-я гг. з дрэва, аднаўлена ў канцы 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, які з боку фасада пераходзіць у 4-гранны шацёр. Яго навіс над прамавугольным уваходным зашклёным праёмам падтрыманы бакавымі прасценкамі. Бакавыя вертыкальна ашаляваныя фасады прарублены шырокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Вялікія Свіранкі,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога мучаніка Юрыя

На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. Першапачатковы драўляны храм быў збудаваны ў 1671 г. коштам віленскага капітула, у 1690 г. пры ім збудаваны драўляны кляштар місіянераў. Закрыты ў 1951 г., вернуты ў 1998 г. парафіянам, адбудаваны ў 1999 г.

Архітэктура храма надзелена рысамі народнага дойлідства. Выцягнуты па падоўжнай восі прамавугольны зруб з 5-граннай апсідай мае над франтальным фасадам невялікую 8-гранную званічку, што завяршае трохвугольны франтон 2-схільнага даху (вынік прыстасавання касцёла пад царкву). Галоўны фасад фланкіраваны 2 прырубамі (асновы бакавых вежаў, не захаваліся), якія выступаюць за плоскасці сцен, але не выходзяць за межы агульнага даху. Паміж імі прыбудаваны нізкі прытвор пад 2-схільным пакрыццём. На фоне гарызантальна-вертыкальнай шалёўкі вылучаюцца лучковыя аконныя праёмы і брусы-сцяжкі ў прасценках. Шалёўка сцен выкарыстана і ў інтэр'еры залы, перакрытай плоскай столлю на падугах і вылучанай карнізам. У бакавых памяшканнях нартэкса вітыя лесвіцы на хоры і паддашша.

На поўдзень ад касцёла ў 1910-я гг. пастаўлена 2-ярусная квадратная ў плане шатровая званіца (зруйнавана ў канцы 20 ст.), ніжні ярус якой быў

складзены з валуноў, верхні цагляны ярус-звон адкрываўся 2 паўцыркульнымі прасветамі.

## в. Вялікія Сяхновічы,

Жабінкаўскі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашана 8-граннай ратондай пад шатровым дахам. Плоскасныя бакавыя грані прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі, франтальная — уваходным праёмам. Унутры на падлозе 2 надмагільныя пліты з рэльефнымі крыжамі.

## в. Вялікія Эйсманты,

Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1849—50 гг. з бутавага каменю пад кіраўніцтвам ксяндза Міхаіла Сезяноўскага. У 1912 г. адрэстаўрыраваны.

Паводле старажытных хронік першапачатковы касцёл пабудаваны ў 1659 г. на сродкі Ганны Эйсмантавай і яе сына Якава, згарэў у 1722 г. Існуючы храм пасля паўстання 1863—64 гг. быў закрыты. У 1903—10 гг. рабіліся спробы ўзвесці новы будынак, у выкладзеных з бутавага каменю сценах з'явіліся трэшчыны, якія пастаянна павялічваліся. Было складзена некалькі праектаў касцёла, але парафіяне на ўласныя сродкі перабудавалі яго сціплым.

Архітэктурная стылістыка прамавугольнага ў плане храма з кубападобнай апсідай і сакрысціямі вызначаецца эклектычным спалучэннем класіцыстычных і гатычных рэмінісцэнцый — 4-калонны дарычны порцік галоўнага фасада суседнічае з гатычнымі стральчатымі аконнымі праёмамі бакавых плоскасных фасадаў. Па баках уваходнага партала арачныя нішы. Магутны трохвугольны франтон 2-схільнага даху запоўнены праменямі кампазіцыі «Усёбачнае Вока».

Унутраная прастора 4 парамі драўляных слупоў падзелена на 3 нефы: цэнтральны перакрыты цыліндрычным скляпеннем з размалёўкай, бакавыя — плоскай столлю. Галоўны драўляны алтар з абразом «Маці Божая Эйсмантаўская» (1-я палавіна 18 ст., прыўнесены ў 1740) вырашаны ў стылі рэтраспектыўнай готыкі, бакавыя — з элементамі класіцызму і барока. Над уваходам на шырыню залы на 2 слупах узняты аркатурныя хоры з арганам. Абразы мяжы 18—19 ст. «Маці Божая Вастрабрамская», «Маці Божая Ляжайская», «Маці Божая Чанстахоўская» (пачатак 19 ст.), абраз у металічнай шаце 18 ст. «Ян Непамук». Шэраг абразоў напісаў беларускі мастак Каспар Бароўскі (1785—1854).



Касцёл святога мучаніка Юрыя ў в. Вялікія Свіранкі.



Капліца ў в. Вялікія Сяхновічы.

Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Вялікія Эйсманты.



## в. Вярэйкі,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці



Капліца ў в. Вярэйкі.



Касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі ў в. Вярэйкі.



Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Вята.

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным зрубам, які пераходзіць у 3-гранную апсіду, 2-схільны дах над якой пераходзіць у вальмавы і над фасадам завершаны 4-граннай шатровай сігнатуркай. Да фасада далучаны нізкі прамавугольны прытвор пад 2-схільным пакрыццём. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады прарэзаны двума парамі прамавугольных аконных праёмаў.

## Касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1826—30(39) гг. з цэглы па фундацыі і на сродкі ўладальніка маёнтка стацкага саветніка Аляксандра Свечына (праваслаўнага)[1]. Праект храма быў прысланы з Пецярбурга[2]. Некалькі гадоў цягнулася цяжба з уладамі наконт правамоцтва самавольнага будаўніцтва, якое Свечын абгрунтоўвае тым, што ў Вярэйках з даўніх часоў існаваў касцёл[3]. У 1868 г. касцёл скасаваны і перабудаваны архітэктарам Ціхвінскім у праваслаўную царкву[4]. У 1952 г. закрыты. Адбудаваны як касцёл у 1990 г. На 1997 г. каля 800 парафіян.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад вырашаны дарычным 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам (адноўлены ў канцы 20 ст.) і 2 нішамі-экседрамі са скульптурамі па баках. Першапачаткова па баках фасада былі адасоблена пастаўлены дзве 4-гранныя 8-калонныя вежы-званіцы[5]. З перабудовай пад царкву яны былі знесены, порцік заменены прыбудаванай 2-яруснай купальнай званіцай, былі прабіты бакавыя ўваходныя праёмы. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі, па цэнтры — арачнымі ўваходнымі праёмамі. Унутры малітоўная зала перакрыта латковай столлю, апсіду запаўняе стукавы алтар у стылі класіцызму ў выглядзе 4-пілястравага порціка з трохвугольным франтонам. Пад апсідай крыпта-пахавальня.

Збоку перад храмам пастаўлена 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца, трактаваная ў стылі позняга класіцызму.

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 27, спр. 450, арк. 1—11.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 104, арк. 4 аб.
[3] НГАБ, ф. 1, воп. 27, спр. 450, арк. 13 адв—14.
[4] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 104, арк. 42; спр. 280, арк. 1.
[5] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 104, арк. 80, 90.

# в. Вята,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл святога Яна Хрысціцеля

Пабудаваны ў 1934 г. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным, накрытым 2-схільным дахам зрубам, які пераходзіць у 3-гранную апсіду. Да фасада далучаны прамавугольны прытвор, у 2-граннае пакрыццё якога ўрэзана 4-гранная 2-ярусная шатровая званіца. Бакавыя фасады парэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Малітоўная зала і апсіда перакрыты латковым скляпеннем, інтэр'ер ашаляваны.



## в. Гадзілуны,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 3-яруснай 4-граннай вежай з шатровым пакрыццём у акаймаванні трохвугольных франтончыкаў і крыжом у завяршэнні. Грані прарэзаны і крапаваны арачнымі прасветамі і нішамі, ярусы размежаваны 4-абломнымі карнізамі.



Капліца ў в. Гадзілуны.

## в. Гайцюнішкі,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

За 0,5 км на ўсход ад вёскі, у полі. Пабудавана ў 1614 (1633) г. на сродкі Зюзаны Нонхарт з цэглы як кальвінскі збор і пахавальня сям'і Нонхартаў (пазней Сцяцкевічаў), з якіх будаўнік і начальнік каралеўскіх будынкаў у Вільні галандскі архітэктар П.Нонхарт разам з інжынерам-фартыфікатарам ван Дадэнам узвёў суседні дом-крэпасць. У 1757 г. архітэктар І.К.Глаўбіц узвёў пры капліцы плябанію ў стылі барока. Капліца захавалася ў руінах.

Помнік архітэктуры готыкі і рэнесансу, з рысамі абарончага дойлідства. Да прамавугольнага ў плане аб'ёму (быў накрыты чарапічным вальмавым дахам) далучалася такая ж апсіда. Сцены расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, апяразаны прафіляваным карнізам і ўмацаваны магутнымі контрфорсамі, схілы якіх накрыты чарапіцай. Вось сіметрыі галоўнага фасада вылучалі лучковы праём уваход, арачнае акно хораў і чацверыковая сігнатурка-званічка над карнізам. У інтэр'еры зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем на распалубках. Пад капліцай крыпта.



Капліца ў в. Гайцюнішкі.

## в. Галавічполле,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святога Казіміра

На паўднёвай ускраіне вёскі. Учынена ў 1990-я гг. ў сядзібным доме 1-й палавіны 20 ст.

Сядзібны дом — помнік архітэктуры неабарока. Яго складаную архітэктурна-пластычную кампазіцыю фарміруюць высокі мансардавы дах цэнтральнага прамавугольнага ў плане зруба, вальмавыя пакрыцці вуглавых алькежаў і мезанінаў. Вынасы пакрыццяў над фасадамі трымаюцца разнымі бэлькамі-кранштэйнамі. Элемент асіметрыі ў аб'ёмную кампазіцыю ўносяць 4-слуповы ганак з трохвугольным франтонам і вуглавая лоджыя. Неашалёваныя сцены прарублены прамавугольнымі аконнымі праёмамі розных памераў.

## в. Галынка

Гродзенскага раёна

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа



Капліца святога Казіміра ў в. Галавічполле.





Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Галынка Гродзенскага раёна.



Інтэр'ер касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў в. Галынка Гродзенскага раёна.

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1891 г. з цэглы як царква на месцы папярэдняга храма 1714 г. У аснову будынка пакладзены тыпавы праект № 14[1]. У 1922 г. перароблены пад касцёл і асвячоны архібіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім. Закрыты ў 1947 г., вернуты парафіянам і адноўлены ў 1989 г.

Помнік архітэктуры стылю неакласіцызму. Падоўжана-восевую крыжовую ў плане кампазіцыю храма фарміруюць шырокі нартэкс з 2-яруснай чацверыковай званіцай над ім, неф з бакавымі крыламі трансепта, прамавугольная апсіда, да бакоў якой далучаны драўляныя сакрысціі. У завяршэнні пакатага 4-схільнага даху цэнтральнага аб'ёму невялікі чацверыковы барабанчык з шатровым пакрыццём. Над званіцай узведзена шатровая каркасная вежачка-ліхтар. Фасады прарэзаны адзінарнымі і здвоенымі арачнымі аконнымі праёмамі ў вялікіх прафіляваных ліштвах, апяразаных прафіляваным карнізам. Тарцы аб'ёмаў завершаны трохвугольнымі франтонамі. Прамавугольны ўваходны праём аформлены арачным парталам і завершаны паўкруглай люкарнай.

Унутры ў сяродкрыжжа храма, перакрытае самкнутым 4-гранным купалам, лучковымі аркамі адкрываюцць апсіда і крылы трансепта. У інтэр'еры 3 алтары ў стылі неакласіцызму. Цэнтральны 3-ярусны алтар узняты на шырокі пастамент і фланкіраваны скульптурамі святых апосталаў Пятра і Паўла. У левым кутку прэсбітэрыя на слупе ўзняты гранёны амбон. Пры ўваходзе драўляныя хоры на двух 8-гранных слупах.

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 324, арк. 7; ф. 97, воп. 1, спр. 594.



Капліца ў в. Галынка Клецкага раёна.

## в. Галынка,

Клецкі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі, у былым сядзібна-паркавым комплексе Лазоўскіх. Пабудавана ў 1809 г. з цэглы. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны трохвугольным франтонам, крапаваны вуглавымі пілястрамі, прарэзаны па цэнтры арачным уваходным праёмам. Памяшканне перакрыта цыліндрычным скляпеннем з бакавымі люнетамі і вуглавымі ветразямі. На алтарнай сцяне арачная ніша для алтара.

## в. Гальшаны,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі, па дарозе ад касцёла да рэшткаў замка. Пабудавана ў 1897 г. з цэглы.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана 3-ярусцай 4-граннай вежай пад шатровым пакрыццём з крыжом. Грані крапаваны фігурнымі нішамі. Другі ярус адкрыты арачнымі прасветамі; пастаўлена скульптура Хрыста з крыжом.

## Капліца

На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. Пастаўлена ў 2-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю. У паўзруйнаваным стане.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам з прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі.

## Касцёл святога Яна Хрысціцеля і кляштар францысканцаў

У цэнтры вёскі, на скрыжаванні вуліц 17 Верасня і Ашмянскай. Звесткі аб першым касцёле адносяцца да 15 ст. Будынак касцёла ўзведзены ў пачатку 16 ст. і прыстасаваны пад кальвінскі збор. У 1618 г. ён перабудаваны па фундацыі Паўла Сапегі для манахаў-францысканцаў, якіх ён запрасіў сюды і заснаваў для іх кляштар, быў пабудаваны жылы корпус. У пачатку 1770-х гг. будынак разабраны амаль да падмурка і на яго месцы пабудаваны новы каталіцкі храм[1]. Перад касцёлам у 1-й палавіне 19 ст. пабудавана 2-ярусная 4-гранная брама-званіца, вырашаная ў стылі позняга класіцызму з выкарыстаннем элементаў дарычнага ордэра. Кляштар скасаваны паводле царскага ўказа ад 19.7.1832 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны касцёл прыйшоў у занядад. Адноўлены (архіт. У.С. Маскалёў).

К а с ц ё л — помнік архітэктуры ранняга барока. Трохнефавая бязвежавая базіліка вылучаецца ўзбуйненымі прасторава-пластычнымі архітэктурнымі аб'ёмамі. У іх яруснасці пануе прамавугольны аб'ём цэнтральнага нефа. Трохнефавая структура храма вязкамі пілястраў вылучана на франтальным 3-часткавым фасадзе, падзеленым развітымі інтэнсіўна крапаванымі складанапрафіляванымі антабламентамі на 3 ярусы і завершаным фігурным франтонам. Плаўныя і мяккія пераходы ярусаў у пірамідальную кампазіцыю зліваюцца выгінамі волют і ўвагнутымі бакавымі адхіламі. Бакавыя фасады апрацаваны парнымі пілястрамі, расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах. Барочна-пластычную трактоўку атрымаў і аб'ём апсіды: франтон фігурны, крапаваны пілястрамі.

Ва ўнутранай прасторы храма 8 слупоў нясуць цыліндрычнае скляпенне цэнтральнага нефа і крыжовыя нізкія бакавыя нефы. Прастору цэнтральнага нефа і апсіды аб'ядноўвае магутны прафіляваны карніз з балюстраднай галерэяй у аснове скляпення. Над нартэксам размешчаны арганныя хоры (арган не захаваўся, пастаўлена фісгармонія 19 ст.). Пад храмам крыпта — родавая пахавальня некалькіх пакаленняў Сапег. Пасля Вялікай Айчыннай вайны касцёл быў закрыты, крыпта разрабавана.



Капліца 1897 г. ў в. Гальшаны.



Капліца 2-й пал. 19 ст. ў в. Гальшаны.



Касцёл святога Яна Хрысціцеля і кляштар францысканцаў у в. Гальшаны.



Касцёл святога Яна Хрысціцеля і кляштар францысканцаў у в. Гальшаны. Сучасны выгляд.

Мастацкі акцэнт інтэр'ера — фрэскавая кампазіцыя на паўкруглай сцяне апсіды ў выглядзе ілюзорнай выявы барочнага архітэктанічнага алтара — перспектыўны малюнак магутнай карынфскай каланады, выкананы ў 1790-я гг.[2] У верхняй частцы алтарнай сцяны намаляваны інтэр'ер паўратонды, накрытай купалам, яе сцены падзелены калонамі і прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Перад ратондай — цыліндрычнае скляпенне на падпружных арках з плафонам-небасхілам, на якім лунаюць анёлы з гербамі фундатараў. Намаляваныя архітэктурныя формы аздоблены скульптурнымі выявамі, лепкай і арнаментальнай размалёўкай. У цэнтры — сцэна «Вадохрышча». Кулісныя алтары каля міжнефавых слупоў — барочныя архітэктанічныя кампазіцыі ў выглядзе каланад. У капліцы правага нефа знаходзілася надмагілле Паўла Стафана Сапегі і яго 3 жонак (Рэгіны Халецкай, Альжбеты Веселіні і Кацярыны Гаслоўскай) — выдатны твор рэнесансавай скульптуры, выкананы галандскім скульптарам Вандэнблокам (захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ НАН Беларусі)[3].

Ж ы л ы к о р п у с (часткова разбураны ў 1832) — П-падобны ў плане мураваны 2-павярховы будынак, прымыкае да касцёла з паўднёва-заходняга боку. Да паўночнага вугла далучана 6-гранная вежа. Унутраная планіроўка галерэйнага тыпу з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў. Калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, памяшканні — цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. На 1-м паверсе размяшчалася вялікая трапезная. Фасады і інтэр'ер будынка пазбаўлены дэкору. Выкарыстоўваецца як філіял Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

З в а н і ц а — помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пастаўлена перад касцёлам у 1-й палавіне 19 ст. Вырашана 2-ярусная 4-гранная вежай пад шатровым пакрыццём. Першы ярус — арачны праезд-брама, другі — званіца, адкрытая арачнымі прасветамі. У архітэктурна-стылёвым вырашэнні выкарыстаны элементы дарычнага ордэра.

[1] Кукуня О. Францисканский монастырь в Гольшанах // Каштоўнасці мінуўшчыны. Мн., 2000. № 3. С. 91—97; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 126.

[2] Moreiowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 329.

[3] Jankowski Cz. Powiat Oszmianski. Petersburg-Kraków, 1896. T.1. S. 211.






Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў г. Ганцавічы.

## г. Ганцавічы

Брэсцкай вобласці

## Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

Пабудаваны ў 1999 г. з цэглы.

Вырашаны ў сучасных формах стылізаванай готыкі прамавугольным у плане пад 2-схільным дахам аб'ёмам, да якога далучана ніжэйшая 5-гранная апсіда з бакавымі сакрысціямі. Франтальны фасад надзелены вертыкальнай дамінантай — 4-граннай шатровай вежай-званіцай. Фасады расчлянёны стральчатымі вокнамі-біфорыумамі, над уваходным парталам — круглае акно-ружа.

## в. Ганчары,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У баку ад вёскі, у полі. Пастаўлена ў пачатку 20 ст.

Помнік народнай архітэктурна-мастацкай творчасці. Вырашана скульптурай Маці Божай на кубападобным мураваным пастаменце.



Капліца ў в. Ганчары.

## в. Гарадзец,
Шаркаўшчынскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На ўзгорку пры ўездзе ў былы сядзібна-паркавы комплекс Жабаў—Плятэраў. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 2-яруснай 4-граннай вежай на бутавым падмурку пад шатровым пакрыццём з каваным крыжом. Другі ярус крапаваны вуглавымі паўкалонамі, якія падтрымліваюць шырокі антаблемент, адкрыты арачнымі прасветамі; пастаўлена скульптура Хрыста, які нясе крыж на Галгофу.

Капліца ў в. Гарадзец.



### Капліца

Побач з сядзібным домам Жабаў—Плятэраў. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму і рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам. Плоскасныя фасады крапаваны вуглавымі лапаткамі, апяразаны карнізам простага профілю. Зала перакрыта стральчатым скляпеннем, асветлена бакавымі лучковымі аконнымі праёмамі.

## г.п. Гарадзея,
Нясвіжскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога Юзафа

Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з бутавага каменю як стайня, у 1925 перабудаваны ў касцёл. У 1944 г. згарэў, пасля вайны прыстасаваны пад харчэўню. У 1990-я гг. будынак адноўлены як касцёл (прыбудавана вежа-званіца).



Капліца ў в. Гарадзец.



Касцёл святога Юзафа ў г.п. Гарадзея.



Капліца ў г.п. Гарадзілава.



Капліца ў г.п. Гарадзілава.

Храм вырашаны ў лаканічных формах сучаснай архітэктуры. Да прамавугольнага ў плане аб'ёму пад 2-схільным дахам дабудавана 4-гранная шатровая вежа-званіца, прарэзаная ўверсе арачнымі праёмамі яруса-звона, унізе — арачным уваходным праёмам. Бакавыя фасады рытмічна члянёны высока ўзнятымі невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.



Капліца ў г.п. Гарадзішча Баранавіцкага раёна.



## г.п. Гарадзілава,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Пры дарозе, насупраць могілак. Пастаўлена ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным слупом з шатровым верхам, узнесеным на 4-прыступкавы стылабат. У верхняй частцы грані аформлены абразамі ў арачнай і прамавугольных нішах.

### Капліца

Каля могілак. Пастаўлена ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. На кубападобны пастамент узнесены вертыкальна выцягнуты 4-гранны слуп пад шатровым дашкам. Вуглы крапаваны лапаткамі.

## г.п. Гарадзішча,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

Пры дарозе. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 3-яруснай 4-граннай вежай пад шатровым пакрыццём. Другі ярус крапаваны арачнымі нішамі, трэцці — адкрыты арачнымі прасветамі, пад яго скляпеннем пастаўлена скульптура Засмучанага Хрыста.

### Касцёл Маці Божай Ружанцовай

На вул. Міцкевіча. Пабудаваны як уніяцкая царква ў 1640 (1662 ?) г. з цэглы па фундацыі ваяводы Яна Камінскага[1].



Касцёл Маці Божай Ружанцовай у г.п. Гарадзішча Баранавіцкага раёна.

Першы драўляны касцёл пабудаваны ў 1494 г. ў гонар Найсвяцейшай Дзевы Марыі па фундацыі Некраша Валадковіча[2]. Паводле іншых звестак першы храм быў заснаваны Хадкевічамі на ўсход ад старажытнага замка[3]. У цэнтры мястэчка на пагорку была пастаўлена Троіцкая царква. У 17 ст. абодва праваслаўныя храмы прыйшлі ў заняпад. Траян-Пятроўскі побач з рэшткамі праваслаўнай Троіцкай царквы ўзвёў кальвінскі збор. Наступны ўладальнік мястэчка старадубскі маршалак Гаўрыла Керло перантварыў яго ў касцёл. У 1864—66 гг. большасць насельніцтва перайшла ў праваслаўе, касцёл быў закрыты і перададзены праваслаўным, 19.3.1868 г. пераасвячоны ў праваслаўную Троіцкую царкву. Храм знаходзіўся ў дрэнным стане, у канцы 1872 г. новы ўладальнік мястэчка Л.А.Спічакаў звярнуўся да старшыні дэпартамента дзяржаўнай эканоміі генерал-ад'ютанта К.У.Чэўкіна з просьбай аб рамонце і перабудове храма. У студзені 1873 г. губернскі архітэктар С.П.Іваноў стварыў план рэканструкцыі храма. Праект не быў прыняты, над царквой былі надбудаваны з левага боку апсіды вежа-званіца і 5-галоўе ў завяршэнні. У 1874—76 гг. царква перабудавана пры актыўным садзейнічанні губернатара В.І.Чэрыкава, у 1919 г. ператорана ў касцёл. Перабудаваны ў 1930 г., зараз адноўлены.

Помнік архітэктуры барока. Аднанефавы храм з прамавугольным прытворам пад 2-схільным дахам, са скарочанымі крыламі трансепта і паўкруглай апсідай, 2-схільны дах над якой пераходзіць уступам у канічнае пакрыццё. Вертыкальнасць кампазіцыі касцёла падкрэслена магутнымі лапаткамі-пілонамі і высокімі арачнымі аконнымі праёмамі з вонкавымі і ўнутранымі адхіламі. Іх ліштвы ўтоплены ў тоўшчу магутных сцен (шырыня 0,8 м) і аформлены паўкалонамі. Плоскасныя фасады акаймаваны шырокім тонкапрафіляваным карнізам, а нізкі цокаль апрацаваны закругленымі архітэктурнымі абломамі буйных чляненняў. Дынаміку архітэктурнай кампазіцыі ўзмацняе асіметрычна прыбудаваная да паўночнага боку апсіды 3-ярусная (2 васьмерыкі на чацверыку) шатровая званіца. Паміж апсідай і званіцай дабудавана сакрысція. Галоўны ўваход вырашаны арачным праёмам, фланкіраваным лапаткамі, завершаны 2-гранным шчыпцом з люкарнай па цэнтры. У інтэр'еры неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках, апсіда — конхай, каля заходняй сцяны на 2 слупы ўзняты хоры.

---

[1] Zmigrodzki J. Nowogródek i okolice. Nowogródek, 1931. S. 53; *Zyskar J.* Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. 1. S. 346.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 346.

[3] Описание церквей и приходов Минской епархии. I. Новогрудский уезд. Мн., 1879. С.34—40.

## в. Гарадзішча,
Пінскі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл святой Ганны і кляштар бенедыкцінцаў

Пабудаваны ў 1774 г. з цэглы, у 1910 г. адрамантаваны намаганнямі пецярбургскага адваката Алшамоўскага.



Касцёл святой Ганны і кляштар бенедыкцінцаў у в. Гарадзішча Пінскага раёна. Малюнак Н.Орды.

Першы касцёл пабудаваны ў 1659—62 гг. паводле фундацыі ваяводы полацкага Яна Караля Копеца, які запрасіў манахаў-бенедыкцінцаў з г. Монтэ-Касіна ў Італіі[1]. На ўтрыманне кляштара ваявода вылучыў фальваркі Купіцічы, Вулька, Бяла, Вялікія і Малыя Цалковічы. Спачатку былі пабудаваны драўляны касцёл і кляштарны корпус у мясцовасці, абмежаванай р. Ясельдай і воз. Палескім. З 1671 г. па загадзе віленскага біскупа Аляксандра Сапегі касцёл зацверджаны цэнтрам самастойнай дыяцэзіі. Намаганнямі настаяцеля кляштара Станіслава



Касцёл святой Ганны ў в. Гарадзішча Пінскага раёна. Сучасны выгляд.



Будынак кляштара бенедыкцінцаў у в. Гарадзішча Пінскага раёна.

Кашкоўскага ў 1774—75 гг. узведзены мураваныя кляштар і касцёл. У 17 ст. манахі пабудавалі ў маёнтку Сошна драўляны касцёл, а ў 18 ст. ён перайшоў у іх уласнасць[2]. За падтрымку паўстання 1863 г. кляштар скасаваны ў 1864 г. і прададзены дзяржаўнаму казначэйству. Самавольна захоплены прыхаджанамі пасля «Указа о веротерпимости» 1905 г., у сувязі з чым была ўзбуджана крымінальная справа. Набажэнствы ў касцёле адноўлены ў 1907 г. Адрэстаўраваны ў 1910 г. дзякуючы намаганням пецярбургскага адваката Алшамоўскага і ахвяраванням князёўны М.Радзівіл. Касцёл узарваны фашыстамі пры адступленні ў 1944 г., адноўлены ў 1997 г. Кляштар адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1873— 83 гг.

Архітэктура касцёла была вырашана ў стылі барока «наравне с лучшими итальянскими костелами»[3]. Цэнтрычны крыжовы ў плане будынак, да прамавугольнай апсіды якога далучаны 2 нізкія сакрысціі. Крылы планіровачнага крыжа завяршалі фігурныя ўвагнута-пукатыя франтоны, фасады крапаваліся па вуглах слаістымі пілястрамі і апяразваліся тонкапрафіляваным карнізам, прарэзваліся высока ўзнятымі лучковымі аконнымі праёмамі. Сяродкрыжжа 2-схільных дахаў завяршала фігурная барочная вежа (знята ў 1899, адноўлена ў 1920-я гг.).



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Гарадок.

Высокім узроўнем мастацкага афармлення адзначаўся інтэр'ер храма, насычаны архітэктурным дэкорам і сюжэтна-арнаментальным фрэскавым роспісам «добрага італьянскага пісьма», выкананымі ў 1790—1802 гг. Алтар вырашаны насценнай кампазіцыяй з карынфскіх калон і пілястраў, антаблемента, авальных медальёнаў з жывапісам, картушаў. Над ім у паўкруглым тымпане скляпення знаходзілася круглая люкарна-глорыя, акаймаваная сюжэтнай размалёўкай. Па перыметры залы праходзіць магутны крапаваны карніз з акантавым фрызам, сцены крапаваны карынфскімі канэліраванымі пілястрамі, паміж імі запоўнены фрэскавымі пано. Значнай арнаментальнай насычанасцю адметныя скляпенні, ветразі і падпружныя аркі.

Кляштарны будынак — помнік архітэктуры барока, вырашаны лаканічным прамавугольным у плане 2-павярховым аб'ёмам, накрытым вальмавым дахам. Архітэктурны дэкор абмежаваны крапоўкай плоскімі лапаткамі, прамавугольнымі панэлямі, што акаймоўваюць прамавугольныя аконныя праёмы. Перакрыцце — крыжовыя скляпенні на 1-м і плоская столь на 2-м паверхах.

Перад касцёлам пасярод агароджы-аркады стаяла мураваная брама-званіца больш позняга паходжання, вырашаная ў стылі класіцызму. Першы магутны кубападобны ярус меў па цэнтры праязную арку, па баках — аркі-экседры. Другі 4-гранны ярус-звон таксама праразалі высокія аркі. Завяршалася вежавая кампазіцыя фігурным франтонам з круглай люкарнай. У архітэктурным афармленні былі выкарыстаны адзінарныя і падвойныя пілястры, карнізы на дэнтыкулах і сухарыках.

---

[1] Spis kościołow i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 43—44; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T.I. S. 287—290.

[2] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 267.

[3] Адамович С. Ансамбль монастыря бенедиктинцев в Городище под Пинском // Каштоўнасці мінуўшчыны. Мн., 2000. №3. С. 85—91; Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Mińskiej. Warszawa, 1919. S. 26.



## г. Гарадок

Віцебскай вобласці

## Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Вырашаны 2-павярховым будынкам няправільнай 4-граннай планіровачнай канфігурацыі. Накрыты пакатым ламаным шматсхільным дахам. З вуліцы фасад рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і кан-

сольнымі пілонамі на кароткіх калонках у прасценках. Бакавыя плоскасныя фасады асіметрычна прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Гароднікі,
Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На могілках. Пабудавана ў 1864 г. з дрэва. З'яўлялася сямейнай пахавальняй уладальнікаў маёнтка Снядэцкіх. Адлюстравана на малюнку Н.Орды 1876 г. Адрэстаўрыравана ў 1990 г. Побач з капліцай пастаўлена мармуровае надмагілле вядомаму польскаму вучонаму і асветніку А.Снядэцкаму (1768—1838).

Помнік народнага дойлідства. Прамавугольны ў плане зруб з 3-граннай апсідай, над якой агульны 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Франтальны фасад завершаны 4-граннай вежачкай. Ашаляваныя сцены зруба расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і вертыкальнымі брусамі-сцяжкамі ў прасценках. У інтэр'еры над уваходам — хоры.


Капліца Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Гароднікі.

## в. Геранёны,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Ва ўсходняй частцы вёскі, каля дарогі Геранёны—Суботнікі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Чатырохграннае 2-яруснае збудаванне пад пакатым шатровым пакрыццём, завершаным крыжом. Першы ярус вырашаны як маналітны пастамент, другі скразны, раскрыты арачнымі прасветамі. Пад сенню яруса ўстаноўлена драўляная паліхромная скульптура Маці Божай з дзіцем.


Капліца 2-й паловы 19 ст. ў в. Геранёны.

### Капліца

За 1 км на ўсход ад вёскі, на пагорку ў полі. Пастаўлена ў канцы 19 — пачатку 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Вырашана буйнамаштабным па-мастацку каваным крыжам на кубападобным мураваным пастаменце.


Капліца канца 19 — пачатку 20 ст. ў в. Геранёны.

### Касцёл святога біскупа Мікалая

У паўднёва-заходняй частцы вёскі. Узведзены ў 1529 г. з цэглы побач з замкам віленскага ваяводы Альбрэхта Гаштольда як капліца[1]. Каля 1771 г. капітальна перабудаваны (зменена афармленне інтэр'ера). Пасля пажару 1799 г. адноўлены на сродкі мясцовага шляхціца Яна Гераніма Прабоча. У 1859 г. да апсіды сіметрычна прыбудаваны сакрысція і капліца, побач з'явілася званіца; у 1883 г. пры ўваходзе створаны прытвор, у 1890 г. надбудаваны франтон. Адрэстаўрыраваны ў 1928—29 гг. Храм разам з замкам адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1875—77 гг.

Пабудаваны ў стылі барока. Складаецца з прамавугольнага ў плане аб'ёму, 5-граннай апсіды з бакавымі нізкімі квадратнымі сакрысціямі і прытворам. Усе аб'ёмы накрыты 2-схільнымі дахамі, тарцы якіх закрыты прамавугольнымі шчытамі з трохвугольнымі франтонамі. Яруснае нарастанне аб'ёмаў пераходзіць у дамінанту агульнай кампазіцыі — вы-



Касцёл святога біскупа Мікалая ў в. Геранёны.

сокі атык галоўнага фасада, фланкіраванага выступаючымі за межы бакавых фасадаў контрфорсамі. Плоскасныя фасады лаканічна крапаваны лапаткамі і прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, апяразаны прафіляваным карнізам.



Інтэр'ер касцёла святога біскупа Мікалая ў в. Геранёны.



Капліца каля касцёла святога біскупа Мікалая ў в. Геранёны.





Зала касцёла злучана з апсідай арачным прасветам і перакрыта лучковым скляпеннем з арнаментальным роспісам. Пасля пажару 1799 г. інтэр'ер набыў афармленне ў стылі барока. Цэнтральны і 2 бакавыя стукавыя алтары выкананы ў стылі класіцызму. Цэнтральны алтар 2-ярусны, расчлянёны калонамі карынфскага ордэра і аформлены драўлянай паліхромнай скульптурай, гарэльефным і жывапісным абразамі («Укрыжаванне», «Узнясенне», «Бог Саваоф»). Другі ярус алтара запоўнены абразом «Св. Мікалай», завершаны фігурным шчытом са скульптурамі анёлаў. Паміж калонамі пастаўлены драўляныя скульптуры святых апосталаў Пятра і Паўла. Два бакавыя алтары па кампазіцыйнай будове і дэкоры аналагічныя цэнтральнаму. Дэкор аргана (драўляная скульптура Давіда з гуслямі і анёлаў, накладная разьба) у стылі ракако. Сюжэтныя і арнаментальныя матывы размалёўкі сцен і арачных праёмаў выкананы ў 1934 г. мастаком Чарнецкім з Вільні ў стылі «другога ракако». У прасценках у арнаментальных медальёнах выявы евангелістаў. Канфігурацыя хораў захавала барочную крывалінейнасць, арган — ракайльную арнаментыку.

Побач з касцёлам, каля плябаніі ў пачатку 21 ст. пастаўлена к а п л і ц а з цэглы і бетону.

Твор архітэктуры постгістарызму са стылізацыяй сярэдневяковай готыкі. Вертыкальна выцягнутая зграбных прапорцый вежа: на высокім 4-гранным пастаменце на 4 калонках узнесены спічасты шацёр, пад сенню якога пастаўлена скульптура Хрыста. Форма гатычнай стральчатай 3-лопасцевай аркі пад спічастым вімпергам выкарыстана ў канфігурацыі арачных прасветаў 2-га яруса.

---

[1] Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 94.

## в. Гервяты,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1899—1903 гг. з чырвонай цэглы і вапнавых квадраў на сродкі князя Альшэўскага паводле праекта архітэктара А.І.Альшалоўскага на месцы драўлянага касцёла святога Яна Хрысціцеля 1526 г., фундаванага біскупам Янам (з літоўскіх князёў) і аднаўленага пасля пажару 1736 г. віленскім біскупам Т.Зяновічам[1]. Прыпісныя капліцы ў в. Сакалойці і Гіры.

Велічны помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавая базіліка з трансептам і ўзнёслай высотнай вежай на галоўным фасадзе. Яго дынамічны вертыкальны рух узмацнёны бакавымі тэлескапічнымі вежамі лесвічных клетак. Цэнтральны неф накрыты высокім 2-схільным чарапічным дахам, які з дахам трансепта ўтварае крыж, увенчаны металічнай ажурнай шпілепадобнай сігнатуркай. Уздоўж віль-

чыкаў дахаў цягнецца грэбень керамічных гатычных трохлісцікаў. Фасады аздоблены стральчатымі аркатурамі і нішамі, фланкіраваны шматступеньчатымі контрфорсамі з фіяламі і аркбутанамі ў завершы, расчлянёны высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі. Фасадныя плоскасці апрацаваны стральчатымі і прамавугольнымі нішамі. Перспектыўны ўваходны партал фланкіраваны пілонамі з пінаклямі і завершаны вімпергам; вышэй размешчана акно-ружа. Бакавыя фасады ўпрыгожаны аркатурна-зубчастым поясам, антаблемент мае карніз і фрыз са стылізаваным арнаментам у выглядзе 3-ступеньчатых зубцоў. Гатычная графічнасць храма ствараецца кантрастным спалучэннем адкрытай высакаякаснай цаглянай муроўкі і атынкаванага і пабеленага архітэктурнага дэкору. Цокаль будынка абліцаваны гранітнымі плітамі.

Унутры нефы перакрыты крыжовымі нервюрнымі скляпеннямі на стральчатых падпружных арках, якія абапіраюцца на 5 пар магутных калон складанага сячэння. Алтарныя аконныя праёмы запоўнены каляровымі вітражамі. На гатычную стральчатую аркатуру ўзнята галерэя 2-ярусных хораў з парапетам і арганам таго ж стылёвага афармлення. У агульным стылёва-мастацкім кірунку выкананы і галоўны 3-ярусны драўляны алтар. У касцёле знаходзіўся абраз апошняй чвэрці 17 ст. «Унебаўзяцце Марыі (Асунта)».

[1] Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912. S. 185.

## в. Германавічы,

Шаркаўшчынскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Перамянення Гасподняга

У паўночнай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1770—87 гг. з цэглы па фундацыі ўладальніка маёнтка Ігнація Зрыні-Шырына[1]. З 1948 г. закрыты. Перададзены вернікам у 1988 г.

Помнік архітэктуры «віленскага барока». Храм падоўжнай сіметрычна-восевай ярусна нарастаючай да галоўнага фасада кампазіцыі, якую фарміруюць прамавугольны ў плане неф і акруглая апсіда з нізкімі бакавымі сакрысціямі. Франтальны фасад вырашаны пластычнай архітэктурнай кулісай вертыкальна накіраванай кампазіцыі. Ажурнасць і скульптурнасць 5-ярусных чацверыковых вежаў дасягаецца выкарыстаннем скразных лучковых і арачных праёмаў, круглых люкарнаў, вуглавых лапатак, увагнутымі гранямі верхніх ярусаў. Паміж вежамі размешчаны высокі фігурны шчыт з пілястравым порцікам. Пластычна насычаны галоўны фасад кантрастна спалучаецца з плоскаснымі сценамі аснoўнага аб'ёму храма. У архітэктурным дэкоры выкарыстаны лучковыя сандрыкі, рустыка, фігурныя філёнгі, тонкапрафіляваныя карнізы. Уваход афармлены порцікам.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Гервяты.

Унутры неф храма перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках і люнетах высока ўзнятых лучковых аконных праёмаў. Пяцігранная апсіда перакрыта самкнутай рабрыстымі люнетамі конхай і адкрыта шырокім арачным прасветам. Па перыметры зала апяразана антаблементам з прафіляваным карнізам, дэкарыравана ляпнымі выява-



Касцёл Перамянення Гасподняга ў в. Германавічы.



Інтэр'ер касцёла Перамянення Гасподняга ў в. Германавічы.

мі галовак пуцці, раслінным арнаментам, крапавана канеліраванымі пілястрамі, капітэлі якіх дэкарываваны ляпнымі галоўкамі херувімаў і ракайльнымі рагалікамі. Над вузкім нартэксам на 2 слупах, трайной аркадзе і крыжовых скляпеннях узнесены выгнутыя дугой хоры, дэкарыраваныя канеліраванымі пілястрамі (зялёнае стука), паміж якімі ракайльнае пано з ляпнымі выявамі музычных інструментаў. Цэнтральны і 2 вуглавыя стукавыя алтары вырашаны 3-ярусная барочнай кампазіцыяй з выгнутымі прафіляванымі карнізнымі паясамі на карынфскіх калонах. Авальная люкарна ў верхнім ярусе цэнтральнага алтара запоўнена вітражнай кампазіцыяй «Перамяненне Гасподняе». На правай пілястры прэсбітэрыя навешаны амбон пластычна выгнутай барочнай формы, над якім купальны балдахін; дэкарыраваны ляпнымі гірляндамі, ламбрэкенамі. Убранне інтэр'ера дапаўняе арнаментальна-раслінная размалёўка верхняй часткі сцен і падпружных арак.

[1] Lorentz S. Wycieczki po województwie Wileńskiem. Wilno, 1932. S. 63; Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Wileńskiej. Warszawa, 1919. S. 17.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Германішкі.

## в. Германішкі,
Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1909 г. з бутавага каменю. Закрыты ў 1965 г., вернуты парафіянам у 1987 г., асвячоны 17.6.2000 г. Абкружаны бутавай агароджай з 3-пралётнай брамай.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму з фронта далучана 3-ярусная (васьмярык на 2 чацверыках) шатровая званіца (надбудавана ў 1920-я гг.). Выцягнутая 5-гранная апсіда, аб'яднаная з асноўным аб'ёмам агульным дахам, мае бакавыя нізкія сакрысціі. На паліхромных сценах графічна вылучаюцца атынкаваныя і пабеленыя элементы архітэктурнага дэкору — прафіляваныя ліштвы стральчатых аконных праёмаў, карнізы і вуглавыя лапаткі.

У кутку бутавай агароджы касцёла к а п л і ц а. Узведзена ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай вежай пад акруглым скляпеннем з крыжом у завяршэнні. Атынкаваныя грані раскрапаваны ў 2 ярусы прамавугольнымі нішамі, апразаны 3-абломным карнізам.

## в. Гінавічы
Гродзенскага раёна

## Капліца

У паўночна-заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1997 г. з бутавага каменю намаганнямі мясцовага жыхара. Бетаніраваная пляцоўка капліцы акаймавана бутавай агароджай.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане сплошчаным аб'ёмам з 2-гранным завяршэннем; з тыльнага боку прыбудавана нізкая камора. Франтальная плоскасць завершана абразом Мадонны, па цэнтры ўмураваны мармуровыя пліты з выявамі Хрыста і Маці Божай, мемарыяльныя дошкі з імёнамі фундатараў. У аснаванні фасада аплікацыйныя металічныя выявы ўкленчаных архангелаў.



Капліца ў в. Гінавічы.



Капліца ў в. Гірстуны.



Капліца святога Іосіфа Рамесніка ў в. Гінавічы.

## Капліца святога Юзафа Рамесніка

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1997 г. з цэглы.

Вырашаны кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам; да бакавога фасада далучана сакрысція пад 1-схільным пакрыццём. Франтальны фасад завершаны трохвугольным франтонам з крыжом, над арачным уваходным праёмам навісае металічны балкончык. Бакавыя плоскасныя фасады расчлянёны 2 парамі арачных аконных праёмаў, акаймаваны рэльефнымі броўкамі.

# в. Гірстуны,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў пачатку 21 ст. з цэглы і бетону.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай тумбай з акруглым завяршэннем, пастаўленай на ўвагнуты пастамент. Франтальная грань крапавана лучковай нішай з бакавымі паўкалонкамі, запоўненай сюжэтнай размалёўкай. На заднім плане пастаўлены высокі крыж з металічнай выявай укрыжаванага Хрыста.

# в. Гіры,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Святой Сям'і

На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства з рысамі класіцызму. Вырашана прамавугольным зрубам пад 2-схільным дахам, вынасны трохвугольны франтон якога на фасадзе падтрыманы 4 слупамі, што імітуе своеасаблівы порцік. На франтоне на фоне гарызантальна ашаляванага тымпана размешчана драўляная скульптура Укрыжаванне.



Капліца 19 ст. ў в. Гіры.

## Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з цэглы.



Капліца канца 20 ст. ў в. Гіры.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана ўзнятым на прамавугольны подыум 2-ярусным 4-гранным слупом пад шатровым пакрыццём з крыжом у завяршэнні. Франтальныя грані крапаваны прамавугольнымі нішамі з іканаграфічнымі выявамі.

## в. Глебавічы,

Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святой Ганны

За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на ўзгорку ў полі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы. Пасля 1864 г. перададзена праваслаўным. Вернута каталікам у 1922 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны закрыта. Адноўлена ў 1990-я гг.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе драўлянай 4-граннай шатровай сігнатуркай. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі. Фасад завершаны трохвугольным усечаным франтонам, па восі прарэзаны прамавугольным уваходным праёмам і лучковым акном над ім.

Унутры зала перакрыта плоскай атынкаванай столлю, падлога выкладзена керамічнай пліткай.



Капліца святой Ганны ў в. Глебавічы.

Цэнтральны драўляны алтар вырашаны ў стылі неакласіцызму, у цэнтры абраз св. Ганны. Злева на сцяне абраз Найсвяцейшага Сэрца Дзевы Марыі, справа — Найсвяцейшага Сэрца Ісуса.

Побач з касцёлам у пачатку 21 ст. пастаўлена капліца «Грот Марыі» з бутавага каменю. Твор народнага дойлідства. Вырашана бутавым гротам з арачнай нішай-экседрай у верхняй частцы франтальнага фасада, у якой пастаўлена гіпсавая паліхромная скульптура Маці Божай.

## г. Глыбокае

Віцебскай вобласці

### Капліца святога Антонія

Ва ўсходняй частцы горада, на Капцёўскіх могілках. Пабудавана кармелітамі ў пачатку 19 ст. з цэглы як капліца св. Антонія[1].

Помнік архітэктуры класіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам, які на галоўным і тыльным фасадах вылучаны трохвугольнымі франтонамі. Франтон галоўнага фасада завершаны 4-граннай званічкай. Атынкаваныя фасады расшыты пад квадравую муроўку і крапаваны пілястрамі, апяразаны карнізным поясам. Унутры малітоўная зала перакрыта плоскай столлю, над уваходм раз-



Капліца святога Антонія ў г. Глыбокае.



Капліца ў г. Глыбокае.

мешчаны хоры. Сцены мелі фрэскавы роспіс (затынкаваны ў 1930-х гг.).

[1] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство. 1980. № 28. С. 121, 127.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У гістарычным цэнтры горада на штучнай насыпной пляцоўцы. Пабудаваны ў 1764—82 гг. з цэглы на месцы прыходскага храма 1628 г., фундаванага ваяводам мсціслаўскім і дзісненскім старостам І.Л.Корсакам. Асвячоны ў 1783 г. біскупам П.Тачылоўскім[1]. У 1902—08 гг. перабудаваны архітэктарам Ю.Заро.

Помнік архітэктуры позняга барока. Першапачаткова меў выгляд 1-нефавага 2-вежавага храма з выцягнутай паўкруглай апсідай. У выніку перабудовы да яго далучаны трансепт, бакавыя нефы і сакрысціі, што надало будынку аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю 3-нефавай крыжовай базілікі. Галоўны фасад насычаны архітэктурнай пластыкай: вязкамі вытанчаных пілястраў, хвалістымі крапаванымі карнізамі, фігурнымі арачнымі праёмамі, высокім франтонам з валютамі па баках і скульптурай «Укрыжаванне» ў арачным праёме. Фасад быў фланкіраваны 2 невысокімі вежамі, якія пры перабудове былі павялічаны на 2 ярусы і набылі, як і цэнтральны фігурны франтон, выцягнутыя вертыкальныя прапорцыі. Фігурным франтонам увенчана і алтарная сцяна храма. Сцены раскрапаваны пілястрамі і карнізнымі паясамі, прарэзаны вялікімі арачнымі аконнымі праёмамі.

У інтэр'еры цэнтральны неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках, бакавыя — крыжовымі. Сцены крапаваны пілястрамі і карнізным поясам. Над нішамі бакавых нефаў невялікія арнаментальныя ўстаўкі ў вохрыста-аліўкавай гаме. Тры драўляныя разныя алтары выкананы ў стылі барока. Цэнтральны ў 1-м ярусе вырашаны карынфскай каланадай з дынамічна раскрапаваным антаблементам, скульптурнымі паліхромнымі постацямі святых апосталаў Пятра і Паўла і іерархаў касцёла па баках. Другі ярус уяўляе сабой прамавугольны шчыт з абразом пачатку 18 ст. «Маці Божая Адзігітрыя»; завершаны гарэльефнай кампазіцыяй «Глорыя з анёламі». Фератрон «Маці Божая Замілаванне» і «Юзаф з дзіцем» (пачатак 18 ст.), абраз «Святая Сям'я» (1730-я гг.). Над нартэксам хоры з арганам у стылі неаготыкі.

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 54.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г. Глыбокае.



Алтар касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў г. Глыбокае.



## в. Гнезна,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл святога архангела Міхаіла



Касцёл святога архангела Міхаіла ў в. Гнезна.



Інтэр'ер касцёла святога архангела Міхаіла ў в. Гнезна.



У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1524 (1527 ?) г. з цэглы ўладальнікамі маёнтка Янам Шамятовічам і яго жонкай Альжбетай на месцы драўлянага храма[1].

На ўтрыманне касцёла ў фундушы быў замацаваны маёнтак, з якога давалася «штогод з двух двароў дзесяціны ўсялякага збожжа на вечныя часы». У 1555 г. пратэстант Геранім Хадкевіч пераабсталяваў касцёл у кальвінскі збор, якім ён быў да 1643 г. У часы Контррэфармацыі пасля судовай справы храм вернуты каталікам. У 1718 г. рамантаваўся арандатарам маёнтка Я.Трапінскім і старостам касцёла С.Гарбоўскім. Паўночная вайна пачатку 18 ст. і вайна 1812 г. пакінулі на ім меткі — на галоўным фасадзе ўмуравана ядро, ёсць і сляды гарматнага абстрэлу. Касцёл пацярпеў ад пажару 1838 г. (згарэла ўсё драўлянае абсталяванне). У 1844 г. намаганнямі ўладальніка маёнтка Г.Тарасевіча храм адбудаваны. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1877 г., які адзначае выціснутую на цагліне дату «1121»[2]. На пачатку 20 ст. касцёл зведаў шэраг перабудоў. У 1901—02 гг. падлога выкладзена тэракотавымі пліткамі, замураваны ўваход у крыпту[3]. У 1924 г. быў створаны камітэт па рэстаўрацыі касцёла. Работы расцягнуліся на 8 гадоў: у 1925 г. капітальна адрамантавана мураваная агароджа (узведзена ў пачатку 19 ст.), у 1926 г. адноўлены 2 брамы — з боку галоўнага фасада і ад плябаніі. На працягу наступных 3 гадоў устаноўлены новыя кроквы, перакладзена дахоўка, пабелены сцены, пафарбавана столь, дабудаваны верхні ярус вежы. У 1930—32 гг. рэстаўрыраваны паводле праекта архітэктара Т.Плюцынскага з прыўнясеннем рыс неагатычнага стылю. У 1989 г. перададзены вернікам. На цвінтары захавалася некалькі скляпоў-пахавальняў мясцовай знаці — Тарасевічаў, Ельскіх, Калупаяў.

Храм — архітэктурны рарытэт беларускай позняй готыкі з элементамі рэнесансу. Прамавугольны прысадзісты асноўны аб'ём пераходзіць у 3-гранную апсіду і накрыты агульным чарапічным дахам. Шатровая вежа-званіца, прыбудаваная пазней на фасадзе, сугучная традыцыйнаму васьмерыку на чацверыку праваслаўных храмаў, але ўвасабляе вертыкальны гатычны рух. Тарэц даху на галоўным фасадзе закрыты ступеньчатым атыкам. Сцены ўмацаваны контрфорсамі, завершанымі ступеньчатымі кансолямі. Такія ж кансолі завяршаюць архітэктурныя элементы на верхнім ярусе вежы. Галоўны фасад аздоблены плоскімі нішамі і аркамі рознага абрысу. Уваход аформлены арачным парталам, абапал якога плоскія стральчатыя аркі. Верхняя частка прытвора і сцен асноўнага аб'ёму прарэзаны 2 радамі невялікіх квадратных праёмаў-прадухаў. Вежа завершана тонкапрафіляваным карнізным поясам. У яе аснове — 3 паўцыркульныя аконныя праёмы з плоскімі кілепадобнымі аркамі. На бакавых фасадах паміж гранёнымі контрфорсамі размешчаны высокія стральчатыя аконныя праёмы, фланкіраваныя 2 плоскімі прамавугольнымі нішамі. У 1787 г. з паўднёвага боку да нефа была прыбудавана сакрысція, у 1876 г. — яшчэ адна. У дэкаратыўным аздабленні спалучаюцца формы позняй готыкі (плоскія нішы ў выглядзе кілепадобных і вісячых арак, стральчатыя аркі парталаў і аконных праёмаў) і элементаў рэнесансу (прафіляваныя карнізы, паўцыркульныя завяршэнні праёмаў вежы).

У інвентары 1679 г. адзначана, што ўнутры храм быў перакрыты плоскай драўлянай столлю на 12 слупах. Інтэр'ер упрыгожвалі 4 алтары: св. Міхаіла, св. Яўстафія, Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі, св. Ганны. Галоўны алтар выкананы ў 1890-я гг. ў стылі неаготыкі, гранёнымі контрфорсамі расчлянёны на 3 часткі і завершаны фрызам з круглымі

люкарнамі. Па цэнтры ў стральчатай арцы размешчаны абраз «Мадонна з дзіцем» — копія «Сіксцінскай Мадонны» Рафаэля, выкананая мастаком В.Ясінскім. Бакавыя аркі запоўнены скульптурамі святых. Драўляныя хоры з арганам у 1901—02 гг. заменены цаглянымі, узнесенымі на 2 «прыгожыя візантыйскія калоны з аркамі», над дзвярамі ў сакрысцію навесілі амбон. Пад храмам скляпеністая крыпта, у якой хавалі спачатку кальвіністаў, потым католікаў і вядомых шляхціцаў. Склеп меў 2 уваходы — у цэнтры залы і за алтаром.

Капліца. У бутавай агароджы касцёла. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Помнік архітэктуры гістарызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане павільёнам пад 2-схільным дахам. Франтальны фасад прарэзаны шырокім арачным перспектыўным прасветам на тонкіх калонках (візантыйская рэмінісцэнцыя), бакавыя фасады ўмацаваны адзінкавымі пілонамі-контрфорсамі (рудыменты рэтраготыкі). Унутры алтарная сцяна прарэзана крыжовым акенцам; на бакавых сценах 2 мемарыяльныя гербавыя дошкі («Фердынанд Калупайла. Жыў 47 год. Памёр у маі 1878 г. Юлія Талочка з Калупайлаў. Жыла 57 год. Памерла 12 красавіка 1897 г.», «Марыя з Калупайлаў Маньчынская. Жыла 50 год. Памерла 12 ліпеня 1907 г.»). Каля ўвахода пастаўлена скульптура жанчыны ў жалобе.

Капліца. У кутку бутавай агароджы касцёла. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам з крыжом над трохвугольным франтонам фасада. Плоскасныя сцены прарэзаны вертыкальна выцянутымі прамавугольнымі ўваходным і 2 бакавымі аконнымі праёмамі.

Капліца. На тэрыторыі касцёла. Пастаўлена ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы на прамавугольнай пляцоўцы, акаймаванай парапетам з вапнавых квадраў і металічнай агароджай на слупах. Помнік мемарыяльнай архітэктуры неакласіцызму. Вырашана масіўным 4-гранным абеліскам на прамавугольным у сячэнні п'едэстале, крапаванымі вугламі мармуровымі лапаткамі. У завяршэнні металічны крыж на шарападобнай «дзяржаве» (чыгуннае ліццё). На пляцоўцы надмагільныя пліты (лабрадарыт і пясчанік) 1898, 1903, 1911 і 1912 гг.

---

[1] Пярвышын У.М. Помнікі Гнезна. Гісторыка-архітэктурны нарыс. Мн., 1991. С. 5; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993.

[2] Katalog rysunków architektonicznych ze zbiorów Muzeum narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975.

[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 747, арк. 32.

## в. Гняздзілава,

Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

У паўднёвай частцы вёскі, у былой сядзібе. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва як пахавальня.



Капліца каля касцёла святога архангела Міхаіла ў в. Гнезна.



Капліца каля касцёла святога архангела Міхаіла ў в. Гнезна.



Капліца каля касцёла святога архангела Міхаіла ў в. Гнезна.



Капліца ў в. Гняздзілава.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Гожа.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 8-граннай ратондай пад шлемападобным купалам з ліхтаром (не захаваўся). Франтальныя грані прарэзаны прамавугольнымі ўваходным і 2 аконнымі праёмамі. У дэкоры выкарыстана вуглавая рустоўка і фрыз з разеткамі. Пад капліцай крыпта.



## в. Гожа
Гродзенскага раёна

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1862—65 гг. з бутавага каменю[1]. Асвячоны ў 1927 г. архібіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім. У Вялікую Айчынную вайну спалены. Адрэстаўрыраваны. Абкружаны нізкай мураванай агароджай з брамай.

Галоўны фасад вырашаны цэнтральным 2-схільным шчыпцом і шатрамі бакавых (васьмярык на чацверыку) вежаў. Іх гатычныя спічастыя завяршэнні надаюць яму дынамічны сілуэт, вертыкальную кампазіцыйную скіраванасць. Вось сіметрыі фасада выразна падкрэслена высокім і вузкім стральчатым перспектыўным парталам, які аб'ядноўвае сваёй прафіляванай і пабеленай аркай прамавугольны ўваходны праём і акно хораў. Над парталам размешчана ляпная і пабеленая выява «Усёбачнае Вока». Стральчатыя нішы са спічастым абрамленнем і аркатурны фрыз выклікаюць асацыяцыі са старажытнай саборнай готыкай. Спалучэннем адкрытай ружовай бутавай муроўкі і белых атынкаваных элементаў дэкору дасягнута каларыстычная выразнасць.

Шэсць квадратных у сячэнні слупоў дзеляць залу храма на 3 нефы, цэнтральны з якіх павялічаны і падоўжаны ў вылучаную бакавымі сакрысціямі апсіду. Сцены крапаваны пілястрамі.

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 2, воп. 38, спр. 631.

## г. Гомель

### Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Пабудаваны ў канцы 20 ст. з цэглы, асвячоны 9.12.2000 г. кардыналам Казімірам Свёнтакам.

Вырашаны развітой дынамічна-асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй, у аснове якой працяглы неф пад 2-схільным дахам, які пераходзіць у шатровы над 3-граннай апсідай. Да фасада асіметрычна далучана 5-ярусная 4-гранная шатровая вежа-званіца — вертыкальная дамінанта кампазіцыі, крапаваная арачнымі нішамі і прасветамі ў верхнім ярусе-звоне. Другая дамінанта — 2-ярусная 4-гранная шатровая вежа пастаўлена ў вугле злучэння працяглага крыла трансепта і апсіды. Фасады расчлянёны ў 2 ярусы прамавугольнымі і арачнымі аконнымі праёмамі.



Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Гомель.

## в. Градаўшчына,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога Андрэя Баболі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1938—39 гг. з дрэва, адрамантаваны ў 1980-я гг., асвячоны 16.5.1994 г.

Помнік архітэктуры стылю мадэрн. Прамавугольны зруб нефа пераходзіць у 5-гранную апсіду, перакрыты высокім 2-схільным дахам і ўмацаваны брусамі-сцяжкамі ў прасценках высокіх прамавугольных аконных праёмаў. Над вальмавым пакрыццём апсіды ўзвышаецца сігнатурка. Галоўны фасад завершаны 2-гранным шчыпцом з 2-яруснай чацверыковай шатровай вежай, крапаваны бакавымі рызалітамі. Шчыпец мае лучковую нішу з драўлянай скульптурай Мадонны. Да галоўнага фасада прыбудаваны прытвор з арачным уваходам. Уздоўж бакавых падоўжных фасадаў праходзяць адкрытыя слуповыя галерэі-гульбішчы. Прасторная зала перакрыта плоскай столлю, пры ўваходзе — галерэя хораў. Сцены аформлены фігурнай шалёўкай. У апсідзе разны алтар у выглядзе трыумфальнай аркі.



Касцёл святога Андрэя Баболі ў в. Градаўшчына.

## в. Грандзічы

Гродзенскага раёна

### Капліца святога Роха

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1906—10 гг. з цэглы на месцы драўлянага храма (адзначаны ў 1840) паводле праекта гродзенскага губернскага архітэктара У.А.Срокі[1]. Закрыта ў 1961 г. (прыстасавана пад склад), вернута ў 1990 г., адбудавана ў 1992 г., перабудавана ў 2002—2003 гг. Прыпісана да гродзенскага фарнага касцёла.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Кампактны прамавугольны ў плане будынак пад 2-схільным дахам з вальмамі над 3-граннай апсідай. Бакавыя прамавугольныя крылы трансепта пад вальмавымі дахамі дабудаваны ў канцы 20 ст. У шчыпец галоўнага фасада ўбудавана 4-гранная вежачка для звона і крыжа. Элементы архітэктурнага дэкору — стральчатыя нішы, вокны і праёмы, 2-ступеньчатыя контрфорсы — выкананы якаснай адкрытай муроўкай з жоўтай цэглы. Над уваходам навісае балкончык, злучаны дзвярамі-акном з хорамі.

Малітоўная зала перакрыта стральчатым, апсіда самкнутым корабавым скляпеннямі. У ёй пастаўлены невялікі драўляны неагатычны алтар, па баках якога стральчатыя акенцы, запоўненыя каляровымі сюжэтнымі вітражамі. Антрэсоль хораў узнята пад скляпенне шырокім арачным прасветам, амбежавана рэльефнай балюстрадай.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 1842, арк. 2—5.



Капліца святога Роха ў в. Грандзічы.




Праект капліцы святога Роха ў в. Грандзічы.

## в. Граўжышкі,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Маці Божай Ружанцовай





Капліца Маці Божай Ружанцовай у в. Граўжышкі. Канец 20 ст.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Граўжышкі. 2-я пал. 18 ст.

На ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудаваны ў канцы 20 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над фасадам 4-граннай шатровай сігнатуркай. Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. з дрэва на месцы храма, фундаванага ў 1495 г. ўладальнікам маёнтка Мікалаем Бутрымам (адбудоўваўся ў 1640-я гг.). Закрыты ў 1951 г. (прыстасаваны пад свіран), знаходзіцца ў паўзруйнаваным стане. Побач з касцёлам стаіць чацверыковая 3-ярусная драўляная званіца. Будынкі абнесены бутавай агароджай.

Помнік народнага дойлідства з рысамі барока. Асноўны зруб меў складаную планіровачную форму з выступаючымі крыламі трансепта і бакавымі званіцамі, прыбудаванай вялікай 5-граннай апсідай з бакавымі сакрысціямі. Яны былі аб'яднаны адзіным 2-схільным гонтавым дахам, які над апсідай перахо-



дзіў у вальмавы і выходзіў на галоўны фасад вялікім трохвугольным франтонам з шырокім карнізам. Бакавыя вертыкальна ашаляваныя сцены ўмацоўвалі вертыкальныя брусы-сцяжкі і апяразваліся карнізам. У верхняй частцы сцен былі лучковыя аконныя праёмы з прычолкамі на разных кранштэйнах.

Цэнтральная частка малітоўнай залы аб'ядноўвалася з апсідай люстраным скляпеннем. Плоская столь бакавых частак падтрымлівалася 2 слупамі, сцены вертыкальна ашаляваны. Папярочная бэлька ў алтарным праёме была ўпрыгожана разным рэльефным арнаментам у выглядзе вінаграднай галінкі. Мастацка-дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — 3 драўляныя барочныя алтары.

[1] Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912. S. 197—198; Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Petersburg-Kraków, 1896. T.1; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. Wilno, 1909.

# г. Гродна

## Капліца

На вул. Белуша, на вайсковых могілках. Узведзена ў 1896 г. як пахавальня генерал-маёра рускай арміі, маршалка Гродзенскага павета, шаноўнага міравога суддзі Гродзенскай акругі А.А.Русау (1834—96)[1].

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Цэнтрычная, квадратная ў плане цагляная пабудова накрыта чатырохгранным чарапічным шатром са слыхавымі вокнамі. Грані прарэзаны стральчатымі вокнамі і завершаны двухграннымі шчыпцамі з крэмальернымі фрызамі, круглымі разеткамі з гатычным спляценнем крат, крыжамі на пастаментах. Вуглы цэнтрычнага аб'ёму ўмацаваны двухступеньчатымі контрфорсамі-пілонамі, завер-



Капліца на вул. Белуша ў г. Гродна.

шанымі чатырохграннымі шатровымі фіяламі. Стральчаты ўваходны партал з каванымі дзвярамі, як і аконныя ліштвы, мае перспектыўны выгляд. Архітэктурныя абломы (выкружкі, карнізы, цягі, нішы) эфектна выкананы сродкамі высакаякаснай мастацкай цаглянай муроўкі. Унутры на алтарнай сцяне ўмуравана чыгунная мемарыяльная пліта. Камора капліцы перакрыта сферычным скляпеннем, сцены крапаваны аркамі.

[1] Пальчевский Г. Гродненскому мемориальному военному кладбищу — 100 лет // Гродненская неделя. 24—30 декабря 1998 г.

## Капліца

На вул. Антонава (былой Іерусалімскай), на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1906—07 гг. з цэглы. Спраектавана архітэктарамі У.А.Срокай і І. Фірморам (званіца).

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Кампактны прамавугольны ў плане з паўкруглай апсідай аб'ём, завершаны на галоўным фасадзе чацверыковай званіцай у цэнтры філёнгавага парапета з вуглавымі пінаклямі. Фасад крапаваны 4 пілястрамі з рустам унізе і завершаны шырокім антаблементам. Глыбокая ніша ўвахода аформлена архаічным 2-пілонным парталам з замкавым каменем «ізумруднага» руста. Над парталам арачны праём хораў, які выходзіць на балкончык з каванай агароджай антычнага меандравага арнаменту. Будынак накрыты 2-схільным дахам, скругленым над апсідай. Бакавыя фасады прарэзаны 2 парамі высока ўзнятых паўкруглых люкарнаў у плоскіх ліштвах.

У перакрытую плоскай столлю залу выступае вузкая галерэя хораў з драўлянай балюстрадай. Пад ёй вылучаны 2 клеці — адна з вінтавой лесвіцай на званіцу, другая — уваход у склеп-пахавальню.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 1903, арк. 12; спр. 1585, арк. 15.

## Капліца

На вул. Перамогі, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1854 г. з цэглы і бутавага каменю разам з 2-яруснай шатровай званіцай на сродкі пана Якуба Румеля. У пасляваенныя гады зачынена, у 1990-я гг. адноўлена.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай, узняты на 3-ступеньчаты стылабат. Галоўны фасад вырашаны 4-калонным тасканскім порцікам з трохвугольным франтонам. Пад спрошчаным антаблементам — прамавугольны праём уваxода. Плоскія бакавыя фасады (таўшчыня сцен 0,8 м) вылучаны ў цэнтры квадратнымі аконнымі праёмамі. Па перыметры будынка цяга і прафіляваны карніз.



Капліца на вул. Антонава ў г. Гродна.

Капліца на вул. Перамогі ў г. Гродна.



Прамавугольная зала перакрыта плоскай столлю. Над мураваным алтаром — укрыжаванне. Пад алтарнай часткай склеп-пахавальня. Злева ад капліцы пабудавана 2-ярусная шатровая званіца з цэглы (цяпер атынкавана).

## Капліца святых апосталаў Пятра і Паўла

У занёманскай частцы Гродна (вул. Рэпіна). Была пабудавана ў 1818—21 гг. з цэглы па фундацыі графа Кароля Медэма пры сядзібна-паркавай рэ-



Капліца святых апосталаў Пятра і Паўла ў г. Гродна.

зідэнцыі маёнтка Аўгустова, пажалаванага ў 1797 г. генералу ад інфантэрыі графу Маўрыкію Пятровічу Дэ Ланці[1]. З'яўлялася фамільным маўзалеем-пахавальняй, была прыпісана да касцёла Маці Божай Анёльскай францысканскага кляштара г. Гродна[2]. Па ідэі фундатара капліца павінна была нагадваць сабор св. Пятра ў Рыме. Зруйнавана разам з сядзібай у Першую сусветную вайну (1915)[3]. Аднаўлена ў 1996—98 гг. паводле праекта, распрацаванага архітэктурна-канструктарскім бюро С.Шэйко.

Помнік архітэктуры класіцызму. Цэнтрычнае квадратнае ў плане збудаванне, накрытае паўсферычным купалам з ліхтаром з крыжом. Па перыметры кубападобны аб'ём акаймаваны дарычным (трыгліфным з метопамі) фрызам і карнізам на дэнтыкулах. Метопы запаўняліся ўтопленым у рошчыну рознакаляровым шчэбнем, што стварала маляўнічы пояс на фоне белай тынкоўкі сцен. Прамавугольны ўваходны партал размешчаны ў нішы, фланкіраванай дзвюма калонамі; па баках паўкруглыя люкарны. Зала капліцы (першапачаткова мела форму ратонды) перакрыта сферычным купалам, сцены крапаваны нішамі-экседрамі, прасценкі — канелюраванымі пілястрамі. У алтары быў размешчаны абраз «Маці Божая», па баках якога стаялі скульптуры святых апосталаў Пятра і Паўла ў поўны рост. Пад капліцай крыпта, у якой былі пахаванні рода Ланці. Капліца акаймавана муравай агароджай з брамай-званіцай (2-ярусная з лучковым праездам і прамавугольнымі прасветамі яруса-звона).

[1] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство. 1980. № 28. С. 127—128; Aftanazy R. Materiały do dziejów rezydencji. Warszawa, 1987. T. IIIb. S. 9; НГАБ у г. Гродна, ф. 96, воп. 1, спр. 1205, арк. 2 об.

[2] Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajow slowianskich. Warszawa, 1889. T. 1. S. 54.

[3] Hirszel St. Z. Przyczynki do monografji pow. Grodzieńskiego. Grodno, 1923. S. 26.



Касцёл Адшукання Святога Крыжа і кляштар бернардзінцаў у г. Гродна.



Інтэр'ер касцёла Адшукання Святога Крыжа ў г. Гродна.



## Касцёл Адшукання Святога Крыжа і кляштар бернардзінцаў

На высокім правым беразе р. Нёман, дамінанта архітэктурнай панарамы гістарычнага цэнтра Гродна. Пабудаваны ў 16—18 ст. Касцёл — аснова буйнога асіметрычнага па кампазіцыі архітэктурнага комплекса, які разам з жылым корпусам утварае ўнутраны замкнёны двор.

Першы драўляны кляштар заснаваны ў 1494 г. па фундацыі вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка на месцы колішняга каралеўскага палаца. Фундацыя пацверджана ў 1586 г. каралём Рэчы Паспалітай Стафанам Баторыем. Мураваны кляштар пабудаваны ў 1595—1618 гг. на зямлі, ахвяраванай ордэну Г.Друцкай-Сакалінскай і Я.Тарасевічам[1]. Закладку першага каменя касцёла ў 1602 г. асвяціў віленскі біскуп Б.Война. Збудаваны на сродкі караля Жыгімонта III Вазы, Л.Сапегі, Е.Валовіча і інш., храм асвяціў 13.5.1618 г. біскуп Я.Валовіч[2]. Дабу-

доўваўся пасля пажараў 1656 г. і 1753 г. У 1680 г. перакрыта страха касцёла, рэканструяваны алтар св. Антонія, пабудавана капліца св. Барбары; у 1736 г. перабудаваны алтары святых Міхаіла, Бонавентуры, Ануфрыя, Пятра з Алькантары; у 1738 г. рэканструявана званіца. У 1754 г. і 1759 г. для касцёла адліты 2 званы, у 1788 г. архітэктар Ф.Міхалкевіч зрабіў вытанчанае завяршэнне званіцы.

У 1682 г. 30 манахаў кляштара ажыццяўлялі пастырскую апеку над кляштарамі бернардзінак і брыгітак, дзе служылі капеланамі і духоўнікамі. У 17—18 ст. тут збіраліся павятовыя сеймікі. У пачатку 19 ст. пры кляштары працавала прыватная пачатковая школа. У 1677 г. з Нясвіжа пераведзены філасофскія курсы, першымі лектарамі якіх былі А.Раскаховіус і Я.Лаўрыновіч.

У 1852 г., калі ксяндзом-настаяцелем касцёла быў А.Гінтаўт-Дзевалтоўскі, кляштар скасаваны па загаду імператара Аляксандра II: «Монастырь этот закрыть, переведя монахов в другие обители ордена, церковь же сего монастыря, по многочисленности прихожан, оставить приходскою»[3]. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды (2-я палавіна 19 ст.). У касцёле вянчалася польская пісьменніца Э.Ажэшка. Пэўны час у кляштары размяшчаліся розныя цывільныя ўстановы; у 1868 г. перададзены ваеннаму ведамству. У 1990 г. кляштарны комплекс вернуты рымска-каталіцкай царкве, у ім знаходзіцца Вышэйшая рымска-каталіцкая духоўная семінарыя.

Касцёл — помнік архітэктуры ранняга барока, у аснову якога пакладзена кампазіцыя рымскага езуіцкага касцёла Іль Джэзу. Трохнефавая 6-стоўпная базіліка з вялікай паўцыркульнай апсідай і 2 сакрысціямі атрымала нестандартную асіметрычную прасторавую будову. Двух'ярусны галоўны фасад пластычна раскрапаваны развітым антаблементам, дынамічна згрупаванымі пілястрамі вытанчанага карынфскага ордэра, арачнымі нішамі і завершаны трохвугольным франтонам, які прыкрывае 2-схільны дах цэнтральнага аб'ёму храма. Дынамічны рух архітэктурным масам надае асіметрычна дабудаваная да паўднёвага боку фасада вежа-званіца, 2 верхнія ярусы якой надбудаваны ў 1788 г. архітэктарам Л.Грынцэвічам і выкананы ў вытанчаных пластычных формах ракако: вертыкальна выцягнутыя прапорцыі, вуглавая крапоўка калонкамі і валютамі, фігурны купал з igольчастым шпілем[4]. Сцены бакавых фасадаў вырашаны больш стрымана і сціпла — расчлянёны пілястрамі і парнымі арачнымі аконнымі праёмамі. У архітэктуры касцёла спалучаюцца элементы готыкі (контрфорсы і высокія стральчатыя вокны ў апсідзе і на бакавых фасадах, нервюры скляпенняў), рэнесансу, ранняга (плоскаснае вырашэнне галоўнага фасада з крывалінейным сілуэтам верхняга яруса і дынамічнай групоўкай ордэра) і позняга барока.

Вялікая прастора храма 6 слупамі падзелена на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, дэкарыраваных грызайльнай размалёўкай з выявамі гербаў фундатараў, раслінным арнаментам. Інтэр'ер, аформлены на сродкі Масальскіх, вылучаецца багаццем архітэктурнай пластыкі (пілястры, аркатура, прафіляваныя карнізы, падпружныя аркі). Мастацка-дэкаратыўнае аздабленне насычана разьбой па дрэве, драўлянай і стукавай скульптурай, лепкай. У 1788 г. мастакі А.Грушэцкі і Ф.Міхалкевіч дапоўнілі аздобу інтэр'ера манументальным жывапісам: плафоны з фрэскавай размалёўкай, выявы 12 апосталаў (паўднёвая сцяна) і 12 дзеячаў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай (паўночная сцяна) у аркатурных фрызах цэнтральнага нефа. Галоўны мастацкі акцэнт інтэр'ера — манументальная кампазіцыя «Узнясенне Хрыста» на тымпане арачнай перагародкі прэсбітэрыя.

Галоўны алтар св. Францішка вырашаны стукавым калонна-пілястравым порцікам карынфскага ордэра, завершаным масіўным прамавугольным атыкам са скульптурнай групай анёлаў. Вясёлкава і святочна яго асвятляюць бакавыя вітражныя вокны апсіды. У дэкаратыўным аздабленні выкарыстаны разныя гірлянды, пуцці. У адным пластычным стылі выкананы астатнія 14 кулісных алтароў (адзін з іх выканаў у 20 ст. мясцовы дэкаратар І.Болдак): згрупаваныя калоны і пілястры карынфскага ордэра служаць абрамленнем алтарных карцін і верхніх барэльефных пано.

Надзвычай каштоўны скульптурна-дэкаратыўны ансамбль Ларэтанскай капэлы касцёла (злева ад галоўнага ўвахода). Багата насычаны пластычна-скульптурны ансамбль капэлы разгорнуты пад крыжовым скляпеннем і ўключае сюжэтныя кампазіцыі «Чатыры евангелісты», «Святая Сям'я», «Маленне аб чашы». Ансамбль дапаўняюць скульптурна і арнаментальна апрацаваныя плафон скляпення і балдахінны дэкор уваходных арак. Цэнтральная скульптурная кампазіцыя «Святая Сям'я» знаходзіцца ў верхнім арачным праёме-праходзе з капэлы ў бакавы неф. У яе цэнтры на троне святая Марыя з Хрыс-



Касцёл Адшукання Святога Крыжа і кляштар бернардзінцаў у г. Гродна. Кляштарны корпус.

том-дзіцем на руках. На 2-м плане — скульптуры св. Юзафа і Яна Хрысціцеля. Фігуры біблейскіх персанажаў зафіксаваны ў момант малітоўнага ўзрушэння: выразныя жэсты рук, звернутыя да неба погляды, вакол лунаюць анёлы. Унутраная плоскасць арачнага праёма пакрыта сакавітым ляпным акантавым арнаментам з пуццi. Каля правай грані праёма размешчана скульптура архангела. Уся кампазіцыя ў аснове дэкарыравана авальнай панэллю ў акантавых выгінах і лаўровых гірляндах, гафрыраванай ракавінай і маскаронам. Абапал арнаментальнай панэлі размешчаны скульптуры: св. Цэцыліі, якая грае на стылізаваным мініяцюрным аргане, святой з жазлом і пуцці са скрыпкамі ў руках. Персанажы паўстаюць у грацыёзных паставах, вобразы іх прасякнуты жыццесцвярджальным пафасам. Асобныя выявы евангелістаў Лукі, Марка, Яна і Матфея з адпаведнымі атрыбутамі размешчаны ў вуглавых пятах скляпення капэлы і пастаўлены пад распушаныя веерам ракавіны. Завяршае і кампазіцыйна аб'ядноўвае афармленне інтэр'ера капэлы багата арнаментаваны плафон скляпення, вырашаны скульптурнай групай пуцці, якія нясуць у руках абруч люстры і нібыта заблыталіся ў выгінах акантавага лісця. Шырокай ляпной тканінай накрыты арачны праём бакавога ўвахода ў капэлу, у яе складках размешчаны пластычны картуш, нацюрморты. Скульптурна-дэкаратыўны ансамбль вылучаецца віртуознай выканальніцкай тэхнікай. Ансамбль Ларэтанскай капэлы — адзін з выключна каштоўных твораў манументальнага мастацтва Беларусі 18 ст. Абразы 18—19 ст. «Антоній з дзіцем», «Маці Божая з дзіцем», «Маці Божая Беззаганнае Зачацце», «Праабражэнне», «Святая Сям'я», «Св. Бонавентура», «Св. Казімір», «Станіслаў Костка».

У стылі класіцызму выкананы амбон, дэкарыраваны лісцем аканту і выявамі евангелістаў у авальных медальёнах (разьба па дрэве). Арган на хорах устаноўлены ў 1680-я гг. пры Г.А.Гладавіцкім. Сцены прэсбітэрыя пакрыты дубовымі панэлямі з разнымі пано.

З паўднёвага боку да касцёла далучаны 2-павярховы, складанай канфігурацыі, накрыты высокімі 2-схільнымі дахамі кляштарны корпус. Фасады рытмічна члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках, сцены ўмацаваны контрфорсамі. Усходняе і паўднёвае крылы вылучаны буйнымі рызалітамі з трохвугольнымі франтонамі. Галерэяй корпус злучаны з касцёлам.




[1] Кудряшов В.И. Гродно. М., 1960. С. 46; Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гор. Гродно. Гродно, 1910. С. 92—93; Jodkowski J. Grodno. Wilno, 1923. S. 10; Maliszewski E. Przewodnik po gubernii Grodzieńskiej. Warszawa, 1919. S. 6; Zwolski B. Wileńszczyzna, Nowogrodczyzna i Białostoczyzna za Zygmunta III. Wilno, 1938. S. 8.

[2] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 59.

[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 125, воп. 1, спр. 55, арк. 5.

[4] Morelowski M. Znaczenie baroku wileńskiego XVIII stulecia. Wilno, 1940. S. 348.

## Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На вул. Цэнтральнай. Пабудаваны ў 1999 г. з цэглы.

Твор сучаснай авангарднай архітэктуры. Вырашаны 2-яруснай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй з 3 нефаў, завершанай на шматгранным франтальным фасадзе 2-граннай V-падобнай вежай-званіцай з крыжом у завяршэнні. Над 2-схільным дахам гранёная шатровая сігнатурка. Вокны разнастайнай канфігурацыі маюць вітражна-колернае зашкленне. Унутры над уваходам шырокая галерэя хораў.

## Касцёл Божай Міласэрнасці

У мікраараёне Вішнявец, на вул. Кабяка. Пабудаваны ў 1999—2002 гг. з цэглы (парафія існуе з 1995) паводле праекта архітэктараў А.А.Штэна і З.В.Казакевіча. Тэрыторыя храма ў 2006 г. акаймавана металічнай агароджай на мураваных слупах. Парафія налічвае звыш 7 тыс. прыхаджан.

Твор архітэктуры неаканструктывізму. Асіметрычна-дынамічную пірамідальную кампазіцыю фарміруюць ромбападобны ў плане аб'ём малітоўнай залы і 4-гранная вежа-званіца. Да алтарнай часткі далучаны 2-павярховае крыло плябаніі і парафіяльнага цэнтра.

Унутры зала перакрыта сістэмай маналітных бетонных плоскіх і рабрыстых скляпенняў. Цэнтральны алтар з абразом «Божая Міласэрнасць» напісаны гродзенскім мастаком В.Этолем. Справа ў прэсбітэрыі пастаўлена скульптура св. Пія, у нішах бакавых сцен — Маці Божай і св. Юзафа. На алтарнай сцяне разьбянное ўкрыжаванне на фоне стукавых праменняў. У сутарэннях храма створана капліца.

## Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі і кляштар брыгітак

На захад ад гістарычнага цэнтра горада, сярод забудовы 19 — пачатку 20 ст. Кляштарны комплекс брыгітак і брыгітан заснаваны ў 1632—42 гг. Пабудаваны ў 1634—42 гг. з цэглы па фундацыі К. і А. Весялоўскіх. Комплекс уключае касцёл, жылы корпус, што ўтварае квадратны ўнутраны двор, драўляны лямус, высокую мураваную агароджу з пластычнымі брамамі (захаваліся часткова) і вуглавымі 8-граннымі вежамі. Касцёл асвячоны ў 1651 г. віленскім біскупам Е.Тышкевічам[1]. А.Сабеская адпісала кляштару мястэчка Крамяніца, фальваркі Князева, Мартынаўшчына, Вузлаўцы, Шылавічы, Задвор'е, Рагозніца, вылучыла грошы на шпіталь.

Першай ігуменняй у 1640 г. была люблінская ваяводзіна Г.Сабеская. Звычайна пры кляштары пражывала 20—30 манашак магнацка-шляхецкага паходжання, духоўнікамі і капеланамі былі мясцовыя ксяндзы-бернардзінцы, ад паслуг якіх адмовіліся ў 1752 г.[2] У 1842 г. кляштар скасаваны, у яго будынках пасялілі манашак з закрытых кляштараў бенедыкцінак у Нясвіжы, брыгітак у Луцку, дамініканак у Навагрудку; у канцы 19 ст. засталося 5 манашак. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды (2-я палавіна 19 ст.). У 1908—40-я гг. кляштар належаў ордэну назарэтанак. З 1909 г. пробашчам пры кляштары быў Ф.Грынкевіч (1884—1933) — беларускі рэлігійны і культурны дзеяч. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў кляштары размяшчаліся медыцынскія ўстановы. У 1990 г. касцёл перададзены рымска-каталіцкай царкве. 2.6.1992 г. асвячоны архібіскупам Т. Кандрусевічам.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры ранняга барока. Размешчаны ў паўночнай частцы комплексу. Аднанефавы 2-вежавы храм з паўцыркульнай апсідай накрыты агульным высокім чарапічным дахам. Фасады расчлянёны паўцыркульнымі высокімі аконнымі праёмамі і крапаваны ў прасценках карынфскімі пілястрамі, аб'яднанымі агульным антаблементам. Франтальны фасад храма вырашаны плоскасцю, якая ў складаным рытме крапуецца карынфскімі пілястрамі, 3 ярусамі складанапрафіляваных антаблементаў, арачнымі праёмамі і нішамі для скульптуры. Фасад завяршае шчыт з трохвугольным франтонам, які бакавымі вітымі валютамі аб'ядноўваецца з 4-граннымі ярусамі бакавых вежаў з партатыўнымі сігнатуркамі. Дэкор фасаднага фрыза выкананы ў тэхніцы сграфіта (раслінны арнамент у спалучэнні з выявамі міфалагічных істот). Сіметрыю кампазіцыі падкрэслівае лучковы франтон, запоўнены ляпнымі пуцці і раслінным арнаментам, які працягнуты і па фрызе фасада.

Зала храма перакрыта цыліндрычным скляпеннем, умацаваным падпружнымі аркамі і прарэзаным над вокнамі распалубкамі. Апсіда аддзелена ад залы бакавымі пілонамі і перакінутай паміж імі аркай. Над уваходам — узнятая на 2 гранёныя слупы і трайную аркаду шырокая галерэя хораў, якая злучана з кансольным бакавым балконам з вітой лесвіцай. Архітэктурная пластыка інтэр'ера, як і фасада храма, заснавана на крапоўцы сцен пілястрамі стылізаванага карынфскага ордэра. Адсутнасць алтара кампенсуецца пазалочаным табернаклем. Па бакавых нефах і пад хорамі размешчана 14 гарэльефных сюжэтна-скульптурных пано на тэму Крыжовага шляху. У глыбокай арачнай нішы бакавой сцяны размешчана скульптурная кампазіцыя «Засмучаны Хрыстос і Марыя». У касцёле захоўваліся рэліквіі св. Клімента — заступніка горада.

Ж ы л ы к о р п у с — помнік архітэктуры барока. Далучаны да паўночна-заходняй сцяны касцёла. Вырашаны 2-павярховымі карпусамі вакол унутранага двара-карэ. Фасады рытмічна члянёны маленькімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах, аб'яднаных шырокім карнізам. У паўднёва-ўсходнім вугле кляштарнага комплек-



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі і кляштар брыгітак.



Партал касцёла Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў г. Гродна.



Лямус касцёла Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі і кляштара брыгітак у г. Гродна



Касцёл Маці Божай Анёльскай і кляштар францысканцаў у г. Гродна.





су — асобная прыбудова, на 1-м паверсе якой была трапезная, на 2-м — бібліятэка. Невялікія скляпеністыя памяшканні традыцыйна аб'яднаны ўнутранымі калідорамі-галерэямі па перыметры будынка.

Кляштарны корпус акаймаваны мураванай агароджай з вуглавымі гранёнымі вежамі і 4 брамамі. Найбольш манументальная з іх размешчана перад касцёлам і арганічна суадносіцца з ім сваёй ідэнтычнай барочнай архітэктурнай трактоўкай.

Л я м у с — помнік народнага дойлідства эпохі барока. Пабудаваны ў 1630-я гг. ў двары кляштара. Прамавугольны ў плане 2-павярховы зруб накрыты вальмавым дахам. Франтальны фасад вырашаны 2-ярускай слуповай галерэяй, дугападобныя падкосы надаюць ёй характар аркады.

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 59.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 3, спр. 422, арк. 41.

## Касцёл Маці Божай Анёльскай і кляштар францысканцаў

На вул. Гагарына, на процілеглым ад гістарычнага цэнтра Гродна левым пакатым беразе Нёмана (Занёманскі фарштат). Заснаваны ў 1635 г. па фундацыі віленскага кашталяна і віцебскага ваяводы Я.Курча і яго жонкі Сюзанны[1]. 13.4.1639 г. каралём Уладзіславам IV кляштару выдадзена даравальная грамата на валоданне фальваркам Панямунь. Першы драўляны касцёл згадваецца ў 1675 г., мураваны — у 1700 г.[2] У сярэдзіне 18 ст. пасля пажару кляштар адноўлены, касцёл кансекраваны ў 1744 г. ў імя Дзевы Марыі Анёльскай. Скасаваны ў 1832 г. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды (2-я палавіна 19 ст.). Кляштарны комплекс уключае касцёл, жылы корпус і браму з агароджай, што ўтвараюць замкнёны ўнутраны двор. Складаны рэльеф вызначыў асіметрычную кампазіцыю комплексу.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока. Трохнефавая базіліка, агульны 2-схільны чарапічны дах накрывае галоўны, закруглены ў апсіду неф; яго ўзмацняюць нізкія бакавыя нефы пад 1-схільнымі пакрыццямі. З боку франтальнага фасада прыбудавана магутная вежа-званіца. Галоўны фасад, які інтэрпрэтуе рымскі езуіцкі касцёл Іль Джэзу, уяўляе сабой 3-ярусную плоскасць з трохвугольным франтонам у завяршэнні і плаўнымі схіламі прамежкавага яруса, інтэнсіўнай крапоўкай пілястрамі і гарызантальнай штрыхоўкай карнізных прафіліровак. На ім выразна адзначана вось сіметрыі — размешчаныя па ярусах арачныя галоўны ўваход, ніша, вялікае акно хораў. У пластычнай распрацоўцы фасада адчуваецца дысананс — вязкі магутных і шырокіх пілястраў ніжняга яруса 17 ст. і вытанчаныя падоўжныя плоскасці верхніх ярусаў шчыльна запоўнены дэкаратыўным аздабленнем 18 ст. Познабарочную пластыку набыла і 3-ярусная з фігурным купалам званіца, формы якой пазбаўлены прамых вуглоў і геаметрычнай прамалінейнасці — усё скруглена, плаўна абмалявана, расчлянёна пілястрамі, густа штрыхаванымі карнізамі, арачнымі аконнымі праёмамі і круглымі люкарнамі. Не парушылі пазнейшыя густавыя плыні бакавыя фасады і апсіду, прарэзаныя лучковымі аконнымі праёмамі, члянёныя ў прасценках парнымі лапаткамі і акаймаваныя магутнымі карнізнымі паясамі.

Інтэр'ер мае суцэльную дынамічную прасторавую кампазіцыю. Цэнтральны неф аддзелены ад бакавых 6 слупамі і перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Бакавыя нефы раскрываюцца ў цэнтральны невялікімі арачнымі праёмамі і перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Пры ўваходзе хоры. У інтэр'еры 7 алтароў (1-я палавіна 18 — канец 19 ст.). У

цэнтральны неф выходзіць разны драўляны амбон (1-я палавіна 18 ст.).

Галоўны драўляны алтар выкананы ў стылі позняга барока (размалёўка пад мармур), узняты на высокі (2,3 м) пастамент-табернакль. Складаецца з 2 ярусаў порцікаў, сярод каланад якіх змешчаны скульптурныя выявы святых Францішка і Антонія (унізе) і 2 біскупаў (уверсе). Анёлы падтрымліваюць франтоны, упрыгожваюць іх тымпаны і прастору над імі. Фонавыя часткі алтара запоўнены накладной пазалочанай разьбой на тэму выгінаў акантавага лісца. Галоўная алтарная кампазіцыя «Ушанаванне Багародзіцы» (адзначана ў апісанні касцёла 1700 у «сярэбранай сукенцы аўгсбургскага выканання») займае трыумфальную арку 4-калоннага барочнага порціка; у цэнтры 2-га яруса карціна «Стыгматызацыя св. Францішка», акаймаваная авальнай разной рамай-ронда. Абедзве выяўленчыя кампазіцыі выкананы ў мяшанай паліхромнай тэхніцы жывапісу і гіпсавага гарэльефа, што стварае эфект пераходу плоскаснага фонавага выяўлення ў аб'ёмнае вонкавае. Завяршае вышыннае алтарнае збудаванне змешчаная ў люнеце скляпення гарэльефная выява «Ухваленне Марыі», над якой лунае голуб — сімвал Святога Духа. Кулісныя стукавыя алтары выкананы ў канцы 19 ст. ў стылі неабарока, але ўпрыгожаны барочнай скульптурай і карцінамі ў сярэбраных абкладах 18 ст. Барочную мастацкую трактоўку захаваў і амбон, кафедра-бутон якога традыцыйна ўпрыгожана гарэльефнымі выявамі 4 евангелістаў, акантавымі і валютнымі выгінамі. Балдахін амбона выкананы ў выглядзе царскай кароны са скульптурай архістратыга Міхаіла, якую нясуць над кафедрай 2 анёлы. Мастацкай процівагай галоўнаму алтару служыць магутны арган, высока ўзняты над скляпеннем галерэяй хораў. Яго пластычная архітэктоніка, сакавітая разьба і скульптурныя постаці музычных алегорый — усё аб'яднана ў дынамічную мастацкую кампазіцыю ў стылі ракако. Шэдэўрам стылю з'яўляецца алтарная перагародка ў выглядзе трэльяжнай хваліста выгнутай сценкі, якая дэкарыравана бюстамі, вазамі, гірляндамі-косамі, фігурнымі панэлямі ў бела-бежава-залацістым каларыце. У касцёле падпісны абраз І.Міховіча за 1872 г. «Антоній з дзіцем», абразы 17—18 ст. «Маці Божая Анёльская» ў сярэбранай шаце, 18—19 ст. «Маці Божая з дзіцем», абраз «Маці Божая Чанстахоўская» ў шаце 2-й палавіны 18 ст.

Ж ы л ы  к о р п у с — помнік архітэктуры барока. Далучаны да касцёла з паўднёвага боку. Двухпавярховы будынак асіметрычнай П-падобнай планіроўкі, што ўтварае замкнёны ўнутраны дворык, у які выходзіць абхадная па келлях скляпеністая галерэя, злучаная з паўночнай сакрысціяй храма. У паўднёва-заходнім вугле корпуса вялікая скляпеністая зала трапезнай, якая выступае знадворку самастойным аб'ёмам. Архітэктура будынка стрыманая: невялікія прамавугольныя аконныя праёмы і



Інтэр'ер касцёла Маці Божай Анёльскай у г. Гродна.

пілястры паміж імі ствараюць манатонны рытм. Размешчаная перад касцёлам брама вырашана ў адзінай з ім архітэктурна-стылёвай барочнай трактоўцы з ракайльным картушам над арачным праходам.

---

[1] Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. СПб., 1863. С. 810; Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гор. Гродно. Гродно, 1910. С. 100.

[2] Maliszewski E. Przewodnik po gubernii Grodzieńskiej. Warszawa, 1919.

## Касцёл Найсвяцейшага Адкупіцеля

У мікрараёне Дзевятоўка. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Твор сучаснай авангарднай архітэктуры. Асіметрычна-дынамічную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю фарміруюць 2 прамавугольныя ў плане 2-павярховыя карпусы (адміністрацыйны і храм) пад пакатымі 2-схільным і лучковым дахамі. Вынас лучковага даху на франтальным фасадзе падтрыманы 4





Касцёл Найсвяцейшага Адкупіцеля ў г. Гродна.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканцаў у г. Гродна. Кляштарны корпус.



Касцёл святога Францішка Ксаверыя і калегіум езуітаў у г. Гродна.

высокімі слупамі, якія афармляюць цэнтральны ўваход у храм. Вуглавая частка адзначана вертыкальнай дамінантай — 3-граннай вежай-званіцай з крыжом у завяршэнні. Плоскасныя фасады расчлянёны разнастайнымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.



## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканцаў

На вул. Савецкай (былая Віленская, Саборная). Кляштар існаваў з 1632 па 1832 гг. Касцёл быў пабудаваны ў 1630—33 гг. па фундацыі віленскага падкаморыя Ф.Сапегі і яго жонкі Кацярыны (з Пацаў), асвячоны ў 1635 г. ў прысутнасці караля Уладзіслава IV Вазы[1]. У 1646 г. кантарам у кляштар быў прызначаны В.Друзбіч[2]. У 1727 г. гродзенскі кагал пазычыў у дамініканцаў 10 283 злотых пад залог сваёй маёмасці[3]. У 1735—37 гг. настаяцелем кляштара Ф.Ганусевічам замест драўлянага пабудаваны мураваны корпус, у якім жылі манахі да 1832 г.[4] У 1780—86 гг. корпус перабудаваны паводле праекта архітэктара Л.Грынцэвіча. Набажэнствы ў касцёле наведваў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Па загаду імператара Паўла I манахі ў 1797 г. адкрылі пры кляштары школу з добра абсталяванымі кабінетамі (мінералагічны, фізічны і механічны), бібліятэку (15 тыс. тамоў, папоўнена ў 1781 са скасаванага медыцынскага інстытута). Паводле інвентара кляштара за 1804 г. касцёл меў «арган на 10 галасоў з бубнам». У 1825 г. кляштар пераўтвораны ў мужчынскую гімназію з павятовым вучылішчам, а касцёл перабудаваны ў гімназічную праваслаўную царкву, з 1863 г. — царква Ямбургскага уланскага палка. 15.4.1874 г. храм разбураны і замест яго створана спартыўная зала. Кляштарны корпус, які далучаўся да касцёла з паўночнага боку, захаваўся, выкарыстоўваецца адміністрацыйнымі ўстановамі.

К а с ц ё л (не захаваўся) з'яўляўся творам архітэктуры барока. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з паўкруглай апсідай. Галоўны фасад чляніўся антаблементамі на 3 ярусы.

К л я ш т а р н ы к о р п у с — помнік архітэктуры барока (зараз установа культуры). Вырашаны прамавугольным у плане 2-павярховым аб'ёмам пад 2-схільным дахам, закрытым на тарцовым фасадзе фігурным франтонам над 4-пілястравым рызалітам. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

К л я ш т а р н ы к о р п у с — помнік архітэктуры класіцызму. Двухпавярховы будынак П-падобнай планіровачнай канфігурацыі. Архітэктурным дэкорам надзелены вулічны працяглы фасад, вылучаны па цэнтры шырокім рызалітам з трохвугольным франтонам; бакавыя крылы апраразаны прафіляваным карнізам і міжпавярховым поясам, крапаваны пілястрамі ў прасценках прамавугольных аконных праёмаў, дэкарыраваных трохвугольнымі сандрыкамі. Планіроўка галерэйная з аднабаковым размяшчэннем класаў.

---

[1] Zwolski B. Wileńszczyzna, nowogrodczyzna i białostoczyzna za Zygmunta III. Wilno, 1938. S. 16.

[2] Ліхач Т. Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. №2. 2000.

[3] Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гор. Гродно. Гродно, 1910. С. 149.

[4] Краткий отчет о состоянии Гродненской мужской гимназии за 1891—92 учебный год. Гродно, 1893. С. 1—7.

## Касцёл святога Францішка Ксаверыя і калегіум езуітаў

На Савецкай плошчы (былы Стары рынак). Пабудаваны ў 17—18 ст. з цэглы.

У 1584 г. кароль Рэчы Паспалітай Стафан Баторый звярнуўся да літоўскага правінцыяла айцоў езуітаў Я.П.Кампана з прамовай заснаваць у Гродне езуіцкі прыстанак, у чым яму было адмоўлена з-за недахопу манаскага персаналу, занятага буйной бу-

даўнічай дзейнасцю ў краіне (у Полацку і Нясвіжы). Нягледзячы на гэта кароль у наступным годзе загадаў пачаць будаўніцтва драўлянага касцёла ў імя святых апосталаў Пятра і Паўла, ахвяраваўшы яму маёнтак Кундзін і 10 тыс. злотых[1]. На момант смерці караля (1586) парафіяльны касцёл быў збудаваны. Рэзідэнцыя айцоў-езуітаў з'явілася ў Гродне толькі ў 1622 г. дзякуючы фундацыі гродзенскага старосты С.Касадубскага (Касабудзкага), які ахвяраваў ім в. Сухая Баля. Будаўніцтва калегіума, пад які ў 1647 г. быў вылучаны пляц на рынку[2], вялося ў 1650—64 гг. пры гродзенскім пробашчу Ф.Д.Ісакоўскім, які падараваў ордэну маёнтак Свіслач[3], мечніку Вялікага княства Літоўскага К.Халецкім, ахвяраваўшым маёнтак Гаростаў і фальварак Калбасіна, члене ордэна Е.Дзевалтоўскім — маёнтак Шупеня. Кляштар адносіўся да самых багатых на Беларусі, валодаў у горадзе вялікай нерухомасцю. Да касацыі ў 1773 г. ва ўладанні гродзенскіх езуітаў было 7 фальваркаў і 25 вёсак. У 1678 г. па фундацыі мсціслаўскага кашталяна С.Лазовага і яго жонкі Канстанцыі на месцы спаленых маскоўскім войскам у 1658 і 1660 гг. драўляных Петра-Паўлаўскага касцёла і будынка школы было пачата будаўніцтва існуючага мураванага храма. 21.6.1678 г. біскуп-суфраган віленскай дыяцэзіі Мікалай Слупскі асвяціў вуглавы камень у падмурку касцёла. Асвячэнне касцёла ў імя св. Францішка Ксаверыя адбылося ў 1705 г. На ўрачыстасці прысутнічалі кароль Аўгуст II і расійскі імператар Пётр I.

Комплекс уключаў будынкі касцёла, калегіума, бібліятэкі, друкарні, аптэкі, жылыя карпусы і гаспадарчыя пабудовы. Усе разам яны ўтваралі замкнёны ўнутраны двор і былі злучаны з касцёлам калідорам. Першапачатковы калегіум будавалі ў 1677—83 гг., новы — у 1691—1763 гг. У 18 ст. кляштар займаў цэлы квартал (120 x 160 м), у цэнтры стаяў будынак калегіума. Галоўнае 3-павярховае крыло (новы калегіум) было накрыта мансардавым дахам з чырвонай дахоўкі. Заходняе 2-павярховае крыло злучала новы калегіум з трансептам касцёла. Усходняе 3-павярховае крыло (стары калегіум) мела калідорную планіроўку з 2-баковым размяшчэннем келляў. На стыку старога і новага калегіумаў архітэктар Я.Руоф узвёў трапезную, над якой знаходзілася бібліятэка з вялікім вестыбюлем, над ім — капліца. Абапал старога калегіума размяшчаліся гаспадарчыя двары, агароджаныя з тыльнага боку флігелямі, дзе былі майстэрні, стайні і вазоўні. Пры галоўнай браме стаяла бурса. На паўночным баку была мураваная школа з уласным дваром, у будынку якой размяшчаўся і тэатр. Ад суседняга палаца Стафана Баторыя да касцёла быў зроблены крыты пераход цераз Купецкую вуліцу. Астатнюю тэрыторыю займаў вялікі сад.

К а л е г і у м складаўся з 2 аддзяленняў: малодшага з 5 класамі і старэйшага 3-гадовага. У калегіуме выкладалі «сем вольных мастацтваў» — граматыку, рыторыку, дыялектыку, арыфметыку, геаметрыю, астраномію, музыку, багаслоўе, а таксама лацінскую і грэчаскую мовы. На старэйшым аддзяленні асноўная ўвага аддавалася вывучэнню філасофіі. Навучанне было бясплатным, са здольных дзяцей шляхты і гараджан рыхтавалі кадры для ордэна. Педагогамі ў калегіуме працавалі С.Пузына, М.Калакоўскі, А.Хладоўскі, Я.Бельскі, Ф.Касажэўскі, Я.Рушэўскі, Ф.Нарвойш і інш.; з 1667 г. працавалі толькі настаўнікі з прафесарскім званнем. У 1772 г. ў калегіуме было 37 езуітаў (15 айцоў, 2 настаўнікі, 11 братоў і 9 схаластаў, працавала 6 прафесараў). Сярод выхаванцаў гэтай навучальнай установы быў беларускі астраном і асветнік М.Пачобут-Адляніцкі, уступіўшы тут у Таварыства Ісуса ў 1745 г.


Інтэр'ер касцёла святога Францішка Ксаверыя ў г. Гродна.

У 1773 г. кляштар скасаваны, касцёл з 1788 г. стаў фарным (прыходскім). У 1794 г. католікі горада прынялі ў касцёле прысягу на вернасць расійскай імператрыцы Кацярыне II. Касцёл быў выратаваны ад вялікага пажару 29.5.1885 г. дзякуючы мясцовым мулярам, якія хутка замуравалі ўсе яго праёмы. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды (2-я палавіна 19 ст.). Зараз з'яўляецца Меньшай Базілікай і біскупскай катэдрай Гродзенскай дыяцэзіі.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры і дэкаратыўна-манументальнага мастацтва барока і ракако. Архітэктурна-эстэтычныя вартасці храма адзначаны ўжо ў 1763 г. ў «Хроніцы Літоўскай правінцыі аа. Езуітаў»: «Святыня сярод найслаўнейшых асвечаных пабудоў Каралеўства амаль самая выдатная». Збудаваны паводле канона 2-вежавай 3-нефавай купальнай базілікі (вышыня 53,6 м, памеры 30 на 60 м). Па баках паўцыркульнай апсіды далучаны 2 купальныя капліцы — св. архангела Міхаіла і Маці Божай Студэнцкай. Галоўны архітэктурны акцэнт створаны на франтальным фасадзе, які пануе ў сілуэце забудовы гістарычнай плошчы горада. Яго плоскасць расчлянёна на 3 ярусы суцэльнымі пасамі антаблементаў, а гарызантальную сіметрыю размяркоўваюць на 3 часткі арачныя аконныя пра-



Помнік А.Тызенгаўзу ў касцёле святога Францішка Ксаверыя ў г. Гродна.

ёмы і падвойныя карынфскія пілястры. У 1-м ярусе вежаў у арачных нішах устаноўлены скульптурныя выявы апосталаў Пятра і Паўла, св. Францішка Ксаверыя (скульптар Г.Гіс, 1768). Характэрную для езуітаў свецкасць храму надае аркестравы балкон у цэнтры фасада, над уваходным парталам. Перад уваходам у пачатку 20 ст. пабудавана шырокая 2-маршавая лесвіца з пастаўленай на яе парапет скульптурай Хрыста з крыжом. Бакавыя і тыльны фасады касцёла вырашаны ў стрыманых формах ранняга барока, раскрапаваны падвойнымі пілястрамі і тонкапрафіляванымі карнізамі. Дзякуючы высокім арачным аконным праёмам, іх глыбокім адхілам адчуваецца канструкцыйная магутнасць збудавання. У сярэдзіне 18 ст. замест масіўных пластычных барочных форм з'явіліся ажурныя, аблегчаныя і вытанчаныя формы ракако (у завяршэннях храма). У 1750—52 гг. муляр К. Бурман надбудаваў лёгкія ажурныя вежы з выгнутымі плоскасцямі, дэкаратыўнымі кубкамі, плывучай арнаментыкай, якія кантрастуюць з масіўнымі формамі першапачатковага барочнага храма. У 1725 г. на вежы ўладкаваны куранты (перанесены з вежы калегіума). У 1744 г. для галоўнага ўвахода каваль Я.Бірша зрабіў каваныя дзверы.

Ва ўнутранай прасторы храма пануе сяродкрыжжа з высокім купалам на светлавым барабане, падтрыманым ветразямі і 4 магутнымі слупамі. Зала падзелена на 3 нефы аркадамі на 6 магутных апорных слупах, якія ўспрымаюць распор крыжовых скляпенняў на падпружных арках, і арнаментаванымі гуртамі (гатычная рэмінісцэнцыя). Іх заходняя пара падтрымлівае хоры з арганам, на якія вядуць вінтавыя лесвіцы ў тоўшчы сцяны. Па сценах цэнтральнага нефа, прэсбітэрыя і барабана купала цягнецца карніз-галерэя з балюстрадай. Пышны і ўрачысты інтэр'ер храма насычаны архітэктурнай пластыкай (пілястры, раскрапаваныя антабламенты, тонкая прафіліроўка, ажурнае спляценне крыжовых скляпенняў і падпружных арак). Падлога выкладзена «шведскім» каменем. Высокамастацкі ансамбль інтэр'ера фарміруюць 13 алтароў (12 драўляных, 1 стукавы), 2 чыгунныя жырандолі (ліццё 18 ст.), 4 драўляныя спавядальні, упрыгожаныя інтарсіяй, разьбой па дрэве і скульптурай, амбон, помнік А.Тызенгаўзу, драўляная лава 17 ст., арган, куплены ў Каралеўцы (Кёнігсбергу, цяпер Калінінград) у 1744 г. З Каралеўца і Вільні ў 1709 г. былі прывезены 6 алтароў.

Дамінантай дэкаратыўна-мастацкага ансамбля інтэр'ера з'яўляецца галоўны алтар (вышыня 21 м), зроблены ў 1736—37 гг. «у майстэрстве разьбы обер-майстрам» Янам Шмітам з горада Рэшаля (Польшча) і 6 падмайстрамі і навучэнцамі. У кантракце агаворвалася, каб алтар быў выкананы «прапарцыянальна базілікі нашай» і ўлічваў «оптыку». У 1752 г. алтар таніраваны пад бела-блакітны мармур, у 1857 г. «вызалачаны і абноўлены», у 1900 г. перафарбаваны пад цёмны мармур. У яго 3-яруснай кампазіцыі выкарыстана складаная групоўка калон і пілястраў карынфскага ордэра. У 1-м ярусе абапал постаці св. Францішка Ксаверыя (выканана Шмітам) пастаўлены 10 скульптурных выяў апосталаў, 4 айцоў царквы, св. Самуіла і св. Канстанцы — патронаў касцёла мужа і жонкі Мсціслаўскіх, якія аплачвалі кошт алтара. У цэнтры 2-га яруса — скульптура Хрыста, абапал якой выявы 4 евангелістаў і 6 свяціцеляў. У 3-м ярусе знаходзіцца скульптурная алегарычная кампазіцыя, якая адлюстроўвае перамогу дабра над злом. Вянцом алтара з'яўляецца 5-метровая «Глорыя», што абрамляе акно апсіды і перад якой схіляюць галовы 4 алегарычныя выявы бакоў свету. Таніраваныя ў белы колер, скульптуры вылучаюцца ўрачыстасцю поз, эмацыянальнай прыўзнятасцю вобразаў, стрыманасцю рухаў. Размешчаныя франтальна да ўвахода (каля міжнефавых слупоў) 6 кулісных 2-ярусных алтароў выкананы ў 1709—16 гг. У левай капліцы трансепта размешчаны алтар св. архангела Міхаіла са скульптурнымі выявамі дзеячаў Вялікага княства Літоўскага. У процілеглай Студэнцкай капліцы трансепта пастаўлены алтар Маці Божай Студэнцкай, выкананы ў тэхніцы бежавага стука ў 1760-я гг. Яго кампазіцыя вырашана ў выглядзе накладнога карынфскага порціка з 4 каняліраванымі пілястрамі і трохвугольным франтонам са скульптурамі ўкленчаных анёлаў па вуглах. У 2 экседрах бакавых выгнутых заплечнікаў і ў завяршэнні алтара знаходзяцца скульптурныя постаці іерархаў касцёла. У алтары абраз Маці Божай Студэнцкай, названы Кангрэгацкай (апякункі

студэнтаў), копія абраза з базілікі Санта Марыя Маджорэ ў Рыме (памеры 22 х 17 см, у шырокай сярэбранай раме ў стылі ракако, выкананай у 1761 гданьскім злотнікам Х. ван Гаўсенам). Аклад з дзвюма каронамі раней быў залатым. Падараваны віленскім ваяводам К.Я.Сапегам. Абраз прывёз з Рыма ў часы караля Яна Казіміра правінцыял айцоў дамініканцаў і падараваў А.Радзівілу, пасля смерці якога абраз трапіў да дамініканца Куклінскага, а ад яго — да ўладальніка вёскі Кульбакі каля Гродна В.Жэляроўскага. Ён ахвяраваў абраз вучнёўскаму таварыству Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі, так званай Студэнцкай Кангрэгацыі пры Гродзенскім езуіцкім калегіуме. Свята абраза праводзіцца штогод 5 жніўня.

Фрэскавы жывапіс выкананы невядомым мастаком паводле ілюстрацый М.Хафнера да жыццяпісу св. Францішка Ксаверыя, апублікаваных у 1681 г. ў Інсбруку[4]. У размалёўцы касцёла ўдзельнічалі чэшскія мастакі Ф.І.Обст і І.Дарэцці. Складаецца з 14 сюжэтных кампазіцый з жыцця св. Ксаверыя, размешчаных над аркатурай цэнтральнага нефа (аўтар фрэсак пакінуў сваю манаграму і дату — 1752). У гэтай жа тэхніцы выкананы выявы 4 евангелістаў, размешчаныя на ветразях. Плафон, падпружныя аркі прэсбітэрыя і трансепта аздоблены гратэскавым арнаментам у тэхніцы стука. Плоскасці 14 падпружных арак размаляваны раслінным дэкорам у тэхніцы грызайль. У формах стрыманага барока трактаваны арган, кампазіцыя якога нагадвае касцельны 2-вежавы фасад. Насупраць алтара, на слупе прэсбітэрыя пастаўлена старажытная драўляная лава, на спінцы якой 16 разных гарэльефных выяў на сюжэты цудаў Маці Божай Студэнцкай. Абраз у шафе 2-й палавіны 18 ст. «Юзаф з дзіцем».

Навешаны на слуп прэсбітэрыя драўляны амбон — шэдэўр дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ракако, выкананы ў 1750-я гг. Яго кафедра падтрымліваецца кансоллю, трактаванай у форме вітой ракавіны. Кампазіцыя характарызуецца хісткай раўнавагай арнаментальных серпанцінаў і скульптурных выяў 4 евангелістаў і пуцці на хвалістым карнізе. Заднік амбона ўпрыгожаны ракайльным картушам з трыльяжнай сеткай на фоне мармуровай панэлі. У завяршэнні — насценная кампазіцыя з выявай сферы і лунаючага анела над ёй. Мастацкі эфект ствараецца кантрастным вылучэннем пазалотай ракайльнага арнамента і архітэктурных абломаў на фоне размалёўкі амбона пад цёмны мармур. У стылі ракако майстар І.Мейфельт у 1768 г. стварыў серыю драўляных спавядальняў у стылі ракако.

У канцы 19 ст. графіня М.Пшаздзецкая, якая належала да нашчадкаў А.Тызенгаўза, паставіла ў касцёле яму помнік у выглядзе класічнага абеліска (чорны лабрадарыт) з выявай укленчанай у жалобе жанчыны, барэльефам падскарбія і вазай пад драпіроўкай у завершы (бронзавае ліццё, скульптар Т.Дукас). Мастацкую каштоўнасць уяўляе абраз 1750—70-х гг. «Маці Божая Рымская». Устаноўлена




Аптэка пры касцёле святога Францішка Ксаверыя ў г. Гродна.

мемарыяльная дошка прафесару Ягелонскага універсітэта З.Урублеўскаму (1845—88).

А п т э к а заснавана ў 1687 г. (першы аптэкар І.Цішкевіч), мураваны будынак узведзены ў 1709 г. Бібліятэка (у 1773 налічвала 2373 кнігі). У 1707 г. адкрыта музычная бурса з капэлай, у 1733 г. адзначаны «нядаўна пастаўлены» арган[5]. Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак пад вальмавым дахам, павернуты ўваходам да плошчы. Цэнтральная частка сіметрычнага галоўнага фасада вылучана балконам, пілястрамі 2-га паверха і невялікім фігурным франтонам у завяршэнні. Сцяна прарэзана прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў фігурных ліштвах, расчлянёна вузкімі карнізнымі цягамі. Напачатку з боку двара быў калідор, які аб'ядноўваў аптэку з кляштарам. Будынак функцыянальна падзелены на 2 часткі: асноўную — памяшканні 1-га і 2-га паверхаў, якія выходзяць на галоўны фасад, і падсобную — памяшканні, што выходзяць на дваровы фасад і звязаны з кляштарам. На 1-м паверсе скляпенні цыліндрычныя на распалубках.

---

[1] Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гор. Гродно. Гродно, 1910. С. 108; Квитницкая Е.Д. Коллегиумы Белоруссии XVII в. // Архитектурное наследство. 1969. N 8. С. 10.

[2] Paszenda J. Kościoł pojezuicki (farny w Grodnie) // Kultura artystyczna Wielkego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995. S. 192—200.

[3] Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 103.

[4] Ярашэвіч А.А., Бажэнава В.Дз. Гродзенскі кафедральны касцёл Святога Францыска Ксаверыя. Мн., 2005. С. 16.

[5] Дадзіёмава В.У. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: гісторыка-тэатральнае даследаванне. Мн., 2002.




## в. Грозаў,

Капыльскі раён
Мінскай вобласці



Касцёл Зняцця з Крыжа Збавіцеля ў в. Грозаў.

## Касцёл Зняцця з Крыжа Збавіцеля

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1802 г. з цэглы на месцы драўлянага касцёла на сродкі прадвадзіцеля дваранства Слуцкага павета М.Барновіча. У 1866 г. закрыты «за возмутительное пение польских гимнов» і «согласно Высочайшему указу от 1 февраля 1800 г. о том, что римско-католический приход может существовать лишь там, где не менее 100 дворов прихожан»[1]. У 1877 г. перабудаваны пад царкву. Дзвярныя і аконныя праёмы былі закладзены, прабіты новыя. Сакрысцію разабралі, зрабіўшы рызніцу пры дапамозе перагародкі, якая падзяліла апсіду на 2 часткі. Над цэнтральнай часткай паставілі 5-купалле, над уваходам — высокую гранёную званіцу з шатром і галоўкай. Новую царкву асвяцілі ў імя св. Мікалая і перанеслі з былой Мікалаеўскай царквы унікальны цудадзейны абраз свяціцеля Мікалая (быў чаканены з суцэльнага сярэбранага ліста), падараваны раней існаваўшаму праваслаўнаму манастыру расійскім фельдмаршалам Б.П.Шарамецевым у 1711 г. У 1962 г. царква зачынена. У 1968 г. перабудавана пад клуб і праўленне калгаса.

У старажытнасці тут стаяў праваслаўны мужчынскі Мікалаеўскі манастыр, апякунамі якога былі слуцкія князі Алелькавічы, якія заснавалі яго ў пачатку 16 ст. і надзялілі зямлёй і ўгоддзямі. У 1600 г. мясцовы праваслаўны памешчык М.Валадковіч, жадаючы абмежаваць уплыў каталіцызму, знаснаваў у 100 сажнях ад ужо існуючага манастыра яшчэ адзін мужчынскі прыстанак у імя Іаана Багаслова.

Касцёл (да перабудовы) уяўляў сабой твор архітэктуры класіцызму з рудыментамі барока. Трохнефавы бязвежавы з прамавугольнай апсідай аб'ём пад 2-схільным гонтавым дахам. Галоўны фасад завяршае вялікі трохвугольны франтон. Плоскасныя фасады крапаваны вуглавымі пілястрамі.

Прастора інтэр'ера была размежавана 6 магутнымі 4-граннымі пілонамі на 3 нефы, кожны з якіх заканчваўся алтаром. Малітоўная зала перакрывалася драўлянай столлю. На хорах знаходзіўся арган «о семи голосах». Справа ад апсіды — сакрысція, пад храмам крыпта.

[1] Описание церквей и приходов Минской епархии. Слуцкий уезд. Мн., 1878. С. 87.

# в. Груздава,

Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У цэнтры вёскі. Учынены ў 2001 г. ў перабудаваным адміністрацыйным будынку 2-й палавіны 20 ст., узведзеным на месцы папярэдняга касцёла, спаленага ў Вялікую Айчынную вайну.

Вырашаны прамавугольным у плане будынкам пад 2-схільным дахам, завершаным над тарцовым фасадам 8-граннай шатровай сігнатуркай. Уваход вырашаны квадратным у плане прытворам , 2-схільнае пакрыццё якога таксама завершана 8-граннай шатровай вежачкай. Фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

Паводле падання папярэдні касцёл быў заснаваны вялікім князем літоўскім Жыгімонтам. На мяжы 19—20 ст. быў пабудаваны драўляны манументальны храм, вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча 1910—14 гг. З'яўляўся творам архітэктуры гістарызму. Быў вырашаны па тыпу 3-нефавай 2-вежавай базілікі. Сілуэт плоскаснага гарызантальна ашаляванага фасада фарміравалі трохвугольны франтон і бакавыя 3-ярусныя 4-гранныя вежы са спічастымі шатрамі.

# в. Грушаўка,

Ляхавіцкі раён
Брэсцкай вобласці



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Груздава.

## Капліца Божай Міласэрнасці

За 0,5 км на захад ад вёскі (урочышча Дубы). Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы Г.Грабоўскім ў баку ад яго сядзіб, на каталіцкіх могілках, якія акружае мураваная агароджа з гатычнай брамай.

У 1939 г. перад капліцай быў пастаўлены помнік Т.Рэйтану (знік у 1945 г.) — «пану з Чорнай Русі», паслу навагрудскай зямлі на варшаўскі сейм, які выступаў супраць падзелу Рэчы Паспалітай[1].

Помнік архітэктуры неаготыкі. Прамавугольны ў плане аб'ём з 3-граннай апсідай і высокім 2-гранным шчытом на галоўным фасадзе, 2 стральчатымі аконнымі праёмамі на бакавых фасадах, аформленымі падаконнай аркатурай. Галоўны ўваход вырашаны перспектыўным уваходным парталам з зубчастым атыкам. Вуглы будынка ўмацаваны контрфорсамі з гатычнымі крабавымі фіяламі ў завяршэнні. Унутры — ажурнае нервюрнае скляпенне. Пры ўваходзе ў капліцу размешчана лесвіца ў склеп.

---

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2006. С. 429.



Капліца Божай Міласэрнасці ў в. Грушаўка.

# в. Грыбкі,
Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца Найсвяцейшай Дзевы Марыі

За 1 км на поўнач ад вёскі. Пабудавана ў 1938 г. з цэглы мясцовымі жыхарамі Апанасевічамі як філіяльная пры касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Будслаў[1]. У пачатку 21 ст. пашырана прыбудовай цаглянага прытвора.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад стромкім 2-схільным дахам (першапачаткова шатровым). Фасады прарэзаны прамавугольнымі ўваходным і бакавымі аконнымі праёмамі.

---

[1] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. I. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мн., 2003. С. 27.

Капліца Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Грыбкі.



# в. Грынявічы
(Вялікая Лапеніца),
Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл францысканцаў

На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1792 г. з цэглы пры кляштары францысканцаў (скасаваны ў 1832). Касцёл у 1839 г. перароблены пад праваслаўную царкву і перабудаваны[1]. Зберагліся фрагменты мураванай агароджы і брама 18 ст. У паўзруйнаваным стане.

Манументальны мураваны храм — выдатны твор архітэктуры барока, яго завяршальнай стадыі развіцця. Будынак спланаваны па рымска-каталіцкаму каноне ў выглядзе 3-нефавай базілікі. Майстры ба-



Касцёл францысканцаў у в. Грынявічы (Вялікая Лапеніца). Фота пач. 20 ст.



Касцёл францысканцаў у в. Грынявічы (Вялікая Лапеніца). Сучасны выгляд.



Касцёл святога Антонія Падуанскага ў в. Губіна.

рока імкнуліся асноўны архітэктурна-дэкаратыўны акцэнт стварыць на галоўным фасадзе, які выступае пукатай, насычанай пластыкай сцяной — лапаткі, нішы, прафіліроўкі. За высокай пласцінай фасада схаваны «карабель» храма, які характарызуецца буйнамаштабнасцю, аскетызмам дэкору масіўнага архітэктурнага аб'ёму. З перабудовай храма пад царкву яго барочная архітэктура набыла элементы старажытнарускага дойлідства — кілепадобны шчыт над франтальным фасадам і такія ж абрамленні арачных акон.

У інтэр'еры пануе перспектыва цэнтральнага высокага падоўжнага нефа, перакрытага цыліндрычным скляпеннем і асветленага высока ўзнятымі вокнамі. Галоўны шлях да алтара і іканастаса падкрэслены прыцемкамі нізкіх бакавых нефаў, аддзеленых буйнымі аркадамі і перакрытых плоскай столлю. На магутнай аркадзе пры ўваходзе пакоіцца прасторная галерэя хораў, прызначаных для аргана, а потым для пеўчых. Як і знадворку храма, яго ўнутраны дэкор заснаваны на спалучэнні вертыкальна працягнутых пілястраў і бягучых уздоўж сцен складанапрафіляваных карнізаў.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 2, воп. 21, спр. 336; воп. 12, спр. 207; ф. 8, воп. 1, спр. 465; спр. 1557, арк. 108.

## в. Губіна,
Лепельскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл святога Антонія Падуанскага

Ва ўсходняй частцы вёскі. Касцёл і 2-павярховы кляштар (не захаваўся) францысканцаў пабудаваны ў 1714 г. з цэглы па фундацыі полацкага стольніка Я.Пакошы. Са скасаваннем касцёла ў в. Камень парафія была пераведзена ў касцёл в. Губіна. Знаходзіцца ў зруйнаваным стане.

Касцёл — твор архітэктуры барока. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з трансептам, але без апсіды. Праз сакрысцію далучаўся да кляштарнага корпуса. На галоўным фасадзе ўзвышаліся дзве 3-ярусныя чацверыковыя вежы з фігурнымі ківорыямі і шчытом паміж імі. Фігурнымі шчытамі заваршаліся крылы трансепта і апсіда.

Унутраная прастора магутнымі слупамі і аркадамі была падзелена на 3 нефы з цыліндрычнымі скляпеннямі. У інтэр'еры меліся 3 алтары, сярод якіх мастацкай работай вызначаліся разныя галоўны Найсвяцейшай Дзевы Марыі і бакавы Найсвяцейшай Дзевы Марыі Вастрабрамскай. На левым слупе прэсбітэрыя быў навешаны амбон без ярка акрэсленай стылёвай трактоўкі.

## пас. Гудагай,
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудаваны ў 1764 г. з дрэва пры кляштары кармелітаў босых, фундаваным полацкім абозным І.К.Войнам і яго жонкай Людвікай (з Сулістроўскіх)[1]. У фундуш кляштара быў упісаны маёнтак Астравец-Урбаноўскі. Кляштар скасаваны ў 1832 г., жылы будынак разбураны, касцёл ператвораны ў капліцу, прыпісаную да касцёла Маці Божай Ружанцовай у в. Солы (Смаргонскі р-н). Парафія адноўлена ў 1906 г., потым зноў скасавана; зноў асвячона ў 1990 г. Адасоблена ад касцёла ў вуглу бутавай агароджы ў 1900-я гг. пастаўлена каркасная шатровая званічка.

Помнік драўлянага дойлідства з элементамі стылю барока. Асноўны прамавугольны ў плане зруб накрыты 2-схільным дахам, які набывае пластычную гранёную форму і выгіны над 5-гранным алтарным прырубам з нізкімі сакрысціямі. Галоўны фасад меў 2 купальныя чацверыковыя вежы (не заха-

валіся), што фланкіравалі трохвугольны франтон з шатровай сігнатуркай. Аднасхільны дах нізкага прытвора ў 1920-я гг. заменены 2-схільным з трохвугольным франтонам. З мураванага дойлідства запазычана лучковая форма аконных праёмаў, што вылучаюцца на вертыкальнай шалёўцы сцен і разам з брусамі-сцяжкамі ствараюць іх рэгулярны архітэктурны рытм.

Малітоўная зала і апсіда аб'яднаны агульнай плоскай столлю і вертыкальна-гарызантальнай шалёўкай сцен, што разам з вялікай галерэяй хораў надае ўнутранай прасторы глыбіннае развіццё і дынамічнасць. Прасторава неардынарна пастаўлены і 3 драўляныя алтары 18 ст.: галоўны Маці Божай Гудагайскай — франтальна, бакавыя Св. Казіміра і Сэрца Ісуса — пад вуглом. Выкананыя ў стылі класіцызму, яны маюць 2-ярусную пабудову з 2-калонных порцікаў, упрыгожаны драўлянай скульптурай, разным арнаментам, пазалотай. Арган мае выгляд класічнага порціка, афармленага накладной арнаментальнай разьбой у стылі ракако. Цудоўны прыклад народнай інтэрпрэтацыі гэтага «свецкага» стылю — чаканны трохвугольны рэлікварый. У галоўным алтары знаходзіцца цудадзейны абраз Дзевы Марыі Шкаплернай (скапіраваны з візантыйскай Маці Божай Уладзімірскай у пачатку 17 ст., у 1832 перанесены ў фарны касцёл у Ашмянах, у 1906 вернуты ў касцёл).

[1] Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912. S. 198; Podreczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.



Капліца ў в. Гулі.



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў пас. Гудагай.



Інтэр'ер касцёла Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў пас. Гудагай.

## в. Гулі (Старая Жосна),
Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля шашы Мядзел—Докшыцы. Верагодна, пабудавана ў 2-й палавіне 17 ст. з цэглы ў маёнтку Снарскіх Старая Жосна[1]. Зруйнавана ў 1950-я гг., захаваліся рэшткі.

Архітэктура рэшткаў фасада дае падставу меркаваць, што яна насіла рэнесансны характар: трохвугольны франтон, крапаваны аркатурай, круглая люкарна, партал арачнага ўваходнага праёма. Цэнтрычны аб'ём быў перакрыты крыжовым скляпеннем.

[1] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. I. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мн., 2003. С. 59.





# Д

## в. Дабраўляны,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы ў былым сядзібна-паркавым комплексе Гюнтараў.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана кампактным кубападобным аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Плоскасныя фасады падзелены на 2 ярусы: 1-ы крапаваны прамавугольнымі нішамі, 2-і — вугламі і прасценачнымі лапаткамі, апяразаны прафіляваным карнізам. Над прамавугольным уваходным праёмам размешчаны «ляжачы» аконны праём. Тарцовыя фасады завершаны трохвугольнымі франтонамі. Зала асветлена 2 квадратнымі вокнамі на алтарнай сцяне.

## г. Давыд-Гарадок,
Столінскі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл

Ва ўсходняй частцы горада. Пабудаваны ў 1920-я гг. з цэглы. Выкарыстоўваецца пад клуб.

Помнік архітэктуры гістарызму. Вырашаны прамавугольным у плане пад 2-схільным дахам аб'ёмам, да якога далучаны паўкруглая апсіда з бакавой сакрысціяй і прамавугольны прытвор да фасада. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі з клінчатымі броўкамі. Цокальная частка сцен шыта гарызантальным рустам.



Касцёл у г. Давыд-Гарадок.





Капліца ў в. Дабраўлянцы.

## в. Дайлідкі (Даўкшышкі),
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Апекі Маці Божай

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1927—29 гг. з дрэва. Закрыты ў 1949 г., вернуты парафіянам у 1989 г., адбудаваны ў 1990 г. Перад храмам пастаўлена 4-слуповая шатровая званіца, побач надмагіллі Лашкевічаў.

Першапачатковы касцёл заснаваны ў 18 ст. Брыгідай Міхайлоўскай (з Сулістроўскіх) і віленскім канонікам Іахімам СуліСтроўскім. З'яўляўся філіяльным ад касцёла Божай Маці Ружанцовай у в. Солы.

Твор архітэктуры так званага закапанскага стылю. Вырашаны прамавугольнымі зрубам малітоўнай залы і апсіды, накрытымі ступеньчата спалучанымі высокімі 2-схільнымі дахамі. Яны ярусна нарастаюць да вертыкальнай фасаднай дамінанты — магутнай 4-граннай пірамідальнай вежы-званіцы, завершанай шатром і фігурным барочным купалам. Яруснасць кампазіцыі ўзмоцнена больш нізкай галерэ-



Касцёл Апекі Маці Божай у в. Дайлідкі.

яй-гульбішчам вакол храма. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер упрыгожаны 3 алтарамі: Апекі Маці Божай, св. Тэрэзы і св. Іосіфа.



Надмагіллі Лашкевічаў каля касцёла Апекі Маці Божай у в. Дайлідкі.

## в. Далёкія,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл святога Станіслава

На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1930-я гг. з дрэва, у 1994 г. адрамантаваны.

Помнік архітэктуры канструктывізму. У аснове аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі — кананічная 3-нефавая 1-вежавая базіліка. Яе дынамічна нарастаючая пабудова фарміруецца пераходам нізкіх бакавых нефаў пад 1-схільнымі з бакавымі вальмамі пакрыццямі да высокага цэнтральнага нефа пад 2-схільным дахам. Вертыкальнай дамінантай з'яўляецца далучаная да фасада 2-ярусная 4-гранная званіца, завершаная пластычным купалам (рудымент стылю барока). Яруснасць кампазіцыі ўзмацняецца ніжэйшай 5-граннай апсідай пад гранёным пакрыццём. Дах над прэсбітэрыем завершаны 4-граннай шатровай сігнатуркай. Гарызантальна ашаляваныя фасады рытмічна расчлянёны разнастайнымі па памерах прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры абраз 18 ст. «Каранаванне Маці Божай».



Касцёл святога Станіслава ў в. Далёкія.

## в. Дамачава

Брэсцкага раёна

## Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На ўсходняй ускраіне вёскі, на пагорку. Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы, дабудаваны ў 2-й палавіне 20 ст.

Аўтэнтычны храм — помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які над працяглай 5-граннай апсідай пераходзіць у вальмавы. Да фасада далучаны прамавугольны нартэкс пад 2-схільным пакрыццём, трохвугольны франтон якога рытмуецца з франтонам фасада, завершаным па вуглах 4-граннымі шатровымі пінаклямі. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, крапаваны вуглавымі і прасценачнымі пілястрамі, апяразаны прафіляваным карнізам на дэнтыкулах.



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Дамачава.




## в. Дамашы,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

У цэнтры вёскі, пры дарозе Лебедзева—Маладзечна. Пабудавана ў пачатку 21 ст. з цэглы.



Капліца ў в. Дамашы.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Данюшава.




Капліца ў в. Дарава.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 2-ярусnай 4-граннай вежай пад шатровым пакрыццём з каваным крыжом у завяршэнні. Грані верхняга яруса крапаваны арачнымі нішамі, франтальная з якіх запоўнена абразом «Маці Божая Цаліцельніца».

## в. Данюшава,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі, на правым беразе р. Вілія. Пабудаваны ў 1809 г. з дрэва на месцы храма 1621 г., які належаў езуіцкай місіі. Абнесены мураванай агароджай з арачнай цаглянай брамай насупраць храма і нізкай 4-граннай шатровай званіцай у вугле ўчастка. Перад храмам у 1915 г. пастаўлены помнік у гонар падзей 1-й сусветнай вайны, у 1920-я гг. — скульптура Маці Божай на бутавым пастаменце. Помнік архітэктуры класіцызму з рысамі стылю рэтраготыкі. Прамавугольны ў плане будынак, накрыты 2-схільным дахам. Да асноўнага аб'ёму далучана вузейшая прамавугольная апсіда з бакавымі нізкімі сакрысціямі. Двухвежавы галоўны фасад вылучаны 4-калонным порцікам з франтонам, бакавыя рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі ў разных ліштвах і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

Малітоўная зала перакрыта плоскай падшыўной столлю, больш вузкая і адкрытая шырокім арачным прасветам апсіда — корабавым драўляным скляпеннем. На левай сцяне навешаны амбон. Пры ўваходзе — хоры на 4 слупах.

## в. Дарава,

Ляхавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

У паўднёвай частцы вёскі. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы.

Вырашана 4-граннай тумбай пад шатровым пакрыццём, завершаным крыжом. Узнята на кубападобны п'едэстал. На франтальнай грані надпіс «З намі Бог».

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Каля шашы Баранавічы—Ляхавічы. Пабудаваны ў 1926—38 гг. з цэглы.

Твор архітэктуры гістарызму. Будынак вырашаны ў плане ў форме лацінскага крыжа: працяглы аб'ём малітоўнай залы, завершаны 5-граннай апсідай, перакрыжаваны крыламі трансепта. Да фасада, завершанага фігурным увагнута-пукатым франтонам (рудымент стылю барока), далучана 3-ярусная (васьмярык на 2-чацверыках) шатровая вежа-званіца, дынамічны вертыкалізм якой узмацня-

ецца бакавымі нізкімі каморамі. Перакрыжаванне 2-схільнага і вальмавага дахаў адзначана кампактнай сігнатуркай. Плоскасныя фасады члянёны разнастайнымі па форме і малюнку аконнымі праёмамі: лучковымі на бакавых фасадах, арачнымі на званіцы. Уваход аформлены рызалітам-парталам з трохвугольным франтонам.

Унутраная прастора арганізавана па каноне 3-нефавай базілікі. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным драўляным скляпеннем, падтрыманым магутнымі 4-граннымі міжнефавымі ўстоямі, вузейшая апсіда — конхай на распалубках. Перспектыву нефа завяршае 2-ярусны алтар у стылі неакласіцызму — 4-калонная арка-табернакль.


Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Дарава.

## в. Даўгінава,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы. За капліцай — вайсковыя могілкі 1915—1920 гг.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 2-яруснай 4-граннай вежай пад шатровым пакрыццём. У адкрытым арачнымі прасветамі верхнім ярусе ўстаноўлены крыж (раней скульптура).


Капліца ў в. Даўгінава.

### Касцёл святога Станіслава

На цэнтральнай плошчы вёскі. Пабудаваны ў 1853 г. з цэглы на сродкі парафіян і намаганнямі ксяндза Юзафа Львовіча. Побач пастаўлена квадратная ў плане 2-ярусная драўляная званіца пад шатровым пакрыццём.

Першы драўляны касцёл быў узведзены ў 1553 г., знішчаны падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. Новы драўляны касцёл збудаваны ў 1704 г. па фундацыі Караля і Евы Друцкіх-Сакалінскіх. У пачатку 19 ст. згарэў. На пачатак Вялікай Айчыннай вайны парафія налічвала да 7200 прыхаджан.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Трохнефавая бязвежавая базіліка з высокай паўкруглай апсідай, прарэзанай вялікімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка 2-ступеньчатая за кошт securityвышынных нефаў, дахі якіх з боку галоўнага фасада схаваны прамавугольнымі атыкамі. Галоўны фасад вылучаны магутным порцікам з 4 калонамі утрыраванага тасканскага ордэра і трохвугольным франтонам, які завершаны крыжом. Фасады крапаваны вуглавымі пілястрамі, апяразаны развітым шматслойным карнізам. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены прафіляванымі ліштвамі. Цэнтральны і бакавыя лучковыя ўваходныя парталы аформлены пілястравымі порцікамі з буйнымі антаблементамі і трохвугольнымі франтонамі.

Унутраная прастора 4 слупамі падзелена на 3 нефы і перакрыта плоскай столлю. Сцены малітоўнай залы дэкарываваны пілястрамі, апсіда асветлена вялізнымі арачнымі і прамавугольнымі вокнамі. Вырашаныя ў стылі класіцызму галоўны і 4 бакавыя алтары, амбон, пазалочаная накладная


Касцёл святога Станіслава ў в. Даўгінава.



Касцёл Божага Цела ў в. Дварэц.

драўляная разьба, скульптура і арнаментальная размалёўка складаюць мастацка-дэкаратыўнае насычэнне інтэр'ера. Над нартэксам у цэнтральны неф выступаюць хоры з арганам, на якія вядзе лесвіца ў тоўшчы сцяны.

## в. Дварэц,

Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Божага Цела

На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1904—09 гг. з цэглы[1]. Будаўніцтва мураванага храма абумоўлівалася тым, што папярэдні драўляны нават пасля рамонтаў (1882, 1895) не задавальняў парафію і пасля царскага ўказа аб верацярпімасці з боку ўлад не рабілася перашкод[2]. Адноўлены і адкрыты ў 1993 г.

Помнік архітэктуры неарэнесансу. Манументальная 2-вежавая 3-нефавая базіліка з трансептам. Цэнтральны неф накрыты 2-схільным дахам, бакавыя — 1-схільнымі. Галоўны заходні фасад дэкарыраваны рустам, філёнгамі, ліштвамі арачных праёмаў, лучковымі франтонамі, развітым антабльментам з трыгліфным фрызам. У завяршэнні фасада 2 бакавыя вежы з фігурнымі купаламі. Цэнтральны шчыт з паўцыркульным франтонам і бакавымі валютамі. З архітэктуры рэнесансу выкарыстаны «венецыянскія вокны» ў выглядзе плоскага порціка з лучковым франтонам (у ніжнім ярусе вежаў) і цэнтральнага «паладыянскага акна» ў выглядзе паўкруглай аркі, расчлянёнай на 3 часткі стойкамі. Уваход арганізаваны праз невялікі прытвор з арачным праёмам у руставаным абрамленні. Усе элементы дэкору і архітэктурныя абломы выкананы неатынкаванай цаглянай муроўкай. Унутраная прастора падзелена пілонамі на 3 нефы са скляпеністым перакрыццем.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 1933, арк. 1.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 1121, арк. 10 адв.

## в. Двор-Навасёлкі,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі. Пастаўлена ў пачатку 20 ст.

Твор народнага дойлідства. На высокі 4-гранны мураваны пастамент узняты чыгунны крыж са скульптурным Укрыжаваннем.

## в. Дварышча,

Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Каля шашы Ліда—Геранёны, на старажытных могілках. Пастаўлена ў пачатку 21 ст.

Вырашана скульптурай Хрыста, узнятай на высокі цыліндрычны канелюраваны пастамент. Над капліцай на 4 стрыжнях бляшаная паўкруглая сень.



Капліца ў в. Двор-Навасёлкі.



Капліца каля шашы Ліда—Геранёны ў в. Дворышча.

## Капліца Маці Божай Ружанцовай

На захад ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў пачатку 21 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Вырашана кубападобным аб'ёмам, перасечаным па падоўжнай восі вузейшым аб'ёмам нефа пад V-падобным пакрыццём. Над франтальным фасадам узвышаецца рызаліт-пласціна. Вось яго сіметрыі адзначана крывалінейным парталам арачнага



Капліца Маці Божай Ружанцовай у в. Дворышча.

Капліца ў в. Дзедзіна.





Касцёл у в. Дзераўная Баранавіцкага раёна.

ўвахода і «церамным» праёмам званіцы над ім. Плоскімі рызалітамі вылучаны і бакавыя фасады.

# в. Дзедзіна,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

На могілках, пры дарозе Пераброддзе—Ідалта. Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы на месцы драўлянай капліцы 19 ст.

Твор народнага дойлідства. Кампактная прамавугольная ў плане пабудова пад 2-схільным дахам. Асветлена 2 бакавымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

# в. Дзераўная,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл

На паўночнай ускраіне вёскі. Утвораны ў будынку былой драўлянай школы, у канцы 20 ст. абкладзены цэглай.

Прыземленая кампазіцыя храма ў плане мае Н-падобную канфігурацыю. Вертыкальнай дамінантай з'яўляецца далучаная па цэнтры франтальнага фасада 4-гранная шатровая вежа. Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.




# в. Дзераўная,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. У 1979 г. вернута парафіянам, адрамантавана.

Помнік народнага дойлідства з утрыраванымі формамі класіцызму. Аднazрубны прамавугольны ў плане аб'ём пераходзіць у 3-гранную апсіду. Галоўны фасад аформлены 4-калонным порцікам, трохвугольны франтон якога вянчае 8-гранная сігнатурка-званіца. Сцены гарызантальна ашаляваны і расчлянёны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі. Зала перакрыта плоскай столлю.



Капліца ў в. Дзераўная Стаўбцоўскага раёна.

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры вёскі. Мураваны храм заснаваны ў 1598 г. па фундацыі Мікалая Крыштофа Радзівіла і яго жонкі Галькі Эўфіміі Вішнявецкай паводле тэстаменту Эўфіміі Вярбіцкай (жонка валынскага ваяводы Андрэя Вішнявецкага)[1]. Верагодны будаўнік храма — віленскі канонік Войцех Сялява. У інвентары 1593 г. адзначаны ў стадыі будаўніцтва. У пачатку 17 ст. пераасвячоны на Прачысценскі касцёл, які ў 2-й палавіне стагоддзя набыў вежу на фасадзе, у пачатку 18 ст. адрэстаўрыраваны.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Дзераўная Стаўбцоўскага раёна.

Помнік архітэктуры готыкі і рэнесансу. Храм 1-вежавы, прамавугольны ў плане з паніжанай 5-траннай апсідай і прыбудаванымі да яе бакавымі прамавугольнымі сакрысціямі. Трох'ярусная (васьмярык на 2 чацверыках) шатровая вежа ўзвышаецца над галоўным паўночным фасадам, яе вуглы ў ніжняй частцы ўмацаваны контрфорсамі, грані крапаваны высокімі арачнымі нішамі. Бакавыя сцены ўмацаваны контрфорсамі-пілонамі ў прасценках высока ўзнятых паўцыркульных аконных праёмаў.

Аднанефавая малітоўная зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках з распалубкамі над аконнымі праёмамі. Алтарная частка адкрываецца ў залу вялікім арачным прасветам. Нартэкс і сакрысціі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Над уваходам выступае галерэя хораў з арганам, падтрыманая 4 калонкамі. На хоры вядуць 2 бакавыя лесвіцы, размешчаныя ў тоўшчы сцен. Пад вокнамі — плоскія арачныя нішы.

Дэкаратыўна-мастацкае афармленне інтэр'ера ўключае 3 алтары барочнай стылёвай трактоўкі, класіцыстычны амбон, галерэю гарэльефных пано-стацый, арнаментальны роспіс скляпенняў.





Інтэр'ер касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Дзераўная Стаўбцоўскага раёна.

---

[1] Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. СПб., 1863. С. 413; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 110—111; Ochmacski J. Biskupstwo Wileńskie wsredniowieczu. Poznań, 1972. S. 199; Zwolski B. Wileńszczyzna, nowogrodczyzna i białostoczyzna za Zygmunta III. Wilno, 1938. S. 18.

# в. Дзеркаўшчына,

Глыбоцкі раён

Віцебскай вобласці

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры вёскі. Будаўніцтва было пачата 7.5.1822 г. з бутавага каменю[1]. Пасля закрыцця ў 20 ст. вернуты парафіянам у 1989 г. Абнесены бутавай агароджай з 2-яруснай 4-граннай мураванай званіцай пад шатровым дахам і арачнай брамай. У падмурак умураваны мемарыяльны камень з надпісам: «Лявон сын Казіміра Дамейка пам. 1845 ліпеня 29 на 78 годзе жыцця».

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам. Галоўны фасад вырашаны 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам, завершаным спічастай сігнатуркай. На фоне паліхромнай бутавай муроўкі вылучаюцца атынкаваныя і пабеленыя элементы архітэктурнага дэкору: прафіляваны карніз і вуглавыя лапаткі, ліштвы лучковых і арачных аконных праёмаў, паўкруглых і круглых люкарнаў. У агульнай прасторы залы бакавыя сакрысціі вылучаюць апсіду, аб'яднаную агульнай плоскай бэлечнай столлю. Пры ўваходзе галерэя хораў на 2 магутных калонах.

---

[1] Rzymskokatolicka diecezja Witebska (Białoruś). Witebsk, 2004. S. 104.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Дзеркаўшчына.

# в. Дзеткаўцы,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які на фасадзе выступае трохвугольным вертыкальна зашытым дошкамі франтонам, падтрыманым бакавымі прасценкамі. Бакавыя фасады расчлянёны 2 парамі прамавугольных аконных праёмаў.



Капліца ў в. Дзеткаўцы.

# г. Дзісна,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

На заходняй ускраіне вёскі, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Складаецца з прамавугольных у плане аб'ёмаў прытвора і малітоўнай залы, аб'яднаных агульным 2-схільным дахам, які над прытворам завершаны 4-гранным шатровым барабанам. Плоскасныя фасады прарэзаны 4 прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Над уваходам 1-схільны казырок.



Капліца ў г. Дзісна.

## Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар францысканцаў

У паўночна-ўсходняй частцы горада, паміж вуліцамі Дзвінскай, Маскоўскай і Новай. Мана-



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар францысканцаў у г. Дзісна.

хаў-францысканцаў пасяліў тут кароль Стафан Баторый у 1583 г., у 1630 г. памешчык Крыштаф Малкіевіч Хелхоўскі фундаваў для іх кляштар з драўлянымі касцёлам, жылым корпусам і званіцай (ахвяраваў маёнтак Клімаўшчына). Мсціслаўскі ваявода Іосіф Корсак у завяшчанні ад 20.9.1640 г. загадаў кармелітам г. Глыбокае з ахвяраваных ім валоданняў адлічваць кляштару штогод 200 злотых[1]. Каля 1773 г. замест драўлянага быў узведзены мураваны касцёл, у 1818 г. — жылы корпус[2]. У 1831 г. кляштар скасаваны, а касцёл пераўтвораны ў парафіяльны, у 1882 г. храм закрыты і перададзены пад праваслаўную царкву. Храм знішчаны пажарам пасля Вялікай Айчыннай вайны. Захаваўся ў рэштках. Цяпер у стане аднаўлення.

З'яўляецца помнікам архітэктуры позняга барока. Вырашаны 1-нефавым бязвежавым аб'ёмам, які пераходзіць у магутную паўкруглую апсіду. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і тонкімі лапаткамі ў прасценках. Зала была перакрыта цыліндрычным скляпеннем на распалубках, якія абапіраліся на прысценныя, крапаваныя пілястрамі пілоны. У інтэр'еры апсідную сцяну ўпрыгожваў стукавы алтар у стылі ракако[3]. Захаваліся фрагменты блакітна-белай арнаментальнай мазаічнай падлогі.





Капліца ў в. Дзямідавічы.

---

[1] Połocki R. Z dziejów starostwa Dzisnieńskiego // Litwa i Rus. Wilno, 1913. Zeszyt X—XII. S. 114—133.

[2] Gozdawa M. Szkoły w woj. Połockiem w XVIII w. po pierwszym kraju rozbiorze // Kwartalnik litewski. 1910. N 6. T. 2. S. 68.

[3] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 301.

# в. Дзітва,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца святых апосталаў Пятра і Паўла

Пабудавана ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над фасадам драўлянай 4-граннай шатровай званічкай. Франтальны фасад сіметрычна расчлянёны арачным уваходным парталам і бакавымі арачнымі нішамі-экседрамі. Бакавыя плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі. Да алтарнай часткі далучаны нізкія прамавугольныя сакрысціі пад 1-схільнымі пакрыццямі. Унутры малітоўная зала пазбаўлена архітэктурных краповак, перакрыта плоскай столлю. Пры ўваходзе на 2 слупах галерэя хораў.

# в. Дзямідавічы,
Валожынскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

За 1 км на поўдзень ад вёскі, у полі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю. Захавалася ў рэштках.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Бутавая муроўка сцен прабіта ўваходным і 2 бакавымі арачнымі аконнымі праёмамі, па вуглах умацавана цаглянымі лапаткамі.

# г. Дзяржынск (Койданава)
Мінскай вобласці

## Касцёл святой Ганны

У паўночнай частцы горада, на вул. Першамайскай. Першапачатковы храм Апекі Божай заснаваны ў 1439 г. па фундацыі літоўскага князя Міхаіла Жыгімонтавіча (па іншых звестках — Радзівілаў[1]). Неаднаразова цярпеў ад пажараў. Існуючы храм пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. Меліся філіяльны касцёл у в. Вязынь, прыпісныя капліцы ў вёсках Станькава, Гарбузы, Нарэі, Рубілкі, Скароднае, Навасёлкі[2]. На 1883 г. налічвалася 12 300 парафіян. Пасля Вялікай Айчыннай вайны выкарыстоўваўся пад дзіцячую музычную школу. У 1990-я гг. перададзены парафіянам і адноўлены.

Помнік драўлянага дойлідства з рысамі барока[1]. Трохнефавая 2-вежавая базіліка на мураваным цокалі. Мае ярусную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю: да цэнтральнага высокага нефа, які пераходзіць у 5-гранную апсіду, далучаюцца больш нізкія бакавыя нефы з 1-схільнымі пакрыццямі. Галоўны фасад вырашаны шырокай вертыкальна ашаляванай плоскасцю. Першапачаткова фасад быў фланкіраваны дзвюма 2-ярrandusnymі чацверыковымі вежамі, завершанымі пластычнымі па форме каркаснымі шатровымі сігнатуркамі (былі знесены і надбудаваны нізкія вежачкі). Паміж імі быў размешчаны фігурны валютны шчыт, што прыкрываў 2-схільны дах — кампазіцыя, запазычаная з барочнай мураванай архітэктуры. Па цэнтры фасада было лучковае акно, што асвятляла хоры, і 4-слуповы ганак. Бакавыя фасады расчлянёны 2 радамі прамавугольных (раней лучковых) аконных праёмаў і вертыкальнымі брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

У інтэр'еры на апсідную сцяну была нанесена ілюзорная выява барочнага алтара ў выглядзе порціка з 2 парамі размешчаных уступам канелюраваных карынфскіх калон, якія неслі лучковы франтон з кампазіцыяй «Глорыя» ў завяршэнні[3]. Характарызаваўся напружанасцю і экспрэсіўнасцю архітэктурна-пластычнай кампазіцыі, выгінамі хвалістага франтона і карнізных паясоў, насычанасцю скульптурай, вазамі і дэкаратыўнай разьбой. Уся архітэктурна-пластычная кампазіцыя была ўзнята на высокі філёнгавы цокаль са скульптурамі апосталаў па баках. У цэнтры алтара быў жывапісны абраз «Прасвятая Багародзіца» 18 ст.

Першапачаткова перад касцёлам стаяла драўляная 2-ярусная зрубна-каркасная званіца, шатровы гонтавы дах якой завяршала сігнатурка, падобная да касцельнай. У канцы 20 ст. яе змяніла мураваная 2-ярусная 8-гранная шатровая званіца.

---

[1] Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в. Справочное пособие. Мн., 1991; Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1883. T. 4. S. 246—249.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 191—193.

[3] Ignacy Borejko Chodųko. Diecezja Mińska około 1830 roku. I. Struktury parafialne. Opracował i wydał Marian Radwan. Lublin, 1998.



Касцёл святой Ганны ў г. Дзяржынск.

## в. Дзярэчын,

Зэльвенскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Каля могілак. Пабудаваны ў 1913 г. з цэглы.

Падставай для будаўніцтва касцёла з'явілася хадайніцтва мяшчан мястэчка і сялян навакольных



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Дзярэчын.



Капліца ў г. Дзятлава.

вёсак да гродзенскага губернатара[1]. Жыхары-каталікі мястэчка і навакольных вёсак па сялянскіх прыгаворах абавязаліся прыняць будаўніцтва касцёла і ўтрыманне святара на ўласныя сродкі[2]. 24.6.1906 г. губернскі інжынер А.Савіч адпраўляе праект і смету на будаўніцтва храма[3]. Акты прыёмкі касцёла складзены 28.10.1912 г.: «Пабудова ўзведзена ўчарне, выведзены сцены і пакрыты чарапіцай дах. Скляпенні яшчэ не зроблены. Вокны не зашклёны». Канчаткова будынак здадзены 30.1.1913 г.[4] Закрыты ў 1951 г., пасля чаго выкарыстоўваўся пад склад і прыйшоў у занятпад (рухнулі дах і скляпенні). Рэстаўрыраваны паводле праекта архітэктара В.Атас пад кіраўніцтвам ксяндза Вітольда Жэльветра. Аднаўлены на сродкі французскага падданага Жана Керхнера (пры ўваходзе на сцяне мемарыяльная дошка «У памяць Ірэне Керхнер-Жукоўскай 16.2. 1926, Дзярэчын — 27.11.1989, у Парыжы. Касцёл гэты адбудаваны дзякуючы яе мужу Жану ў 1991—93 гг.». Адкрыты і асвячоны біскупам А.Кашкевічам 14.8.1993 г.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Аднавежавы, 1-нефавы храм з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі ўзняты на цокаль, выкладзены з вапняковых блокаў. Вертыкальнай дамінантай храма з'яўляецца 8-гранная вежа-званіца са спічастым шпілем (у 1995 навешаны звон, адліты ў 1717). Ступеньчаты франтон фасада фланкіраваны фіяламі. Над уваходным стральчатым парталам з вімпергам размешчана акно-ружа. Стральчатымі парталамі афармлены і 2 бакавыя ўваходы. Бакавыя сцены расчлянёны вялікімі стральчатымі аконнымі праёмамі з ажурнымі кратамі і каляровымі вітражамі, умацаваны ў прасценках ступеньчатымі контрфорсамі. Па перыметры праходзіць карніз з сухарыкамі, выкарыстаны аркатурныя фрызы. Элемент асіметрыі ў агульную кампазіцыю будынка ўносіць 8-гранная вежа правай сакрысціі. Сцяна нефа над апсідай завершана 2-гранным шчыпцом з шэрагам фіял. Мастацка-эстэтычны эфект дасягаецца высакаякаснай цаглянай муроўкай.

Зала перакрыта гатычным зоркавым скляпеннем, высокай стральчатай аркай, у якую адкрываецца апсіда. Над крыжовымі скляпеннямі нартэкса размешчаны хоры.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1012, арк. 2.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1012, арк. 2адв.
[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1012, арк. 52.
[4] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1012, арк. 87, 89.

# г. Дзятлава

Гродзенскай вобласці

## Капліца

На заходняй ускраіне горада, на старых каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1813 г. з цэглы. У 1906 г. ўладальнік маёнтка Накрышкі памешчык С. Стравінскі рэканструяваў яе паводле праекта віленскага архітэктара А.Клейна пад родавую пахавальню (зроблены склеп і ўваход у яго)[1].

Помнік архітэктуры класіцызму. Уяўляе сабой закруглены ў алтарнай частцы прамавугольны аб'ём пад 2-схільным дахам, які на галоўным фасадзе выступае трохвугольным франтонам вынаснога 4-калоннага тасканскага порціка. Над франтонам пастаўлена невялікая 4-гранная вежа-званіца, над апсідай — 4-гранная сігнатурка. Уваход афармлены прамавугольным парталам з рамай-плакеткай наверсе.

Зала асветлена 2 высокімі арачнымі вокнамі, прарэзанымі ў сценах метровай таўшчыні. Ілюзорны архітэктанічны алтар выкананы фрэскавай размалёўкай у вохрыстай каляровай гаме. Пад капліцай сутарэнні, перакрытыя латковымі скляпеннямі па таўравых бэльках; у сценах нішы для пахаванняў.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 1843, арк. 3.

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры горада, на плошчы 17 Верасня. Пабудаваны ў 1624—46 гг. па фундацыі ўладальніка мястэчка Льва Сапегі і яго сына Казіміра на былой Рынкавай плошчы, на месцы драўлянага храма (князь К.В. Астрожскі ў 1570 г. заснаваў пры ім багадзельню)[1]. З 1738 г. да канца стагоддзя ў ім служылі айцы-рахіты. Пасля вялікага пажару 1743 г., які знішчыў мястэчка і касцёл (згарэў галоўны алтар, унутранае начынне, архіў, труны з нябожчыкамі ў крыпце)[2], у 1751 г. перабудаваны архітэктарам А. Асікевічам па фундацыі М.Ф. Радзівіла і яго жонкі Барбары (з Завішаў). Пасля пажару 1882 г. заменены дах[3]. У 1900 г. касцёл быў абнесены высокай мураванай сцяной з 4-слуповай брамай і вуглавымі 4-граннымі вежамі пад барочнымі чарапічнымі дахамі «з заломам». Уздоўж правай сцяны агароджы

цягнуліся гандлёвыя рады. Прыпісная філіяльная капліца св. Юзафа ў в. Руда Яварская.

Помнік архітэктуры «віленскага барока» (ракако). Двухвежавы 1-нефавы храм з магутнай паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Зрокава аблегчаныя 4-ярусныя вежы з фігурнымі купаламі і шчыт паміж імі (у мінулым з курантамі) робяць кампазіцыю галоўнага фасада вышыннай, дынамічнай, а сілуэт маляўнічым. Пілястры і хвалістыя карнізы дзеляць яго на 3 часткі, у цэнтральнай з якіх вылучаецца пластычны партал галоўнага ўвахода з выявамі анёлаў і херувімаў. Партал выкананы ў рэнесансава-барочным стылі ў 1646 г., верагодна, кракаўскім скульптарам Кастэлі[4]. На франтоне партала лацінскі надпіс: «На славу Усемагутнаму Богу і ў гонар Унебаўзяцця Прачыстай гэты храм пабудаваў Казімір Лявон Сапега, падканцлер В.К.Л. Слонімскі дзяржаўнік 1646 Р.Х.»; у верхнім картушы гарэльеф «Божая Маці з дзіцем Ісусам». У бакавых праслах фасада зроблены арачныя нішы-экседры, у якіх пастаўлены скульптуры святых апосталаў Пятра і Паўла, Ісуса і Маці Божай. Бакавыя сцены і апсіда ўмацаваны пілонамі, плоскасці паміж якімі прарэзаны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. Над скругленым дахам апсіды на пастаменце ўзвышаецца крыж. Рамонт храма ў 1900 г. пасля пажару парушыў яго белакаменную таніроўку[3].

У інтэр'еры сцены расчлянёны шырокімі пілястрамі і апяразаны магутным карнізам. Алтарная частка аддзелена ад залы высокім арачным прасветам. Цыліндрычнае з распалубкамі скляпенне нефа пераходзіць над апсідай у крыжовае. Хоры, на якія вядуць 2 вінтавыя лесвіцы, адгароджаны парапетам складанай канфігурацыі; на іх устаноўлены арган, упрыгожаны накладной пазалочанай разьбой. У час перабудовы касцёла ў сярэдзіне 18 ст. інтэр'ер набыў ракайльную мастацка-стылёвую трактоўку. Яго афармленне заснавана на скульптурна-арнаментальнай лепцы, якая сканцэнтравана на 7 насценных алтарах, выкананых у тэхніцы стука ў 1751 г. Галоўны з іх, які цалкам запаўняе глыбокую апсіду, 2-ярусны 3-часткавы, дынамічнай архітэктурна-дэкаратыўнай кампазіцыі: складаны рытм карынфскіх калон і пілястраў, інтэнсіўна раскрапаваныя антаблементы. У першым ярусе ў інтэркалумніях устаноўлены скульптуры святых Альберта і Станіслава, у цэнтры — разны гарэльеф Бога-айца з Укрыжаваннем на фоне аблокаў і 6 скульптур святых у экспрэсіўнай трактоўцы. У другім ярусе сярод пілястравай крапоўкі выкананы гарэльеф Божай Маці на воблаку. Карнізны пояс упрыгожваюць дэкаратыўныя вазы на звівах валют, накладныя картушы, ракайлі. На консе апсіды ляпная гарэльефная кампазіцыя «Усёбачнае Вока». Два меншыя вуглавыя алтары нагадваюць галоўны і таксама пакрыты стукавай дэкаратыўнай ляпнінай. У левым алтары святой Марыі Магдалены размешчаны абразы-карціны «Св. Магдалена» і «Унебаўзяцце», скульптуры св. Мікалая і св. Юры; у правым алтары св. Барбары — абразы-карціны «Св. Барбара» і «Св. Сям'я», скульптуры



Інтэр'ер касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Дзятлава.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Дзятлава.

св. Удальрыка і св. Фаўстына. На сценах нефа алтары Маці Божай Вастрабрамскай, Ісуса, св. Юрыя, Яна Непамука; 2 картушы з выявамі Вадохрышча і партрэта Мікалая Фаўстына Радзівіла з эпітафіяй. У стылі ракако вырашаны амбон, кансольна навешаны на паўночна-заходнюю сцяну нефа і насычаны



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар францысканцаў у г. Докшыцы.

ляпной ракайльнай арнаментыкай, геральдычнымі знакамі, драпіроўкамі, картушамі, сімвалічнай атрыбутыкай евангелістаў (выявы анёла, цяльца, льва, арла). Пластычны ляпны балдахін амбона завершаны скульптурай анёла. Абраз 2-й палавіны 18 ст. «Марыя Магдалена».

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 324, арк. 176.

[2] Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1895. T. 14.

[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 747, арк. 30.

[4] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 117.

## г. Докшыцы
Віцебскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар францысканцаў

У заходняй частцы горада, на вул. Пушкіна. Пабудаваны ў 1991—94 гг. з цэглы. 3.10.2001 г. айцы-францысканцы заклалі вуглавы камень у падмурак будынка кляштара, які далучаны да касцёла ў выглядзе прамавугольнага ў плане 2-павярховага аб'ёму пад 2-схільным дахам. Адасоблена ўзведзены другі 2-павярховы корпус складанай асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай пабудовы.

Касцёл вырашаны прамавугольным у плане будынкам пад 2-схільным дахам. Да фасада асіметрычна далучана 4-гранная вежа-званіца пад пакатым шатровым пакрыццём, адкрытая наверсе трайнымі арачнымі прасветамі (2 званы 40 і 120 кг). Плоскасны фасад завершаны 2-гранным шчыпцом, вылучаны па цэнтры арачным уваходным парталам і круглай люкарнай над ім. Бакавыя фасады расчлянёны высокімі арачнымі і вузкімі аконнымі праёмамі. Унутры зала перакрыта драўляным сафітам.





Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Драгічын.

## в. Доцішкі,
Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Божай Міласэрнасці

Пабудаваны ў 1997 г. з цэглы, асвячоны 17.11. 2002 г.

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Вырашаны трапецападобным у плане аб'ёмам пад 2-схільным пакрыццём. Вуглавая частка фасада фланкіравана 2 дыяганальна разгорнутымі пілонамі, перамычка паміж якімі завершана высокім крыжом. Плоскасныя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі.

## г. Драгічын
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры горада, на вул. Леніна. Пабудаваны ў 1928 г. з дрэва на сродкі парафіян і намаганнямі ксяндза Тамаша Ліпіцкага. На 1935 г. налічвалася 1248 парафіян[1]. У пасляваенны час перабудаваны пад грамадзянскія мэты.

Помнік архітэктуры мадэрна. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Алтарны фасад крапаваны трайной аркатурай, па баках да яго далучаны прамавугольныя ў плане сакрысціі. Фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

---

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 113.

## в. Друцкаўшчына,
Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы як родавая пахавальня Слізняў. Захавалася ў руінах.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Была вырашана кубападобным аб'ёмам, грані якога вылучаліся 2-калоннымі порцікамі.

## г.п. Друя,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар бернардзінцаў

У паўночнай частцы гарадскога пасёлка, на ўзвышаным беразе р. Заходняя Дзвіна. Касцёл пабудаваны ў 1643—46 гг. па фундацыі падканцлера Вялікага княства Літоўскага Казіміра Сапегі[1]. Каля 1763 г. перабудаваны архітэктарам Л.Грынцэвічам і італьянскім дойлідам А.Парак[2]. У 1690(1706) г. збудаваны жылы корпус кляштара па фундацыі браслаўскага падчашага П.К.Кашаноўскага[3]. У 1832 г. кляштар скасаваны, а ў 1839 г. перададзены праваслаўным. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1875—77 гг.

З 1923 г. кляштар займалі манахі ордэна марыянаў (заснаваны па ініцыятыве віленскага біскупа і генерала ордэна Ю.Матулевіча, скасаваны ў 1938); з 1926 г. ў ім служыў Ф.Абрантовіч (1884—



Капліца ў в. Друцкаўшчына.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар бернардзінцаў у г.п. Друя. Малюнак Н.Орды. 1875—77 гг.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г.п. Друя. Сучасны выгляд.

1940) — беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, які выступаў за вядзенне службы ў касцёлах і духоўных навучальных установах на беларускай мове. У 1924 г. манахі манастыра арганізавалі тут школу (з 1930 гімназія імя Стафана Баторыя), у якой вучыліся А.Цікота (у 1924—33 дырэктар), Ч.Сіповіч (рэлігійны дзеяч, заснавальнік бібліятэкі імя Ф.Скарыны ў Лондане), П.Падзява (доктар філасофіі), У.Чарняўскі, пісьменнік Я.Германовіч, мастак В.Жаўняровіч, будучы гісторык В.Ярмаловіч.





У 1934—38 гг. кляштар аднавіў архітэктар Л.Вітан-Дубейкаўскі. У міжваенны перыяд з-за прабеларускай арыентацыі кляштара польскія ўлады выселілі яго манахаў. У канцы 1939 г. кляштар і гімназія закрыты. У 1944 г. касцёл пашкоджаны прамым трапленнем авіябомбы. З 1947 г. будынак кляштара выкарыстоўвалі розныя навучальныя ўстановы. У 1989 г. перададзены парафіянам, адрэстаўрыраваны.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока. Аднавежавая 3-нефавая базіліка з выцягнутай паўцыркульнай апсідай і аднабаковай сакрысціяй. Ар-



Інтэр'ер касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў г.п. Друя.

хітэктура збудавання вырашана ў спрошчаных па-барочнаму масіўных формах. Галоўны фасад мае ступеньчатую кампазіцыю, утвораную шчытом фасада з валютамі над бакавымі нефамі і высокай 5-яруснай вежай у цэнтры, якая ўвенчана фігурным купалам (надбудаваны ў 1772[4]), яе грані прарэзаны маленькімі паўцыркульнымі і круглымі аконнымі праёмамі, раскрапаваны вуглавымі пілястрамі і карнізнымі паясамі. Цэнтральны ўваход — у неглыбокай нішы. Бакавыя сцены нефа і апсіды ўмацаваны магутнымі контрфорсамі, прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі.





Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар бернардзінцаў у г.п. Друя. Жылы корпус. Сучасны выгляд.

Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар базыльян у г.п. Друя.

Унутры малітоўная зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Бакавыя сцены цэнтральнага нефа раскрапаваны пілястрамі і шырокай карнізнай цягай, дэкарыраваны філёнгамі, ляпным геаметрычным і раслінным арнаментам, пуцці. Плоскасці арак расчлянёны тонкімі арнаментальнымі кесонамі з ляпнымі разеткамі. Дэкор рэнесансавы — плоскасны, ураўнаважаны, з вельмі тонкай і лёгкай прарысоўкай усіх формаў. Інтэр'ер вырашаны ў 2 колерах: скляпенні пакрыты светлай вохрай, накладныя ордэрныя элементы і філёнгі — белыя. Цэнтральны (1764—67) і 4 бакавыя (1779) алтары і амбон выкананы ў стылі ракако. Цэнтральны алтар (1764—67) 2-ярусны, узняты на высокі цоколь; у яго бакавыя часткі ўпісаны вокны апсіды, што ствараюць эфект моцнага святлоценявога контражуру ў агульнай кампазіцыі. Пластыка алтара заснавана на спалучэнні пілястрава-калонных устояў з хвалістым, моцна раскрапаваным карнізам, які фланкіруюць сядзячыя скульптуры анёлаў на вітых валютах; пілястравы шчыт 2-га яруса запоўнены ляпной арнаментальна-скульптурнай кампазіцыяй «Глорыя»; у выразным стылі ракако выкананы ляпныя пілястры і картуш над нішай для алтарнай карціны «Укрыжаванне». Паводле такога ж мастацка-кампазіцыйнага прынцыпу зроблены 2 бакавыя і 2 кулісныя міжнефавыя алтары (1779). На хорах быў ракайльны арган, выкананы ў 1762— 67 гг. Д.А.Каспарыні[5].

Жылы корпус — 2-павярховы аб'ём, які ўтварае прамавугольны ўнутраны двор, далучаны да паўночнага бакавога фасада касцёла. Ад двара з 3 бакоў праходзіць калідор, перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Прамавугольныя ў плане пакоі маюць цыліндрычныя і плоскія перакрыцці. Вуглавыя пакоі большыя за астатнія і выступаюць за агульны прамавугольны абрыс плана. Пластыка простая: прамавугольныя аконныя праёмы на гладкіх атынкаваных сценах і вузкі завяршальны карніз, які з'яўляецца адзіным ордэрным элементам.

Пры касцёле была пастаўлена мураваная званіца — твор архітэктуры барока (не захавалася). Двух'яруснае 4-граннае збудаванне пад 2-схільным дахам; у завяршэнні франтальнага фасада — пластычны барочны шчыт з бакавымі валютамі і «разарваным» франтонам. Арачная ніша ў тымпане шчыта прызначалася для скульптуры. Праёмы былі вырашаны характэрнымі для стылю фестоннымі аркамі, сцены крапаваны лапаткамі, паўкалонамі, тонкапрафіляванымі карнізнымі паясамі. Перад касцёлам брама з агароджай, пабудаваная ў 1778 г. ў стылі позняга барока.

[1] Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба.

Гродненская губерния. СПб., 1863. С. 100; Довгялло Д.И. Друя. Вильна,1907. С. 24; Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 79; Maliszewski E. Przewodnik po gubernii Wileńskiej. Warszawa,1919. S. 17.

[2] Karpowicz M. Sztuka polska XVIII w. Warszawa, 1985. S. 101; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu. Wilno, 1938—39.

[3] Rzymskokatolicka diecezja Witebska (Białoruś). Witebsk, 2004. S. 148.

[4] Skrzypek J. Województwo Wileńskie // Kalendarz ziem wschodnich na rok 1936. Warszawa, 1935. S. 210.

[5] Smulikowska E. Prospekty organowe w dawnej Polsce. Wrocław, Warszawa, Kraków, Gdańsk, Lódź, 1989 S. 126.

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар базыльян

Пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст. з цэглы. Захаваліся рэштткі званіцы, у якой пасля 1863 г. была ўчынена праваслаўная званіца.

Архітэктура храма была трактавана ў стылі ракако[1].

---

[1] Skrzypek J. Województwo Wileńskie // Kalendarz ziem wschodnich na rok 1936. Warszawa, 1935. S. 210.

# в. Дрысвяты,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла


Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Дрысвяты.

У паўночнай частцы вёскі, на беразе воз. Дрысвяты. Пабудаваны ў 1929 г. з дрэва паводле праекта Л.Вітан-Дубейкаўскага (паводле іншых крыніц, у 1924—26). Закрыты ў 1964 г. Дзейнічае з 1991 г., адрэстаўрыраваны.

У 16—18 ст. каля крапаснога вала быў пабудаваны невялікі касцёл, прысвечаны святым апосталам Пятру і Паўлу. На сучаснае месца храм перанесены ў пачатку 18 ст. пасля Паўночнай вайны, а там, дзе стаяў старажытны храм, пастаўлены каменны крыж. Захавалася копія акта першапачатковай фундацыі касцёла, напісанага «на сойме валном у Вилни» 6.2.1514 г.: «Жыкгимонт Божю млстю корол Полский, Великий Княз Литовский, Руский, Пруский, Жомойтский, Мазовецкий, Инфлянтский, панств и земль пан и дедич. Упатруючы и уважаючы мы то в нас с пилностю, иж на том свете заслуги нет перед Пном Богом лепшое, яко в розмногженю хвалы Божое, а звалашча межы людми и поддаными иншыми, которые еще недавно с темностей поганских сут навершеные на веру хрестиянскую, розказали есмо воеводе нашому Виленскому пну Миколаю Радзивилу, державцы Дрысвяцкому, абы збудавал церков Матки Божое набожества светого рымского костела в месте нашом Дрысвяцком...»[1]. Старажытны касцёл быў пабудаваны Мікалаем Радзівілам паводле каралеўскага ўказа ў 1514 г. Гісторыю касцёла ўскладняе інвентар касцёлаў і манастыроў Віленскай дыяцэзіі 1667—75 гг., у якім гаворыцца, што стары касцёл перабудаваны ў 1611 г. Лукою Ласоўскім, а ў 1673 г. папраўлены і новымі гонтамі накрыты Мікалаем Германовічам. «Слоўнік геаграфічны каралеўства Польскага...» (Варшава, 1881. Т. 2) паведамляе, што драўляны касцёл рамантаваўся ў 1725 г. ксяндзом Рудамінам[2]. У інвентары 1744 г. згадваецца касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла, збудаваны віленскім ваяводам Л.Пацеем сумесна з Я.Гарайнам. Інвентар 1783 г. падае, што касцёл Пятра і Паўла збудаваны Пацеем на новым месцы; касцёл жа першай фундацыі стаяў «за местам на востраве». Падчас Першай сусветнай вайны цалкам знішчаны.

Помнік драўлянага дойлідства з рысамі стылю мадэрн. Пры знешняй авангарднай арыгінальнасці захаваў касцельны кампазіцыйны канон: 1-вежавы прамавугольны ў плане храм з 5-граннай апсідай, прытворам і сакрысціямі. Зрубы накрыты асобнымі пукатымі дахамі — 2-схільным з заломам над асноўным аб'ёмам і вальмавым над апсідай. На галоўным фасадзе вялікі шырокі вальмавы навес падтрымліваецца 4 тонкімі мураванымі калонамі і ўтварае галерэю-падценне. Такія ж падценні зроблены і пры сакрысціях. Вежа-званіца над галоўным фасадам 6-ярусная: 2 ніжнія ярусы чацверыковыя, над імі — васьмярык, вышэй — маленькі купал на 2 цыліндрычных шыйках. Ярусы вылучаны прафіляванымі карнізамі пад гонтавымі сцёкамі. Дах над апсідай завершаны маленькай фігурнай сігнатуркай, якая ўзбагачае сілуэт і пластыку храма. Вертыкальна ашаляваныя фасады прарэзаны паўцыркульнымі, круглымі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

У інтэр'еры 8 драўляных слупоў падтрымліваюць кесонную столь, якая пакрыта алейнай арнаментальнай размалёўкай. Над нартэксам размешчаны





Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Дубай.

хоры. Галоўны алтарны абраз «Пакланенне вешчуноў» набыў уплыў еўрапейскіх стыляў готыкі і рэнесансу (першае дакументальнае сведчанне адносіцца да 1674). Паводле інвентару 1744 г., галоўны алтар касцёла «рознымі колерамі найцудоўнейшым чынам намаляваны» ў 1743 г. ксяндзом Дусяцкім Рудамінам, меў у 1-м ярусе абраз «Укрыжаванне Збавіцеля», у 2-м — «Святыя Пётр і Павел».

---

[1] АВАК. Вильна, 1908. Т. 33. С. 20.

[2] Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów slowiańskich. Warszawa, 1881. T. 2.



Капліца Маці Божай Чанстахоўскай у в. Дубатоўка.



## в. Дубай,
Пінскі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У паўднёва-заходняй частцы вёскі. Абкружаны старажытным паркам. Пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст. ў сядзібе пінскіх езуітаў (падаравана князем Альбрэхтам Радзівілам у 1633). У 1773 г. езуіцкая місія ў Дубаі скасавана[1]. У 1784 г. сядзібу і касцёл наведаў польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Рэстаўрыраваны ў 1920 г.

Помнік архітэктуры барока. Васьміграння цэнтрычны аб'ём накрыты шлемападобным фігурным дахам з гранёным ліхтаром у завяршэнні (у 1990-я гг. заменены на шатровы), па вуглах крапаваны пілястрамі, апразаны складанымі абломамі. Уваход і апсіда вылучаны паніжанымі прамавугольнымі прыдзеламі з самастойнымі 2-схільнымі пакрыццямі. Купал над уваходным прытворам, вытанчаная прафіліроўка шматслаёвага карніза, а таксама вітражныя лучковыя вокны ўзмацняюць багацце аздаблення будынка. Інтэр'ер быў упрыгожаны фрэскавай размалёўкай; над уваходам хоры на 2 калонах. Пад храмам скляпеністыя сутарэнні, у якіх былі саркафагі з пахаваннямі[2].

---

[1] Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. Wilno, 1909. S. 53.

[2] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 255.

## в. Дубатоўка,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Маці Божай Чанстахоўскай

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1927 г. з дрэва на месцы зруйнаванага храма.

Вырашана прамавугольным зрубам пад 2-схільным дахам, вынесеным на фасад трохвугольным франтонам, падтрыманым 2 слупамі. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя фасады прарэзаны 2 парамі стральчатых аконных праёмаў (гатычная рэмінісцэнцыя).

## в. Дубок,
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі. Пабудавана ў 1930-я гг. з бутавага каменю і цэглы як пахавальня.



Капліца-пахавальня ў в. Дубок.



Капліца-грот у в. Дубок.

Вырашана кубападобным аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над трохвугольным франтонам фасада прамавугольным атыкам з арачным праёмам. Памяшканне асветлена 2 бакавымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі; на алтарнай сцяне скульптура Ўкрыжаванне.

## Капліца

За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, на пагорку левага берага р. Вілія. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст. з бутавага каменю каля крыніцы (лічыцца лекавай). У 1936 г. шлях да яе быў абсталяваны 7 прыпынкамі, прысвечанымі Божай Маці Засмучанай (так званая «Марыянская Кальварыя») і адзначанымі сакральнымі сімваламі (брама, крыж, капліца і інш.).

Капліца («Крыніца ля Багіні») вырашана ў выглядзе мураванага грота, у нішы якога пастаўлена скульптура Маці Божай.

## Капліцы

За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, на беразе р. Вілія. Пабудаваны ў 1-й палавіне 20 ст. з бутавага каменю як сакральная брама.

Помнікі архітэктуры мадэрна. Вырашаны 2-яруснымі 4-траннымі вежамі пад шатровымі дашкамі з крыжыкамі ў завяршэнні. Вертыкальна выцягнутыя верхнія ярусы раскрыты вузкімі арачнымі прасветамі, ніжнія крапаваны прамавугольнымі нішамі.



Капліца-брама ў в. Дубок.



Касцёл Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў в. Дубок.

## Касцёл Маці Божай Нястомнай Дапамогі

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1928—29 гг. з дрэва. Назву «Курганскі» атрымаў з-за размяшчэння на месцы язычніцкага кургана-капішча. Побач пастаўлена 2-слуповая званіца з падпісным звонам («Mój Śląsk 1934»).

Помнік народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным у плане 2-ярусным зрубам, накрытым паўвальмавым дахам. Уваход вылучаны 2-слуповым ганкам пад пакатым шатровым гонтавым пакрыццём, над якім размешчана скульптура Укрыжаванне. Бакавыя фасады расчлянёны «ляжачымі» вокнамі 1-га яруса, і прамавугольнымі — 2-га.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Дубрава.



Касцёл Маці Божай Фацімскай і кляштар францысканцаў у г. Дуброўна. Жылы корпус.

## в. Дубрава,
Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У паўночнай частцы вёскі, на ўзгорку. Пабудаваны ў 1796—1805 гг. з цэглы, верагодна, паводле праекта К.Спампані, па фундацыі мінскага ваяводы Адама Хмары на месцы драўлянага касцёла 1770 г.[1] З 1868 г. касцёл перайшоў да праваслаўных, у 1871 г. архітэктарам Ваўковічам, а ў 1884 г. інжынерам Нектар'еўскім перабудаваны пад царкву. У 1919 г. вернута парафіянам, набыў выгляд рымска-каталіцкага храма ў выніку рэканструкцыі 1926—29 гг. Напачатку Вялікай Айчыннай вайны парафія налічвала звыш 2 тыс. прыхаджан. Згарэў у 1960-я гг., у паўзруйнаваным стане.

По паданню, першы касцёл пабудаваны ў 1453 г. па фундацыі Глябовічаў. Па адных крыніцах, касцёл паўстаў у пачатку 16 ст. па фундацыі трокскага кашталяна Яна Радзівіла (памёр у 1522), па другім — у 1553 г. Чарговы касцёл на месцы папярэдняга збудаваў у 1576 г. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка. Пасля пашкоджанняў у руска-польскую вайну 1654—67 гг. быў адрэстаўраваны Марцыбялінай Глябовіч. Састарэлы храм аднавіў у 1770 г. Матэвуш Марцінкевіч. Згарэў у 1787 г. ўяўляў сабой крыжова-купальны будынак з 2-вежавым фасадам. Інтэр'ер упрыгожвалі 7 алтароў[2].

Помнік архітэктуры класіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам на фасадзе фланкіраваўся 2 вежамі. Атынкаваныя і пабеленыя фасады былі расшыты гарызантальным рустам, рытмічна чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках. Унутры прастора 3 парамі калон падзялялася на 3 нефы, перакрытыя агульнай плоскай столлю; вылучаная прасценкамі апсіда з бакавымі рызніцамі перакрывалася скляпеннем. Бакавыя фасады рытмічна чляніліся арачнымі вокнамі-біфорыумамі, аб'яднанымі вялікімі прамавугольнымі нішамі. У крыпце былі пахаваны ўладальнікі в. Хмары (3 пакаленні).

---

[1] НГАБ, ф. 242, воп. 1, спр. 2256; ф. 299, воп. 5, спр. 1330, арк. 1—3.

[2] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. І. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мн., 2003. С. 104—105.

## г. Дуброўна
Віцебскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Фацімскай і кляштар францысканцаў

На вул. Аршанскай, на ўзвышаным беразе р. Дубровенка. Пабудаваны ў 1809 г. з цэглы.

Першапачатковы драўляны кляштар з касцёлам пабудаваны ў 1624—30 гг. уладальнікам Дуброўна магнатам Мікалаем Глябовічам. Князь Пацёмкін, незадаволены ордэнам, выгнаў францысканцаў і замест іх запрасіў з Віцебска ў кляштар айцоў-піяраў. У 1782 г. новы ўладальнік паселішча князь Любамірскі вярнуў францысканцаў і фундаваў для іх замест драўляных мураваныя будынкі касцёла і жылога корпуса. Пры падскарбіі каронным Ксаверыі Любамірскім у канцы 18 ст. кляштар згарэў (ацалеў касцёл). Пажар прыпісалі К.Любамірскаму, з прычыны чаго імператар Павел І загадаў даследаваць справу генерал-губернатару Пасеку, які прыйшоў да высновы, што пажар адбыўся стыхійна з-за неасцярожнага ўжывання агню, манахі патанулі па неасцярожнасці і што «на всё была воля Божия, а преступления никто не совершил никакого»[1]. Касцёл існаваў да 1809 г., у 1917 г. кляштар скасаваны.

К а с ц ё л (не захаваўся) быў вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Галоўны фасад фланкіравалі дзве 3-ярусныя чацве-

рыковыя вежы з купальнымі завяршэннямі і трохвугольным франтонам пасярэдзіне.

Жылы корпус — помнік архітэктуры барока. Двухпавярховы Т-падобны ў плане будынак пад 2-схільнымі дахамі, тарцы якіх завершаны трохвугольнымі франтонамі з люкарнамі ў цэнтры. Дэкор сціплы: пілястры, тонкапрафіляваныя карнізы, паскі. Планіроўка галерэйная з вітой лесвіцай па цэнтры; памяшканні 1-га паверха перакрыты скляпеннямі.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 108—110.

## в. Дуды,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На паўночнай ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1772 г. з дрэва на месцы касцёла 1608 г., асвячоны ў 1781 г. біскупам Т.Зелянковічам. Закрыты ў 1959 г. (прыстасаваны пад склад), вернуты парафіянам у 1983 г., адбудаваны ў 1990 г. Побач з храмам пастаўлена 2-ярусная драўляная званіца, накрытая шатром.

Помнік драўлянай архітэктуры барока. Двухвежавы 1-нефавы храм з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Агульны 2-схільны ўвагнуты ў аснове гонтавы дах над апсідай пераходзіць у вальмавы. Шматпланавасць і дынамічны сілуэт галоўнаму фасаду надаюць бакавыя чацверыковыя шатровыя вежы і трохвугольны франтон паміж імі над цэнтральным шчытом. Першапачаткова трэція ярусы вежаў завяршаліся фігурнымі шатрамі з заломам і цыбулепадобнымі галоўкамі на 8-гранных барабанах. Вежачкай завяршаўся дах над прэсбітэрыем. Рысы барока праявіліся ў лучковым малюнку аконных праёмаў на фоне вертыкальнай шалёўкі. Імі рытмічна члянёны бакавыя фасады з вертыкальнымі брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

Корабавае скляпенне, размаляванае арнаментыкай у стылі мадэрн, аб'ядноўвае малітоўную залу і апсіду ў суцэльную дынамічна скіраваную да апсіды прастору. На фоне гарызантальнай шалёўкі сцен моцны архітэктурна-скульптурны акцэнт ствараюць 3 драўляныя барочныя алтары. Цэнтральны — 2-ярусны, узняты на высокі пастамент, вырашаны 2 калонамі карынфскага ордэра, якія нясуць тонка прафіляваны антаблемент, фланкіраваны скульптурамі анёлаў. У завяршэнні алтара — прамавугольны пілястравы шчыт з гарэльефнай выявай «Укрыжаванне» і размалёўкай «Усёбачнае Вока» на скляпенні апсіды. Плоскасці алтара запоўнены накладной драўлянай разьбой. У яго цэнтры размешчаны абраз «Маці Божая з дзіцем» (18 ст.) у барочнай разной раме. Кампазіцыя і дэкор бакавых алтароў паўтараюць цэнтральны, але адрозніваюцца ракайльнымі фігурнымі шчытамі ў завяршэнні. Алтары ўпрыгожаны накладной пазалочанай драўлянай разьбой, якой пакрыта і кафедра драўлянага амбона. Над нартэксам балюстрадная галерэя хораў з арганам.



Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Дуды.



Інтэр'ер касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Дуды.



Касцёл у в. Дукора.

## в. Дукора,

Пухавіцкі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 19 ст. з цэглы ўладальнікамі маёнтка Ашторпамі. Перабудаваны ў 1864 г. ў праваслаўную Петра-Паўлаўскую царкву. У скляпах касцёла былі пахаванні Ашторпаў[1]. У савецкі час храм выкарыстоўваўся пад жыллё.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным у мінулым пасярэдзіне і над апсідай купаламі. Фасад фланкіравалі 2 купальныя вежы, якія выходзілі за габарыты фасада 4-граннымі аб'ёмамі. Уваходны партал фланкіраваны паўкалонамі на вышыню фасада. Да прамавугольнай у плане апсіды з правага боку далучана сакрысція. Атынкаваныя фасады расчлянёны 2 ярусамі прамавугольных аконных праёмаў і 3 уваходнымі праёмамі.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар дамініканцаў у в. Дунілавічы.

[1] Aftanazy R. Materiały do dziejów rezydencji. Warszawa, 1986. T. 1a. S. 190.

## в. Дунілавічы,

Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры мадэрна. Вырашана прамавугольным у плане прысадзістым аб'ёмам, які з'яўляецца подыумам для мармуровага надмагілля. Вуглы аб'ёму завершаны слупамі-пінклямі, крапаваны лапаткамі, грані крапаваны аркатурамі на 2 ярусы, апяразаны прафіляваным карнізам.



Капліца ў в. Дунілавічы.

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар дамініканцаў

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1769—73 гг. з цэглы пры 2-павярховым мураваным кляштары дамініканцаў (не захаваўся), на месцы драўлянага храма, заснаванага ў 1683 г. Эльжбетай Ісайкоўскай-Белазёр і асвячонага віленскім біскупам Феліксам Тавянскім[1]. У 1850 г. кляштар скасаваны, у 1866 г. перададзены праваслаўным[2]. У 1890 г. касцёл згарэў. Царскія ўлады не дазволілі яго аднавіць, таму на ўскраіне вёскі быў пабудаваны драўляны храм[3]. З 1919 г. касцёл зноў дзейнічае. Пасля скасавання ў савецкі час адноўлены ў 1992—95 гг. Агароджа касцёла з каванай брамай, вырашана ў стылі неарэнесансу.

Помнік архітэктуры барока. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з трансептам і прамавугольнай апсідай з бакавой сакрысціяй. Двухсхільныя дахі крылаў трансепта і цэнтральнага нефа закрыты па тарцах фігурнымі франтонамі. Над развітым антаблементам галоўнага фасада — 2 чацверыковыя са скошанымі вугламі 2-ярусныя вежы з паўсферычнымі купаламі, завершанымі 8-граннымі шатровымі барабанчыкамі. З прыстасаваннем храма пад царкву вежы, франтоны і сяродкрыжжа дахаў былі завершаны цыбулепадобнымі купаламі (выгляд царквы вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку

20 ст.). Паміж вежамі ўзвышаецца фігурны шчыт з валютамі ў аснове, над апсідай — шчыт са складана крапаваным франтонам. У аздабленні фасадаў выкарыстаны плоскія і ўвагнутыя пілястры, прафіляваныя цягі, раскрапоўкі, валюты, плоскія лучковыя нішы і аконныя праёмы. Будынак апяразаны шырокім карнізным поясам. Уваход вылучаны парталам 19 ст. ў стылі класіцызму.

У інтэр'еры цыліндрычныя на распалубках і крыжовыя скляпенні нефаў трымаюцца на магутнай міжнефавай аркадзе на пілонах і насценных пілястрах (быў размаляваны раслінным арнаментам і картушамі). Стукавы алтар вырашаны ўзнятай на высокі цокаль каланадай з антаблементам, вылучаны па цэнтры драпіровачнай сенню.

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 80—81.

[2] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 297.

[3] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego založеnia az do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 217—218.

## в. Душкава,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы як пахавальня генерал-маёра К.Г. Мараўскага (мемарыяльная мармуровая дошка на фасадзе)[1].

Помнік архітэктуры ампіру. Чатырохгранны аб'ём пад 2-схільным пакрыццём (паўзруйнавана). Фасад вырашаны 2-калонным порцікам з трохвугольным франтонам; мае 2 кароткія пілоны-пастаменты. Атынкаваныя грані крапаваны прамавугольнымі нішамі з паўкруглымі супрапортамі над імі, вуглавым рустам.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 167—168.

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана квадратным у плане аб'ёмам пад пакатым шатровым пакрыццём. Атынкаваныя фасады крапаваны вуглавымі пілястрамі, завершаны магутным антаблементам з трыгліфамі, з франтальнага боку арачны ўваходны праём. Памяшканне перакрыта цыліндрычным скляпеннем. Перад алтарнай сцяной 2 цыліндрычныя пастаменты з алебастравымі вазамі, карціна «Тайная вячэра»[1].

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 168; Jankowski S. Powiat Oszmiański Petersburg, Kraków, 1896. Cz. 1.



Капліца ў в. Душкава.



Капліца ў в. Душкава.



Капліца ў в. Душкава.

### Капліца

На могілках. Узведзена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 4-граннай усечанай пірамідай, узнесенай на кубападобны п'едэстал.

### Капліца

На могілках. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай тумбай з шатровым верхам. Франтальная грань крапавана прамавугольнай нішай для абраза.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Дэмбрава.

## в. Дэмбрава,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 18 ст. (па першых звестках у 1674) з цэглы. Акаймаваны бутавай агароджай з брамай.

Помнік архітэктуры барока. Вырашаны прамавугольным у плане пад 2-схільным дахам аб'ёмам, да якога далучана прамавугольная апсіда з бакавымі нізкімі сакрысціямі. Над трохвугольным франтонам фасада ўзведзена 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) шатровая драўляная званічка. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і шырокімі лапаткамі ў прасценках. Уваход аформлены парталам з глыбокай прамавугольнай нішай і 2-схільным пакрыццём.



Капліца ў в. Ёдзенцы.



## в. Ёдзенцы,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Каля шашы Суботнікі—Геранёны. Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 2-ярусным 4-гранным слупом пад шатровым бляшаным пакрыццём з крыжыкам у завяршэнні. На франтальнай і бакавых гранях арачныя зашклёныя нішы са скульптурай.



## г. Жабінка

Брэсцкай вобласці

### Касцёл святога Юзафа

На паўночна-заходняй ускраіне горада. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.



Касцёл святога Юзафа ў г. Жабінка.

У аснове асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі прамавугольны ў плане высокі неф, накрыты 2-схільным дахам з каркаснай званічкай з боку фасада. З паўднёвага боку да яго далучаны ніжэйшы неф пад 1-схільным пакрыццём, з паўночнага — выступае рызаліт сакрысціі. Да франтальнага фасада далучаны асіметрычна скампанаваны аб'ём нартэкса, цэнтральны рызаліт якога прарэзаны арачнай уваходнай нішай і круглым акном-ружай над ёй. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі розных памераў і круглымі люкарнамі.

## в. Жалезніца,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы як родавая пахавальня Вольскіх[1]. Захавалася ў паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры класіцызму. Кампактная прамавугольная ў плане пабудова пад 2-схільным дахам. Фасад вырашаны 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам (не захаваўся), сцены крапаваны пілястрамі. Зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем, асвятляецца 2 бакавымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі. У інтэр'еры алтар у выглядзе 6-пілястравага ампірнага порціка з трохвугольным франтонам і ляпнымі гірляндамі. Пад капліцай сутарэнне пад цыліндрычным скляпеннем з 2 ярусамі арачных нішаў для пахаванняў.

---

[1] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 65—66.



Капліца ў в. Жалезніца.

## г.п. Жалудок,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар кармелітаў

У паўночна-заходняй частцы пасёлка. Пабудаваны ў 1853 г. з бутавага каменю і цэглы паводле праекта архітэктара К.Падчашынскага — вучонага і тэарэтыка позняга класіцызму[1]. Побач з касцёлам — 2-ярусная 4-гранная бутавая званіца.

Першы касцёл тут быў закладзены ў 1490 г. вялікім князем Вялікага княства Літоўскага Казімірам IV. У мястэчку быў драўляны кармеліцкі кляштар, фундаваны ў 1682—86 гг. Казімірам Францкевічам[2]. У 1667 г. ўладальнік в. Ішчална Ян Палупянта запісаў за кляштарам сваю маёмасць. З 1767 г. атрымлівалі даход ад маёнткаў лідскага земскага суддзі Адама Баржымоўскага[3]. Пасля скасавання прыстанка ў 1832 г. касцёл (з 1837) стаў прыходскім, кляштар (з 1839) прыстасаваны пад лазарэт Эстляндскага егерскага палка[3].

Помнік архітэктуры позняга класіцызму[4]. Прамавугольны ў плане аб'ём з паўкруглай апсідай, сакрысціямі і крыламі трансепта па баках. Накрыты 2-схільным дахам з трохвугольным франтонам на галоўным фасадзе, вуглы якога ўвенчваюць скульптуры-пінаклі з выявай Хрыста. З франтонам галоўнага фасада рытмічна спалучаецца франтон масіўнага 4-калоннага дарычнага порціка, якім аформлены партал уварода, і бакавыя арачныя нішы-экседры са скульптурамі евангелістаў. Тымпаны абодвух франтонаў запаўняюць гарэльефныя кампазіцыі. Сцены апяразвае масіўны антаблемент, расчлянёны шырокімі пілястрамі з перакінутымі паміж імі аркамі над арачнымі аконнымі праёмамі ў прафіляваных ліштвах — пабеленыя і атынкаваныя, яны кантрастна вылучаюцца на паліхромнай бутавай муроўцы. Да пачатку 20 ст. над галоўным фасадам узвышалася 8-гранная шатровая званіца і такая ж па форме сігнатурка над алтарнай часткай.

Пад алтаром крыпта з пахаваннямі, сярод іх пахаванне падскарбія надворнага А.Тызенгаўза — уладальніка Жалудка. На бакавых сценах прэсбітэрыя 2 белыя мармуровыя мемарыяльныя дошкі з барэльефнымі выявамі графіні Г.Тызенгаўз (1822—



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар кармелітаў у г.п. Жалудок.



Капліца 1883 г. ў в. Жамыслаўль.



Капліца 1929 г. ў в. Жамыслаўль.

91) і графа С.Урускага, маршалка шляхты Варшаўскай губерні (1817—90).

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 287, арк. 3; ф. 1, воп. 19, спр. 1273, арк. 7—8.

[2] Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.

[3] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Шчучынскага раёна. Мн., 2001. С. 44—45.

[4] Katalog rysunków architektonicznych ze zbiórów muzeum Narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975. Seria A. T. X. S. 218—219.



Капліца Хрыста Валадара ў в. Жамыслаўль.



## в. Жамыслаўль,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У паўночнай частцы вёскі, пры ўездзе ў прысядзібны парк Умястоўскіх. Пастаўлена ў 2-й палавіне 19 ст. замест струхнелай драўлянай канца 18 ст.[1]

Цэнтрычнае 4-граннае збудаванне пад шатровым пакрыццём; адкрыта ўнутр арачнымі праёмамі. Вуглы крапаваны шырокімі лапаткамі.

[1] Nałęcz. Szmat ziemi i życia. Wilno, 1928. S. 33.

### Капліца

У паўночнай частцы вёскі, насупраць былога палаца. Пастаўлена ў 1883 г. ў палацава-паркавым комплексе Умястоўскіх. Адноўлена ў канцы 20 ст.

У акружжы П-падобнай у плане мураванай лаўкі на калоне-пастаменце ўстаноўлена скульптура Маці Божай[1].

[1] Nałęcz. Szmat ziemi i życia. Wilno, 1928. S. 33.

### Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі, за былым палацам Умястоўскіх, на супрацьлеглым беразе р. Гаўя. Пастаўлена ў 1929 г. з цэглы і бетону.

Вырашана крыжом на 4-гранным пастаменце.

### Капліца Хрыста Валадара

У паўночнай частцы вёскі. Пабудавана ў 2000 г. з цэглы.

Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам, да якога далучаны ніжэйшыя апсіда і прытвор, спалучэнне 2-схільных дахаў якіх стварае рытміку аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынка. Ёй падпарадкавана рэгулярнае размеркаванне стральчатых аконных праёмаў і лапатак у прасценках на плоскасных бакавых фасадах. Каларыстычную палітру архітэктуры складаюць чырвоны колер дахоўкі, блакітны архітэктурных краповак і шэрая тынкоўка сцен. Унутры зала перакрыта драўляным лучковым ашаляваным вагонкай скляпеннем. Пры ўваходзе над бакавымі каморамі выгнутая дугой антрэсоль хораў. Уздоўж сцен развешаны карціны-стацыі на тэму «Крыжовы шлях Хрыста», на алтарнай сцяне драўлянае ўкрыжаванне.

## в. Жардзяжжа,

Лагойскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1860(1900) г. з цэглы і бутавага каменю[1].

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Невялікае цэнтрычнае 8-граннае збудаванне накрыта пакатым шатровым дахам з усечаным гранёным драўляным барабанам з шатровым верхам і макаўкай. З паўднёва-заходняга боку будынка выступае неглыбокі рызаліт, у тоўшчы якога — паўкруглая апсіда, перакрытая конхай. Уваходны арачны партал, да якога вядзе лесвіца з блокаў вапняку, аформлены 2-пілястравым порцікам з трохвугольным франтонам, на тымпане яго выгравіравана абрэвіятура «D.O.M.». Арачныя аконныя праёмы дэкараваны простымі ліштвамі з замковым каменем. Фасады крапаваны вуглавымі пілястрамі, апяразаны антаблементам з карнізам на сухарыках, у тынкоўцы мазаічныя ўкрапіны з дробнага шчэбню. Капліца перакрыта плоскай драўлянай столлю, пад падлогай склеп.



Капліца ў в. Жардзяжжа.

---

[1] Zyskar J. Nasze koscioły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 232; Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. I. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мн., 2003. С. 160.

# в. Жаўнеркавічы,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва, аднаўлена ў пачатку 21 ст.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана квадратным у плане аб'ёмам пад шатровым дахам з крыжом у завяршэнні. Франтальны фасад прарублены шырокім уваходным праёмам.



Капліца ў в. Жаўнеркавічы.

# в. Жацерава,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

У заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1933—34 гг. з цэглы.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам з паўкруглай апсідай, 2-схільны дах над якой пераходзіць у канічны. Трохвугольны франтон фасада завершаны 4-граннай шатровай сігнатуркай. Франтальны фасад крапаваны прамавугольнымі панэлямі на 3 праслы, цэнтральнае з якіх прарэзана лучковымі ўваходным і аконным праёмамі; трохвугольны франтон завершаны 4-граннай сігнатуркай-званічкай. Плоскасныя бакавыя фасады расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі, апяразаны карнізам простага профілю.



Капліца Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Жацерава.



Касцёл святога Казіміра ў г. Жлобін.

Касцёл Маці Божай Фацімскай у г. Жодзіна.






Калегіум езуітаў у в. Жодзішкі.

## г. Жлобін

Гомельскай вобласці

### Касцёл святога Казіміра

Перабудаваны ў 1996 г. з будынка былога магазіна.

Выцягнуты па папярочнай восі прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак пад вальмавым дахам. Па цэнтры франтальнага фасада — шырокі рызаліт пад трохвугольным франтонам, крапаваным арачнай нішай са скульптурай «Укрыжаванне» і бакавым зашкленнем; 1-ы паверх расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

## г. Жодзіна,

Смалявіцкі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Фацімскай

На паўночнай ускраіне горада. Пабудаваны ў 2003 г. з цэглы паводле праекта архітэктара І.Кныш з «Барысаўпраекта».

Вырашаны квадратным у плане аб'ёмам, узнятым на высокі цокаль і накрытым стромкім вальмавым дахам з металачарапіцы, у які над фасадам урэзана 4-гранная шатровая званіца. Фасад па цэнтры крапаваны 3 зашклёнымі праслямі з зубчастымі завяршэннямі. Такой жа формай вырашаны ўваходны партал-ніша, да якога вядзе лесвічны каскад. Аналагічна трактаваны плоскасныя бакавыя фасады. Трохгранны прэсбітэрый утвораны скошанымі ў плане сакрысціямі. Аднолькавае архітэктурнае і кампазіцыйнае вырашэнне атрымала далучаная да апсіды 2-павярховая плябанія, вальмавы дах над якой завершаны 4-гранным шатром.

Унутры над уваходам выступаюць хоры.

## в. Жодзішкі,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Калегіум езуітаў

У паўднёвай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1757—66 гг. з цэглы.

Помнік архітэктуры барока. Першапачаткова ўяўляў сабой 3-павярховы Ш-падобны ў плане аб'ём. Захавалася 2-павярховае пад вальмавым дахам цэнтральнае прамавугольнае ў плане крыло (таўшчыня сцен каля 1 м). Цэнтр працяглага франтальнага фасада вылучаны рызалітам з мансардай і ўваходным праёмам. Сцены расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і вузкімі лапаткамі ў прасценках. Планіроўка галерэйная, памяшканні перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У будынку мелася капліца. Адно з крылаў займала 7-гадовая езуіцкая школа. У 19 ст. будынак калегіума быў прыстасава-

ны пад сядзібны дом, у савецкі час — пад медыцынскую ўстанову.

## Капліца

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 2-яруснай 4-граннай вежай пад пакатым шатровым пакрыццём з дахоўкі. Першы пірамідальны ярус архаічнай бутавай муроўкі трактаваны як пастамент для 2-га, атынкаванага і раскрытага арачнымі прасветамі.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі, на правым беразе р. Вілія. Пабудаваны ў 1612 г. з цэглы.

Каля 1553 г. уладальнікі Осцікавічы заснавалі тут першы касцёл. Новы ўладальнік маёнтка Іеранім Комар у 1612 г. ўзвёў драўляны Троіцкі касцёл, а яго сын Крыштаф падараваў яму маёмасць, плябанію і парафіяльную школу (не захаваліся). У гэтым жа годзе Кішкі пабудавалі замест касцёла кальвінскі збор[1]. Каб нейтралізаваць распаўсюджанне і ўплыў «схізмы», у 1708 г. побач, у падоранай Барбарай (з Комараў) Мінкевіч (Міцкевіч) і яе сынам Адамам сядзібе, аселі езуіты; пад іх уціскам кальвіністы пакінулі Жодзішкі. У 1727 г. яны пабудавалі касцёл св. Іуды Фадзея, у 1745 г. адкрылі музычную бурсу, у 1767 — аптэку. Непадалёк ад збора ў 1757—66 гг. паводле праекта архітэктара Т.Жаброўскага пабудаваны 2-павярховы калегіум, для ўпрыгожання якога жывапіснымі размалёўкамі запрасілі беларускага мастака М.Бейтніка. Са скасаваннем ордэна будынак калегіума перайшоў у 1774 г. да новых уладальнікаў Жодзішак Ласкарысаў (паводле іншых звестак — Патоцкіх, Мілашэўскіх, у 1830-я гг. — Бакшанскіх) і быў прыстасаваны пад сядзібу. У 1778 г. храм рэканструяваны[2]. У 1820-я гг. збор быў пераўтвораны ў прыходскі Троіцкі касцёл, які пасля паўстання 1863—64 гг. такім і застаўся, былі толькі канфіскаваны 3 абразы: «Сэрца Ісуса», «Св. Іасафат» і «Благаверны Андрэй Баболя». У 1886 г. касцёл абкружаны высокай мураванай агароджай, таму што хрэсныя хады і іншыя мерапрыемствы дазваляліся толькі ў яе межах. Са скасаваннем суседніх парафій жодзішкаўскі храм стаў малаўмяшчальным. Таму ў 1902 г. ксёндз Эдвард Дзібел з Вільні прыбудаваў да яго бакавыя капліцы. У гады 1-й сусветнай вайны германскія войскі разбурылі вежы і арганізавалі ў будынку шпіталь, а потым абутковую фабрыку. У 1920 г. ўнутранае і знешняе архітэктурнае афармленне было пашкоджана ў выніку ваенных дзеянняў. У 1924 г. пробашчам быў прызначаны В.Гадлеўскі — прыхільнік беларусізацыі касцёла.

Касцёл — помнік архітэктуры рэнесансу і барока. Першапачаткова выцягнуты па падоўжнай восі прамавугольны будынак з франтальнай вежай-званіцай атрымаў крыжападобную форму. З заходняга боку да яго далучана квадратная ў плане, умацаваная вуглавымі контрфорсамі апсіда, над якой раней узвышалася высокая і масіўная вежа-званіца (разбурана ў 1-ю сусветную вайну). У адпаведнасці з аскетычнымі прынцыпамі кальвіністаў архітэктура храма вырашана ў простых суровых формах. Перакрыжаваныя прамавугольныя аб'ёмы накрыты



Капліца ў в. Жодзішкі.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Жодзішкі. Фота пачатку 20 ст.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Жодзішкі.

вый алтары вырашаны карынфскімі каланадамі, што абрамляюць алтарныя абразы і нясуць фігурныя ляпныя насценныя шчыты з медальёнамі па цэнтры, дэкарыраваны згібамі валют, ракайлямі, галінкамі, вазамі і анёламі. У 1937 г. інтэр'ер касцёла ўпрыгожыў жывапісам мастак П.Сергіевіч[5].

[1] Tyszkiewicz K. Wilija i jej brzegi. Drezno, 1871. S. 105—114.

[2] Zwolski B. Wileńszczyzna, nowogrodczyzna i białostoczyzna za Zygmunta III. Wilno, 1938. S. 24.

[3] Дадзіёмава В.У. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: гісторыка-тэатральнае даследаванне. Мн., 2002. С. 113.

[4] Zubovas V. Uzupelnienia do biografii Tomasza Zebrowskiego // Biuletyn Historii Sztuki. № 3. 1978. S. 278.

[5] Бажэнава В. Роспісы Пётры Сергіевіча // Наша вера. 2001. № 1.



Капліца ў в. Жукевічы.

## в. Жукевічы,

Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На паўднёвы ўсход ад вёскі, у полі. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства з рысамі класіцызму. Вырашана 2-яруснай 4-граннай вежай пад 2-схільным верхам з каваным крыжом у завяршэнні. Ніжні ярус з'яўляецца пастаментам для верхняга, адмежаванага прафіляваным карнізам і крапаванага арачнымі нішамі для абразоў.



Касцёл Маці Божай Шкаплернай у в. Жукойні-Жалядскія.

## в. Жукойні-Жалядскія,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Шкаплернай

У заходняй частцы вёскі, на могілках. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы, перабудаваны ў 1928 г. Закрыты ў 1947 г., адноўлены ў 1990 г. З боку перад храмам пастаўлена драўляная 4-гранная 2-ярусная званіца пад 2-схільным пакрыццём.

Помнік архітэктуры гістарызму. Трохчасткавую падоўжна-восевую кампазіцыю храма складаюць прамавугольныя ў плане аб'ёмы малітоўнай залы, апсіды і ніжэйшай сакрысціі. Двухсхільны дах асноўнага аб'ёму завершаны над фасадам 8-гранным шатровым драўляным барабанам, праз трохвугольныя застрэшкі пераходзіць у вальмавы над апсідай. Франтальны фасад вырашаны ўтрыраваным драўляным 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі з броўкамі і падваконнымі панэлямі, у апсідзе апяразаны гарадковымі фрызамі. Атынкаваныя і пабеленыя сцены кантрастуюць з паліхраміяй бутавай муроўкі цокаля.

2-схільнымі дахамі, трохвугольныя шчыты якіх з'яўляюцца працягам плоскасных фасадаў. На галоўным фасадзе руставаным парталам вылучаны ўваход у храм. Сцены крапаваны толькі плоскімі лапаткамі, аб'яднанымі спрошчана прафіляваным карнізам, лучковыя праёмы вокнаў і нішы пазбаўлены ліштваў.

Адпаведная архаічна-масіўная архітэктоніка характарызуе і інтэр'ер, які перакрыты цыліндрычнымі і крыжовымі скляпеннямі і пазбаўлены архітэктурных абломаў і краповак. Апсіда раскрываецца ў залу арачным прасветам, лесвіца ў паўночна-ўсходнім вугле залы вядзе на хоры, на якіх у 1740 г. згадваецца арган «рэгальчыкаў малых цяперашніх два»[3]. Але пры прыстасаванні інтэр'ера пад касцёл Т.Жаброўскі надаў яму арнаментальна-дэкаратыўнае і насычанае пластычна-ляпное аздабленне ў стылі ракако[4]. Галоўны і меншыя па маштабе 2 бака-

Унутры памяшканні перакрыты адзінай плоскай столлю. У залу выступае антрэсоль хораў, падрыманая 2 слупамі. Драўляны галоўны і 2 бакавыя маляваныя алтары трактаваны ў стылі неабарока. Сцены і плафоны столі пакрыты арабескавай арнаментыкай. На левай сцяне апсіды навешана гранёная кафедра амбона.

## в. Жупраны,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1854—75 гг. з цэглы.

Першы драўляны касцёл пабудаваны каля 1550 г. Генрыкам Дукшай і Даўгердам, у канцы 16 ст. Багуслаў Радзівіл перарабіў яго пад кальвінскі збор, які быў скасаваны ў 1646 г[1]. Пасля вайны з Масковіяй адбудаваны ў 1692 г. брандэнбургскай маркграфіняй дачкой Багуслава Радзівіла. Пачатае ў 1854 г. будаўніцтва мураванай каталіцкай святыні хутка было спынена і скончана толькі ў 1864 г. графам Адамам Чапскім — уладальнікам суседняга маёнтка Навасёлкі[2]. 30.4.1900 г. ў касцёле адбылося адпяванне беларускага паэта-дэмакрата Ф. Багушэвіча. З 1981 г. пры касцёле адбываюць пастырскую службу манахі ордэна салезіян.

Помнік архітэктуры рэтраготыкі. Прамавугольны ў плане 3-нефавы храм накрыты 2-схільным дахам, з франтальнага фасада далучана вежа-званіца. Яе другі ярус і бакавыя атыкавыя сценкі завершаны па вуглах гранёнымі спічастымі фіяламі. Вялікія фасадныя плоскасці рытмічна члянёны стральчатымі аконнымі праёмамі, дэкарыраваны ажурнымі аркатурнымі паясамі і фрызамі, спрошчаным карнізам з гарадковым фрызам. Маляўнічасць храму надаюць вялікія фасадныя плоскасці з аконнымі праёмамі, блендамі і нішамі, ажурнымі аркатурнымі паясамі і фрызам, спрошчаным карнізам з гарадкамі і цёплая чырвона-вохрыстая колеравая гама будынка — спалучэнне высакаякаснай цаглянай і бутавай муроўкі з атынкаванымі архітэктурнымі абломамі. Стрыманы гатычны рух уверх дасягаецца высокім, амаль падкарнізным размяшчэннем спічастых аконных праёмаў, рытмічным нарастаннем вертыкальна выцягнутых ніш на вуглавых пілонах галоўнага фасада, гранёнымі шатровымі фіяламі. Вертыкальнаму руху падпарадкавана тэлескапічная трактоўка 3-ярусінай вежы-званіцы, верхні 8-гранны ярус якой завершаны шатром з лацінскім крыжом.

У інтэр'еры 6 магутных гранёных слупоў падзяляюць залу на 3 нефы, сярод якіх самы вялікі цэнтральны, завершаны ў апсідзе алтаром. У бакавых нефах, абапал апсіды, вылучаны сакрысціі. Цыліндрычнае і крыжовыя скляпенні мацуюцца на папярочных і падоўжных падпружных арках, пакрытых



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Жупраны.

паліхромнай размалёўкай, кесонамі з ляпнымі разеткамі і гатычнымі нервюрамі; на скляпеністых пралётах маляваныя выявы анёлаў у арнаментальным антуражы. Акно ў апсідзе запоўнена каляровым вітражом з выявай «Укрыжаванне». Касцельнае начынне выканана пераважна ў рэтраспектыўна-барочным стылі. Алтар вырашаны ў выглядзе каланады з фрагментамі антаблемента і выявай Саваофа ў цэнтры і 2 скульптурамі святых па баках. Драўляны амбон кансольна навешаны на сярэднім правым пілоне нефа. Над уваходам на трайную арказу ўзнесены па-барочнаму хвалістыя хоры з невялікім арганам. У тоўшчы бакавых сцен прабіты стральчатыя нішы для спавядалень. Каля левай сцяны прэсбітэрыя пастаўлена драўляная лаўка ў рэтрагатычным выкананні. Злева ад увахода размешчана белая мармуровая мемарыяльная пліта з надпісам: «Францішку Багушэвічу, 1840—1900, прыяцелі» (пахаваны на могілках побач з касцёлам).

---

[1] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 198.

[2] Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Petersburg-Kraków, 1896. T.1; Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Wileńskiej. Warszawa, 1919. S. 26.




## в. Жырмуны,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Адшукання Святога Крыжа

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1788—89 гг. з дрэва Каралінай Радзівіл паводле праекта Я.Падчашынскага на месцы храма 1664 г., пабудаванага



Касцёл Адшукання Святога Крыжа ў в. Жырмуны.



Капліца ў в. Жытарудзь.

ўладальнікам мястэчка Янам Завішай[1]. Адасоблены ад забудовы прамавугольным скверам. Перад касцёлам пастаўлена драўляная каркасная 2-ярусная званіца — твор народнага дойлідства.

Помнік архітэктуры класіцызму. Да асноўнага падоўжнага зруба, які пераходзіць у 5-гранную апсіду, далучаны бакавыя крылы трансепта, што надае храму крыжовы план. Двухсхільны гонтавы дах выходзіць на галоўны фасад трохвугольным франтонам, які разам з 2 мураванымі калонамі глыбокай лоджыі стварае своеасаблівы порцік, завершаны 8-гранным барабанам з крыжом над пакатым шатровым пакрыццём. Імкненне ўвасобіць у дрэве формы мураванай архітэктуры праявілася ў нетрадыцыйнай для драўлянага дойлідства арачнай форме аконных праёмаў, імітацыі пілястраў у іх прасценках, вылучэнні шалёўкай фрызавай часткі фасадаў.

Унутраная прастора падзелена калонамі дарычнага ордэра на 3 нефы. У цэнтральны неф аркадамі адкрываюцца бакавыя галерэі і хоры. Асноўны пластыка-дэкаратыўны акцэнт малітоўнай залы — галоўны алтар, выкананы ў класічным стылі каланадай з антаблементам такога ж дарычнага ордэра. Абразы 18 ст. «Маці Божая Ларэтанская» і «Св. Кацярына».

---

[1] Niewiero F. Historia kosciola parafialnego w Zyrmunach. Lida, 1939; Левандаўскас В. Забытае імя? // Культура. 27 чэрвеня 1995 г.

## в. Жытарудзь
Гродзенскага раёна

### Капліца

На паўднёвы ўсход ад вёскі, каля шашы Індура—Адэльск. Пастаўлена ў 1-й палавіне 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным абеліскам на нізкім 4-гранным пастаменце. Над пірамідальным верхам устаноўлены бетонны крыж з металічным укрыжаваннем.

## г. Жыткавічы
Гомельскай вобласці

### Касцёл святога Юзафа

У цэнтры горада. Пабудаваны на мяжы 20—21 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Плоскасныя бакавыя фасады чляnёны на 2 ярусы высока ўзнятымі арачнымі аконнымі і дзвярным праёмамі. Уваход вырашаны аркадным ганкам пад 2-схільным пакрыццём, якое рытмуецца з 2-гранным шчытом фасада, завершаным арачным аконным праёмам.



Касцёл святога Юзафа ў г. Жыткавічы.

## в. Жытомля
Гродзенскага раёна

### Капліца Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На могілках. Пабудавана ў 1991—92 гг. з сілікатных блокаў, асвячона гродзенскім біскупам А.Кашкевічам 19.6.1993 г.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да фасада далучана 4-гранная шатровая вежа-званіца, да алтарнай часткі — сакрысція пад 1-схільным пакрыццём. Фасады парэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Уваход аформлены 2-слуповым ганкам пад 2-схільным пакрыццём.



# З

## в. Заастравечча,
Клецкі раён
Мінскай вобласці

### Капліца святой Ганны

За 1 км на ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1997 г. з сілікатнай цэглы на месцы папярэдняй драўлянай.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам з крыжом на фасадзе. Прамавугольны ўваходны праём накрыты 2-схільным казырком на кранштэйнах, над ім рэльефны крыж. Бакавыя фасады расчлянёны 2 парамі прамавугольных аконных праёмаў.

### Касцёл

У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Будаўніцтва ажыццяўлялася ў 1937—39 гг. (не скончана) на месцы драўлянага касцёла 1933 г., які згарэў праз 3 гады. У савецкі час будынак касцёла быў перабудаваны пад механічныя майстэрні.

Прамавугольны ў плане шырокі будынак пад 2-схільным дахам.

## в. Забалаць,
Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

У заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1803—12 гг. з цэглы на месцы драўлянага храма 1622 г. Абкружаны бутавай агароджай з 3-арачнай брамай. Да 1937 г. святаром храма быў ксёндз І.Кажарновіч — прыхільнік беларусізацыі каталіцкага набажэнства[1].

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным дахам (у пачатку 20 ст. дахоўка заменена бляхай). Да галоўнага фасада далучана 3-ярусная 4-гранная званіца з партатыўнай 8-калоннай шатровай ратондай у завяршэнні (надбудавана ў пачатку 20 ст.). У гэты ж



Капліца святой Ганны ў в. Заастравечча.



Касцёл у в. Заастравечча.

час арачныя бакавыя аконныя праёмы заменены на гатычна-спічастыя, што ўнесла ў архітэктурна-стылёвую трактоўку пабудовы элемент эклектызму. Нетрадыцыйна размешчаны 2 сакрысціі, аб'яднаныя ў адзінай прыбудове да тыльнай алтарнай сцяны храма. Архітэктурны дэкор сканцэнтраваны на званіцы: ярусы падзелены карнізамі, ніжні ярус і вуглы руставаны, верхні апрацаваны філёнгамі і



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Забалаць Воранаўскага раёна.





Інтэр'ер касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Забалаць Воранаўскага раёна.

прарэзаны арачнымі праёмамі. Плоскасныя фасады дэкарыраваны гарызантальным рустам, прамавугольнымі панэлямі і плакеткамі, апяразаны карнізам спрошчанага профілю.

Зала храма перакрыта плоскай столлю-сафітам, сакрысція — крыжовымі скляпеннямі, сцены расчлянёны пілястрамі і апяразаны антаблементам спрошчанай прафіліроўкі. На алтарнай сцяне і бакавых кулісах-прасценках, што вылучаюць памяшканне апсіды, сродкамі ілюзорнага жывапіснага роспісу нанесены 3 архітэктанічныя алтары: цэнтральны 4-калонны з выявамі святых апосталаў Пятра і Паўла і 2-калонныя бакавыя. На левай кулісе апсіды навешаны паўкруглы драўляны амбон. У час рамонту 1939 г. неаракайльнай арнаментыкай размаляваны сцены і столь. Над уваходам на 4 драўляных калонках узнята галерэя хораў. Абразы 18 ст. «Маці Божая смуткуючая», пачатку 19 ст. «Маці Божая Рымская», «Навучэнне Марыі» і «Св. Юрый».

[1] Chryscijanskaja Dumka. 1937. № 9. S. 5.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Забрэжжа.

## в. Забалаць,
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1860-я гг. з цэглы як надмагілле старшыні суда Лідскага павета В.Яноўскага (1795—1863).

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана 4-граннай вежай, пастаўленай на кубападобны пастамент і завершанай шатровым дашкам з крыжом. Атынкаваныя грані пастамента (на адной з іх мармуровая мемарыяльная дошка) і франтальная грань вежы крапаваны прамавугольнымі нішамі.

## в. Забрэжжа,
Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

На заходняй ускраіне вёскі. Перабудаваны ў 1997 г. з гандлёвага будынка.

Вырашаны крыжовым у плане аб'ёмам пад 2-схільнымі дахамі. Да фасада дабудаваны павышаны аб'ём прытвора-званіцы пад 2-схільным пакрыццём з крыжом у завершы. Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Унутры зала перакрыта драўляным корабавым скляпеннем.

## в. Завідзіненты,
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана цэнтрычнай 4-граннай вежай пад 2-схільным пакрыццём з фігурнымі тарцовымі франтонамі. Тры грані верхняга яруса (узняты на бутавы цокаль-пастамент) раскрыты лучковымі аркамі-прасветамі.



Капліца ў в. Завідзіненты.

# в. Завушша,

Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

У паўночна-ўсходняй частцы вёскі, у былым сядзібна-паркавым комплексе. Пабудавана ў канцы 18 ст. з цэглы ўладальнікамі маёнтка Мараўскімі[1].

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, трохвугольны франтон якога на фасадзе падтрыманы шасцю 4-граннымі пілонамі. Бакавыя фасады прарэзаны 2 парамі лучковых аконных праёмаў. Зала падзелена 4 калонамі на 3 нефы і перакрыта плафонам. На алтарнай сцяне захавалася фрэскавая выява класіцыстычнага алтара ў выглядзе 4-калоннага порціка з лучковым франтонам.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 113—114.



Капліца ў в. Завушша.

# в. Задарожжа (Мнюта),

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

За 1 км на захад ад в. Задарожжа. Пабудаваны ў 1910 г. з цэглы. Абкружаны бутавай агароджай з 3-арачнай брамай і вуглавой 2-яруснай шатровай званіцай. Храм адлюстраваў у сваім малюнку Я. Драздовіч.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Магутная 3-нефавая базіліка з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Галоўны фасад фланкіраваны 2-яруснымі 4-граннымі вежамі са шпілямі, паміж імі атыкавая сцяна з 2-гранным шчыпцом. Вось сіметрыі фасада адзначана ўваходным стральчатым парталам і акном-біфорыумам над ім. Сцены рытмічна расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках высокіх стральчатых аконных праёмаў, апяразаны аркатурнымі фрызамі.

Прастора інтэр'ера расчлянёна на нефы стральчатымі аркадамі на 4-гранных пілонах, перакрыты стральчатымі скляпеннямі. Перспектыва цэнтральнага нефа завершана неагатычным алтаром, на прадалтарным пілоне навешаны прамавугольны амбон. Над уваходам хоры. Абраз «Маці Божая Беззаганнага Зачацця» (17 ст.), партрэт караля Жыгімонта III (1601).



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Задарожжа.

# в. Закозель,

Драгічынскі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

У цэнтры вёскі, у былым сядзібна-паркавым комплексе, на ўзгорку. Пабудавана ў 1849 г. з цэглы як родавая пахавальня Ажэшкаў і наступных уладальнікаў сядзібы (Бабрынскіх, Талочкаў)[1].

Фундатарам капліцы з'яўляўся Калікст Нікадзімавіч Ажэшка. Аўтар праекта — вядомы польскі архітэктар Францішак Яшчалд. Паданне звязвае яе з імем польскай пісьменніцы Э.Ажэшкі, якая нібыта



Капліца ў в. Закозель.



Герб Ажэшкаў на капліцы ў в. Закозель.

хавала ў ёй аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. генерала Р.Траўгута пасля разгрому яго атрада. Капліца скасавана ў 1865 г. з-за таго, што «существование часовни имело б плохое влияние на многочисленных слуг Закозеля, а обособленность имения затрудняет надзор за польской пропагандой».[2] Аднак з дазволу Галоўнага начальніка края М.М.Мураўёва яна была перададзена памешчыку Каліксту Ажэшку для прыстасавання яе ў «надгробный памятник» з тлумачэннем: «поскольку часовня эта не была парафияльной и являлась собственностью владельцев имения, то собственность и постройку надлежит вернуть Ожешкам с тем, однако, чтобы часовня была переделана в усыпальницу с разрушением на ней церковных куполов и чтобы в постройке не осталось алтаря и никаких приспособлений для богослужения...»[3]. У 1867 г. рабіліся намаганні перабудаваць храм у праваслаўную царкву, супраць чаго выступіла навакольнае дваранства. У 1915 г. падчас нямецкай акупацыі меднае пакрыццё даху было знята, новае цынкавае ўкладзена памешчыкам Каралем Талочкай, набыўшым маёнтак у 1923 г.

Помнік рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Цэнтрычнае квадратнае ў плане збудаванне накрыта востравугольнымі 2-схільнымі дахамі, на скрыжаванні якіх высокі 4-гранны шацёр з гранёным шпілем і гатычным крыжом у завяршэнні. Стракатасць сілуэта і вертыкальную накіраванасць прасторавай кампазіцыі надаюць вуглавыя падвойныя фіялы, паміж якімі ў гатычных парталах (чыгуннае ліццё) размешчаны скульптуры евангелістаў. Фасады насычана крапаваны згрупаванымі па вуглах контрфорсамі, слаістымі стральчатымі і 3-лопасцевымі нішамі. Стральчаты ўваходны партал дэкарыраваны ўверсе гербамі Ажэшкаў (чыгуннае ліццё). Крохкая архітэктурная дэкарацыя, мноства выцягнутых па вертыкалі ніш надаюць будынку лёгкасць, а гульня святлаценяў на паверхні выклікае адчуванне вібрацыі архітэктурных формаў. Каларыстычнае багацце будынка стварала высакаякасная адкрытая цагляная муроўка, медны бляшаны дах, пабеленыя элементы дэкору.

Зала перакрыта нервюрным скляпеннем. У вуглавых стральчатых нішах знаходзіліся скульптурныя выявы евангелістаў (не захаваліся). Стральчатыя аконныя праёмы і люкарны з пераплётамі гатычнага арнаментальнага малюнка запоўнены каляровымі вітражамі. Пад капліцай — склеп-пахавальня, куды вядзе лесвіца ў цэнтры залы.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 154, арк. 13 адв.; ф. 8, воп. 2, спр. 1406, арк. 198.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 3, спр. 3495, арк. 3.
[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 154, арк. 14, 21—22, 62; ф. 1159, воп. 3, спр. 168.

## в. Залескія,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Маці Божай Анёльскай

Учынена ў 1990-я гг. ў былым сядзібным доме 1938 г.



Капліца Маці Божай Анёльскай у в. Залескія.

Помнік архітэктуры з рудыментамі неакласіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Франтальны фасад вылучаны па цэнтры мансардным 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з трохвугольнымі сандрыкамі.

## в. Залессе,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл

У паўночна-заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1930-я гг. з дрэва. У савецкі час прыстасаваны пад клуб, цяпер занядбаны.



Касцёл у в. Залессе Глыбоцкага раёна.

Твор народнага дойлідства. Вырашаны працяглым прамавугольным у плане зрубам («у ластаўчын хвост») пад паўвальмавым дахам. Фасады прарублены прамавугольнымі аконнымі праёмамі і ўмацаваны брусамі-сцяжкамі ў прасценках, апяразаны вертыкальна ашаляваным зубчастым фрызам.

## в. Залессе,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

Пабудавана ў пачатку 19 ст. з цэглы паводле праекта архітэктара М.Шульца пры сядзібна-паркавым ансамблі кампазітара і палітычнага дзеяча М.К.Агінскага. Адкрыта ў 1990 г.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны прамавугольным аб'ёмам, які пераходзіць у 3-гранную апсіду. Над яе вальмавым дахам узведзена 4-гранная шатровая сігнатурка-ліхтар. Плоскасныя атынкаваныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, крапаваны вуглавым рустам. У апсідзе 2-ярусны драўляны алтар.



Капліца Маці Божай Вастрабрамскай у в. Залессе Смаргонскага раёна.

## в. Замосце,

Слуцкі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святой Барбары

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1620 (1649 ?) г. з цэглы мясцовым дойлідам Андрэем Самуілам Вінкай-Ратомскім як кальвінскі збор. У 17 ст. пры касцёле існавала місія езуітаў. У 1865 г. пераасвячоны ў праваслаўную царкву. Пасля 1917 г. выкарыстоўваўся як культурная і гаспадарчая ўстанова. Адрэстаўрыраваны ў 1990-я гг. як касцёл паводле праекта архітэктара В.Кондраля.



Касцёл святой Барбары ў в. Замосце.

У архітэктуры храма спалучаюцца рысы рэнесансу і ранняга барока. Шэраг адзнак сведчыць, што будынак узведзены мясцовымі непрафесійнымі дойлідамі: гэта адыход ад восевай сіметрыі, некананічная аб'ёмна-прасторавая пабудова, увядзенне ў муроўку буйных валуноў, адсутнасць стылёвых рыс. Будынак складаецца з квадратнага ў плане аб'ёму, асіметрычна ссунутай адносна падоўжнай восі храма 5-граннай апсіды і высокага 1-га яруса вежы-званіцы (не захавалася). Незвычайна, пад вуглом да апсіды, далучаны нізкія сакрысціі. Высока ўзнятыя арачныя аконныя праёмы з глыбокімі адхіламі, магутнае канструкцыйнае вырашэнне, простыя 2-схільныя дахі надаюць храму абарончы характар. Манатоннасць вялікіх фасадных плоскасцей парушаюць лапаткі, прафіляваны карніз з пояс-





Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса і святога Юзафа ў в. Занявічы.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Зарачанка.

ком, выкладзены рустам шырокі арачны ўваходны партал, над якім каменныя кранштэйны падтрымлівалі навес ці балкон (не захаваўся).

Унутры пры ўваходзе — крыжовыя скляпенні, на якіх размешчаны хоры. Інтэр'ер храма захаваў архаічна суровую архітэктурную трактоўку: нерэгулярная крапоўка сцен глыбокімі нішамі і лапаткамі, глыбокія адхілы аконных праёмаў, фрагменты рамбічна-сятчатага ляпнога арнаменту на консе апсіды, які нагадвае гатычныя нервюры. Малітоўная зала, скляпенне якой не захавалася (плоская столь), раскрываецца ў апсіду шырокім праёмам. У галоўным алтары знаходзілася карціна мастака Ш.Чаховіча «Укрыжаванне».

## в. Замошша,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Анёльскай

Пабудаваны ў канцы 20 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане 2-паверховым аб'ёмам пад паўвальмавым дахам. Плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольным на 1-ым і арачнымі на 2-ім паверхах аконнымі праёмамі.

## в. Занявічы (Літвінкі)
Гродзенскага раёна

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса і святога Юзафа

За 1 км на ўсход ад в. Літвінкі, на могілках. Пабудаваны ў 1917 г. з цэглы паводле праекта, распрацаванага ў 1908 г.[1] Рэстаўрыраваны ў 1989 г.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Квадратны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам на галоўным фасадзе афармлены магутным 4-калонным порцікам утрыраванага тасканскага ордэра з высокім і масіўным антаблементам і трохвугольным франтонам над ім. Бакавыя фасады і алтарная сцяна рытмічна расчлянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі і блендамі, дэкарыраванымі ліштвамі, ніжнімі панэлямі, апяразаны цягамі і прафіляваным карнізам. У дэкоры выкарыстаны вуглавая рустоўка, простага профілю карніз і цягі. У апсідзе, перакрытай плоскай столлю залы, адасоблена сакрысцыя.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1281, арк. 25.

## в. Зарачанка (Баля Касцельная)
Гродзенскага раёна

### Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1937 г. з цэглы. Закрыты ў 1969 г., адноўлены ў 1989—91 гг.

Помнік архітэктуры з рысамі неаготыкі. Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты высокім 2-схільным дахам з вальмамі над 5-граннай апсідай, да якой па баках далучаны сакрысціі. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі пануе вертыкальная накіраванасць архітэктурных мас. На пазбаўленых краповак плоскасных атынкаваных фасадах — спічастыя вы-

сокія вітражныя аконныя праёмы. Актыўнай дынамікай надзелены галоўны фасад з урэзанай у яго плоскасць 2-яруснай 4-граннай шатровай вежай і прытворам перад ёй. Востраканцовы шчыпец уваходнага партала завершаны скульптурнай выявай св. Марыі, што ўзмацняе гатычны вертыкалізм кампазіцыі. Унутры зала перакрыта 3-гранным скляпеннем, атынкаваныя сцены расчлянёны пілонамі. У аснову кампазіцыі цэнтральнага і 2 бакавых алтароў, надзеленых скульптурнымі постацямі, пакладзена форма стральчатай гатычнай аркі. На правы вугал апсіды навешаны драўляны амбон. Уздоўж сцен карціны-стацыі на тэму «Крыжовы шлях Хрыста».

## в. Зарачаны (Ельня),

Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Маці Божай Ружанцовай

На могілках. Пабудавана ў 18 ст. з цэглы, адноўлена ў канцы 20 ст.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам, які складаецца са старой квадратнай у плане часткі з лучковымі аконнымі праёмамі і новай з сілікатных блокаў з прамавугольнымі вокнамі. Будынак накрыты 2-схільным дахам, шчыт якога на галоўным фасадзе крапаваны рэльефным крыжом.



Капліца Маці Божай Ружанцовай у в. Зарачаны.

## в. Засвір,

Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

На поўдзень ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы і бутавага каменю. Адноўлена ў 1985 г.

Твор народнага дойлідства. Як і капліца каля касцёла, вырашана 4-слуповай навіссю пад шатровым пакрыццём, узведзенай на высокім бутавым пастаменце.



Капліца ў в. Засвір.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар кармелітаў

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Комплекс кляштара кармелітаў уключае касцёл, жылы корпус (захаваўся часткова), званіцу і браму. Драўляны кляштар фундаваны ў 1697 г. ашмянскім маршалкам Крыштафам Зяновічам і яго жонкай Ядзвігай (з Швыкоўскіх). Троіцкі касцёл пабудаваны ў 1713—14 гг. з цэглы (на месцы драўлянага, адзначанага ў 1705) па фундацыі Крыштофа і Ядзвігі Зяновічаў, якія ў 1701 і 1703 гг. ахвяравалі кляштару маёнтак Засвір і фальварак Памошша[1]. З будаўніцтвам мураванага жылога корпуса кляштар асвячоны ў 1766 г. Пасля 1832 г. кляштар скасаваны, касцёл пераўтвараны ў парафіяльны. Касцёл з 1866 г. дзейнічаў як аднайменная праваслаўная царква. У 1919 г. вернуты парафіянам. У 1946 г. касцёл зноў закрыты, жылы корпус прыстасаваны пад школу. У 1990 г. вернуты вернікам, адрэстаўрыраваны.



Інтэр'ер касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў в. Засвір.



Капліца ў в. Засвір.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока. Зальны 2-вежавы храм накрыты высокім 2-схільным дахам, які над магутнай паўкруглай апсідай пераходзіць у канічны. Галоўны фасад фланкіраваны масіўнымі 2-яруснымі вежамі, паміж якімі высокі атык і трохвугольны франтон. Уваход, вылучаны паўкруглым барбаканам з вузкімі байніцамі, надае храму характар абарончага збудавання. Гэта ўражанне ўзмацняе магутнае канструкцыйнае вырашэнне і стрыманая архітэктурная пластыка фасадаў, абмежаваная



Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Заслаўе.

адзіночнымі арачнымі нішамі, гарызантальным прафіляваным поясам. Аб'ёмная пластыка буйных архітэктурных формаў, фігурныя ківоры ў завяршэнні вежаў, лучковы малюнак вокнаў сведчаць аб барочнай стылёвай трактоўцы храма.

Малітоўная зала перакрыта драўляным карабавым скляпеннем, апсіда — конхай, прасценкі лучковых аконных праёмаў крапаваны 2-слойнымі іанічнымі пілястрамі, распісанымі пад мармур. Над арачным уваходам навісаюць хоры, на якія вядуць вітыя лесвіцы вежаў. У арачнай нішы апсіды пастаўлены 2-ярусны драўляны алтар, вырашаны ў стылі неакласіцызму; на левай сцяне навешаны драўляны амбон спрошчанай трактоўкі; уздоўж бакавых сцен навешаны карціны-стацыі. У цэнтральным алтары абраз «Найсвяцейшая Тройца», у левым — «Св. Іасафат», у правым «Найсвяцейшая Дзева Марыя».

Ж ы л ы к о р п у с далучаны да касцёла з паўночнага боку. П-падобны ў плане 1-павярховы будынак (захаваўся часткова), які ўтвараў каля касцёла замкнёны ўнутраны двор. Франтальны фасад галоўнага крыла па цэнтры вылучаў 4-калонны порцік. Скляпеністыя келлі традыцыйна аб'яднаны працяглымі галерэямі. Асобна ад касцёла стаіць невялікая мураваная б р а м а.

К а п л і ц а вырашана ўзнятым на бутавы п'едэстал 4-гранным шатровым аб'ёмам, грані якога прарэзаны арачнымі прасветамі.

Пастаўлена ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 2-яруснай 4-products прысадзістай вежай пад шатровым дашкам. Першы ярус выкладзены з бутавага каменю з арачным уваходным праёмам, другі атынкаваны і адкрыты арачнымі прасветамі. На цвінтар вядзе мураваная арачная брама з трохвугольным франтонам.

---

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 102; Lorentz S. Wycieczki po wojwództwie Wileńskiem. Wilno, 1932. S. 51; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 317; Podreczna Encyklopedya Koscielna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146; Wolyniak. Siedziby karmelitow trzewiczkowych na Litwie i Rusi // Miesięcznik kościelny (Unitas). 1911. S. 41—44.

# г. Заслаўе

Мінскага раёна

## Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На ўзгорку гістарычнага цэнтра горада, насупраць старажытнай Спаса-Праабражэнскай царквы. Пабудаваны ў 1774 г. з цэглы як фарны па фундацыі ўладальніка мястэчка падканцлера літоўскага Антонія Пшаздзецкага на месцы драўлянага храма

1627(8) г.[1] Познабарочная архітэктура мураванага каталіцкага манумента характэрная для творчасці італьянскага дойліда К.Спампані, які ў гэты час працаваў у Заслаўі і збудаваў для Пшаздзецкага невялікі палац. Аб яго аўтарстве маюцца ўскосныя архіўныя сведчанні. Аўтарам касцёла мог быць і італьянскі дойлід Павел Антоні Фантана, які будаваў тут кляштар місіянераў і перабудоўваў фарны касцёл у 1756 г. У 1868 г. касцёл перароблены пад царкву Раджаства Багародзіцы, на што з казны было ахвяравана 2 тыс. рублёў, а ў 1878 г. — яшчэ 7 тыс. рублёў[2]. Дзейнічала да 1941 г. У гады Вялікай Айчыннай вайны храм паўразбураны. У 1988 г. вернуты католікам. У стане аднаўлення.

Помнік архітэктуры барока. Пабудаваны паводле канона 1-нефавага 2-вежавага храма з паўкруглай апсідай і 2 сакрысціямі. Вертыкальна выцягнутыя прапорцыі надаюць будынку дынамічную вышынную скіраванасць і візуальную аблегчанасць. У выніку перабудовы пад царкву архітэктура касцёла набыла рысы руска-візантыйскага стылю: над асноўным аб'ёмам узведзены сферычны купал на магутным цыліндрычным светлавым барабане і 4 апостальскія галоўкі, фігурны барочны шчыт над галоўным фасадам заменены чацверыковай вежай-званіцай. Храм накрыты высокім чарапічным чырвоным дахам, які паніжаным уступам пераходзіць у пірамідальнае пакрыццё апсіды з сігнатуркай у завяршэнні. Галоўны фасад, што выходзіць за габарыты асноўнага аб'ёму, захаваў барочны крывалінейны абрыс з вылучаным у цэнтры пластычным 3-гранным эркерам. У яго завяршэнні стройная 4-гранная званіца з высокімі арачнымі прасветамі, фланкіраваная невялікімі купальнымі барабанамі. Фасады нестандартна, як у палаца, падзелены на 2 паверхі арачнымі аконнымі праёмамі (вокны 1-га паверха імітаваны блендамі), дэкарыраваны вытанчанымі пілястрамі. Да галоўнага ўвахода, перад якім створана прасторная тэраса, вядзе 2-баковая лесвіца.

Канструкцыйна магутны храм (таўшчыня сцен да 2 м) кантрастуе з адносна невялікай унутранай прасторай, у якой 2 слупы і насценныя карынфскія пілястры падтрымліваюць аркі цыліндрычнага скляпення, у сакрысціях і нартэксе — крыжовыя. Інтэр'ер упрыгожвалі 3 барочныя мураваныя алтары. Дзве бакавыя вінтавыя лесвіцы вядуць на хоры (меўся 8-галосы арган) і званіцу. Пад храмам цягнуцца скляпы, у якіх мясцовы ўладальнік П.М.Хамянтоўскі ў 1860—70-я гг. стварыў царкву-крыпту[3].

---

[1] Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. 9. СПб., 1905; Chodzko D. Zapiski J. Chodźki o niektórych kościolach na Litwie // Pamiętnik religijno-moralny. 1859. Ser. 2. T. 4; Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Mińskiej. Warszawa,1919. S. 7; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 163.

[2] Описание церквей и приходов Минской епархии. I. Минский уезд. Мн., 1878. С. 84.

[3] Минские епархиальные ведомости. 1 марта 1886 г. № 5. С. 127—129.

## в. Зембін,

Барысаўскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканцаў

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1798—1809 гг. з цэглы пры кляштары дамініканцаў замест драўлянага храма, які згарэў у 1790 г.[1]

У 1640 г. ашмянскі падкаморы і ўладальнік Зембіна Адам Мацей Саковіч і яго жонка Марыяна (з Тышкевічаў) заснавалі тут дамініканскі кляштар, ахвяраваўшы яму фальварак Паляны, навакольнае возера і права прапінацыі з абавязкам трымаць школу[1]. Невялікі драўляны касцёл меў званіцу на фасадзе і сакрысціі па баках прэсбітэрыя, дах па сярэдзіне завяршаўся цыліндрычнай сігнатуркай. Інтэр'ер упрыгожвалі 7 алтароў, на хорах меўся 8-галосы арган. Комплекс акрамя касцёла ўключаў 1-павярховы крыжовы ў плане жылы корпус і гаспадарчыя пабудовы (свіран, лядоўня, кухня, стайня, адрына і інш.); усё было акаймавана бутавай агароджай. Пры кляштары дзейнічалі шпіталь і парафіяльная школа, мелася вялікая бібліятэка (знішча-



Статуя Дзевы Марыі ў арачнай нішы франтоннага тымпана на касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Зембін.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г.п. Зэльва.

на французамі ў 1812). У 1766 г. ўладар мястэчка Марцін Літавар Храптовіч вылучыў сродкі на будаўніцтва мураванага касцёла. У 1833 г. кляштар скасаваны і перайшоў да казны, касцёл да 1880 г. быў прыходскім. У 1888 г. парафіяне і мясцовая шляхта пад кіраўніцтвам Швенціцкіх і Рагоўскіх звярнулася з хадайніцтвам у Пецярбург, і ў 1902 г. ў Зембін прыбыў пастаянны святар Ванькавіч, пры якім касцёл аднавіўся. У пачатку 20 ст. адрэстаўрыраваны. У 1932 г. зноў закрыты і як спустошаны прыйшоў у занябад. Паўзруйнаваны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока і класіцызму. Мануметальнае збудаванне (таўшчыня сцен 1,3 м) аднасіцца да тыпу бязвежавых 3-нефавых базілік з паўкруглай апсідай. Высокі 2-схільны дах на галоўным фасадзе прыхаваны фігурным франтонам, узнятым на магутны атык і фланкіраваны дэкаратыўнымі вазонамі, над алтарнай часткай завяршаўся 2-яруснай сігнатуркай. У арачнай нішы франтоннага тымпана ўстаноўлена скульптура Маці Божай. Рытм фасадаў ствараюць высока ўзнятыя арачныя аконныя праёмы і шырокія лапаткі ў прасценках. З класічнага дэкору выкарыстаны карніз простага профілю з сухарыкамі, які акаймоўвае будынак.

Прастора цэнтральнага нефа пераходзіць у апсіду, завершаную насценным стукавым алтаром з абразом Хрыста, які нясе крыж. Па яго баках, у завяршэнні бакавых нефаў, вылучаны прамавугольныя сакрысціі, сцены якіх раскрапаваны разнастайнымі нішамі. Бакавыя нефы аддзелены ад галоўнага 4 магутнымі слупамі, якія трымаюць распор крыжовых скляпенняў і падпружных арак. Над нартэксам на 2 слупах размешчаны хоры, лесвіца на якія праходзіць у тоўшчы фасаднай сцяны.

Інтэр'ер храма падчас рэстаўрацыі пачатку 20 ст. ўпрыгожаны фрэскавым роспісам (не захаваўся; варшаўскі мастак Вебер). Новы алтар зроблены ў выглядзе ўвагнутай мураванай перагародкі з бакавымі арачнымі праходамі і невысокім калонным парталам па цэнтры (у ім стаяла скульптура Хрыста), завершаным скульптурнай постаццю Маці Божай, па баках на калонных устоях — выявы анёлаў, на фігурным завяршэнні перагародкі — постаці апосталаў Пятра і Паўла. Алтар быў распісаны пад каляровы мармур. Высунутая наперад да мяжы прэсбітэрыя архітэктурна-скульптурная кампазіцыя эфектна ўспрымалася ў контражурным асвятленні 2 высокіх арачных аконных праёмаў апсіды. У алтары быў размешчаны абраз Хрыста работы Яна Дамеля. Меліся драўляныя бакавыя алтары: Маці Божай Шкаплернай і святога Юзафа (справа) і ўкрыжавання і святога Антонія (злева). Бакавыя сцены ўпрыгожвала серыя тэракотавых пано са сцэнамі Крыжовага шляху. Драўляны амбон перанесены з папярэдняга касцёла і быў навешаны на левым пілоне прэсбітэрыя. У касцёле былі ўстаноўлены арган, жырандолі.

Ж ы л ы к о р п у с (не захаваўся) быў 1-павярховым, крыжападобным у плане пад гонтавым дахам. Меліся 5 келляў, памяшканне рэфектара.

[1] Encyklopedia kościelna. Warszawa, 1874. T. 4. S. 298; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II; Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1895. T. XIV. S. 607.

## г.п. Зэльва

Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У паўночна-заходняй частцы пасёлка. Пабудаваны ў 1908—13 гг. з цэглы паводле праекта архітэктара І.П.Дзяконскага[1]. У 1950-я гг. закрыты, у 1989 г. перададзены вернікам.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Сіметрычна-восевая аб'ёмна-прасторавая кампа-

зіцыя пабудавана паводле канона 3-нефавай 2-вежавай базілікі. Дынамічны вертыкальны рух дасягаецца высокімі 2-яруснымі вежамі (васьмярык на чацверыку) з шатровымі пакрыццямі і спічастымі шпілямі ў завяршэнні. Выкарыстана спалучэнне геаметрычна правільных аб'ёмаў, іх плоскасных граняў і фасадаў, прарэзаных арачнымі праёмамі. Вертыкальную дынаміку кампазіцыі фасада ўраўнаважвае працягнутая ўздоўж франтальнага фасада адкрытая галерэя-экзанартэкс са складаным рытмам паўцыркульных і стральчатых арак, цэнтральная з якіх вылучана стылізаваным вімпергам. Высокі дах утварае паміж вежамі невялікі шчыт з акном-трыфорыумам. Падабенства з сярэдневяковым саборам надае і каркасная сігнатурка з іголчастым шпілем над 5-граннай апсідай, контрфорсы па вуглах і ў прасценках арачных аконных праёмаў. Зала 6 гранёнымі слупамі падзелена на 3 нефы.

[1] Toloczko W. Wiadomość historyczna o kościele zelwiańskim // Dwutygodnik diecezji wileńskiej. R. 4. 1913. S. 322—324.



## г. Іванава
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У цэнтры горада. Пабудаваны ў 1848 г. з цэглы намаганнямі ксяндза К.Палівона, асвячоны ў 1852 г. біскупам В.Жылінскім[1]. У 1899 г. адрамантаваны на ахвяраванні прыхаджан. На 1935 г. налічваў каля 1450 парафіян. Меліся філіяльныя могілкавыя капліцы ў горадзе і вёсках Баландзічы і Моладава. У савецкі час быў прыстасаваны пад Дом культуры. Адноўлены ў 1990-я гг., акаймаваны мураванай агароджай з цэнтральнай брамай і бакавымі 3-яруснымі купальнымі вежамі.

Помнік архітэктуры ампіру. Прамавугольны ў плане (22,5 х 12,5 м) будынак пад 2-схільным дахам на галоўным фасадзе завершаны 3-ступеньчатым атыкам, раскрапаваны пілястрамі абапал уваходнага партала з арачнай люкарнай над ім. Пілястрамі крапаваны і бакавыя фасады, расчлянёныя на 2 ярусы прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Будынак акаймаваны антаблементам з прафіляваным карнізам на дэнтыкулах. У інтэр'еры зала перакрыта плоскай столлю, апсіда вылучана бакавымі сакрысціямі. Пры ўваходзе галерэя арганных хораў на 2 калонах.

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 51—52.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г. Іванава.



Інтэр'ер касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў г. Іванава.

## г. Івацэвічы
Брэсцкай вобласці



### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Дынамічна-асіметрычную кампазіцыю храмавага комплексу фарміруюць касцёл і злучаная з ім 1-павярховым крылом званіца. Касцёл вырашаны манументальным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які выходзіць на фасад 2-гранным шчытом, фланкіраваным 3-яруснымі 4-граннымі вежамі-рызалітамі пад 2-схільнымі пакрыццямі. Вось сіметрыі фасада адзначана круглым акном-ружай (уплыў готыкі) і ўваходнай тэрасай-аркадай. Плоскасныя фасады рытмічна расчля-



Капліца ў в. Івашкаўцы.

нёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з трохвугольнымі сандрыкамі. Пастаўленая вуглом высотная 4-ярусная 4-гранная вежа-званіца завершана спічастым шатром.

## в. Івашкаўцы,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашана вертыкальна выцягнутым прамавугольным у плане аб'ёмам з 5-граннай апсідай, над якой стромкі 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы і завершаны па цэнтры 8-граннай сігнатуркай са спічастым шатром. Фасад завершаны трохвугольным франтонам з акном-разеткай па цэнтры. Фасады прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі і ўмацаваны 2-ступеньчатымі руставанымі контрфорсамі па вуглах аб'ёмаў.

## г.п. Івянец,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У паўночна-ўсходняй частцы пасёлка, на могілках, за Аляксееўскім касцёлам. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства з рысамі неакласіцызму. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, трохвугольны вертыкальна зашыты франтон якога на фасадзе падтрыманы 2 слупамі і бакавымі прасценкамі. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарэзаны прамавугольнымі ўваходным і 2 аконнымі праёмамі.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам з 2-граннай апсідай, 2-схільны дах над якой пераходзіць у вальмавы. Вертыкальна ашаляваныя фасады прарэзаны 2 прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

### Капліца

На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, у былым сядзібна-паркавым комплексе. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана цэнтрычным 4-гранным збудаваннем пад шатровым пакрыццём. Грані раскрыты арачнымі (авальнай формы) прасветамі.

### Касцёл святога Аляксея

У паўночна-ўсходняй частцы пасёлка, на могілках. Пабудаваны ў 1905—07 гг. з цэглы, верагодна, паводле праекта архітэктара Хатоўскага па фунда-



Капліца ў г.п. Івянец.



Капліца ў г.п. Івянец.

цыі генерала Эдварда Каверскага. Закладны камень асвяціў 2.5.1905 г. арцыбіскуп Е.Шэмбек, 23.12. 1907 г. касцёл урачыста асвячоны[1]. З 1976 г. выкарыстоўваўся пад кнігасховішча Дзяржаўнай бібліятэкі Беларусі імя У.І.Леніна. У 1990 г. перададзены вернікам. У ансамбль з храмам уваходзяць капліца і 3-арачная брама з вартоўняй.

Помнік архітэктуры неаготыкі. У кампазіцыі працяглага аб'ёму, накрытага 2-схільным дахам з сігнатуркай над 5-граннай апсідай, дамінуе 2-ярусная 4-гранная шатровая вежа-званіца са стральчатым уваходным парталам і акном-ружай над ім. Сілуэтную стракатасць будынку надаюць шпілі пілонаў-контрфорсаў, востравугольныя шчыты, высока ўзнятыя стральчатыя вокны-біфорыумы, дэкаратыўная аркатура, выступаючыя крылы трансепта, а магутны, выкладзены з вапняку цокаль, надае кампазіцыі прысадзістасць. Уражвае архітэктурная эстэтыка храма, высокая культура будаўнічых работ, высакаякасная цагляная муроўка.

Унутры неф перакрыты стральчатым нервюрным скляпеннем на падпружных арках, адкрываецца ў апсіду і крылы трансепта вялікімі арачнымі прасветамі. Інтэр'ер упрыгожвае паліхромная арнаментальная размалёўка. Гатычны алтар, асветлены бакавымі стральчатымі вокнамі з вітражнымі выявамі святых апосталаў Пятра і Паўла, быў выкананы з дубу ў выглядзе 3-часткавай кампазіцыі з арэалам разных высокіх фіялаў па вуглах востравугольных франтонаў; у цэнтры змяшчаўся абраз «Св. Аляксей».

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 156—158; Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 99.

## Касцёл святога архангела Міхаіла і кляштар францысканцаў

У цэнтры пасёлка, на правым беразе р. Волма. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы. Комплекс былога кляштара манахаў-францысканцаў акрамя касцёла ўключае жылы корпус і фрагмент агароджы з вуглавой вежай і цэнтральнай брамай.

У 1606 г. Ян Давойна паставіў у Івянцы драўляны 2-вежавы касцёл. У 1702 г. мінскі стольнік Тэадор Ванькові даў манахам-францысканцам фундуш на будаўніцтва кляштара. У 1704 г. пад кіраўніцтвам мясцовага майстра А.Чаховіча і намаганнямі айца Альбярціна ўзведзены драўляны касцёл (згарэў у 1709)[1]. У 1745 г. пабудаваны новы храм па фундацыі ўладальніка мястэчка Я.Салагуба. Праз 100 гадоў касцёл пацярпеў ад пажару. У 1856—60 гг. архітэктар В.Бяляўскі і мастак Я.Кураткевіч правялі яго рэстаўрацыю. Паводле загаду міністра Цімашава ад 28.11.1868 г. касцёл пераабсталяваны пад Троіцкую праваслаўную царкву (у крыпце пад храмам створаны прастол у імя святога архангела Міхаіла)[2]. У 1918 г. будынак вернуты каталікам. У 1948 г. касцёл закрыты. Рэстаўрыраваўся ў 1980—90-я гг. (архітэктар І.Маскалёў). У 1990 г. вернуты вернікам.



Касцёл святога Аляксея ў г.п. Івянец.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры ракако. Стыль увасобіўся ў складанай арганізацыі галоўнага ўсходняга фасада — асноўнага архітэктурна-пластычнага акцэнту будынка. Пластычнасць дасягаец-



Касцёл святога архангела Міхаіла і кляштар францысканцаў у г.п. Івянец.



Капліца святога Яна Хрысціцеля ў в. Ідолта.

ца высунутымі наперад дэталямі, хвалістымі карнізамі, бакавымі 5-ярууснымі вежамі і фігурным шчытом паміж імі. Аналагічныя фігурныя шчыты завяршаюць прамавугольную апсіду і скругленыя крылы трансепта. Над парталам галоўнага ўвахода — характэрны па малюнку атэктанічны шматлопасцевы арачны праём, фланкіраваны паўкалонамі. Бакавыя дэкаратыўна спрошчаныя фасады апяразаны шырокім прафіляваным карнізам, расчлянёны пілястрамі ў прасценках лучковых аконных праёмаў.

Неф касцёла перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і падпружнымі аркамі. Крылы трансепта і алтар адкрываюцца ў асноўнае памяшканне шырокімі арачнымі праёмамі. Ракайльны акцэнт у афармленне інтэр'ера ўнесены хвалістым парапетам «арганнага праспекта», размешчанага на 2 слупах пры ўваходзе, а ў канцы залы — 3 стукавыя алтары са шматлікімі калонамі, архітэктурнай і дэкаратыўнай пластыкай. Непаўторны каларыт стваралі пазалочаныя ракайльныя капітэлі.



Касцёл Маці Божай Шкаплернай у в. Ідолта.

З заходняга боку ад касцёла размешчаны Г-падобны 2-павярховы ж ы л ы  к о р п у с, сцены якога расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах і шырокімі пілястрамі ў прасценках. Манаскія келлі аб'яднаны скляпеністай галерэяй. Вертыкальны рух касцёла гарманічна стрымлівае працяглая гарызанталь мураванай сцяны-агароджы з гранёнай шатровай вежай і барочнай руставанай брамай, фігурны франтон якой аналагічны шчыту храма на фасадзе.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 156—158.

[2] Историко-статистическая справочная книга Минской епархии. Мн., 1903. С. 23.

## в. Ідолта,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца святога Яна Хрысціцеля

На паўднёвы ўсход ад вёскі, у былым сядзібна-паркавым комплексе Мілашэўскіх. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму з элементамі рэтраготыкі. Невялікі прамавугольны ў плане аб'ём з 5-граннай апсідай і бакавымі нізкімі сакрысціямі. Накрыта 2-схільным дахам, які на фасадзе выходзіць трохвугольным франтонам з надбудаванай над ім 4-граннай драўлянай званіцай. Плоскасныя фасады крапаваны пілястрамі, прарэзаны арачнымі вокнамі-біфорыумамі і ўваходным парталам у прафіляваных ліштвах, апяразаны трыгліфным фрызам з метопамі. Пад уплывам рэтраготыкі ўзведзены аркатурныя фрызы сакрысцій і круглая люкарна над уваходным парталам.

## Касцёл Маці Божай Шкаплернай

За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля шашы Міёры—Друя. Пабудаваны ў 1939 г. з цэглы і бутавага каменю.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Уяўляе сабой прамавугольны ў плане аб'ём з паўкруглай апсідай і 2 нізкімі сакрысціямі. Да галоўнага фасада асіметрычна прыбудавана 4-гранная шатровая вежа, вымураваная з бутавага каменю. Яе вертыкальны рух ураўнаважвае гарызантальна выцягнутая ўздоўж фасада аркадная галерэя. Арытмію фасаднай кампазіцыі падкрэслівае цэнтральнае акно-ружа і бакавая ніша-экседра за скульптурнай постаццю. Двухсхільны дах завершаны над алтарнай часткай 4-граннай шатровай сігнатуркай. Фасады падзелены на 2 ярусы; у муроўцы ніжняга яруса выкарыстаны шліфаваны камень-валун, верхняга — цэгла. Іх спалучэнне надае будынку фактурную і каляровую выразнасць. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі.

Унутраная прастора падзелена на 3 нефы 2 аркадамі, прасветы якіх адпавядаюць паўцыркульным аконным праёмам. Абраз «Св. Ісідар»; на бакавых сценах 14 пано-стацый на тэму Крыжовага шляху Хрыста (1-я палавіна 19 ст.).

## в. Ізабелін,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1778 г. з цэглы па фундацыі графа Грабоўскага як кальвінскі збор. У 1887 г. закрыты[1]. Потым дзейнічаў як касцёл. Закрыты ў 1968 г. У 1988 г. храм адрэстаўрыраваны (архіт. Г.П.Босак). Адкрыты і асвячоны гродзенскім біскупам А.В.Кашкевічам 18.7.1992 г.

Архітэктурны помнік адметны сціплым выкарыстаннем барочнай пластыкі, масіўнымі формамі, статычнасцю. Кампактны прамавугольны ў плане з паўкруглай апсідай аб'ём з 8-граннай шатровай вежай-званіцай над усечаным франтонам галоўнага фасада. Сіметрыя галоўнага фасада падкрэслена нізкім прамавугольным уваходным праёмам і арачным акном над ім, якое асвятляе хоры, чляненнем лапаткамі на 3 часткі. Франтон дэкарыраваны панэлямі, разеткамі, крыжовымі і прамавугольнымі нішамі. Плоскасныя бакавыя фасады амаль пазбаўлены дэкору, рытмічна расчлянёны вялікімі арачнымі аконнымі праёмамі і шырокімі лапаткамі ў прасценках, апяразаны прафіляваным карнізам і тонкім паяском.

Зала перакрыта плоскай столлю, пазбаўлена архітэктурнай пластыкі, толькі 2 масіўныя гранёныя слупы пры ўваходзе нясуць на трайной аркадзе галерэю хораў, пад якой крыжова-скляпеністае памяшканне нартэкса. Хоры апяразаны балюстрадай. Апсіда адкрыта ў залу шырокім арачным прасветам.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 8, спр. 1916.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Ізабелін.

## в. Іказнь,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Божага Цела

На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1901—05 гг. з вапнавых блокаў і цэглы. Быў закрыты ў 1948—90 гг. Акаймаваны бутавай агароджай з контрфорсамі. Папярэдні касцёл Св. Духа фундаваны ў 1501 г. каралеўскім сакратаром Янам Сапегам.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Базілікальны 3-нефавы храм з паўкруглай апсідай і бакавымі нізкімі сакрысціямі вырашаны ў масіўных архітэктурных формах. Фасад фланкіраваны 2 магутнымі 4-яруснымі шатровымі вежамі, колькасць праёмаў якіх нарастае знізу ўверх: адзінкавых вузкіх і прамавугольных на 1-м ярусе, біфорыумаў на 2-м, трыфорыумаў на 3-м двайным, біфорыумаў у завяршэнні. Фасад паміж вежамі завершаны 2-гранным шчыпцом з акном-ружай па цэнтры; прарэ-



Касцёл Божага Цела ў в. Іказнь.



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Ілля.

заны шырокім арачным уваходным парталам з акном-трыфорыумам над ім. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі і 3-ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках; трансепт адзначаны рызалітамі пад 2-граннымі шчытамі. Архітэктура храма мае насычанае каларыстычнае вырашэнне — на фоне паліхромнай бутавай муроўкі вылучаюцца чырвонацагляныя элементы дэкору (фрызавыя аркатуры, ліштвы вокан, круглыя разеткі).

Унутраная прастора храма размежавана на нефы аркадамі на магутных 4-гранных пілонах, перакрыта крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках і перакрыжаваных гуртах. Архітэктурныя плоскасці пакрыты арабескавым арнаментальным роспісам. Над уваходам на трайной аркадзе антрэсоль хораў. У апсідзе драўляны 3-ярусны алтар з каланадай, у бакавых нефах 2 неакласіцыстычныя стукавыя алтары (пад блакітны мармур), на левым пілоне прэсбітэрыя навешаны granёны драўляны амбон.

## в. Ілава,

Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі, у скверы. Пабудавана ў пачатку 21 ст. з бутавага каменю. Вырашана скульптурай Маці Божай пад металічнай 2-схільнай 4-стрыжнявой сенню, узведзенай на бутавай горцы.

## в. Ілля,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

У паўночнай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1907—09 гг. з цэглы і гранітных блокаў паводле праекта архітэктара А.Клейна. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны парафія налічвала да 1700 прыхаджан. У 1920-я гг. касцёл вернуты парафіянам, пры ім аселі сёстры-непакалянкі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны выкарыстоўваўся ў вытворчых мэтах. Адрэстаўрыраваны ў 1990-я гг.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Да прамавугольнага ў плане накрытага 2-схільным дахам аб'ёму далучаны нізкая паўкруглая апсіда і крыло трансепта з боку паўднёва-ўсходняга фасада. Фасад расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі на 3 праслы, у цэнтры ўваходны арачны партал пад вімпергам, над якім акно-трыфорыум, па баках арачныя аконныя праёмы. Фасад завершаны 2-гранным шчытом, над якім у канцы 20 ст. аднаўлена драўляная 3-ярусная 4-гранная званіца пад спічастым шатром. Бакавыя сцены (таўшчыня 1 м) рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі. Архітэктурны дэкор (ліштвы праёмаў, карнізы, русты) выкананы чырвонацаглянай муроўкай, вылучанай на паліхромным фоне гранітных сцен.

У інтэр'еры памяшканні злучаны шырокімі арачнымі прасветамі, зала перакрыта драўляным корабавым скляпеннем (першапачаткова гатычным), апсіда — конхай на распалубках. На алтарнай сцяне абраз «Найсвяцейшае Сэрца Ісуса» у неагатычным ківоце, на бакавых прасценках прэсбітэрыя алтары з абразамі «Св. Юзаф з немаўляткам» (злева) і «Маці Божая Вастрабрамская» (справа), прысценны алтар «Маці Божая Чанстахоўская». У нартэксе драўляная скульптура «Укрыжаванне».

## в. Індура

Гродзенскага раёна

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Узведзены ў 1815 г. з цэглы намаганнямі ксяндза Радзевіча на месцы драўлянага касцёла (фундаваны ў 1542 Янам Давойнам)[1]. У 1904 г. рэканструяваны і пашыраны архітэктарам У.А.Срокам на добраахвотныя ахвяраванні парафіян[2]. Тэрыторыя храма акаймавана бутавай агароджай, уключае 1-павярховую плябанію, капліцу-грот, драўляную скульптуру, паркавае добраўпарадкаванне.

Помнік архітэктуры ампіру і неабарока. Складаецца з 3-нефавага аб'ёму пад нізкім 2-схільным дахам і невялікай паўкруглай апсіды з бакавымі сакрысціямі. Галоўны фасад афармлены магутным 4-калонным парталам з трохвугольным франтонам на прамавугольным атыку. Будынак па перыметры апяразаны дарычным антаблементам і чляняны пілястрамі ў прасценках арачных аконных праёмаў у тонкапрафіляваных ліштвах. У 1901—04 гг. да галоўнага фасада прыбудаваны 2 featured розначвялікія вежы, да ўсходняга — крыло трансепта, што ўнесла ў архітэктуру храма рэтраспектыўныя формы барока (пластычная трактоўка купалаў з ліхтарамі над вежамі, фігурны шчыт трансепта, круглыя люкарны).

Перспектыўна выцягнутая па падоўжнай восі прастора інтэр'ера расчлянёна на нефы перакінутай праз 4-гранныя пілоны аркадамі. Крыжовыя скляпенні нефаў падтрыманы парнымі падпружнымі аркамі і насценнымі пілястрамі. Інтэр'ер дэкарыраваны арабескавым арнаментальным роспісам. У апсідзе і трансепце устаноўлены 3 манументальныя алтары, выкананыя ў стылі неакласіцызму. На левым слупе прэсбітэрыя навешаны драўляны гранёны амбон. Над уваходам адмежаваная аркатурным парапетам антрэсоль хораў з арганам.

Побач з касцёлам у канцы 20 ст. з бутавага каменю пабудавана к а п л і ц а - г р о т.

Твор народнага дойлідства. Вырашана бутавым гротам, у арачнай нішы-экседры якога пастаўлена скульптура Мадонны.

---

[1] Hirszel S.Z. Przyczynki do monografji pow. Grodzienskiego. Grodno, 1936.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 665, арк. 9.

## в. Ісаевічы,
Слонімскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана кампактным прамавугольным у плане шчытавым збудаваннем пад 2-схільным пакрыццём. З франтальнага боку вертыкальна ашаляваная сцяна прарублена прамавугольным уваходным праёмам, з тыльнага — акенцам. Унутры перакрыта цыліндрычным драўляным скляпеннем, пастаўлена скульптура Маці Божай.


Капліца-грот каля касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў в. Індура.


Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Індура.

## г.п. Іўе
Гродзенскай вобласці

### Капліца святой Барбары


Капліца святой Барбары ў г.п. Іўе.


Капліца ў в. Ісаевічы.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар бернардзінцаў у г.п. Іўе.

На паўночна-заходняй ускраіне пасёлка, на могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам з паўкруглай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у канічны, завершаны каваным крыжом. Трохвугольны франтон даху падтрыманы 4 калонамі, якія нагадвалі утрыраваны класічны порцік. Плоскасныя сцены прарэзаны невялікімі лучковымі аконнымі праёмамі.

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар бернардзінцаў

У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы[1]. Да мураванага касцёла далучаўся жылы корпус (захаваліся заходняе і часткова ўсходняе крылы). Кляштар аддзелены ад былога мястэчка насыпам, які меў абарончае значэнне.

Першапачатковы 1-нефавы касцёл узведзены ў 1499 г. па фундацыі троцкага ваяводы Пятра Яновіча, пры ім існаваў драўляны кляштар. Касцёл пашыраны ў 1631 г. пры Мікалаі Кішку, які заснаваў пры храме з дазволу віленскага біскупа Абрама Войны кляштар бернардзінцаў, мураваны корпус якога далучаўся да паўночнага фасада касцёла[2]. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. касцёл спалены. Новы храм асвячоны ў 1787 г[3]. У 1858 г. кляштар скасаваны і прыстасаваны пад прыходскае вучылішча.

Архітэктура к а с ц ё л а мае рысы готыкі, рэнесансу, барока і ракако. Двухсхільны дах асноўнага аб'ёму пераходзіць у гранёнае пакрыццё больш нізкай 5-граннай апсіды з буйнымі контрфорсамі па вуглах (рудыменты готыкі, сцены храма і апсіды ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі). Лагічным працягам гэтай ступеньчатасці з'яўляецца вышынны франтальны фасад. Яго пластычная распрацоўка адлюстроўвае розныя этапы будаўніцтва: простая і строгая з выразнай пілястравай крапоўкай сцяны і яе падзелам карнізам на 2 ярусы — рэнесанс пачатку 17 ст.; вытанчаныя і насычаныя вертыкальна выцягнутыя вежы з фігурнымі ківорыямі ў завяршэнні і фігурны шчыт паміж імі — ракако сярэдзіны 18 ст. Цэнтральны ўваход вырашаны лучковым праёмам, над якім высокае паўцыркульнае акно хораў. Гладкія бакавыя сцены прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і апяразаны тонкапрафіляваным карнізам. У 19 ст. да паўночнай сцяны касцёла прыбудавана капліца.

Унутраная прастора 4 магутнымі слупамі падзелена на 3 крыжова-скляпеністыя нефы, у цэнтральны з якіх выступае хвалістая галерэя хораў. Пластыка-дэкаратыўным упрыгожаннем інтэр'ера з'яўляюцца 6 алтароў (2-я палавіна 18 ст.). Галоўны з іх — архітэктанічная калонна-пілястравая кампазіцыя, завершаная акругла-выгнутым крапаваным антаблементам з лучковым франтонам і скульптурнымі паліхромнымі выявамі анёлаў, святых апосталаў Пятра і Паўла, Укрыжавання. Скульптурай і арнаментальнай разьбой дэкарыраваны бакавыя драўляныя алтары. У пачатку 20 ст. сцены і скляпенні размаляваны ў карычнева-чырвонай і шэра-блакітнай гаме. Абразы канца 18 ст. «Укрыжаванне з прадстаячымі» і «Тройца Новазапаветная».

Архітэктура 2-павярховага ж ы л о г а к о р п у с а, які ўтварае прамавугольны ўнутраны двор з паўночнага боку касцёла, захоўвае рысы ранняга барока. Галерэяй, якая аб'ядноўвае келлі, корпус злучаны з апсідай. Мастацка-дэкаратыўная рэліквія будынка — печ 17 ст., пакрытая тэракотавай кафляй з раслінным і геаметрычным арнаментам.

[1] Klasztory bernardynskie w Polsce w jej granicach historycznych. Kalwaria zebrzydowska, 1985. S. 93.

[2] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 115.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар бернардзінцаў у г.п. Іўе. Жылы корпус.

## в. Ішкалдзь,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі, на невялікім пагорку. Пабудаваны ў 2-й палавіне 15 ст. (да 1472) з цэглы. Перад храмам у канцы 20 ст. пастаўлены бутавы грот з Мадоннай.

У жыццяпісах віленскіх біскупаў адзначана, што староста віцебскі, смаленскі, любельскі і мцэнскі Мікалай Неміровіч пабудаваў у сваім маёнтку Ішкалдзь мураваны касцёл у 1472 г. і ахвяраваў яму свой маёнтак[1]. У 1-й палавіне 16 ст. пры князі Мікалаі Радзівіле Чорным касцёл стаў кальвінскім зборам. У 1641 г. ўладальнікі вёскі Радзівілы аднавілі ў ім каталіцкае набажэнства. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. пашкоджаны. Інвентар 1675 г. адзначае, што храм пабудаваны больш за 200 гадоў назад «цвінтар касцёла здаўна быў мурам абмураваны і валам асыпаны... Але рэфарматы (пратэстанты — *А.К.*), у руках якіх касцёл быў 50 гадоў, сцены цвінтарныя знішчылі». Апісанне 1782 г. называе касцёл старасвецкім, адзначае высокі дах, старадаўняе скляпенне, аднабаковае размяшчэнне вузкіх вокнаў. У 1866 г. набажэнствы ў храме былі забаронены. У 1868 г. пры ўладальніку маёнтка Вітгенштэйне храм пераасвячоны ў прыходскую Троіцкую царкву (пастаўлены іканастас, надбудаваны 2 цыбулепадобныя галоўкі, адасоблена пастаўлена драўляная званіца)[2]. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1876 г. ў 1898 г. пабудавана драўляная царкоўнапрыходская школа. У 1918 г. храм зноў вернуты католікам. У 1969 г. закрыты. У 1970-я гг. рэстаўрыраваны, вернуты парафіянам. У канцы 19 ст. побач з храмам стаяла драўляная 4-слуповая званіца пад гонтавым дахам.

Храм — архітэктурна-гістарычны рарытэт позняй готыкі на Беларусі. Яго самабытная архаічная архітэктурна-стылёвая трактоўка і масіўная пластыка па структурнай і дэкаратыўнай аснове знаходзіцца ў агульным рэчышчы з абарончымі храмамі Заходняй Еўропы. Кампактны прамавугольны ў плане аб'ём (агульная даўжыня 26,4 м, шырыня 13,6 м) з 5-граннай апсідай і бакавой 2-павярховай сакрысціяй (наверсе размяшчалася скарбніца) з цыліндрычнай вежай накрыты высокім стромкім дахам (у 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст. па цэнтры меў цыбулепадобны купал на 8-гранным барабане, не захаваўся). Выцягнутая апсіда накрыта дахам з вальмамі над гранямі. Археалагічныя знаходкі старажытнай дахоўкі сведчаць аб першапачатковым пакрыцці дахаў чарапіцай з зялёнай палівай. Стылістыку храму надаюць вуглавыя пластычна абмаляваныя контрфорсы, глыбокія нішы якіх былі разлічаны на скульптуру. Асноўнае ўражанне стварае галоўны фасад, плоскасць якога завершана 2-схільным шчыпцом, умацаваным пластычнымі контрфорсамі і крапаванымі арачнымі нішамі, прарэзана архаічным стральчатым праёмам увахода, акаймаваным познагатычнай прамавугольнай ліштвай. Фасадныя нішы першапачаткова былі атынкаваныя і пабеленыя, што стварала маляўнічы ўзор на фоне чырвонай муроўкі. Дзверы галоўнага ўвахода — твор дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Яны ўпрыгожаны выразнымі па малюнку каванымі ўзорчатымі кратамі. Другі, больш вузкі арачны дзвярны праём размешчаны на паўднёвым фасадзе. Бакавыя фасады арытмічна расчлянёны вузкімі арачнымі аконнымі праёмамі. Першапачаткова неатынкаваныя фасады былі разлічаны на эфект фігурнай муроўкі ў выглядзе рамбічнага ўзору з цэглы-жалязняку. Сцены выкладзены з цэглы (26—27 х 12,5—13 х 6,5—7 см) на вапнава-пясчанай рошчыне ў тэхніцы балтыйскай муроўкі.

Чатыры магутныя 8-гранныя слупы падзяляюць інтэр'ер на 3 нефы і нясуць на сабе гатычныя стральчатыя нервюрныя скляпенні. Бакавыя больш вузкія нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі і нагадваюць абходную галерэю. Малітоўная зала злучана з апсідай спічастай аркай (калі храм быў праваслаўнай царквой, апсіду вылучаў драўляны 3-ярусны іканастас з перламутравай афарбоўкай з



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Ішкалдзь. Малюнак Н.Орды. 1676.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Ішкалдзь. Сучасны выгляд.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Ішчална.

залачэннем і 14 абразамі). Да заходняй сцяны сакрысціі далучаецца вітая лесвіца, якая вядзе на 2-і паверх і ў паддашша касцёла. Драўляны алтар выкананы ў стылі неаготыкі — 3-часткавая кампазіцыя ў выглядзе стральчатых арак, фланкіраваных вімпергамі; у цэнтральнай арцы размешчаны абраз, у бакавых — скульптурныя выявы святых. Алтар асвятляецца вітражамі. У заходняй частцы залы, над уваходам, размешчаны драўляныя паўкруглыя абмежаваныя філёнгавым з трыльяжным арнаментам парапетам хоры з невялікім арганам і фісгармоніяй позняй работы. На бакавой сцяне навешаны драўляны амбон. Пад апсідай скляпеністая крыпта (засыпана зямлёй).

Інтэр'ер на мяжы 15—16 ст. быў пакрыты фрэскавым роспісам, які ўжо ў 1782 г., паводле інвентарных звестак, прыйшоў у заняпад (магчыма, захаваўся пад пазнейшай тынкоўкай). У інвентары 1675 г. гаворыцца: «унутры самаго касцёла сцены старым намаляваннем аздоблены, але з-за агню ад непрыяцеля закураны». Інвентар 1782 г. пацвярджае, што «сцены, скляпенні, слупы былі калісьці аздоблены маляваннем розных асоб, фігур, кветак і г.д. Аднак на большай частцы сцерлася, запылілася, ад зацёку вады пазелянела...». У 1837 г. адзначана, што ўсё «маляванне» сцерлася.

[1] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912. S. 180.

[2] Описание церквей и приходов Минской епархии. Новогрудский уезд. Мн., 1879. С. 55.

## в. Ішчална,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У паўночна-заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1755—58 гг. з цэглы па фундацыі гродзенскага харунжага Язэпа Валы на месцы драўлянага храма 1670—78 гг.[1] Побач з касцёлам у 19 ст. з цэглы ўзведзена 1-ярусная 4-гранная шатровая званіца.

Помнік архітэктуры позняга барока. Храм 1-нефавы, 2-вежавы з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Архітэктурная кампазіцыя мае выцягнутую па вертыкалі аб'ёмную будову з геаметрычна выразных вялікіх мас. Вузкую цэнтральную плоскасць галоўнага фасада завяршае фігурны франтон, фланкіруюць 4-гранныя вежы, ярусы якіх вылучаны карнізамі, расчлянёны прамавугольнымі панэлямі, прарэзаны лучковымі і паўцыркульнымі прасветамі. Плоскасныя бакавыя фасады завершаны карнізам і расчлянёны 2 ярусамі лучковых аконных праёмаў.

Малітоўная зала выцягнута па падоўжнай восі і разам з апсідай перакрыта драўляным лучковым скляпеннем, якое замяніла ранейшае мураванае. Сцены крапаваны тонкімі падвойнымі лапаткамі і апяразаны шырокім карнізам. Над нартэксам хоры. Тры алтары і амбон выкананы ў стылі ракако. Галоўны алтар — асноўны пластыка-дэкаратыўны акцэнт афармлення інтэр'ера — займае ўсе 3 сцяны апсіды. Яго 1-ы ярус устаноўлены на высокім цокалі, падзелены карынфскай каланадай на 3 часткі, аддзелены ад 2-га яруса хвалепадобным антаблементам з ляпным дэкорам, у цэнтры вялікі абраз «Святая сям'я», злева — «Св. Пётр», справа — «Хрышчэнне». У цэнтры 2-га яруса круглая люкарна, па баках жывапісныя панэлі, дэкаратыўныя вазы і выявы анёлаў. Два бакавыя алтары святой Ганны і Маці Божай Вастрабрамскай меншыя, увенчаны скульптурнымі выявамі святых Францішка і Варвары сярод анёлаў і ракайльных звіваў. Пабудаваны яны ў выглядзе пласцін, расчлянёных на 2 ярусы тонкапрафіляванымі і раскрапаванымі антаблементамі, фланкіраваны калонамі, капітэлі якіх з'яўляюцца пастаментамі для пуцці. Асноўны лейтматыў арнаментальна-пластычнай кампазіцыі алтароў — бясконцыя раскрапоўкі, звівы, дробныя, ювелірна выштаваныя арнаментальныя клубкі з мудрагелістым узорам. На правай сцяне ляпная экспрэсіўная, дынамічная гарэльефная кампазіцыя «Архангел Міхаіл, які топча д'ябла» — шэдэўр мастацтва ракако. Высокамастацкім дэкаратыўна-скульптурным творам з'яўляецца амбон. Яго кафедра — пластычная чаша, падтрыманая кансоллю-ракавінай. Ракайльныя панэлі на яе гранях запоўнены ляпнымі кампазіцыямі на евангельскія тэмы. Кафедру ажыўляюць выявы дэльфіна, марскога льва, арла ў пене звіваў і ракайляў. Праз спрошчаную фігурную панэль кафедра аб'яднана з балдахінам, завершаным экспрэсіўнай кампазіцыяй з выявай святой з крыжом і пуцці. Размах і насычанасць скульптурнага і ляпнога дэкору эфектна кантрастуюць з лаканізмам архітэктурных плоскасцей інтэр'ера.

[1] Catologus ecclesiarum et cleri archidioccesis Vilnensis. Vilnae, 1929. S. 63, 75; Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.




## в. Казевічы,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1990-я гг. на месцы старой капліцы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана кампактным прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны трохвугольным франтонам з металічным укрыжаваннем па цэнтры. Над прамавугольным уваходным праёмам 1-схільны казырок. Унутры памяшканне перакрыта плоскай столлю, асветлена 2 бакавымі акенцамі.


Капліца ў в. Казевічы.

## в. Казімірава,
Асіповіцкі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл святога Юзафа

На могілках. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным у плане зрубам з 3-граннай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Над трохвугольным франтонам фасада ўзведзена 2-ярусная 4-гранная шатровая сігнатурка. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады расчлянёны 2 парамі прамавугольных аконных праёмаў.

## в. Казловічы
Гродзенскага раёна

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і святога апостала Андрэя

На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з дрэва. У 1859 г. адрамантаваны мясцовай памешчыцай Свечынай.

Помнік народнага драўлянага дойлідства. У аснове аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі традыцыйная схема 3-зрубнага храма: бабінец, кубападобная малітоўная зала пад 4-схільным дахам, апсіда з асіметрычнай сакрысціяй. Перад галоўным фасадам выступае прыруб нартэкса з 2 чацверыковымі шатровымі вежамі-званіцамі і 2-гранным шчытом паміж імі. Вертыкальна накіраваны сілуэт фасада ярусна падкрэслены 2-схільным на 2 слупах ганкам галоўнага ўвахода і шатровым гонтавым дахам асноўнага аб'ёму, шалёўкай, высока прарэзанымі аконнымі праёмамі, брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Арачныя аконныя праёмы, разныя балюстрадныя агароджы ў бакавых праёмах яруса-звона прыўносяць у драўляную пабудову элементы мураванай архітэктуры.


Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і святога апостала Андрэя ў в. Казловічы.


Касцёл святога Юзафа ў в. Казімірава.





Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Камаі.

## в. Казлоўшчына,

Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца святога апостала Пятра

На каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над фасадным трохвугольным франтонам маленькай сігнатуркай. На маляўнічым паліхромным фоне бутавай муроўкі сцен кантрасна вылучаны атынкаваныя і пабеленыя элементы архітэктурнай пластыкі: трохвугольны сандрык прамавугольнага ўваходнага партала, ліштвы аконных праёмаў, карнізныя паясы.

## в. Калеты

Гродзенскага раёна

### Капліца Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Пабудавана ў 1994 г. з цэглы.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да фасада далучана 4-гранная шатровая вежа-званіца, у 1-м ярусе якой прамавугольны ўваходны праём пад 2-схільным казырком. Бакавыя плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.




## в. Камаі,

Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл святога Яна Хрысціцеля

У цэнтры вёскі, на былой гандлёвай плошчы, абнесены бутавай агароджай. Пабудаваны ў 1603—06 гг. па фундацыі ўладальніка мястэчка Яна Рудаміны-Дусяцкага (акт фундацыі 1606 падпісаны і Янам Хаецкім). Рэканструяваны ў 1861 г. Побач з храмам стаіць высечаны з гранітнага валуна крыж 15—16 ст.

Помнік абарончага культавага дойлідства набыў рысы стыляў готыкі, рэнесансу, барока. Спачатку касцёл меў сіметрычна-восевую прасторавую кампазіцыю паводле канона 3-нефавай 4-стоўпнай базілікі. Першапачатковы выгляд змяніўся пасля пажару ў сярэдзіне 17 ст. (абваліліся скляпенні, разабраны слупы), дабудовы 1739 г. (хоры) і 1778 г. (капліца з крыптай). У Паўночную вайну 1700—21 гг. абстраляны шведамі. З 1643 г. пры касцёле існаваў шпіталь, учынены П. і М. Рудамінамі.

Кампактны кубападобны аб'ём храма з паўкруглай апсідай і невялікай сакрысціяй як бы заціснуты паміж 2 магутнымі цыліндрычнымі вежамі (першапачаткова меліся яшчэ 2 па баках апсіды[1]). Разам з высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі і байніцамі-люкарнамі на плоскасных фасадах яны надаюць храму абарончы характар. Двухсхільны дах выходзіць на франтальны фасад шчыпцом, крапаваным рэнесанснай аркатурай. Галоўны ўваход вырашаны гатычнай спічастай аркай. Асіметрычна прыбудаваная капліца са сціплай барочнай крапоўкай пілястрамі злучана з нефам 2 арачнымі прасветамі і мураванымі лесвіцамі паміж імі. Глыбокія адхілы праёмаў дэманструюць магутнае канструкцыйнае вырашэнне будынка, таўшчыня сцен якога дасягае 2 м.

Суровы архітэктанічны характар інтэр'ера храма змякчаецца і ўзбагачаецца насычанай пластыкай разнастайных скляпенняў: драўлянага люстранога — у нефе, старажытных крыжовага і зоркавага — у апсідзе, цыліндрычнага з распалубкамі і падпружнымі аркамі — у капліцы. У 1726—36 гг. і ў сярэдзіне 19 ст. скляпенні пакрыты размалёўкай, выкананай у тэхніцы грызайль на матывы аканту, картушаў, медальёнаў з манаграмамі. Перакрыцце нефа ўпрыгожана намаляваным плафонам з бардзюрам з выявамі раслінных гірляндаў, пладоў і кветак. Асноўны пластыка-дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера ствараюць 4 барочныя драўляныя разныя алтары 1-й чвэрці 18 ст. Цэнтральны з іх вырашаны 2-яруснай карынфскай каланадай з крапаваным франтонам з драўлянымі скульптурамі апосталаў Пятра і Паўла. У цэнтры — алтарны абраз «Маці Божая з дзіцем» у сярэбраным чаканным абкладзе (17 ст., паводле інвентару 18 ст. лічыўся цудатворным); у завяршэнні — гарэльефная выява Саваофа ў воблаках. Размалёўка алтароў пад ружовы мармур у спалучэнні з пазалотай арнаментальнай разьбы і элементаў дэкору, паліхромнасць скульптуры — усё стварае каларыстычна інтэнсіўны маляўнічы эфект, прыўносіць у інтэр'ер храма ўрачысты і святочны настрой. За разным парапетам хораў знаходзіцца арган (канец 18 ст.), насычаны разнымі па дрэве гірляндамі кветак, выявамі музычных інструментаў, скульптуркамі анёлаў, валютамі з галоўкамі херувімаў. Абраз «Св. Антоній» (18—19 ст.), арнат сярэдзіны 18 ст.

[1] Ткачоў М.А. Замкі Беларусі (XIII—XVIII стст.). Мн., 1977. С. 74—75; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 290.

## в. Каменка,
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога Антонія Падуанскага

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1908 г. з цэглы на месцы драўлянага касцёла, узведзенага ў 1580 г. па фундацыі К.Кладзінскага.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавая сіметрычна-восевая базіліка. Прамавугольны асноўны аб'ём, накрыты 2-схільным дахам, уступам пераходзіць у крыху ніжэйшую 5-гранную апсіду з вальмавым пакрыццём, па баках якой невялікія нізкія гранёныя сакрысціі. Двух'ярусная вежа галоўнага фасада завершана стромкім шатром з люкарнамі на гранях, у ярусе-звоне прарэзана вокнамі-біфорыумамі, унізе — трайной аркадай. Уваход аформлены стральчатым парталам з 2-схільным вімпергам, над якім размешчана акно-ружа. Дзверы аздоблены мастацкай арнаментальна-расліннай коўкай. Рэгулярны рытм бакавых фасадаў ствараецца стральчатымі вокнам-біфорыумамі, запоўненымі каляровымі вітражамі, і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. Архітэктурная аздоба ўключае аркатурныя і трыльяжныя фрызы.

Зала падзелена на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі, характарызуецца прасторавасцю, вертыкальнасцю і насычанасцю святлом. Галоўны алтар выкананы ў гатычных формах. Гатычнасць храма падкрэслена і насычанымі чырвоным колерам прафіліроўкамі, кантрастна вылучанымі на пабеленых плоскасцях сцен і скляпенняў, якія садзейнічаюць агульнай вертыкальнай накіраванасці архітэктурных мас. У інтэр'еры арган.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Камень.



Касцёл святога Антонія Падуанскага ў в. Каменка.

## в. Камень,
Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

У паўночна-заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы на месцы папярэдняга



Алтар касцёла святога Антонія Падуанскага ў в. Каменка.

драўлянага храма. Акаймаваны бутавай агароджай 19 ст. з арачнай брамай.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да фасада далучана 4-гранная шатровая званіца. Плоскасныя фасады расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі. Над прамавугольным уваходным праёмам 2-слуповы шатровы ганак.

## г. Камянец
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Атынкаваныя плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі ўваходным і аконнымі праёмамі ў чырвонацагляных ліштвах, акаймаваны вуглавымі лапаткамі і карнізам, у тымпане 2-граннага шчыта паўкруглая люкарна.

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

У цэнтры горада. Пабудаваны ў 1925 г. з цэглы, адноўлены ў 2001 г.

Помнік архітэктуры гістарызму. Крыжовы ў плане 1-вежавы храм. Да прамавугольнага ў плане аб'ёму пад 2-схільным дахам па баках далучаны крылы трансепта, з франтальнага боку — 4-гранная 4-ярусная шатровая вежа-званіца. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і контрфорсамі-пілонамі ў прасценках.

## в. Камянчане,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Каля шашы Ліпнішкі—Суботнікі. Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад мансардавым дахам, франтон якога прарублены 2 прамавугольнымі аконнымі праёмамі.



## в. Канапелькі,
Уздзенскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Прамавугольнае ў плане збудаванне пад стромкім 2-схільным дахам (не захаваўся). Фасад вырашаны накладным 2-калонным і 2-пілястравым порцікам з трохвугольным франтонам. Пад капліцай скляпеністае сутарэнне.



Капліца ў г. Камянец.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў г. Камянец.



Капліца ў в. Канапелькі.

## в. Канвелішкі,
Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1916—25 гг. з дрэва на месцы касцёла 1808 г.



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Канвелішкі.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Складаецца з аднолькавых па вышыні 4-сценнага зруба і выцягнутай 5-граннай апсіды з бакавымі сакрысціямі. Над фасадам узвышаецца стромкая 2-ярусная чацверыковая вежа-званіца са шпілем, якую фланкіруюць падобныя, але меншыя сігнатуркі; паміж імі трохвугольны франтон. Тры ўваходы аформлены арачнымі парталамі з вокнамі-ружамі над імі. Астатнія праёмы з паўцыркульнымі архівольтамі. Інтэр'ер падзелены 6 слупамі на 3 нефы, бакавыя з якіх апраразаны абходнымі галерэямі пад плоскай столлю.



Касцёл у в. Канічы.

## в. Канічы,
Касцюковіцкі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1-й палавіне 20 ст. з цэглы. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Вырашаны амаль квадратным у плане аб'ёмам, да якога далучана прамавугольная апсіда, завершаная трохвугольным франтонам і крапаваная пілястрамі. Фасад фланкіраваны 4-граннымі вежамі, расчлянёны паўкруглымі люкарнамі, арачнымі аконнымі праёмамі. Бакавыя фасады расчлянёны ў ніжнім ярусе арачнымі аконнымі праёмамі. Унутры зала была перакрыта цыліндрычным скляпеннем, паўкруглая апсіда — конхай. Атынкаваныя сцены крапаваны пілястрамі і апяразаны прафіляваным карнізам з сухарыкамі. Пад апсідай скляпеністая крыпта.

## в. Канстанцінава,
Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл святога Іасафата Кунцэвіча

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1993—95 гг. з цэглы на месцы храма, зруйнаванага ў 1962 г. Асвячоны кардыналам К.Свёнтакам 21.11.1995 г. Каля 700 парафіян.

Вырашаны 2 прамавугольнымі ў плане пад 2-схільнымі дахамі аб'ёмамі малітоўнай залы і апсіды, да якой дабудавана сакрысція. Галоўны і тыльны фасады завершаны 8-граннымі шатровымі драўлянымі барабанамі. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі і лучковымі ўваходнымі праёмамі ў ліштвах, крапаваны вуглавымі пілястрамі.

Перад касцёлам захавалася з в а н і ц а 19 ст. Васьміграннае 3-яруснае збудаванне пад шатровым пакрыццём. Першыя 2 ярусы мураваныя глухія, 3-і драўляны, адкрыты прамавугольнымі прасветамі.




## в. Канстанцінава,
Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На паўднёвы захад ад вёскі, на могілках. Узведзена ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю.



Капліца ў в. Канстанцінава Мядзельскага раёна.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 2-яруснай 4-граннай прысадзістай вежай, завершанай шатровым гонтавым дахам. Выкладзены з буту першы ярус прарэзаны на франтальнай грані арачным уваходным праёмам, другі цагляны — глухі, крапаваны арачнымі і прамавугольнымі нішамі.

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1896 г. з мясцовага бутавага каменю на падмурку храма, закладзенага ў 1826 г. па фундацыі Францішка Пашкевіча; сканчэнне будаўніцтва фінансавалі граф Віктар Старжынскі з жонкай Марыяй (з Беніслаўскіх) і Аляксандр Хамінскі з жонкай Эвелінай. Акаймаваны бутавай агароджай з манументальнай арачнай брамай.

У 1769 г. ўладальнік маёнтка палкоўнік Канстанцін Хамінскі пабудаваў капліцу, якая ў 1782 г. пераўтворана ў касцёл. Новы драўляны храм пабудаваны ім у 1793 г. Цяпер разам з вёскай у 1812 г. На канец 19 ст. налічвалася амаль 2700 парафіян, на пачатак Вялікай Айчыннай вайны — звыш 3500. Зараз размешчана місія ордэна кармелітаў босых. У 1995—97 гг. створаны новы парафіяльны цэнтр і рэкалекцыйны дом.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Канстанцінава Мядзельскага раёна.

Помнік архітэктуры гістарызму з выкарыстаннем элементаў класіцызму, барока, рэнесансу. Вырашаны прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным дахам з ніжэйшымі бакавымі нефамі. З усходняга боку далучаны нізкі кубападобны аб'ём апсіды з бакавой сакрысціяй. Цэнтр галоўнага атынкаванага фасада вылучаны рызалітам з трохвугольным франтонам у завяршэнні, прамавугольным уваходным парталам з лучковым франтонам і авальнай люкарнай над ім. Над дахам з боку галоўнага фасада гранёная вежа-званіца з арачнымі праёмамі і шатровым завяршэннем, над прэсбітэрыем — ліхтар. На фоне бутавай муроўкі сцен вылучаюцца простыя атынкаваныя ліштвы арачных аконных праёмаў (вітражнае ашкленне) і люкарнаў, руставаныя вуглавыя пілястры.

Зала перакрыта плоскай столлю і падзелена на нефы аркадамі, у цэнтральны неф выступае на 2 слупах галерэя хораў з арганам. Апсіда вылучана шырокім арачным парталам з 2 калонамі. У інтэр'еры драўляныя неабарочныя алтар і амбон.

# г.п. Капаткевічы,

Петрыкаўскі раён
Гомельскай вобласці

## Касцёл святога Аўгусціна

Пабудаваны ў 1998—2000 гг. з бетонных блокаў намаганнямі айца-цыстэрцыянца Э.Бісагі на ахвяраванні з Германіі і Аўстрыі. Першы касцёл вядомы з 16 ст., драўляны храм 18 ст. закрыты ў 1935 г.[1] Парафія адноўлена ў 1995 г.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам. На фасадзе выступае 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца, у ніжнім ярусе якой стральчаты ўваходны партал, над якім стральчатае акно-біфорыум.

---

[1] Гародка Р. Парафія ў Капаткевічах — сведка адраджэння касцёла // Ave Maria. № 12 (75). 2001; № 7—8, 9— 10. 2002.

# в. Капцёўка

Гродзенскага раёна

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Пабудаваны ў 1936—39 гг. з цэглы. Закрыты ў 1945 г. і пераабсталяваны пад млын. Вернуты парафіянам у 1991 г., адбудаваны ў 1992—2000 гг.

Манументальны будынак вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад высокім 2-схільным дахам. Да фасада далучана 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) званіца пад самкнутым сферычным

купалам з ліхтарыкам, да тыльнага фасада — паўкруглая апсіда з бакавымі кубападобнымі сакрысціямі пад звонападобнымі пакрыццямі з макаўкамі Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. Побач у 1990-я гг. пастаўлена к а п л і ц а.

## г. Капыль
Мінскай вобласці

### Касцёл святога Роха

У цэнтры горада. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, у фасады вугла якога ўкампанаваны 4-гранны вертыкальны аб'ём званіцы, завершаны цыліндрычным пакрыццём з круглай люкарнай на франтальнай грані. Вось фасада адзначана слуповым ганкам і арачным аконным праёмам над ім. Бакавыя атынкаваныя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

## в. Карані (Мінкі),
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Узведзена ў 2-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-granнай тумбай пад шатровым дашкам. Франтальная грань прарэзана лучковай зашклёнай нішай з абразом Хрыста.

## в. Карацк,
Клецкі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На ўскраіне былога сядзібна-паркавага комплексу. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з вапнавых блокаў як пахавальня.



Капліца ў в. Карані.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Капцёўка.



Касцёл святога Роха ў г. Капыль.

Твор архітэктуры эклектыкі. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным бляшаным дахам. Фасад завершаны трохвугольным франтонам з крыжом, умацаваны вуглавымі контрфорсамі, крапаваны прамавугольнай нішай.



Капліца ў в. Карацк.



Касцёл у г.п. Карма.



Капліца 19 ст. ў в. Карэвічы Іўеўскага раёна.

## г.п. Карма
Гомельскай вобласці

### Касцёл

У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Фасад быў вырашаны магутным 4-калонным порцікам. Бакавыя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах-архівольтах з замковым каменем, руставанымі лапаткамі, круглымі разеткамі.



Капліца 21 ст. ў в. Карэвічы Іўеўскага раёна.



Капліца святога Антонія Падуанскага ў в. Карэвічы Свіслацкага раёна.

## в. Карэвічы,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на ўскраіне былога фальварка Аднопаль. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 2-яруснай 4-граннай вежай пад шатровым пакрыццём з крыжом у завяршэнні. Другі ярус адкрыты арачнымі прасветамі.

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 21 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане каркасна-дашчаным павільёнам пад акруглым бляшаным пакрыццём. 3 фасада адкрыта 2-слуповым прасветам. Унутры абшыта вагонкай, на подыуме разны алтарык прымітыўна-народнай трактоўкі.

## в. Карэвічы,
Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святога Антонія Падуанскага

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст. з цэглы. Адноўлена ў 1942 г. і 1990-я гг.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам са слыхавымі акенцамі, да якога далучана ніжэйшая 5-гранная апсіда пад гранёным вальмавым пакрыццём. Плоскасны фасад завершаны франтонам з увагнутымі гранямі, прарэзаны па цэнтры прамавугольным уваходным праёмам, фланкіраваны наверсе маленькімі прамавугольнымі

акенцамі, адмежаваны ад плоскасці фасада тонкапрафіляваным карнізам. Бакавыя плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## г.п. Карэлічы
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Нястомнай Дапамогі

У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 1936—38 гг. з цэглы. Асвячоны 26.9.1992 г. біскупам А.Кашкевічам.

Помнік архітэктуры неакласіцызму з рысамі канструктывізму. Вырашаны кубападобным аб'ёмам пад шатровым дахам, завершаным 8-гранным барабанам з самкнутым сферычным купалком. Да фасада далучаны прамавугольны нартэкс з вынасным 4-калонным порцікам, да алтарнай сцяны — 5-гранная апсіда з бакавымі сакрысціямі. Плоскасныя бакавыя фасады цэнтральнага аб'ёму прарэзаны высокімі падвойнымі арачнымі аконнымі праёмамі, астатнія — прамавугольнымі рознай канфігурацыі.

## в. Касцяневічы,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1763 г. з цэглы езуітамі на ахвяраванні парафіян і мядзельскага падчашага М.Відманта і намаганнямі ксяндза-езуіта Ф.Сулістроўскага[1]. Абнесены бутавай агароджай з 3-арачнай брамай. Рэстаўрыраваны ў 1979 г.

Першы парафіяльны драўляны касцёл Ігнація Лаёлы ўзнік у 1662 г., калі ўладальнік маёнтка П.Ляскоўскі ў 1652 г. запрасіў сюды езуітаў, якія заснавалі місію. К канцу 19 ст. парафія налічвала да 5 тыс. прыхаджан, напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны — каля 6 тыс.

Помнік архітэктуры позняга барока. Вырашаны суцэльным прамавугольным у плане аб'ёмам пад высокім 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Галоўны фасад з фігурным шчытом з бакавымі валютамі і арачным праёмам па цэнтры, крапаваны пілястрамі, завершаны шматслаёвым хвалістым карнізам. Падобны шчыт упрыгожвае нізкую бакавую сакрысцію. Рытм бакавых фасадаў ствараюць лучковыя аконныя праёмы і пілястры ў прасценках, якія крапуюць тонкапрафіляваны карніз.

Зала перакрыта драўляным каробчатым скляпеннем, сцены крапаваны слаістымі пілястрамі. Барочны архітэктанічны алтар вырашаны каланадай іанічнага ордэра з паўцыркульнай нішай па цэнтры і тонкапрафіляваным карнізам у завяршэнні. У інтэркалумніях гіпсавыя пафарбаваныя скульптуры



Касцёл Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў г.п. Карэлічы.



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Касцяневічы.

святых. Авальная лесвіца ў тоўшчы фасаднай сцяны вядзе на драўляныя хоры, узнятыя на 2 мураваных пілонах. Мастацкай каляровай мазаікай выкладзена керамічная падлога залы. Пад апсідай і паловай храма скляпеністая крыпта.

---

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 111.




## в. Кашубінцы
Гродзенскага раёна

### Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На могілках. Пабудаваны ў 1750—73 гг. з дрэва ўладальнікамі маёнтка езуітамі[1]. У 1962 г. закрыты. У 1989 г. вернуты парафіянам.

Помнік народнага дойлідства з рысамі стылю барока. Вырашаны прамавугольным зрубам з пры-



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Кашубінцы.



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Квасоўка.

рубам працяглай 5-граннай апсіды, над якой высокі 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. З паўднёвага боку да апсіды далучана нізкая сакрысцыя. Фасад фланкіраваны высокімі 4-граннымі шатровымі вежамі, аб'яднанымі трохвугольным франтонам даху. Бакавыя гарызантальна ашаляваныя фасады расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі ў прамавугольных ліштвах і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

У інтэр'еры меліся 4 абразы евангелістаў 18 ст., у нартэксе 9 партрэтаў біскупаў, арнат са слуцкім поясам. Антыпендыум алтара быў расшыты фларальным дэкорам. 11.3.1896 г. ўстаноўлены арган[2]. У крыпце пахаванні (3 драўляныя саркафагі).

[1]Hirszel S.Z. Przyczynki do monografji pow. Grodzieńskiego. Grodno, 1936. S. 25—26, 38.

[2]НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 747, арк. 7.



## в. Квасоўка
Гродзенскага раёна

### Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1856—72 гг. з цэглы. Закрыты ў 1961 г., вернуты парафіянам у 1989 г.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму і рэтраготыкі. Будынак прамавугольны ў плане, накрыты 2-схільным дахам, які пераходзіць у вальмавае пакрыццё над 5-граннай апсідай з бакавымі сакрысціямі. На галоўным фасадзе выступае шатровая чацверыковая са скошанымі вугламі званіца, фланкіраваная арачнымі нішамі. Фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках.

Унутраная прастора 6 слупамі падзелена на 3 нефы, цэнтральны з якіх перакрыты драўляным скляпеннем і конхай над апсідай. Над уваходам хоры з балюстраднай агароджай.

## в. Кватары,
Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Маці Божай Міласэрнай

Пабудавана ў 1997 г. з цэглы.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над трохвугольным франтонам фасада 4-граннай шатровай вежачкай. Уваход вырашаны 2-схільным казырком на кранштэйнах. Сцены крапаваны лапаткамі, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Квяткоўцы,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Суботнікі—Геранёны. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы.



Капліца Маці Божай Міласэрнай у в. Кватары.



Капліца ў в. Кваткоўцы.

Помнік архітэктуры малых форм стылю неакласіцызму. Вырашана 4-граннай 2-яруснай вежай пад гонтавым шатровым 4-схільным дашкам; узнята на высокі падмурак. Верхні ярус па гранях адкрыты па гранях арачнымі прасветамі, крапаваны па вуглах урэзанымі калонамі; пад скляпеннем 2-га яруса размешчана драўляная скульптура.

## в. Кемелішкі,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 2-ярусным 4-гранным аб'ёмам пад шатровым пакрыццём з крыжом у завяршэнні. Другі ярус раскрыты арачнымі зашклёнымі праёмамі.



Капліца ў в. Кемелішкі.



Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Кемелішкі.

### Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1781 г. з дрэва па фундацыі Ст.Прушынскага, асвячоны ў 1799 г. біскупам Д.Пілхоўскім. У 1866—89 гг. пробашчам служыў вядомы рэлігійны дзеяч, гісторык рымска-каталіцкай царквы Я.Курчэўскі. У 1931 г. пры касцёле існаваў кляштар місіянерак. У ансамблі з храмам 3-ярусная чацверыковая шатровая званіца і 3-арачная мураваная брама.

Помнік архітэктуры барока, які ў выніку перабудовы 1900 г. набыў рысы неаготыкі. Высокі зруб выкананы ў форме лацінскага крыжа, якую падкрэслівае перакрыжаванне 2-схільных дахаў 3-нефавага зруба і трансепта. На франтальным фасадзе 2 шатровыя вежы (васьмярык на чацверыку) з франтончыкамі ў аснаванні, якія разам з 4-граннымі сігнатуркамі па тарцах дахаў надаюць архітэктуры будынка гатычную афарбоўку. Уваход вылучаны 4-слуповым вертыкальна выцягнутым ганкам з трохвугольным шчытом, што ўтвараюць утрыраваны класічны порцік. Імкненне пераняць рысы мураванай архітэктуры праявілася ў высока ўзнятых аконных праёмах лучковай формы, рамбічных люкарнах, вылучаных на фоне гарызантальнай шалёўкі фасадаў. Унутраная прастора храма 6 слупамі падзелена на 3 нефы, раскрытыя ў 5-гранную апсіду і крылы трансепта. На фоне гарызантальнай шалёўкі сцен вылучаны барочна-класіцыстычны алтар.







Драўляная капліца ў в.Ківацічы.

Мураваная капліца ў в.Ківацічы.

## в.Ківацічы,
Кобрынскі раён
Брэсцкай вобласці

### Званіца

На паўднёвай ускраіне вёскі, на старых могілках. Узведзена ў 19 ст. з дрэва побач з касцёлам (не захаваўся).

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 3-яруснай 4-граннай вежай пад пакатым шатровым пакрыццём з крыжом у завяршэнні. Верхні вертыкальна ашаляваны ярус-звон раскрыты прамавугольнымі прасветамі.

### Капліца

На паўднёвай ускраіне вёскі, на старых могілках, каля званіцы. Узведзена ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы як надмагілле Стржамінскіх.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана 4-гранным абеліскам, пастаўленым на квадратны подыум і завершаным каваным крыжом. У фігурных нішах на гранях абеліска мемарыяльныя дошкі (чыгуннае ліццё).

## в. Кішчына Слабада,
Барысаўскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца святой Ганны

На могілках. Пабудавана ў 1811 ст. з дрэва ў сядзібна-паркавым комплексе Цюндзевічаў. Аднаўлена ў 1907 г. Зачынена ў 1930-я гг., у 1982 г. перабудавана пад ветэрынарную аптэку.

Помнік народнага дойлідства. Арыгінальна вырашана выцягнутым па падоўжнай восі 8-гранным зрубам, накрытым 2-схільным дахам (раней гонтавым шатровым) з гранёнай шатровай сігнатуркай у завяршэнні. Вертыкальна ашаляваным сцены былі прарэзаны паўкруглымі люкарнамі. Унутры меўся калонападобны пабелены і пазалочаны алтар, на хорах стаяла фісгармонія.

## в. Кіякава,
Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца



Капліца святой Ганны ў в. Кішчына Слабада.



Капліца ў в. Кіякава.

На могілках. Пабудавана ў 1907 г. з цэглы як пахавальня ўладальнікаў маёнтка Кіякоўскіх.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана прамавугольным у плане вертыкальна выцягнутым аб'ёмам, узнятым на высокі цокаль і накрытым 2-схільным дахам. Фасад завершаны трохвугольным франтонам з люкарнай па цэнтры, крапаваны пілястрамі, по восі сіметрыі прарэзаны лучковым уваходным праёмам і паўкруглай люкарнай над ім. Бакавыя фасады расчлянёны пілястрамі і цэнтральнымі арачнымі аконнымі праёмамі. Памяшканне перакрыта цыліндрычным скляпеннем на распалубках. Пад капліцай склеп-пахавальня.

## в. Клевіца,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-слуповай шатровай навіссю над паклонным крыжом з металічным укрыжаваннем.



Капліца ў цэнтры в. Клевіца.

### Капліца

На могілках. Пастаўлена на месцы старой капліцы ў канцы 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Прамавугольны ў плане зруб пад 2-схільным дахам, зашытым на фасадзе трохвугольным франтонам. З тыльнага боку далучаны вузейшы прыруб апсіды.



Капліца на могілках у в. Клевіца.

## г. Клецк

Мінскай вобласці

### Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі і кляштар дамініканцаў

У цэнтры горада. Кляштар заснаваны ў пачатку 1683 г. скарбнікам навагрудскім Е.К.Булгакам і яго жонкай Кларай (з Галтоўскіх). У тым жа годзе па фундацыі маршалка літоўскага князя С.К.Радзівіла драўляны касцёл замянілі на муравaны, асвячоны 6.6.1684 г. У 1784—1810 гг. пабудаваны муравaны жылы корпус.

Кляштар абдарылі зямлёй і капіталам Ю.Булгак і мінскі кашталян князь А.Сангушка. У 1730 г. і 1811 г. кляштар атрымаў грашовыя ахвяраванні ад Марціна і Іосіфа Радзівілаў. Да 1796 г. манахам выплочвалася 7% прыбытку з Ракаўскага графства (паводле распараджэння жонкі С.Радзівіла). У 1795 г. М.Адахоўскі заснаваў пры кляштары школу на 10 навучэнцаў шляхецкага паходжання і шпіталь.

У 1832 г. кляштар закрыты, касцёл пераабсталяваны пад Васкрасенскую царкву. У 1854 г. яе адрамантаваў за ўласны кошт князь Л.Радзівіл. Быў створаны драўляны іканастас з 13 абразоў. У савецкі час касцёл закрыты. Цяпер адноўлены, дзейнічае.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока. Магутны прамавугольны неф і паўкруглая апсіда накрыты агульным высокім дахам. Галоўны фасад з дзвюма



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г. Клецк.



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі і кляштар дамініканцаў у г. Клецк.

4-граннымі шатровымі вежамі выходзіць на плошчу. Фланкіраваная вежамі плоскасць галоўнага фасада была завершана трохвугольным франтонам на высокім атыку і насычана барочнай пластыкай — шырокімі пілястрамі, карнізнымі паясамі, разеткамі, лучковымі і арачнымі нішамі са скульптурай (не захаваліся) і раскрапаванымі трохвугольнымі франтонамі. Бакавыя фасады вырашаны плоскасна, расчлянёны 2 ярусамі прамавугольных аконных праёмаў і шырокімі лапаткамі ў прасценках. Элемент асіметрыі ў аб'ёмную кампазіцыю ўносіць невялікая паўночная сакрысцыя.

Ж ы л ы к о р п у с вырашаны такімі ж сціплымі архітэктурна-пластычнымі сродкамі. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак пад вальмавым дахам надзелены рытмам прамавугольных аконных праёмаў і лапатак у прасценках, якія падтрымліваюць буйны апяразваючы карніз. Утульныя келлі за метровымі сценамі і пад крыжовымі скляпеннямі (на 2-м паверсе плоская столь) традыцыйна аб'яднаны прадаўгаватай галерэяй з тарцовай 2-маршавай лесвіцай. Пад будынкам скляпеністыя падвалы.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Ва ўсходняй частцы горада. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Крыжовы ў плане храм фарміруюць прамавугольныя ў плане аб'ёмы нефа з 5-граннай апсідай і крылаў трансепта, накрытыя агульным высокім 2-схільным дахам. У фасад убудавана 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) шатровая званіца, франтальная грань якой вылучана высокім стральчатым перспектыўным парталам увахода, да якога вядзе высокі лесвічны каскад. Такой жа формы аконнымі праёмамі і пілонамі-контрфорсамі ў прасценках расчлянёны бакавыя фасады. Алтарны фасад і грані апсіды завершаны ступеньчатымі атыкамі.

# в. Клюшчаны,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

За 1 км на захад ад вёскі, у былым сядзібна-паркавым комплексе Шайкуны. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю як пахавальня.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны трохвугольным франтонам, прарэзаны прамавугольнымі ўваходным і аконным праёмамі. Бакавыя фасады прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі з гатычнымі пераплётамі. З тыльнага боку далучана прамавугольная апсіда-пахавальня.

## Капліца

У паўночнай частцы вёскі, непадалёк ад касцёла. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 2-яруснай 4-граннай вежай пад 2-схільным дашкам. Першы ярус з'яўляецца пастаментам для другога 4-слуповага, адкрытага арачнымі прасветамі з архівольтамі, крапаванага вуглавымі пілястрамі.

## Касцёл святога Яўхіма

У паўночна-заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1726 (86) г. з дрэва па фундацыі Я.Корсака; ка-



Капліца ў в. Клюшчаны.



Капліца ў в. Клюшчаны.

пітальна перабудаваны ў 1905 г. Закрыты ў 1948 г., адноўлены ў 1990 г., асвячоны 16.10.1993 г. Акаймаваны бутавай агароджай з мураванымі слуповымі брамамі.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Прамавугольны ў плане храм з 5-граннай апсідай, па баках якой — нізкія сакрысціі. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам і фланкіраваны 2-яруснымі чацверыковымі вежамі, накрытымі высокімі шатрамі (надбудаваны ў 1905 замест цэнтральнай 8-граннай званіцы) з франтончыкамі-вімпергамі ў асנаванні. Такая ж меншага памеру сігнатурка вянчае гранёны дах над алтарнай часткай. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі лучковымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Уваход арганізаваны праз невысокі прытвор пад пакатым 2-схільным пакрыццём. У афармленні фасадаў выкарыстана фігурная шалёўка.

Унутры малітоўная зала 4 слупамі падзелена на 3 нефы, перакрытыя агульнай кесанііраванай бэлькамі столлю.



Касцёл святога Яўхіма ў в. Клюшчаны.

## в. Княжыцы

Магілёўскага раёна

## Касцёл святога біскупа Мікалая

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1780 г. з цэглы.

У 1670 г. Княжыцах заснаваны кляштар дамініканцаў. У 1681 г. пабудаваны касцёл з дрэва (спачатку уніяцкая царква) па фундацыі ўладальніка мястэчка надворнага харунжага Вялікага княства Літоўскага Канстанціна Паца, які ахвяраваў на будаўніцтва 18 тыс. злотых і фальварак з сялом Балочыцы (81 валока 3 дзесяціны ворнай зямлі). У 1724 г. Крыштоф Пац выдзеліў яму 15 тыс. злотых, у 1739 г. Андрэй і Соф'я Крукоўскія ахвяравалі на кляштар 2 тыс. злотых, у 1750 г. Антон Міхал Пац — 2 тыс. злотых. Мураваны касцёл асвячоны біскупам С.І.Богуш-Сестранцэвічам. У 1801 г. пабудаваны апошні драўляны кляштарны корпус з мураваным флігелем. Кляштар скасаваны 19.7.1832 г. Касцёл заставаўся парафіяльным, пасля 1863 г. закрыты, у 1865—72 гг. перароблены ў праваслаўную Свята-Аляксандра-Неўскую царкву. Пазней прыйшоў у заняпад.

Помнік архітэктуры барока. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма складаецца з прамавугольнага ў плане нефа з невялікім трансептам у цэнтры і квадратнай апсіды, якія накрыты 2-схільнымі дахамі. Нізкія featureнявялікія прыбудовы сакрысцій не парушаюць агульнай сіметрычна-восевай кампаноўкі аб'ёмаў. Галоўны фасад расчлянёны крапаванымі карнізамі на 3 ярусы, пучкамі пілястраў і лучковымі нішамі на 5 частак. У завяршэнні фасада 2 бакавыя 2-ярусныя (васьмярык на чацверыку) і цэнтральная 1-ярусная 8-гранная вежы-званіцы з цыбулепадобнымі купаламі. Бакавыя сцены-прапілеі ўтвараюць перад храмам дворык-курданёр. Уваходны партал вылучаны нізкім рызалітам пад 2-гранным шчытом. Плоскасныя бакавыя фасады на ўсю вышыню крапаваны бакавымі магутнымі аркамі-закамарамі і здвоенымі пілястрамі ў прасценках лучковых аконных праёмаў.

Унутры неф і апсіда перакрыты цыліндрычным з распалубкамі і падпружнымі аркамі скляпеннем. Асаблівасць інтэр'ера — адсутнасць прамых вуглоў у планіроўцы нефа і пры спалучэнні архітэктурных плоскасцей. Алтар вырашаны каланадай стылізаванага карынфскага ордэра, якая нясе крапаваны выгнуты антаблемент. Над уваходам — хоры.



Касцёл святога біскупа Мікалая ў в. Княжыцы.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Кобрын.



Інтэр'ер касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Кобрын.

## г. Кобрын

Брэсцкай вобласці

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Ва ўсходняй частцы горада, на вул. Першамайскай. Пабудаваны ў 1841—45 гг. з цэглы на сродкі парафіян паводле праекта 1839 г. гродзенскага губернскага архітэктара Міхаэліса. Закрыты ў 1962 г., перададзены вернікам у 1989 г. і адрэстаўрыраваны польскімі спецыялістамі. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1864 г.

Помнік архітэктуры класіцызму. Трохнефавы 2-вежавы храм. Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты 2-схільным дахам. Галоўны фасад фланкіраваны дзвюма 1-яруснымі чацверыковымі шатровымі вежамі. Уваход вырашаны вялікім арачным парталам, фланкіраваным лучковымі экседрамі са скульптурамі святых. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках, аб'яднанымі аркатурай. Унутры прастора храма размежавана на нефы высокімі аркадамі на 4-гранных пілонах, перакрыта плоскім плафонам. Алтар вырашаны 4-пілястравым порцікам з паўкруглым франтонам з вітражнай люкарнай па цэнтры.

## в. Корань,

Лагойскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святога Антонія Падуанскага

Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які над 5-граннай апсідай пераходзіць у вальмавы. Плоскасныя фасады прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі, умацаваны лапаткамі.

## г. Косава,

Івацэвіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1859 г. з бутавага каменю.



Касцёл святога Антонія Падуанскага ў в. Корань.



Капліца ў г. Косава.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад пакатым 2-схільным дахам, адзначаным па вуглах 8-граннымі слупамі-фіяламі з шатровымі пакрыццямі і крыжомі ў завяршэнні. На фоне паліхромнай бутавай муроўкі вылучаны атынкаваныя ліштвы лучковага ўваходнага і арачных адзінкавых і строеных аконных праёмаў, прафіляваныя карнізы на дэнтыкулах. Унутры зала перакрыта крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках.

## Капліца

У паўднёва-ўсходняй частцы горада. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным вертыкальным аб'ёмам пад 2-схільным пакрыццём. Адкрыта на франтальнай грані арачным прасветам.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і Святога Крыжа

У цэнтры горада. Пабудаваны ў 1878 г. з цэглы як парафіяльны на сродкі прыхаджан і прамыслоўца В.Пуслоўскага[1].

Першы драўляны касцёл фундаваны Е.Осікам у 1520 г.[2] У касцёле 12.2.1746 г. быў хрышчоны кіраўнік паўстання 1794 г. Т.Касцюшка, які нарадзіўся ў суседнім фальварку Мерачоўшчына[2]. Існуючы касцёл узведзены на месцы храма, які згарэў у 1872 г.[3] На храм зрабілі ахвяраванні навакольныя памешчыкі Ф.Юндзіл, М.В.Астрамецкі, І.К.Юндзіл.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Аднанефавы прамавугольны ў плане аб'ём і ніжэйшая 5-гранная апсіда з 2 сакрысціямі. Галоўны фасад адзначаны 4-граннай шатровай вежай-званіцай, крапаваны трайной стральчатай аркатурай і прарэзаны акном-ружай у прафіляванай стральчатай арцы. Уваход вылучаны стральчатым парталам і завершаны стромкім 2-схільным вімпергам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі, стральчатымі вокнамі з вітражамі.

Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і падпружнымі аркамі, якія аздоблены арнаментальнай размалёўкай. Над уваходам хоры на 2 калонках. Мастацка-кампазіцыйным цэнтрам галоўнага алтара з'яўляецца абраз «Маці Божая Міласэрная» (1640, у сярэбранай шаце). Абраз «Яўленне Маці Божай» (1877), габеленавыя арнаты 1781 г. і 1852 г., далматык 18 ст., драўляныя скульптуры анёла і Яна Хрысціцеля.

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 7, спр. 1030, арк. 1—2.
[2] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 115—116;



Капліца ў г. Косава.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і Святога Крыжа ў г. Косава.

# в. Крамяніца,

Зэльвенскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з бутавага каменю.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму з рысамі рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашана 8-граннай ратондай пад шатровым пакрыццём. Грані прарэзаны стральчатымі ўваходным і аконнымі праёмамі, апяразаны атынкаванымі і пабеленымі цягамі.



Касцёл святога мучаніка Юрыя ў в. Крамяніца.

## Касцёл святога мучаніка Юрыя

У паўднёва-заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1617—20 гг. з цэглы віцебскім кашталянам М.Вольскім[1]. Асвячоны ў 1657 г. біскупам Даўгялам. Акаймаваны бутавай агароджай, за якой стаіць званіца з барочным дахам 2-й палавіны 18 ст.

20.6.1617 г. Вольскі з жонкай Барбарай з Войнаў заснавалі кляштар канонікаў латэранскіх, да якога запрасілі манахаў з Кракава. На ўтрыманне кляштара ахвяраваны фальварак Вольгаўшчына з в.



Званіца касцёла святога мучаніка Юрыя ў в. Крамяніца.

Інтэр'ер касцёла святога мучаніка Юрыя ў в. Крамяніца.





Марціновічы (50 валок зямлі), 15 моргаў сенажаці над р. Зэльва пры в. Падбалоцце і поле вакол кляштара пл. 1,5 валокі. Сын Вольскага пакаёвы дваранін каралеўскі Казімір прадоўжыў будаўніцтва кляштара і падараваў яму в. Кватэры. Пры кляштары існаваў шпіталь, Ружанцовае брацтва, бібліятэка (у 1783 налічвала 1055 кніг). Кляштар скасаваны ў 1832 г., касцёл стаў парафіяльным, а пасля паўстання 1863—64 гг. быў зачынены. Перад касцёлам стаяў мураваны кляштарны корпус канонікаў латэранскіх у выглядзе рэнесанснага палаца (2-павярховы будынак пад высокім 4-схільным дахам, з вуглавымі 6-граннымі алькежамі). Разбураны ў 1940-я гг.

Помнік архітэктуры рэнесансу. Аднанефавы бязвежавы храм. Прамавугольны ў плане аб'ём з паўкруглай апсідай накрыты агульным 2-схільным дахам. Галоўны фасад завершаны ступеньчатым франтонам, тымпан якога члянёны плоскімі пілястрамі і аздоблены аркатурнымі нішамі. У канцы 18 ст. прыбудаваны нізкі прытвор у стылі класіцызму. Сцены ўмацаваны магутнымі пілонамі-контрфорсамі, паміж якімі на бакавых фасадах высока ўзнятыя арачныя аконныя праёмы.

Зала перакрыта гатычным нервюрным скляпеннем, глыбокія адхілы вокнаў упрыгожвае арнаментальная размалёўка. Двух'ярусныя цэнтральны і 2 бакавыя алтары вырашаны ў стылі барока: 2 калоны карынфскага ордэра нясуць крапаваны антаблемент і шчыт з бакавымі валютамі. Захаваўся амбон 1-й палавіны 17 ст. На хорах устаноўлены арган. Мармуровае скульптурнае надмагілле фундатараў касцёла Мікалая і Барбары Вольскіх выканана пасля 1623 г. ў стылі рэнесансу: у арачнай нішы размешчаны гарэльефныя выявы ўкленчаных Міколы ў рыцарскіх даспехах і Барбары ў манаскім адзенні; прамавугольны партал аформлены калонамі, валютамі, бакавымі нішамі, картушом з гербам. Мастацкі рарытэт сярэдзіны 18 ст. — абраз-фератрон «Кацярына і Юзаф з дзіцем» і «Маці Божая з данатарамі», абраз «Марыя Магдалена» (пачатак 19 ст.).

Побач з бутавай агароджай касцёлам каля могілак у 18 ст. пастаўлена мураваная з в а н і ц а.

Помнік архітэктуры барока. Вырашана 2-ярусным 4-гранным аб'ёмам пад пластычным шатровым дахам з заломам. Грані крапаваны бакавымі пілястрамі, прарэзаны па цэнтры лучковымі аконнымі і прамавугольным уваходным праёмамі.

---

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 119.

# в. Краснае,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца



Капліца ў в. Краснае.

На захад ад вёскі, на могілках. Збудавана ў пачатку 20 ст. з бетону як пахавальня роду Тышкоўскіх.

Помнік архітэктуры мадэрна. Вырашана заглыбленым у зямлю квадратным у плане склепам пад пакатым 2-схільным пакрыццём з уклонам да тыльнага боку. Франтальны бок завершаны сплошчаным трохвугольным франтонам і расчлянёны на 4 часткі лучковымі праёмамі адасобленых скляпоў.

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У паўночнай частцы вёскі, на ўзвышшы. Пабудаваны ў 1912 г. з цэглы (дата на фасадзе). У 1988—90 гг. рэстаўрыраваны і перададзены вернікам. Папярэдні храм скасаваны ў 1863 г.

Першапачатковы драўляны касцёл згадваецца пад 1500 г. як заснаваны каралём Аляксандрам Ягелончыкам. Быў зруйнаваны падчас руска-польскай вайны 1654—67 гг. Новы драўляны храм быў узведзены ў 1695 г. ксяндзом М.Юшкевічам. У 1800 г. на яго месцы ксяндзом К.Харэвічам пачата будаўніцтва мураванага храма, які быў асвячоны толькі ў 1858 г., але ў 1863 г. быў закрыты і перабудаваны ў праваслаўную царкву. Толькі ў 1905 г. парафіяне сталі збіраць сродкі на стварэнне сваёй святыні. У 1908 г. была збудавана драўляная капліца і закладзены мураваны храм, будаўніцтва якога было скончана ў 1912 г.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавая 1-вежавая базіліка. Яго чырвонацагляны аб'ём мае гатычную вертыкальна накіраваную кампазіцыю, асноўную ролю ў якой адыгрывае 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца ў цэнтры галоўнага фасада. З яго вертыкальным дынамізмам кантрастуе выцягнуты па гарызанталі «карабель» храма з яруснай трактоўкай алтарнага фасада — больш нізкімі 5-granнай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Галоўны ўваход вырашаны шырокім стральчатым парталам, над якім размешчана вялікае акно-ружа. Цяжкую масу будынка візуальна аблягчаюць вузкія і высокія стральчатыя праёмы, ажурная аркатура, вокны-біфорыумы, прасценкавыя контрфорсы і вытанчаныя нішы, што ствараюць рытміку бакавых фасадаў. Двухсхільны дах над алтарнай часткай завершаны невялікай сігнатуркай.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Краснае.

Трохнефавая зала касцёла перакрыта крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, абапёртых на 4 магутныя пілоны. Пры ўваходзе над нартэксам устаноўлена галерэя для аргана. Нефы завершаны 3 алтарамі неагатычнай стылёвай трактоўкі: цэнтральны ў гонар «Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі», левы «Св. Антонія», правы «Св. Казіміра».



Інтэр'ер касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Краснае.



Касцёл Божага Цела ў в. Крошын.



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Крулеўшчына.

## в. Крошын,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Божага Цела

У заходняй частцы вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1920-я гг. з цэглы ў маёнтку Радзівілаў на месцы касцёла 1818 г. У храме быў размешчаны музей беларускага паэта П.Багрыма (1813—1891), які нарадзіўся ў Крошыне і вучыўся ў мясцовай парафіяльнай школе, заснаванай ксяндзом В.Малішэўскім (пахаваны на могілках). У цокалі храма вапнавыя квадры з імёнамі фундатараў (Я.Касакоўскі, памёр 3.3.1901; М.Пашкевіч і інш.).

Помнік архітэктуры мадэрна. Прамавугольны ў плане, узняты на высокі цокаль будынак з пашыранай алтарнай часткай і прамавугольнай апсідай-рызалітам, завершанай 2-гранным шчытом. Фасад прарэзаны па цэнтры высокай і глыбокай арачнай нішай, фланкіраванай лапаткамі і прамавугольнымі нішамі. У завяршэнні фасада высокі прамавугольны атык з 2-гранным шчытом і вуглавымі 4-граннымі пінаклямі; па цэнтры рэльефная выява крыжа. Двухсхільны дах з вальмай над апсідай завершаны вытанчанай 8-граннай шатровай сігнатуркай. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з арачнымі броўкамі. Атынкаваныя і пабеленыя фасады кантрастуюць з паліхромнай муроўкай магутнага цокаля вапнавымі квадрамі.

У інтэр'еры апсіда адкрыта ў неф арачным прасветам і асветлена тарцовай паўкруглай люкарнай. Памяшканні перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, з якіх у цэнтры залы звісае бронзавая жырандоля, якую, як лічыцца, выконваў П.Багрым. Пры ўваходзе галерэя хораў. Абраз 19 ст. «Апостал».

## в. Крулеўшчына,

Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

Учынены ў 1994—97 гг. у цагляным будынку былой спартыўнай залы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам, над якім з боку фасада надбудавана 4-гранная шатровая вежа-званіца. Плоскасныя бакавыя фасады крапаваны вуглавымі лапаткамі, расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, алтарная сцяна — 2 паўкруглымі люкарнамі.

## в. Крупава,

Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі, на пагорку, абкружаны бутавай агароджай з 3-слуповай брамай. Пабудаваны ў 1918—26 гг. з цэглы. У 1963 г. закрыты, вернуты парафіянам у 1990 г.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам з бакавымі крыламі трансепта, 5-граннай апсідай і бакавымі нізкімі сакрысціямі. У фасад урэзана 3-ярусная



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Крупава.

4-гранная шатровая званіца, над вальмавым дахам апсіды 4-гранная шатровая сігнатурка. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі з рэльефнымі архівольтамі, апяразаны шырынкавым фрызам. Прамавугольны ўваходны праём акаймаваны перспектыўным арачным парталам з круглай люкарнай над ім. Такія ж люкарны ў тымпанах шчытоў крылаў трансепта. Вохрысты каларыт архітэктуры храма ўзбагачаны паліхромнай бутавай муроўкай цокаля.

Унутры зала размежавана на 3 нефы гранёнымі драўлянымі слупамі і перападам перакрыццяў — плоскіх у бакавых і драўлянага корабавага скляпення ў цэнтральным нефах. У гранёнай апсідзе і тарцах бакавых нефаў пастаўлены драўляныя неагатычныя алтары, у левы вугал прэсбітэрыя ўрэзаны амбон.



Інтэр'ер касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў в. Крупава.

## г. Крупкі

Мінскай вобласці

### Касцёл святога Юзафа

Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы паводле тыпавога праекта «Рэнавабіс».

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Плоскасны фасад прарэзаны па восі сіметрыі прамавугольным уваходным праёмам, круглай люкарнай і арачным аконным праёмам над ім. Над 2-гранным шчытом фасада надбудавана 4-гранная шатровая вежа-званіца. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі, 2-гранныя ліштвы якіх аб'яднаны ў ламаны пояс карніза даху.

Да касцёла праз кароткае 1-павярховае крыло далучаны прамавугольны ў плане 2-павярховы пад 2-схільным дахам будынак парафіяльнага цэнтра, вырашаны аналагічна храму.



Касцёл святога Юзафа ў г. Крупкі.

## г.п. Крывічы,

Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана цэнтрычным 4-гранным аб'ёмам пад шатровым бляшаным пакрыццём. Франтальная грань прарэзана прамавугольным уваходным праёмам, завершана трохвугольным франтонам з роспісам (2 архангелы).

### Касцёл святога апостала Андрэя і кляштар трынітарыяў

У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 1776 г. манахамі ордэна трынітарыяў, запрошанымі ў 1770 г. ціўуном і падкаморыем трокскім А.Укольскім. У 1796 г. замест драўлянага ўзведзены існуючы мураваны храм[1]. Кляштар скасаваны паводле царскага ўказа



Касцёл святога апостала Андрэя і кляштар трынітарыяў у г.п. Крывічы.





Касцёл Перамянення Гасподняга і Маці Божай Ласкавай у в. Крэва.

19.7.1832 г. У канцы 19 ст. абнесены бутавай агароджай з 3-арачнай цаглянай брамай. На пачатак Вялікай Айчыннай вайны парафія налічвала да 4100 прыхаджан.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока. Вырашаны 1-нефавым 1-вежавым аб'ёмам з прамавугольнай апсідай, якія накрыты агульным высокім 2-схільным дахам. Трох'ярусная вежа мае характэрныя для стылю заломы карнізаў, вуглавыя скосы з лапаткамі, парабалічную абмалёўку праёмаў. Каваныя ажурныя крыжы завяршаюць купал званіцы і апсіду. Архітэктурны дэкор стрыманы і лаканічны, высока размешчаныя ў тоўшчы сцен вокны надаюць храму абарончы характар.

Зала перакрыта цыліндрычным з распалубкамі скляпеннем на падпружных арках. Сцены крапаваны парнымі пілястрамі з капітэлямі іанічнага ордэра. Барочны алтар вырашаны карынфскай каланадай, багата ўпрыгожаны пуцці і скульптурамі св. Пятра і Маці Божай (злева), св. Паўла і евангеліста Яна (справа); па цэнтры скульптура «Ісус Антокальскі», прывезеная з трынітарскага кляштара ў Антокалі пад Вільнай. У адным стылі з алтаром выкананы амбон, аздоблены пазалочанай драўлянай разьбой. Узнятыя на 2 слупах хоры маюць плаўны згіб у цэнтральнай частцы і злучаны з залай вінтавой лесвіцай у тоўшчы званіцы. Падлога мазаічная з геаметрычным арнаментам.

Ж ы л ы  к о р п у с далучаны да паўднёва-ўсходняй сцяны апсіды. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак той жа барочнай архітэктурна-стылявой трактоўкі. Фасады члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і плоскімі лапаткамі ў прасценках.

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 112.

# в. Крэва,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Перамянення Гасподняга і Маці Божай Ласкавай

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1995 г. з цэглы.

Манументальны храм трактаваны ў стылі постнеабарока. Вырашаны 3-нефавай 2-вежавай базілікай. Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты агульным высокім 2-схільным дахам. З франтальнага боку далучаны вузкі аб'ём нартэкса, фланкіраваны дзвюма 3-яруснымі вежамі са звонападобнымі купаламі і шпілямі ў завяршэнні. Паміж вежамі высокі шчыт фігурнага абрысу. Вось сіметрыі фасада адзначана ўваходным парталам і вялікім лучковым аконным праёмам над ім, які асвятляе хоры. Плоскасныя бакавыя фасады расчлянёны 2 парамі высокіх арачных аконных праёмаў, выходзяць за карніз. Яруснае нарастанне кампазіцыі ўзмацняецца прыбудовай да апсіды нізкіх сакрысцый.

# в. Куль,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца святога Юзафа

На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1847 г. з цэглы ў сядзібна-паркавым комплексе.

Твор архітэктуры з рысамі рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны рызалітам-званіцай з трохвугольным франтонам у завяршэнні (драўляны нартэкс прыбудаваны ў 2-й палавіне 20 ст.). Бакавыя фасады расчлянёны 2 парамі стральчатых аконных праёмаў. На алтарнай сцяне стральчатая ніша з выявай Хрыста і круглай разеткай надёй.



Капліца святога Юзафа ў в. Куль.

## в. Кушляны,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

Пастаўлена побач з сядзібным домам паэтам Ф.К.Багушэвічам і яго бацькам пасля паўстання 1863—64 гг.

Вырашана ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства. Уяўляе сабой гонтавы шацёр на 4 слупах, пастаўленых на бутавы падмурак. У цэнтры шацёр абапіраецца на цэнтральны слуп з перакладзінай; апяразана рэйкавай балюстрадай.

## Капліца

Каля дарогі Кушляны—Стрыпуны. Пастаўлена ў 20 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-слуповай шатровай навіссю над драўляным крыжом з укрыжаваннем (ліццё).



## г.п. Лагішын,
Пінскі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

На могілках. Пастаўлена ў пачатку 21 ст. Вырашана шатровай чарапічнай навіссю на 4 слупах. На тарцовай сцяне накладны крыж.

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана квадратным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Пад высока ўзнятай бетоннай падлогай скляпеністае сутарэнне.

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 1907—10 гг. з цэглы намаганнямі пінскага ксяндза С. Войткі і абывацеля Э.Корсака, асвячоны магілёўскім архібіскупам Ключынскім у 1913 г. Першы мураваны храм быў пабудаваны ў 1634 г. па фундацыі князя Ст.А.Радзівіла[1]. У храме знаходзілася цудатворная ікона Маці Божай, шанаваная настолькі, што нават сеймы Рэчы Паспалітай апекавалі яе і для «памнажэння хвалы Богу» неаднаразова выдавалі прывілеі касцёлу. Напрыклад, у 1667 г. быў адменены налог на касцельную ўласнасць[2]. У 1678—1773 гг. дзейнічала езуіцкая місія. У 1863 г. налічвалася 3256 парафіян. У 1865 г. храм забраны пад праваслаўную царкву, а парафіяне прыпісаны да Пінска.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Да прамавугольнага асноўнага аб'ёму пад 2-схільным дахам па падоўжнай восі далучаны 5-гранная апсіда і 4-ярусная шатровая званіца. Сцены расчлянёны стральчатымі вокнамі-біфорыумамі і 2-ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. Асіметрыю ў агульную кампазіцыю ўносяць прыбудовы да апсіды сакрысціі і гранёнай вежы да званіцы. Уваход вырашаны



Капліца ў в. Кушляны.



Капліца пачатку 21 ст. ў г.п. Лагішын.



Капліца пачатку 20 ст. ў г.п. Лагішын.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў г.п. Лагішын.



Інтэр'ер касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў г.п. Лагішын.



Касцёл святога Казіміра ў г.п. Лагойск.



перспектыўным стральчатым парталам і вылучаны востраканцовым вімпергам, над якім акно-біфорыум, што асвятляе арганную галерэю. Тарцы 2-схільнага даху закрыты зубчастымі шчыпцамі.

Дэкаратыўна-мастацкім акцэнтам інтэр'ера з'яўляецца драўляны алтар, антаблемент якога фланкіруюць выявы ўкленчаных пазалочаных анёлаў. У алтары знаходзіцца абраз Маці Божай Лагішынскай (Каралевы Палесся). Намаганнямі архібіскупа кардынала К.Свёнтака абраз быў адноўлены, 1.1.1997 г. зноў урачыста перададзены касцёлу і каранаваны 10 мая.

---

[1] Zyskar J. Nasze koscioły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T.I. S. 293—294.

[2] Spis kosciołów i duchowieńnstwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 44—45.

## г. Лагойск

Мінскай вобласці

### Касцёл святога Казіміра

У цэнтры горада, на левым беразе р. Гайна. Пабудаваны ў 1999 г. з цэглы паводле праекта мінскага архітэктара М.Калечыца на месцы мураванага касцёла 1793 г. (знішчаны ў 1950-я гг.).

Архітэктурная стылістыка храма навеяна сярэдневяковай готыкай. Вырашаны прамавугольным у плане будынкам, накрытым стромкім 2-схільным дахам і фланкіраваным крыламі трансепта. Да фасада асіметрычна далучана 4-гранная вежа-званіца. Плоскасныя фасады расчлянёны ў 2 ярусы арачнымі 2-граннымі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках. Над прамавугольным уваходным парталам і алтарнай сцяне крыжовыя аконныя праёмы. Зала перакрыта корабавым скляпеннем.

## в. Лазавікі (Бальнова),

Шаркаўшчынскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

На ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным над фасадам 4-граннай канічнай вежачкай-званічкай з крыжом над шатровым дашкам. Перад уваходам 2-слуповы пад 2-схільным пакрыцём ганак. Бакавыя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў дашчаных ліштвах.

## в. Лаздуны,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл святых Сымона і Юды Тадэвуша

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1904—10 гг. з цэглы і бутавага каменю на месцы драўлянага храма 1772 г., фундаванага ўладальнікам маёнтка Занковічам[1]. Акаймаваны мураванай агароджай з 3-арачнай брамай у стылі мадэрн.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Трох'ярусныя 4-гранныя вежы завершаны высокімі шатрамі і кампазіцыйна аб'яднаны 2-схільным шчыпцом. Высокі 2-схільны дах над апсідай завершаны партатыўнай шатровай сігнатуркай. Уваходныя праёмы і скразныя прасветы вежаў арачнай формы. Аб'ёмы храма і ярусы вежаў апяразаны аркатурнымі фрызамі. Уваход аформлены парталам з 2-гранным вімпергам, над якім арачнае акно-трыфорыум. Архітэктурны дэкор (пілястры, круглыя разеткі, ліштвы арачных вокнаў, лапаткі, фрызы) выкананы высакаякаснай цаглянай муроўкай. Каларыстычны эфект архітэктуры дасягаецца маляўнічым спалучэннем паліхромнай бутавай муроўкі сцен і чырвонацагляных элементаў дэкору.

Унутраная прастора храма размежавана на нефы магутнай аркадай на 4-гранных пілонах, перакрыта крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, апсіда — самнутай сферычнай конхай. Элементы перакрыццяў дэкарыраваны арнаментальна-арабескавым роспісам, міжнефавыя пілоны — прамавугольнымі стукавымі панэлямі пад блакітны мармур. Апсіда і бакавыя нефы завершаны драўлянымі алтарамі ў стылі неаготыкі. На правы пілон прэсбітэрыя навешаны драўляны амбон, над нартэксам на 3-пралётнай аркадзе антрэсоль хораў з арганам. На міжнефавых пілонах і бакавых сценах навешаны тэракотавыя пано-стацыі. Мастацкую каштоўнасць уяўляе абраз 1-й палавіны 19 ст. «Тройца Новазапаветная».

---

[1] Jankowski Cz. Powiat Oszmianski. Kraków, 1898. T. III. S. 51—54.

# в. Лаздуны 2-я,

**Іўеўскі раён**
**Гродзенскай вобласці**

## Капліца

На ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1990-я гг. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам з 2-граннай алтарнай часткай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Фасад фланкіраваны 4-граннымі шатровымі вежамі каркаснай канструкцыі. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарублены прамавугольнымі ўваходным і 2 аконнымі праёмамі. Унутры пастаўлены 4-калонны алтарык народна-прымітыўнай трактоўкі.



Капліца Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Лазавікі.



Касцёл святых Сымона і Юды Тадэвуша ў в. Лаздуны.



Капліца ў в. Лаздуны-2.





Капліца ў в. Лазоўка.



Капліца святой Тэрэзы ў в. Лапушна.



Капліца ў в. Лебедзева.



## в. Лазоўка,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 21 ст. з бутавага каменю.

Твор народнага дойлідства. Вырашана вертыкальнай стэлай на пастаменце з нішай на франтальнай грані і скульптуркай Маці Божай унутры. З тыльнага боку пастаўлены металічны паклонны крыж. Капліца акаймавана прамавугольнай бутавай агароджай.

## в. Лапушна,

Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святой Тэрэзы

На могілках. Пабудавана ў 1908 г. з цэглы як родавая пахавальня ўладальнікаў маёнтка, якія мелі тут палацава-паркавы комплекс. Адноўлена ў 1994 г. Пастаўленая на высокім стромкім узгорку, яна мае выгляд антычнага храма.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Прамавугольнае ў плане кампактнае збудаванне накрыта 2-схільным дахам. Галоўны фасад вылучаны 4-калонным дарычным порцікам. Сцены рытмічна раскрапаваны лапаткамі, прамавугольнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі сандрыкамі. Уваход аформлены прамавугольным парталам з трохвугольным франтонам.

Зала перакрыта плоскай столлю па бэльках, скрыжаванні якіх утвараюць нішы-кесоны, аздобленыя накладнымі дэкаратыўнымі разеткамі. Над уваходам — балкон хораў з вінтавой металічнай лесвіцай. Падлога мазаічная з керамічнай пліткі. Ніжняя частка сцен абліцавана драўлянымі панэлямі.

## в. Лебедзева,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1910-я гг. з жоўтай цэглы як родавая пахавальня. Адноўлена пасля рэстаўрацыі 1990 г.

Помнік архітэктуры неаготыкі з рысамі мадэрна. Кампактны прамавугольны ў плане аб'ём накрыты 2-схільным дахам з вальмамі над 3-граннай апсідай. Спрошчанасць аб'ёмна-прасторавага вырашэння эфектна кантрастуе з насычаным цагляным дэкорам фасадаў. На іх высакаякаснай цаглянай муроўкай выкананы ліштвы і руставаныя броўкі стральчатых аконных праёмаў, паясы парэбрыка і гарадкоў, прамавугольныя панэлі, вуглавыя контр-

форсы, а з бетоннай фармоўкі — акантавыя разеткі, гіркі, пяты арак, капітэлі калонак. Галоўны фасад завершаны 2-схільным шчытом з вуглавымі гранёнымі фіяламі і акаймаваны аркатурным фрызам. Над стральчатым парталам увахода — круглае акно-люкарна, што нагадвае вокны-ружы гатычных сабораў. Эстэтычныя асацыяцыі з апошнімі выклікаюць стральчатыя аркі і праёмы, вуглавыя контрфорсы, каваны каталіцкі крыж з характэрнымі «крабамі».

Афармленне інтэр'ера выканана ў стылі неакласіцызму: атынкаваныя сцены з канелюраванымі пілястрамі, драўляная столь на падугах з плафонам па цэнтры. Для алтара прызначалася стральчатая ніша з высокім подыумам на тыльнай сцяне апсіды. Пад капліцай скляпеністае сутарэнне, уваход у якое праз знешнюю бакавую прыбудову-прыямак.

## Касцёл

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з сілікатнай цэглы паводле тыпавога праекта «Рэнавабіс».

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Вырашаны прамавугольным у плане вертыкальна выцягнутым аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Плоскасны фасад завершаны 4-granнай шатровай вежай-званіцай, расчлянёны круглай люкарнай і арачнымі аконнымі праёмамі. Над уваходным арачным парталам 2-схільны казырок. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.



Касцёл у в. Лебедзева.

## в. Ленькі,

Слуцкі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл святой Ганны

У заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1996 г. з сілікатнай цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам з цыліндрычнай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у канічны і над фасадам завершаны 4-граннай шатровай вежачкай. Плоскасныя сцены расчлянёны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі ў рэльефных ліштвах.



Касцёл святой Ганны ў в. Ленькі.

## г. Лепель

Віцебскай вобласці

## Касцёл святога Казіміра

На паўночнай ускраіне горада, акаймаваны металічнай агароджай на мураваных слупах. Пабудаваны ў 1857—76 гг. з цэглы на сродкі мясцовага абывацеля Мальчэўскага[1]. З 1990-х гг. дзейнічае.

Патрон касцёла Л.Сапега ў 1604 (9) г. асадзіў тут манахаў ордэна бернардзінцаў, касцёл якіх фундаваны ў 1650 г[2]. Двойчы (у 1770 і 1833) гарэў.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Належыць да тыпу базілікальных 3-нефавых 2-вежавых храмаў з трансептам. Аб'ёмы нефаў, сакрысцій, крылаў трансепта складаюць ступеньчатую кампазіцыю, дамінантамі якой з'яўляюцца каркасныя 4-гранныя вежы фасада з высокімі арачнымі прасветамі. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны рызалітам з трохвугольным франтонам, дэкарыраваны лапаткамі і карнізамі з сухарыкамі, фігурнымі філёнгамі вакол круглых люкарнаў. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

Унутры цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках і падпружных арках, бакавыя — крыжовымі; сцены крапаваны



Касцёл святога Казіміра ў г. Лепель.



Інтэр'ер касцёла святога Казіміра ў г. Лепель.



Капліца святой Барбары ў г. Ліда.



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Ліда.



пілястрамі і апяразаны прафіляваным карнізам. Над уваходам высока ўзнятая на 3-пралётную арку антрэсоль хораў. На алтарнай сцяне абразы «Ісус Хрыстос» і «Святы Казімір», у левым бакавым алтары абраз «Маці Божая Вастрабрамская».

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 397—400.

[2] Сементовский А.М. Витебск и уездные города Витебской губернии. СПб., 1864. С. 96.

## г. Ліда

Гродзенскай вобласці

## Капліца святой Барбары

У цэнтры горада, на могілках. Пабудавана ў 1932 г. з бутавага каменю. Рэстаўрыравана ў 2002 г.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Вырашана прамавугольным у плане пад вальмавым дахам аб'ёмам, да якога дыяганальна далучаны крылы трансепта пад ніжэйшымі паўвальмавымі дахамі. На франтальным фасадзе рызалітам выступае 4-гранная 2-ярусная званіца, у 1-м ярусе якой створаны арачны ўваходны партал, над якім круглае акно-люкарна. Шацёр званіцы завершаны металічным крыжом (мастацкая коўка). Дэкаратыўны эфект архітэктуры дасягаецца фактурнай бутавай муроўкай сцен. На фоне адкрытай цаглянай муроўкі сцен вылучаюцца атынкаваныя плоскія ліштвы арачных аконных і ўваходнага праёмаў, круглых люкарнаў.

## Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У жылым раёне «Слабада». Пабудаваны ў 2002 г. з цэглы.

Вырашаны ў сучасных архітэктурных формах («хай-тэк»). У аснове кампазіцыі прамавугольны ў плане неф пад 2-схільным дахам. Фасады інтэнсіўна раскрапаваны вуглаватымі эркерамі, вышэйшы з якіх на франтальным фасадзе з'яўляецца званіцай. Архітэктурны эфект дасягаецца спалучэннем высакаякаснай цаглянай муроўкі і зашклення разнастайных «рубленых» па форме праёмаў. Двухгранны эркер, які навісае над цэнтральным уваходам, завершаны скульптурай Хрыста. Унутры зала перакрыта кесаніраванай столлю, расчлянёна гранёнымі слупамі на 3 нефы.

Побач з касцёлам размешчана к а п л і ц а, пабудаваная ў 1933 г. з дрэва.

Твор архітэктуры канструктывізму. Вырашаны прамавугольным у плане 3-нефавым зрубам пад вальмавым дахам і бакавымі 1-схільнымі пакрыццямі. Шырокі фасад фланкіраваны прысадзістымі 4-яруснымі 4-products граннымі вежамі пад пакатымі шатровымі пакрыццямі. Вертыкальна ашаляваныя фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## Касцёл Божай Міласэрнасці

У жылым раёне «Маладзёжны», у паўночна-заходняй частцы горада. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Архітэктура храма вырашана ў стылі постмадэрнізму. Дынамічна-асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю фарміруюць высокі прамавугольны ў плане неф з апсідай пад стромкім 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе каркаснай шатровай званічкай. З левага боку далучаны трапецападобны ў плане ніжэйшы неф з 4-граннай вежай пад сферычным купалам, закрытымі на фасадзе сценкай-экранам крывалінейнага абрысу. Кампазіцыю ўскладняе прыбудова 4-граннай шатровай сакрысціі, завершанай 8-гранным шатровым барабанчыкам. Фасады арытмічна расчлянёны разнастайнымі па форме аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах: арачныя і квадратныя, круглыя і паўкруглыя люкарны, гранёны зашклёны эркер і інш.

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У цэнтры горада, на вул. Савецкай. Пабудаваны ў 1747(65)—70 гг. з цэглы як фарны (парафія заснавана каралём Уладзіславам Ягайлам у 1387), верагодна, па праекту віленскага архітэктара І.К.Глаўбіца[1]. У 1928 г. асвячоны архібіскупам Р.Ялбжыкоўскім. Быў абкружаны мураванай агароджай з барочнай брамай (не захаваліся). Помнік архітэктуры барока і ракако. Трохнефавая 2-вежавая базіліка (вежы разабраны ў час пажару 1821) з прамавугольнай апсідай і бакавымі нізкімі сакрысціямі накрыта 2-схільным чарапічным дахам з вальмамі над апсідай. Галоўны фасад завершаны фігурным шчытом з трохвугольным франтонам, расчлянёны слаістымі пілястрамі. Яны разам з высокімі арачнымі аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах ствараюць рытміку бакавых фасадаў з вытанчана прафіляваным антаблементам. Цэнтральны неф апяразаны крапаваным антаблементам і перакрыты разам з алтарнай часткай цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя — цыліндрычнымі на падпружных арках, сакрысціі перакрыты плоскай столлю на падугах. Інтэр'ер, афармленне якога прыпісваецца Глаўбіцу, упрыгожвае фрэскавая размалёўка скляпенняў, сцен, аконных адхілаў, скульптура і арнаментальная лепка ў стылі ракако. У ім 3 стукавыя алтары. Цэнтральны вырашаны ўзнятай на высокі пастамент карынфскай каланадай з хвалістым антамблементам, над якім лунаюць анёлы; размаляваны пад шэра-блакітны мармур; фланкіраваны ў аснаванні скульптурамі святых апосталаў Пятра і Паўла. Алтарная скульптура «Укрыжаванне» размешчана на маляваным фоне з выявай Галгофы, акаймавана ракайльнай рамай. Над ёй у барочным картушы размешчаны абраз «Тайная вячэра». У завершы алтара ляпныя воблакі, якія акаймоўваюць круглую люкарну. Аналагічна вырашаны і 2 бакавыя алтары: 2-ярусная насценная кампазіцыя на філёнгавым п'едэстале, на яго ўзняты 2 карынфскія калоны, што нясуць фігурны шчыт з пуцці і дэкаратыўнымі вазамі. Алтары выкананы ў тэхніцы штучнага мармуру. На скляпеннях у ракайльным арнаментальным абрамленні размешчаны фрэскавыя пано «Узвышэнне Святога Крыжа», «Маці Божая», «Звеставанне», «Беззаганнае Зачацце», «Уручэнне ключоў св. Пятру», 4 картушы з выявамі евангельскай сімволікі. Гісторыка-мастацкая значнасць надаецца абразу «Маці Божая з дзіцем», прывезенаму быццам з Візны (Беластоцкае ваяводства) у 1376 г. першымі місіянерамі-францысканцамі. Фрэскавы жывапіс выкананы ў вохрыста-умбрыстай каляровай гаме з перавагай блакітна-зялёных таноў. У стылі ракако вырашаны каваны амбон у выглядзе трыльяжнай чашы з накладнымі картушамі. Над уваходам на вялікай арцы ўзняты хвалістыя хоры. На міжнефавым слупе з правага боку ў 1933 г. ўмуравана мемарыяльная пліта з успамінам аб перамозе пад Венай.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г. Ліда.



Інтэр'ер касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў г. Ліда.

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 70—71; Komorowski J. Nad Lidzieja // Spotkania z zabytkami. Marzec 1993. S. 32; Prace i materiały sprawozdawcze sekcji historji sztuki Towarzystwa przyjaciół nauk w Wilnie. Wilno, 1938—39. T. III. S. 327—328.



Капліца на могілках у в. Ліпнішкі.



Капліца ў цэнтры в. Ліпнішкі.



Касцёл святога Казіміра ў в. Ліпнішкі.

## в. Ліпнішкі,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 4-граннай 2-яруснай вежай з шатровым пакрыццём. Першы ярус — маналітны п'едэстал, крапаваны прамавугольнымі нішамі; другі — адкрытае арачнымі прасветамі падценне, пад якім пастаўлена драўляная паліхромная скульптура Хрыста-пакутніка з крыжом. Архітэктурная аздоба атынкаваных граняў — лапаткі з прамавугольнымі філёнгамі, архівольты арак, прафіляваныя карнізы.

### Капліца

На паўднёвы захад ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам з 3-граннай апсідай, над якой стромкі 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Фасад завершаны трохвугольным франтонам, прарэзаны па цэнтры прамавугольнымі ўваходным і аконным праёмамі. Такімі ж вокнамі прарэзаны бакавыя фасады і грані апсіды. Унутры ў залу адкрыта паддашша і бэлькі перакрыцця.

### Касцёл святога Казіміра

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1910 г. Акаймаваны бутавай агароджай з 3-арачнай неагатычнай брамай. Прыход заснаваны ў 1510 (11) г. польскім каралём Жыгімонтам І Старым. Першапачаткова быў узведзены драўляны касцёл (верагодна, у імя св. Ганны), які згарэў падчас Паўночнай вайны. У 1804 годзе па фундацыі ўладальніка мястэчка графа Гальяша (Эльяша) Безбародкі быў пабудаваны чарговы драўляны касцёл, таксама знішчаны пажарам 14.7.1890 г. (на гэтым месцы пастаўлена капліца). Будаўніцтва існуючага касцёла пачалося ў 1900 г. пры дапамозе ўладальніка мястэчка А.Вольскага з удзелам французскіх архітэктараў і польскіх будаўнікоў. Асвячоны ў 1928 г. архібіскупам Р.Ялбжыкоўскім.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Прамавугольны ў плане будынак з 3-граннай апсідай, сіметрычнымі бакавымі сакрысціямі, квадратным у плане нартэксам, над якім узвышаецца 3-ярусная (васьмярык на 2 чацверыках) вежа, завершаная спічастым шатром. Яго грані ў аснаванні прарэзаны люкарнамі ў высокіх 2-гранных ліштвах з фіяламі ў завяршэнні. Вуглавымі вытанчанымі фіяламі вылучаны і верхнія ярусы вежы. Архаічны суровы характар архітэктуры надае абліцоўка фасадаў гранітнымі глыбамі-квадрамі, якім выкладзены спрошчаныя вуглавыя і прасценачныя лапаткі, стральчаты партал увахада, ліштвы аконных праёмаў, карнізы. Бакавыя фасады вы-

лучаны па цэнтры высокімі стральчатымі ўваходнымі праёмамі, аформленымі неглыбокім рызалітам з 2-гранным шчыпцом у завяршэнні. Першапачаткова дах быў накрыты чарапіцай і меў на каньку над прэсбітэрыем сігнатурку.

Інтэр'ер расчлянёны слупамі на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі. Сцены атынкаваны і раскрапаваны падвойнымі пілястрамі, дэкарыраваны трафарэтнай арнаментыкай. У алтары абразы св. Казіміра, Марыі, Ісуса. Уздоўж сцен — скульптурныя пано на сюжэты Крыжовага шляху Хрыста. Над уваходам — хоры з неагатычным арганам.

## в. Ліпск,

Ляхавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1910 г. з цэглы як філіяльны на тэрыторыі Ляхавіцкай парафіі па фундацыі графа Патоцкага і намаганнямі ксяндза К.Ваньковіча. Быў пашкоджаны ў час 1-й сусветнай вайны. Аднаўлены намаганнямі ксяндза М.Каладзея.

Архітэктура манументальнага збудавання эклектычная, спалучае рысы барока, класіцызму, асобныя элементы ракако. Буйнамаштабны храм узведзены на ўзор 3-нефавай базілікі з бакавымі сакрысціямі. У пластычным вырашэнні фасадаў вялікую ролю адыгрывалі руставаныя лапаткі і фігурныя панэлі. Вертыкальным акцэнтам прамавугольнага ў плане храма з боку галоўнага фасада з'яўлялася неабарочная 4-гранная вежа-званіца з фігурным купалам і шпілем у завяршэнні. Яна была ўстаноўлена на шырокай тэрасе з балюстрадай па перыметры і дэкаратыўнымі вазамі па вуглах. Над карнізам галоўнага фасада размяшчаўся лучковы франтон, аконныя праёмы такой жа формы чаргаваліся з авальнымі люкарнамі.



Касцёл у в. Ліпск.



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Лоск.

## в. Лоск,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

У цэнтры вёскі, на ўзгорку. Пабудаваны ў 1919—24 гг. з драўлянага брусу.

Першы касцёл у 1480 г. пабудавала ўдава князя Івана Карыбутавіча Ганна[1]. У сярэдзіне 16 ст. мястэчка было цэнтрам арыянства. Ян Кішка пабудаваў рэфармацкі храм, адкрыў друкарню, запрасіў у яе С.Буднага і іншых дзеячаў Рэфармацыі (Д.Лянчыцкі, Я.Карцан[2]). У 1639 г. Лоскі храм адышоў да Віленскай капітулы. Пасля 1959 г. выкарыстоўваўся ў гаспадарчых мэтах.

Твор народнага дойлідства. Прамавугольны ў плане зруб накрыты 2-схільным дахам з вальмамі над 5-гранным прырубам апсіды з невялікай сакрысціяй. Плоскасны галоўны фасад завершаны трохвугольным шчытом, у тымпане якога прарэзана арачнае акно, якое расчляняе прафіляваны карніз. Уваход вырашаны шырокім прамавугольным праёмам. Неашаляваныя сцены рытмічна падзелены вертыкальнымі брусамі-сцяжкамі ў прасценках высокіх арачных аконных праёмаў. У перакрытую плоскай столлю малітоўную залу выступаюць хоры, на якія вядзе лесвіца бакавой клеці.

---

[1] НАРБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 2217, арк. 1—9.
[2] Мальдзіс А. Памяць стукае ў сэрцы // ЛіМ. 2 снежня 1977 г.

## в. Лотвічы,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Паўзруйнавана.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 8-гранным зрубам (дах не захаваўся), умацаваным вуглавымі брусамі-сцяжкамі з каванымі штырамі,



Капліца ў в. Лотвічы.



Капліца Божай Міласэрнасці ў в. Лоша.

прарэзаным прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі. Алтар упрыгожвала народная драўляная скульптура (знойдзены фрагмент).

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архаічнага накірунку архітэктуры гістарызму. Вырашана ў выглядзе 4-граннай піраміды, пад якой скляпеністая крыпта.



Капліца ў в. Лужкі.



# в. Лоша,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Божай Міласэрнасці

На паўночны ўсход ад вёскі. Пабудавана ў 1920-я гг. з дрэва, адноўлена ў 1980 г., асвячона 21.9.1997 г. Збоку перад капліцай пастаўлена 4-гранная вежа-званіца пад шатровым дахам.

Твор народнага дойлідства. Храм вырашаны прамавугольным зрубам пад 2-схільным дахам, які над 3-граннай апсідай пераходзіць у вальмавы. Плоскасны франтальны фасад завершаны трохвугольным фігурна ашаляваным франтонам, які прарэзаны 2 гранёнымі люкарнамі. Вертыкальна ашаляваныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

# в. Лужкі,

Шаркаўшчынскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

Ва ўсходняй частцы вёскі, на могілках. Пабудавана ў 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана кампактным 4-гранным зрубам пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны трохвугольным франтонам і адкрыты шырокім праёмам, за якім пастаўлены драўляны крыж з укрыжаваннем.

## Касцёл святога архангела Міхаіла і кляштар піяраў

Ва ўсходняй частцы вёскі. Касцёл пабудаваны ў 1744—56 гг. з цэглы пры кляштары піяраў[1].

Кляштар існаваў у 1741—1832 гг. Заснаваны ўладальнікам Лужкоў полацкім кашталянам В.Жабам, які ахвяраваў піярам фальварак Віснік, пляц пад кляштар і калегіум (у яго гонар называўся Валерыянаўскім), парк і школу (дзейнічала з 1744, пазней вучылішча)[2]. Жонка Жабы ахвяравала на калегіум 1000 злотых. На 1832 г. кляштар валодаў 13 вёскамі і 330 сялянамі. У канцы 1750-х гг. навучальная сістэма калегіума рэарганізавана паводле рэформаў С.Канарскага, у апошняй чвэрці 18 ст. ў час дзейнасці Адукацыйнай камісіі калегіум уваходзіў з 1783 г. ў Навагрудскую, з 1790 г. ў Піярскую навучальныя акругі, у 1782 г. меліся 3 класы з тэрмінам навучання 6 гадоў, 4 выкладчыкі, 130 вучняў. Сярод выкладчыкаў і выхаванцаў калегіума: філосаф А.Доўгірд, прафесары Віленскага універсітэта К.Пасалаеўскі, Ф.Серафіновіч, доктар філасофіі А.Паўстанскі, выкладчык нямецкай мовы П.Альбрыхт. У 1793 г. калегіум пераўтвораны ў павятовае 4-класнае вучылішча з 6-гадовым тэрмінам навучання. У 1807 г. тут вучылася 116 юнакоў. У вайну

1812 г. разрабаваны французамі. У 1816 г. ў вучылішчы адбыліся хваляванні, за непадпарадкаванне кіраўніцтву выключаны 47 вучняў са 113 (у 1817 былі 144 выхаванцы). У 1825 г. рэарганізавана ў звычайнае 4-класнае павятовае вучылішча. За ўдзел выкладчыкаў у паўстанні 1830—31 гг. вучылішча ў 1832 г. зачынена, маёмасць піяраў секвестравана. У 1843 г. касцёл перабудаваны пад праваслаўную царкву і абкружаны бутавай агароджай. Пасля Вялікай Айчыннай вайны закрыты. У 1988 г. вернуты вернікам.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока, вызначаецца дынамічнасцю вытанчанай вертыкальна накіраванай кампазіцыі, багаццем аб'ёмнай і дэкаратыўнай пластыкі. Дзвюхвежавы 1-нефавы храм з выцягнутай акруглай апсідай, да якой па баках сіметрычна далучаны нізкія сакрысціі. Тарцы 2-схільнага даху аформлены фігурнымі шчытамі. Чатырох'ярусныя чацверыковыя вежы развернуты вуглом да цэнтральнай увагнутай плоскасці галоўнага фасада, які прафіляванымі цягамі падзелены на 3 ярусы, інтэнсіўна крапаваныя пілястрамі. Вылучаныя пабелкай вуглавыя і прасценачныя пілястры акаймоўваюць архітэктурныя масы і надаюць будынку графічную выразнасць. Разнастайныя праёмы з лучковымі, паўцыркульнымі і фігурнымі арачнымі завяршэннямі аформлены тонкапрафіляванымі ліштвамі, хвалістымі броўкамі. Дэкаратыўнае вырашэнне ўзбагачаецца 2-колернай тынкоўкай сцен і ордэрнай пластыкай.

У інтэр'еры неф і апсіда перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Сцены раскрапаваны паўкалонамі на высокіх пастаментах і з капітэлямі з лісця аканта, валют і галовак пуцці. Адхілы высокіх арачных аконных праёмаў, прасценкі, скляпенні ўпрыгожаны арнаментальнай размалёўкай. Пластыка-дэкаратыўныя акцэнты інтэр'ера — 3 ракайльныя 2-ярусныя стукавыя алтары, упрыгожаныя драўлянай скульптурай. Над уваходам хоры, абмежаваныя хвалістым парапетам.

---

[1] Lorentz S. Wycieczki po województwie Wileńskiem. Wilno, 1932. S. 62; Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1884. T. 5. S. 837.

[2] Baliński M. i Lipiński T. Starożytna Polska. Warszawa, 1846. T. III. S. 605; Gozdawa M. Szkoły w woj. Połockiem w XVIII w. po pierwszym kraju rozbiorze // Kwartalnik litewski. 1910. N 6. T. 2. S. 68—70; Hedemann Otto. Szkoły Walerianowskie xx. Pijarów Lużeckich. Wilno, 1937.

## в. Лукавец,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі. Размешчана ў кутку бутавай агароджы былога сядзібна-паркавага комплексу Шумскіх-Бароўскіх. Пабудавана ў 1905 г. з цэглы[1].

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана цыліндрычнай вежай пад канічным купалам, узнятай на 4-гранны пастамент з бутавага каменю. З франтальнага боку ў стральчатай нішы ўстаноўлена



Інтэр'ер касцёла святога архангела Міхаіла і кляштар піяраў у в. Лужкі.



Касцёл святога архангела Міхаіла і кляштар піяраў у в. Лужкі.

фігурка Маці Божай Маёвай (раней месціўся абраз Маці Божай).

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 171—173.



Капліца ў в. Лукавец.

## в. Луконіца,

Зэльвенскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках за касцёлам. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы і бутавага каменю як пахавальня Пяркоўскіх. У паўзруйнаваным стане.

Помнік позняга класіцызму. Кампактны прамавугольны ў плане будынак пад 2-схільным дахам (не захаваўся) з трохвугольным франтонам на фасадзе. Плоскасны фасад прарэзаны шырокім прамавугольным уваходным праёмам.



Касцёл святога архангела Міхаіла ў в. Луконіца.

### Касцёл святога архангела Міхаіла

На паўночны ўсход ад вёскі. Пабудаваны ў 1782 г. з цэглы па фундацыі Я.У.Гумніцкага. У 1866 г. перароблены на царкву[1]. У 1919 г. храм вернуты католікам, на 1932 г. налічвалася 1562 парафіяніны[2]. Асвячоны 30.8.1935 г. архібіскупам Р.Ялбжыкоўскім. Да 1990-х гг. знаходзіўся ў паўзруйнаваным стане, у 1994 г. адноўлены. Побач з касцёлам пастаўлена мураваная 3-ярусная званіца з купальным верхам; вырашаная ў стылі барока.

Помнік архітэктуры позняга барока. Аднанефавы прамавугольны ў плане храм з 5-граннай апсідай і сакрысціяй з паўночнага боку. Галоўны фасад завершаны прамавугольным шчытом з трохвугольным франтонам і бакавымі валютамі; крапаваны здвоенымі пілястрамі з капітэлямі карынфскага ордэра, прафіляваным карнізам і высокімі панэлямі. Вось сіметрыі адзначана лучковым уваходным праёмам і арачным акном хораў з фігурным сандрыкам. Арачнымі аконнымі праёмамі расчлянёны і бакавыя плоскасныя фасады. Шчыт з лучковым завяршэннем і арачнай нішай у руставанай ліштве ўзведзены і над апсідай, якая дэкарыравана вуглавымі пілястрамі і фігурнай нішай.

Унутры перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У нартэксе на 3-пралётнай аркадзе і крыжовых скляпеннях знаходзяцца хоры. У тоўшчы сцен галоўнага фасада і сакрысціі вінтавыя лесвіцы на хоры і амбон. Дэкаратыўна-пластычнымі акцэнтамі інтэр'ера з'яўляюцца галоўны і 2 бакавыя стукавыя алтары.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 147.
[2] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 92.







Касцёл святога Юзафа ў г. Лунінец.

## г. Лунінец

Брэсцкай вобласці

### Касцёл святога Юзафа

У паўднёвай частцы горада, каля чыгункі. Пабудаваны на мяжы 19—20 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры гістарызму з рысамі неакласіцызму і неаготыкі. Вырашаны працяглым прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. З тыльнага боку далучана ніжэйшая 5-гранная апсіда пад вальмавым пакрыццём. Фасад завершаны трохвугольным франтонам, крапаваны пілястрамі на 3 праслы, у цэнтральным з якіх прамавугольны ўваходны праём і акно-ружа над ім. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з замковым каменем над перамычкамі і контрфорсамі ў прасценках.

## в. Лунна,

Мастоўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На поўнач ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1930-я гг. з цэглы як пахавальня (мемарыяльная дошка на фасадзе: «Тут спачываюць астанкі доктара Антонія Барташэвіча. Памёр 13 сакавіка 1933 г. Жыў 78 год»).

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, закрытым на фасадзе трохвугольным франтонам з 4-граннай сігнатуркай у завяршэнні. Уваход аформлены рэнесансна-класіцыстычным парталам, вылучаным белай тынкоўкай на фоне вохрыста-чырвонай цаглянай муроўкі сцяны. Тынкоўкай вылучаны і карніз на дэнтыкулах, які апяразвае капліцу.

### Касцёл святой Ганны

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1782 г. з цэглы[1]. У 1895 г. фундаментальна перабудаваны з бутавага каменю акрамя апсіды.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам з 5-граннай апсідай. Архітэктурныя дэталі (ліштвы, карнізы, акантоўка лапатак) пабелены і графічна вылучаны на паліхромным фоне бутавай муроўкі. Складаную трактоўку атрымаў трохвугольны франтон галоўнага фасада, у які ўкампанаваны плоскі ўтрыраваны пілястравы порцік з самастойным франтонам. Уваход вылучаны лучковым парталам і арачным аконным праёмам хораў над ім.

Выцягнутая па падоўжнай восі малітоўная зала падзелена высокімі драўлянымі слупамі (размалёўка імітуе мармуровыя калоны) на 3 нефы. Цэнтральны з іх перакрыты драўляным цыліндрычным скляпеннем і аб'яднаны ім з конхавай апсідай. Спалучэннем з плоскай столлю бакавых нефаў у 4-сценным аб'ёме створана развітая прастора, арганізацыя якой нагадвае старадаўнія каталіцкія базілікі. Ускладняюць інтэр'ер галерэі бакавых сак-



Капліца ў в. Лунна.



Касцёл святой Ганны ў в. Лунна.

рысцій і хораў. Мастацкае афармленне дапаўняе размалёўка арнаментальнага фрыза з поясам аб'яднаных гірляндамі медальёнаў, падпружных арак, плафонных разетак. У інтэр'еры 7 драўляных неагатычных разных алтароў. Абразы 19 ст. ў стылі акадэмічнага класіцызму «Архангел Міхаіл», «Маці Божая Вастрабрамская», «Маці Божая Адзігітрыя».




---

[1] Hirszel S.Z. Przyczynki do monografji pow. Grodzieńskiego. Grodno, 1936. S. 13; НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 443, арк. 20.

## в. Лучай,

Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл святога апостала Юды Тадэвуша



Касцёл святога апостала Юды Тадэвуша ў в. Лучай.

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1766—76 гг. з цэглы як езуіцкі (віленская калонія ў 1731—73) па фундацыі ўладальніка маёнтка Т.Агінскага і яго



Інтэр'ер касцёла святога апостала Юды Тадэвуша ў в. Лучай.

жонкі Эльжбеты (з Пузынаў)[1]. Аўтарства храма прыпісвалася архітэктарам Т.Жаброўскаму ці К.Спампані[2], апошнія даследаванні называюць праектантам Г.Лянкевіча[3]. У 1-й палавіне 19 ст. часткова перабудаваны: прыўнесена ордэрная пластыка, размаляваны інтэр'ер, створана мураваная агароджа з 3-пралётнай брамай. Пасля 1948 г. быў закрыты, вернуты парафіянам 16.3.1990 г.

Помнік архітэктуры з рысамі барока і класіцызму. Дзвюхвежавая 3-нефавая купальная базіліка з паўцыркульнай апсідай і трансептам. Галоўны фасад фланкіруюць 3-ярусныя вежы, раскрапаваныя вуглавымі пілястрамі, нішамі, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Пры перабудове верхні ярус вежаў завершаны купальнымі ратондамі. Галоўны фасад, апсіду і трансепт вянчаюць лучковыя і фігурныя шчыты. Сцены раскрапаваны пілястрамі, якія нясуць антаблемент дарычнага ордэра.

Інтэр'ер вырашаны ў насычанай архітэктурнай пластыцы дарычнага ордэра. У цэнтральным нефе скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі, у бакавых — крыжовыя, над сяродкрыжжам — сферычны купал. Ордэрную пластыку дапаўняюць насычаныя размалёўкі ў тэхніцы грызайль. Ніжняя частка купала запоўнена перспектыўнай архітэктанічнай кампазіцыяй. У люнетах цэнтральнага нефа — маляваныя 8-гранныя плафончыкі. На ветразях, тарцовых сценах трансепта і ў консе апсіды — выявы евангелістаў, святых і анёлаў. Сцены бакавых нефаў дэкарыраваны фрэскавай размалёўкай, якая імітуе скульптурны рэльеф. Гэтак жа выканана размешчанае над уваходам пано-картуш з выявамі 2 воінаў са шчытамі і воінскімі атрыбутамі. Над уваходам на трайной аркадзе — хоры, на якіх устаноўлены арган. У сакрысціі меліся партрэты 18 ст. Э.Агінскай і А.Пузыны.

---

[1] Кукуня О. Костел в Лучае. Мн., 1993. С. 26; Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 81; Lorentz S. Wycieczki po wojwództwie Wilenskiem. Wilno, 1932. S. 55; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 147; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. Wilno, 1909. S. 81.

[2] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 293.

[3] Boberski W. Jan Wilhelm Frezer — architekt wileński trzeciej cwierci XVIII wieku // Przegląd Wschodni. 2001. T. VII. Zesz. 4(28). S. 1008.

# г.п. Лынтупы,

Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліцы

На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, на могілках. Пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю ў колькасці 15, верагодна, адным будаўніком.

Аднатыпныя помнікі народнага дойлідства. Вырашаны 2-яруснымі 4-граннымі вежамі пад шатровымі дашкамі з каванымі крыжамі ў завяршэнні. Першы ярус служыць магутным бутавым пастаментам для верхняга цаглянага, адкрытага арачнымі прасветамі.

## Касцёл святога апостала Андрэя

На цэнтральнай плошчы. Пабудаваны ў 1908—14 гг. з цэглы па фундацыі Ю.Бішэўскага[1]. Абкружаны бутавай агароджай з 3-пралётнай брамай (раней меліся вуглавыя 3-ярусныя драўляныя званіцы).

Звесткі аб першым драўляным касцёле св. Андрэя адносяцца да 1459 г. Хроніка парафіяльнага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі за 1879 г. паведамляе, што ён быў заснаваны віленскім ваяводам А.Даўгірдовічам, меў 5 алтароў і амбон, шпіталь. У 1640 г. А.Чарніцкім пры касцёле пабудавана цагляная капліца, ён падараваў храму 8-пудовы звон і літургічнае начынне.

Помнік архітэктуры неабарока. Манументальная 2-вежавая 3-нефавая базіліка з трансептам і паўкруглай 2-яруснай апсідай. Двух'ярусны «карабель» храма схаваны за кулісай франтальнага фасада, цэнтр якога вылучаны 2-ярусным рызалітам пад трохвугольным франтонам. Барочная дынаміка і архітэктурная пластыка сканцэнтраваны на верхніх ярусах вежаў, завершаных гранёнымі ліхтарамі, крапаваных прафіляванымі карнізамі і пілястрамі. Рытміку бакавых фасадаў ствараюць высокія арачныя аконныя праёмы з архівольтамі і імпастамі.

Унутры нефы размежаваны аркадамі на магутных 4-гранных пілонах, перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, апсіда — конхай з круглымі люкарнамі па перыметры. На левым пілоне прэсбітэрыя выступае паўкруглы амбон з балюстрадным парапетам. Сродкамі фрэскавага роспісу выкананы ракайльна-класіцыстычны роспіс інтэр'ера: перыметральны фрыз з поясам гірлянд, панэлі пілястраў і пад-



Капліцы на могілках у г.п. Лынтупы.



Касцёл святога апостала Андрэя ў г.п. Лынтупы.



Інтэр'ер касцёла святога апостала Андрэя ў г.п. Лынтупы.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Лыскава.

пружных арак і інш. Галоўны драўляны алтар выканаы ў стылі мадэрн, бакавыя стукавыя — неакласіцызму. У інтэр'еры мастацкую каштоўнасць мае абраз «Св. Ганна» (мяжа 18—19 ст.), 2 ферaтроны ў стылі ракако (18 ст.).

[1] Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. Wilno, 1909. S. 117; Rzymskokatolicka diecezja Witebska (Białoruś). Witebsk, 2004. S. 229.

## в. Лыскава,

Пружанскі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.



Надмагільная капліца Ф.Карпінскага каля касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў в. Лыскава.



Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Кампактны прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам. Фасад вырашаны 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам, пад якім прамавугольны ўваходны праём.

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар місіянераў

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1763—85 гг. з цэглы.

Першы драўляны касцёл пастаўлены ў 1527 г. на сродкі віцебскага ваяводы, старосты жмудскага М.Клочкі, у 1751 г. ўладальнікам маёнтка Адамава ваўкавыскім маршалкам Я.Быхаўцом перададзены місіянерам. У 2-й палове 18 ст. ўзведзены кляштарны будынак. Пры кляштары місіянераў існавалі школа, шпіталь і бібліятэка. У 1866 г. касцёл 18 ст. пераасвячоны ў праваслаўную царкву, рэканструкцыю пад якую ажыццявіў архітэктар Ф. Афанасьеў[1]. 22.7.1880 г. ад маланкі загарэўся гонтавы дах, засталася толькі мураваная частка. У 1883—84 гг. аднаўлены архітэктарам П.І.Залатаровым (выкладзены новыя скляпенні, заменены кроквенныя канструкцыі даху і пакрыццё). На касцельных могілках 16.9.1825 г. пахаваны польскі паэт і драматург Ф. Карпінскі (нізкая к а п л і ц а пад 2-схільным ганкам з надпісам «Гэта мой дом убогі»). Могілкі адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1877 г.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры позняга барока. Крыжовы ў плане 1-вежавы аб'ём з прамавугольнай апсідай і 2 сакрысціямі. Чатырох'ярусная вежа (перабудавана ў 1818) пры дапамозе ўвагнутых бакавін плаўна ўпісана ў плоскасць галоўнага фасада, якая насычана крапавана падвойнымі пілястрамі, між'яруснымі прафіляванымі карнізамі. Верхні ярус званіцы завершаны самкнутым купалам, дэкарыраваны валютамі, вуглавымі пілястрамі, другі — завершаны па гранях прафіляванымі аркамі, што надае архітэктурнай дамінанце барочную, амаль скульптурную пластычнасць. Гэтаму садзейнічаюць і высока ўзнятыя лучковыя аконныя праёмы і плоскія лапаткі ў прасценках бакавых фасадаў.

Зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і падпружнымі аркамі, якія абапіраюцца на прафіляваныя архівольты і насценныя пілястры. Паміж апошнімі размешчаны вялікія арачныя нішы, над якімі лучковыя аконныя праёмы, аддзеленыя прафіляваным фрызам. Апсіда перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, крылы трансепта і сакрысціі — крыжовымі, у тоўшчы фасаднай сцяны вінтавая лесвіца на званіцу. Размалёўка паўночнага крыла трансепта імітуе ордэрную архітэктанічную кампазіцыю.

Насупраць касцёла захаваўся барочны ж ы л ы к о р п у с. Двухпавярховы П-падобны ў плане галерэйны будынак, сцены і цэнтральны рызаліт якога крапаваны пілястрамі, міжпавярховай карнізнай цягай. У дэкоры выкарыстаны руст, надаконны луч-

ковы пояс, міжаконныя руставаныя лапаткі. Калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, тыпавыя келлі — крыжовымі. На 1-м паверсе паўднёвага крыла знаходзілася трапезная.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1112, арк. 82; ф. 8, воп. 2, спр. 204, арк. 104; ф. 97, воп. 1, спр. 146, арк. 2, 52, 82—83.

## г. Любань
Мінскай вобласці

## Касцёл Маці Божай Фацімскай

На заходняй ускраіне горада. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Двух'ярусную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю фарміруюць падоўжна выцягнутыя прамавугольныя ў плане цэнтральны (з 5-граннай апсідай) і бакавыя нефы, іх 2-схільны і 1-схільныя дахі. Дамінантай кампазіцыі з'яўляецца прысадзістая 4-гранная шатровая вежа-званіца над франтальным плоскасным фасадам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольным у бакавых і арачнымі ў цэнтральным нефах аконнымі праёмамі.

## в. Лявонпаль,
Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Хрыста Валадара

На заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе Заходняй Дзвіны. Учынены ў мураваным палацы, пабудаваным у 1750 г. ўладаром маёнтка брэсцкім ваяводам М.Лапацінскім паводле праекта італьянскага архітэктара А.Гену ці літоўскага дойліда Т.Жаброўскага[1]. У 1769 г. Лапацінскі пабудаваў у маёнтку капліцу. Палац часткова зруйнаваны ў Першую сусветную вайну і ў 1920-я гг. за кошт былых уладальнікаў пераабсталяваны пад касцёл[2].

Помнік архітэктуры барока[3]. Адведзеная пад касцёл цэнтральная прамавугольная у плане 2-светлавая зала (былая бальная) на франтальным фасадзе завершана фігурным франтонам, над якім у 1920-я гг. надбудавана сігнатурка з крыжом (аднаўлена ў канцы 20 ст.)[4]. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка сіметрычна-восевая, 3-частковая. Цэнтральны 2-паверхавы аб'ём і 1-павярховыя бакавыя крылы аб'яднаны папярочным корпусам. Фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў прафіляваных ліштвах, крапаваны вуглавымі лапаткамі.

[1] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu. Wilno, 1939. S. 275.
[2] Hedemann O. Historja powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930. S. 392—393.
[3] Lorentz S. Wycieczki po województwie wileńskiem. Wilno, 1932. S. 70—71.
[4] Rocznik ziem wschodnich i kalendarz na rok 1937. S. 143.


Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар місіянераў ў в. Лыскава. Агульны выгляд.


Касцёл Маці Божай Фацімскай у г. Любань.





Касцёл Хрыста Валадара ў в. Лявонпаль.



Касцёл святога Станіслава ў в. Лядск.



Інтэр'ер касцёла святога Станіслава ў в. Лядск.

## в. Лядск,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст. з цэглы.

Твор архітэктуры неакласіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам. Уваход вылучаны масіўным арачным парталам з 2 калонамі і 2-гранным шчытом.

### Касцёл святога Станіслава

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1896—1905 гг. з цэглы. Абкружаны бутавай агароджай.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Прамавугольны ў плане неатынкаваны аб'ём пераходзіць у ніжэйшую 5-гранную апсіду. Накрыты 2-схільным дахам, які па цэнтры вільчыка і над апсідай фланкіраваны чацверыковымі шатровымі сігнатуркамі-фіяламі. Будынак узняты на высокі цокаль, выкладзены з буйных вапнавых блокаў, на якіх змешчаны імёны фундатараў і ахвяравальнікаў. На галоўным фасадзе ўзвышаецца 2-ярусная званіца (чацвярык на васьмерыку), завершаная высокім шатром. Фасады прарэзаны вітражнымі вокнамі-біфорыумамі з «ружамі» ў агульных стральчатых, выкладзеных лякальнай цэглай ліштвах; дэкарыраваны аркатурнымі паясамі, круглымі разеткамі-трохліснікамі, раскрапаваны лапаткамі. Галоўны і 2 бакавыя ўваходы аформлены стральчатымі перспектыўнымі парталамі.

Унутры зала размежавана слупамі на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі. Над уваходным 3-гранным эркерам антрэсоль хораў. Галоўны і бакавыя драўляныя алтары, амбон выкананы ў стылі неаготыкі. Тымпан стральчатай аркі прэсбітэрыя запоўнены сюжэтным роспісам «Хрыстос з прадстаячымі». Уздоўж сцен навешаны гіпсавыя пано-стацыі на тэму «Хрэсны ход».

## в. Лясная,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Маці Божай Анёльскай

Пабудаваны ў канцы 20 ст. з цэглы. Асвячоны 19.5.2000 г. кардыналам К.Свёнтакам.

Архітэктурная стылістыка храма навеяна раманскім касцельным дойлідствам 10—12 ст. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да фасада далучана 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца, з тыльнага боку — прамавугольная апсіда з бакавымі нізкімі сакрысціямі пад 1-схільным пакрыццём. Дынамічнае нарастанне аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі да званіцы дасягаецца перападам пакрыццяў аб'ёмаў. Уваход выра-



Касцёл Маці Божай Анёльскай у в. Лясная.

шаны арачным перспектыўным парталам, над якім арачная ніша-экседра з паліхромнай скульптурай Хрыста. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі вокнамі-біфорыумамі і пілонамі ў прасценках.

## г. Ляхавічы

Брэсцкай вобласці

### Капліца

На заходняй ускраіне горада, на могілках. Пабудавана ў 1830-я гг. з цэглы І.Солтанам як пахавальня яго жонкі. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Фасад вырашаны накладным 4-калонным порцікам з цэнтральным арачным уваходным праёмам і прамавугольным атыкам у завяршэнні, крапаваным цэнтральнай паўкруглай люкарнай і бакавымі арачнымі экседрамі з рукавінамі. Бакавыя фасады прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі, крапаваны лапаткамі.

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы як надмагілле Д.Рэйтана (1783—1851).

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана акруглай ратондай, узнесенай на 4-гранны пастамент, са скразнымі арачнымі прасветамі. У завяршэнні цыліндрычны барабан пад сферычным купалам. Пад скляпеннем пастаўлены чыгунны помнік з крыжом.

### Капліца

На заходняй ускраіне горада, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана 4-гранным слупом пад шатровым пакрыццём (паўзруйнавана). Бакавыя грані крапаваны вуглавымі пілястрамі, арачнымі нішамі ў руставаных ліштвах з архівольтамі, імпастамі і рэльефнымі крыжамі па цэнтры.

### Капліца

На заходняй ускраіне горада, на могілках. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана 4-граннай прысадзістай вежай, крапаванай вуглавымі пілястрамі абапал арачных ніш.

### Касцёл святога Юзафа

У паўночнай частцы горада. Пабудаваны ў 1907 г. з цэглы па фундацыі Ю.Рэйтана і намаганнямі ксяндза К.Ваньковіча[1]. Асвячоны ў 1910 г. біскупам Я.Цапляком. На пачатак 20 ст. парафія налічвала каля 3 тыс. прыхаджан. У 2-й палавіне стагоддзя прыстасаваны і рэканструяваны пад паліклініку.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Манументальнае збудаванне вырашана па тыпу 3-нефавай 1-вежа-



Капліцы на могілках у г. Ляхавічы.



Касцёл святога Юзафа ў г. Ляхавічы. 1907 г.



Касцёл святога Юзафа ў г. Ляхавічы. Пачатак 21 ст.

вай базілікі з паўкруглай апсідай. Гатычную вертыкальную накіраванасць архітэктурнай кампазіцыі надавалі высокая шатровая званіца (васьмярык на чацверыку) на фасадзе і перспектыўны ўваходны стральчаты партал з акном-ружай над ім. Вертыкальны рытм стваралі ступеньчатыя контрфорсы з вежачкамі-фіяламі і «крабамі» ў завяршэнні ступеньчатых контрфорсаў, высокія вузкія стральчатыя нішы і аконныя праёмы, аркатурныя паясы. Бакавыя працяглыя фасады рытмічна чляніліся высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках.

Унутраная прастора храма размяжоўвалася на 3 нефы гранёнымі слупамі, перакрывалася стральчатымі скляпеннямі. У інтэр'еры меўся неагатычны амбон.

У сучасным стане будынак былога касцёла вырашаны прамавугольным у плане пад вальмавым дахам аб'ёмам, да тарцоў якога далучаны ўваходны рызаліт і паўкруглая апсіда. Прамавугольныя ўваходны і аконны праёмы акаймаваны агульным перспектыўным парталам з набору акруглых абломаў-валікаў. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны ў 2 ярусы прамавугольнымі аконнымі праёмамі і 2-ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. Будынак апяразаны карнізам простага профілю на сухарыках.

[1] Zyskar J. Nasze koscioły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. T. 1. Cz. 2. S. 336.

## Касцёл святога Юзафа

У цэнтры горада. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Трохнефавая 2-вежавая базіліка. Да асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму далучаны бакавы ніжэйшы неф. Фасад фланкіраваны 8-граннымі шатровымі вежамі, вылучаны па цэнтры ўваходным прамавугольным парталам і вялікім арачным аконным праёмам над ім, які асвятляе хоры. Архітэктурны рытм бакавых фасадаў ствараюць арачныя аконныя праёмы і лапаткі ў прасценках.

Унутры зала размежавана на 3 нефы 4-граннымі слупамі, перакрыта драўляным стральчатым скляпеннем у цэнтральным нефе і плоскай падшыўной столлю ў бакавых. Над уваходам галерэя хораў з балюстрадным парапетам.



# г. Магілёў

## Капліца

На вул. Лазарэнкі, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1904 г. з цэглы як родавая пахавальня Сенажацкіх. Перададзена вернікам і асвячона 25.11.1989 г.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Кампактны прамавугольны ў плане будынак пад пакатым 2-схільным дахам. Да фасада далучана 4-гранная вежа-званіца з прамавугольным уваходным праёмам пад трохвугольным франтонам і арачным аконным праёмам над ім. Трохвугольнымі франтонамі завершаны і грані званіцы, крапаваныя па баках арачнымі нішамі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і пілонамі ў прасценках. Мастацка-эстэтычная выразнасць дасягаецца высакаякаснай чырвонацаглянай муроўкай.


Капліца ў г. Магілёў.


Капліца ў г. Магілёў.

## Капліца

На вул. Лазарэнкі, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад пакатым 2-схільным дахам. Фасад завершаны 2-гранным шчытом, вылучаны па цэнтры стральчатым уваходным парталам, фланкіраваным гранёнымі пілонамі з пінаклямі. Бакавыя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі, крапаваны вуглавымі лапаткамі з рэльефнымі крыжамі. Будынак апяразаны карнізам з сухарыкамі.


Капліца ў г. Магілёў.

## Капліца

На вул. Лазарэнкі, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як надмагілле Жукоўскіх.

Помнік архітэктуры мадэрна і архаікі. Вырашана сенню на 4 егіпецкіх калонах, якія пастаўлены на квадратны подыум і трымаюць плоскае перакрыцце пад шатровым дахам з крыжом. Магутны антаблемент ад фронта пакрыты рэльефнымі распрасцёртымі крыламі і фланкіраваныканічнымі пінаклямі з вазамі. Унутры на тарцовай сцяне прамавугольны партал з рэльефным крыжом па цэнтры і скульптурай анёла ў аснаванні з правага боку.

## Капліца

На вул. Лазарэнкі, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана 4-граннай прысадзістай вежай з 4-гранным пастаментам над 4-схільным бетонным пакрыццём. Франтальная грань прарэзана арачным уваходным праёмам, бакавыя — круглымі люкарнамі.

## Касцёл святога Казіміра (фарны)

У цэнтры горада, за абласным аддзяленнем сувязі на вул. Болдзіна. Пабудаваны як парафіяльны ў 1604 г. з цэглы па фундацыі караля Жыгімонта III Вазы[1] (па іншых крыніцах — у 1675—80[2]), перабудаваны ў 1810 г. З'яўляўся кафедральным да пераносу кафедры ў касцёл кармеліцкага кляштара. Захаваўся ў рэштках, выкарыстоўваецца ў гаспадарчых мэтах.


Капліца ў г. Магілёў.



Касцёл святога Казіміра (фарны) у г. Магілёў.



Касцёл святога Станіслава і кляштар кармелітаў у г. Магілёў.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам з бакавымі крыламі трансепта і 5-граннай апсідай. Франтальны фасад быў вырашаны 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам, фланкіраваны вежамі (захаваўся 1-ы ярус). Цэнтральны кубападобны аб'ём малітоўнай залы быў накрыты сферычным купалам з ліхтаром. Бакавыя фасады чляніліся арачнымі аконнымі праёмамі ў прамавугольных нішах.

У інтэр'еры 3 алтары былі выкананы ў стылі ракако. Галоўны 2-ярусны алтар быў аформлены 2 калонамі, над якімі ўзвышаўся фігурны шчыт з бакавымі валютамі, дэкаратыўнымі вазамі, картушамі. На хорах быў устаноўлены 7-галосы арган.



## Касцёл святога Станіслава і кляштар кармелітаў

У цэнтры горада, на вул. Камсамольскай (у былым Шклоўскім прадмесці Старога горада праз роў ад Каралеўскай брамы[1]). Пабудаваны ў 1738—52 (67) гг. з цэглы на месцы драўлянага касцёла кармелітаў 1636 г. (згарэў у 1708).

Першы драўляны касцёл кармеліты пабудавалі ў 1633—36 гг. па фундацыі польскага караля Жыгімонта III Вазы (на яго месцы існаваў храм 1594)[2]. Гэта падзея адлюстравана на адной з фрэсак касцёла. Заснаваны як філіял Бялыніцкага кляштара кармелітаў. Кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV прывілеем ад 10.9.1633 г. дазволіў бялыніцкім манахам купляць дамы і пляцы ў Магілёве для пабудовы касцёла і кляштара[3]. На 1687 г. налічвалася ўсяго 6 манахаў. У 1738—52 гг. на месцы згарэлага ў 1708 г. драўлянага храма пабудаваны мураваны касцёл, асвячоны ў 1765 г. віленскім біскупам Ф.Зянковічам у гонар Спачыну Найсвяцейшай Дзевы Марыі[4]. У 1774 г. пры кляштары існавала друкарня, заснаваная біскупам С.Богуш-Сестранцэвічам. У 1783 г., які перадаў касцёл Магілёўскай архікафедры, і ён стаў кафедральным саборам Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі, названым у гонар св. Станіслава. Пры касцёле быў зацверджаны капітул (сабор) у складзе 12 канонікаў. У 1784 г. пры касцёле была адкрыта семінарыя, 2-павярховы корпус якой быў прыбудаваны да храма ў 1788 г. Пасля пажару 1810 г. касцёл перабудаваны. У 1831 г. кляштар скасаваны. Пасля 1860 г. касцёл стаў парафіяльным. З 1935 г. ў ім размясціўся гістарычны, у 1964—86 гг. — Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці. 13.7.1990 г. адбылася ўрачыстая перадача касцёла вернікам. Рэстаўрыраваны ў 1986—94 гг. сіламі Беларускай каталіцкай грамады. З 1991 г. — кафедральны сабор Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Пры касцёле дзейнічае хор, штогод адбываюцца міжнародныя фестывалі духоўнай музыкі.

Першапачаткова касцёл быў вырашаны ў стылі позняга барока і ракако, галоўны фасад упрыгожваў фігурны франтон з гербавым картушам. У 1810 г. пачалася перабудова касцёла ў стылі класіцызму. Касцёл пабудаваны па каноне 3-нефавай 2-вежавай 6-слуповай базілікі з трансептам і паўцыркульнай апсідай з бакавымі сакрысціямі. Да галоўнага фасада прыбудаваны 4-калонны іанічны порцік, да паўднёвай апсіды далучаны памяшканні семінарыі і друкарні. Галоўны фасад пашыраны бакавымі прыбудовамі з 8-граннымі барабанамі пад сферычнымі купаламі. Ад першапачатковага дэкору захаваліся шматслойныя пілястры, складанапрафіляваныя карнізы, фігурныя ліштвы аконных праёмаў.

У інтэр'еры 2 рады магутных слупоў-пілонаў і аркада паміж імі падзяляюць прастору на 3 нефы: бакавыя з нізкімі скляпеннямі ў спалучэнні з стромкім сярэднім нефам; апсіда вылучана вялікай аркай з ракайльным арнаментальным роспісам. У залу выс-

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II. S. 42—45.

[2] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 27.

тупае арганная галерэя, якую падтрымліваюць 4 драўляныя слупы і перакінутыя праз іх аркады. Сцены крапаваны падвойнымі шырокімі пілястрамі з ракайльнымі залачонымі капітэлямі, складзенымі з С-падобных звіваў і руж, апяразаны арнаментальным ракайльным фрызам. На плоскасцях ілюзорным фрэскавым роспісам створаны манументальныя аркі, калоны, пілястры, разарваныя карнізы, складаныя картушы, валюты, якія нібы вырастаюць з рэальных пілястраў і карнізаў, рэальная і ілюзорная прастора зліваюцца ў адно, што надае кампазіцыі дынаміку і эмацыянальную патэтыку. Скляпенні працягнуты ўверх ілюзорнымі архітэктурнымі формамі. Інтэр'ер упрыгожваюць 3 ракайльныя алтары, вырашаныя карынфскай каланадай і насычаныя драўлянай скульптурай. На правым слупе прэсбітэрыя навешаны каваны ракайльны амбон, кафедра якога вырашана трыляжнай сеткай з картушамі. Над тонкапрафіляваным антаблементам, які апяразвае неф, змешчаны прамавугольныя фрэскавыя пано, скляпенні пакрыты размалёўкай. Паводле інвентара 1692 г. меўся цудатворны абраз «Маці Божай».

Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвае адзін з найбольш разгорнутых фрэскавых біблейскіх цыклаў на Беларусі — выдатны помнік манументальнага мастацтва. Фрэскавы жывапіс выкананы ў 1765—67 гг. і ў 1780-я гг. Аўтарамі размалёвак, што пакрываюць скляпенні, сцены, алтар, былі Чайкоўскі, выкладчык жывапісу Магілёўскай духоўнай семінарыі А.Главацкі, мастак П.Пятроўскі. Прозвішча апошняга пазначана ў мемарыяльным лацінскім надпісе на правай сцяне нефа: «Гэты кармеліцкі касцёл быў багата і маляўніча ўпрыгожаны ў бытнасць шаноўнага айца Паула Пятроўскага, святой тэалогіі доктара». Главацкі працаваў у Магілёўскай духоўнай семінарыі і ў тэатры Богуш-Сестранцэвіча ў 1794—1802 гг. выкладчыкам жывапісу, і таму верагодна, што частка роспісу выканана і ім самім, і пад яго кіраўніцтвам. У стварэнні роспісаў удзельнічалі вучні-манахі кляштара Пётр, Лук'ян, Рыгор. У 1860-я гг. размалёўкі padнаўляліся і дапаўняліся мастаком Фёрстам (4 кампазіцыі ля алтара).

На скляпенні цэнтральнага нефа ад конхі апсіды да хораў размешчаны 3 вялікія фрэскавыя кампазіцыі на евангельскія сюжэты: «Пераўтварэнне», «Уручэнне ключоў апосталу Пятру» і «Унебаўзяцце Марыі». У архітэктурных кулісах — выявы з сімваламі евангелістаў і айцоў заходняй царквы Еранія, Аўгусціна, Клімента, алегорый Веры, Надзеі, Любові і гледачоў на ілюзорных балконах. Ніжэй вокнаў па перыметры сцен галоўнага нефа ў прамавугольных нішах сюжэты «Уваскрасенне Лазара», «Цуд св. Тэрэзы», «Хрышчэнне», «Наданне граматы каралём Сігізмундам манахам-кармелітам» і інш. Паніжаныя бакавыя нефы падзелены на асобныя капліцы, скляпенні якіх упрыгожаны размалёўкамі «Спас Нерукатворны», «Св. Себасцьян», «Страшны суд», «Падарожжа ў карэце», «Смерць св. Юзафа» і «Аўтапартрэт». На скляпенні нартэкса 2 сцэны — «Каін забівае Авеля» і «Ахвярапрынашэнне Аўраама». У паўднёва-заходняй частцы храма, на скляпенні правага нефа выява манаха-мастака з палітрай у руцэ. На хорах геральдычныя выявы. Паблізу алтара ў паўночна-ўсходняй частцы храма 4 кампазіцыі, выкананыя мастаком Фёрстам падчас паднаўлення размалёвак у 1860-я гг. Былі размаляваны і памяшканні кляштара (забелены).



Размалёўка скляпенняў у касцёле святога Станіслава ў г. Магілёў.

Авальную апсіду запаўняе галоўны алтар, вырашаны 2 паўкалонамі і слаістымі пілястрамі карынфскага ордэра з пазалочанымі капітэлямі, на якія абапіраецца тонкапрафіляваны, інтэнсіўна крапаваны і лучкова выгнуты па цэнтры, дэкарыраваны залачоным акантавым арнаментам антаблемент. Над ім фігурны шчыт з ракайльнай рамай і бакавымі валютамі. Галоўны алтарны абраз «Укрыжаванне». На хорах меўся унікальны арган з керамічных труб, які ў рэестры Ватыкана лічыўся пад другім нумарам (падобныя меліся ў Рыме, Варшаве, Мехіка).

[1] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 27.

[2] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 189; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II. S. 35.

[3] Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.

## г. Мазыр
Гомельскай вобласці

### Касцёл і кляштар цыстэрцыянцаў

На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, на вул. Гогаля, у былым прадмесці Кімбараўка (зараз тэрыторыя мэблевай фабрыкі). Тут з пачатку 18 ст. да 1864 г. існаваў мужчынскі кляштар ордэна цыстэрцыянцаў. У 1711 г. сродкі на яго стварэнне ахвяраваў навагрудскі кашталян Антоній Аскерка, у 1740-я і 1780-я гг. яго мецэнатамі выступалі Рафаіл Алаіз і Казімір Мацей Аскеркі. У 1717 г. кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст II ахвяраваў кляштару 30 валок зямлі, а Аўгуст III у 1742 г. — яшчэ 20. У 1825 г. манахі



Касцёл і кляштар цыстэрцыянцаў у г. Мазыр.

мелі юрыздыку ў Кімбараўцы з 6 дамамі, вёскі Новікі і Юхнаўка (18 дымоў), 24 валокі зямлі ворнай і пад лесам. З 1730 г. да кляштара адносіліся капліцы ў вёсках Кочышчы, Кузьмічы, Нароўля, Новікі, Санюкі, Юзафаўка. Пры кляштары дзейнічала школа (у 1819 было 10 вучняў), бібліятэка ў 850 тамоў[1]. У 1864 г. кляштар скасаваны, касцёл прыстасаваны пад праваслаўную царкву. Выгляд кляштара з боку р. Прыпяць адлюстраваў на 2 малюнках Н.Орда ў 1864—76 гг. Захаваўся ў перабудаваным выглядзе.

К а с ц ё л з'яўляўся творам архітэктуры барока[2]. Галоўны фасад быў завершаны франтонам плаўнага ўвагнута-пукатага абрысу з бакавымі валютамі. Плоскасць фасада крапавалася высокімі пілястрамі, паміж якімі на 2-м ярусе ў арачных экседрах былі размешчаны скульптуры святых. Пасярод чарапічнага даху на 8-гранным барабане ўзносіўся цыбулепадобны купал з ліхтаром. Неф завяршала паўкруглая апсіда. Уваход быў вырашаны 5-гранным прытворам-барбаканам.

Перад храмам стаяла мураваная брама адзінай з ім архітэктурна-стылёвай трактоўкі. З правага боку ад брамы адасоблена стаяла мураваная 2-ярусная 4-гранная званіца пад 2-схільным пакрыццём. Мела насычаную пластычную трактоўку.

Трохпавярховы ж ы л ы  к о р п у с захаваў рысы архітэктуры барока: рустоўка, тонкапрафіляваныя карнізы, скругленыя вуглы аб'ёмаў, пілястравая крапоўка. Памяшканні перакрыты крыжовымі скляпеннямі.

---

[1] Kwartalnik Litewski. 1910. T. 4. S. 25—40.

### Касцёл святога архангела Міхаіла і кляштар цыстэрцыянак

На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада паміж р. Прыпяць і стромкім правым берагам, на вул. Гогаля, у былым прадмесці Кімбараўка. Пабудаваны ў 1743—45 гг. з цэглы паводле ініцыятывы прыёра мужчынскага кляштара Б.Ражанскага на сродкі кіеўскага падчашага З.Шукшты і жонкі мазырскага земскага пісара С.Камароўскай[1].

Першы драўляны касцёл пры кляштары цыстэрцыянак заснаваны ў 1610 г. па загадзе караля Жыгімонта II. Казімір Сапега падараваў кляштару 30 тыс. злотых, свой уклад зрабіла і мазырская шляхта. Былі пастаўлены мураваныя будынкі. Пры кляштары існавала школа (у 1809 вучылася 28 дзяўчат). Пасля закрыцця кляштара ў 1883—88 гг. будынкі перададзены праваслаўнай кансісторыі, у сувязі з чым у 1893—94 гг. касцёл рэканструяваны (прыбудавана званіца, бакавая мураваная галерэя). Да 1990-х гг. касцёл выкарыстоўваўся пад музычнае вучылішча. Захаваліся будынкі касцёла і часткова жылога корпуса, абнесеныя мураванай агароджай. У 1990-я гг. рэстаўрыраваны і вернуты прыхаджанам.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры позняга барока. Аднанефавы з 3-граннай апсідай храм пад высокім 2-схільным дахам з увагнутымі вальмамі над апсідай. Архітэктурна-пластычны акцэнт створаны на галоўным фасадзе, расчлянёным на 3 часткі высокімі пілястрамі і завершаным тонкапрафіляваным карнізным поясам, крапаваны экседрамі з ракавіна-



Касцёл святога архангела Міхаіла і кляштар цыстэрцыянак у г. Мазыр.

мі і фігурнымі нішамі, завершаны ступеньчатым атыкам (надбудаваны ў 1894). Бакавыя плоскасныя фасады прарэзаны па 3 ярусах лучковымі і квадратнымі аконнымі праёмамі з глыбокімі адхіламі ў моцнай тоўшчы сцен (1,5 м), расчлянёны ў прасценках шырокімі лапаткамі. Галоўны ўваход — праз нізкі 5-гранны прытвор, дэкарыраваны буйнымі пілястрамі.

Зала храма пры рэканструкцыі падзелена на 2 паверхі, перакрыта цыліндрычным скляпеннем з падвойнымі падпружнымі аркамі і люнетамі. Конхавая апсіда вылучана арачным прасветам, сцены крапаваны шматслойнымі карнізамі, падвойнымі пілястрамі, арачнымі нішамі, апяразаны буйным тонкапрафіляваным карнізам. Скляпенні былі дэкарыраваны фрэскавай размалёўкай на сюжэты з гісторыі ордэна цыстэрцыянак (выканана ў 1804, не захавалася).

Першапачаткова з касцёлам з паўднёвага ўсходу злучаўся крыты чарапіцай П-падобны ў плане 3-павярховы жылы корпус (1-ы паверх быў мураваны, 2-і і 3-і — фахверкавыя ці з «прускага муру»), які ствараў унутраны двор. Захаваўся прамавугольны ў плане 2-павярховы аб'ём пад 2-схільным дахам. Фасады рытмічна расчлянёны квадратнымі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі, у прасценках — шырокімі лапаткамі. Планіроўка галерэйная з 1-баковым размяшчэннем тыпавых келляў з цыліндрычнымі скляпеністымі перакрыццямі.

---

[1] Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Mińskiej. Warszawa,1919. S. 24.

## в. Майшулі,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Твор народнага дойлідства. Вырашана 2-яруснай 4-граннай стэлай з 2-гранным завяршэннем. Франтальная грань крапавана прамавугольнай нішай унізе і лучковай наверсе.

## в. Макараўцы,

Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У цэнтры вёскі, на могілках, побач з былой сядзібай пана Хрусціцкага. Пабудаваны ў 1793—95 гг. з дрэва як храм-кальварыя. Побач пастаўлена мураваная званіца.

Архітэктура помніка вырашана ў традыцыях народнага дойлідства. Два рознавялікія ашаляваныя зрубы (асноўны аб'ём і апсіда) накрыты агульным



Капліца ў в. Майшулі.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Макараўцы.

дахам з трохвугольнымі застрэшкамі над стыкамі аб'ёмаў. Маленькія сакрысціі з самастойным пакрыццём. Фасады дэкарыраваны падкарнізнай і падваконнай разной аркатурай, фігурнай рамай і крыжом на фоне шалёўкі франтона «ў елку». Бакавыя фасады расчлянёны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і вертыкальнымі брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

У інтэр'еры бэлькі з укосінамі пад плоскай столлю візуальна чляняць прастору храма на апсіду, галоўны і бакавыя нефы, нартэкс, галерэю хораў над ім. Пластыка-дэкаратыўным акцэнтам інтэр'ера з'яўляюцца 3 драўляныя алтары, выкананыя ў стылі барока. У глыбіні апсіды на высокім подыуме пастаўлена барочная карынфская каланада, якая разам з вязкамі пілястраў нясе крапаваны антаблемент з пуцці. Па баках алтара стукавыя паліхромныя скульптуры святых Пятра і Паўла. Вынесеныя ў залу бакавыя меншыя алтары падобнай мастацка-стылёвай трактоўкі. За ажурнай балюстрадай хораў арган.





Касцёл святога Юзафа ў г. Маладзечна.

## в. Макашы,

Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі, на могілках. Пастаўлена каля 1906 г. з цэглы.

Помнік архітэктуры «цаглянага накірунку» стылю мадэрн. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад стромкім 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай сцяной. Фасад завершаны трохвугольным франтонам з аркай у тымпане, па цэнтры прарэзаны прамавугольным уваходным праёмам. Бакавыя фасады прарэзаны 2 арачнымі аконнымі праёмамі, крапаваны вуглавымі лапаткамі, апяразаны гарадковым фрызам.

## г. Маладзечна

Мінскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне горада, на вул. Я.Купалы. Пабудавана ў 2001 г. з цэглы.

Вырашана 3-яруснай 4-граннай вежай пад 2-схільным пакрыццём. На 2-м ярусе франтальнай грані выява Маці Божай з дзіцем.

### Капліца святога Піо

У паўднёвай частцы горада, на рагу пр. Вялікі Гасцінец і вул. Міра. Пабудавана ў пачатку 21 ст. з дрэва.

Вырашана працяглым прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай, заламаным па цэнтры бакавых фасадаў 2-гранным шчыпцом. Над фасадам дах завершаны 4-граннай вежай-званіцай са спічастым шатром; далучаны прамавугольны прытвор пад вальмавым пакрыццём. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.



Капліца ў в. Макашы.



Капліца на ўсходняй ускраіне г. Маладзечна.

### Касцёл святога Юзафа

У цэнтры горада, на вул. Прытыцкага. Пабудаваны ў 1993—97 гг. з цэглы на месцы вайсковых могілак каля старога касцёла святога Юзафа, зруйнаваны пасля 1956.

Твор архітэктуры канструктывісцкага характару. Вырашаны па канону 3-нефавай базілікі. Галоўны фасад фланкіраваны высокімі 4-граннымі зубчастымі вежамі, якія завершаны 2-яруснымі каркаснымі металічнымі званіцамі. Цэнтральная частка фасада з 2-гранным завяршэннем, па восі сіметрыі



Капліца святога Піо ў г. Маладзечна.

прарэзана вялікім прамавугольным аконным праёмам, над якім размешчаны абраз «Маці Божая Вастрабрамская» (мясцовы майстр). Архітэктурны рытм засноўваецца на чаргаванні прамавугольных аконных праёмаў і вертыкальных пілонаў.

У інтэр'еры ў алтары драўляная скульптура «Укрыжаванне», на бакавых сценах — пано-стацыі «Крыжовы шлях Хрыста» (мясцовыя майстры), у сакрысціі — разная скульптура Ісуса Хрыста (мастак Я.Кадушкевіч).

## Касцёл святога Казіміра і кляштар трынітарыяў

У паўночнай частцы горада, на вул. Замкавай. Кляштар дзейнічаў з 1758 па 1832 гг. Складаўся з касцёла святога Казіміра (не захаваўся) і жылога корпуса. У 1758 г. уладальнік мястэчка М.Агінскі пабудаваў драўляны касцёл, які ў 1762 г. перадаў манахам-трынітарыям і пабудаваў для іх мураваны жылы корпус. У 1811 г. сенатар М.Агінскі перавёў сюды з Бабруйска дваранскае павятовае вучылішча, якое размясцілася ў яго сядзібе (2 класы ў кляштарным корпусе)[1]. Мемарыяльная дошка сведчыць, што пасля 1815 г. тут была настаўніцкая семінарыя. Пасля паўстання 1831 г. кляштар скасаваны, касцёл пераўтвораны ў царкву. У наступным годзе акрамя вучылішча ў кляштары знаходзілася паштовая станцыя. У 1843 г. жылы корпус кляштара з 5 драўлянымі пабудовамі і 7 дзесяцінамі зямлі цалкам перайшоў да дваранскага павятовага вучылішча, якое ў 1860 г. пераўтворана ў 5-класную гімназію для дзяцей польскай шляхты. У 1938 г. касцёл зруйнаваны[2]. Зараз кляштарны будынак — адзін з карпусоў станкабудаўнічага завода.

Кляштарны корпус — помнік архітэктуры позняга барока. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак пад вальмавым дахам, франтальны фасад фланкіраваны рызалітамі, крапаванымі па вуглах пілястрамі, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах. Памяшканні 1-га паверха перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках.



Касцёл святога Казіміра і кляштар трынітарыяў у г. Маладзечна. Кляштарны корпус.

---

[1] Цвірка К. Дарогамі Тамаша Зана // Полымя. 1992. № 6. С. 152—153.

[2] Касяк І. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью-Йорк, 1956. С. 70—71.

# в. Малая Барздынь (Юрздаўка)

Мінскага раёна

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1884 г. з цэглы і бутавага каменю як фамільная пахавальня Вішнеўскіх. У паўзруйнаваным стане.



Капліца ў в. Малая Барздынь.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Фасад прарэзаны глыбокім стральчатым уваходным праёмам, завершаны 2-гранным шчытом з 4-граннымі пінаклямі па вуглах. Белай тынкоўкай на паліхромным фоне бутавай муроўкі вылучаны вуглавыя лапаткі і стральчатыя аконныя праёмы.




# в. Малая Бераставіца,

Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл святога Антонія Падуанскага

У цэнтры вёскі, каля шашы Гродна—Вялікая Бераставіца. Пабудаваны ў 1851—63 гг. з цэглы паводле хадайніцтва і фундацыі ўладальніка маёнтка



Касцёл святога Антонія Падуанскага ў в. Малая Бераставіца.

памешчыка Антона Ваўкавыцкага (маршалак Сакольскага павета), які ў прашэнні ад 29.10.1850 г. «просит построить вместо пришедшего в ветхость деревянного, новый каменный приходской римско-католический костел»[1]. Праект мураванага касцёла са званіцай склаў гродзенскі землямер Малевіч у 1851 г.[2]. У 1864 г. зачынены. З яго званіцы зняты старажытны 6-пудовы звон і перанесены ў суседнюю праваслаўную царкву. Надпіс на звоне сведчыць, што ён быў ахвяраваны мясцовай Дзмітрыеўскай царкве: «Благоверная раба Божия Іванова Саковая к церкви св. Димитрия Мало-Берестовицкой. Афон лето 1579 г.»[3]. У 1919 г. зноў перададзены католікам, адрэстаўрыраваны, асвячоны 14.5. 1928 г. архібіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім. Скасаваны пасля Вялікай Айчыннай вайны. Перададзены вернікам і адноўлены ў 1993 г. Першапачатковы выгляд вядомы па акварэлі Н.Орды 1868 г.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму з рысамі рэтраспектыўна-рускага стылю. Вырашаны працяглым прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Над галоўным фасадам на атыку ўзвышаецца каркасная 4-гранная званіца з купальным пакрыццём. Плоскасныя галоўны і бакавыя белакаменныя фасады рытмічна расчлянёны высокімі арачнымі праёмамі ў кілепадобных ліштвах, апяразаны буйнапрафіляваным антаблементам. Будынак пастаўлены на гранітны цокаль.

[1] Hirszel St.Z. Przyczynki do monografji pow. Grodzieńskiego. S. 21—22; НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 1078, арк. 7.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 2, воп. 11, спр. 1127, арк. 7, 28; ф. 8, воп. 1, спр. 1078; ф. 96, воп. 1, спр. 268; ф. 97, воп. 1, спр. 53.
[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 53, арк. 1.



Капліца ў в. Малінавая.

## в. Малінавая,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Вырашана 4-граннай невысокай вежай пад шатровым пакрыццём з крыжом, узнятай на бутавы цокаль. На франтальнай грані ніша для абраза.



Капліца ў в. Маліноўшчына.

## в. Маліноўшчына,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У заходняй частцы. Пабудавана ў 1898 г. як родавая пахавальня ўладальнікаў сядзібы Свентаржэцкіх[1].

Помнік мемарыяльнай архітэктуры з элементамі архаікі. Вырашана цаглянай 4-граннай пірамідай, гарызантальнай цягай падзелена на 2 ярусы. Архаічная форма збудавання мае падкрэслена масіўныя сцены, выкладзеныя неапрацаванымі глыбамі каменю-вапняку. У капліцы — жалобная зала са стральчатымі ўваходным праёмам і бакавымі аконнымі праёмамі. У сутарэннях — нішы-пахавальні. У ніж-

нюю частку сцен умураваны вапнавыя паліраваныя пліты з мемарыяльнымі надпісамі.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 252—257.

## в. Малышчына
Гродзенскага раёна

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 2003—04 гг. з бутавага каменю паводле праекта гродзенскага архітэктара Куніцкага.

Невялікі аб'ём са схіленымі бакавымі сценамі і паўкруглай алтарнай часткай накрыты 2-схільным бляшаным дахам з глыбокім выпускам над фасадам. Зала перакрыта плоскай падшыўной столлю, маленькія вокны маюць вітражнае зашкленне з выявамі Ісуса і 4 евангелістаў.

## в. Малькі,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл

Пабудаваны ў 1-й палавіне 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным у плане зрубам з 3-граннай алтарнай часткай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Да правай грані апсіды дыяганальна прырублена нізкая прамавугольная сакрысцыя. Фасад завершаны трохвугольным франтонам з паўкруглай люкарнай па цэнтры і шырокім адлівам у аснаванні, падтрыманым 4 слупамі. Над прамавугольным уваходным праёмам 5-гранны балкончык перад ашклёнымі дзвярыма хораў. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.



Касцёл у в. Малькі.

## в. Манькавічы,
Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

За 0,5 км на захад ад вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю як фамільная пахавальня ўладальнікаў маёнтка князёў Друцкіх-Любецкіх[1].

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Плоскасны галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам, фланкіраваны руставанымі лапаткамі, прарэзаны прамавугольным уваходным праёмам у класіцыстычным партале, вылучаным тынкоўкай на фоне бутавай муроўкі сцяны. Бакавыя фасады прарэзаны 2 паладыянскімі аконнымі праёмамі. Пад будынкам крыпта-пахавальня (маецца мемарыяльная пліта: «Maria e Principibus Drucki-Lubecki CHLEWNO-CHLEWINSKA. 11/23 марта 1870»).

[1] Bulhak J. Polska w krajobrazach i zabytkach. Warszawa, 1930. T. II. S. 132.

## в. Маркава,
Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана ўзведзенай на 4-гранны сплошчаны зруб 4-слуповай шатровай навіссю, завершанай каваным крыжом.



Капліца ў в. Манькавічы.



Капліца ў в. Маркава.



Капліца пачатку 21 ст. ў в. Марцінаўцы.



Капліца пачатку 20 ст. ў в. Марцінаўцы.

## в. Марцінаўцы,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Пастаўлена ў пачатку 21 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам з фігурна зашытым трохвугольным франтонам на фасадзе. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарублены прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі.

### Капліца

На паўднёва-ўсходняй ускраіне, на могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з бутавага каменю.

Твор народнага дойлідства. Вырашана невялікім прамавугольным у плане павільёнам пад 2-схільным дашкам. З франтальнай грані адкрыта лучковым прасветам з крыжом на тарцовай сцяне.



Капліца Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Масаляны.

## в. Масаляны,

Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на беразе сажалкі насупраць былога палаца Біспінгаў. Пабудавана ў 1915 г., зачынена ў 1939 г., вернута і адбудавана ў 1991 г.

Помнік усходне-экзатычнага накірунку архітэктуры мадэрна. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам з паўкруглай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у канічны. Фасад вырашаны прамавугольным парталам, фланкіраваным гранёнымі пілонамі са спічастымі шпілямі ў завяршэнні. У канфігурацыі ўваходнага і аконных праёмаў выкарыстана гатычная арка-цюдор.

## г. Масты

Гродзенскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Тройчы Цудоўнай

Пабудаваны ў канцы 1992—97 гг. з цэглы (будаўніцтва пачата 6.4.1992) паводле праекта архітэктараў А.Штэна, І.Казлоўскага, Т.Чорнай, С.Мужэйка.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам, да якога далучаны 5-гранная апсіда з бакавымі нізкімі сакрысціямі і вузкі нартэкс з боку фасада. Стракаты сілуэт храма ствараюць зграбныя сігнатуркі са спічастымі шпілямі па цэнтры і бабках фасада і ў канцы 2-схільнага даху. Вось сіметрыі фасада адзначана прамавугольным уваходным парталам і высокім аконным прамавугольным праёмам над ім, над якім навісае 2-гранны эркер. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках.

## в. Мацавічы,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На заходняй ускраіне вёскі. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай тумбай пад шатровым пакрыццём. Грані прарэзаны прамавугольнымі зашклёнымі нішамі, у якіх пастаўлены гіпсавыя скульптуркі Хрыста і Дзевы Марыі.

## в. Мацькаўцы,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На заходняй ускраіне вёскі, каля шашы Вілейка—Барысаў. Пабудавана ў 1998 г. з цэглы і бетону на месцы драўлянай капліцы 1920-х гг.



Капліца ў в. Мацавічы.



Капліца ў в. Мацькаўцы.



Касцёл Маці Божай Тройчы Цудоўнай у г. Масты.

Вырашана арачнай сенню, узнятай на кубападобны п'едэстал. Унутры пастаўлена скульптура Маці Божай.

## в. Медрыкі,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі, каля шашы Астравец—Солы. Пастаўлена ў 19 ст. з бутавага каменю.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай прысадзістай вежай пад шатровым пакрыццём з металічным крыжом у завяршэнні. Грані крапаваны арачнымі нішамі.



Капліца ў в. Медрыкі.



Капліца ў в. Меляхі.

## в. Меляхі,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Каля дарогі Суботнікі—Геранёны. Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай прысадзістай 2-яруснай вежай пад пакатым шатровым пакрыццём з крыжом у завяршэнні. Першы ярус вертыкальна ашаляваны, другі адкрыты прамавугольнымі праёмамі

## г. Міёры

Віцебскай вобласці

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На ўсходнім беразе Мёрскага возера. Пабудаваны ў 1907 г. з чырвонай цэглы. У 1951 г. закрыты і



Інтэр'ер касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Міёры.

прыстасаваны пад гаспадарчыя мэты, але ў 1956 г. намаганнямі ксяндза Я.Грабоўскага быў вернуты парафіянам.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Манументальны 3-нефавы 2-вежавы храм з 5-граннай апсідай, да якой з паўднёвага боку далучана сакрысцея. Фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. Вось сіметрыі галоўнага фасада падкрэслена ўваходным парталам і акном-ружай. Трох'ярусныя вежы завершаны высокімі шпілямі, раскрапаваны вузкімі нішамі. Вежа-ліхтар завяршае цэнтральны аркатурны шчыт.

Унутры нефы перакрыты стральчатымі скляпеннямі. Над нартэксам на шырокай арцы ўчынены хоры з арганам. Драўляныя галоўны і кулісныя алтары, амбон выкананы ў стылі неаготыкі. Абразы «Маці Божая Ружанцовая» і «Іосіф з дзіцем» (пачатак 19 ст.), «Маці Божая Чанстахоўская» (1878), драўляная скульптура «Укрыжаванне» (19 ст.). У сцены ўмураваны мемарыяльныя дошкі князёў Святаполк-Мірскіх.

Каля касцёла пастаўлены помнік ненароджанаму дзіцяці (маст. А. Дранец). На плаху гільяціны пакладзена палавіна яблыка (сімвал граху), у якім зародыш дзіцяці. Над ім гатовы ўпасці нож гільяціны, але ад гэтага ратуе абраз Маці Божай, які пастаўлены паміж дзіцем і нажом.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Міёры.

## в. Міжэрычы,

Зэльвенскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1906—12 гг. з цэглы па праекце гродзенскага архітэктара В.А.Срокі[1]. У 1936 г. асвячоны віленскім біскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім. Зачынены ў 1946 г., адноўлены ў 1989 г.

Парафія створана ў 17 ст., першы драўляны касцёл пабудаваны ў 1622 г. па фундацыі Войцеха Клочкі, на ўнутранае ўбранне ахвяраваў грошы яго сын Мацей. У 1891 г. закрыты.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавы 1-вежавы храм з трансептам, 5-граннай апсідай з бакавымі сакрысціямі. Па цэнтры галоўнага фасада ўздымаецца высокая 3-ярусная шатровая вежа-званіца, бакавыя плоскасці фасада завершаны зубчастымі атыкамі. Аналагічна вырашаны франтоны крылаў трансепта. Сцены храма ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі і прарэзаны стральчатымі вокнамі-біфорыумамі. Асноўны архітэктурна-дэкаратыўны матыў — аркатурныя нішы і паясы. Другі ярус вежы (верхні 8-гранны ярус не быў дабудаваны) і тарцы трансепта дэкарыраваны шырокім аркатурным поясам. Галоўны і бакавыя ўваходы вырашаны перспектыўнымі стральчатымі парталамі з востраканцовымі вімпергамі.

У інтэр'еры — плоская столь. Абраз «Маці Божая Міжэрыцкая» 17 ст. (да 1640) у раме ракайльнага стылю (96,3 × 74,4 см). Твары Маці Божай і дзіцяці ўпрыгожаны каронамі і вотумамі. З 1911 г. ўзгадваецца каштоўны арнат з вышытай на ім выявай Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 1818, арк. 23, 42.



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Міжэрычы.

## в. Мікалаева,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл

У паўднёвай частцы вёскі. Пабудаваны ў пачатку 19 ст. з цэглы. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Франтальны фасад завершаны трохвугольным франтонам, вылучаны па цэнтры лучковым уваходным праёмам і паўкруглай люкарнай над ім, фланкіраваны арачнымі нішамі-экседрамі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках.



Касцёл у в. Мікалаева Міёрскага раёна.

## в. Мікалаева

Шумілінскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца Спаслання Святога Духа

На заходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы.



Капліца Спаслання Святога Духа ў в. Мікалаева Шумілінскага раёна.





Касцёл Наведзінаў Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Мікелеўшчына.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Уваход вылучаны 2-слуповым ганкам пад стромкім 2-схільным пакрыццём. Бакавыя плоскасныя фасады расчлянёны 2 парамі прамавугольных аконных праёмаў.

## в. Мікелеўшчына,
Мастоўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Наведзінаў Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1823 г. з цэглы па фундацыі Багуміла Бутаўт-Андрэйковіча[1].

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад крапаваны лапаткамі і завершаны прамавугольным атыкам, над якім узведзена 4-гранная званіца пад сферычным купалам са шпілем. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

Інтэр'ер пакрыты фрэскавай размалёўкай — архітэктурным карнізам з анёламі (верхняя частка сцен), кесонамі з разеткамі і медальёнамі з выявамі евангелістаў на столі.

---

[1] Hirszel S.Z. Przyczynki do monografji pow. Grodzieńskiego. Grodno, 1923. S. 39.

## в. Мілавіды,
Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

За 5 км на захад ад в. Мілавіды, каля шашы Івацэвічы—Слуцк, недалёка ад в. Каўпакі. Пастаўлена ў 1930—33 гг. з цэглы на месцы адной з буйнейшых бітваў падчас паўстання 1863—64 гг. Прамавугольны ўчастак помніка акаймаваны нізкімі гранёнымі слупамі. У 1988 г. непадалёк устаноўлены памятны знак. На месцы пахавання рускіх вайскоўцаў пастаўлены чыгунны крыж на пастаменце.

Помнік мемарыяльнай архітэктуры неакласіцызму. Вырашана ўзнесенай на квадратны пастамент 4-граннай ратондай, накрытай пакатым 8-гранным дашкам (раней гранёным сферычным купалам) з каваным крыжом у завяршэнні. Грані прарэзаны арачнымі прасветамі з архівольтамі, крапаваны вугलавымі паўкалонамі, якія нясуць шырокі антаблемент. У прамавугольным плакетках цокаля — памятныя надпісы.

## в. Мілуці,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца





Капліца ў в. Мілавіды.



Капліца ў в. Мілуці.

Узведзена ў 19 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным прысадзістым слупом пад шатровым пакрыццём. Грані крапаваны прамавугольнымі зашклёнымі нішамі з культавай атрыбутыкай.

## в. Мілюнцы (Пеліканы),

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі да в. Вайнюнцы. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Вырашана 8-граннай ратондай пад шатровым дахам, завершаным крыжом. Атынкаваныя сцены прарэзаны арачнымі аконнымі і ўваходным праёмамі.



Капліца ў в. Мілюнцы.

### Касцёл святога апостала Якуба

У заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1907 г. з цэглы. У 1949 г. закрыты. У 1990—94 гг. адноўлены.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Манументальная 3-нефавая 2-вежавая базіліка з трансептам. Галоўны фасад мае дынамічную вертыкальна накіраваную трактоўку, яго сілуэт фарміруюць чацверыковыя 3-ярусныя шатровыя вежы і 2-схільны шчыт паміж імі, крапаваны стральчатай аркатурай. У шырокай стральчатай арцы над уваходным парталам размешчана невялікае акно-ружа. Фасады прарэзаны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. У дэкоры фасадаў выкарыстаны круглыя разеткі з рэльефнымі крыжамі.



Касцёл святога апостала Якуба ў в. Мілюнцы.

## в. Мінойты,

Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1928—30 гг. з дрэва.

Помнік архітэктуры мадэрна. Вырашаны прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным па краях 4-граннымі шатровымі званіцай і сігнатуркай. Уваход праз нізкі прамавугольны ў плане прытвор пад 2-схільным пакрыццём, над якім



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Мінойты.



Капліца канца 19 ст. на Кальварыйскіх могілках у г. Мінск.

на франтоне даху прарэзана круглая люкарна. Бакавыя вертыкальна ашаляваныя фасады рытмічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

## г. Мінск

### Капліца

На Кальварыйскіх могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным пакрыццём. Плоскасныя атынкаваныя фасады прарэзаны гарызантальнымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі з арачнымі перамычкамі, акаймаванымі прамавугольным парталамі.

### Капліца

На Кальварыйскіх могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны трохвугольным франтонам з крыжом на 4-гранным пастаменце. Плоскасныя фасады прарэзаны прамавугольным уваходным праёмам, крапаваны бакавымі арачнымі нішамі і вуглавымі пілястрамі, апяразаны прафіляваным карнізам з шырокім антаблементам.



### Капліца

На Кальварыйскіх могілках. Узведзена ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы як пахавальня Віткевічаў (бела-мармуровая мемарыяльная пліта над уваходам).

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашана прамавугольным у плане кампактным аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Уваходны праём і нішы бакавых фасадаў стральчатай гатычнай формы. Вуглы ўмацаваны контрфорсамі, унутры перакрыта скляпеннем.

### Капліца



Капліца 2-й палавіны 19 ст. на Кальварыйскіх могілках у г. Мінск.



Капліца-пахавальня 2-й палавіны 19 ст. на Кальварыйскіх могілках у г. Мінск.



Капліца-пахавальня пачатку 20 ст. на Кальварыйскіх могілках у г. Мінск.

На Кальварыйскіх могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры мадэрна. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам з асіметрычна высунутым бакавым рызалітам; накрыта пе-



Капліца-пахавальня пачатку 20 ст. на Кальварыйскіх могілках у г. Мінск.



Капліца-пахавальня пачатку 20 ст. на Кальварыйскіх могілках у г. Мінск.

ракрыжаванымі паўвальмавымі дахамі. Прамавугольныя плоскасці фасадаў завершаны трапецападобнымі шчытамі над такой жа формы бакавымі аконнымі праёмамі і перспектыўным уваходным парталам. Рысы мадэрна прасочваюцца ў крыжовых пераплётах вокнаў і філёнгавай крапоўцы 2-створкавых дзвярэй.

## Капліца

На Кальварыйскіх могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як пахавальня.

Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасады расшыты па тынкоўцы рустам, апяразаны шырокім прафіляваным карнізам-антаблементам, крапаваны вуглавымі пілястрамі (класіцыстычная рэтраспекцыя). Прамавугольны ўваходны праём аформлены стылізаваным гатычным парталам, завершаным стральчатай аркай і бакавымі пінаклямі.

## Капліца

На Кальварыйскіх могілках, побач з Крыжаўздзвіжанскім касцёлам. Узведзена ў пачатку 20 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік «цаглянага» напрамку архітэктуры мадэрна. Фасад прамавугольнага ў плане аб'ёму рытуальнага памяшкання вырашаны 2-яруснай плоскасцю, завершанай трохвугольным франтонам і вуглавымі пінаклямі, крапаванай лапаткамі абапал шырокага лучковага ўваходнага праёма.

## Капліца

На Кальварыйскіх могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы і бетону як пахавальня. Захавалася ў рэштках.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Фасад прамавугольнага ў плане аб'ёму (не захаваўся) быў вырашаны прысадзістай перспектыўнай стральчатай аркай.

## Капліца



Капліца-пахавальня 1855 г. на Кальварыйскіх могілках у г. Мінск.

На Кальварыйскіх могілках. Пабудавана ў 1855 г. з цэглы як пахавальня біскупа-наміната Паўла Равы (металічная мемарыяльная дошка над уваходам).



Капліца-пахавальня пачатку 20 ст. з цэглы і бетону на Кальварыйскіх могілках у г. Мінск.



Капліца ў мікраранё Вяснянка г. Мінск.



Капліца Маці Божай Будслаўскай у г. Мінск.



Капліца Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Мінск.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму (ампіру). Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад прарэзаны арачным уваходным праёмам, крапаваны пілястрамі і паўкалонкамі паміж імі, завершаны 4-ступеньчатым франтонам. Бакавыя плоскасныя фасады прарэзаны паўкруглымі люкарнамі. Зала перакрыта скляпеннем.

## Капліца

На могілках у мікраранё Вяснянка. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як пахавальня Вярыгаў. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры класіцызму. Цэнтрычнае квадратнае ў плане збудаванне, крапаванае вугламі лапаткамі.

## Капліца Маці Божай Будслаўскай

У мікраранё Кунцаўшчына. Пабудавана ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Вырашана працяглым прамавугольным у плане аб'ёмам з 2-граннай алтарнай часткай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы, завершаны 4-граннай сігнатуркай. Фасад завершаны 4-граннай шатровай вежай-званіцай. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Уваход праз кароткі прамавугольны ў плане прытвор пад 2-схільным пакрыццём.

## Капліца Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На праездзе Чыжэўскіх, у былым сядзібна-парkавым комплексе Лошыца. Пабудавана з цэглы як пахавальня ўладальнікаў маёнтка Прушынскіх[1]. Захавалася ў рэштках.

Помнік архітэктуры барока. Вырашана 8-граннай ратондай пад шатровым дахам з заломам, завершаным шлемападобным купалкам на 8-гранным барабане. Франтальная, тыльная і бакавыя грані былі завершаны фігурнымі франтонамі з бакавымі валютамі, прарэзаны арачнымі аконнымі праёмам і авальнымі люкарнамі над імі; дыяганальныя грані мелі па адным арачным акне. Грані аб'ёму крапаваны пілястрамі, апяразаны тонкапрафіляваным антаблементам, прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі. Прамавугольны ўваходны праём дэкарыраваны трохвугольным франтонам, над якім размешчана авальная люкарна. У інтэр'еры сцены крапаваны здвоенымі пілястрамі.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 333; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. Wilno, 1909. S. 115.

## Капліца святога Яна Хрысціцеля

У мікраранё Серабранка, на вул. Пляханава. Пабудавана ў 2001—02 гг. паводле праекта архітэктара А.Яроменкі.

Вырашана працяглым прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам з вальмай і 2-гранным заломам над алтарнай часткай. Узнята на высокі бутавы цокаль. Над фасадам узведзена 4-гранная вежа-званіца пад стромкім шатром. Уваход аформлены прамавугольным прытворам пад 2-схільным пакрыццём са стральчатым адкрытым праёмам. Бакавыя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і невялікімі квадратнымі акенцамі. У інтэр'еры адкрыта кроквенная драўляная канструк-



Капліца святога Яна Хрысціцеля ў г. Мінск.

цыя даху і перакрыцця. Алтар вырашаны крыжом на контражурным фоне рамбічнага аконнага праёма.

## Касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі і кляштар езуітаў

У гістарычным цэнтры горада, на пл. Свабоды. Пабудаваны ў 2-й палавіне 17 — пачатку 18 ст. з цэглы. Да канца 18 ст. кляштар з'яўляўся буйнейшым ансамблем Высокага рынку, займаў яго



Касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі і кляштар езуітаў у г. Мінск.

паўднёва-заходні бок і большую частку вул. Койданаўскай (сучасная Рэвалюцыйная) да перасячэння з вул. Феліцыянскай (сучасная Камсамольская). Складаўся з 3 асноўных мураваных будынкаў, выцягнутых па фронце забудовы плошчы, — касцёла, далучаных да яго школы і калегіума.

У 1654 г. смаленскі біскуп Геранім Уладзіслаў Сангушка зрабіў запіс на фундацыю езуіцкай місіі (80 тыс. злотых)[1], набыў ім у мешчаніна Ягора Гегера сядзібу на Высокім рынку (мураваны і драўляны жылыя дамы, стайня, свіран і іншыя гаспадарчыя пабудовы)[2]. Фундатарамі кляштара выступалі таксама князі Т. і Е. Улоўскія (у 1665 ахвяравалі маёнтак Нача і 5 тыс. злотых), Ц.П. и К.К. Бжастоўскія (у 1680 ахвяравалі маёнтак Ніжыцы ў Аршанскім павеце, 50 тыс. злотых і абраз «Маці Божая», у 1682 — маёнтак Ніжняе ў Мінскім ваяводстве), Лукомскія, М.Агінскі ( 50 тыс. злотых у 1685) і інш. Каралі Рэчы Паспалітай надалі кляштару шэраг прывілеяў: Міхаіл Вішнявецкі — права збору налогаў, Аўгуст III — права бяспошліннага гандлю. У 1683 г. адкрыта езуіцкая школа, у якой 6 (потым 12) духоўнікаў выкладалі рыторыку, паэзію, граматыку і іншыя дысцыпліны, меўся школьны тэатр. У 1699 г. была пабудавана новая школа (у 1773 пераўтворана ў свецкую 6-класную). Варшаўскі сейм 1683 г. замацаваў за кляштарам шэраг фундушаў і падкрэсліў важнасць адкрыцця езуіцкай навучальнай установы: «Лічым надзвычай патрэбным у нашым горадзе Мінску сярод многіх дысідэнтаў памнажэнне славы Божай, улічваючы неабходнасць вышэйшых школ для шляхецкай моладзі...»[3]. Прымаліся на вучобу за плату дзеці багатых мяшчан, аднак набіралі і 30 вучняў з беднаты, для якіх мелася бурса-інтэрнат. У 2-паверховым будынку калегіума месціліся пакоі прафесуры і магістраў, навучэнцы жылі на прыватных кватэрах (называліся стацыямі). З 1686 г. місія пераўтворана ў рэзідэнцыю, з 1714 г. — калегіум (рэктар А.Бжастоўскі). У 1699 г. скончана будаўніцтва 2-павярховага будынка школы, у 1716 г. (паводле іншых звестак 24.4.1700) пачата будаўніцтва мураванага касцёла замест драўлянага, завершанае да 1747 г. (называўся касцёлам Ісуса, Найсвяцейшай Дзевы Марыі і св. Барбары). У 1722 г. да касцёла з поўначы прыбудаваны 2-павярховы Г-падобны ў плане корпус калегіума (пашкоджаны пажарам у 1738) з 3-ярусвай купальнай вежай. У 1749 г. побач з касцёлам пабудавана аптэка. Пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 г. калегіум закрыты і перададзены Эдукацыйнай камісіі, касцёл стаў парафіяльным. Будынак калегіума рэканструяваны ў 1797 г. пасля пажару мінскім губернскім архітэктарам Ф.Крамерам. З 1799 г. ў будынку школы размясціліся прысутныя месцы і Дом губернатара з дваранскім сходам (з 1820 гарадская дума, з 1852 казённая палата). Паводле ўказа імператара Паўла I ад 28.4.1798 г. касцёл стаў кафедральным; пасля 1820 г. перайменаваны ў Марыінскі сабор. Выгляд





Касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі і кляштар езуітаў у г. Мінск.



Інтэр'ер касцёла Найсвяцейшага Імя Марыі ў г. Мінск.

кляштара вядомы па акварэлі Н.Орды (2-я палавіна 19 ст.) і малюнку Д.Струкава 1864 г. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. будынкі выкарыстоўваліся пад свецкія ўстановы. У час нямецка-фашысцкай акупацыі касцёл дзейнічаў, але будынак калегіума значна пацярпеў і ў 1951 г. быў знесены, на яго месцы пабудаваны жылы дом (пл. Свабоды, 11). У 1951 г. касцёл пераабсталяваны пад будынак спартыўнага таварыства «Спартак» (архітэктар М.Драздоў). У 1983 г. распрацаваны праект рэстаўрацыі касцёла (архітэктары А.Курто, А.Сухоцкі, В.Жаўняк). У ліпені 1990 г. вернуты прыхаджанам. Адноўлены ў 1993— 2005 гг. (кіраўнік рэстаўрацыі польскі архітэктар В.Вільк). Архітэктурныя работы праводзілі будаўнікі з польскага г. Замасць (навуковы кіраўнік Е.Кавальчык), кансервацыю жывапісу інтэр'ера праводзілі беларускія спецыялісты (кіраўнік рэстаўратар А.С.Шпунт).



Ва ўнутраным двары знаходзіліся амбар, стайня, бровар, кузня і іншыя гаспадарчыя пабудовы[4]. Аднясенне касцёла ў глыб двара адносна бакавых карпусоў стварала перад ім невялікі ўтульны курданёр, у якім справа месціўся водаправод, злева — лаўка.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока. Трохнефавая 2-вежавая 6-слуповая базіліка з паўкруглай апсідай, абапал якой размешчаны 2 капліцы: Троіцкая (фундавана трокскім ваяводам К.Бжастоўскім) і Феліцыянаўская (фундатар К.Завіша, 1722), завершаныя купаламі на гранёных светлавых барабанах. Фасад фланкіраваны 5-ярuснымі купальнымі вежамі (дабудаваны ў 1731—32, разабраны ў 1950-я гг.), адна з якіх з'яўлялася званіцай, другая мела куранты гданьскай работы. Фасад падзелены на 2 ярусы складанапрафіляваным карнізам і ўвенчаны фігурным франтонам, дэкарыраваны іанічнымі калонамі і пілястрамі. У арачных нішах-экседрах скульптурныя выявы святых апосталаў Пятра і Паўла (на вежах), Дзевы Марыі (на франтоне). Пластыка-дэкаратыўным акцэнтам галоўнага фасада з'яўляецца прысценны 4-калонны порцік з лучковым франтонам. Над карнізам порціка размешчаны балкон з балюстраднай агароджай. Фасад крапаваны іянічнымі пілястрамі, карнізнымі цягамі, плоскімі нішамі, арачнымі аконнымі праёмамі, вазамі на між'ярусных карнізах вежаў і на франтоне. Бакавыя фасады расчлянёны арачнымі і лучковымі аконнымі праёмамі і шырокімі пілястрамі ў прасценках. Магутная паўкруглая апсіда завершана фігурным франтонам. На вежы-званіцы былі навешаны 4 званы: Якуб (350 пудоў), Феліцыян (250 пудоў), Павел (48 пудоў, у гонар Т.Рэйтана — навагрудскага пасла на сейм 1773), Казімір (20 пудоў)[5]. На другой вежы ў 1739 г. былі размешчаны куранты, прывезеныя з Гданьска. Падвешаны ў ёй вялікі звон, адліты ў Каралеўцы (г. Кёнігсберг, Прусія; цяпер г. Калінінград, Расія), быў названы ў гонар фундатара Язэпам Салагубам. У 1751 г. касцёл быў пакрыты галандскай дахоўкай.

Унутры цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках і падпружных арках, бакавыя — крыжовымі (выкладзены ў 1705), якія падтрыманы насценнымі шырокімі пілястрамі і 6 міжнефавымі пілонамі (крапаваны пілястрамі з залачонымі капітэлямі). На іх франтальных гранях былі кансольна ўстаноўлены 12 скульптур апосталаў. Апсіда аддзелена высокім арачным прасветам (раней 4-калонным порцікам з трохвугольным «разарваным» франтонам), перакрыта конхай з распалубкамі і магутнымі гуртамі. Цэнтральны неф падсвечаны верхнімі лучковымі вокнамі, у аснаванні яго скляпення магутны прафіляваны карніз з фрэскавым арнаментальным фрызам і абходнай галерэяй з кованай агароджай. У прэсбітэрыі меліся 2 амбоны, пад імі лаўкі-сталы для кліру, упрыгожаныя абразамі евангелістаў. У час рэстаўрацыі 1853 г. амбоны зняты, на іх месцы пастаўлены 2 алтары святых Юзафа і Барбары, а на 3-м слупе навешана ка-

федра. У прэсбітэрыі была ўстаноўлена кафедра біскупа. Галерэя хораў адкрываецца ў неф цэнтральнай фігурна-хвалістай і 2 бакавымі аркамі.

Барочна-ракайльную мастацка-стылёвую цэласнасць інтэр'ер, створаны ў 1708 г., страціў у выніку аднаўлення пасля пажару ў жніўні 1797 г. Работамі кіраваў біскуп Якуб Дзядзерка, у 1798—1800 гг. сцены і скляпенні былі размаляваны «мэтрам Казімірам Анташэўскім, вядомым сваёй работай у 11 касцёлах Мінскай дыяцэзіі» (зараз роспісы фрагментарна раскрыты). Тэматыка роспісаў — таінствы Старога і Новага Запаветаў, сюжэты з гісторыі касцёла. Пры міжнефавых слупах меліся алтары св. Антонія, Беззаганнага Зачацця, св. Роха, Маці Божай Ружанцовай (перанесены ў 1864 з касцёла бернардзінцаў) і 12 скульптур апосталаў (не захаваліся). Алтарныя абразы выкананы мастакамі С.Чаховічам і Ю.Аляшкевічам. У галоўным алтары знаходзіўся абраз св. Дзевы Марыі, падараваны ваяводам Цыпрыянам Бжастоўскім адразу пасля ўзвядзення касцёла (верагодна, напісаны мастаком Я.Брэтзерам у 1721—22[6]). Алтар св. Яна Хрысціцеля створаны і ўпрыгожаны на сродкі мінскага гарадскога суддзі Адама Свалынскага, на алтар Станіслава Косткі вылучыў сродкі Францішак Валадковіч, на алтар св. Ігнація — смаленскі канонік Мікалай Прарадоўскі. Ён жа ахвяраваў касцёлу драўляную скульптуру Дзевы Марыі і 24-галосы арган. Пры магутных міжнефавых пілонах размяшчаліся кулісныя алтары і 12 скульптур апосталаў над імі. Значныя змены афармленне інтэр'ера атрымала ў 1850-я гг. (віленскія мастакі Валасевіч і Таргонскі, мінскі губернскі архітэктар К.М.Хршчановіч). У пачатку 21 ст. паводле праекта польскага архітэктара В.Вілька створаны алтар: разгорнутая 3-гранная каланада з антабламентам, у цэнтральным інтэркалумніі якой размешчаны абраз Дзевы Марыі, падараваны кардыналу Казіміру Свёнтаку папай Янам Паўлам II у 2004 г. ў 2005 г. на хорах усталяваны арган фірмы «Пфлюгер Оргельбаў», перададзены касцёлу ў якасці дабрачыннай дапамогі ад секцыі касцельнай музыкі біскупскай курыі дыяцэзіі Грац Секаў у Аўстрыі.

У правым нефе мелася капліца Найсвяцейшай Тройцы, фундаваная трокскім ваяводам Ц.Бжастоўскім. У левай частцы касцёла была капліца рыцара і мучаніка Феліцыяна з яго мошчамі, створаная ў 1719 (22) г. на сродкі мінскага ваяводы Крыштафа Станіслава Завішы (1666—1721, тут быў і пахаваны). У капліцах месціліся партрэты найбольш шчодрых фундатараў і біскупаў; у крыпце пад алтаром знаходзіліся іх пахаванні (перазахаваны пасля пажару 1797).

---

[1] Дзянісаў Ул. Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996. С. 9.

[2] Беларускі архіў. Т. 3. С. 178; Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 103, 125—127; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T. I. S. 165—170.



Размалёўка скляпенняў касцёла Найсвяцейшага Імя Марыі ў г. Мінск.

[3] Беларускі архіў. Т. 3. С. 250.

[4] Historia Collegii Minscensis. — Archivum Romanum Societatis Jezu. Lit. 44—55.

[5] Chodźko D. Zapiski Jana Chodźki o niektórych kościołach na Litwie // Pamiętnik religijno-moralny. 1859. Ser. 2. T. 4. S. 37.

[6] Poplatek J. — Paszenda J. Słownik jezuitów artystów. Kraków, 1972. S. 88—89.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха, Залатагорскі)

У цэнтры горада, каля перакрыжавання праспекта Незалежнасці з вул. Казлова, на былых каталіцкіх могілках Залатая Горка (існавалі з 1796, у 1893 закрыты). Пабудаваны ў 1861—64 гг. з цэглы паводле праекта акадэміка Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў М.Сівіцкага (кіраваў будаўніцтвам ксёндз Ф.Гарбачэўскі).



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха, Залатагорскі) у г. Мінск.



Інтэр'ер касцёла Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха, Залатагорскі) у г. Мінск.

Першы Троіцкі касцёл у Мінску быў пабудаваны з дрэва па фундацыі польскага караля Ягайлы, але 14.8.1409 г. будынак згарэў[1]. У 1752 г. пры касцёле заснаваны кляштар манахаў-рахітаў[2]. У 19 ст. тут, сярод могілак, стаяла невялікая драўляная капліца (6 × 6 × 4 саж.), у якую ў 1840 г. была перанесена служба з закрытага ў 1832 г. дамініканскага касцёла і якая ў 1842 г. атрымала статус парафіяльнага (прыходскага) касцёла. У 1861 г. біскуп Адам Вайткевіч атрымаў дазвол на будаўніцтва мураванага храма. Яго цвінтар быў абнесены драўлянай агароджай з мураванай брамай, вырашанай у адзіным стылі з храмам. На будаўніцтва касцёла зрабілі ахвяраванні навакольныя памешчыкі Шыман Леановіч (14 тыс. руб.), Ігнацій Ласкарэвіч (5 тыс. руб.), Антаніна Камінская (3 тыс. руб.) і інш. Пры касцёле ксяндзом Ф.Сенчыкоўскім была заснавана вядомая школа арганістаў, дзейнічала парафіяльная школа, меўся прытулак для ўбогіх. Пасля рэстаўрацыі 1983—84 гг. будынак касцёла прыстасаваны пад залу камернай музыкі Беларускай дзяржаўнай філармоніі, з 1991 г. ў храме ў вольны ад канцэртаў час вяліся богаслужэнні. У 2006 г. касцёл поўнасцю перададзены вернікам.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашаны 1-нефавым 1-вежавым, прамавугольным у плане аб'ёмам з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Накрыты 2-схільным дахам з вальмамі над апсідай. Фасад завершаны 2-яруснай 4-граннай шатровай вежай; вуглавыя ступеньчатыя контрфорсы — невялікімі фіяламі. Уваход мае выгляд высокага спічастага партала. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі і контрфорсамі ў прасценках, апяразаны карнізам і фрызам.

У інтэр'еры цэнтральны неф і апсіда перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, нартэкс — крыжовым. Сцены крапаваны пілястрамі, аб'яднанымі карнізам. Начынне касцёла (алтар, амбон, хоры) таксама было выканана ў формах готыкі з дрэва і пафарбавана пад мармур. Над галоўным алтаром быў змешчаны старажытны абраз Маці Божай з Ісусам у металічным абкладзе; бакавы правы алтар з цудатворнай скульптурай св. Роха, абапал якой постаці святых Міхаіла і Габрыэля; бакавы левы алтар св. Антонія з фігурамі святых Лукаша і Яна. На хорах быў устаноўлены арган. У апсідзе ў 1984 г. чэхаславацкія майстры ўстанавілі сучасны электрычны арган, абапал якога ў нішах — драўляныя скульптуры (скульптар Л.Давыдзенка). Пры ўваходзе ў залу керамічная скульптура «Музыка», у нішах былой крыпты — дэкаратыўныя скульптуры (народныя персанажы; паліваная кераміка; мастакі М.Байрачны, В.Прыешкін). Вокны з арнаментальнымі вітражамі.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T.I. S. 172—177.

[2] Дзянісаў Ул. Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996. С. 11.



Касцёл святога Юзафа Абручніка і кляштар бернардзінцаў у г. Мінск.



## Касцёл святога Юзафа Абручніка і кляштар бернардзінцаў

У гістарычным цэнтры горада, на вул. Кірылы і Мяфодзія. Заснаваны ў 1624 г. як храм кляштара манахаў-бернардзінцаў па фундацыі краснасельскага старосты Андрэя Кенсоўскага і яго жонкі Гальшкі (з Ляўковічаў), якія падаравалі бернардзінцам пляц з драўляным домам на Высокім рынку (фундацыя пацверджана ў 1625 каралём Жыгімонтам III Вазай і віленскім біскупам Яўстафіем Валовічам у 1628)[1]. Драўляныя касцёл і канвент збудаваны ў 1630-я гг., але ў 1644 г. згарэлі. У 1644—52 гг. узведзены мураваныя касцёл і кляштар, якія ў 1656 г. таксама

згарэлі. У хуткім часе яны адноўлены з дабудаванай у 1676 г. мураванай капліцай па фундацыі Крыштофа Станіслава Завішы (у яе крыпце адбываліся пахаванні прадстаўнікоў знатных родаў: Завішаў, Кенсоўскіх, Тышкевічаў, Хмараў і інш.). Аднак, наведаўшы кляштар у 1697 г., рускі стольнік П.Талстой адзначыў касцёл як «небогатого строения»[2]. Перабудаваны ў 1752 г. пасля пажараў 1738 і 1740 гг. У 1753 г. на ахвяраванні рэчыцкага харунжага Я.Юдзіцкага (8 тыс. злотых) пры кляштары заснавана брацтва св. Ганны, дзейнічала школа філасофіі (у 1753—99 — 8—10 навучэнцаў, 2 выкладчыкі). У 1819 г. заснавана пачатковая школа з навучаннем па сістэме Бэла—Ланкастэра (88 вучняў), у 1830 г. ў кляштары было 13 манахаў і 12 клірыкаў. Зноў пашкоджаны пажарамі ў 1809 і 1835 гг., але ў хуткім часе адноўлены. Манастырскі комплекс, які ўключаў касцёл св. Іосіфа, жылыя дамы, трапезную, школу, шпіталь, 2 стайні, півеварню і іншыя гаспадарчыя пабудовы (захаваліся часткова), уваходзіў у ансамбль пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды) і вул. Бернардзінскай (сучасная вул. Кірылы і Мяфодзія). З паўднёвага боку каля касцёла ў 1810—17 гг. пабудаваны гандлёвыя рады (зберагліся часткова). У 1864 г. кляштар скасаваны і пераўтвораны ў праваслаўны мужчынскі Свята-Духаў манастыр. У 1864 г. манастырскія будынкі часова выкарыстоўваліся пад следчую турму для ўдзельнікаў паўстання 1863—64 гг., пазней перададзены ваеннаму ведамству. З 1872 г. пасля скасавання касцёла ён выкарыстоўваўся пад архівы. У 1984 г. фасады касцёла рэстаўрыраваны (архітэктар Г.П.Босак). З 1992 г. Архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі і Архіў-музей літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры позняга барока. Трохнефавая 6-слуповая бязвежавая базіліка з 5-граннай апсідай, накрыта агульным высокім 2-схільным дахам. Бакавыя нефы ўтвараюць па 3 злучаныя паміж сабой капліцы, накрытыя 1-схільнымі дахамі. У архітэктуры пануе пластычны сілуэт галоўнага фасада, які мае хвалістую паверхню, раскрапаваную 4 шырокімі іанічнымі пілястрамі на 3 часткі, цэнтральная з якіх завершана фігурным шчытом з валютамі па баках. Уваход вырашаны шырокім парталам, над якім прабіта вялікае 3-лопасцевае арачнае акно хораў, абапал якога паміж пілястрамі — нішы, дзе стаялі стукавыя скульптуры святых. Сцены бакавых фасадаў расчлянёны арачнымі і лучковымі аконнымі праёмамі і шырокімі пілястрамі ў прасценках, контрфорсамі на апсідзе.

Унутры цэнтральны неф быў перакрыты цыліндрычным скляпеннем (абрынулася ў гады Вялікай Айчыннай вайны), бакавыя капліцы (адна фундавана ў 1676 К.Завішам) — крыжовымі. Скляпенне над прэсбітэрыем мела фрэскавы роспіс. У тоўшчы сцяны галоўнага фасада вітыя лесвіцы на хоры і ў склеп. Дэкор і жывапіс 9 алтароў, за выключэннем



Касцёл святых Сымона і Алены (Чырвоны) у г. Мінск.

лепкі капітэляў пілястраў і слупоў, не захаваліся. Алтары св. Антонія, Бязгрэшнага Зачацця, св. Роха, Маці Божай Ружанцовай у 1864 г. перанесены ў касцёл езуітаў. У сакрысціі меліся 3 партрэты апекуноў кляштара генерала Мараўскага, памешчыкаў Станішэўскага і Чапскай. На хорах быў пастаўлены 10-галосы арган, які ў пачатку 19 ст. быў заменены на новы «на 22 галасы і з 4 мяхамі». У выніку апошняй рэканструкцыі (пачатак 1960-х гг.) прастора залы расчлянёна на паверхі 2 жалезабетоннымі перакрыццямі.

З паўночнага ўсходу да касцёла прыбудаваны П-падобны ў плане к л я ш т а р н ы  к о р п у с. Архітэктурны рытм фасадаў ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы і пілястры ў прасценках. Галерэйная планіроўка аб'ядноўвае манаскія келлі, трапезную, бібліятэку і інш. Тэрыторыя кляштара была абнесена мураванай сцяной (захавалася часткова) з брамай.




[1] Шчакаціхін М. Помнікі старадаўняе архітэктуры. XVII—XVIII ст.ст. у Менску // Запіскі аддз. гуманіт. навук. 1928. Кн. 6. С. 16; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym opisana. Warszawa, 1846. T. III. S. 819.

[2] Денисов В.Н. Площадь Свободы в Минске. Мн., 1985. С. 49.

## Касцёл святых Сымона і Алены (Чырвоны)

У цэнтры горада, на плошчы Незалежнасці. Пабудаваны ў 1905—10 гг. з чырвонай цэглы.

У 1905 г. да міністра ўнутраных спраў князя Святаполк-Мірскага была накіравана дэпутацыя мін-

Касцёл святых Сымона і Алены (Чырвоны) у г. Мінск.





Інтэр'ер касцёла святых Сымона і Алены (Чырвонага) у г. Мінск.



Скульптура «Архангел Міхаіл» каля касцёла святых Сымона і Алены (Чырвонага) у г. Мінск.

скіх гараджан-католікаў за дазволам на будаўніцтва новага касцёла, які быў атрыманы мінскім дэканам ксяндзом Адамам Ако 9.5.1905 г.[1] Узвядзенне манументальнага храма ўзяў на сябе слуцкі павятовы суддзя Эдвард Вайніловіч — вядомы землеўладальнік, член Дзяржаўнага Савета Расійскай імперыі, старшыня Мінскага сельскагаспадарчага таварыства[2]. Разам з жонкай Алімпіяй (з Узлоўскіх) ён вырашыў узвесці касцёл у гонар сваіх заўчасна памерлых ад цяжкай хваробы дзяцей Сымона (1885—97) і Алены (1884—1903). Польскі архітэктар Т.Пайздэрскі (пры ўдзеле У.Марконі) стварыў праект буйнамаштабнага храма (адначасова праект рэалізаваны ў Ютрошыне ў Польшчы)[3]. Горад вылучыў пад касцёл участак, а створаны будаўнічы камітэт дакупіў суседнія пляцы, фундатары вылучылі сродкі ў 300 тыс. руб. Да будаўніцтва прыступілі ў маі 1905 г., увосень 1908 г. яно было завершана. 20.9.1910 г. магілёўскі архібіскуп Ключынскі асвяціў храм і зацвердзіў пры ім парафію (каля 9 тыс. вернікаў) на чале з ксяндзом Вітольдам Тамашэўскім. Па жаданні фундатара касцёл асвячоны ў імя святых Сымона і Алены, пры ўваходзе ўстаноўлена мемарыяльная пліта з іх імёнамі. Будаўніцтва ажыццяўлялі грамадзянскі інжынер Ф.Барановіч, варшаўскі архітэктар Г.Гай і яго фірма «Гай-Свянціцкі». Упрыгожаны касцёл на сродкі (1500 руб.) графа Э.Чапскага, сям'і Скірмунтаў (старажытны абраз Маці Божай) і інш. У 1909 г. на вежу ўзняты званы вагой у 2373 фунты. Храм разрабаваны ў 1923 г., закрыты і абсталяваны пад Дзяржаўны польскі тэатр БССР, перад вайной перададзены кінастудыі. У час вайны храм быў адкрыты для набажэнстваў, з 1946 г. выкарыстоўваўся пад кінастудыю «Беларусьфільм». У 1975 г. касцёл прыстасаваны пад рэспубліканскі творчы клуб кінематаграфістаў

(Дом кіно). З 1990 г. дзейнічае. 27.8.2000 г. адбылося асвячэнне касцёла пасля рэстаўрацыі (архітэктар Л.Іванова).

Касцёл — помнік архітэктуры неараманскага стылю (так званы «надрэйнскі рамантызм», мае аналогіі з германскімі раманскімі саборамі ў Бамбергу, Кёльне). Наконт выбару стылю храма яго фундатар Э.Вайніловіч пісаў: «Я пачаў знаёміцца з узорамі і разнастайнымі архітэктурнымі канцэпцыямі, не жадаў спыняцца на гатычным стылі, па-першае, таму што ён стаў вельмі распаўсюджаным на той час пры будаўніцтве каталіцкіх святынь у Расіі, па-другое, таму што вельмі адрозніваўся ад стылю праваслаўных храмаў, якія існавалі ў нашым краі, і гэтым быццам бы падкрэслівалі раздзел у веравызнаннях класаў нашага грамадства, і я спыніўся на раманскім стылі, росквіт якога прыпадае на час, калі ўсходняя царква існавала ў адзінстве з Рымам»[4]. Пры стварэнні храма Т.Пайздэрскі ажыццявіў складаны інтэлектуальна-творчы пошук новай, яшчэ не раскрытай прыгажосці архітэктуры сярэдневяковага раманскага стылю, новых выразных сродкаў і смелых кантрастных супастаўленняў, імкнуўся вырвацца з палону канонаў.

Касцёл уяўляе сабой 3-нефавую базіліку арыгінальнай асіметрычнай, складана дынамічнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі са змешчанай з восі фасада 50-метровай вежай-званіцай і 2 меншымі сіметрычнымі вежамі па баках паўкруглай апсіды (у канцы 20 ст. абкружана адміністрацыйным 3-павярховым крылом). Архітэктура выклікае ўражанне манументальнасці і гарманічнасці, адзінай узнёслай магутнай, суровай і аскетычнай масы. Цэнтральны неф і крылы трансепта накрыты перакрыжаванымі 2-схільнымі дахамі. Вертыкальнай дамінантай кампазіцыі з'яўляецца высотная 4-гранная 4-ярусная вежа пад высокім 2-схільным шатром, якая ўзвышаецца з паўночнага боку галоўнага фасада. Яе вертыкаль ураўнаважвае гарызантальна выцягнутая галерэя-аркада. Высокія шчыты фасада і крылаў трансепта апяразаны аркатурнымі і трыльяжнымі фрызамі, прарэзаны вялізнымі вокнамі-ружамі. Характэрна выкарыстанне раманскіх вокнаў-трыфорыумаў. Архітэктурны дэкор выкананы высакаякаснай цаглянай мураўкай (цэгла і чарапіца былі дастаўлены з Каўнаса, Чанстахова і Влацлаўка ў Польшчы). Над галоўным уваходным парталам размешчаны герб Вайніловічаў. У 1909 г. на званіцу былі ўзняты 3 званы: «Міхаіл» (2373 фунты), «Эдвард» (1287 фунтаў), «Сімяон» (760 фунтаў).

Унутры нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, дэкарыраваны арнаментальна-арабескавым роспісам. У інтэр'еры аконныя каляровыя вітражы і фрэскавы роспіс першапачаткова былі выкананы мастаком з Піншчыны Францішкам Бруздовічам[5]. У 1970-я гг. зроблены новыя вітражы, якія ўвасаблялі алегорыі 5 мастацтваў, і люстры з медзі (мастак Г.Вашчанка). Па патрабаванню Э.Вайніловіча «для захавання цэласнасці стылю ўсе мураваныя і скульптурныя работы ўнутры касцёла, як алтар, бронза, амбон, балясіны, падлога і інш., былі аддадзены ў адны рукі вельмі здольнага скульптара Зігмунта Ота з Варшавы»[6]. Мураваны алтар вырашаны 2-яруснай каланадай-аркадай (першапачаткова была размешчана скульптура «Укрыжаванне», перанесеная з фарнага касцёла ў Слуцку).


Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г. Мінск.

Побач з касцёлам біскупам Дзядзеркам пастаўлена плябанія (першапачаткова павінна была стаяць у канцы бакавой галерэі-аркады), якая адводзілася пад кансісторыю і жыллё прэлатаў і канонікаў. Вырашана ў адзіным з касцёлам архітэктурным стылі — мураваны Г-падобны ў плане 2-павярховы будынак пад 2-схільнымі дахамі. Перад касцёлам пастаўлена скульптура Міхаіла Архангела (скульптар І.Голубеў).

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T.I. S. 171—172.
[2] *Валынец А.* Вероисповедный вопрос в Западной России // Прибавления к церковным ведомостям. 1911. № 29. С. 1267—1268.
[3] Architekt. 1909. S. 13.
[4] Дзянісаў Ул. Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996. С. 19.
[5] Biesiada literacka. 1911. № 41. S. 295.
[6] Kunsthistorische bilderbogen. Lejpzig, 1886. Tafel 10.

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У заходняй частцы Мінска, на Кальварыйскіх могілках. Пабудаваны ў 1839—41 гг. з цэглы ў цэнтры могілак на ўзгорку як храм-кальварыя, на месцы драўлянага касцёла, разабранага ў 1830 г.[1]

Будаўніцтва ажыццёўлена на сродкі гараджан і ахвяраванні Ганны Паўлікоўскай (з Абуховічаў). У 1855 г. пашкоджаны маланкай, адрамантаваны бу-





Брама касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў г. Мінск.



Кляштар базыльян у г. Мінск.

даўніком Дамброўскім у 1874 г. У 1899 г. адрамантаваны. У 1930-я гг. закрыты. Да 1984 г. выкарыстоўваўся пад мастацкія майстэрні. Пасля рамонту вернуты прыхаджанам.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Аднанефавы з невялікім трансептам і прамавугольнай апсідай храм пад высокім 2-схільным дахам. На галоўным фасадзе выступае 2-ярусная квадратная ў сячэнні пад 2-схільным дахам званіца. У яе 1-м ярусе стральчаты ўваходны партал і акно над ім, другі ярус вылучаны стральчатым акном-біфорыумам і акном-ружай. Фасады апяразаны карнізам з сухарыкамі, аркатурнымі паясамі, па вуглах руставанымі лапаткамі. Бакавыя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. У дэкоры выкарыстаны рэльефныя крыжы.

Унутры зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і падпружнымі аркамі, якія апіраюцца на сценавыя пілоны. Пры ўваходзе на 2 слупах хоры. Інтэр'ер быў упрыгожаны абразамі мастака Я.К.Дамеля (каля 1840). На алтарнай сцяне знаходзіўся фрэскавы роспіс з выявамі Галгофы і Хрыста. Пад усім будынкам скляпеністая крыпта, у якой пахаваны мастак Я.К.Дамель (1840) і біскуп М.Ліпскі (1839).

Па восі касцёла сярод агароджы могілак у 1830 г. на сродкі Юрыя Кабылінскага ў гонар яго жонкі пастаўлена мураваная б р а м а — помнік архітэктуры ампіру. Прамавугольнае ў плане сіметрычна-восевай кампазіцыі збудаванне з вялікай цэнтральнай і 2 бакавымі аркамі-праходамі з каванымі кратамі. Франтальны фасад падзелены карнізам на 2 ярусы: 1-ы руставаны, 2-і дэкарыраваны ляпной вайсковай арматурай. Збудаванне завершана карнізам на дэнтыкулах і працяглым прамавугольным парапетам.

---

[1] Чарняўская Т., Ярашэвіч А., Брыкоўскі Р. Могілкі і памятнікі старадаўнасці // Rzymsko-katolicki cmentarz kalwaryjski w Mińsku na Białorusi. Warszawa, 1996. S. 401; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 177—178.

## Кляштар базыльян

На пл. Свабоды. Заснаваны ў 1617 г. па фундацыі уніяцкага мітрапаліта Антонія Сялявы на Высокім рынку: «пляц пустый, до церкви светого Духа, в рынку против ратуши лежачы... для побудования монастыра и школ»[1]. У 1634 г. нейкі багаты полацкі гараджанін ахвяраваў кляштару 2 тыс. злотых[2]. У 1633 г. пры кляштары існавала школа, у якой вывучаліся грэчаская, лацінская, стараславянская і польская мовы[3]. З пачатку 17 ст. дзейнічала друкарня, якая па загаду польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага аднавіла сваю дзейнасць з 1790 г.[4] У 1795 г. кляштар скасаваны і перададзены праваслаўнаму ведамству. Да 1799 г. тут знаходзілася рэзідэнцыя праваслаўнага архіепіскапа, потым Мінская губернская дваранская школа, пераўтвораная ў 1803 г. ў гімназію. Мелася багатая бібліятэка, у зборы якой знаходзіўся вядомы беларуска-літоўскі летапіс «Нікіфараўскі»[5]. У 1799—1801 гг. паводле праекта архітэктара Ф.Крамера да паўночна-ўсходняга боку кляштара дабудавана вялікае крыло з тэатральнай залай (Гарадскі прыватны тэатр). Пасля пажару 1835 г. кляштарны корпус у 1840—52 гг. перабудаваны паводле праекта архітэктара К.Хршчановіча пад прысутныя месцы[6]. У савецкі час будынак выкарыстоўваўся як Дом прафсаюзаў. Архітэктурны комплекс уключаў мураваныя касцёл Св. Духа (не захаваўся) і жылы корпус, які далучаўся да яго з паўднёвага боку.

К л я ш т а р н ы к о р п у с — помнік архітэктуры ампіру. Прамавугольны ў плане, выцянуты па папярочнай восі 2-павярховы будынак пад вальмавым дахам (3-і паверх надбудаваны ў 19 ст.). Франтальны фасад вылучаны па цэнтры неглыбокім рызалітам, руставаным на 1-м паверсе і завершаным прамавугольным ступеньчатым атыкам. Рэгулярны архітэктурны рытм ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы, дэкарыраваныя на 2-м паверсе прамалінейнымі сандрыкамі. Будынак апяразаны міжпавярховым прафіляваным поясам, па версе —

трыгліфным фрызам. Прамавугльны ўваходны праём адзначаны балконам з чыгуннай агароджай. Тыльны фасад расчлянёны рызалітамі і крапаваны пілястрамі ў прасценках. Памяшканні 1-га паверха перакрыты крыжовымі скляпеннямі, іх узаемасувязь калідорна-анфіладная.

[1] Беларускі архіў. Мн., 1930. Т. 3. С. 107.
[2] Там жа, с. 137, 178.
[3] Там жа, с. 174.
[4] Никрит. Историко-статистическое описание храмов в Белоруссии. СПб., 1864. С. 94.
[5] Полное собрание русских летописей. М., 1980. Т. 35. С. 4.
[6] Syrokomla Wl. Mińsk. // Teka Wileńska. 1857. // 1. S. 177.

## Свята-Духаўскі кляштар базыльянак

На вул. Энгельса. Заснаваны ў 1641 г. па загаду уніяцкага мітрапаліта А.Сялявы і па фундацыі трокскай кашталяншы С.Гансеўскай[1]. Першая ігумення К.Сапега ахвяравала кляштару 10 тыс. злотых, мітрапаліт у 1651 г. — 2 тыс. злотых[2]. Каля 1650 г. ўзведзены кляштарны корпус, злучаны з капліцай базыльянскай царквы Святога Духа, накрытыя аркадай-галерэяй.

Помнік архітэктуры барока. Двухпавярховы П-подобны ў плане будынак пад вальмавым дахам. Яго паўднёва-ўсходняе крыло завяршалася фігурным франтонам. Плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, прасценкі якіх раней крапаваліся пілястрамі.

[1] Беларускі архіў. Мн., 1930. Т. 3. С. 170.
[2] Денисов В.Н. Площадь Свободы в Минске. Мн., 1985. С. 40—47.

## Троіцкі кляштар базыльянак

На рагу вуліц М.Багдановіча і Я.Купалы, заснаваны ў 1630-я гг. Марынай Вяжэвіч. Кляштарны корпус пабудаваны ў 1799—1800 гг., пасля пажару 1809 г. адноўлены, у 1840-я гг. рэканструяваны пад бальніцу. Трохпавярховы, прамавугольны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад і 1-ы паверх вылучаны шырокім плоскім рызалітам. Планіроўка калідорная. Цяпер корпус кляштара выкарыстоўваецца пад 2-ю гарадскую клінічную бальніцу.

# г.п. Мір,

Карэліцкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

У заходняй частцы гарадскога пасёлка, за будынкам пажарнай аховы. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.



Свята-Духаўскі кляштар базыльянак у г. Мінск.



Троіцкі кляштар базыльянак у г. Мінск.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным зрубам («у ластаўчын хвост»), 2-схільны дах якога над 3-граннай алтарнай часткай пераходзіць у вальмавы. Сцены прарэзаны прамавугольнымі ўваходным і 2 бакавымі аконнымі праёмамі.



Капліца ў г.п. Мір.



## Касцёл святога біскупа Мікалая

У цэнтры гарадскога пасёлка. Пабудаваны ў 1594 (99)—1604 (05) гг.[1] на месцы драўлянага касцёла 1587 г. (па іншых крыніцах 1533[2]), фундаванага М.К.Радзівілам Сіроткам і асвячонага біскупам Ю.Радзівілам. Аўтарства касцёла прыпісваюць архітэктару-італьянцу Дж.(Я.)М.Бернардоні[3]. Пры касцёле ў 1610 г. Радзівілам Сіроткам заснаваны парафіяльная школа і багадзельня-шпіталь брацтва св. Шкаплера (па вул. Нясвіжскай), пабудавана 2-паверхавая плябанія[4]. Пасля разбурэнняў у ходзе Паўночнай вайны касцёл у 1710 г. адноўлены князем Радзівілам Рыбанькам, які заказаў на яго званіцу звон у гонар перамогі над шведамі. У 1805 г. перад храмам была пастаўлена мураваная брама-званіца ў рэтраспектыўна-гатычным стылі (не захавалася). У 1865 г. паводле загада віленскага генерал-губернатара М.М.Мураўёва быў закрыты і перададзены ў Мірскі прычт[5]; асвячоны (17 лістапада) пад праваслаўную Мікалаеўскую царкву (з Троіцкай царквы, якая згарэла, быў перанесены іканастас). У 1940-я гг. храм закрыты. У 1990 г. вернуты прыхаджанам. У пачатку 21 ст. рэстаўрыраваны.



Касцёл святога біскупа Мікалая ў г.п. Мір.

Помнік архітэктуры барока з рысамі рэнесансу і элементамі абарончага дойлідства. Трохнефавая 3-вежавая базіліка з цыліндрычнай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Магутны цэнтральны неф з боку фасада завершаны вялікай 4-граннай 4-яруснай вежай пад шатровым дахам (у 1865 была перакрыта цыбулепадобным купалам). Рэнесансны абарончы характар ёй надавала крапоўка плоскасных глухіх сцен арачнымі нішамі-экседрамі, вылучэнне ярусаў (захаваўся 1-ы) карнізамі простага профілю. Да бакавых нефаў на галоўным фасадзе прылягаюць цыліндрычныя 2-ярусныя шатровыя вежачкі з вітымі ўсходамі, да апсіды — закругленыя сакрысціі з 5-граннымі вежачкамі. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі, узнятымі над дахам нізкіх бакавых нефаў. Уваходныя дзверы аздоблены мастацкай коўкай. У 18 ст. на званіцы было 4 званы, адзін з якіх меў імя аднаго з Радзівілаў — «Міхал-Караль-Станіслаў»; быў адліты з захопленых у шведаў падчас Паўночнай вайны гармат і важыў каля 5 тон. У час 1-й сусветнай вайны ў 1915 г. звон быў скінуты і адвезены на пераплаўку.

Унутраная прастора шасцю 4-граннымі слупамі і перакінутымі паміж імі аркамі расчлянёна на 3 нефы, цэнтральны з якіх перакрыты цыліндрычным, бакавыя — крыжовымі скляпеннямі. Адкрыты ў неф 2-і ярус званіцы служыў арганнымі хорамі. Галоўны алтар св. Антонія выкананы ў стылі барока — 2-калонны порцік з разарваным франтонам, насычаны скульптурай, разьбой, пазалотай. Існавала 8 кулісных прыслуповых алтароў. Падлога выкладзена мармуровымі плітамі. Пад апсідай размешчана прасторная скляпеністая крыпта, у якой знаходзілася да каля 30 пахаванняў (у 1866 крыпта закапана).

---

[1] РДГА, ф. 799, воп. 33, спр. 805, арк. 125; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 250.

[2] Семёнов П.П. Россия. Полное географическое описание нашего отечества. СПб., 1908. С. 429; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T. I. S. 346.

[3] Bernartowicz T. Miles Christianus et peregrinus. Fundacje Mikolaja Radziwilla «Sierotki» w ordynacji Nieświeskiej. Warszawa, 1998.

[4] Stan kościołow parafialnych w diecezji wileńskiej po najściu nieprzyjacielskim 1655—1661 r. // Litwa i Rus. Wilno, 1912: Luty, Kwicien, Lipiec.

[5] Описание церквей и приходов Минской епархии. Новогрудский уезд. Мн., 1879. С. 108—111.

# в. Місянцы,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

На ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва.

Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе 4-granнай шатровай вежачкай. Франтальны фасад прарублены шырокім уваходным праёмам, бакавыя — прамавугольным аконнымі праёмамі ў разных ліштвах.



Капліца ў в. Місянцы.



Капліца ў в. Міхалішкі.

## в. Міхалішкі,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Па баках да фасада далучаны ніжэйшыя сакрысціі (у правым уваходны прамавугольны праём), 1-схільныя пакрыцці якіх рытмуюцца з 2-гранным шчытом даху. Фасады парэзаны арачнымі аконнымі праёмамі і круглымі люкарнамі, крапаваны лапаткамі, апяразаны аркатурнымі фрызамі.

### Касцёл святога архангела Міхаіла і кляштар аўгусцінцаў

У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Вілія. Пабудаваны ў 1653—62 гг. з цэглы паводле праекта віленскага архітэктара-бельгійца К.Пенса на месцы папярэдняга драўлянага храма. Троцкі ваявода П.Бжастоўскі ахвяраваў яму фальваркі Мілашуны і Буйвіды. У 1700 г. асвячоны віленскім біскупам С.Бжастоўскім у імя святога архангела Міхаіла, з'яўляўся філіялам Віленскага кляштара аўгусцінцаў, меўся шпіталь[1]. У 1622 г. рэферэндарыем каронным Я.Ц.Бжастоўскім і яго братам Лукашам заснаваны кляштар аўгусцінцаў, якому ахвяравалі фальварак Рудашаны[2]. У 1839 г. кляштар скасаваны, касцёл пераўтвораны ў прыходскі. У 1-ю сусветную вайну касцёл пашкоджаны, у 1920-я гг. адноўлены. Кляштарны корпус не захаваўся.

Помнік архітэктуры сармацкага барока з рысамі абарончага дойлідства. Прамавугольны ў плане кампактны аб'ём з 2-вежавым галоўным фасадам і выцягнутай 5-граннай апсідай з 2 невысокімі сакрысціямі. Асноўны аб'ём накрыты 2-схільным дахам з вальмамі над апсідай. Фасад падзелены на 2 ярусы простым карнізам, завершаны чацверыкамі вежаў з шатровымі дахамі і атыкавым франтонам паміж імі. Нязначны перапад вышыняў зальнай часткі, апсіды і магутных 4-гранных вежаў стварае ступеньчата нарастаючы сілуэт будынка. Уваход праз нізкі акруглы прытвор-барбакан пад канічным дахам; у франтальнай нішы якога пастаўлена скульптура св. Міхаіла, скульптуры пастаўлены ў бакавых нішах-экседрах 2-га яруса фасада. Сцены прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі і раскрапаваны магутнымі панэлямі.

Зала храма мае цыліндрычнае скляпеністае перакрыцце з распалубкамі і падпружнымі аркамі, якія абапіраюцца на магутныя міжнефавыя пілоны і пераходзяць у насценныя пілястры. Алтарная частка з паўцыркульнымі арачнымі праёмамі. Пад хорамі размешчаны 2 уваходы ў ніжнія ярусы вежаў,



Касцёл святога архангела Міхаіла ў в. Міхалішкі.



Інтэр'ер касцёла святога архангела Міхаіла ў в. Міхалішкі.

дзе знаходзяцца капліцы св. Іосіфа і Сэрца Ісуса. Сцены прытвора расчлянёны 6 паўцыркульнымі нішамі, прызначанымі для скульптуры.

З аскетычнай архітэктурай храма кантрастуе яго пышнае барочнае ўнутранае ўбранне. Мастацкае афармленне інтэр'ера выканана ў 1677(84)—1700 гг. італьянскімі (фларэнційскімі) мастакамі і скульптарамі Джавані Марыя Галі, Андрэа Капонэ, Янам Пенса пад кіраўніцтвам П'етра Перці, а таксама яго памочніка Мікалая Жылевіча[3]. На сценах цэнтральнага аб'ёму дамінуюць бела-блакітныя стукавыя барэльефы з выявамі святых і пышны раслінны арнамент, які, нібы карункі, накінуты на сцены і аб'ядноўвае ўвесь дэкор у адзінае пластычнае цэлае. Кожны рэльеф — гэта тонкае паводле малюнка і віртуозна выкананае тэматычнае скульптурнае пано. Алтары ўпрыгожаны раслінным арнаментам, рэльефнымі выявамі апосталаў на пілястрах і на сценах апсіды, бела-блакітнымі стукавымі пано на евангельскія тэмы, якія выразна глядзяцца на белым фоне сцен; спалучэнне 2 блізкіх колераў стварае вытанчаны жывапісны і пластычны эфект. Асаблівым багаццем вылучаецца аздоба 2-яруснага галоўнага алтара з вітымі калонкамі. На карнізе 1-га трохчасткавага яруса выявы ўкленчаных епіскапаў, у цэнтры — 2 анёлы; на 2-м ярусе гарэльефная кампазіцыя «Укрыжаванне». У навершы алтара рэльеф «Новазапаветная Тройца». Галоўны алтар, як і 8 іншых, абрамлены акантам, з пругкіх завіткоў якога нібы вырастаюць галовы драконаў, сірэн і іншых фантастычных істот. На шырокіх сценных пілонах гарэльефы 12 апосталаў. Пастаўленыя на квадратныя кансолі з маскаронамі розных тыпаў і памераў, яны амаль поўнасцю аддзелены ад сцен і ствараюць эфект руху. У прасценках паміж пілонамі стукавыя алтары ў пышных барочных абрамленнях (картушы, раслінная арнаментыка, гірлянды з лісцяў, кветак і садавіны). Два бакавыя алтары з вітымі калонкамі і пілястрамі, якія падтрымліваюць падпружную арку. У ляпных рамах алтарныя карціны «Святая Сям'я» ў сярэбраным з пазалотай абкладзе (пачатак 18 ст.) і «Маці Божая Ружанцовая» (пачатак 19 ст.). Побач з карцінамі — сюжэтныя барэльефы. Амбон, упрыгожаны пазалочаным раслінным арнаментам, падтрымліваецца ўнізе разным арлом, які трымае ў кіпцюрах картуш з гербам Бжастоўскіх. Балдахін драўляны, разны, у выглядзе кароны. Па-майстэрску выкананы каваныя жалезныя рашоткі ў капліцах св. Іосіфа (2-я палавіна 17 ст.) і Хрыста (19 ст.).

---

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 124.

[2] Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912. S. 186; Lorentz S. Wycieczki po województwie Wileńskiem. Wilno, 1932. S. 50.

[3] Lopaciński E. Nieznane dane archiwalne i wiadomości źródłowe do historii Sztuki Wilna i W.X. Litewskiego od XVII do początków XIX w. // Prace Sekcju Historii Sztuki. III. Wilno, 1938/39. S. 49—107; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 117—118.

# в. Моладава,

Іванаўскі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

У паўночнай частцы вёскі, недалёка ад царквы. Пабудавана ў 1905—08 гг. з цэглы паводле праекта віленскага архітэктара Т.Раствароўскага як родавая пахавальня ўладальнікаў маёнтка Скірмунтаў[1].

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Купальная ратонда (дыяметр 8 м) з трыма порцікамі дарычнага ордэра і прамавугольнай у плане апсідай, якія, выступаючы на рustаванай паверхні сцен, надаюць збудаванню крыжовую форму. Будынак быў накрыты бляшаным паўсферычным купалам, апсіда — 2-схільным дахам. У архітэктуры капліцы выкарыс-



Капліца ў в. Моладава.

таны дарычны ордэр. Уваходны порцік 4-калонны, 2 бакавыя, што абрамляюць высокія паўцыркульныя аконныя праёмы, — 2-калонныя; апсіда крапавана пілястрамі. Тымпаны франтонаў аздоблены ляпным раслінным арнаментам, перыметычны фрыз і ўваходны партал дэкарыраваны гірляндамі. Развіты карніз на мадульёнах аздоблены паяском сухарыкаў.

Інтэр'ер асвятляецца 3 вокнамі з паўцыркульнымі архівольтамі (былі запоўнены каляровымі вітражамі). Алтар быў выкладзены белымі і чырвонымі мармуровымі плітамі, у ім была ўстаноўлена бела-мармуровая скульптура Хрыста, створаная скульптарам Броцкім (не захавалася). Пад капліцай — крыпта-пахавальня з вузкімі вокнамі ў руставаным цокалі.

---

[1] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство. 1980. № 28. С. 129; Wieś ilustrowana. 1911. № 12. S. 28—30.

## в. Мосар,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 21 ст. з сілікатнай цэглы.



Капліца ў в. Мосар.

Твор народнага дойлідства. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе бляшаным конусам з крыжом. Над аркай прамавугольнага ўваходнага праёма рэльефны крыж.

### Касцёл святой Ганны

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1792 г. з цэглы па фундацыі ўладальнікаў маёнтка Раберта і Ганны Бжастоўскіх і намаганнямі айца-езуіта Буйноўскага (у 1580—1773 тут мелася езуіцкая місія)[1]. Асвячоны ў 1851 г. віленскім біскупам Жылінскім[2]. Аднаўляўся ў 1922 і 1990-я гг.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Га-

Касцёл святой Ганны ў в. Мосар.



Інтэр'ер касцёла святой Ганны ў в. Мосар.



Касцёл у в. Моўчадзь.

лоўны фасад, як і тыльны, завершаны высокім трохвугольным франтонам, раскрапаваны на 3 часткі канелюраванымі пілястрамі, прарэзаны ў цэнтры прамавугольным дзвярным і арачным аконным праёмамі, па баках дэкарыраваны квадратнымі панэлямі над арачнымі экседрамі са скульптурамі святых. Бакавыя плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах.

Зала перакрыта люстраным скляпеннем. Сцены па перыметры раскрапаваны канелюраванымі пілястрамі і апяразаны магутным антаблементам з карнізам з сухарыкамі і фрызам, дэкарыраваным трыгліфамі і вытанчаным стукавым раслінным арнаментам. Плоская алтарная сцяна расчлянёна канелюраванымі пілястрамі, паміж якімі ў цэнтры вялікі абраз «Укрыжаванне». Бакавы алтар вырашаны 4-калонным порцікам з антаблементам з анёламі; у цэнтры абраз «Маці Божая Адзігітрыя» (18 ст.). Па перыметры інтэр'ера над вокнамі ў прамавугольных плакетках 14 сюжэтных гарэльефных пано-стацый на тэму «Крыжовы шлях Хрыста» (мяжа 18—19 ст.). На кансольным балконе-хорах з трыльяжным парапетам пастаўлены арган.

Касцёл абкружаны мураванай аркатурнай агароджай-сцяной з брамай і 3-яруснай шатровай званіцай, узведзенай у 1931 г. з цэглы і бутавага каменю на месцы драўлянай канца 19 ст. У 1997 г. сярод мураванай агароджы з левага боку пабудавана капліца Маці Божай Вастрабрамскай: 2-павярховая прамавугольная ў плане пад 2-схільным дахам. З правага боку агароджу фланкіруе 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца; 1-ы ярус з бутавай муроўкі, верхні — цагляны, атынкаваны, з арачнымі прасветамі. Мураваная арачная брама агароджы завершана ступеньчатым атыкам, крапавана пілястрамі і прафіляваным карнізам. Намаганнямі ксяндза-прэлата Ю.Булко на тэрыторыі касцёла разбіты парк, перад храмам пастаўлена копія скульптуры Мікеланджэла «Аплакванне Хрыста», створаны грот Маці Божай, збудавана 14 стацый пакут Хрыста і інш.

[1] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym opisana. Warszawa, 1846. T. III. S. 605; Lorentz S. Wycieczki po województwie Wileńskiem. Wilno, 1932. S. 56—75; Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 385.

[2] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 55.

## в. Моўчадзь,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў канцы 20 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане пад 2-схільным дахам аб'ёмам, да якога далучана 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца. Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Мохавічы,

Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана кампактным прамавугольным у плане зрубам пад



Капліца ў в. Мохавічы.

2-схільным дахам, завершаным па цэнтры 4-граннай шатровай сігнатуркай. Фасад завершаны стромкім трохвугольным франтонам з салярнай абшыўкай тымпана, адмежаваны ад сцяны шырокім адлівам на 2 слупах. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя сцены прарэзаны паўкруглымі люкарнамі.

## в. Мсцібава,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі, акаймавана мураванай агароджай. Пастаўлена ў 1911 г.

Твор народнага мастацтва. Вырашана гранітным абеліскам, узнесеным на кубападобны п'едэстал і завершаным металічным крыжом з укрыжаваннем. На франтальнай грані надпіс «Ад урагану, голаду, агню і вайны збаві нас Божа».



Капліца ў цэнтры в. Мсцібава.

### Капліца

За 1 км на захад ад вёскі, у полі. Пастаўлена ў 1950 г.

Твор народнага мастацтва. Вырашана абеліскам з металічным крыжом у завяршэнні і абразком і ахоўным надпісам на франтальнай грані.



Капліца на захад ад в. Мсцібава.

### Касцёл святога Яна Хрысціцеля

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1910—19(32?) гг. з чырвонай цэглы на сродкі парафіян. Ініцыятарам будаўніцтва храма быў ксёндз Марк Бурак, які разам з 50 аднавяскоўцамі быў закатаваны фашысцкімі акупантамі ў 1943 г. (пахаваны ў касцёле). Абнесены бутавай агароджай з цаглянай 2-яруснай 4-граннай шатровай брамай-званіцай.

Помнік архітэктуры неаготыкі і нераманскага стылю. Уяўляе сабой 2-вежавы 3-нефавы храм базілікальнага тыпу з трансептам, 3-граннай апсідай з бакавымі сакрысціямі. Перакрыжаванне дахаў нефа і трансепта завершана сігнатуркай з цыбулепадобнай галоўкай. Фасад 3-часткавы: па цэнтры прарэзаны высокай стральчатай нішай і завершаны 2-слаёвым спічастым шчыпцом; па баках уздымаюцца высокія 2-ярусныя 4-гранныя вежы з фігурнымі шатрамі-ківорыумамі (такія ж над шчыпцамі трансепта). У кожнай частцы ўваходны стральчаты арачны праём, над цэнтральным з якіх акно-трыфорыум. Бакавыя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі і 2-ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. Імі ўмацаваны вуглы вежаў, трансепта і апсіды. Элемент асіметрыі ў кампазіцыю ўносіць цыліндрычная шатровая вежа ў пазусе правага крыла трансепта і апсіды.

У інтэр'еры нефы размежаваны стральчатымі аркадамі на 4-гранных пілонах, перакрыты нервюрна-зоркавымі складчатымі скляпеннямі. У завяршэнні нефа драўляны неагатычны алтар, у тарцах бакавых нефаў — неабарочныя 2-ярусныя алтары,



Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Мсцібава.



Званіца каля касцёла святога Яна Хрысціцеля ў в. Мсцібава.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар кармелітаў у г. Мсціслаў.



вырашаныя карынфскай каланадай і дэкарыраваныя ажурнай разьбой. Над нартэксам драўляны балкон хораў з неагатычным арганам. Абразы 18 ст. «Айчына» (прывезены з касцёла в. Шылавічы Ваўкавыскага раёна), «Іаан Хрысціцель», «Маці Божая Ружанцовая».

## г. Мсціслаў

Магілёўскай вобласці

## Касцёл

У цэнтры горада, насупраць гарадскога парку, на былой Плашчаднай вуліцы. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы. У 1834 г. прыстасаваны пад праваслаўную Свята-Троіцкую царкву. Пацярпеў ад пажару 1858 г., пасля якога адноўлены і набыў ампірны стылёвы характар[1].

Помнік архітэктуры барока. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам з магутнай паўкруглай апсідай. Фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў 2 паверхі.

---

[1] Живописная Россия. Мн., 1994. С. 419, 466.

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар кармелітаў

У цэнтры горада, на вул. Кірава. Заснаваны ў пачатку 17 ст.

Паводле падання, кармеліты чаравічкавыя (ваенныя капеланы, якія вярталіся з вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1609—18) былі запрошаны мясцовай шляхтай[1]. Першы касцёл заснаваны па прывілею караля Жыгімонта III Вазы ў 1614(19) г. каля Замкавай гары на паўночным баку Рынкавай плошчы[2]. Пры храме кармеліты ў 1618 г. заснавалі кляштар, фундатарамі якога выступілі Якуб Караль Мадалінскі, Ежы Багдановіч, Базыль Бялецкі (1618), мсціслаўскі староста К.С.Сапега (1622), А.Геленскі, Букоўскі (маёнтак Зямное), Пажарыскі (маёнтак Безнакаў, 1690). У 1623 г. віленскі біскуп Яўстафій Валовіч надаў ім прыход[3]. Кляштару ў наступным належалі в. Біжуны і фальварак Аслянка ў Смаленскім ваяводстве, у 2-й палавіне 18 ст. грашовыя сродкі кляштару ахвяравалі мясцовыя шляхціцы Галынскія. Існуючы мураваны касцёл пабудаваны ў 1654 г. па фундацыі мсціслаўскіх вайсковых Караля і Якуба Мадалінскіх, Ежы Багдановіча, Базыля Бялецкага. Прыстанак пацярпеў падчас штурма Мсціслава маскоўскімі войскамі ў ходзе вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. Пры падзеле польскай правінцыі ордэна кармелітаў у 1687 г. кляштар адышоў да Рускай правінцыі св. Іосіфа, з 1756 г. ў Літоўска-Рускай (Беларускай) правінцыі св. Георгія Мучаніка. У 1691 г. кляштар гарэў, у 1717 г. адбудаваны, жылы корпус (не захаваўся) да 1828 г. заставаўся драўляным. Касцёл фундаментальна пера-



Касцёл у г. Мсціслаў.

будаваны ў 1746—50 гг. архітэктарам І.К.Глаўбіцам, у 1887 г. перакрыты драўляным скляпеннем. Каля касцёла ўзведзена мураваная брама, вырашаная трайной аркадай са ступеньчатым атыкам у завяршэнні. Кляштар скасаваны ў 1832 г. У 1913 г. парафія налічвала каля 2200 прыхаджан.

Помнік архітэктуры барока і ракако. Мураваная 3-нефавая 6-стоўпная базіліка з 2-вежавым фасадам і 5-граннай апсідай, да якой з поўначы далучана 2-павярховая сакрысцея з «цёплай капліцай» пад вальмавым дахам. Галоўны фасад фланкіраваны 3-яруснымі 4-граннымі вежамі з паўсферычнымі купаламі і завершаны фігурным шчытом паміж імі. Магутныя сцены (таўшчыня 1,5 м) расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках, апяразаны карнізам, прафіляванымі цягамі.

У інтэр'еры галерэя хораў пры ўваходзе, амбон, цэнтральны, бакавыя і кулісныя алтары трактаваны ў стылі ракако. Галоўны алтар вырашаны чатырма калонамі карынфскага ордэра, якія нясуць моцна крапаваны разарваны антаблемент. У 1768 г. паўднёвая і алтарная сцены галоўнага нефа, скляпенні бакавых нефаў багата аздоблены лепкай і фрэскавай размалёўкай. Захавалася каля 20 кампазіцый на рэлігійныя і гістарычныя тэмы, у тым ліку «Узяцце Мсціслава маскоўскім войскам у 1654 г.», «Забойства ксяндзоў»[3]. У стылі ракако выканана фрэскавая размалёўка «цёплай» капліцы. На сцяне хораў намаляваны музычныя інструменты: на фоне архітэктурных куліс — арган, па баках якога барабан, віяланчэль і інш. Колеравая гама размалёвак вытрымана ў жоўта-карычневых і шэра-блакітных тонах.

---

[1] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001.

[2] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 35; Smora. Kilka słów o karmelitach a.r. ob. w Mścisławiu // Litwa i Rus. T. 3. 1912. S. 186—190.

[3] Кацер М.С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969. С. 96; Церашчатава В.В. Старажытны беларускі жывапіс XI—XVIII стст. Мн., 1986. С. 132; Obst J. Freski w kościele Mścisławskim // Litwa i Rus. Wilno, 1912. T. II. Zesz. I. S. 28—33.

## Касцёл святога архангела Міхаіла і калегіум езуітаў

У цэнтры горада, у акружэнні вул. Савецкай, Пралетарскай, Першамайскай і Юрчанкі (паміж цэнтральным рынкам і Папоўскімі варотамі[1]). Сфарміраваўся ў 17—18 ст. У перабудаваным выглядзе захаваліся будынкі калегіума і аптэкі.

У 1614—16 гг. па загадзе караля Жыгімонта III Вазы заснавана езуіцкая місія (існавала да 1711), у фундацыі якой прымалі ўдзел мсціслаўскі староста П.Пац, Ю.Галынскі, В.Ільініч, С.Зуб. У 1626 г. пабудаваны драўляны касцёл святога Мікалая (на месцы Спаскай царквы) і будынак інтэрната са школай для



Касцёл святога архангела Міхаіла і калегіум езуітаў у г. Мсціслаў. Агульны выгляд.



Касцёл святога архангела Міхаіла і калегіум езуітаў у г. Мсціслаў. Корпус калегіума.

дзяцей збяднелай шляхты[2]. У 1691 г. пры місіі адкрыта нізшая школа. Першы мураваны касцёл узведзены ў 1640 г., існуючы храм — у 1730—38 гг. У будаўніцтве прымалі ўдзел архітэктары Уладзіслаў Дзягілевіч (1700—14), Язэп Алендскі (1754—55), Базыль Шляхта (1762—64), прафесары архітэктуры Антоній Абрамсперг, Войцех Абрэмпольскі, Мансвет Скакоўскі (1796—98)[3]. У 1711—79 гг. езуіцкая рэзідэнцыя, у 1779—1820 гг. калегіум, заснаваны М.Якановічам (у будынку школы 1764, рэканструяваным у 1796). Клегіуму падпарадкоўваліся місіі ў Гарадку, Клімавічах, Кулікове, Лазавіцы, Расне, Старадубе, Халобліне, Шумячах. Калегіум меў статус сярэдняй навучальнай установы з вывучэннем французскай, нямецкай і рускай моў; у 1725 г. адкрыты музычны клас, у 1740 г. — аптэка, меўся канвікт (пансіён) і бібліятэка. Калегіуму належалі маёнткі Гразь, Жукаў, Казлоўск, Крута, Кулікоў, Ласкоўка, Пятровічы, Пірхаў, Пацееўка, Стайкі, Точна і інш.[4] Пасля скасавання езуіцкага ордэна (1820) касцёл стаў прыходскім; у 1842(33) г. перабудаваны пад Мікалаеўскі сабор (архітэктары Шарлеман і Віскон-



Капліца ў в. Мураваная Ашмянка.

Касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі ў в. Мураваная Ашмянка.



ці), кляштар — пад Мікалаеўскі манастыр; потым будынкі манастыра прызначаны пад духоўнае вучылішча Тупічэўскага манастыра[5]. Касцёл напалову зруйнаваны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У стадыі рэстаўрацыі паводле праекта архітэктараў Ю.Маліноўскага і В.Мацюшкі.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока. Вырашаны магутнай трохнефавай мураванай базілікай з трансептам і 2-вежавым галоўным фасадам. Цэнтральны неф пераходзіць у масіўную паўкруглую апсіду з бакавымі сакрысціямі. Двух'ярусныя крылы трансепта выступаюць з высокіх бакавых нефаў. Галоўны фасад падзелены на 2 ярусы вузкім карнізам і завершаны развітым антаблементам са ступеньчатым атыкам у цэнтры і чацверыковымі вежамі па баках (верхнія 4-гранныя ярусы не захаваліся, былі завершаны сферычнымі купаламі). У час рэканструкцыі пад праваслаўны сабор узведзены вялікі паўсферычны купал на цыліндрычным светлавым барабане (не захаваўся). Сцены крапаваны арачнымі нішамі, шырокімі пілястрамі ў прасценках паўцыркульных і лучковых аконных праёмаў.

Унутры нефы вылучаны 3 парамі магутных слупоў, аб'яднаных паміж сабой і з насценнымі пілястрамі падпружнымі аркамі. Нефы і крылы трансепта перакрыты крыжовымі скляпеннямі, апсіда — конхай з распалубкамі. Захавалася ляпніна барочнага характару. Пры ўваходзе на 2 пілонах высока ўзняты хоры.

З поўначы да касцёла далучаецца 1-павярховы мураваны будынак а п т э к і, з поўдня да апсіды — 2-павярховы прамавугольны ў плане корпус к а л е г і у м а, сцены якога ўмацаваны магутнымі контрфорсамі. Келлі аб'яднаны галерэйнай планіроўкай, на 1-м паверсе перакрыты крыжовымі скляпеннямі, на 2-м — плоскай столлю, паверхі аб'яднаны 2-маршавай лесвіцай ва ўсходнім вугле будынка.

---

[1] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 35, 127.

[2] Zyskar J. Nasze Kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa; Petersburg, 1913. S. 85—91.

[3] Poplatek J., Paszenda J. Słownik jezuitow artystow. Kraków, 1972. S. 244—245

[4] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 216.

[5] РДГА, ф. 1488, воп. 2, спр. 733, арк. 3.

## в. Мураваная Ашмянка,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Вырашана 4-граннай 2-яруснай вежай пад шатровым пакрыццём. Ніжні цокальны ярус крапаваны прамавугольнымі панэлямі, верхні прарэзаны арачнымі прасветамі (прызначаўся для культавай скульптуры).

### Касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі

У паўднёвай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1790 г. з дрэва па фундацыі падкаморыя Ігната Важынскага на месцы касцёла 1650 г.[1] Паднаўляўся ў 1841 г. і 1874 г. У межах агароджанага касцельнага сквера адасоблена стаіць 2-ярусная каркасная званіца.

Храм пабудаваны ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства. Вырашаны вялікім ашала-



Інтэр'ер касцёла Найсвяцейшага Імя Марыі ў в. Мураваная Ашмянка.

ваным зрубам пад высокім 2-схільным дахам з вальмамі над 3-граннай апсідай з бакавымі нізкімі сакрысціямі. Прырубы крылаў трансепта надаюць будынку крыжовую форму, што падкрэслена і купальнымі вежачкамі з крыжамі, якія завяршаюць 4 трохвугольныя франтоны. Гарызантальна ашаляваныя сцены пазбаўлены архітэктурных абломаў і дэкору, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

Унутры малітоўная зала перакрыта люстраным скляпеннем з адкрытай бэлечнай канструкцыяй, апсіда адкрыта вялікім прамавугольным прасветам, хоры — трайной аркадай. Гарызантальна ашаляваныя сцены, столь, грані бэлек упрыгожаны арнаментальнай размалёўкай 2-й палавіны 19 ст.: гірлянды з лісцяў аканту, лілей і стужкі з літургічнымі сімваламі, выявамі архангелаў, спляценнямі залатых каласоў і блакітна-зялёных гронак вінаграду. Дэкаратыўна-пластычным акцэнтам з'яўляюцца 3 разныя драўляныя алтары, размаляваныя пад мармур і вырашаныя ў стылі барока. Галоўны з абразом «Тройца Новазапаветная» ўяўляе сабой узнятую на подыум-табернакль 2-ярусную архітэктанічную кампазіцыю. Першы ярус вырашаны 4-калонным порцікам з разарваным лучковым франтонам, 2-і — квадратным шчытом з абразом «Хрышчэнне». Ярусы алтара насычаны скульптурамі анёлаў, бакавіны-заплечнікі выкананы скразной рэззю па дрэве ў выглядзе гратэскавых звіваў ракайляў і атлантаў. Бакавыя меншага маштабу алтары па кампазіцыі аналагічныя галоўнаму.

---

[1] Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Cz. 1. Petersburg, 1896; Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 196.

## в. Мягуны,
Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы. Акаймавана бутавай агароджай з арачнай брамай насупраць франтальнага фасада.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана прамавугольным у плане і вертыкальна выцягнутым аб'ёмам пад 2-схільным дахам, трохвугольны франтон якога завершаны 4-граннай шатровай сігнатуркай. Над прамавугольным уваходным праёмам паўкруглая люкарна. Бакавыя фасады прарэзаны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, крапаваны вуглавымі пілястрамі.

## в. Мядзведзічы,
Ляхавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца



Званіца касцёла Найсвяцейшага Імя Марыі ў в. Мураваная Ашмянка.



Капліца ў в. Мягуны.



Капліца ў в. Мядзведзічы.

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю і цэглы.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Мядзведзічы.

пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны 3-ступеньчатым атыкам з крыжом у завяршэнні, прарэзаны арачным уваходным праёмам. На паліхромным фоне бутавай муроўкі сцен вылучаюцца пабеленыя ліштвы арачных аконных праёмаў, вуглавыя лапаткі і карніз простага профілю.

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1908 г. з цэглы паводле праекта архітэктара С.Шылера за кошт парафіян і намаганнямі ксяндзоў Герасімовіча і К.Ваньковіча[1]. У 1910 г. асвячоны біскупам Янам Цеплякам[2].

Першы мураваны касцёл тут заснаваны да 1483 г. Новы храм (1545) разбураны і абрабаваны ў час аднаго з татарскіх набегаў. У 1645 г. пабудаваны драўляны храм віленскім біскупам Ю.Радзівілам. Уяўляў сабой звычайны касцёл пад барочным ламаным дахам, перад якім стаяла 3-ярусная званіца. У 1866 г. касцёл закрыты. Набажэнствы адноўлены ў 1905 г., але на гэты час касцёл струхнеў, апошняя імша адбылася 15.8.1906 г.

Помнік архітэктуры неабарока. Аднавежавая 3-нефавая базіліка з 5-граннай апсідай, да бакоў якой далучаны 2 сакрысціі. Фасад мае шматъярусную кампазіцыю, высотная дамінанта — вытанчаная па трактоўцы вежа са спічастым шпілем. Кантрастныя міжъярусныя пераходы фасада змякчаны бакавымі барочнымі валютамі, з барочнага арсенала выкарыстаны хвалістыя і складанапрафіляваныя карнізы, насычаная крапоўка слаістымі пілястрамі, арачныя люкарны, вазы. На антаблеменце франтальнага фасада лацінскі надпіс «Gloria Deo», над апсідай — сігнатурка.



Унутры нефы размежаваны магутнымі, крапаванымі пілястрамі слупамі з перакінутымі паміж імі аркамі і перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, упрыгожанымі дэкаратыўна-арнаментальнай размалёўкай. Цэнтральны неф апяразаны магутным антаблементам і асвятляецца верхнімі лучковымі вокнамі. Галоўны алтар і амбон таксама вырашаны ў рэтраспектыўных формах барока. Алтар мае архітэктанічную трактоўку ў 2 ярусы з бакавымі парамі карынфскіх калон і разарванымі франтонамі над імі. Над алтарным абразом размешчаны пластычны картуш. На бакавых сценах апсіды ў прамавугольных плакетках 2 фрэскавыя пано на біблейскія сюжэты. Пад карцінамі магутныя 3-пралётныя аркады, адкрытыя ў бакавыя сакрысціі. Абразы 18—19 ст. «Маці Божая Ружанцовая», «Пётр і Павел» і «Маці Божая з дзіцем», абраз-таблетка «Божая Маці з ружанцамі і апосталы Пётр і Павел з дзіцем Хрыстом». Сярод літургічнага начыння рэлікварый сярэдзіны 17 ст. ў форме крыжа, аздобленага накладнымі барэльефнымі выявамі анёлаў; 2 бронзавыя рэлікварыі 18 ст.

[1] Spis kościołow i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1935. Pińsk, 1936. S. 123.

[3] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 314—316.

# г. Мядзел

Мінскай вобласці

## Капліца

На каталіцкіх могілках у Новым Мядзеле. Пастаўлена ў 1820 г. з цэглы як надмагілле Марціна, Агаты і Ганны Быхаўцаў.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана пастаўленым на квадратны подыум прысадзістым 4-гранным слупом пад шатровым бляшаным пакрыццём. Грані прарэзаны арачнай нішай-экседрай з фігуркай Маці Божай, дэкарыраваны рэльефнымі крыжамі, апяразаны карнізам простага профілю.



Капліца з трыма крыжамі ў г. Мядзел.

## Касцёл Маці Божай Шкаплернай і кляштар кармелітаў

У паўночнай частцы горада, у парка Старога Мядзела. Пабудаваны ў 1738—54 гг. з цэглы па фундацыі ўладальніка мястэчка Антона Кошыца, які прывёз з Рыма мошчы св. Юсціна (пазней перанесены ў касцёл у в. Мосар Глыбоцкага раёна), што зрабіла кляштар месцам паломніцтва[1]. Храм асвячоны 15.8.1754 г. біскупам А.Гаройнам[2]. Фундатар ахвяраваў манахам в. Гарадзішча[3]; касцёл з'яўляўся родавай пахавальняй Кошыцаў[4]. Да касцёла была прыпісана капліца Узвышэння Святога Крыжа пры сядзібе Козел-Паклеўскіх у Новым Мядзелі. Пры касцёле ў 1765 г. заснаваны могілкі-кальварыя з 21 капліцай і 8 брамамі. Кляштар скасаваны ў 1832 г. і перададзены базыльянам, а з 1839 г. — праваслаўным; касцёл пераасвячоны і пераабсталяваны пад праваслаўную царкву ў 1866 г. У 1920 г. вернуты католікам, але ў 1945 г. закрыты. Разам з суседняй званіцай акаймаваны паркам былога Старога Мядзела. У 1989 г. вернуты парафіянам.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры позняга барока. Квадратны ў плане купальны храм цэнтрычнай кампазіцыі. Гранёны паўсферычны купал з 4 люкарнамі абапіраецца на 8-гранны барабан. Фасады прарэзаны люнетамі і лучковымі праёмамі. Над купалам узвышаецца 8-гранная вежа-ліхтар з валютамі. Фасады аднолькавыя па кампазіцыі і дэкоры. Цэнтральныя іх часткі вылучаны выступамі, якія фланкіраваны калонамі карынфскага ордэра. Паміж калонамі размешчаны глыбокія конхавыя нішы. Сцены завершаны разарванымі франтонамі; пад карнізам па перыметры касцёла праходзіць пояс сухарыкаў. Вуглы ўмацаваны плоскімі пілястрамі. Аконныя і дзвярныя праёмы з паўцыркульнымі і лучковымі арачнымі завяршэннямі. Над парталам цэнтральнага ўвахода пад верхнім аконным праёмам навісае маленькі балкон з мудрагеліста выгнутай агароджай, упрыгожанай звівамі галінак, кветак (чыгуннае ліццё).

Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера выканана ў стылі класіцызму. Унутраная прастора асветлена акрамя бакавога верхнім святлом. Па вуглах размешчаны невялікія каплічкі, якія злучаны з падкупальнай часткай арачнымі прасветамі. Над імі знаходзяцца неглыбокія нішы-экседры, упрыгожаныя ляпнымі ракавінамі. Пад купалам праходзіць абыходная галерэя (захавалася часткова). Сцены раскрапаваны парнымі карынфскімі пілястрамі, аб'яднанымі прафіляваным карнізам, размаляваны фрэскамі (забелены ў час пераробкі пад царкву, зберагліся фрагменты). Інтэр'ер упрыгожваюць 3 алтары: цэнтральны са скульптурным укрыжаваннем, левы з абразом Маці Божай Кармельскай і правы з абразом святога Іосіфа. Пад касцёлам крыпта-пахавальня фундатара касцёла А.Кошыца і яго сваякоў; на алтарнай сцяне скульптурнае ўкрыжаванне з кальварыйскай капліцы.



Капліца Быхаўцаў у г. Мядзел.

Ж ы л ы к о р п у с размешчаны побач з касцёлам. Помнік архітэктуры барока. Мураваны прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак, накрыты стромкім 2-схільным дахам. Фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і крапаваны шырокімі лапаткамі. Тарцы будынка завершаны трохвугольнымі франтонамі. Унутраная планіроўка анфіладная.

---

[1] Lorentz S. Wycieczki po wojwództwie Wileńskiem. Wilno, 1932. S. 54; Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.

[2] Tatrkiewicz Wl. Dwa baroka, krakowski i wileński // Prace komisji Sztuki. Warszawa, 1946. T. VIII. Z. 2. S. 82.

[3] РДГА, ф. 1350, воп. 312, спр. 89, арк. 484 аб.

[4] Bulhak J. Polska w krajobrazach i zabytkach. Warszawa, 1930. T. II. S. 132, 296; Zródła mocy. 1929. Zesz. 5. S. 25.



Касцёл Маці Божай Шкаплернай і кляштар кармелітаў у г. Мядзел.

якімі мінская парафія святых Сымона і Алены паставіла 3 памятныя крыжы.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Была вырашана квадратным у плане аб'ёмам пад шатровым дахам (не захаваўся).



Касцёл Маці Божай Шкаплернай і кляштар кармелітаў у г. Мядзел. Корпус кляштара.

## в. Мяжаны,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Анёльскай

У цэнтры вёскі. Пабудаваны на мяжы 20—21 ст. з цэглы на месцы драўлянага храма 1-й палавіны 20 ст., які згарэў.

Архітэктурная кампазіцыя касцёла паўтарае аўтэнтычны папярэдні храм, вырашаны ў неабарочным накірунку стылю мадэрн. Трохчасткавую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю храма фарміруюць прамавугольны ў плане аб'ём малітоўнай залы, да якога далучаны 2-ярусная 4-гранная званіца і прамавугольная апсіда з бакавой сакрысціяй. Шацёр званіцы і стромкі 2-схільны дах цэнтральнага аб'ёму з выгінам над карнізам завершаны фігурнымі неабарочнымі купаламі. Вакол званіцы створана адкрытая слупова-аркадная галерэя-гульбішча. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

Касцёл Маці Божай Анёльскай у в. Мяжаны.

### Комплекс капліц «Кальварыя»

На паўночны захад ад горада. Створаны ў 2-й палавіне 19 ст. Уключаў 21 капліцу і 8 брам, размешчаных уздоўж склона пагорка. Захаваліся рэшткі верхняй капліцы, у пачатку 21 ст. пабудавана сучасная з цэглы.

Рэшткі в е р х н я й к а п л і ц ы — твор народнага дойлідства. Выкладзена з бутавага каменю ў выглядзе прамавугольнага ў плане аб'ёму.

К а п л і ц а с у ч а с н а я — твор народнага дойлідства. Выкладзена з цэглы на падмурку былой капліцы. Вырашана 2-сценным павільёнам с 3-граннай алтарнай часткай. З франтальнай грані адкрыта прамавугольным праёмам. На дашчаным трохвугольным франтоне 2-схільнага даху накладны драўляны крыж.

### Капліца

За 1 км на паўночны захад ад горада. Была пабудавана ў 19 ст. з цэглы. Захаваліся рэшткі, побач з

## в. Мярэцкія,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На поўнач ад вёскі, пры павароце на в. Мосар. Пастаўлена ў канцы 20 ст.




Капліца на поўнач ад в. Мярэцкія.



Капліца на могілках у в. Мярэцкія.



Капліца ў цэнтры в. Мярэцкія.

Вырашана скульптурай Дзевы Марыі, узнятай на вяршыню бутавай выспы.

## Капліца

На могілках. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з бутавага каменю.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай прысадзістай вежай пад шатровым дашкам. Франтальная грань прарэзана вузкай прамавугольнай нішай са скульптуркай Маці Божай.

## Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана трыма стэламі з кілепадобнымі завяршэннямі, што нагадвае 3-створкавы абразок-складзень. Грані крапаваны арачнымі нішамі, у цэнтральнай з якіх скульптурка Маці Божай. На першым плане пастаўлены высокі паклонны крыж.

# Н

## г. Навагрудак
Гродзенскай вобласці

## Капліца

У паўднёва-ўсходняй частцы горада, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з цэглы як пахавальня ротмістра Навагрудскага павета А.Ю. Заборскага (памёр 15.11.1802).

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана цэнтрычнай 8-граннай купальнай ратондай, над якой узвышаецца чацверыковы ліхтар з крыжом. Роўнакрыжовую форму храму надаюць аднолькавыя рызаліты, завершаныя трохвугольнымі франтонамі. Уваход і арачныя аконныя праёмы дэкарыраваны броўкамі. Плоскасныя фасады крапаваны вуглавымі пілястрамі, апяразаны спрошчаным карнізам і прафіляваным поясам.



Капліца ў г. Навагрудак.

## Капліца

У паўднёва-ўсходняй частцы горада, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1930-я гг. з бутавага каменю як пахавальня П.Садоўскага.



Капліца ў г. Навагрудак.



Від на Замкавую гару і касцёл Перамянення Господняга ў г. Навагрудак. Малюнак Н.Орды. Сярэдзіна 19 ст.



Касцёл Перамянення Господняга (фарны) ў г. Навагрудак.

Помнік архітэктуры мадэрна. Вырашана прамавугольным у плане кампактным збудаваннем пад 2-схільным дахам, які на фасадзе выходзіць трохвугольным франтонам са сральчатай нішай па цэнтры, у якой рэльефны крыж. Па цэнтры фасада арачны ўваходны праём, над якім мемарыяльная дошка.





## Касцёл Перамянення Господняга (фарны)

У цэнтры горада, на вул. 1 Мая, каля старажытнага замка. Пабудаваны ў 1712(19)—23(40) гг. з цэглы намаганнямі біскупа Мацея Анцата.

Першы драўляны храм пастаўлены ў 1395 г. пры вялікім князі Вітаўце на месцы колішняга язычніцкага капішча[1]. У гэтым старажытным храме польскі кароль Уладзіслаў Ягайла ў 1422 г. ўзяў шлюб з Соф'яй, князёўнай Гальшанскай. У касцёле 12.2. 1799 г. ахрышчаны А.Міцкевіч. У аб'ёмную кампазіцыю новазбудаванага ў пачатку 18 ст. касцёла былі ўключаны 2 капліцы папярэдняга храма[2]. Вядомы імёны будаўнікоў-муляраў: Якуб Бокша, Юрый Урлоўскі, Андрэй Шарэцкі, Юрый Стапкоўскі. У 1776 г. рэканструяваны і асвячоны біскупам Жулкоўскім у гонар Перамянення Господняга. У 1812 г. французы ўчынілі ў храме прадуктовы склад, пасля чаго да 1857 г. касцёл не выкарыстоўваўся для набажэнстваў. Закрыты пасля падаўлення паўстання 1863 г., у выніку прыйшоў у заняпад. У 1905 г. атрыманы дазвол на яго аднаўленне, скончанае толькі ў 1922 г. Храм адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1876 г. У 1921—23 гг. рэстаўрыраваны і зноў асвячоны біскупам З.Лазінскім[3].

Помнік архітэктуры готыкі і барока. План складанай формы. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём пад чырвоным чарапічным дахам завершаны ва ўсходняй частцы паўцыркульнай апсідай. Да яе з паўночнага боку далучана прамавугольная ў плане сакрысція. Фасад па вертыкалі мае 3-часткавае чляненне. Цэнтральная частка завершана высокім трохвугольным шчытом, бакавыя — фланкіраваны невысокімі чацверыковымі вежамі. Асноўны дэкаратыўны матыў галоўнага фасада — плоскія прамавугольныя і паўцыркульныя нішы. Сцяна бакавога паўночнага фасада раскрапавана шырокімі лапаткамі, паміж якімі паўцыркульныя аконныя праёмы. З правага боку да касцёла дабудаваны 2 капліцы гатычнага паходжання (захаваліся ад першапачатковага храма).

Унутры сцены залы расчлянёны пілястрамі, перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, над уваходам — хоры. У архітэктоніцы інтэр'ера адчуваецца ўплыў готыкі (нервюрныя зоркавыя скляпенні капліц, балюстрада хораў на стральчатай аркатуры). На аднатонных сценах кантрастна вылучаецца цёмны фон разьбы спавядальні і амбона, алтара. Вялікі алтар выкананы ўзнятай на высокі пастамент карынфскай каланадай, якая нясе хвалісты антаблемент з Укрыжаваннем і анёламі, што сядзяць па баках. Паміж калонамі пастаўлены скульптурныя выявы 4 евангелістаў. Алтарны абраз быў выкананы мастаком Францішкам Смуглевічам. У аналагічным барочна-ракайльным стылі выкананы кулісныя алтары і амбон.

У паўночную сцяну капліцы Божага Цела ў 1643 г. па загадзе навагрудскага кашталяна Яна Рудаміна Дусяцкага ў памяць аб браце і паплечніках, якія загінулі ў баі з туркамі пад Хоцінам у 1621 г., умуравана мемарыяльная пліта (чорны мармур, пясчанік; 275 х 150 см)[4]. Твор манументальнага мастацтва выкананы ў стылі рэнесансу. Цэнтральную частку пліты займае гарэльеф — выявы 9 укленчаных фігур і Яна Рудаміна. Унізе выявы паверханых ворагаў з адсечанымі галовамі ў цюрбанах. Наверсе выява Маці Божай з дзіцяткам Ісусам. На пліце вы-

сечаны тэкст (на лацінскай мове) з пералікам тытулаў і імёнаў тых, хто загінуў (Вялічка, Тамішэўскі, Быкоўскі, Чудоўскі, Магільніцкі, Война, Тышкевіч, Асіпоўскі), а таксама ахвяраванні і набажэнствы ў іх гонар. 27.9.1991 г. ў капліцу перанесены астанкі сёстраў-назарэцянак — ахвяр гітлераўцаў у 1943 г., якія пайшлі на смерць замест заложнікаў.

---

[1] Słownik geograficzny Krolewstwa Polskiego i innych krajow slowiańskich. Warszawa, 1890. T. XII. S. 257.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II. C. 329—330.

[3] Ярашэвіч А. «Табе пад апеку ахвяраваны..» // Наша вера. 1998. № 3(6). С. 48—55.

[4] Niemcewicz J.U. Podróży historyczne po ziemiach polskich. Paris, 1858. S. 391—392.

## Касцёл святога архангела Міхаіла і кляштар дамініканцаў

У цэнтры горада, на перакрыжаванні вуліц Савецкай і Міцкевіча. Пабудаваны ў 1724 г. з цэглы як касцёл дамініканскага кляштара на месцы драўлянага храма, фундаванага ў 1624 г. вялікім канюшым літоўскім, віленскім ваяводам Крыштафам Хадкевічам, які вылучыў айцам-дамініканцам пляц з домам[1]; у канцы 17 ст. Брольніцкія і Астроўскія перадалі кляштару фальваркі Корыца і Перакопы[2].

Пасля пажараў 1751 г. і 1831 г. аднаўляўся[3]. Пры кляштары ў 1797(51)—1831 гг. дзейнічала дамініканская школа, што славілася ў краі высокім выхаваўчым узроўнем і ў якой вучыліся А.Міцкевіч і Ян Чачот (зачынена пасля паўстання 1831). На мяжы 18—19 ст. арганістамі служылі дамініканцы Якуб Зябедыюш Фалькоўскі, з 22.11.1644 г. до 31.05.1646 г. Роберт з Меджыбожа[4]. У 1829 г. побач з касцёлам пастаўлена 2-ярусная мураваная званіца (не захавалася). Пасля скасавання ордэна касцёл у 1845 г. стаў парафіяльным, значна перабудаваны; кляштар у 1853 г. скасаваны. Пасля Вялікай Айчыннай вайны касцёл быў закрыты, кляштар з 1948 г. выкарыстоўваўся пад магазін. У 1976 г. пацярпеў ад пажару. У 1993 г. адрэстаўрыраваны і вернуты парафіянам.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока. 3-нефавая базіліка з паўднёвага боку завершана паўцыркульнай апсідай аднолькавай вышыні з цэнтральным нефам. З заходняга боку да апсіды прылягае 2-павярховая сакрысція з асобным уваходам, да галоўнага паўночнага фасада — нартэкс. Фасад шырокім карнізным пасам падзелены на 2 гарызантальныя ярусы і завершаны высокім трохвугольным франтонам, над якім узвышаецца маленькая чацверыковая сігнатурка. Ніжні ярус пілястрамі падзелены на 3 праслы: цэнтральнае (адпавядае галоўнаму нефу) дэкарыравана арачнымі нішамі і пілястрамі абапал лучковага праёма ў верхняй частцы, і бакавыя (адпавядаюць бакавым нефам), завершаныя фігурнымі атыкамі. Бакавыя фасады крапаваны



Інтэр'ер касцёла Перамянення Гасподняга (фарнага) у г. Навагрудак.



Касцёл святога архангела Міхаіла ў г. Навагрудак.

шырокімі лапаткамі, паміж якімі ў 2 ярусы размешчаны лучковыя аконныя праёмы.

Унутраная прастора 2 радамі слупоў і перакінутымі праз іх аркадамі падзелена на 3 нефы, бакавыя з якіх перакрыты крыжовымі скляпеннямі, цэнтральны — цыліндрычным з распалубкамі і падпружнымі аркамі. Інтэр'ер дэкарыраваны лепкай і размалёўкай скляпенняў (захавалася часткова), упрыгожаны 3 аздобленымі лепкай і скульптурай алтарамі. На ўзнятых на 2 калонах хорах быў устаноўлены 12-галосы арган.

Ж ы л ы к о р п у с (захаваліся сутарэнні) уяўляў сабой 2-павярховы П-падобны ў плане будынак, які



далучаўся да касцёла з заходняга боку. Зараз у стане аднаўлення.

---

[1] Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Mińskiej. Warszawa,1919.

[2] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 222.

[3] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II. S. 329.

[4] Ліхач Т. Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. №2. 2000.



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў г.п. Наваельня.

## Кляштар назарэцянак

У цэнтры горада, на вул. 1 Мая, за фарным касцёлам. Заснаваны ў 1929 г. па ініцыятыве біскупа З.Лазінскага. З 1931 г. дзейнічала школа, пераўтвораная з нацыяналізацыяй будынкаў кляштара ў 1940 г. ў свецкую. У час нямецка-фашысцкай акупацыі асветніцкая дзейнасць кляштара аднавілася. 1.8.1943 г. гітлераўцы расстралялі 11 манашак-назарэцянак (у 1991 перапахаваны ў капліцы Маці Божай у фарным касцёле). 31.7.1995 г. абшчына сясцёр-назарэцянак аднавіла дзейнасць у будынку кляштара.

Помнік архітэктуры з рысамі канструктывізму. Вырашаны цэнтральным прамавугольным у плане 2-павярховым корпусам пад вальмавым дахам. Па баках да яго праз кароткія крылы далучаны 1-павярховыя павільёны, якія ствараюць перад будынкам неглыбокі курданёр. Фасад рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі абапал цэнтральнага рызаліта, завершанага ступеньчатым атыкам.





Кляштар назарэцянак у г. Навагрудак.

---

[1] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 223.

# г.п. Наваельня,

Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

Пабудаваны ў 1936 г. з дрэва, зачынены ў 1957 г. (прыстасаваны пад кінатэатр), вернуты парафіянам у 1994 г., адбудаваны ў 2000 г.

Складаецца з працяглага прамавугольнага ў плане пад 2-схільным дахам аб'ёму, які пераходзіць у вузейшую 5-гранную апсіду з нізкімі бакавымі сакрысціямі. Да фасада дабудаваны шырокі нартэкс з завяршэннем ступеньчатага абрысу. Сцены прарэзаны вузкімі і высокімі прамавугольнымі вокнамі-шчылінамі. Уваход вырашаны шырокай і глыбокай прамавугольнай нішай.

# г. Наваполацк

Віцебскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

Пабудаваны ў 1999—2004 гг. з цэглы. Парафія зарэгістравана 29.6.1992 г. 30.9.2001 г. біскуп Уладзіслаў Блін, ардынарый Віцебскай дыяцэзіі, урачыста заклаў вуглавы камень касцёла, прывезены адной з парафіянак з Аліўнага Сада ў Іерусаліме, які быў асвячоны рымскім папай Янам Паўлам II 23.09.2002 г. ў Астане, сталіцы Казахстана.

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам з 8-граннай цэнтральнай часткай, завершанай 8-гранным светлавым барабанам пад пакатым шатровым пакрыццём. Да фасада далучана 4-ярусная 4-гранная званіца, завершаная спічастым шатром. Грані цэнтральнага аб'ёму прарэзаны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. Да алтарнай часткі далучаны 2-павярховы адміністрацыйна-жылы корпус.



Касцёл у в. Наваспаск.

**в. Наваспаск** (Суцькава),
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы як уніяцкі па фундацыі старшыні сейма Рэчы Паспалітай Букатага. У 19 ст. храм пераўтвораны ў праваслаўную царкву. Пашкоджаны падчас 1-й сусветнай вайны. Знаходзіцца ў паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры барока. Трохнефавая бязвежавая базіліка. Ступеньчатую 2-ярусную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю фарміравалі цэнтральны высокі неф пад 2-схільным дахам і ніжэйшыя бакавыя нефы пад 1-схільнымі пакрыццямі. Фасад завяршаўся фігурным франтонам.

Унутраная прастора 2 магутнымі аркадамі на пілонах падзелена на 3 нефы, перакрытыя цыліндрычнымі на распалубках скляпеннямі. Верхняе святло інтэр'еру забяспечвалі верхнія лучковыя аконныя праёмы.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Навішчына.

**в. Навішчына,**
Барысаўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца Узвышэння Святога Крыжа

За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1814 г. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства з рысамі класіцызму. Вырашана прамавугольным зрубам пад 2-схільным дахам, які над 3-граннай апсідай пераходзіць у вальмавы і над фасадам завершаны 4-граннай шатровай вежачкай з крыжом. Вынасны трохвугольны франтон даху падтрыманы 4 слупамі, што імітуе утрыраваны класічны порцік. Сцены прарублены прамавугольнымі ўваходным і бакавымі аконнымі праёмамі.



Капліца Узвышэння Святога Крыжа ў в. Нагорнае.

**в. Нагорнае,**
Клецкі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

На паўднёвай ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1933—36 гг. з цэглы.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Аднанефавы 1-вежавы храм з квадратнымі ў плане апсідай і бакавымі сакрысціямі. Прамавугольны ў плане аб'ём храма накрыты 2-схільным стромкім дахам, які з боку галоўнага фасада прарэзаны 2-яруснай 4-граннай шатровай вежай-званіцай. З боку апсіды на вільчыку даху пастаўлена 4-гранная шатровая сігнатурка. Фасад завершаны 2-схільным шчытом, вылучаны ў цэнтры шырокім стральчатым уваходным парталам, фланкіраваным круглымі люкарнамі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі





Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Налібакі.



Інтэр'ер касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Налібакі.

арачнымі аконнымі праёмамі і пілонамі ў прасценках. Стракаты сілуэт храму надаюць вуглавыя гранёныя фіялы са шпілямі.

У інтэр'еры неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, атынкаваныя сцены расчлянёны пілястрамі. Над нартэксам — хоры, адкрытыя ў неф 3-пралётнай аркадай.





## в. Налібакі,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На паўднёвай ускраіне вёскі, каля могілак, у акружжы бутавай агароджы з арачнай брамай. Нясконачанае будаўніцтва мураванага храма ў 1935—39 гг. завершана ў 1990—94 гг.

Першы парафіяльны драўляны касцёл быў фундаваны ў 1447 г. віленскім кашталянам Пятром Гедыголдавічам. Наступны драўляны храм будуецца ў 1636 г. па фундацыі ўладальніка паселішча канцлера Вялікага княства Літоўскага Альбрэхта Радзівіла, у 1699 г. адбудаваны[1].

Помнік архітэктуры эклектыкі з рысамі мадэрна і неарэнесансу. Трохнефавая бязвежавая базіліка з трансептам. Прамавугольны ў плане аб'ём храма пераходзіць у працяглую прамавугольную 2-ярусную апсіду з бакавымі сакрысціямі. Элемент асіметрыі ў кампазіцыю храма ўносяць прыбудовы да бакавых фасадаў квадратных у плане крылаў трансепта і нартэкса пад вальмавымі дахамі. Франтальны і алтарны фасады завершаны фігурнымі шчытамі з круглым акном-ружай па цэнтры. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, паўкруглымі люкарнамі над імі і парнымі лапаткамі ў прасценках.

Унутраная прастора храма падзелена на 3 нефы магутнымі аркадамі на 4-гранных устоях і перападам вышынь нефаў, перакрытых драўлянай бэлечнай столлю. Апсіда вылучана шырокім арачным прасветам, на першым пілоне ад яе навешана паўкруглая кафедра амбона. Над нартэксам шырокай аркай падтрымана антрэсоль хораў.

Побач з касцёлам пастаўлена к а п л і ц а. Пабудавана ў 20 ст. з дрэва. Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным над трохвугольным франтонам фасада сігнатуркай. Вертыкальна ашаляваныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў дашчаных ліштвах.

---

[1] Spis kościołow i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1935. Pińsk, 1936. S. 105—106.

## в. Нарач (Кабыльнік),

Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святога апостала Андрэя

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1901 г. з цэглы на сродкі парафіян, асвячоны 25.7.1904 г. З 1989 дзейнічае місія кармелітаў босых.

Першы касцёл у так званым Малым Мядзелі (ці Кабыльніках) заснавалі ў 1434 г. князі Свірскія. У 1651 г. Свірскімі ўзводзіцца новы храм, але хутка знішчаны падчас руска-польскай вайны 1654—67 гг. У 1678 г. ён быў адноўлены і асвячоны. Перабудаваны і пашыраны, упрыгожана 6 алтарамі ў 1736 г. за кошт навагрудскага кашталяна Марціна Аскеркі. Зноў адноўлены пасля пажару 1862 г. Людзвігам Мініцкім і Тытусам Свентаржэцкім. Побач са старажытным храмам у 1897 г. закладзены падмуркі існуючага касцёла.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавая бязвежавая прамавугольная ў плане базіліка з 3-граннай апсідай. Фасад завершаны трохвугольным шчытом, па вуглах фланкіраваны контрфорсамі са спічастымі фіяламі. Над высокім стральчатым уваходным парталам размешчана акно-ружа з вітражом. Сцены бакавых фасадаў рытмічна расчлянёны высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі і пілонамі-контрфорсамі ў прасценках, апяразаны прафіляваным карнізам з аркатурным фрызам. Над апсідай — ступеньчатая атыкавая сценка і невялікая сігнатурка над 2-схільным дахам. Каларыстычная насычанасць архітэктуры дасягаецца высокаякаснай чырвона-цаглянай муроўкай сцен, паліхромнай муроўкай цокаля гранітнымі квадрамі, каляровым вітражным ашкленнем аконных праёмаў.

Унутраная прастора храма магутнымі калонамі і перакінутымі праз іх аркадамі падзелена на 3 нефы, перакрытыя стральчатымі скляпеннямі на падпружных арках і распалубках (пакрыты арабескавым арнаментам). Бакавыя сцены апяразаны фрызамі з раслінным арнаментам. Алтары, хоры з арганам (выкананы ў Вільні ў 1902), амбон выкананы ў стылі неаготыкі. У цэнтральным алтары старажытны абраз Маці Божая Адзігітрыя, у бакавых абразы «Святы Андрэй» (1903) і «Святы Рох» (1907), напісаныя мастаком Браніславам Камінскім.

Побач з касцёлам стаіць драўляная з в а н і ц а папярэдняга храма, пабудаваная ў 18 ст. з дрэва. Пры перабудове ў 19 ст. ёй нададзены рысы класіцызму. Рэстаўрыравана ў 1925 і 1995 гг. Квадратнае ў сячэнні 3-яруснае збудаванне. Першы і другі ярусы зрублены з брусоў і гарызантальна ашаляваны. Аснову каркаснай канструкцыі 3-га ашаляванага яруса складаюць 8 слупоў-стоек, злучаных паміж сабой крыжавінамі. Ярусы аддзелены адзін ад аднаго прычолкамі. Збудаванне накрыта 4-схільным шатровым дахам з крыжом наверсе. У 1-м ярусе, умацаваным 4 вертыкальнымі сцяжкамі-лапаткамі, быў праезд да касцёла (цяпер закрыты).



Касцёл святога апостала Андрэя ў в. Нарач.



Інтэр'ер касцёла святога апостала Андрэя ў в. Нарач.



Званіца касцёла святога апостала Андрэя ў в. Нарач.

Насупраць касцёла размешчана п л я б а н і я. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Аднапавярховы будынак сіметрычнай кампазіцыі накрыты 2-схільным дахам (2-гі паверх надбудаваны ў 1995). Неатынкаваныя, узведзеныя на бутавым падмурку сцены расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі. Вокны галоўнага і дваровага фасадаў прамавугольныя з замковым каменем, прасценкі ўпрыгожаны дэкаратыўным рустам. Тарцовыя фасады падзелены паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і плоскімі лапаткамі ў прасценках.




## г. Нароўля
Гомельскай вобласці

## Касцёл Святога Крыжа

На вул. Камуністычнай. Пабудаваны ў 1998 г. з цэглы намаганнямі ксяндза Станіслава Салата і на ахвяраванні вернікаў з Германіі і Польшчы.

Вырашаны працяглым прамавугольным у плане будынкам пад 2-схільным дахам. На фасадзе асіметрычна ўзносіцца 3-ярусная шатровая званіца. Плоскасныя фасады арытмічна расчлянёны арачнымі адзінарнымі і патройнымі аконнымі праёмамі.



## в. Нача,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

За 1 км на поўдзень ад вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з бутавага каменю. У ёй быў пахаваны беларускі археолаг і этнограф Вандалін Шукевіч (1852—1919). Адноўлена ў канцы 20 ст.

Капліца ў в. Нача.



Званіца касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Нача.

Твор архітэктуры неакласіцызму. Прамавугольнае ў плане збудаванне са сценамі, расчлянёнымі ў верхняй частцы арачнымі люкарнамі. Фасад адзначаны 4-калонным класічным порцікам.

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У паўднёвай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1910 г. з цэглы. Асвячоны 26.04.1927 г. архібіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім.

Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Нача.



Помнік архітэктуры неаготыкі і мадэрну. Адносіцца да тыпу трохнефавых 2-вежавых базілік з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Асноўную ролю ў вертыкальна ўзнёслай, дынамічнай кампазіцыі адыгрываюць шмат'ярусныя вежы фасада, верхні 8-гранны ярус якіх мае вертыкальна выцягнутыя прапорцыі і завершаны вытанчанымі ліхтарамі са шпілямі. Высунутыя наперад, яны вылучаюць цэнтральную, завершаную 2-гранным высокім шчытом плоскасць фасада, вось якой вылучана арачным уваходным парталам і акном-ружай над ім. Вертыкальнасць архітэктурнай кампазіцыі забяспечваецца высокім цокалем, рытмам высокіх і вузкіх арачных аконных праёмаў і контрфорсаў-пілонаў у прасценках, шматлікімі арачнымі нішамі, 2-каннымі шчытамі, аркатурнымі фрызамі. Графічнасць архітэктурнаму экстэр'еру забяспечваюць кантрастнае спалучэнне атынкаваных і пабеленых ліштваў акон і чырвонай высакаякаснай цаглянай муроўкі, штрыхаваныя карнізы і фрызы, вокны-біфорыумы.

У кутку бутавай агароджы пастаўлена 3-ярусная 4-гранная званіца — твор народнага дойлідства. Першы ярус выкладзены з бутавага каменю, другі цагляны і атынкаваны, раскрыты арачнымі прасветамі, трэці зрубны, накрыты шатровым дахам і прарублены лучковымі праёмамі.

## в. Нецеч (Першамайскі),
Дубраўнянскі сельсавет
Лідскага раёна
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога Казіміра

Пабудаваны ў 2003 г. з цэглы.

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да фасада далучана высотная 4-гранная званіца пад 2-схільным пакрыццём. Уваходы вылучаны 2-гранным парталам, бакавыя плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі стральчатымі аконнымі праёмамі.

## в. Нецеч,
Тарноўскі сельсавет
Лідскага раёна
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога архангела Міхаіла

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1837 г. з цэглы і дрэва на месцы храма 1715 г. Закрыты пасля Вялікай Айчыннай вайны, вернуты парафіянам і адрамантаваны ў 1989—90 гг.

Помнік архітэктуры з утрыраванымі формамі класіцызму. Прамавугольны ў плане накрыты 2-схільным дахам аб'ём з 3-граннай апсідай. На фасадах будынка вылучаны канструкцыйны каркас у выглядзе цагляных слупоў. Драўляныя прасценкі вертыкальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі і арачнымі аконнымі праёмамі, паўкруглымі люкарнамі (на фасадзе). Фасад вылучаны 4 прысценнымі калонамі і завершаны трохвугольным франтонам з 4-граннай шатровай вежачкай-званічкай над ім (узведзена ў 1920-я гг. замест 8-гранна). Над апсідай вальма даху завершана 4-слуповай шатровай сігнатуркай.

Унутраная прастора падзелена 4 гранёнымі слупамі на 3 нефы. Алтарнай перагародкай аддзелены аб'ём апсіды з бакавымі сакрысціямі. Над уваходам — хоры на 2 калонах.

Перад храмам асобна пастаўлена мураваная 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца.

## в. Новадзевяткавічы,
Слонімскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На поўдзень ад касцёла, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы як пахавальня ўладальніка маёнтка Людзвіка Калупайлы.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашана 8-граннай ратондай пад шатровым дахам (зруйнаваны). Стральчаты арачны малюнак маюць шчыты крапаваных выцягнутымі паўкалонкамі граняў, высокія аконныя праёмы ў руставаных ліштвах і нішы-панэлі.



Касцёл святога архангела Міхаіла ў в. Нецеч Тарноўскага сельсавета Лідскага раёна.

### Капліца

На поўдзень ад касцёла, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы ў стылізаваных формах сярэдневяковай замкавай готыкі. Вырашана цэнтрычным 4-гранным 2-ярусным аб'ёмам. Пер-



Капліца ў в. Новадзевяткавічы.

Капліца ў в.Новадзевяткавічы.





Брама-званіца каля касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Новадзевяткавічы.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Новадзевяткавічы.

шы ярус раскрыты арачнымі прасветамі, другі апразаны зубчастым фрызам і крапаваны па вуглах гранёнымі кансольна навісаючымі пілонамі і па цэнтры 8-граннымі нішамі-люкарнамі.

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1786—90 гг. з цэглы ўладальнікамі маёнтка Слізнямі, пасля 1831 г. парафіяльны, у 1866 г. закрыты[1]. Перабудаваны пад праваслаўную царкву ў 1869—72 гг. архітэктарамі Ціхвінскім і Кжыжаноўскім[2]. Намаганні Альфрэда Слізня ў канцы 19 ст. вярнуць храм як родавую маёмасць «засталіся без увагі» і толькі ў 1920-я гг. зноў вернуты католікам. На 1932 г. налічвалася 408 парафіян. Адрэстаўраваны ў канцы 20 ст. паводле праекта архітэктара В.Ю.Атаф.

Помнік архітэктуры барока. Храм вырашаны 1-нефавым аб'ёмам з працяглай паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. З перабудовай пад царкву яго архітэктура набыла рысы рэтраспектыўна-рускага стылю: над дахам узведзены 8-гранны барабан з цыбулепадобным купалам (не захаваўся), галоўны ўваход афармлены старажытнарускім арачным рундуком, вуглы плоскаснага фасада афармлены калонкамі-дынькамі, 3 сцёсаныя стукавыя алтары заменены іканастасам. Над порцікам 2-га яруса франтальнага фасада ўзведзена 4-гранная шатровая званічка. Плоскасныя бакавыя фасады расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі. Унутры перакрытай цыліндрычным скляпеннем малітоўнай залы над уваходам на 4 пілонах размешчана галерэя хораў.

Перад храмам пастаўлена 3-ярусная брама-званіца — твор барочна-класіцыстычнай архітэктуры. Першы 4-гранны ярус расшыты гарызантальным рустам, над арачным праездам размяшчаўся гербавы картуш з «Пагоняй». Другі ярус-звон меў у аснаванні валютныя сплывы і завяршаўся фігурным купалам з гадзіннікам-курантамі.

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 160, арк. 13; ф. 1663, воп. 1, спр. 1540.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 160, арк. 90—94.

# в. Новае Сяло,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пастаўлена ў пачатку 20 ст. з цэглы.



Капліца ў в. Новае Сяло.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным абеліскам з шатровым верхам. Франтальная грань крапавана квадратнай нішай з абразком.

## г. Новалукомль,
Чашніцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл святой Марыі Магдалены

У цэнтры горада. Пабудаваны ў 2003—05 гг. з цэглы з выкарыстаннем будынка кацельнай.

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Трохнефавая 2-вежавая базіліка. Працяглы прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам, які на фасадзе закрыты 2-гранным шчытом на прамавугольным атыку с круглай люкарнай па цэнтры. Над карнізам даху выступаюць бочкавыя перакрыцці над арачнымі аконнымі праёмамі бакавых фасадаў. Франтальны фасад завершаны бакавымі 8-граннымі шатровымі вежамі, адкрытымі арачнымі прасветамі. Арачны ўваходны праём у нізкім прамавугольным нартэксе пад 2-схільным пакрыццём.

## в. Новая Мыш,
Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

У заходняй частцы вёскі, на могілках. Пабудавана ў 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам. Бакавыя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, фасад — уваходным.

### Капліца

У заходняй частцы вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы як пахавальня навагрудскага суддзі Ю.Цітовіча (памёр у 1842).

Помнік архітэктуры ампіру. Вырашана пірамідальным абеліскам на кубападобным пастаменце, завершаным шатровым пакрыццём з крыжом. Яго вуглы крапаваны пілястрамі, на франтальнай грані ўмуравана мемарыяльная дошка.

### Капліца

У заходняй частцы вёскі, на могілках. Пастаўлена ў 2-й палавіне 19 ст. як пахавальня Э.Мацісўскай (з Хлапіцкіх, памёр у 1874).

Помнік архітэктуры ампіру. Вырашана 4-гранным абеліскам пад шатровым дашкам, узнесеным на кубападобны п'едэстал. На франтальнай грані мемарыяльная чыгунная дошка.

### Касцёл Перамянення Гасподняга

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1825 г. з цэглы на месцы згарэлага драўлянага касцёла 1641 г., пастаўленага падканцлерам Вялікага княства Літоўскага Казімірам Львом Сапегай. Касцёл абгароджаны парканам з трохарачнай мураванай брамай, выкананай у неарускім стылі. У вугле агароджы перад касцёлам пастаўлена драўляная 2-ярусная шатровая званіца.


Капліца 20 ст. ў в. Новая Мыш.


Капліца 19 ст. (пахавальня Ю.Цітовіча) у в. Новая Мыш.


Касцёл Перамянення Гасподняга ў в. Новая Мыш.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Новая Папіна.

Кашталян навагрудскі Мікалай Юдзіцкі ў 1660 г. запрасіў сюды езуітаў, якія ў 1667 г. заснавалі тут місію, і надзяліў яе маёнткам Мыш «для адукацыі моладзі»[1]. Езуітам быў нададзены фальварак Баранавічы, а таксама права судзебнай улады і збору падаткаў з насельніцтва[2]. Першапачатковы драўляны касцёл пастаўлены ў 1641 г. падканцлерам Вялікага княства Літоўскага Казімірам Львом Сапегам (1668—1695)[3]. Пасля пажару нашчадак Сапегі ў 1825(4) г. паставіў мураваны касцёл[3]. На 1912 г. парафія налічвала каля 5000 прыхаджан.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму з рысамі рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты агульным 2-схільным дахам з вальмамі над 3-граннай апсідай. Фасад — характэрны для позняга класіцызму порцік з 4 парамі калон і высокім трохвугольным франтонам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах і контрфорсамі ў прасценках. Франтон завершаны шатровай 4-граннай сігнатуркай з макаўкай, яго тымпан расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і круглымі люкарнамі.

Унутры шырокі неф, у якім вылучаны самастойныя аб'ёмы сакрысцій, перакрыты сегментным драўляным скляпеннем, бакавыя сцены крапаваны пілонамі. На хорах, абапёртых на 2 калоны, устаноўлены аркан, дэкарываваны накладной разной ракайльнай арнаментыкай. У 1905—09 гг. устаноўлены 3 драўляныя разныя алтары і амбон, перанесеныя з касцёла бенедыкцінак у Нясвіжы.

Галоўны алтар — 2-ярусны, на высокім цокалі. Чатыры калоны 1-га яруса (па 2 абапал алтарнай карціны «Праабражэнне») нясуць раскрапаваны прафіляваны антаблемент з накладной разьбой. У нішах паміж калонамі — драўляная скульптура. У 2-м ярусе (вакол алтарнай карціны «Святая Сям'я») — скульптурная група анёлаў. Бакавыя алтары (1745) па кампазіцыі аналагічныя цэнтральнаму, але меншыя памерамі. Матывы разьбы: вінаградная лаза з гронкамі, разеткі, ракавіны, пальметкі, акант, стылізаванае лісце, галоўкі анёлаў і фантастычныя рыбіны. Сярод скульптур 18 ст. «Св. Станіслаў» і «Маці Божая з дзіцем», устаноўленыя на кранштэйнах абапал цэнтральнага алтара. Амбон выкананы ў стылі ракако (адноўлены ў 1893, 1959, 1979), дэкарываваны скульптурамі 4 евангелістаў у экспрэсіўных ракурсах, херувімамі, маскаронамі, паляўнічымі атрыбутамі, а таксама картушамі і медальёнамі. Завяршае амбон скульптурная група лунаючых анёлаў. На хорах устаноўлены арган, дэкарываваны разьбой у стылі ракако (выкананы ў 1762, адноўлены ў 1891 г. майстрам з Вільні Ф.Астрамецкім). Абразы 18 ст. «Св. Станіслаў», «Св. Ганна, Марыя і Ісус Хрыстос», «Маці Божая з дзіцем», «Звеставанне», капа і далмацік мануфактуры А.Тызенгаўза 18 ст., арнат са слуцкага пояса 18 ст.

---

[1] Wileńszczyna, Nowogródczyna i Białostoczyzna za Jana Kazimierza. Wilno, 1936. S. 17; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T. I. S. 341—342.

[2] Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 103.

[3] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1935. Pińsk, 1936. S. 52.

## в. Новая Папіна,

Драгічынскі раён

Брэсцкай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1922 г. з дрэва намаганнямі ксяндза Батко[1]. На 1935 г. налічвалася каля 1500 парафіян. Меліся філіяльныя капліцы ў вёсках Закозель і Оўзічы. Выкарыстоўваецца пад Дом культуры.

Твор народнага дойлідства з рысамі канструктывізму. Трохзрубны храм — прамавугольныя ў плане малітоўная зала, нартэкс, апсіда, накрытыя агульным вальмавым дахам, які на галоўным фасадзе выходзіць трохвугольным франтонам. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзаны прамавугольнымі і квадратнымі аконнымі праёмамі.

---

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1935. Pińsk, 1936. S. 114.

## в. Новая Расна,

Камянецкі раён

Брэсцкай вобласці

## Касцёл святой Ганны

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. з цэглы на сродкі графа Грабоўскага для манахаў-марыянаў, запрошаных у 1744 г. уладальнікам маёнтка Юзафам Матушэвічам[1]. Кляштару марыянаў былі перададзены фальварак Такары і хутар Заба-



Касцёл святой Ганны ў в. Новая Расна.



Касцёл святога мучаніка Юрыя ў в. Новая Руда.



Інтэр'ер касцёла святога мучаніка Юрыя ў в. Новая Руда.

лацце. Касцёл перабудаваны ў пачатку 19 ст. За актыўны ўдзел Расненскай парафіі ў паўстанні 1863—64 гг. кляштар у 1868 г. скасаваны і перададзены праваслаўным[2]. На мяжы 19—20 ст. у кляштарным корпусе знаходзілася духоўнанастаўніцкая семінарыя, якая гадавала выкладчыкаў для царкоўнапрыходскіх школ. У 1918 г. касцёл вернуты парафіянам, у 1939 г. зноў канфіскаваны. У 1944 г. кляштарны корпус зруйнаваны.

Помнік архітэктуры барока і класіцызму. Цэласны 1-нефавы аб'ём з паўкруглай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у канічнае пакрыццё. Перад уваходным прамавугольным парталам выступае 4-калонны дарычны порцік з трохвугольным франтонам (прыбудаваны ў 1860-я гг.). Па перыметры будынак апяразаны прафіляваным карнізам. Атынкаваныя сцены прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Былыя скляпенні залы заменены падшыўной бэлечнай столлю. У склепе-крыпце пад касцёлам знаходзіліся 4 саркафагі Грабоўскіх і 6 мемарыяльных пліт.

---

[1] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 180.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 45; ф. 844, воп. 1, спр. 53.

## в. Новая Руда

Гродзенскага раёна

## Касцёл святога мучаніка Юрыя

На ўсходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1938 г. з дрэва, зачынены ў 1970 г. (прыстасаваны пад склад), вернуты ў 1980 г.

Помнік архітэктуры з рысамі стылю мадэрн. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад стромкім вальмавым дахам з заломам над карнізам і 8-граннай шатровай каркаснай сігнатуркай па цэнтры вільчыка. Агульным вальмавым дахам аб'яднаны ніжэйшая 5-гранная апсіда і нізкія бакавыя сакрысціі. Агульным 1-схільным пакрыццём аб'яднаны франтон фасада і квадратны ў плане дабудаваны да фасада прытвор. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

Унутраная прастора храма перападам вышынь столяў і 6 гранёнымі слупамі падзелена на 3 нефы, перакрытыя па цэнтры корабавым і па баках цыліндрычнымі скляпеннямі. Апсіда раскрыта шырокім прамавугольным з фігурнымі вуглавымі падкосамі прасветам. На алтарнай сцяне навешана драўляная скульптура «Укрыжаванне». На левай сцяне прэсбітэрыя навешаны паўкруглы амбон.

Перад храмам асобна пастаўлена 4-гранная шатровая драўляная званіца з 2-ім адкрытым каркасным ярусам-звонам.

## в. Новы Двор,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца





Капліца ў в. Новы Двор.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Новы Двор.





Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Новы Пагост.

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1882 г. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства з ўплывам рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад вальмавым дахам, завершаным над алтарнай часткай невялікай шатровай слуповай сігнатуркай. У франтальны фасад урэзана 4-гранная званіца са спічастым шатром. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзаны стральчата-арачнымі аконнымі праёмамі і ўмацаваны брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1749(92) г. з дрэва ўладальнікам маёнтка маршалкам ігуменскай шляхты Станіславам Прушынскім на месцы храма 1670 г. (першапачатковы адзначаны па «валочнай памеры» 1561 г.[1] Адноўлены ў 1880 г. Побач з касцёлам, за агароджай, у 1852 г. пабудавана квадратная ў плане 2-ярусная званіца пад 4-схільным дахам.

Помнік драўлянага дойлідства. Складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, завершанага 8-граннай вежай (надбудавана ў 1880), і 5-граннай апсіды з сакрысціямі. Асноўны аб'ём і апсіда накрыты агульным 2-схільным дахам з вальмамі. Сакрысціі маюць самастойныя вальмавыя дахі. Сцены прарэзаны лучковымі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі і вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Франтон галоўнага фасада аддзелены ад плоскасці карнізам з адлівам, гарызантальна ашаляваны.

У інтэр'еры малітоўная зала выцягнута па падоўжнай восі. Плоскую столь падтрымліваюць 6 слупоў, звязаных бэлькамі ў 2 падоўжныя рады. 3 разныя алтары выкананы ў стылі ракако. Невысокі дэкарыраваны пазалочанымі медальёнамі цокаль галоўнага алтара падтрымлівае асноўны ярус, расчлянёны 4 калонамі карынфскага ордэра. Па цэнтры абраз сярэдзіны 18 ст. «Ушэсце», па баках драўляныя скульптуры святых апосталаў Пятра і Паўла (канец 18 ст.). Наверша, аддзеленае ад асноўнага яруса крапаваным карнізам, аздоблена выявамі галовак херувімаў, кароны, ваз, картушаў; пасярэдзіне — абраз «Каранаванне Маці Божай» (18 ст.). У дэкоры шырока выкарыстана скразная пазалочаная разьба па дрэве, у арнаментыцы якой валюты, ракайлі, лісце аканту. Бакавыя алтары падобны галоўнаму. Арган на хорах дэкарыраваны 2 драўлянымі скульптурамі анёлаў, 2 херувімаў і накладной залачонай разьбой у стылі ракако.

[1] Aftanazy R. Materiały do dziejów rezydencji. Warszawa, 1986. T. 1a. S. 214.

## в. Новы Пагост,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У заходняй частцы вёскі, акаймаваны бутавай агароджай. Пабудаваны ў 1766 г. з дрэва.

Першы драўляны касцёл узведзены ў 1593 г. па фундацыі канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі і караля Жыгімонта III.[1] Быў спалены падчас вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18 гг. Адноўлены ў 1656 г. пасля пажару.[2] Існуючы храм у 1845 г. згадваецца як струхнелы; у 1859 г. адрэстаўрыраваны і пашыраны. У 1949 г. зачынены і прыстасаваны пад гаспадарчыя мэты. У 1990 г. вернуты парафіянам.

Помнік народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным зрубам пад 2-схільным дахам, які выходзіць на фасад трохвугольным франтонам, завершаным 3-ярусная 4-граннай сігнатуркай, над алтарнай часткай — 1-яруснай. Да 5-граннай апсіды далучаны бакавыя квадратныя ў плане высокая і нізкая сакрысціі. Гарызантальна ашаляваныя фасады расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі.

Перад храмам, у вуглу бутавай агароджы пастаўлена 4-гранная 2-ярусная драўляная вежа-званіца. Верхні каркасны адкрыты ярус-звон накрыты пакатым шатровым дахам, ніжні глухі гарызантальна ашаляваны.

---

[1] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т. 5, с. 33; Да 400-годдзя касцёла ў Новым Пагосце. Беласток, 1993.

[2] Krahel T. 400 lat kościoła w Nowym Pohoście 1593—1993. Białystok, 1993.

## в. Новы Свержань,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

У цэнтры вёскі. Прамавугольны ўчастак касцельнай тэрыторыі акаймаваны муравапай агароджай з 4-слуповай брамай. Пабудаваны ў 1588 г. па фундацыі Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі[1]. Паводле інвентару 1647 г. размешчаны побач з каталіцкімі могілкамі на кароткім баку гандлёвай плошчы на ўчастку ў 3,5 «пляца». У 1818 г. будынак адрамантаваны, асобна пастаўлена драўляная званіца, якая згарэла пры пажары 1890 г. У 1864 г. закрыты, у 1901 г. адкрыты. Пасля Вялікай Айчыннай вайны выкарыстоўваўся ў гаспадарчых мэтах, у 1988 г. вернуты католікам.

Помнік архітэктуры рэнесансу з рудыментамі готыкі (гатычная муроўка сцен[2]). Архітэктура надзелена магутным абарончым характарам. Аднавежавы, прамавугольны ў плане будынак з кароткімі крыламі трансепта і нізкай паўкруглай апсідай. Да франтальнага паўночнага фасада (першапачаткова не атынкаванаму) далучана 4-ярусная шатровая вежа-званіца буйных прапорцый, вуглы якой умацаваны гатычнымі контрфорсамі, а верхнія ярусы крапаваны плоскай рэнесанснай аркатурай. Паўцыркульныя аконныя праёмы праразаюць плоскасныя грані фасадаў. Высокі трохвугольны франтон 2-схільнага даху над апсідай фланкіраваны рэнесанснымі пінаклямі-абеліскамі.

Унутры зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, перакрыцце нартэкса пакрыта гатычнымі нервюрамі. Над нартэксам у ніжнім яру-



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Новы Свержань.



Інтэр'ер касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Новы Свержань.



Касцёл у в. Новыя Навасёлкі.



Капліца святога Вінцэнта ў в. Нурвянцы.

се вежы размешчаны хоры, якія адкрываюцца невялікім арачным праёмам і злучаны з залай лесвіцай, размешчанай у таўшчыні заходняй сцяны.



Капліца ў г. Нясвіж.



[1] Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 107; Bernartowicz T. Miles Christianus et peregrinus. Fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordynacji Nieświeskiej. Warszawa, 1998;

[2] Описание церквей и приходов Минской епархии. Минский уезд. Мн., 1878. Ч. I. С. 109; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym opisana. Warszawa, 1846. T. IV. S. 537; Syrokomla W. Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wilno, 1853. S. 105.

# в. Новыя Навасёлкі,

Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл

У цэнтры вёскі, на могілках. Пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст. з цэглы ксяндзом Трацкевічам, пасля смерці якога ў 1771 г. (быў пахаваны ў крыпце) стаў філіяльным пры Нясвіжскім фарным касцёле[1]. У 1867 г. пераўтвораны ў праваслаўную Георгіеўскую царкву, прыпісную да царквы ў в. Гавязна (сучасная в. Вішнявец Стаўбцоўскага р-на)[2]. Знаходзіцца ў зруйнаваным стане.

Твор архітэктуры барока. У выніку разбурэння ў 1820-я гг. асноўнага карабля храма засталіся толькі яго высокі прэсбітэрый з 3-граннай апсідай і нізкімі бакавымі сакрысціямі. Пірамідальную кампазіцыю 2-яруснага фасада завяршае трохвугольны франтон; перад уваходам прыбудаваны нізкі кубападобны прытвор. Фасады прарэзаны высокімі аконнымі праёмамі з характэрнай эліптычнай перамычкай, крапаваны пілястрамі.

Эліптычная арачная форма выкарыстана ў скляпеністым перакрыцці нефа (скляпенні абваліліся) і крапоўцы сцен, расчлянёных адзінарнымі і парнымі пілястрамі. Насценны мураваны ракайльны алтар вырашаны 4-пілястравым порцікам з фігурна выгнутым хвалістым франтонам, па краях якога пастаўлены ляпныя вазы. Тымпан франтона запоўнены ракайльным картушам. У цэнтры порціка арачная ніша ў арнаментальным абрамленні.

[1] НАРБ, ф. 136, воп. 1, спр. 31527; ф. 295, воп. 1, спр. 1819, арк. 1—17.

[2] Описание церквей и приходов Минской епархии. Слуцкий уезд. Мн., 1879.

# в. Нурвянцы,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца святога Вінцэнта

На могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст. з бутавага каменю.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам з паўкруглай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у канічны. Ба-

кавыя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі ў цагляных ліштвах.

## г. Нясвіж
Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры горада, каля Замкавай вежы. Пабудавана ў 1826 г. з цэглы ў гонар 1500-годдзя Нікейскага сабора. Вежападобнае 4-граннае 3-яруснае збудаванне пад пакатым шатровым пакрыццём на прафіляваным карнізе. Атынкаваныя грані крапаваны прамавугольнымі нішамі.

### Касцёл Божага Цела і калегіум езуітаў

У цэнтры горада, на вул. Міцкевіча. Пабудаваны ў 1587—1593 гг. з цэглы паводле праекта італьянскага архітэктара Дж.М.Бернардоні па фундацыі Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі.

Каля 1510 г. дарагічынскі староста Пётр Кішка пабудаваў у Нясвіжы парафіяльны касцёл, пераўтвораны князем Мікалаем Радзівілам Чорным у кальвінскі збор, у які ён у 1561 г. запрасіў на службу міністра (прапаведніка) Лаўрэнція Крышкоўскага. У 1582 г. Мікалай Крыштоф Радзівіл (Сіротка) асадзіў у горадзе езуітаў. У 1581—84 гг. будаваўся мураваны касцёл, які разабраны ў 1586 г. На аснове фундуша Сіроткі ад 19.8.1584 г. пасля яго вяртання з паломніцтва ў Святую зямлю для будаўніцтва езуіцкіх устаноў былі вылучаны 2 пляцы па вул. Воднай, на ўсходнім баку якой меркавалася ўзвесці новы касцёл, калегіум з гаспадарчымі пабудовамі, высадзіць сад і агарод (з заходняга боку ў той час ужо будаваўся новы касцёл)[1]. Радзівілаўскую фундацыю пацвердзіў 4.2.1585 г. кароль Стафан Баторый. Новы касцёл пачалі будаваць па ўзору царквы Іль Джэзу ў Рыме (1568, архітэктары Дж.Віньёла і Дж.Дэла Порта), аб чым паведамляў 26.6.1586 г. правінцыял Польскай правінцыі езуітаў (ахплівала ўсю Рэч Паспалітую) І.П.Кампана: «пабудаваць касцёл па нашаму ўзору»[2]. Сіротка вылучыў на будаўніцтва 10 тыс. злотых, заснаваў цагляны завод. Асвячэнне краевугольнага каменя адбылося 14.9.1587 г., асвячэнне пабудаванага храма папскім нунцыем Клаўдызіо Рангоні — 7.10.1601 г., першае набажэнства адбылося 14.9.1593 г. Храм — першы твор архітэктуры барока на тэрыторыі Рэчы Паспалітай і Усходняй Еўропы ў цэлым. Пасля пажару ў сярэдзіне 17 ст. касцёл адбудаваны; у 18 ст. вытрымаў перабудову, фундатарамі якой былі Міхаіл Казімір Радзівіл (Рыбанька) і яго жонка Уршуля з Вішнявецкіх. Са скасаваннем ордэна езуітаў і закрыццём калегіума ў 1773 г. касцёл стаў фарным (парафіяльным, прыходскім), у 1803 г. налічвалася 7050 парафіян[3]. Касцёл адлюстраваны на гравюры Т.Макоўскага пачатку 17 ст. і на малюнку Н.Орды 1876 г. Пашкоджаны ў Вялікую Айчынную вайну, аднаўлены ў 1944 г. 8.6.2000 г. ў касцёле згодна завяшчанню пахаваны нашчадак нясвіжскай лініі Антоній Радзівіл, які жыў у Англіі.



Інтэр'ер касцёла Божага Цела ў г. Нясвіж.

Пры заснаванні калегіум быў разлічаны на 200 навучэнцаў, на пачатак 17 ст. ў ім вучылася 300 чалавек. З 1592 г. калегіуму належала сядзіба Гавезна, езуіты адкрылі місіі ў Крывошыне, Ліпску, Міка-



Касцёл Божага Цела ў г. Нясвіж.



Размалёўка скляпення касцёла Божага Цела ў г. Нясвіж.



У крыпце касцёла Божага Цела ў г. Нясвіж.

лаеве. Будаўніцтву езуіцкай рэзідэнцыі садзейнічалі многія прадстаўнікі радзівілаўскага роду: жонка Сіроткі Эўфімія Вішнявецкая, падканцлер літоўскі Міхал Радзівіл (ахвяраваў зямельныя ўчасткі, вёскі Заліпенне, Залужжа і ўсю Ліпскую воласць і пабудаваў для калегіума дом), князь Караль Радзівіл (купіў для касцёла вялізную сярэбраную люстру і штогод рабіў шчодрыя ахвяраванні), князь М.К.Радзівіл (падараваў калегіуму в. Навасёлкі), Юрый Радзівіл (вылучыў неабходныя сродкі на завяршэнне будаўніцтва). Усе свае валоданні ахвяравалі езуітам Табіяш Грахоўскі з жонкай. Праект будынка, верагодна, распрацаваны Дж.М.Бернардоні, быў дасланы ў Рым на зацвярджэнне, а будаўніцтва ажыццёўлена ў 1586—1599 гг.[4] Закрыты ў 1773 г. і пераўтвораны спачатку ў школу дамініканцаў, затым у 19 ст. ў свецкую павятовую школу, з 1835 г. ў вайсковую казарму. Будынак знішчаны пажарам у 19 ст.



Езуіты былі павінны ўтрымліваць школу і задавальняць духоўныя патрабаванні парафіян. Выкладаліся граматыка, паэтыка, рыторыка, музыка. Бібліятэка ў 1773 г. налічвала каля 15 тыс. тамоў. З 1620 г. адкрыты канвікт для дзяцей збяднелай шляхты, з 1627 г. — аптэка, з 1750 г. — друкарня. У 2-й палавіне 17 ст. ў калегіуме выкладалі прафесар матэматыкі Віленскага універсітэта Освальд Крыгер (у 1618—20, 1648)[5], які з 1653 г. стаў яго рэктарам; у 1709—13 гг. рэктарам быў Пётр Пузына (21.7.1664—1.3.1717). У сярэдзіне 18 ст. выкладчыкам філасофіі і матэматыкі быў прафесар Віленскай акадэміі Пётр Барташэвіч (1729—66)[6].

Касцёл — помнік архітэктуры барока. Вырашаны паводле канона 3-нефавай крыжова-купальнай базілікі з акруглай апсідай і 2 гранёнымі капліцамі (св. Андрэя і св. Пятра) на бакавых фасадах. Над сяродкрыжжам узведзены 6-гранны светлавы барабан, калісьці накрыты паўсферычным медным купалам з ліхтаром, выкананым італьянскім архітэктарам Іосіфам (Джузепе) Брызіо[7]. Галоўны фасад 2-ярусны, расчлянёны па вертыкалі пілястрамі, па гарызанталі — развітым антаблементам. Першы ярус, які займае шырыню 3 нефаў, расчлянёны пілястрамі на 5 частак, бакавыя з якіх вылучаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і круглымі люкарнамі. Уваходны партал завершаны лучковым франтонам. Другі ярус займае шырыню цэнтральнага нефа, крапаваны пілястрамі на 3 часткі, завершаны трохвугольным франтонам з паўкруглай люкарнай па цэнтры. Абодва ярусы кампазіцыйна аб'яднаны бакавымі ўвагнутымі прысценкамі, аздоблены 4 арачнымі экседрамі са скульптурнымі выявамі святых Мікалая, Крыштофа (Хрыстафора), Ігнація Лаёлы, Франца Ксаверыя. Пластыку фасада ўзбагачаюць трохвугольныя сандрыкі, квадратныя плакеткі, бакавыя пінаклі.

Пры пэўным падабенстве да італьянскага прататыпа касцёл мае адметныя рысы: аднолькавая пластычная апрацоўка фасадаў, спрошчаная інтэрпрэтацыя ордэра, наяўнасць бакавых гранёных капліц за межамі базілікі, працяг бакавых нефаў за межы трансепта. Як сведчаць праектныя чарцяжы помніка і гравюра Т.Макоўскага, першапачаткова па баках галоўнага фасада былі зроблены абарончыя цыліндрычныя вежачкі, традыцыйныя для беларускай готыкі, з вітымі ўсходамі на эмпоры (галерэі) у бакавых нефах. Каля 1705 г. эмпоры і вежы былі ліквідаваны.

Унутры цэнтральны неф шырэйшы за бакавыя, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, бакавыя — крыжовымі. Распор купала (дыяметр 10 м) прыглушаецца ветразевымі скляпеннямі і падпружнымі аркамі. Прэсбітэрый адмежаваны ад нефа драўлянай разной агароджай. У залу адкрыты бакавыя капліцы. У крыпце — капліца Святога Крыжа і родавая пахавальня князёў Радзівілаў.

Інтэр'ер багата дэкарыраваны фрэскамі, якімі пакрыты скляпенні цэнтральнага і бакавых нефаў, прэсбітэрыя, трансепта, нартэкса, бакавых капэл і падкупальнай прасторы. Тэалагічную праграму рос-

пісаў распрацаваў прыдворны ксёндз-тэолаг і рэктар калегіума (1739—1742) Ян Пашакоўскі[8]. Размалёўкі выкананы ў 1750—53 гг. мастакамі на чале з Ф.К.Д.Гескім у супрацоўніцтве з «будаўнічым» (адпавядае пасадзе прараба) Казімірам Ждановічам (рэстаўрыраваны ў 1900—02[9]). Фрэскавы цыкл складаецца з буйных сцэн алегарычнага зместу, выяў святых і дэкаратыўна-арнаментальных кампазіцый. У прасценках светлавога барабана і на купале ў 2 ярусы выкананы выявы айцоў царквы — святых Аўгусціна, Васіля Вялікага, Яна Златавуста і інш.; на ветразях барабана — выявы евангелістаў з сімваламі; на скляпеннях трансепта адлюстравана ахвяравальнасць зямнога жыцця Хрыста. На консе прэсбітэрыя размешчана фрэска «Трыумф Сакрамента Еўхарысціі». У трансепце — сцэны з жыцця Маці Божай і Хрыста, а таксама са Старога Запавету. На фасадах цэнтральнага і бакавых нефаў шэраг сцэн, прысвечаных каталіцкім таінствам і старазапаветным сюжэтам. У кампазіцыі фрэсак укампанаваны картушы з вершаванымі строфамі і спасылкамі на Біблію.

Вялікі алтар, створаны па праекце Маўрыцыо Педэці ў сярэдзіне 18 ст., упрыгожаны карцінай Ф.К.Д.Гескага «Тайная вячэра» (1753). Мармуровыя бакавыя алтары святога Крыжа (створаны ў 1583, у 1586 вывезены з Венецыі, майстры Джыларома Кампана і Чэзарэ Франка[10]), Дзевы Марыі, святых Лаўрэнція, Себасцьяна, Фларыяна, Роха ўпрыгожаны скульптурай. Прэсбітэрый адмежаваны ад нефаў драўляным, разным у стылі барока парапетам.

Над уваходам — хоры з арганам. Першы арган быў пастаўлены ў 1611—1615 гг. на сродкі мясцовага шляхціца Андрэя Скарульскага. Парапет хораў пакрыты фрэскавым роспісам з выявамі музычных інструментаў і ракайльным картушам па цэнтры.

У інтэр'еры 4 дошкі-надмагіллі: фундатара касцёла М.К.Радзівіла Сіроткі, яго жонкі Альжбеты Эўфеміі Вішнявецкай, яго 2 сыноў — першынца немаўляці Мікалая і Крыштофа Мікалая, выкананыя ў стылі рэнесансу скульптарамі-італьянцамі Каспeрам Фадыгам, Чэзарэ Франка і інш. На пліце фундатара выкананы яго барэльеф у вопратцы пілігрыма і з посахам у руках; зверху лацінская сентэнцыя: «Перад тварам смерці кожны не рыцар, а толькі вандроўнік-пілігрым». У 1905 г. ў касцёле ўстаноўлена мемарыяльная дошка польскаму і беларускаму паэту У.Сыракомлю. Радзівілаўскі катафалк быў выкананы архітэктарам М.Педэці (адлюстраваны разам з інтэр'ерам гравёрам Г.Ляйбовічам у 1750-я гг.). У падлозе прэсбітэрыя ўваход у фамільную крыпту-пахавальню Радзівілаў (70 саркафагаў), у капліцы якой павінна была праводзіцца імша па Радзівілах-нябожчыках.

Будынак калегіума (не захаваўся) уваходзіў у адзіны архітэктурны ансамбль з касцёлам і быў злучаны з ім крытай галерэяй, якая знаходзілася з боку алтара. Архітэктура калегіума была вырашана ў стылі рэнесансу: П-падобны ў плане будынак пад 2-схільнымі дахамі з фігурнымі франтонамі па тарцах. Плоскасныя сцены франтальнага фасада чляніліся прамавугольнымі і арачнымі аконнымі праёмамі, па версе былі апяразаны фігурнымі атыкамі дробнага хвалепадобнага і арнаментальнага характару — дэкаратыўныя шчыты валютнай абмалёўкі, пілястравая крапоўка, фігурныя фрызы, цэнтральная вежачка-эркер з курантамі і шатром з флюгерам. Бакавыя фасады мелі спрошчаную плоскасную трактоўку з рытмам прамавугольных і арачных аконных праёмаў. Першы паверх уяўляў сабой адкрытую галерэю-аркаду па баках цэнтральнага скразнога праезда. Паўночны і паўднёвы карпусы мелі галерэйную планіроўку, усходні — калідорную. У 1-м паверсе паўднёвай часткі размяшчаліся 4 школьныя класы, бібліятэка з друкарняй і асобны ўнутраны двор, у паўночнай — чатыры келлі, кухня, кладоўка і трапезная, якія мелі выхад у асобны абнесены глухой сцяной двор. Усходняе тыльнае крыло мела калідорную планіроўку і ўключала келлі, кладоўку, гасціную, скарбец. Да яго перпендыкулярна далучалася крыло для чэлядзі, лабараторыі, аптэкі. 2-і паверх адводзіўся пад келлі манахаў, апартаменты рэктара і капліцу. Інтэр'еры шэрагу памяшканняў былі аформлены фрэскамі. За будынкам калегіума быў спланаваны рэгулярны сад з сажалкай.



Плябанія каля касцёла Божага Цела ў г. Нясвіж.

Плябанія пабудавана ў 16—17 ст. непадалёку ад касцёла (вул. Міцкевіча, 5). У 18—19 ст. далучана вуглавое Г-падобнае крыло, у выніку чаго твор архітэктуры барока набыў рысы стылю класіцызму — калонны порцік з драўляным трохвугольным франтонам. Існуючы будынак — кампактны 2-павярховы, накрыты вальмавым дахам, прамавугольны ў плане. Плоскасныя фасады рытмічна члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. На дваровым фасадзе зберагліся фрагменты вялікіх паўцыркульных арачных нішаў, якія нагадваюць рэнесансную аркаду. Спачатку на 2-м паверсе дваровага фасада была арачная галерэя, на якую выхо-



Касцёл святой Кацярыны і кляштар бернардзінцаў у г. Нясвіж. Жылы корпус.

дзілі ўсе памяшканні (у час перабудовы праёмы закладзены). Мяркуюць, што ў 1750—90-я гг. ў будынку размяшчалася друкарня. У 1982 г. перад будынкам пастаўлены помнік асветніку і гуманісту Сымону Буднаму (скульптар С.Гарбунова, арх. Ю.Казакоў).

К а п л і ц а  Б у л г а р ы н а. Пастаўлена ў кутку касцельнай агароджы. Пабудавана ў 1747 г. з цэглы.

Помнік архітэктуры барока. Вырашана квадратным у плане аб'ёмам пад шатровым дахам. Грані крапаваны вуглавымі лапаткамі, парэзаны па баках прамавугольнымі аконнымі праёмамі, уваходны праём дэкарыраваны барочным парталам.

---

[1] Габрусь Т.В. Архітэктурныя чарцяжы XVI ст. з Нясвіжа // Славянскія культуры: гістарычны вопыт і сучасныя праблемы. Мн., 1996. С. 77.

[2] Baranowski A.J. «Lietuvos TSR architekturos klausimai». VI (II). Wilno, 1979 // Biuletyn Historii Sztuki. Warszawa, 1980. № 2. S. 217; Bernartowicz T. Miles Christianus et peregrinus. Fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordinacji Nieświeskiej. Warszawa, 1998.

[3] Paszenda J. Kosciol Bożego Ciała (pojezuicki) w Nieświżu // Kwartalnik architektury o urbanistyki. 1976. T. 21. Zez. 3. S. 198—201.

[4] Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 103.

[5] Loza St. Architekci i budowniczowie w Polsce. Warszawa, 1954. S. 109.

[6] Biuletyn historii sztuki. 1978. № 3. S. 280.

[7] Paszenda J. Kościoł Bożego Ciała (pojezuicki) w Nieświżu // Kwartalnik architektury a urbanistyki. 1976. T. 21. Zez. 3. S. 208.

[8] Баженова О. Радзивилловский Несвиж. Росписи костела Божьего Тела. Мн., 2007. С. 235.

[9] Гаршкавоз В.Д. Да пытання аб мастацкіх асаблівасцях інтэр'ера фарнага касцёла г. Нясвіжа // Помнікі культуры. Мн., 1985, с. 24—31. Хадыка Ю.В. Сістэма роспісаў Нясвіжскага касцёла // Помнікі культуры. Мн., 1985, с. 31—38; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu. Wilno, 1938—39. S. 245.

[10] Bernartowicz T. Miles Christianus et peregrinus. Fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordynacji Nieświeskiej. Warszawa, 1998.

## Касцёл святой Кацярыны і кляштар бернардзінцаў

У цэнтры горада, на вул. Ленінскай, займаў тэрыторыю, прылеглую да паўночна-заходняга боку абарончага гарадскога вала. Заснаваны ў 1598 г. па фундацыі князя Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі і яго жонкі Галькі Эўфеміі з Вішнявецкіх, якая завяшчала на будаўніцтва кляштара даход ад маёнтка Карэлічы, а муж — ад маёнтка Чановічы і млына ў в. Пагарэлае[1]. Касцёл і кляштарны корпус пабудаваны паводле праекта італьянскага архітэктара Дж.М. Бернардоні, касцёл асвячоны віленскім біскупам Б.Войнам у 1603 г. ў імя св. Кацярыны і ў гонар памерлай дачкі М.К.Радзівіла. У 17 в. да касцёла прыбудаваны капліцы св. Францыска і св. Ганны. З 1628 г. пры кляштары дзейнічала школа тэалогіі, з 1654 г. — школа філасофіі. Кляштар адбудаваны ў 1662 г. пасля пажару 1655 г. Пры ім дзейнічала суконная фабрыка. У касцёле быў пахаваны Міхал Казімір Рэйтан (памёр у 1706 у Слуцку) — дзед Тадэвуша Рэйтана, кардынальнага праціўніка падзелаў Рэчы Паспалітай. У 1793 г. адзначаны арган: «Вялікі арган дасканалага гучання, на 20—24 галасы, рэдкага мастацтва і незвычайных памераў»[2]. У 1793 г. касцёл згарэў, адбудаваны ў 1802—22 гг. У касцёле знаходзіліся скульптурныя надмагіллі фундатараў. У 1804 г. ў кляштары налічвалася 15 манахаў, 12 студэнтаў, у бібліятэцы 1199 кніг. Кляштар трапіў пад рэпрэсіі царскіх улад пасля паўстання 1863 г. 6.10.1864 г. мінскі губернатар у адказ на запыт М.Мураўёва адзначаў, што сярод усіх кляштараў Нясвіжа менавіта бернардзінскі «во время прошедшей смуты» праявіў актыўную антыўрадавую палітыку, яго манахі ўсяляк падтрымлівалі грамадскія беспарадкі і нацыянальна-патрыятычныя маніфестацыі. У тым жа годзе кляштар скасаваны, жылы корпус перададзены ваеннаму ведамству, а касцёл у 1892 г. паводле загада генерал-губернатара Патапава перабудаваны пад праваслаўную Георгіеўскую царкву (інжынер Скуратаў). Манахі былі распушчаны, часка іх рассялілася па іншых кляштарах (у Крэцінзе ў Літве, Кімбараўцы каля Мазыра, Гарадзішчы), а некаторых перавялі ў суседні дамініканскі пристанак, манахі якога, як і бенедыкцінкі, адмежаваліся ад паўстання. Архітэктурны комплекс адлюстраваны на піктаграфічнай карце бернардзінскіх кляштараў Літоўскай правінцыі, выкананай прыдворным гравёрам Радзівілаў Гершкам Ляйбовічам у 1750-я гг. Кляштар часткова пашкоджаны ў Вялікую Айчынную вайну, касцёл зруйнаваны ў 1950-я гг.

К а с ц ё л (не захаваўся) — 3-нефавая базіліка з павышаным цэнтральным нефам пад 2-схільным і больш нізкімі бакавымі нефамі пад 1-схільнымі да-

хамі. Двух'ярусны фасад завяршаўся трохвугольным франтонам, у 1-м ярусе на цэнтральнай восі размяшчаўся арачны ўваходны партал. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна чляніліся арачнымі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі (адпаведна галоўнаму і бакавым нефам) і крапаваліся пілястрамі ў прасценках. Да алтарнага фасада далучалася высокая ярусная чацверыковая вежа-званіца, завершаная спічастым шатром. З завяршэннем у 1870 г. перабудовы храма пад царкву інтэр'ер быў пазбаўлены галоўнага і 6 кулісных алтароў і набыў прывезены з Мінска іканастас і шэраг абразоў маскоўскага мастака Ягора Зотава.

Жылы корпус — помнік архітэктуры ранняга барока (збярогся часткова). Далучаўся да бакавога фасада касцёла праз крытую галерэю. Двухпавярховы П-падобны ў плане мураваны будынак асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Фасад расчлянёны невысокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках. Унутраная планіроўка галерэйнага тыпу (зменена). Да будынка далучаліся 3 вежы, трэцяя з якіх завяршала ўязную браму.

---

[1] Описание церквей и приходов Минской епархии. Слуцкий уезд. Мн., 1879. С. 180; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T. I. S. 309.

[2] Дадзіёмава В.У. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: гісторыка-тэатральнае даследаванне. Мн., 2002. С. 113; Chibiński A. Luzne notatki o staropolskich organach i organistach // Muzyka kościelna. 1926. Nr 2. S. 17—21.

## Касцёл святой Эўфеміі і кляштар бенедыкцінак

У цэнтры горада, на вул. Чкалава. Пабудаваны ў 1593—96 гг. з цэглы італьянскім архітэктарам Дж.М.Бернардоні[1].

Манашкі-бенедыкцінкі аселі ў горадзе ў 1589 г. Заснаванне гэтага першага на Беларусі кляштара бенедыкцінак звязана з імем князя Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі, які вылучыў 7 тыс. злотых на будаўніцтва касцёла і маёнтак Гавязна на яго ўтрыманне (у маёнтку манашкі ў 1640 пабудавалі уніяцкую царкву, у 1839 перароблена пад праваслаўную)[2]. Касцёл пачаў будавацца ў 1593 г. і быў названы ў гонар св. Эўфеміі (жонка князя Альжбета Эўфемія з Вішнявецкіх). Касцёл асвячоны 12.4.1597 г. жмудскім біскупам Мельхіёрам Гедройцам. Зацікаўленасць да заснавання кляштара праявілі папа Клімент VIII і кароль Жыгімонт III, які пацвердзіў яго фундацыю на генеральным сойме ў Варшаве 14.10.1590 г. У 1-й палавіне 18 ст. зроблены некаторыя перабудовы (перароблены фасад, зняты цыліндрычныя вежачкі, павялічаны неф). У сярэдзіне 18 ст. знакамітая навагрудская лекарка Саламея Русецкая пакінула ў кляштары малалетнюю дачку па прычыне ад'езду ў Пецярбург[3]. Пры кляштары дзейнічала свецкая школа на 25 паненак (навучаліся мовам, музыцы, мастацкаму шыццю і інш.), мелася багатая бібліятэка і архіў (у 2-й палавіне 19 ст. перавезены ў Санкт-Пецярбург). У 1866 г. касцёл перароблены пад праваслаўную царкву, кляштар скасаваны ў 1877 г. (манашкі пераведзены ў Гродна) і перададзены пад настаўніцкую семінарыю. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1876 г. Аднавіў дзейнасць у 1920 г., скасаваны ў 1945 г. У 1985 г. на тэрыторыі кляштара археолагамі выяўлены культурны пласт у 1,0—2,5 м і знаходкі (фрагменты кафлі, жбаны і інш.), якія датуюцца канцом 17 ст., што пацвярджае час заснавання кляштара. Захаваліся брама-званіца (1763), жылы корпус з касцёлам, вартоўня, гаспадарчыя пабудовы, размешчаныя вакол унутранага дворыка, акаймаванага мураванай агароджай з унутранай аркатурнай крапоўкай. Цяпер у кляштары педагагічны каледж (з 1994, на базе педагагічнага вучылішча, заснаванага ў 1984).

Жылы кляштарны корпус з касцёлам, аб'яднаныя ў адзіны будынак, — помнік архітэктуры барока. Двухпавярховы Е-падобны ў плане будынак з розанавялікімі бакавымі крыламі. Цэнтральная частка на вышыню 2 паверхаў з'яўлялася касцёлам (1-нефавы, з 5-граннай апсідай і невялікім трансептам). Галоўны фасад корпуса арыентаваны ва ўнутраны дворык. Яго кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца рызаліт (фасад касцёла), расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках. Завяршэнне рызаліту (3-ярусная гранёная вежа з курантамі і фігурным купальным пакрыццём, надбудавана ў 1720-я гг.) не захавалася. Паводле гравюры Т.Макоўскага пачатку 17 ст. фасад не меў вежы, а дах па цэнтры завяршаўся невялікай галоўкай на



Брама-званіца касцёла святой Эўфеміі і кляштара бенедыкцінак у г. Нясвіж.



Капліца ў в. Нястанішкі.



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Нястанішкі.

барабане. У галоўным алтары касцёла быў абраз «Звеставанне Найсвяцейшай Дзеве Марыі», упрыгожаны багатым сярэбраным абкладам, каронамі і каштоўнымі камянямі. Галоўны ўваход размешчаны асіметрычна, у паўночным крыле. Гладкія сцены фасадаў парэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Унутраная планіроўка калідорная, часткова зменена. У бакавых крылах размяшчаліся келлі, гаспадарчыя і службовыя памяшканні, у паўднёвым крыле — зала-трапезная, перакрытая цыліндрычным скляпеннем на распалубках.

Прамавугольная ў плане б р а м а - з в а н і ц а — помнік архітэктуры барока. Размешчана паміж сценамі кляштара, па цэнтральнай восі ўнутранага дворыка. Звонку падзелена развітымі прафіляванымі цягамі на 3 ярусы, што паступова змяншаюцца. 1-ы ярус прарэзаны аркай, над якой размешчаны высокі праём, 2-і з арачным аконным праёмам у цэнтры, абрамлёным ліштвай, 3-і ярус таксама з арачным праёмам, дэкарыраваны хвалістым карнізам. Кожны ярус па вуглах раскрапаваны пілястрамі. Вежа завершана фігурным купалкам са шпілем. Дзверы аздоблены мастацкай коўкай.

---

[1] РДГА, ф. 799, воп. 33, спр. 819, арк. 50; Bernartowicz T. Miles Christianus et peregrinus. Fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordynacji Nieświeskiej. Warszawa, 1998.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 308—309.

[3] Грыцкевіч В.П. Адысея навагрудскай лекаркі: Саламея Русецкая. Мн., 1990. С. 21.

## в. Нястанішкі (Шыманэлі),

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

За 0,5 км на паўднёвы захад ад касцёла. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Вырашана 4-граннай 2-яруснай вежай пад шатровым дашкам. Над бутавым кубападобным пастэментам надбудаваны 2-і атынкаваны ярус, адкрыты арачнымі прасветамі з крыжом пад сенню.

### Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1905 г. з цэглы, асвячоны ў 1928 г. архібіскупам Рамуальдам Ялбржыкоўскім. Сведкі аб папярэднім касцёле адносяцца да 1497 г.[1]

Помнік архітэктуры неаготыкі. 3-нефавая 2-вежавая базіліка з трансептам і 5-граннай апсідай. З боку галоўнага фасада дзве 4-гранныя вежы-званіцы з высокімі шпілямі. Фасады члянёны высокімі ступеньчатымі контрфорсамі і арачнымі аконнымі праёмамі.

Унутраная прастора падзелена 8 слупамі на 3 нефы і шырокі трансепт, перакрытыя цыліндрычнымі і крыжовымі скляпеннямі. У больш шырокі сярэдні неф адкрываюцца арганныя хоры з бакавой лесвіцай.

## в. Нясуцічы,

Навагрудскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 4-гранным вежападобным аб'ёмам, крапаваным па вуглах паўкалонкамі і лапаткамі, прарэзаным па



Капліца ў в. Нясуцічы.

гранях лучковым уваходным і прамавугольнымі бакавымі аконнымі праёмамі. На франтальнай сцяне інтэр'ера навешана драўляная скульптура Укрыжаванне.



# в. Опса,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл святога Яна Хрысціцеля

У паўднёва-заходняй частцы вёскі, каля шашы Браслаў—Відзы. Пабудаваны ў 1887 г. з цэглы па фундацыі Ядзвігі Цеханавецкай на месцы храма 1768 г. (згарэў у 1886). Пацярпеў ад пажару 1928 г. У 1949 зачынены, у 1990 г. вернуты каталікам.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Аднанефавы 1-вежавы храм з 5-граннай апсідай, па баках якой нізкія сіметрычныя сакрысціі. Асноўны аб'ём накрыты 2-схільным дахам, больш нізкая апсіда — вальмавым, сакрысціі — 2-схільнымі дахамі, якія вырашаны накшталт вімпергаў. Такі ж самы вімперг аздабляе партал галоўнага ўвахода. Над ім размешчана акно-ружа, вышэй падвойнае арачнае акно-біфорыум. Вежа-званіца завершана востраканцовым шатром. У дэкоры выкарыстаны прафіляваныя цягі, аркатурныя паясы, лапаткі і арачныя нішы. Унутры неф і апсіда перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Арачныя



Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Опса.



Інтэр'ер касцёла святога Яна Хрысціцеля ў в. Опса.



Касцёл Апекі Маці Божай і кляштар базыльян у г. Орша.

бакавыя аконныя праёмы запоўнены каляровымі сюжэтнымі вітражамі.

# г. Орша

Віцебскай вобласці

## Касцёл Апекі Маці Божай і кляштар базыльян

У цэнтры горада, у зав. Музейным, на правым беразе р. Аршыца. Заснаваны ў 1642 г. уніяцкім мітрапалітам Антоніем Сялявай. Першапачатковыя будынкі жаночага кляштара былі драўлянымі, якія ў 1758—74 гг. заменены мураванымі па ініцыятыве мітрапаліта Ф.Грабніцкага і па фундацыі аршанскага старосты Яна Лянкоўскага[1]. Кляштар складаўся з аб'яднаных у асіметрычны комплекс будынкаў царквы і жылога корпуса. У 1832 г. перададзены праваслаўнаму ведамству, якое заснавала Пакроўскі мужчынскі манастыр з духоўным вучылішчам[2]. У 1920-я гг. царква прыстасавана пад сельскагаспадарчы музей, а ў 1930-я — пад краязнаўчы. Царква зруйнавана ў 1967 г. Захаваўся 2-павярховы кляштарны корпус.

Царква (не захавалася) з'яўлялася творам архітэктуры барока і ракако. Уяўляла сабой кананічную крыжова-купальную 3-нефавую 2-вежавую базіліку з трансептам і паўкруглай апсідай. Ярусную кампазіцыю храма фарміравалі высокі цэнтральны і паніжаныя бакавыя нефы. Фасад завяршаўся тэлескапічнымі бакавымі вежамі з фігурнымі купаламі-ківорыямі над верхнімі каркаснымі ярусамі, вуглавымі валютамі і фігурным франтонам паміж імі (такія ж над крыламі трансепта). У сяродкрыжжы ўзвышаўся гранёны светлавы барабан пад фігурным цыбулепадобным купалам, апяразаным шэрагам круглых люкарн (надбудаваны пры праваслаўных[3]).

Жылы корпус — 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак пад вальмавым дахам. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і панэлямі, слаістымі пілястрамі і руставанымі лапаткамі ў прасценках, апяразаны прафіляванымі карнізам і міжпавярховай цягай. Паверхі маюць галерэйную планіроўку, у вуглавой частцы знаходзіліся трапезная і лесвічная клетка, келлі першага паверха перакрыты крыжовымі скляпеннямі, другога — плоскай столлю. Пад будынкам скляпеністыя сутарэнні.

---

[1] Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев-на-Днепре, 1884. Кн. 2. С. 99; Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 101; БелЭн. Мн., 1996. Т. 1. С. 541.

[2] Русские православные обители. Полное иллюстрированное описание всех православных русских монастырей в Российской империи и на Афоне. СПб., 1909. С. 610; Slownik geograficzny Krolewstwa Polskiego i innych krajow słowiańskich. Warszawa, 1886. T. 7. S. 601.

[3] Всеобщая история архитектуры. М., 1968. Т. 6. С. 521.

## Касцёл і кляштар трынітарыяў

У цэнтры горада, на вул. Камсамольскай. Фундаваны з драўляным касцёлам у 1714 г. Адамам і Уладзіславам Саковічамі[1]. К сярэдзіне 18 ст. ўзведзены мураваныя касцёл і жылы корпус. Скасаваны ў 1832 г., у 1835—40 гг. перабудаваны пад Акруговую лячэбніцу (дабудавана новае крыло)[2]. У 1836 г. касцёл (не захаваўся) (3-нефавая 4-вежавая базіліка) перароблены ў праваслаўны Васкрасенскі сабор, пазней пераабсталяваны пад аэраклуб (быў пазбаўлены вертыкальных дамінант — 4 вуглавых вежаў). У канцы 1950-х гг. зруйнаваны. Да касцёла далучаўся П-падобны ў плане 2-павярховы манастырскі корпус (захаваўся часткова), комплекс быў абнесены высокай мураванай агароджай з 2 брамамі ў стылі класіцызму.

Жылы корпус — помнік архітэктуры барока і позняга класіцызму. П-падобны ў плане (адно крыло не захавалася) 2-павярховы будынак пад вальмавым дахам, адзін тарэц якога закрыты фігурным барочным франтонам. Яго франтальнае вулічнае крыло было вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам. Вось сіметрыі фасада вылучалася шырокім 5-восевым рызалітам, завершаным ступеньчатым атыкам. Плоскасны фасад рытмічна чляніўся прамавугольнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі на 1-м паверсе сандрыкамі. Рустоўкай быў вылучаны высокі цокальны паверх. Корпус мае галерэйную планіроўку з тыповымі прамавугольнымі келлямі, перакрытымі крыжовымі і цыліндрычнымі скляпеннямі.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 101—102.

[2] РГИА, ф.1488, оп. 2, ед. хр. 742, л. 3; Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 117, 125.

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар бернардзінцаў

На левым беразе р. Аршыца, каля моста. Манахі-бернардзінцы аселі ў Оршы пры каралі Уладзіславе IV у 1630 г.[1] У 1636 г. пабудаваны мураваны костёл паводле фундацыі старосты холмскага Андрэя Млоцкага і яго жонкі Хрысціны (з Масальскіх)[2]. Яны вылучылі пад будаўніцтва плац і 6 моргаў зямлі. У сяр. 18 ст. на ахвяраванні гараджан узведзены мураваныя касцёл (не захаваўся) і 2-павярховы жылы корпус[3]. Кляштар скасаваны ў 1832 г. і прыстачсаваны пад ваенны шпіталь[4]. Захаваўся жылы корпус.

Жылы корпус — помнік архітэктуры барока. Вырашаны Т-падобным асіметрычным у плане 2-павярховым будынкам пад вальмавым дахам. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах, крапаваны вуглавымі лапаткамі і апяразаны прафіляваным карнізам.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 101—102.

[2] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 33.

[3] БелЭн. Мн., 1996. Т. 1. С. 540.

[4] РДГА, ф. 1488, воп. 2, спр. 743, арк. 4.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар бернардзінцаў у г. Орша.



Касцёл святога Антонія і кляштар францысканцаў у г. Орша.

## Касцёл святога Антонія і кляштар францысканцаў

У цэнтры горада, на вул. Савецкай, недалёка ад касцёла дамініканцаў. Фундаваны ў 1680 г. рэчыцкім старостам Войцехам Станіславам Касткоўскім (Калкоўскім)[1]. Мураваныя жылы корпус і касцёл пабудаваны ў 1714 г.[2], асвячоны 10.8.1768 г.[3] Пры кляштары меўся драўляны будынак багадзельні. На плане г. Орша 1813 г. касцёл кляштара адзначаны як «сожженный». У 1863 г. скасаваны, кляштар перададзены інваліднай камандзе, потым прыстасаваны пад турму, у 1920—30-я гг. рамеснае вучылішча[4]. Касцёл зруйнаваны ў 1970-я гг. (у сувязі з пашырэннем вул. Савецкай), захаваўся кляштарны корпус.

Касцёл (не захаваўся) Раждаства Найсвяцейшай Дзевы Марыі (пасля адбудовы ў 19 ст. пераасвячоны ў імя св. Антонія) з'яўляўся творам мураванай архітэктуры барока, быў пабудаваны па канону трохнефавай 2-вежавай базілікі. Двух'ярусныя 4-гранныя вежы былі накрыты пакатымі шатрамі, бакавыя фасады рытмічна чляніліся высокімі арачнымі аконнымі праёмамі.

Жылы корпус — помнік архітэктуры барока. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак пад 2-схільным дахам. Плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі (на 1-м паверсе) і лучковымі (на 2-м паверсе) аконнымі праёмамі, у завяршэнні апяразаны прафіляваным карнізам.

[1] Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Кн. II. Могилев-на-Днепре, 1884. С. 99.

[2] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 33; ЦГАСА, ф. 1355, воп. 1, спр. 724(1). Апісанне горада Оршы. 1766—1861 гг.

[3] БелЭн. Мн., 1996. Т. 1.С. 540.

[4] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 010—102.

## Касцёл святога архангела Міхаіла і калегіум езуітаў

Знаходзіўся ў Наддняпроўскім пасадзе, займаў вялізную тэрыторыю на левым беразе р. Аршыца побач з замкам. У 1590 г. канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега выкупіў у мясцовых кальвіністаў зямельны ўчастак у цэнтры горада і з дазволу польскага караля Жыгімонта III перадаў езуітам,



Касцёл святога архангела Міхаіла і калегіум езуітаў у г. Орша.

якія з'явіліся ў горадзе ў 1604 г. і ў 1610 г. заснавалі прыстанак[1]. У 1610—11 гг. кароль ахвяраваў кляштару 210 валок зямлі з вёскамі Ценкі, Князі, Крыніцы, Чарніца, Чэбаданы, Чално, а таксама зямельныя надзелы ў горадзе. Узначаліў прыстанак выпускнік папскай семінарыі ў Вільне Якаў Лаўрэнцій. Першапачатковы драўляны храм пабудаваны ў 1604 г. У 1610—11 гг. Жыгімонт падараваў аршанскім езуітам 210 валок зямлі з прыгоннымі сялянамі вёсак Цянкі, Князі, Крыніцы, Чарніца, Чабаданы, Чално, а таксама зямельныя надзелы ў горадзе для будаўніцтва касцёла, калегіума і ніжэйшых школ. Каталіцкая навучальная ўстанова дзейнічала з 1612 да 1820 гг. Апошняя фундацыя зацверджана соймам у 1616 г., езуітам падараваны маёнтак Фашчаўка з 2 тыс. сялян, а ў 1621 на будаўніцтва касцёла ім адведзены ўчастак лесу па беразе Дняпра[2]. У 1634 г. кароль Уладзіслаў IV падараваў калегіуму в. Дуброўна, а аршанскі пробашч Ян Францкевіч — сваю юрыдыку ў Оршы. У 1712 г. ад рэчыцкага падчашніка да езуітаў перайшоў фальварак Мікуліна з 2 вёскамі, аршанскі староста Аляксандр Сапега ў 1742 г. даў маёнтак Жалезнік. Валоданні калегіума павялічваліся і за кошт куплі: у 1623 г. за 6,5 тыс. злотых набыты маёнтак Пагост, фальварак Почап. У падатковым рэестры Аршанскага пав. за 1772 г. як уладанні аршанскіх езуітаў пазначаны маёнткі Гразівец, Гародня і Ламачын у ваколіцах Оршы. Прыбыткі калегіума раслі таксама за кошт ахвяраванняў. Кароль надзяліў езуітаў манаполіяй на адукацыю шляхетнай моладзі ў горадзе і ва ўсім Аршанскім павеце. Калегіум садзейнічаў пашырэнню ўплыву каталіцкай царквы на Беларусі, сцвярджэнню і развіццю еўрапейскай сістэмы адукацыі. Калегіум спачатку меў статут няпоўнай ніжэйшай, а ў 1740—70 гг. вышэйшай з няпоўным курсам філасофіі навучальнай установы. З 1618 г. тут працавала школа граматыкі, з 1623 г. — паэтыкі, з 1634 г. выкладалася рыторыка, з 1696 г. логіка, з 1724 г. філасофія. У 1634 г. адкрыты 2 бурсы: музычная і для шляхетнай моладзі са збяднелых сем'яў, меўся тэатр. Пры кляштары знаходзілася аптэка, меліся батанічны і фруктовы сады. У 1655 г. ў сувязі з распачатай паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай вайной (1654—67) калегіум на 9 г. спыніў сваю дзейнасць. У 1680 г. пажарам знішчаны пабудовы. У 1690 г. з дазволу караля Яна III Сабескага пачалі ўзводзіцца мураваныя будынкі 2-павярховага калегіума і касцёла, асвячонага ў 1768 г. ў імя святога архангела Міхаіла[3]. Тут быў створаны «Аршанскі кодэкс». Пасля ўключэння Аршанскага павета ў склад Расійскай імперыі (1772), насуперак буле рымскага папы Клімента XIV (1773) аб роспуску ордэна езуітаў, калегіум працягваў сваю дзейнасць да 1820 г. З 1779 г. яе віцэ-рэктарам, а з 1782 г. рэктарам з'яўляўся вядомы каталіцкі рэлігійны дзеяч Ф.К.Кару, у 1796—97 гг. выкладаў прафесар архітэктуры і мастак Каэтан Анджаліні[4]. Кляштар езуітаў «с изрядным садом, лабораторнюю и аптекою» адзначаны акадэмікам Васілём Севергеным у 1802 г. Пасля скасавання ордэна езуітаў ксяндзы даміліканцы ў 1822 г. пераналі ад іх школу, якая, аднак, у 1825 г. была заменена на свецкую. Касцёл зачынены ў 1832 г., у 1839 г. кляштар перададзены ваеннаму ведамству і ператорваны ў гарадскую турму, якая пачала дзейнічаць з 1842 г. (праект рэканструкцыі распрацаваны ў 1841) і існавала да 1989 г.

Касцёл, школа з бурсай, будынкі калегіума, аптэкі, гаспадарчыя пабудовы адвольна размяшчаліся на вялікай тэрыторыі, акаймаванай мураванай агароджай па абрысе няправільнага пяцікутніка. Паўночна-заходні ўчастак кляштара з'яўляўся дваром, паўднёва-ўсходні быў адведзены пад сад. Да заходняга боку касцёла далучаўся будынак школы і бурсы. Будынкі касцёла, школы і калегіума злучаліся паміж сабой крытымі пераходамі. Будынак калегіума быў 2-павярховым, складаўся з двух крылаў, размешчаных пад прамым вуглом адно да другога; у іх месціліся келлі манахаў, бібліятэка, інтэрнат навучэнцаў публічнай школы, склад. У месцы іх перакрыжавання далучалася аднапавярховая прыбудова трапезнай, з вокнамі ў сад. Значна перабудаваныя на працягу 19—20 ст. будынкі езуіцкага калегіума часткова захаваліся да нашага часу.

Касцёл (не захаваўся) з'яўляўся творам архітэктуры позняга барока. Закладзены ў 1741 г. замест драўлянага храма, будаўніцтва скончана ў 1760 г. Апсідай быў арыентаваны на поўнач да каралеўскага замка. Адносіўся да тыпу трохнефавай 2-вежавай крыжова-купальнай базілікі з прамавугольнай апсідай (купал узведзены ў 1830-я гг.). Чатырохгранныя 2-ярусныя вежы пад пакатымі шатрамі фланкіравалі франтальны фасад, завершаны трохвугольным франтонам і крапаваны плоскасным ордэрным дэкорам. У 1786—88 гг. пераафармлены інтэр'ер храма — драўляныя алтары змяняюцца муравана-стукавымі, наносіцца фрэскавы роспіс. Пасля закрыцця касцёл перададзены праваслаўнай епархіі, у 1835 г. архітэктарам А.Блондзі выкананы праект перабудовы былога касцёла па права-



Касцёл святога Юзафа Абручніка і кляштар дамініканцаў у г. Орша.

слаўных архітэктурных канонах[5]. Але ён не быў рэалізаваны ў сувязі з продажам пад знос.

[1] Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней же относящихся. СПб., 1855. С. 198; *Мараш Я.Н.* Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 121; *Демьянович А.* Иезуиты в Западной России в 1569—1772 гг. СПб., 1872; *Митрошенко И.Я.* Иезуиты в восточной части Белоруссии с 1579 по 1772 год // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1912. Вып. 2.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 101—102.

[3] Квитницкая Е.Д. Коллегиумы Белоруссии XVII в. // Архитектурное наследство. 1969. N 8. С. 14.

[4] Paszenda I., Poplatek I. Slownik jezuitow artystow. Kraków, 1972. S. 190.

[5] ЦГИА СССР, ф. 1488, оп. 2, ед. хр. 745. Проект переделки иезуитского костела в православную церковь в Орше, 1835 г.

## Касцёл святога Юзафа Абручніка і кляштар дамініканцаў

У цэнтры горада, на вул. Савецкай. Фундаваны ў 1649 г. князем Іеранімам Друцкім-Сакалінскім, які асадзіў у горадзе манахаў-дамініканцаў і пабудаваў для іх драўляны касцёл; ахвяраваў кляштару фальварак Воскава[1]. Існуючы мураваны касцёл пабудаваны ў 1780—1808(19) гг.[2] Кляштар дзейнічаў да 1845 г., пры ім меўся шпіталь на 10 ложкаў. У 1937 г. касцёл зачынены, прыстасаваны пад гарадскі Дом культуры будаўнікоў. Кляштарны корпус не захаваўся. У 1989 г. касцёл перададзены вернікам, адрэстаўрыраваны.

Помнік архітэктуры барока і класіцызму. Трохнефавая 2-вежавая (вежы разабраны ў 1870) базіліка. Фасад быў падзелены на 3 часткі, размежаваныя глыбокімі прамавугольнымі нішамі з лучковымі аконнымі праёмамі. Фасад завершаны прамавугольным 2-ярусным атыкам (раней меў трохвугольны франтон, які пераходзіў да плоскасці фасада бакавымі акруглымі прасценкамі). У цэнтры атыка авальная люкарна. Першапачаткова пластыку фасада ўзбагачалі вуглавыя калоны, пілястры, тонка прафіляваныя карнізныя паясы, дэкаратыўныя вазы. У інтэр'еры храма меліся партрэты фундатара кляштара Друцкага-Сакалінскага і яго жонкі .

[1] Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев-на-Днепре, 1884. Кн. II. С. 99.

[2] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 113; Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 101—102.



# П

### в. Павяцце,
Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Маці Божай Фацімскай

Пабудаваны ў 1990-я гг. з цэглы. Вырашаны 5-гранным аб'ёмам, які далучаны да прамавугольнага ў плане корпуса плябаніі. Гафрыраваны дах завершаны 8-гранным шатровым барабанам. Грані аб'ёму завершаны 2-схільнымі шчытамі і прарэзаны парнымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі пад арачнымі броўкамі.

### в. Пагародна (Гародна),
Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца святога Яна Хрысціцеля

На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў сярэдзіне 18 ст. каля палаца Л.Тышкевіча (не захаваўся) як родавая пахавальня ў сядзібе Гародна. З'яўляецца філіяльнай пры касцёле св. Юрыя ў в. Восава. Паўзруйнавана ў 1950 г., адбудавана і асвячона ў 1996 г. Адлюстравана на малюнку Н.Орды 1875—77 гг.

Помнік архітэктуры ракако[1]. Аднанефавы аб'ём з 2-павярховай квадратнай у плане пад агульным 2-схільным дахам плябаніяй з боку апсіды. Увагнутая плоскасць фасада раскрапавана шматслойнымі пілястрамі з ракайльнымі капітэлямі, завершана фігурным шчытом з ляпной выявай герба ўладальніка сядзібы. Уваход вырашаны паўавальным парталам, над ім — фігурны аконны праём. Бакавыя фасады расчлянёны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі і контрфорсамі ў прасценках.





Капліца святога Яна Хрысціцеля ў в. Пагародна (Гародна).



Капліца ў в. Пагарэльцы.

Унутры зала была перакрыта крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, якія на сценах пераходзілі ў пілястры з ракайльнымі капітэлямі. Пластыка-дэкаратыўным акцэнтам інтэр'ера з'яўляецца пластычны ляпны алтар, кампазіцыйна падобны галоўнаму фасаду будынка: пілястры з лепкай на капітэлях акаймоўваюць арку, над якой быў картуш з гербам уладальніка сядзібы. Над уваходам знаходзяцца хоры з увагнута-пукатым парапетам на фігурных слупах-дыньках, на якія вялі вітыя лесвіцы бакавых цыліндрычных шахт. Дзверы па баках алтара вялі ў калідор, з якога — у прыбудову плябаніі з авальнымі скляпеннямі на 1-м паверсе. Пад капліцай скляпеністая крыпта-пахавальня.

---

[1] *Morelowski M.* Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu. Wilno, 1939. S. 335.



## в. Пагарэльцы,

Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1930-я гг. з цэглы і бетона.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай пад 2-схільным пакрыццём навіссю, адкрытай з 3 бакоў прамавугольнымі прасветамі і ўзнятай на пірамідальны пастамент на 3-ярусным стылабаце. Пад навіссю была пастаўлена скульптура.

## в. Пагошча,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Божай Міласэрнасці

Пабудаваны ў 1994—2000 гг. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над 2-гранным шчыпцом фасада 4-граннай шатровай званічкай, над алтарнай часткай — 2 спічастымі сігнатуркамі. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі. Да алтарнай часткі далучана ніжэйшая сакрысція пад 1-схільным пакрыццём.

## в. Падароск,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святой Альжбеты

У цэнтры вёскі. Учынены ў 1993 г. з былога мураванага будынка пажарнай аховы. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам, завершаным над алтарнай часткай шатровай сігнатуркай. Да тарцовага фасада далучана 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца. Плоскасныя фасады пазбаўлены архітэктурных абломаў, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.



Касцёл святой Альжбеты ў в. Падароск.

## в. Падвялікае,
Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Анёльскай

Пабудаваны ў 1990—91 гг. з дрэва.

Развітую падоўжную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю храма фарміруюць прамавугольныя ў плане зрубы папярочнага трансепта, працяглага нефа, крылаў трансепта і апсіды. Над трохвугольным франтонам фасада ўзведзены 2-ярусны 8-гранны шатровы барабан. Шатровай сігнатуркай завершана сяродкрыжжа 2-схільных дахаў. Вертыкальна ашаляваныя фасады прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі.

## в. Падгорная,
Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Вырашана спічастым абеліскам-пірамідай. У ніжняй частцы грані крапаваны прамавугольнымі нішамі (мемарыяльныя дошкі не захаваліся).


Капліца ў в. Падгорная.

## в. Пад'ельцы,
Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На паўднёвы захад ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1990-я гг. з цэглы.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Дынамічную асіметрыю аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі надае ўрэзаная ў вугал алтарнага фасада 4-гранная вежа-званіца, завершаная драўляным 4-гранным шатровым барабанам.


Капліца ў в. Пад'ельцы.

Плоскасныя фасады парэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі.


Касцёл Маці Божай Ружанцовай у в. Падлабенне Лабна.

## в. Падзітва,
Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Помнік архітэктуры класіцызму. Прамавугольны ў плане зруб накрыты 2-схільным дахам, завершаным над трохвугольным франтонам 4-калоннага порціка 8-гранным барабанам-званіцай пад цыбулепадобным купалам.

## в. Падлабенне Лабна
Гродзенскага раёна

### Касцёл Маці Божай Ружанцовай

На паўночнай ускраіне вёскі, акаймаваны бутавай агароджай са званіцай і капліцамі па вуглах.



Унутры ў сяродкрыжжа храма, перакрытае самкнутым стральчатым купалам, шырокімі арачнымі прасветамі адкрываюцца апсіда і крылы трансепта. Элементы перакрыццяў пакрыты арнаментальна-арабескавым роспісам. Над нартэксам антрэсоль хораў на 2 пілонах.



Інтэр'ер касцёла Маці Божай Ружанцовай у в. Падлабенне Лабна.

Пабудаваны ў 1887 г. з цэглы як праваслаўная царква. Асвячоны як касцёл у 1929 г. архібіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Кампазіцыя храма 3-частkавая, асіметрычная — да кубападобнага асноўнага аб'ёму, над якім узвышаецца 8-гранны светлавы барабан з купалам, па падоўжнай восі далучаюцца выцягнуты прамавугольны нартэкс пад 2-схільным дахам і 5-гранная апсіда з рознавялікімі сакрысціямі. Элемент асіметрыі ўносіць прамавугольнае крыло трансепта, далучанае да асноўнага аб'ёму з паўднёва-ўсходняга боку. Плоскасныя фасады прарэзаны адзінарнымі і ўдвоенымі арачнымі аконнымі праёмамі, паўкруглымі люкарнамі, у прасценках асноўнага аб'ёму рэльефныя лацінскія крыжы.



Капліца ў в. Падневічы.

## в. Падліпкі

Гродзенскага раёна

## Капліца Міласэрнасці Маці Божай

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Учынена ў 1999 г. ў рэканструяваным будынку клуба.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад увагнутым 2-схільным дахам. Да фасада далучана 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца, у арачнай нішы-экседры якой пастаўлена паліхромная скульптура Дзевы Марыі. Зала падзелена 4 калонамі на 3 нефы, перакрытыя плоскай століллю. Унутры 3 алтары: галоўны, дзе змешчаны рэліквіі св. Антонія Падуанскага (прывезены з Германіі), левы з абразом св. Іосіфа і фігуркай Дзевы Марыі і правы з фігуркай Маці Божай Міласэрнасць.

## в. Падневічы,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

За 2 км на ўсход ад вёскі, на могілках, каля шашы Івянец—Ракаў. Пабудавана ў 1852 г. з бутавага каменю як родавая пахавальня мясцовых памешчыкаў Жаброўскіх.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Кампактны прамавугольны ў плане зальны будынак з яруснай чацверыковай шатровай званіцай на галоўным фасадзе. Двухсхільны дах з невялікімі вальмамі над алтарнай часткай завершаны 4-слуповай вежачкай з увагнутым шатром. Алтарная сцяна вызначана невялікімі скосамі вуглоў будынка. Уваход размешчаны ў глыбокай нішы 1-га яруса званіцы і вырашаны, як і вокны капліцы, спічастым праёмам. На паліхромнай бутавай муроўцы сцен вылучаюцца пабеленыя дэталі архітэктурнага дэкору: лапаткі, ліштвы аконных праёмаў, прафіляваны карніз з сухарыкамі.

Унутраная прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем з падпружнымі аркамі і люнетамі. Атынкаваныя сцены крапаваны пілястрамі, над якімі па перыметры залы праходзіць прафіляваны карніз. 2-ярусны алтар вырашаны лучковай нішай з бакавымі паўкалонамі і фігурным пастаментам. Над уваходам на 2 калонах драўляная галерэя хораў. У тоўшчы сцяны вітая лесвіца на званіцу. Падлога выкладзена 8-граннай керамічнай пліткай шэрага колеру.

## г.п. Падсвілле,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

На вул. Дварцовай. Пабудаваны ў 2000—04 гг. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад стромкім 2-схільным дахам. З правага боку фасада надбудавана 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца. Па цэнтры фасада выступае рызаліт, вось сіметрыі якога адзначана арачным уваходным парталам і круглым акном-люкарнай над ім. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

## в. Паланэчка,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл святога Юрыя

У цэнтры вёскі, на пагорку, непадалёк ад былога палаца Радзівілаў. Першапачатковы мураваны храм пабудаваны ў 1437 г. вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Кейстутавічам[1]. Існуючы драўляны касцёл пабудаваны ў 1751 г. па фундацыі біскупа Жалкоўскага[2]. У 1899 г. рэканструяваны паводле праекта варшаўскага архітэктара Канстанціна Вайцахоўскага[3]. У 1887 г. налічвалася 5340 парафіян, у 1912 г. — каля 2700[4].

Помнік архітэктуры неаготыкі і мадэрна. Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём з 5-граннай апсідай, да якой сіметрычна далучаны 2 нізкія сакрысціі пад 1-схільнымі дахамі. Асноўны аб'ём накрыты 2-схільным дахам з прагінам і завершаны над апсідай меншым 2-схільным дашкам з крыжом, апсіда мае гранёнае вальмавае пакрыццё. Галоўны заходні фасад фланкіраваны 2 чацверыковымі шатровымі вежамі (папярэдне былі завершаны цыбулепадобнымі купаламі), паміж якімі франтон з акном-ружай. Уваход афармлены 2-слуповым ганкам пад 2-схільным навесам. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. У дэкоры выкарыстаны накладны геаметрычны арнамент, які апяразвае карніз на дэнтыкулах, фігурная шалёўка, гатычныя пераплёты вокнаў.

Унутры зала перакрыта бэлечнай столлю. Пры ўваходзе на 6 слупах хоры з арганам, выкананым віленскім майстрам Ф.Астрамецкім у 1897 г. Двух'ярусны драўляны алтар фланкіраваны карынфскімі калонамі. Яго бакавыя абразы і прафіляваны цокаль дэкарыраваны пышным віццём аканту. Алтарныя абразы 18—19 ст. «Апостал Павел» і «Св. Варвара», абразы «Укрыжаванне», «Маці Божая», «Дабравешчанне» (1766), «Св. Антоній» (канец 18 ст., палатно, алей), «Св. Мікалай», арнат са слуцкага пояса. У алтары 2 чыгунныя мемарыяльныя дошкі 1829 і 1836 г., прысвечаныя роду Радзівілаў.

Перад касцёлам справа пастаўлена драўляная 1-ярусная, квадратная ў сячэнні званіца пад пакатым шатром, выканана ў адзіным з храмам стылі.

Каля агароджы на мяжы 19—20 ст. з дрэва пабудавана к а п л і ц а. Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным зрубам з 3-граннай апсідай. Трохвугольны франтон пад вынесеным дахам на фасадзе падтрыманы 2 слупамі. Гарызантальна ашаляваныя фасады прарэзаны прамавугольным уваходным і 2 аконнымі праёмамі.

---

[1] Zmigrodzki J. Nowogródek i okolice. Nowogródek, 1927. C. 86; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. C. 343—344.

[2] Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Mińskiej. Warszawa, 1919. S. 26.



Касцёл святога Юрыя ў в. Паланэчка.



Званіца і капліца каля касцёла святога Юрыя ў в. Паланэчка.



Касцёл у в. Палачаны.



Касцёл Маці Божай Шкаплернай у в. Палонка.



Капліца святой Ганны ў в. Паляны.

[3] Katalog rysunków architektonicznych z muzeum Narodowego w Warszawie. Warszawa, 1970. Seria A. T. VI. S. 102; *Loza St*. Architekci i budowniczowie w Polsce. Warszawa, 1954. S. 237.

[4] Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1887. T. VIII. S. 725.

## в. Палачаны,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 21 ст.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над алтарнай часткай шатровай сігнатуркай. У фасад урэзана 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца з прамавугольным уваходным праёмам і люкарнай над ім. Плоскасныя бакавыя фасады расчлянёны вузкімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Палонка,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Маці Божай Шкаплернай

У заходняй частцы вёскі, каля царквы. Пабудаваны ў 1990-я гг. з цэглы.

Прамавугольны ў плане аб'ём з 3-граннай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Да левай грані апсіды дыяганальна далучана нізкая сакрысція. Плоскасць фасада завершана 2-яруснай 4-граннай званіцай. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, умацаваны контрфорсамі. У адным архітэктурным стылі вырашана арачная брама.

## в. Паляны,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святой Ганны

На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1810 г. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства з рысамі класіцызму. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, вынесеным на фасадзе трохвугольным франтонам на 4 слупах. Вертыкальна ашаляваныя фасады прарэзаны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі і ўваходным праёмамі, паўкруглай люкарнай пад франтонам.

## в. Паляцкішкі,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Божай Міласэрнасці

Пабудавана ў 1992 г. з цэглы, асвячона ў 1993 г.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай і трохвугольным франтонам на фасадзе. Да яго левага вугла далучана дыяганальна павернутая 2-ярусная 4-гранная шатровая вежа-званіца. Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі розных памераў.

## в. Панямунь

Гродзенскага раёна

### Капліца

На паўднёвы ўсход ад г. Гродна. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. (да 1881) з цэглы пры сядзібе гродзенскага павятовага маршалка Р.А.Ляхніцкага[1].

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю[2]. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які над фасадам завершаны 2-ярусвай (васьмярык на чацверыку) шатровай званіцай са стральчатымі праёмамі-прасветамі. Уваход вырашаны высокім стральчатым парталам з драўлянымі дзвярамі з гатычнымі філёнгамі. Бакавыя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі ў прафіляваных ліштвах. Зала капліцы перакрыта стральчатым скляпеннем. Пад капліцай крыпа-пахавальня.

[1] Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. СПб., 1863. С. 796.

[2] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство. 1980. № 28. С. 129.



Капліца ў в. Панямунь.

## в. Папоўцы,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным слупом пад шатровым дашкам. На франтальнай грані прамавугольная зашклёная ніша з абразом.



Капліца ў в. Папоўцы.

## в. Папшычы,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1990-я гг. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе крыжом на пастаменце. Над прамавугольным уваходным праёмам па цэнтры 2-граннага шчыта арачная экседра. Бакавыя плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

### Капліца

На могілках. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы як надмагілле.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным слупом пад шатровым пакрыццём з крыжом. Франтальная грань прарэзана арачным праёмам.

### Капліца Святога Духа

Учынена ў 1990-я гг. ў былым адміністрацыйным будынку. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам, завершаным з тарцовага фасада 4-granнай сігнатуркай з крыжом на шпілі. Падоўжны франтальны фасад расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі; з левага боку ўваход, вылучаны 2-слуповым ганкам пад 2-схільным пакрыццём.



## в. Параф'янава,
Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

Недалёка ад чыгуначнай станцыі «Параф'янаў». Пабудавана ў пачатку 21 ст. з цэглы.



Капліца ў в. Параф'янава.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над тарцовым фасадам 4-граннай шатровай званіцай. Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Уваход з боку франтальнага фасада вылучаны 4-слуповым ганкам пад 2-схільным пакрыццём.



Касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі ў в. Параф'янава.

### Касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1903—08 гг. з цэглы. З 1962 па 1989 г. закрыты, потым вернуты парафіянам і адрэстаўрыраваны. Парафія налічвае каля 2000 чалавек.

Помнік архітэктуры неабарока. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з трансептам. З алтарнага боку завершаны паўцыркульнай апсідай з абходнай галерэяй і 2 сакрысціямі. Галоўны фасад вылучаюць 2 шмат'ярусныя вежы. Паміж вежамі фігурны шчыт, такі ж і над дахам апсіды. Тарцы трансепта завершаны трохвугольнымі франтонамі. У дэкаратыўнай аздобе фасадаў, прарэзаных арачнымі і лучковымі аконнымі праёмамі, выкарыстаны пілястры, шырокія прафіляваныя карнізы, авальныя люкарны.

У інтэр'еры 8 слупоў падзяляюць прастору залы на 3 нефы. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем, бакавыя — крыжовымі. Слупы і сцены дэкарыраваны здвоенымі пілястрамі, упрыгожаны арнаментальным роспісам і 12 гіпсавымі пано-стацыямі «Крыжовы шлях Хрыста», выкананымі ў 1927 г. ў Варшаве на ахвяраванні Карэнкаў. Алтар выкананы ў стылі неабарока накладным калонна-пілястравым порцікам, які дэкарыраваны алебастравымі выявамі святых.

## в. Парыж (Навадруцк),
Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца святога Юзафа

Пабудавана ў 1990-я гг. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным домам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадным трохвугольным франтонам спічастым бляшаным шпілем з крыжом. Плоскасныя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Уваход арганізаваны праз прыбудаваныя збоку сенцы.



Капліца святога Юзафа ў в. Парыж (Навадруцк).

## в. Парэчча
Гродзенскага раёна

# Касцёл Маці Божай Нястомнай Дапамогі

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1904—06 гг. з дрэва[1]. У 1913 г. міністр унутраных спраў дазволіў ксяндзу Ш.А.Радзішэўскаму пашырыць касцёл і арганізаваць самастойную парафію[2].



Касцёл Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў в. Парэчча Гродзенскага раёна.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Цэнтральны аб'ём з 5-граннай апсідай перасечаны папярочнымі 5-граннымі крыламі трансепта. Іх вальмавыя дахі і сяродкрыжжа завершаны 4-слуповымі шатровымі сігнатуркамі. Да фасада далучаны ніжэйшы нартэкс з бакавымі ніжэйшымі прыбудовамі. Гарызантальна ашаляваныя сцены (цокальная і фрызавая часткі — вертыкальна) прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі, вуглы дэкарыраваны пілястрамі.

Інтэр'ер глыбінна-прасторавай кампазіцыі, зала перакрыта ашаляваным корабавым скляпеннем з брусамі-сцяжкамі. Цэнтральны і 2 бакавыя алтары выкананы ў стылі неабарока. У галоўным алтары ў 1906 г. размешчаны абраз «Маці Божая Нястомнай Дапамогі». Абраз «Неапалімая купіна» (1821).

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 851, арк. 8, 28; Studia teologiczna. 5—6. 1987—1988. Bialystok, 1988. S. 135.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1846, арк. 36.

## в. Парэчча,
Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

# Капліца

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на тэрыторыі сучаснага гаспадарчага двара. Пабудавана ў



Капліца ў в. Парэчча Маладзечанскага раёна.

2-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю. У паўзруйнаваным стане.

Помнік народнага дойлідства. Уяўляе сабой 4-граннае збудаванне (дах не захаваўся), апяразанае карнізам простага профілю. Сцены прарэзаны прамавугольнымі ўваходным і 2 бакавымі аконнымі праёмамі.

## г. Паставы
Віцебскай вобласці

# Касцёл святога Антонія Падуанскага



Касцёл святога Антонія Падуанскага ў г. Паставы.



Касцёл у в. Пачаевічы.



Капліца ў в. Пачобуты.

У цэнтры горада, на правым беразе р. Мядзелка. Пабудаваны ў 1898—1904 гг. паводле праекта архітэктара А.Гойбеля[1]. Пашкоджаны ў 1-ю сусветную вайну. Адбудаваны ў 1920-я гг. Закрыты ў 1939 г. У 1988 г. вернуты парафіянам і адноўлены.

Гісторыя парафіі бярэ пачатак з 1522 г., калі быў узведзены драўляны касцёл Маці Божай па фундацыі ашмянскага маршалка Яна Зяновіча (знішчаны падчас вайны 1654—67). У 1617 г. на сродкі Станіслава і Ганны Сянкевічаў-Бяганскіх быў заснаваны драўляны францысканскі кляштар. Яго касцёл адносіўся да тыпу крыжова-купальных храмаў, меў 2 капліцы і 2 сакрысціі, цагляную крыпту. У 1760 г. быў збудаваны новы касцёл. Кляштар скасаваны паводле царскага ўказа ад 19.7.1832 г. У 1898 г. на падмурках разабранага драўлянага храма пачалося ўзвядзенне мураванага.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Адносіцца да тыпу трохнефавых 1-вежавых базілік з трансептам, 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Асноўны аб'ём і крылы трансепта накрыты высокімі 2-схільнымі чарапічнымі дахамі, сяродкрыжжа якіх адзначана вытанчанай па прапорцыях сігнатуркай-шпілем. Вертыкальнай дамінантай фасада з'яўляецца 4-гранная вежа-званіца са спічастым гранёным шпілем. Бакавыя фасады расчлянёны высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі з вітражным запаўненнем і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. Тры ўваходы на фасадзе вырашаны магутнымі стральчатымі парталамі, цэнтральны з якіх завершаны скульптурай Хрыста, бакавыя — вокнамі-ружамі. На чырвоным фоне цаглянай мuроўкі сцен вылучаюцца атынкаваныя і пабеленыя стральчатыя аркатуры, якімі крапаваны франтоны фасада і крылаў трансепта.

Унутраная прастора храма 6 шматграннымі слупамі і перакінутымі па іх стральчатымі аркамі падзелена на 3 высокія падоўжныя нефы, перакрытыя нервюрнымі крыжовымі скляпеннямі (пакрыты арабескавым арнаментальным роспісам). Прасценкі бакавых высокіх стральчатых, запоўненых каляровымі вітражамі вокан умацаваны адпаведнымі міжнефавым слупом і такога ж сячэння пілонамі. Над стральчатай аркай уваходa размешчана драўляная кансольная антрэсоль хораў на фігурных разных кранштэйнах. Плоскасць апсіды запоўнена алейным роспісам «Узнясенне», размешчаным у стральчатай арцы, па баках выявы евангелістаў у рост. У агульным архітэктурна-стылёвым кірунку было выканана мастацкае афармленне інтэр'ера — алтары, амбон, арган, спавядальні і інш.

[1] Loza St. Architekci i budowniczowie w Polsce. Warszawa, 1954. S. 61, 95.

## в. Пачаевічы,

Чашніцкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы. Захаваўся ў рэштках.

Твор архітэктуры позняга барока — 2-вежавая 1-нефавая базіліка. Фасад фланкіравалі пастаўленыя вуглом 4-гранныя ярусныя вежы; па цэнтры вылучаўся авальна-арачнымі ўваходным і аконным праёмамі. Выкарыстана крапоўка арачнымі нішамі.

## в. Пачобуты,

Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў пачатку 21 ст.

Вырашана скульптурай Дзевы Марыі, узнесенай на 2-ярусны 4-гранны пастамент.

## в. Пелішча,

Камянецкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1934 г. з цэглы.

Помнік архітэктуры стылю мадэрн. Рознавялікія прамавугольны ў плане асноўны аб'ём пад чарапічным дахам, апсіда, 2 бакавыя сакрысціі і вежа-званіца аб'яднаны ў ярусную прасторава-дынамічную кампазіцыю. Званіца завершана фігурнай вежачкай. Архітэктурную выразнасць плоскасным фасадам надае рытм арачных аконных праёмаў і шырокіх лапатак. Уваход аформлены манументальным парталам з картушам у завяршэнні.

У перакрытую драўляным цыліндрычным скляпеннем залу храма раскрыта прастора апсіды. Неатынкаваныя сцены раскрапаваны пілястрамі. Захаваліся барочныя драўляныя скульптуры св. Пятра і Паўла. На хорах быў размешчаны арган, аздоблены барочнымі картушамі і скульптурамі анёлаў.



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Пелішча.

Узор народнай творчасці. Вырашана арачнай сенню са скульптурай Дзевы Марыі ўнутры.

# в. Пелягрында,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

За 1 км на поўнач ад вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы. У паўзруйнаваным стане.

Твор архітэктуры позняга класіцызму. Была вырашана кубападобным аб'ёмам пад шатровым дахам. Грані былі прарэзаны шырокімі арачнымі прасветамі, крапаваны вуглавымі пілястрамі.

## Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі. Пастаўлена ў канцы 20 ст.

Узор народнай творчасці. Вырашана гіпсавай скульптурай Хрыста Засмучанага пад бляшанай 2-схільнай навіссю на 2 слупах.

## Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў канцы 20 ст.



Капліца ў в. Пелягрында.



Капліца ў в. Пелягрында.



Капліца ў в. Пелягрында.



Капліца ў в. Пелягрында.

## Капліца

На паўднёвай ускраіне вёскі. Пастаўлена ў канцы 20 ст.

Узор народнай творчасці. Вырашана арачнай нішай-сенню са скульптурай Хрыста ўнутры. З тыльнага боку ўзвышаецца драўляны крыж.

# в. Пеляса,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

Сярод сядзібнай забудовы, на месцы згарэлага дома. Пастаўлена ў пачатку 21 ст. з цэглы ў памяць загінуўшых у пажары 1.2.2004 г. М.Ладыш і У.Шымялевіч.

Твор народнага дойлідства. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Франтальны фасад прарэзаны арачным уваходным праёмам і завершаны трохвугольным франтонам з арачнай нішай, у якой размешчана паліхромная скульптурка Хрыста Засмучанага. Бакавыя сцены



Інтэр'ер касцёла святога Ліна ў в. Пеляса.



Капліца ў в. Пеляса.



Капліца ў в. Пеляса.

канне асвятляецца 2 бакавымі арачнымі аконнымі праёмамі.

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 21 ст. з дрэва.

Вырашана ў форме 2-граннага бугала, тарцы якога гарызантальна ашаляваны і на фасадзе асіметрычна прарэзаны прамавугольным аконным і ўваходным праёмамі. Бляшаны дах завершаны высокім металічным крыжом.

## Касцёл святога Ліна

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1935 г. з бутавага каменю і цэглы. Закрыты ў 1956 г., адкрыты ў 1989 г., рэстаўраваны. На 1997 г. налічвалася 978 парафіян.

Помнік архітэктуры мадэрна з рысамі неаготыкі. Аднанефавая 1-вежавая базіліка. Галоўны фасад карнізамі падзелены на 3 ярусы. Першы з іх вылучаны па цэнтры магутным перспектыўным стральчатым парталам увахода; 2-і вырашаны высокім 2-схільным шчыпцом, расчлянёным лапаткамі на 3 часткі і фланкіраваны 4-граннымі шатровымі вежачкамі з крыжамі; 3-і — масіўны чацвярык званіцы з шатровым пакрыццём і 4-граннай шатровай

сігнатуркай у завяршэнні. Франтальная грань званіцы прарэзана стральчатым акном-біфорыумам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны трайнымі аркатурамі стральчатых аконных праёмаў. Двухсхільны дах над алтарнай часткай завершаны плоскай сігнатуркай-званічкай. Архітэктурна-эстэтычны эфект храма дасягаецца спалучэннем паліхромнай высакаякаснай бутавай муроўкі сцен з атынкаванымі і пабеленымі элементамі архітэктурнага дэкору — круглыя люкарны, лапаткі, ліштвы стральчатых аконных праёмаў, прафіляваныя карнізы.

Унутры малітоўная зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем на распалубках і падпружных арках. Вузейшая апсіда перакрыта конхай з люнетамі над аконнымі праёмамі (вітражнае зашкленне) і адкрыта высокім стральчатым арачным прасветам. Над нартэксам на 2 магутных пілонах узняты антрэсолі хораў з арганам, адкрытыя ў залу трайной аркадай. Уздоўж сцен размешчаны пано-стацыі на сюжэты «Крыжовага шляху».



Касцёл святога Ліна ў в. Пеляса.

прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

## в. Пераброддзе,
Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1920-я гг. з дрэва. Адноўлены ў 2003—06 гг.

Помнік архітэктуры мадэрна. Вырашаны прамавугольным зрубам з прырубам 5-граннай апсіды з бакавымі нізкімі сакрысціямі пад 2-granнымі пакрыццямі. Будынак накрыты агульным 2-схільным дахам, які мае значны вынас на фігурных кранштэйнах і пластычны выгін над карнізам і пераходзіць у гранёнае пакрыццё апсіды. Сілуэт храма ўзбагачаюць 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца, надбудаваная над франтальным фасадам, і 4-гранная шатровая сігнатурка над апсідай. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Пераброддзе.

## в. Перстунь
Гродзенскага раёна

## Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1848 г. з бутавага каменю і цэглы як уніяцкая царква.



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Перстунь.


Касцёл у пас. Першамайск (Кухцічы).

Паўзруйнаваны ў Вялікую Айчынную вайну. Капітальна адрамантаваны ў 1990 г.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Падоўжна-восевую кампазіцыю храма складаюць званіца, асноўны прамавугольны ў плане пад 2-схільным дахам аб'ём, квадратная апсіда з бакавымі сакрысціямі. У сілуэце касцёла дамінуе 3-ярусная званіца — чацверыковы нартэкс, над якім 2 цыліндрычныя аб'ёмы з шатровым завяршэннем. У 1-м ярусе створаны глыбокі арачны партал увахода, у тымпане якога гарэльефная ляпная кампазіцыя на біблейскі сюжэт. У архітэктурнай трактоўцы фасадаў выкарыстаны выкладзеныя з цэглы ўтрыраваныя элементы класікі: пілястры, прафіляваныя антабламенты, карнізы.

Унутры 2-светлавая зала храма 4 магутнымі крыжовымі пілонамі і перакінутымі праз іх аркамі падзелена на 3 нефы, перакрытыя плоскай драўлянай столлю. Апсіда раскрываецца шырокім і прыземістым арачным прасветам. Пры ўваходзе драўляныя хоры.


Капліца ў в. Першамайская (Абрына) Карэліцкага раёна.



## пас. Першамайск (Кухцічы),
Уздзенскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

За 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Кухцічы, на тэрыторыі прафесійна-тэхнічнага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі (былы сядзібна-паркавы комплекс Кухцічы). Пабудаваны ў 2-й палове 16 ст. з цэглы Кавячынскімі як кальвінскі збор[1]. У 17 ст. Крыштафам Кавячынскім пераўтвораны ў касцёл, у канцы 18 ст. — перабудаваны ў капліцу-пахавальню (архітэктар Карла Спампані).

Помнік архітэктуры класіцызму. Кампактнае 12-граннае збудаванне (таўшчыня сцен 1,5 м) з конусным шатровым дахам і кубападобнай апсідай пад 2-схільным дахам. Галоўны фасад фланкіраваны цыліндрычнымі шатровымі вежамі, паміж якімі размешчаны прытвор з пілястравым порцікам і трохвугольным атыкавым франтонам. У дэкоры выкарыстаны ляпныя гірлянды, вузкія байніцы, геральдыка, слаістыя пілястры. Грані прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі з глыбокімі адхіламі, сцены апсіды — круглымі люкарнамі, апяразаны буйнапрафіляваным карнізам. Лучковы ўваход вылучаны прамавугольным парталам, над якім змешчаны ляпны геральдычны картуш (карона ў абрамленні гірлянд), а па баках нішы-экседры. У архітэктуры будынка адчуваецца ўплыў нацыянальнага абарончага дойлідства — па баках увахода размешчаны круглыя ў сячэнні вежы з пакатымі шатрамі.

Прытвор і апсіда перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, зала-ратонда — плоскай столлю. Апсіда, як і хоры, адкрыта ў залу шырокай лучковай аркай. Інтэр'ер дэкарыраваны карнізам на дэнтыкулах, канелюраванымі пілястрамі. Па баках лучковага дзвярнога праёма ў сцяну западаюць невялікія конхавыя нішы для скульптуры. Пад алтаром — склеп-крыпта.

---

[1] Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 115; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T. I. S. 200.

## в. Першамайская (Абрына),
Карэліцкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі, у былым сядзібна-паркавым комплексе. Пабудавана ў 1911 г. з цэглы як фамільная пахавальня Кошыцаў — уладароў маёнтка Абрына.

Помнік архітэктуры мадэрна. Вырашана прыземістым квадратным у плане аб'ёмам пад пакатым 4-схільным пакрыццём, ад якім узвышаецца вуглавы кубападобны аб'ём увахода ў склеп. Грані капліцы рытмічна расчлянёны арачнымі люкарнамі і кароткімі лапаткамі ў прасценках.

## в. Першамайская (Сабакінцы),

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У паўночнай частцы вёскі, абкружаны бутавай агароджай. Пабудаваны ў 1918 г. з цэглы. Адноўлены ў 1990 г.

Помнік архітэктуры мадэрна. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да вуглоў франтальнага фасада далучаны 4-гранныя 2-ярусныя вежы, прарэзаныя наверсе круглымі люкарнамі і завершаныя шпілямі з крыжамі. Цэнтральная частка фасада завершана франтонам з увагнутымі гранямі і вылучана акруглым казырком на двух 4-гранных пілонах. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі і контрфорсамі ў прасценках (рудыменты неаготыкі). З алтарнага боку далучана прамавугольная ў плане апсіда, да вуглоў якой прыбудаваны 4-гранныя сакрысціі. Тарцовы фасад апсіды завершаны франтонам з увагнутымі схіламі (рудыменты неабарока).



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Першамайская (Сабакінцы).

## в. Пескі,

Мастоўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Ружанцовай

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1898—1918 гг. з цэглы і бутавага каменю. Закрыты ў 1945 г., вернуты парафіянам у 1989 г., адрэстаўрыраваны ў 1997 г.

Намер збудаваць на месцы старажытнага драўлянага касцёла 18 ст. (для яго ў 1780 адліты звон) новы храм «на карысць прыватных сялян і прыхаджан» выказала ў 1850 г. ўдава Ганна Аскірка і падрыхтавала план з фасадам на гэтую пабудову[1]. Дазвол быў выдадзены, але будаўніцтва не адбылося з-за палітычнай сітуацыі ў краіне. У 1899 г. парафіянамі і мясцовымі памешчыкамі пытанне аб будаўніцтве новага мураванага касцёла замест старога трухлявага было ўзнята зноў і станоўча вырашана 10.7.1896 г. Архітэктурны праект касцёла склаў інжынер Данієў[2]. На будаўніцтва храма граф Чэслаў Красіцкі ахвяраваў 43 дзесяціны зямлі[3], але з-за недахопу сродкаў будаўніцтва расцягнулася на два дзесяцігоддзі.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Аднавежавы 3-нефавы храм базілікальнага тыпу з трансептам і 5-граннай апсідай з бакавымі нізкімі сакрысціямі. У сілуэце пабудовы дамінуе 3-ярусная васьмерыковая шатровая званіца на франтальным фасадзе. Асноўны аб'ём аддзелены трансептам ад алтарнай групы. Выразныя па пластыцы фасады трансепта ствараюць кампазіцыйны акцэнт на бакавых фасадах касцёла, якія падзелены контрфорсамі. Шчыты трансепта завершаны зубчастымі атыкамі і фланкіраваны пілястрамі. Вядучая архітэктурная тэма — стральчатая гатычная арка для малюнка ўвахода і вокнаў, вуглавыя востраканцовыя фіялы. Унутры



Касцёл Маці Божай Ружанцовай у в. Пескі.



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў г. Петрыкаў.

нефы перакрыты стральчатымі скляпеннямі. Прэсбітэрый аддзелены ад трансепта стральчатай аркай.

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 2, воп. 11, спр. 1126, арк. 1.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1279, арк.44.
[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1279, арк. 24.

## г. Петрыкаў
Гомельскай вобласці

### Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

На вул. К.Маркса. Пабудаваны ў 1999—2001 гг. з цэглы.

У архітэктуры храма адчуваюцца гатычныя рэмінісцэнцыі. Лапідарную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю фарміруюць прамавугольная ў плане малітоўная зала пад 2-схільным дахам і далучаная да яе з франтальнага боку 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі. На белакаменным фоне сцен вылучана чырвонацагляная арнаментыка фрызаў, ліштвы вокнаў і прамавугольнага ўваходнага праёма, між'ярусныя паясы.



Капліца ў г. Пінск.

## г. Пінск
Брэсцкай вобласці

### Капліца

У заходняй частцы горада, на вул. Пяньковай. Пабудавана на мяжы 17—18 ст. як прыдарожная пры выездзе з горада па дарозе Пінск—Брэст.

Помнік архітэктуры барока. Трох'ярусная 4-гранная вежа пад шатровым дашкам. Грані крапаваны вуглавымі пілястрамі, лучковымі нішамі, апяразаны прафіляванымі карнізамі. Верхні скразны ярус прызначаўся для культавай скульптуры.

### Капліца

Недалёка ад чыгуначнага вакзала, на могілках на вул. Спакойнай. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.



Капліца ў г. Пінск.



Капліца ў г. Пінск.

Помнік архітэктуры малых форм стылю мадэрн. Вырашана 4-граннай тумбай, крапаванай прамавугольнымі нішамі і ўзнесенай на шырокі квадратны ў плане подыум, крапаваны глыбокімі арачнымі прасветамі.

## Капліца

Недалёка ад чыгуначнага вакзала, на могілках на вул. Спакойнай. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры малых форм стылю мадэрн. Вырашана прысадзістым 4-гранным аб'ёмам пад шатровым пакрыццём. Грані прарэзаны глыбокімі арачнымі прасветамі.

## Касцёл святога Карла Барамея

Ва ўсходняй частцы горада (у былым прадмесці Каралін), на вул. Кірава. Пабудаваны ў 1770—82 гг. з цэглы[1].

У 1695 г. маршалак Вялікага княства Літоўскага Ян Кароль Дольскі разам з жонкай Ганнай пабудавалі драўляны касцёл і кляштар для ксяндзоў рымска-каталіцкага аб'яднання камуністаў, надзяліў прыстанак багатым ужытковым і абрадавым начыннем, ахвяраваў 14 моргаў зямлі і в. Сосенка. Са скасаваннем аб'яднання ў 1836 г. касцёл прыйшоў у заняпад. У 1860 г. адноўлены і асвячоны як Троіцкая царква. Пасля Вялікай Айчыннай вайны адноўлены каталіцкія набажэнствы, спыненыя з закрыццём храма ў 1960-я гг. Пасля рэстаўрацыі 1980—83 гг. з 1992 г. прыстасаваны пад канцэртную залу арганнай музыкі.

Помнік архітэктуры барока. Будынак 1-нефавы з невялікім трансептам. Апсіда не вылучана асабістым аб'ёмам, сакрысціі размешчаны за алтарнай сцяной. Галоўны фасад вырашаны 2-яруснай званіцай з шатровым дахам і купалам. У яе ніжнім ярусе знаходзяцца хоры. Характэрнай асаблівасцю збудавання з'яўляюцца моцныя канструкцыі сцен (таўшчыня больш за 1,5 м), што надае збудаванню больш абарончы, чым барочна-рэпрэзентатыўны характар. Бакавыя сцены прарэзаны невялікімі арачнымі аконнымі праёмамі і расчлянёны лапаткамі. Нешматлікія элементы барочнай аздобы (пілястры, нішы, паяскі, абрамленні вокнаў і інш.) выкарыстаны пераважна ў званіцы.

У інтэр'еры магутныя архітэктурныя формы сцен з глыбокімі нішамі і высокімі скляпеннямі з вялізнымі распалубкамі і падпружнымі аркамі, адсутнічаюць крапоўкі архітэктурных плоскасцяў. Невялікі барочны алтар быў вырашаны ў выглядзе трыумфальнай аркі з калонамі карынфскага ордэра і трохвугольным разарваным франтонам. Інвентарны попіс згадвае «...Главный, с изображением распятого Иисуса Христа, находится над пресбитериумом, второй отделяется от середины костела деревянной балюстрадой, с левой стороны находится амвон столярной работы, а с правой стороны помещено изображение Святой Троицы». Неф асвячоны вітражнымі арачнымі вокнамі. У касцёле ўсталяваны электрычны арган амерыканскай фірмы «Ален». У літаратурных крыніцах згадваецца адасобленая драўляная званіца, пабудаваная ў 1784 г., але сведчанні аб ёй ужо не сустракаюцца з 1820-х гг.



Касцёл святога Карла Барамея ў г. Пінск.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I.

## Касцёл святога Станіслава і калегіум езуітаў

У гістарычным цэнтры горада, на пл. Леніна. Кляштарны комплекс фарміраваўся на працягу 1631—1738 гг.

Айцоў-езуітаў заклікаў у Пінск у 1630—31 гг. пінскі стольнік М.Ельскі, надаўшы ім уласную сядзібу. Адначасова драўляныя касцёл і кляштар для іх заклаў канцлер Вялікага княства Літоўскага, пінскі староста Альбрэхт Станіслаў Радзівіл, забяспечыўшы манахаў вялізным капіталам[1]. У 1632—38 гг. рэзідэнцыя, у 1635—1773 гг. (і 1923—39) калегіум. У 1651—75 гг. узводзіцца мураваны будынак калегіума (другая чарга ўзводзіцца ў 1694—1738). Будаўніцтва вялі архітэктар Матэвуш Фалькоўскі, муляры Станіслаў Багдзевіч, Крыштоф Сцефановіч, Даніэль Драздоўскі, Якуб Вайтовіч, Ян Вінцэнт Сальвадор, Войцех Ярашэвіч, Бальтазар Шынкер, Казімір Пятроўскі, Ян Талўкач, у канцы 17 — 18 ст. архітэктары Рыгор Энгель, Ян Клаус, Францішак Карэва, Язэп Аленскі, у 1748—77 гг. прафесар архітэктуры Матэвуш Кісялеўскі[2]. У 1636—46 гг. збудаваны мураваны касцёл св. Станіслава, перабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст.





Касцёл святога Станіслава і калегіум езуітаў у г. Пінск. Фота 1-й пал. 20 ст.

У 1638 г. езуіты стварылі вышэйшую філасофска-тэалагічную школу (першапачаткова налічвала 40 вучняў, у канцы 17 ст. — каля 700), кафедры якой багата забяспечыў апошні з роду Вішнявецкіх ваявода віленскі князь Сервацы. Школа мела вялікі аўтарытэт, тут вучыліся дзеці самых знакамітых людзей Рэчы Паспалітай. Калегіум у 1748 г. скончыў польскі гісторык і паэт Станіслаў Нарушэвіч. У 1645 г. адкрыта музычная бурса, у 1694 г. — аптэка, з 1729 па 1735 г. дзейнічала друкарня, меліся бібліятэка, шпіталь, увесь час дзейнічаў тэатр. Калі ў 1648 г. казакі Нябабы захапілі горад, яны найперш разрабавалі кляштар езуітаў, якія былі вымушаны пакінуць прыстанак[3]. Цела забітага ў Янаве Палескім у 1657 г. казакамі «пінскага апостала» Андрэя Баболі было пахавана ў крыпце касцёла.



Калегіум езуітаў у г. Пінск. Сучасны выгляд.

У 17 — 18 ст. калегіуму падпарадкоўваліся езуіцкія місіі ў Дубаі, Лагішыне, Падгацці, Снятыні, Тураве, Янаве-Палескім (цяпер г. Іванава). Калегіуму належалі маёнткі Адрыжын, Альбрэхтаў, Асавец, Аснежыцы, Баландычы, Бродніца, Велесянь, Іванчыцы, Крывічы, Удрожын, Целяханы. У 18 ст. пінскім езуітам належаў маёнтак Халожын[4].

У 1773 г. калегіум закрыты і перададзены пад вучэбны корпус адукацыйнай камісіі[5]. У 1786(7) г. храм перайшоў да базыліян і стаў кафедральным саборам Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі. Пінскі благачынны Сушчынскі ў канцы 18 ст. далучыў мясцовы уніяцкі прыход і асвяціў царкву (былы езуіцкі касцёл) па ўсходнім абрадзе. Гэта выклікала абурэнне гарадской шляхты, якая звярнулася да генерал-губернатара са скаргай, у якой патрабавала вярнуць касцёл рыма-католікам. У гэтым ім было адмоўлена па прычыне таго, што кляштар быў выкуплены яшчэ раней уніятамі і з'яўляўся іх маёмасцю. Са скасаваннем ордэна ў 1773 г. будынак калегіума заняты праваслаўнымі; у 1799 г. сюды пераведзены Мінскі мужчынскі Петра-Паўлаўскі манастыр (учынены Багаяўленскі манастыр с царквой Раджаства Прасвятой Багародзіцы[6]). У 1918 г. будынак зноў перайшоў да каталіцкай канфесіі. У 1939 г. адышоў да гарадской адміністрацыі. У 1953 г. кляштар узяты пад ахову дзяржавы, але ў 1956 г. касцёл узарваны. У 1980 г. будынак калегіума адведзены пад музей Беларускага Палесся, распрацаваны праект рэстаўрацыі. У гады савецкай улады ў будынку калегіума — гарсавет, адкрыта карцінная галерэя.

К а с ц ё л (не захаваўся) з'яўляўся творам архітэктуры барока, узведзеным у 1646 г. і фундаментальна перабудаваным у 3-й чвэрці 18 ст. Трохнефавая 2-вежавая крыжова-купальная базіліка. Скляпенні нефаў упрыгожваў фрэскавы роспіс (уваскрашэнне Лазара Ісусам Хрыстом). Наведаўшы храм у 1862 г., рускі пісьменнік М.Ляскоў адзначаў: «...Касцёл езуітаў, пераўтворны цяпер у праваслаўны храм, надзвычайна прыгожы. Ён пабудаваны яшчэ падчас князёў Вішнявецкіх. Калі гляддзець на Пінск з-за ракі Піны, то гэты храм і дом Скірмунта быццам пануюць над драўляным горадам. Унутры сабора мы не маглі знайсці нічога выдатнага, акрамя дзвюх незабеленых фрэсак, усё астатняе забелена».

К а л е г і у м — помнік архітэктуры барока, будаўніцтва якога скончана ў 1653 г. Г-падобны ў плане трохпавярховы буйнамаштабны будынак накрыты 2-схільным дахам з заломам, тарцы якога закрыты фігурнымі барочнымі франтонамі з бакавымі валютамі. Рытм фасадаў ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы ў ляпных ліштвах і пілястры ў прасценках. Паўднёва-заходні вугал замацоўвае масіўная 6-гранная вежа-контрфорс. Галерэйна-калідорная планіроўка 1-га паверха аб'ядноўвала класы, трапезную, службовыя памяшканні. 2-і і 3-і паверхі маюць калідорную планіроўку. Крыжовыя

скляпенні абапіраюцца на магутныя сцены (таўшчыня 1,5—2 м). Пад будынкам скляпеністыя сутарэнні.

[1] Якимович Ю.А. Деревянное зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в. Мн., 1991. С. 253—262; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 284—285.

[2] Адамовіч С. Комплекс пінскага езуіцкага кляштара // Наша вера. 1999. № 3(9). С 33—34; Poplatek J., Paszenda J. Słownik jezuitów artystów. Kraków, 1972. S. 247.

[3] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 389.

[4] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X — XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 269.

[5] НГАБ, ф. 694, воп. 2, д. 5908, л. 1.

[6] Памятная книжка Минской епархии. Мн., 1901. С. 21; Православные русские обители. Полное иллюстрированное описание всех православных русских монастырей в Российской империи и на Афоне. СПб., 1909. С. 606.

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар францысканцаў

У гістарычным цэнтры горада, паміж р. Піна і вул. Леніна. Пабудаваны ў 1712—30 гг. з цэглы[1].

Драўляныя кляштар і касцёл закладзены ў 1396 г. па фундацыі вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча і яго жонкі Ганны Мазавецкай, якія вылучылі кляштару гарадскі пляц і маёнтак Вышэвічы[2]. На працягу 15—17 ст. яго маёмасць папоўнілася дарэннямі караля Казіміра IV (фальваркі Стацічы, Дружылавічы, Ставок, Сяльцо, в. Ахова, карчма з шынком у горадзе), караля Аляксандра Уладзіслава IV (в. Кудрычы), да 1830 г. кляштару належалі фальваркі Вышэвічы і Рудка з 6 вёскамі, 64 валокі ворнай зямлі, 2 карчмы, даход у 4576 рублёў серабром[3]. У 1510 г. па фундацыі караля Жыгімонта І Старога на месцы драўлянага касцёла св. Ганны збудаваны мураваны (у інвентарным попісе 1687 адзначана каменная са скляпеннем сакрысція, астатнія будынкі драўляныя). У 1612 г. драўляны кляштар згарэў, але праз 9 гадоў манахі аднавілі яго. Да 1625 г. ў складзе Польскай правінцыі ордэна францысканцаў, пазней Руска-Літоўскай правінцыі, у 1632 г. налічвалася 18 манахаў. Кляштарны комплекс пацярпеў ад набегу казакаў у 1648 г., у 1651 г. адбудаваны манахамі. У 1705 г. спалены шведамі. У 1712—30 гг. пры гвардыяне (настаяцелю) кляштара доктару тэалогіі Антонію Аляхновічу (у дакументах адзначаецца як «будаўнік храма») узведзены мураваны касцёл (асвячоны 1.5.1730 біскупам Луцкім і брэсцкім Стэфанам Рупнеўскім). Галоўны фасад храма завершаны ў 1766—69 гг. адначасова з будаўніцтвам кляштарнага корпуса. Пры будаўніцтве выкарыстаны муры 16 ст. У 1817 г. перад касцёлам пастаўлена 3-ярус-



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар францысканцаў у г. Пінск.



Інтэр'ер касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Пінск.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар францысканцаў у г. Пінск. Жылы корпус.

ная мураваная званіца (архітэктар К.Камінскі[4]); пасля пажару 1921 г. ў 1930 г. надбудаваны 4-ы ярус з неабарочным купалам, спраектаваны маскоўскім акадэмікам архітэктуры І.У.Жалтоўскім. Пры кляштары мелася парафіяльная школа і калегіум. Кляштар скасаваны ў 1863 г., касцёл стаў прыходскім. У 2-й палове 19 ст. настаяцелем касцёла быў польскі навуковец і пісьменнік Антоній Машынскі, які апісаў гісторыю пінскіх францысканцаў. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1868 г. Карпусы кляштара перабудаваны ў 1920-я гг. (архітэктар Г.Гай). У 1925 г. папа Пій XI перавёў касцёл у ранг



Званіца касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Пінск.



кафедральнага Пінскай епархіі. З 1954 г. святаром касцёла з'яўляецца Казімір Свёнтак, узведзены ў лістападзе 1994 г. рымскім папай Іаанам Паўлам II у сан кардынала. Яго намаганнямі ў 1981—86 гг. здзейснена рэстаўрацыя касцёла. 12.9.2001 г. ў будынку кляштара адкрыта Вышэйшая Духоўная семінарыя. Дэкрэт Апостальскай сталіцы аб заснаванні семінарыі быў падпісаны папай Янам Паўлам II 31.05.2001 г. (першапачаткова заснавана ў 1925 г. біскупам З.Лазінскім, дзейнічала да 1939 г., падрыхтавана звыш 90 святароў, сярод якіх і кардынал Казімір Свёнтак).

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока. Аднанефавы храм з прыбудаванымі да яго 6 бакавымі капліцамі. Цэнтральны неф і вузейшая за яго паўкруглая апсіда з прэсбітэрыем накрыты стромкім чарапічным дахам, які ў месцы злучэння аб'ёмаў завершаны фігурнай гранёнай сігнатуркай. Вузкія бакавыя нефы, утвораныя капліцамі, накрыты 1-схільнымі дахамі. Галоўны фасад расчлянёны на 3 ярусы і завершаны складаным франтонам з 2 вежамі па баках (аформлены каля 1766). Фасад дэкарыраваны пілястрамі, раскрапаванымі карнізамі, філёнгавымі нішамі і паяскамі. Бакавыя фасады раскрапаваны лапаткамі. Сцены бакавых нефаў прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, цэнтральнага нефа і апсіды — прамавугольнымі лучковымі.

Унутры неф і прэсбітэрый перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках; вокны ў люнетах скляпення асвятляюць неф. Зала храма была разлічана на 1 тыс. парафіян. Яркім прыкладам барочнай трактоўкі інтэр'ера з'яўляецца яго архітэктурна-скульптурны ансамбль, сфарміраваны ў 1720—30-я гг. пры ўдзеле Яна Шміта. Яго ўтвараюць каля 100 скульптур, мноства архітэктурных дэталяў, сакавіты раслінны арнамент, пазалочаны або пасярэбраны. Скульптура сканцэнтравана ў галоўным і 2 бакавых алтарах, алтарах капліц (Маці Божай Ружанцовай і Антонія Падуанскага, Св. Ганны), залачоным амбоне і вызначаецца разнастайнасцю эмацыянальных характарыстык, багаццем прасторавых разваротаў, падкрэсленай дынамікай лінейнага рытму, смелым парушэннем прапорцый, што ўзмацняе іх мастацкую выразнасць.

У інтэр'еры — разныя пазалочаныя алтары 18 ст. (6 драўляных і 1 стукавы). У іх складаныя кампазіцыі ўключана шмат драўлянай скульптуры і дэкаратыўная арнаментальная разьба ў стылі барока. Найбольш багата аформлены галоўны алтар, які замыкае перспектыву інтэр'ера храма. Вырашаны 3-восевым порцікам, узнятым на высокі цокаль. 1-ы яго ярус аздабляюць скульптуры апосталаў Пятра і Паўла. Завяршае антаблемент разарваны франтон, узняты 4 калонамі, над якім размешчана гарэльефная кампазіцыя «Стыгматызацыя св. Францыска». Цэнтральнае месца займае абраз «Унебаўзяцце Марыі» (копія с карціны іспанскага мастака Б.Мурыльё). Урачысты лад галоўнага алтара падкрэс-

ліваюць 2 бакавыя алтары «Св. Францыск» і «Святое Сэрца», дэкарыраваныя драўлянымі скульптурамі святых і разным абрамленнем алтарнага жывапісу. Яшчэ 4 алтары выкананы роспісам на сцяне і гіпсавай ляпнінай. На гранях разнога амбона — рэльефныя выявы 4 евангелістаў з атрыбутамі. Балдахін амбона, аздоблены глыбокай ажурнай разьбой расліннага матыву, завершаны статуяй святога архангела Міхаіла з мячом і вагамі правасуддзя. Дэкаратыўная разьба, драўляныя скульптуры апосталаў, пуцці і іншыя фігуры пазалочаны і пасярэбраны. У 1909 г. мастак С.Рудзінскі зрабіў арнаментальныя размалёўкі скляпенняў і падпружных арак, мастак Б.Вішнеўскі на сценах прэсбітэрыя напісаў 2 фрэскі — «Зняцце з крыжа» і «Пакланенне вешчуноў». Абразы 16 ст. «Святая Сям'я з Францішкам» (магчыма, італьянскі майстар; размешчаны ў бакавым алтары Маці Божай Ружанцовай), 17—18 ст. «Маці Божая царыца», «Аплакванне Хрыста», «Маці Божая з дзіцем», «Маці Божая Ружанцовая. Ісус» (фератрон 1730-х гг.), «Маці Божая Адзігітрыя». Мастацкую цікавасць уяўляе абраз «Пінская Мадонна», выкананы ў 1894 г. мастаком Альфрэдам Ромерам. Арган на хорах (1049 галасоў, 36 рэгістраў, 2 мануалы, 1498 труб) створаны віленскім майстрам Адальбертам Градніцкім у 1833—37 гг., рэканструяваны ў 1936 г. майстрам В.Вярнадскім. У 1980 г. пры касцёле створана капліца ў гонар вяртання кардынала Казіміра Свёнтака са ссылкі, створаны алтар па падабенстве віленскага алтара абраза Маці Божай Вастрабрамскай.

У сутарэннях касцёла знаходзілася пахаванне рымска-каталіцкага царкоўнага дзеяча Беларусі Зыгмунта Лазінскага, перанесенае сюды К.Свёнтакам.

Кляштарны корпус — помнік архітэктуры барока. Складаецца з 4 узаемна перпендыкулярных 2- і 3-павярховых карпусоў, скампанаваных вакол некалькіх унутраных двароў. Плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Тарцы дахаў завершаны барочнымі фігурнымі франтонамі. Унутры перакрытыя скляпеннямі памяшканні маюць калідорную ўзаемасувязь. У ходзе рэстаўрацыйных работ 1997 г. выяўлены фрэскавы роспіс пачатку 19 ст. на сюжэты з жыцця св. Францыска Асізскага. На іх звярнуў увагу рускі пісьменнік М.С.Ляскоў: «Коридор вдоль всего монастырского келийного корпуса довольно недурно расписан картинами, изображающими разные чудеса. Живопись эта напоминает изображение странствий Святой Федоры, написанное на стене у выхода из ближайшей пещеры Киевской Печерской Лавры».

Званіца — помнік архітэктуры класіцызму. Чатырох'яруснае (2 васьмерыкі на 2 чацверыках) вежападобнае збудаванне завершана фігурным барочным купалам. Грані паярусна прарэзаны прамавугольнымі і арачнымі аконнымі праёмамі з архівольтамі, крапаваны вуглавымі пілястрамі, прафіляванымі карнізамі.


Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Плюсы.

[1] Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Мн., 1977. С. 171, 178—180.

[2] Ярашэвіч А. Архітэктурна-скульптурны ансамбль касцёла францысканцаў у Пінску // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998. С. 48—55.

[3] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 249; Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в. Мн., 1991. С.253—262; Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 39—40; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 282.

[4] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikiem po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 145.

## в. Плюсы,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы і бутавага каменю. У 1941—44 гг. пашкоджаны, вернуты католікам у 1991 г., адноўлены.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Пабудаваны па каноне 3-нефавай 2-вежавай базілікі з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Трохчастквы фасад фланкіраваны 2-яруснымі 4-граннымі вежамі са спічастымі шатрамі; па цэнтры завершаны 2-гранным атыкавым шчыпцом з круглай люкарнай наверсе і 5-пралётнай аркадай унізе. Арачны ўваходны праём афармлены прамавугольным парталам. Архітэктура храма заснавана на форме





Капліца святога Юзафа ў в. Пляшчэвічы.

паўцыркульнай аркі, якая пакладзена ў малюнак уваходнага партала, трыфорыума над ім, біфорыумаў вежаў. Другі ярус галоўнага фасада вылучаны аркатурным фрызам, завершаны 2-гранным шчытом з акном-ружай. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі ў 2-абломных цагляных ліштвах і лапаткамі ў прасценках, апяразаны зубчастымі фрызамі. Насычаная паліхромія бутавай муроўкі сцен спалучаецца з чырвонацагляным каларытам элементаў архітэктурнага дэкору.

## в. Пляшэвічы,
Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца святога Юзафа

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2000-я гг. з дрэва на месцы бажніцы 1926 г., разабранай у 1954 г.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар бернардзінцаў у г. Полацк.



Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад стромкім 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Да яе асіметрычна далучана 3-сценная апсіда пад 3-схільным пакрыццём. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## г. Полацк
Віцебскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар бернардзінцаў

У паўднёва-заходняй частцы горада (Задзвінне), на вул. імя 23 гвардзейцаў, на левым беразе Заходняй Дзвіны. Заснаваны ў 1498 г. манахамі-бернардзінцамі па фундацыі вялікага князя Аляксандра Ягелончыка[1]. Першы драўляны касцёл узведзены ў 1502 г. Пасля Лівонскай вайны 1558—83 гг. кляштар спыніў дзейнасць і перайшоў да праваслаўных. У 1696 г. полацкі ваявода Аляксандр Слушка зноў запрасіў бернардзінцаў, для якіх былі ўзведзены драўляныя будынкі касцёла Маці Божай і кляштарнага корпуса. У 1758 г. пабудаваны мураваныя карпусы, аб'яднаныя вузкім пераходам[2]. Мураваны касцёл узведзены ў 1769 г. У 1772 г. налічвалася 10 манахаў, дзейнічала школа філасофіі. У комплекс уваходзілі кузня, стайня, свіран і іншыя гаспадарчыя пабудовы, пладовы сад з агародам. Кляштар скасаваны ў 1832 г., касцёл перабудаваны пад царкву. Захаваўся жылы корпус (з 1950-х гг. медыцынская ўстанова).

К а с ц ё л — твор архітэктуры барока (захаваліся руіны). Аднанефавы з трансептам 2-вежавы храм пад 2-схільным дахам. Галоўны фасад фланкіравалі 4-ярусныя вежы зграбных прапорцый, паміж якімі, як і над крыламі трансепта, узвышаўся фігурны франтон. У пластыцы фасадаў быў выкарыстаны класічны ордэр.

Унутры неф храма перакрывала цыліндрычнае скляпенне, над уваходам на 2 слупах-пілонах выступалі хоры, на якія і вышэй на званіцу вялі вітыя лесвіцы.

Ж ы л ы  к о р п у с — помнік архітэктуры барока. Вырашаны «глаголем» — да выцягнутага прамавугольнага ў плане 2-паверхавага будынка з захаду перпендыкулярна далучана карацейшае крыло з трапезнай на 1-м паверсе. Плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах і буйнымі пілястрамі ў прасценках, апяразаны прафіляваным карнізам. Унутраная планіроўка галерэйная з аднабаковым размяшчэннем перакрытых скляпеннямі келляў.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 392.

[2] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001; Podręczna Encyklopedia Kościelna. Warszawa, 190 . T. II. S. 226.

## Касцёл святога Андрэя Баболі

У паўднёва-заходняй частцы горада (Задзвінне), сярод жылога квартала, абмежаванага вуліцамі Дзяржынскага, Караленкі, Тургенева. Пабудаваны ў 1997 г. ў выніку рэканструкцыі кінатэатра «Юбілейны» (праект распрацаваны ў 1994 архітэктарам В.А.Папругай).

Храм вырашаны па каноне 3-нефавай аднавежавай базілікі з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Дынамічную ўзнёсласць кампазіцыі храма надае 5-ярусная чацверыковая званіца са спічастым гранёным шатром. Цэнтральны неф па баках расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, бакавыя — прамавугольнымі. Асіметрыю ў аб'ёмную кампазіцыю храма ўносіць прыбудова да бакавога нефа 2-павярховага пад вальмавым дахам аб'ёму, прызначанага для нядзельнай школы і плябаніі.

Унутраная прастора размежавана трыма парамі крыжовых у сячэнні слупоў і перакінутымі праз іх аркамі на 3 рознавялікія нефы, перакрытыя плоскімі драўлянымі столямі з імітацыяй кесонаў. Цэнтральны неф (вышыня 12,5 м) пераходзіць у 5-грannую апсіду, дэкарыраваную ў цэнтры перспектыўнай аркай са скульптурай Мадонны, драўляным крыжом і акном-люкарнай з вітражом над ёй. Над нартэксам двума слупамі ўзнесена галерэя хораў, якая выступае ў цэнтральны неф паўкругам. Тры пралёты хораў адкрываюцца ў нефы шырокімі арачнымі прасветамі. На хорах устаноўлены арган. Адзіным элементам мастацкага ўбрання плоскасных сцен інтэр'ера з'яўляецца серыя гравюр на тэмы крыжовага шляху Хрыста. Арган і звон зроблены ў Германіі.



Касцёл святога Андрэя Баболі ў г. Полацк.

## Касцёл святога Антонія і кляштар францысканцаў



Касцёл святога Антонія і кляштар францысканцаў у г. Полацк. Жылы корпус.

У гістарычным цэнтры горада, на вул. Леніна. Драўляны кляштар узведзены ў 1628 г. па фундацыі Тэафіла і Крысціны Храпавіцкіх. Мураваны касцёл св. Антонія пабудаваны ў 1763—75 гг. У 1833 г. кляштар скасаваны і перададзены праваслаўнаму ведамству. На месцы касцёла ў канцы 19 ст. быў пабудаваны 2-павярховы будынак з частковым выкарыстаннем яго сцен і сутарэнняў (зруйнаваны ў Вялікую Айчынную вайну). Захаваўся жылы корпус, пабудаваны ў 1778 г. з цэглы.

К а с ц ё л (не захаваўся) — твор архітэктуры барока. З'яўляўся 3-нефавай 2-вежавай базілікай, накрытай 2-схільным чарапічным дахам з сігнатуркай над алтарнай часткай. Паміж 3-яруснымі вежамі знаходзіўся трохвугольны франтон. Па баках апсіды меліся 2 сакрысціі. Унутры над нартэксам месціліся хоры, дзе быў устаноўлены арган на 10 галасоў. Галоўны і 4 кулісныя алтары былі выкананы з алебастру (згарэлі ў час пажару 1861 г.).

Ж ы л ы  к о р п у с — помнік архітэктуры барока. Вырашаны прамавугольным у плане 2-павярховым будынкам пад пакатым вальмавым дахам (далучаўся да касцёла). Франтальны вулічны фасад рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў рэльефных ліштвах з сандрыкамі.

## Касцёл святога Стафана і калегіум езуітаў

У гістарычным цэнтры горада, на перакрыжаванні пр. К.Маркса з вул. Замкавай. Пабудаваны ў 1-й палове 18 ст. з цэглы.

У жніўні 1574 г. (па іншых звестках у 1582) кароль Стафан Баторый, пасля адваявання Полацка, звярнуўся да ксяндза Пятра Скаргі ў Вільню з прапановай заснаваць у горадзе кляштар езуітаў; на ўтрыманне 50 манахаў і насельнікаў інтэрната перадаў адабраныя ў праваслаўных маёнткі, манастыры і цэрквы (акрамя Сафійскага сабора)[1]. У выніку езуіты набылі каля 30 вёсак з сялянамі[2]. У далейшым уласнасць кляштара павялічылася за кошт каралеўскіх дараванняў па абодва бакі Зах. Дзвіны, што адзначаў Пётр Скарга: «Чем больше противились еретики, тем ревностнее был король, который даровал им 60





Касцёл святога Стафана і калегіум езуітаў у г. Полацк. Малюнак Н.Орды.

деревень»[3]. Уся гэта маёмасць (16 тыс. прыгонных) была юрыдычна замацавана сеймам 1586 г.[4]

У 1579 г. пабудаваны драўляныя корпус калегіума і касцёл. Вялікую значнасць полацкі прыстанак езуітаў атрымаў пасля пераходу віленскага езуіцкага навацыята з Рыгі, які быў выгнаны шведамі з горада ў 1600 г. У выніку Полацк ператварыўся ў цэнтр езуіцкага ордэна ў Вялікім княстве Літоўскім. Езуіты пабудавалі новы манументальны мураваны храм у гонар Св. Казіміра. У ліпені 1656 г. Полацк наведаў расійскі цар Аляксей Міхайлавіч, які выдаў пастанову аб вяртанні маёнткаў езуітаў праваслаўнаму духавенству. Касцёл быў разабраны. Пасля Андросаўскага перамір'я 1667 г. езуіты зноў умацавалі свае пазіцыі ў Полацку, на месцы знішчанага кальвінскага збора пабудавалі касцёл св. Францішка Ксаверыя. Пажар 1682 г. знішчыў касцёл. Пасля пажару пабудаваны драўляны касцёл св. Стафана, будынкі келляў і вучылішча. У 1705 г. касцёл і калегіум наведаў цар Пётр I. У 1734 г. рускім войскам знішчаны касцёл і забрана казна кляштара, якую, аднак, ксяндзы вярнулі пасля скаргі да царыцы ў



Касцёл святога Стафана і калегіум езуітаў у г. Полацк. Сучасны выгляд.



Пецярбург. У 1738 г. пабудаваны новы мураваны храм італьянскім дойлідам[5], асвячоны 15.8.1745 г.; работы па афармленні інтэр'ера завершаны ў 1765 г. Пасля забароны ордэна ў 1773 г. полацкі кляштар працягваў існаваць. Касцёл быў месцам паломніцтва вернікаў з-за цела прапаведніка, «пінскага апостала» Андрэя Баболі, што захоўвалася ў капліцы пры ўваходзе ў храм. Мошчы святога былі перанесены з Пінска ў 1827 г. дзякуючы намаганням генерала ордэна Тадэвуша Бжазоўскага, які з 1782 г. быў тут выкладчыкам. Пасля забароны дзейнасці ордэна кляштар трапіў да піяраў. У 1830 г. аддадзены пад кадэцкі корпус. У 1830(8) г. касцёл перададзены праваслаўнай царкве і перайменаваны ў Мікалаеўскі сабор; перабудаваны, касцельнае начынне звезена ў Варшаву і Асвею, арган з 1838 г. знаходзіцца ў віленскім касцёле св. Яна, што на тэрыторыі універсітэта. Касцёл аднаўляўся пасля пажараў 1871 г. і 1912 г. У 1962 г. разбурана частка корпуса калегіума, у 1964 г. ўзарваны сабор, у 1976—79 гг. на яго месцы ўзведзены 9-павярховы жылы дом.

Пры кляштары ў 1581—1812 гг. існаваў калегіум, які з'яўляўся навучальнай установай класічнага тыпу. У ім ксяндзы-езуіты арганізоўвалі публічныя тэалагічныя дыспуты, разгортвалі тэатральныя відовішчы, «вярцепы» (культавыя абрадавыя прадстаўленні). У 1768 г. тут выкладаў філасофію, матэматыку, архітэктуру і тэалогію рэлігійны дзеяч Ф.К.Кару, які ў 1786 г. стаў рэктарам калегіума і адкрыў пры ім у 1787 г. друкарню. У 1785 г. ў калегію прыехаў дзеяч ордэна, архітэктар і матэматык Габрыэль Грубер, які стварыў у новым збудаваным корпусе аздобленую фрэскамі карцінную галерэю і музей (меліся 484 архітэктурныя гравюры), абсерваторыю і разнастайныя кабінеты. У калегіуме выкладалі архітэктары Жаброўскі, Скакоўскі, Перлінг[6]. У калегіуме выкладаў тэалогію і філасофію Б.Дабшэвіч. У 1811 г. сакратар ордэна Тадэвуш Бжазоўскі і яго спадзвіжнік граф Жазеф дэ Местр зхадайнічалі ў імператара Аляксандра I аб наданні полацкаму калегіуму статуса акадэміі з даранымі універсітэтам правамі. 10.6.1812 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё новай навучальнай установы ў прысутнасці беларускага генерал-губернатара герцага Віртэмбергскага і міністра асветы графа Разумоўскага. Структурна Акадэмія складалася з лінгвістычнага, свабодных навук (у тым ліку грамадзянскай і вайсковай архітэктуры) і багаслоўскага факультэтаў. Налічвалася 600 абітурыентаў, 39 выкладчыкаў. Фундаментальнай была і навучальная база ўстановы — вялікая бібліятэка, музей славутасцяў, фізічны, механічны, хімічны і іншыя кабінеты. Ва ўстанову залічваліся кандыдаты ўсіх званняў і веравызнанняў. Акадэмію скончыў у 1815 г. пісьменнік і гісторык П.В.Кукальнік. Аднак езуіцкая акадэмія праіснавала ўсяго 8 гадоў (налічвала 112 езуітаў). У 1820 г. Полацкая езуіцкая акадэмія і падначаленыя ёй ву-

чылішчы былі скасаваны. Бібліятэка большай часткай перавезена ў Пецярбург і Маскву, часткова трапіла ў Віцебскую гімназію, друкарня перададзена ў Кіеў. У 1830—35 гг. рэканструяваны старыя і пабудаваны новыя карпусы: кадэцкі (прыбудаваны да заходняга крыла галоўнага корпуса былога калегіума), дом дырэктара і 5 будынкаў службовага прызначэння (архітэктар А.Порта, захаваліся часткова). У савецкі час будынкі кляштара выкарыстоўваліся пад ваенны шпіталь. У пачатку 1990-х гг. пачалася рэстаўрацыя будынкаў калегіума, якія перададзены Полацкаму дзяржаўнаму універсітэту.

На працягу 18—19 ст. калегіум езуітаў сфарміраваўся ў рэпрэзентатыўны горадабудаўнічы ансамбль. Касцёл стаяў па восі сіметрыі плошчы ў завяршэнні перспектывы Віцебскай вуліцы. З ліку будынкаў езуіцкага калегіума страчаны карпусы канвікта, вучылішча, музея і тэатра, а таксама службовыя карпусы ў паўночнай частцы комплексу і будынак аптэкі з заходняга боку. Перад касцёлам сфарміравалася галоўная Парадная плошча горада. На берагавым схіле перад галоўным фасадам будынка калегіума быў разбіты рэгулярны парк.

К а с ц ё л (не захаваўся) з'яўляўся творам архітэктуры барока (адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1875—76). Быў вырашаны па каноне 3-нефавай крыжова-купальнай базілікі з 2-вежавым франтальным фасадам і прамавугольнай у плане апсідай (акруглай унутры). Барочны купал на гранёным барабане ў сяродкрыжжы быў узведзены архітэктарам-езуітам Габрыэлем Лянкевічам[7]. Узнесеныя над фасадным карнізам 3-ярусныя 4-гранныя вежы, як і купал, вянчаліся цыбулепадобнымі галоўкамі (вынік перабудовы пад сабор), мелі гадзіннікі-куранты, выкананыя віленскім майстрам Густавам Мудні. Пры перабудове пад царкву архітэктура храма набыла рысы класіцызму (трохвугольныя франтоны на тарцах даху).

Унутры нефы храма перакрывалі цыліндрычныя скляпенні на падпружных арках. У 1765 г. завершаны работы па дэкору інтэр'ера, у якой удзельнічалі рэзчыкі Антон Лазуровіч і Томаш Быковіч. У 1764—65 гг. пастаўлены цэнтральны алтар, у стварэнні якога ўдзельнічаў мастак Сімон Чаховіч, у 1765—66 гг. — арган, выкананы італьянскім майстрам Дамінікам Адамам Каспарыні[8], пасля 1800 г. інтэр'ер упрыгожаны карцінамі італьянскага мастака Разаці.

У 1750 г. побач з касцёлам пачалі ўзводзіць мураваны 3-павярховы галоўны будынак к а л е г і у м а. Е-падобны ў плане пад чарапічным дахам будынак галоўным падоўжным фасадам быў арыентаваны на поўдзень, на Заходнюю Дзвіну. У 2-павярховым сярэднім левым крыле на 1-м паверсе размяшчалася трапезная, на 2-м — бібліятэка і музей, да трапезнай прылягаў 1-павярховы будынак кухні. Астатняя частка будынка мела калідорную планіроўку, капітальнымі сценамі была падзелена на 105 памяшканняў са скляпеністымі перакрыццямі. Будынак абаграваўся «цёплай» (з хадамі для цяпла) падлогай. У сценах зроблены вентыляцыйныя хады, у падвалах — развітая сістэма падземных вадасцёкаў (з-за высокага ўзроўню грунтовых вод). Захавалася паўднёвая частка корпуса і заходняе крыло. Барочная архітэктура манументальнага і буйнамаштабнага будынка мае буйныя прапорцыі і чляненні, рытм фасадам надаюць вялізныя прамавугольныя і эліпсападобныя аконныя праёмы ў простых ліштвах з замковым каменем, вуглавыя і прасценачныя лапаткі на вышыню ўсіх паверхаў, тонкапрафіляваны завяршальны карніз. У 1778 г. паралельна будынку касцёла ўзведзены 3-павярховы корпус, у якім на 1-м паверсе размясцілася кнігарня, на 2-м спачатку вучылішча, потым друкарня, на 3-м — тэатр. З паўночнага боку да касцёла прыбудаваны 2-павярховы Г-падобны ў плане флігель для ксяндзоў (канвікт), які аб'яднаў касцёл з галоўным корпусам. У 1780 г. пабудаваны 1- і 2-павярховыя карпусы гаспадарчага прызначэння (бровар, медаварня, піваварня, пякарня, кузня, майстэрні і інш.; не захаваліся); яны абмяжоўвалі тэрыторыю калегіума з поўначы і захаду і замыкаліся 2-павярховым будынкам з брамай. Побач размяшчалася аптэка з лабараторыяй і сушыльняй для траў. У 1785 г. пасля прыезду ў Полацк Габрыэля Грубера пабудаваны корпус, які злучыў 3-павярховы і галоўны карпусы. У новым корпусе знаходзіліся карцінная галерэя, музей, абсерваторыя, хімічная лабараторыя, вучэбныя кабінеты (не захаваліся). На поўдзень ад аптэкі пабудаваны 2 флігелі — памяшканні для семінарыстаў і багадзельні. Паўднёвы схіл узгорка, на якім стаяў галоўны корпус, быў умацаваны падпорнай сцяной (захавалася), на створанай тэрасе разбіты пладовы сад.

---

[1] Skarga P. Kazania sejmowe. Krakow, 1857. S. 158—159; Сапунов А. Заметка о коллегии и академии иезуитов в Полоцке. Витебск, 1890. С. 3; Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 377; Морошкин М. Иезуиты в России с царствования Екатерины II и до нашего времени. Часть первая, обнимающая историю иезуитов в царствование Екатерины Великой и Павла I. СПб., 1867. Т. 1. С. 56; Витебская старина / Сост. А.Сапунов: В 5 т. Витебск, 1883—1888. Т. 1. С. 467.

[2] Акты Западной России. СПб., 1848. Т. III. С. 284—285.

[3] Витебская старина. Витебск, 1888. Т. V. С. 109.

[4] Zaleski St. Jezuici w Polsce. Kraków, 1908. S. 17.

[5] Квитницкая Е.Д. Белорусские коллегиумы XVIII в. // Архитектурное наследство.1972. № 21.

[6] Poplatek J., Paszenda J. Słownik jezuitów artystow. Kraków, 1972. S. 248—249.

[7] Morelowski M. Znaczenie baroku wileńskiego XVIII stulecia. Wilno, 1940. S. 131.

[8] Дадзіёмава В.У. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: гісторыка-тэатральнае даследаванне. Мн., 2002. С. 113.





Капліца ў г.п. Поразава.



Касцёл Імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі, Каралевы Кароны Польскай у в. Порплішча.







Касцёл святога архангела Міхаіла ў в. Поразава.

## г.п. Поразава,
Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На паўднёва-заходняй ускраіне гарадскога пасёлка. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Кубападобная пабудова пад шатровым дахам. Гарызантальна ашаляваныя сцены (цокальная частка — вертыкальна) прарэзаны прамавугольнымі аконнымі і ўваходным праёмамі.

### Касцёл святога архангела Міхаіла

У цэнтры гарадскога пасёлка, у акружэнні бутавай агароджы з брамай-званіцай. Пабудаваны ў 1825—28 гг. з цэглы і бутавага каменю.

У 1877 г. гродзенскі губернатар генерал-маёр Зурыеў выдаў дазвол на правядзенне хросных хадоў у межах агароджы касцёла[1]. Пры храме мелася багадзельня. На 1997 г. налічвалася каля 2500 парафіян.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Прамавугольны ў плане будынак накрыты 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай і трохвугольным франтонам на фасадзе, завершанымі сігнатуркамі. На фоне паліхромнай бутавай муроўкі сцен вылучаны атынкаваныя і пабеленыя плоскія ліштвы прамавугольных аконных праёмаў, прасценачныя пілястры, трыгліфны фрыз з карнізам на дэнтыкулах, шырокі антаблемент.

Унутры зала перакрыта плоскай драўлянай столлю. Уздоўж заходняй сцяны — балкон хораў. Спрошчаная архітэктура інтэр'ера ўпрыгожана разнымі алтарамі, амбонам, паліхромнай драўлянай скульптурай 18 ст. У надбрамнай званіцы — звон з сюжэтнай гравіроўкай, адліты ў 1749 г.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 78, воп. 1, спр. 155, арк. 1—1 адв.

## в. Порплішча,
Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі, Каралевы Кароны Польскай

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1937—39 гг. з дрэва. У пасляваенны час быў закрыты, выкарыстоўваўся пад школу і майстэрні. Перададзены вернікам у 1990 г., асвячоны ў 1994 г.

Помнік архітэктуры канструктывізму. Вырашаны шырокім прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным над алтарнай часткай 4-граннай шатровай вежай. Прасторавую кампазіцыю і ярусны сілуэт храма ўзбагачае перапад дахаў прамавугольнай апсіды і бакавых сакрысцій. У трохвугольны франтон фасада ўрэзана 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца з лускаватым пакрыц-



Капліца ў в. Правожа.

цём. Гарызантальна ашаляваныя фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, умацаваны брусамі-сцяжкамі.

## в. Правожа,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы як сакральна-мемарыяльная.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана востравугольным пірамідальным 4-гранным абеліскам (сплошчаны, быў атынкаваны) на нізкім пастаменце.

## в. Правыя Масты,

Мастоўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца



Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Правыя Масты.

Ва ўсходняй частцы вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам з паўкруглай апсідай. Над трохвугольным франтонам 2-схільнага даху (канічнага над апсідай) пастаўлена драўляная 4-гранная шатровая сігнатурка. Прамавугольны ўваходны праём фланкіраваны 2 парамі пілястраў. Бакавыя плоскасныя фасады прарэзаны 2 парамі паўкруглых люкарнаў.

### Капліца

Ва ўсходняй частцы вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як пахавальня.

Вырашана невялікім прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам з крыжом на слупе па цэнтры. Фасады крапаваны паўавальнымі аркатурамі і лапаткамі.

### Касцёл святога Яна Хрысціцеля

Ва ўсходняй частцы вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1993 г. з чырвонай цэглы на месцы касцёла,



Капліца ў в. Правыя Масты.



Капліца ў в. Правыя Масты.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Празарокі.

які згарэў у 1980-я гг. Побач пастаўлена каркасная званіца. На 1997 г. налічвалася каля 1 тыс. парафіян.

Прамавугольная ў плане 3-нефавая 2-вежавая базіліка. Над фасадам узвышаецца 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) шатровая званіца. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны ў 2 ярусы арачнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках. Алтар вырашаны 2-ярусная 3-часткавай перагародкай, насычанай паліхромнай скульптурай, жывапісам і арнаментальнай разьбой.

## в. Празарокі,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці



### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У паўночнай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1899—1907 гг. з цэглы. Закрыты ў 1950 г., адкрыты 29.6.1989 г.

Першы драўляны касцёл быў пабудаваны ў 1698 г. па фундацыі полацкага падкаморыя Ю.Шчыта. Пры ім меўся кляштар францысканцаў. У пачатку 18 ст. кляштарны комплекс згарэў. У 1721 г. на яго месцы смаленскі падхаружы Павел Корсак фундаваў новы касцёл і кляштар, скасаваны ў 1832 г. Чарговы пажар 14.8.1892 г. зноў знішчыў кляштар[1]. У лістападзе таго ж года парафіяне атрымалі дазвол віленскага губернатара на аднаўленне плябаніі і будаўніцтва часовага малітоўнага памяшкання, а ў 1896 г. — на будаўніцтва новага касцёла[2].

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Трохнефавы базілікальны храм з 5-граннай апсідай і трохграннымі нізкімі сакрысціямі па яе баках. Накрыты 2-схільным дахам з вальмамі над алтарнай часткай. Вось сіметрыі 2-вежавага фасада вылучана ўваходным праёмам і акном-трыфорумам над ім. Карнізныя паясы расчляняюць плоскасць фасада і вежаў на ярусы. Бакавыя плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны 2 ярусамі арачных аконных праёмаў. Цокальны мае бутавую муроўку.

У інтэр'еры плоская столь размалявана ілюзорнымі кесонамі, над уваходам хоры.

---

[1] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 221.
[2] Rzymskokatolicka diecezja Witebska (Białoruś). Witebsk, 2004. S. 116.

## в. Прасці (Просці),

Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы як пахавальня ўладальнікаў маёнтка Пратасевічаў (мемарыяльная дошка Францішкі Пратасевіч з Пуслоўскіх, 1803—8.5.1891). У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам з ніжэйшай апсідай. Фасад завершаны 2-гранным шчытом на бакавых лапатках; па цэнтры адзначаны ўваходным класіцыстычным парталам (накладны пілястравы порцік з трохвугольным франтонам) і арачным аконным праёмам хораў над ім. Пілястравымі накладнымі порцікамі адзначаны 2 бакавыя прамавугольныя аконныя праёмы.



Капліца ў в. Прасці.

## в. Пратасаўшчына,
Пухавіцкі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

За 1 км на захад ад вёскі, на могілках у лесе. Пабудавана ў 1860-я гг. з бутавага каменю і цэглы як пахавальня Шастоўскіх. Захавалася ў паўзруйнаваным стане.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана квадратным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Фасады крапаваны вуглавымі лапаткамі, апяразаны цаглянымі цягамі, якія вылучаюць фрызавую частку. Швы бутавай муроўкі запоўнены дробным шчэбнем.



Капліца ў в. Пратасаўшчына.

## в. Пронькі,
Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі, у двары прыватнай сядзібы. Пастаўлена ў канцы 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным слупом з шатровым завяршэннем і вузкай прамавугольнай нішай наверсе франтальнай грані.



Капліца ў в. Пронькі.

## в. Прошкава,
Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца святога Антонія

У паўночнай частцы вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Адноўлена ў канцы 20 ст.

Помнік народнага дойлідства. Прамавугольны ў плане зруб з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Двухсхільны гонтавы дах пераходзіць над апсідай у вальмавы гранёны. Над трохвугольным франтонам фасада ўзвышаецца 2-ярусная 4-гранная вежа-званіца пад шатровым пакрыццём. Уваход праз нізкі прамавугольны прытвор пад 2-схільным пакрыццём. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя фасады прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі ў разных ліштвах. Унутры зала перакрыта плоскай столлю. Над уваходам на ўсю шырыню храма балкон хораў, падтрыманы 2 слупамі. Цэнтральны і бакавыя алтары выкананы ў тэхніцы стука пад шэры штучны мармур.



Капліца святога Антонія ў в. Прошкава.



Інтэр'ер капліцы святога Антонія ў в. Прошкава.



# г. Пружаны

Брэсцкай вобласці

## Капліца

На паўднёва-заходняй ускраіне горада, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1852 г. з цэглы.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Кампактнае прамавугольнае ў плане збудаванне накрыта 2-схільным дахам. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам, у тымпане якога арачнае слыхавое акно са звонам. Над прамавугольным уваходным праёмам паўарачнае акно, дэкарыраванае архівольтай з замковым каменем і прафіляваным карнізам. Аналагічнае вырашэнне маюць і бакавыя аконныя праёмы. Плоскасныя фасады дэкарыраваны прафіляваным карнізам і вуглавым рустам.



Капліца ў г. Пружаны.

Пры ўваходзе ў малітоўную залу выступаюць хоры на слупах. Абразы 17—18 ст. «Маці Божая Адзігітрыя», «Св. Антоній з дзіцем Ісусам» (падпісана 1701), «Арханґел Міхаіл».

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У цэнтра горада, на вул. Савецкай. Пабудаваны ў 1878—83 гг. з цэглы пры ўдзеле ўладальніка пружанскага палаца Валенція Швыкоўскага[1]. У 1939 г. вікарыем у касцёл быў прызначаны Казімір Свёнтак (з 1993 кардынал). Пасля Вялікай Айчыннай вайны закрыты. У 1950 г. рэканструяваны пад Дом культуры. Адкрыты 28.8.1998 г.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Лаканічнае прамавугольнае ў плане збудаванне накрыта 2-схільным дахам. Асноўны архітэктурны акцэнт створаны на галоўным фасадзе, які мае сіметрычна-восевую 2-ярусную кампазіцыю. Асноўная прамавугольная плоскасць фасада завершана высокім шчытом з трохвугольным франтонам, пастаўленым на прамавугольны атык з бакавымі ўвагнутымі валютамі. Фасад мае трохчасткавае чляненне лапаткамі на высокіх філёнгавых пастаментах. Галоўны ўваход размешчаны ў глыбіні лоджыі, завершанай цыркульнай аркай. У архітэктурным дэкоры выкарыстаны класічныя элементы: бакавыя арачныя экседры, архівольты з замковым каменем, карнізы на дэнтыкулах. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны пілястрамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў 2 ярусы (прабіты ў час рэканструкцыі 1950).

Абразы 18—19 ст. «Св. Тэкля», «Маці Божая Адзігітрыя Чанстахоўская», «Св. Казімір», скульптура «Укрыжаванне».

---

[1] Пярвышын У.М. Пружанскі палацык. Мн., 1992. С. 24.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Пружаны.



Касцёл святога Юды Тадэвуша ў в. Прывалка.

## в. Прывалка
Гродзенскага раёна

### Касцёл святога Юды Тадэвуша

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1918 г. з дрэва на месцы храма 19 ст. На 1997 г. налічвалася 316 парафіян.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашаны магутным прамавугольным у плане аб'ёмам, алтарную групу якога складаюць бакавыя крылы трансепта і 5-гранная апсіда. Над фасадам узведзены высотныя бакавыя 4-гранныя вежы-званіцы са спічастымі шпілямі, паміж якімі трохвугольны франтон на прамавугольным атыку (па цэнтры стральчатая ніша з выявай Хрыста). Спічастымі трохвугольнымі франтонамі завершаны крылы трансепта. Бакавыя сцены прарублены высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі і ўмацаваны ў прасценках брусамі-сцяжкамі. Вертыкальным каскадам стральчатых праёмаў адзначана восць сіметрыі франтальнага фасада (уваход і 2 акны).

## в. Прыпернае,
Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

Выраблена ў канцы 20 ст. з цэглы.

Узор народнай творчасці. Вырашана прамавугольнай стэлай з фігурным верхнім абрысам, пастаўленай на прызматычны пастамент. На франтальнай плоскасці прамавугольная зашклёная ніша з абразом. З тыльнага боку пастаўлены высокі драўляны крыж.

## в. Пузынаўцы,
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці



Касцёл святога Казіміра ў в. Путрышкі.



Капліца ў в. Пузынаўцы.

### Капліца

За 1 км на паўночны захад ад вёскі, каля дарогі Каменка—Мількаўшчына. Пастаўлена ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы на родавых могілках Паўлоўскіх.

Вырашана трох'ярусной вежай зграбных вертыкальна выцягнутых прапорцый, завершанай спічастым шпілем. Грані фланкіраваны пілонамі, высунутымі па дыяганалі, крапаваны прамавугольнымі нішамі, рэльефнымі крыжамі, аркатурнымі і зубчастымі паясамі.

## в. Путрышкі
Гродзенскага раёна

### Касцёл святога Казіміра

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 2002—06 гг. з дрэва.

Прасторава развітая крыжовая ў плане аб'ёмная кампазіцыя храма складаецца з цэнтральнага прамавугольнага зруба, 5-граннай апсіды, нізкіх бакавых сакрысцій, прамавугольных крылаў трансепта. Перакрыжаванне стромкіх 2-схільных дахаў адзначана шатровай сігнатуркай. Да фасада далучана 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) шатровая званіца. Гарызантальна ашаляваныя фасады парэзаны прамавугольнымі і стральчатымі аконнымі праёмамі, круглымі люкарнамі.




## в. Пяршаі,
Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святога Юрыя

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1933 г. з цэглы намаганнямі графа В.Тышкевіча і ксяндза Петраша,

асвячоны 19.11.1933 г. пінскім біскупам Казімірам Букрабам[1]. Пасля Вялікай Айчыннай вайны закрыты, прыстасаваны пад кінатэатр. У 1990-я гг. адноўлены. За касцёлам насупраць апсіды пастаўлены гранітны помнік з барэльефамі блажэнных Ахілеса і Германа — жыхароў вёскі, трагічна загінуўшых у 1943 г.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Прамавугольны ў плане трохнефавы аб'ём накрыты 2-схільным дахам; алтарная частка паўцыркульная з бакавымі сакрысціямі. На галоўным фасадзе шырокі рызаліт з 2-гранным шчытом, фланкіраваным надбудаванымі ў апошні час з сілікатнай цэглы дзвюма бакавымі васьмерыковымі шатровымі вежамі-званіцамі. У цэнтры верхняга яруса рызаліту шырокая арачная ніша, якая аб'ядноўвае 3 арачныя аконныя праёмы; пад імі трохарачная 2-пілонная лоджыя галоўнага ўвахода. Сцены абапал рызаліта завершаны прамавугольнымі атыкамі з зубчастымі фрызамі. Астатнія фасады вырашаны плоскасна, рытмічна расчлянёны пілястрамі, прамавугольнымі аконнымі праёмамі, апяразаны карнізам і цягай простага профілю. Зала храма перакрыта плоскай столлю, апсіда — конхай з люнетамі.

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 86.



Касцёл святога Юрыя ў в. Пяршаі.



Капліца ў в. Пярэжыр.



Касцёл у в. Пятроўшчына.

## в. Пярэжыр,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

За 0,5 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі на Ракаў. Пабудавана ў 1930-я гг. з цэглы па ініцыятыве пасольства Францыі ў Польшчы ў памяць салдат напалеонаўскай арміі, якія загінулі ў 1812 г.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана шатровай навіссю на 4 квадратных у сячэнні слупах, якія ўтвараюць арачныя прасветы.

## в. Пятроўшчына,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў канцы 20 ст. з цэглы на аснове грамадзянскага будынка. Добраўпарадкаваная тэрыторыя акаймавана бутавым бардзюрам, насычана архітэктурай малых форм: шэраг мураваных арачных каплічак, бутавыя горкі-гроты з культавай скульптурай, металічны масток цераз сажалку і інш.

Вырашана прамавугольным у плане 1-павярховым будынкам пад 2-схільным дахам. Да вугла алтарнай часткі дабудавана драўляная 8-гранная шатровая вежа-званіца. Франтальны фасад расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, уваход арганізаваны пад вуглавой нішай-тэрасай.

## Р

### в. Раванічы,
Чэрвеньскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл святога Антонія

У паўночнай частцы вёскі, на могілках. Пабудаваны ў 1790(99) г. з цэглы па фундацыі ўладальніка раванічскага палацава-паркавага комплексу Антонія Слатвінскага як родавая пахавальня[1]. Пасля Вялікай Айчыннай вайны выкарыстоўвалася ў гаспадарчых мэтах, у 1990-я гг. пацярпела ад пажару. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры класіцызму. Квадратны ў плане будынак з прамавугольнай апсідай, да якой далучаны 2 бакавыя нізкія сакрысціі. Фасад аформлены 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам і спрошчанымі іанічнымі капітэлямі з кветкавымі разеткамі. Уваход дэкарыраваны сандрыкам-франтончыкам і паўкруглай люкарнай, фланкіраваны арачнымі экседрамі. Бакавыя і тыльны фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і шырокімі пілястрамі ў прасценках.

Унутры зала была перакрыта цыліндрычным скляпеннем і дэкарыравана паліхромнай размалёўкай на біблейскія тэмы. На тарцовай сцяне мелася ілюзорная выява алтара. Над уваходам хоры з парапетам у выглядзе антаблемента. Пад касцёлам крыпта.

---

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 228; Aftanazy R. Materiały do dziejów rezydencji. Warszawa, 1986. T. 1a. S. 264; Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Mińskiej. Warszawa, 1919. S. 21; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 241.

### г. Рагачоў
Гомельскай вобласці

## Касцёл святога Антонія Падуанскага

У паўднёвай частцы горада, каля шашы Бабруйск—Слаўгарад. Пабудаваны ў 1911—13 гг. з цэглы. У стане рэстаўрацыі.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашаны прамавугольным ў плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Над фасадам надбудавана 8-гранная званіца. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі і прасценачнымі ступеньчатымі контрфорсамі з гранёнымі фіяламі ў завяршэнні. Уваход вылучаны прысадзістым стральчатым парталам, над якім такой жа формы высокі аконны праём хораў. Архітэктурны дэкор (аркатурныя фрызы, руставаныя ліштвы праёмаў) выкананы сродкамі майстэрскай цаглянай муроўкі. Высокі цокаль выкладзены квадрамі часанага вапняку.



Касцёл святога Антонія ў в. Раванічы.

### в. Раготна,
Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл святых Анёлаў-ахоўнікаў

Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1840 г. з цэглы. Пасля 1866 г. пераабсталяваны пад Ражджаства-Багародзіцкую царкву[1]. У 1920-я гг. верну-



Касцёл святога Антонія Падуанскага ў г. Рагачоў.



Касцёл святых Анёлаў-ахоўнікаў у в. Раготна.



Інтэр'ер касцёла святых Анёлаў-ахоўнікаў у в. Раготна.

ты католікам, у 1947 г. закрыты. Зноў асвячоны ў 1989 г. На 1997 г. налічвалася 845 парафіян.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашаны магутным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад адзначаны буйнамаштабным 6-калонным порцікам з вялізным антаблементам, над якім узвышаюцца бакавыя чацверыковыя вежы-званіцы і трохвугольны франтон паміж імі. Бакавыя фасады члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 70, арк. 310; спр. 140, 152.

## в. Радагошча (Чомбраў),

Навагрудскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

За 1 км на ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як надмагілле ўладальніка маёнтка Чомбраў Карповіча.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана ўзнятай на кубападобны пастамент 4-граннай вежай пад сферычным купалам. Другі ярус адкрыты арачнымі прасветамі і прызначаўся для сакральнай скульптуры; апяразаны карнізам з сухарыкамі, крапаваны па вуглах 3-чацвяртнымі калонамі.

## г.п. Радашковічы,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца святога Яна Непамука

На паўднёва-ўсходняй ускраіне гарадскога пасёлка, на могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю як пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры эклектыкі. Вырашана 2 прамавугольнымі ў плане аб'ёмамі прытвора і мемарыяльнага памяшкання. Уваход вырашаны арачным праёмам.

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У паўднёва-ўсходняй частцы гарадскога пасёлка, на вул. Савецкай. Пабудаваны ў 1850 г. з цэглы. Першы каталіцкі храм тут заснаваны ў 1447 г. вілен-





Капліца ў в. Радагошча (Чомбраў).



Капліца святога Яна Непамука ў г.п. Радашковічы.

скім кашталянам Пятром Гедыгольдавічам. У 1734 г. быў пабудаваны новы касцёл. У існуючым касцёле хрысцілі Я.Купалу. Закрыты ў 1946 г. і прыстасаваны пад вытворчы корпус. У 1990 г. перададзены вернікам. Перад касцёлам размешчана 3-арачная брама з лучковым франтонам і паўкалонамі на фасадзе.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Асноўны, прамавугольны ў плане аб'ём накрыты 2-схільным дахам з невялікім ліхтаром, выцягнутая па падоўжнай восі апсіда — больш нізкім 2-схільным дахам. Цэнтр сіметрычнага галоўнага фасада вылучаны глыбокім рызалітам і завершаны 2-схільным шчытом. Квадратныя ў сячэнні 4-ярусныя вежы выступаюць з асноўнага аб'ёму, дэкарыраваны скразнымі арачнымі праёмамі, круглымі люкарнамі, завершаны шлемападобнымі купаламі. Бакавыя плоскасныя фасады рытмічна члянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі з броўкамі і шырокімі пілястрамі ў прасценках.

Унутраная прастора члянёна 2 радамі квадратных у сячэнні слупоў на 3 нефы, перакрытыя ажурнай повяззю скляпенняў — цыліндрычным у цэнтральным, крыжовымі ў бакавых нефах, конхай у апсідзе. Сцены крапаваны пілястрамі, на якія абапіраюцца магутныя падпружныя аркі, буйнымі карнізамі. У нартэксе галерэя хораў, на якіх быў арган. Часткова захавалася керамічная арнаментаваная падлога ў апсідзе.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г.п. Радашковічы.

## г.п. Радунь,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Маці Божай Ружанцовай

У паўднёвай частцы гарадскога пасёлка, каля дарогі на Пелясу. Пабудаваны ў 1929—33 гг. з цэглы і бутавага каменю будаўніком А.Бейкам паводле праекта архітэктара Я.Бароўскага. Папярэдні драўляны храм па хадайніцтве віленскага біскупа Клюнчэўскага быў перанесены ў 1836 г. з кляштара в. Калеснік (Каляснінкай, Літва)[1]. На 1997 г. налічвалася 6590 парафіян.

Помнік архітэктуры мадэрна з рысамі неаготыкі. Буйнамаштабная 3-нефавая 2-вежавая базіліка са складанай каскадна-аб'ёмнай алтарнай групай: павышаны прэсбітэрый пад 2-схільным дахам, 5-гранныя крылы трансепта і апсіды з бакавымі сакрысціямі. Нартэкс вынесены перад галоўным фасадам у самастойны нізкі аб'ём з глыбокім стральчатым уваходным праёмам. Фасад фланкіраваны 4-яруснымі (васьмярык на чацверыках), расчлянёнымі гарызантальнымі паясамі шатровымі вежамі. Іх дынамічны вертыкальны рух, бакавыя ступеньчатыя контрфорсы-сценкі, круглае вітражнае акно-ружа галоўнага фасада, пінаклі даху выклікаюць асацыяцыі з гатычным храмам. У аснове архітэктурнага вырашэння геаметрызаваныя аб'ёмы, разнастайнай канфігурацыі аконныя праёмы ў плоскіх ліштвах, шырокія лапаткі. Каларыстычны эфект будынка заснаваны на спа-



Касцёл Маці Божай Ружанцовай у г.п. Радунь.



Капліца ў в. Раеўшчына.

лучэнні паліхромнай бутавай муроўкі сцен і пабеленых атынкаваных ступеньчатых атыкаў, плоскасці галоўнага фасада, 8-гранных ярусаў вежаў, элементаў архітэктурнага дэкору (ліштваў, прафіляваных карнізных паясоў).

Унутры нефы размежаваны паўкруглымі аркадамі на 4-гранных пілонах, перакрыты стральчатымі скляпеннямі на падпружных арках-прасценках. Над бакавымі нефамі хоры-эмпоры, абмежаваныя філёнгавымі парапетамі і адкрытыя арачнымі прасветамі. Над нартэксам антрэсолі хораў з філёнгавым парапетам. Інтэр'ер упрыгожаны ансамблем стукавых неабарочных алтароў. Абразы «Зняцце з крыжа» (2-я палова 18 ст.), «Юзаф з посахам» (18 ст., палатно, алей), «Ісус з прыладамі пакут» (мяжа 18—19 ст.), «Марыя Магдалена» (пачатак 19 ст.), алтарны абраз «Цуд Юрыя аб змеі» (1-я палавіна 19 ст.). Высокамастацкім выкананнем адзначаны абраз «Маці Божая Ружанцовая» (сярэдзіна 18 ст.), верагодна, прывезены са скасаванага кармеліцкага кляштара ў Калесніках[2]. На міжнефавых пілонах навешаны пано-стацыі «Крыжовы шлях».



Капліца Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Раёўка.



[1] БГИА, ф. 2, оп. 21, д. 457; ф. 8, оп. 1, д. 201, л. 26.

[2] Ярашэвіч А. Абразы Маці Божай Ружанцовай // Наша Вера. 2002. № 3(21).

## в. Раеўшчына,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1930-я гг. з дрэва, адноўлена ў 1990-я гг.

Твор народнага дойлідства. Чатырохграннае вертыкальна ашаляванае збудаванне пад шатровым пакрыццём.

## в. Раёўка,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 2001 г. (архітэктар А.Яроменка) на месцы і ў формах драўлянай бажніцы 1935 г., якая згарэла.

Вырашана кампактным прамавугольным у плане зрубам пад стромкім 2-схільным дахам, у які з боку фасада ўрэзана 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца. Да алтарнай сцяны далучана ніжэйшая 5-гранная апсіда пад вальмавым пакрыццём. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя фасады (цокальная частка — вертыкальна) расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Ражанка,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.



Капліца ў в. Ражанка.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 3-яруснай вежай выцягнутых вертыкальных прапорцый. Першы 8-гранны ярус з'яўляецца пастаментам для верхняга 4-граннага, адкрытага арачнымі прасветамі, з крыжом пад скляпеністай сенню. У завяршэнні 8-гранны барабанчык з цыбулепадобнай галоўкай з каваным крыжом.

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пабудаваны ў 1674 г. цэглы і бутавага каменю. Перабудаваны ў 1827 г. па загаду сенатара Каралеўства Польскага Людзвіка Паца паводле праекта архітэктара Генрыка Марконі[1]. Аднаўляўся ў 1924—25 гг. Перад касцёлам стаяла аркадная званіца, з левага боку — плябанія. Капітальна адрамантаваны і адкрыты ў 1990 г.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Адnанефавы крыжападобны ў плане храм з больш нізкімі 5-граннай апсідай і крыламі трансепта. Тарцы высокіх 2-схільных дахаў над нефам і крыламі трансепта закрыты ступеньчатымі шчытамі. Да паўднёва-заходняга вугла нефа прыбудавана 3-ярусная вежа (васьмярык на 2 чацверыках), накрытая 8-гранным спічастым шатром. Вуглы асноўнага аб'ёму ўмацаваны контрфорсамі і завершаны дэкаратыўнымі фіяламі. Бакавыя фасады прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі з узорыстымі вітражамі. У цэнтры галоўнага фасада круглае акно-ружа, вышэй — арнаментальна-гафрыраваны фрыз і шчыт, крапаваны дробнай аркатурай з гербам па цэнтры. Уваход аформлены перспектыўным парталам, па баках якога стральчатыя экседры са скульптурамі святых апосталаў Пятра і Паўла (не захаваліся).

Унутраная прастора касцёла перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, крылы трансепта — крыжовымі. Апсіда і крылы трансепта раскрываюцца ў прастору нефа арачнымі прасветамі. Над уваходам на трохпралётнай стральчатай аркадзе ўзняты хоры, на якія вядзе вітая лесвіца ў



Капліца ў в. Ракавіца.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Ражанка.

таўшчыне сцяны. Сцены нефа расчлянёны пілястрамі і размаляваны ў верхняй частцы шматфігурнымі кампазіцыямі на біблейскія тэмы. На вуглавым пілоне апсіднай аркі навешаны амбон.

[1] Katalog rysunków architektonicznych Henryka i Leandra Marconich w archiwum głownym akt dawnych w Warszawie. Warszawa, 1977. Seria A. T. XI. S. 229—232; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. Wilno, 1909. S. 166.

# в. Ракавіца

Брэсцкага раёна

## Капліца

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, у былым прысядзібным парку. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы як пахавальня ўладальніка маёнтка Талочкі[1].

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам с 3-граннай алтарнай часткай, накрытым стромкім 2-схільным дахам. Да франтальнага фасада далучана 2-ярусная 4-гранная званіца, спічасты шацёр якой акаймоўвала аркатура з фіяламі (не захаваліся). Уваход вырашаны перспектыўным стральчатым парталам, фланкіраваным гранёнымі пілонамі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі ў рэльефных ліштвах. Вуглы аб'ёмаў умацаваны ступеньчатымі контрфорсамі.

[1] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 52.





Капліца ў в. Ракавіца.



Капліца ў в. Ракаў.



Капліца святой Ганны ў в. Ракаў.

## Капліца

Пры дарозе паміж вёскамі Ракавіца і Нехалсты. Пабудавана ў 1932 г. з бетону.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана пастаўленым на кубападобны п'едэстал 4-гранным слупом пад крыжовым 2-схільным дашкам, завершаным яблыкам са шпілем-іглой. Вуглы граняў крапаваны тонкімі паўкалонкамі. Франтальная грань крапавана па цэнтры лучковай нішай для абраза, пакрыта рэлігійнымі выслоўямі («Божа дарогу нам пакажа» і інш.).

# в. Ракаў,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі, на каталіцкіх могілках. Узведзена ў 1921 г. з цэглы над пахаваннямі князёўны Марыі Друцкай-Любецкай (з Грабоўскіх, 1861—1946) і яе дачкі Крысціяны (1900—21)[1].

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана 4-слуповай альтанкай пад шатровым пакрыццём. Грані раскрыты арачнымі прасветамі з замковым каменем.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 194.

## Капліца святой Ганны

На ўсходняй ускраіне вёскі, на каталіцкіх могілках. Пабудавана ў 1862 г. з цэглы як родавая пахавальня. Пры ўваходзе на могілкі па восі капліцы размешчана брама-званіца — 3-пралётная аркада з цэнтральным лучковым праездам і 2-арачным ярусам-звонам.

Помнік архітэктуры класіцызму з элементамі рэтраготыкі. Прамавугольнае ў плане збудаванне з паўкруглай апсідай накрыта 2-схільным дахам. Галоўны фасад вылучаны арачным уваходным парталам, завершаны трохвугольным франтонам з чацверыковай сігнатуркай і вуглавымі пінаклямі; у тымпане круглая люкарна-ружа. Карніз расчлянёны стральчатай аркай уваходнага партала. Сцены аздоблены гранёнымі пілонамі (вуглавыя завершаны пінаклямі), расчлянёны пілястрамі ў прасценках паўцыркульных аконных праёмаў.

У інтэр'еры зала перакрыта плоскай столлю на падугах. У паўкруглую прастору апсіды ўпісана трапецападобная алтарная частка, за якой створана паўкруглая сакрысція. Над уваходам хоры на 2 слупах з бакавой вітой лесвіцай. Пад алтаром — крыпта.

## Касцёл Маці Божай Ружанцовай і святога Дамініка

У цэнтры вёскі, на правым беразе р. Іслач. Пабудаваны ў 1904—06 гг. з жоўтай цэглы намаганнямі ксяндза Я.Карповіча замест папярэдняга драўлянага храма[1]. Фундатарамі будаўніцтва з'яўляліся князі Друцкія-Любецкія, памешчыкі Булгакі, Здзіхоўскія, Хелхоўскія. У 1911 г. пожар знішчыў драўляную плябанію, але не закрануў храма. У гэты час вікарыем служыў паэт А.Астрамовіч (Андрэй Зязюля). На

1912 г. прыход налічваў каля 8 тыс. парафіян. Пасля Вялікай Айчыннай вайны выкарыстоўваўся ў гаспадарчых мэтах. У 1990-я гг. вернуты католікам.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з трансептам і паўкруглай апсідай з бакавымі сакрысціямі; узнесена на высокі бутавы цокаль. Перакрыжаваныя 2-схільныя дахі цэнтральнага нефа і трансепта закрыты на фасадах 2-граннымі шчытамі з вокнамі-ружамі. Бакавыя больш нізкія нефы накрыты 1-схільнымі дахамі, вылучанымі на франтальным фасадзе 2-яруснымі 4-граннымі вежамі з высокімі шпілямі. Па фронце будынак расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі на 3 часткі: цэнтральная вылучана ўваходам у выглядзе стральчатай аркі з акном-ружай над ёй; 2 меншымі аналагічнымі парталамі вылучаны бакавыя ўваходы ў вежах. У архітэктурнай кампазіцыі шырока выкарыстаны ступеньчатыя контрфорсы, высокія стральчатыя аконныя праёмы і нішы, аркатурныя фрызы.

У інтэр'еры нефы размежаваны стральчатымі аркадамі на магутных пілонах, перакрыты стральчатымі скляпеннямі. На 3-пралётнай аркадзе нартэкса ўчынены хоры з балюстраднай агароджай і неагатычным арганам. Апсіду, крылы трансепта і тарцы бакавых нефаў запаўняюць драўляныя алтары ў стылі неаготыкі. У дэкаратыўным афармленні выкарыстаны арнаментальна-арабескавы роспіс.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 134.



Касцёл Маці Божай Ружанцовай і святога Дамініка ў в. Ракаў.



Інтэр'ер касцёла Маці Божай Ружанцовай і святога Дамініка ў в. Ракаў.

## в. Раманішкі,

Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай 2-яруснай вежай пад шатровым пакрыццём, апяразаным прафіляваным карнізам. Першы ярус крапаваны арачнымі нішамі, другі адкрыты арачнымі прасветамі і прызначаўся для сакральнай скульптуры.



Капліца ў в. Раманішкі.

## в. Рамні,

Гарадоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1896 г. з дрэва на падмурку храма 18 ст. з захаваннем яго планіроўкі.





Касцёл у в. Рамні.



Капліца ў в. Рандзілаўшчына (Нянадавічы).

Помнік архітэктуры эклектыкі. Вырашаны крыжовым у плане зрубам. Да фасада далучаны прыруб нартэкса, над вальмавым дахам якога 4-гранная шатровая званіца са спічастым шпілем. Прамавугольныя і розныя па вышыні і пакрыццях апсіда і бакавыя сакрысціі знаходзяцца ў адзінай, ступеньчатай па сілуэце плоскасці алтарнай сцяны. Тарцы крыжовага ў плане даху завершаны трохвугольнымі франтонамі, цыбулепадобнымі купаламі, прарэзаны круглымі люкарнамі. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарублены адзінарнымі і здвоенымі арачнымі аконнымі праёмамі ў разных ліштвах. Высокая цокальная частка аддзелена гарызантальнай цягай і вертыкальна ашалявана.

Унутры зала перакрыта стральчатым з адкрытым у шацёр скляпеннем, сцены пакрыты роспісам. Над нартэксам антрэсолі хораў.

## в. Рандзілаўшчына (Нянадавічы),

**Дзятлаўскі раён**
**Гродзенскай вобласці**

### Капліца

Паміж вёскамі Рандзілаўшчына і Нянадавічы, насупраць могілак. Пастаўлена ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана 4-гранным з крыжом пірамідальным абеліскам, узнятым на квадратны пастамент з крапаванымі прамавугольнымі нішамі гранямі.

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы як пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасады крапаваны рустам, прарэзаны бакавымі арачнымі аконнымі і прамавугольным уваходным праёмамі.

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

Паміж вёскамі Рандзілаўшчына і Нянадавічы, каля могілак. Пабудаваны ў 1822 г. з цэглы. Пасля паўстання 1863—64 гг. закрыты і перададзены праваслаўнай царкве. Зачынены ў 1950-я гг. (прыста-



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Рандзілаўшчына (Нянадавічы).

саваны пад магазін), вернуты парафіянам у 1989 г., адбудаваны ў 1992 г.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам. Да 5-граннай апсіды далучана прамавугольная сакрысція. У фасад, крапаваны вуглавымі калонамі, урэзана 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца, верхні ярус якой адкрыты арачнымі прасветамі-біфорыумамі. Плоскасныя бакавыя фасады прарэзаны 2 парамі арачных аконных праёмаў, апяразаны прафіляваным карнізам. Побач пастаўлена мураваная 2-ярусная 4-гранная званіца адзінай з храмам архітэктурна-стылёвай трактоўкі.

## в. Расла,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства з рысамі класіцызму. Вырашана 3-яруснай 4-граннай вежай пад шатровым пакрыццём. Верхнія ярусы размежаваны і апяразаны прафіляванымі карнізамі, грані крапаваны арачнымі нішамі.

### Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі. Узведзена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным аб'ёмам на пастаменце і пад шатровым дашкам. Франтальная грань крапавана лучковай ашклёнай нішай для абраза.

## в. Расна,
Дрыбінскі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл святога Казіміра

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1819 г. з цэглы на сродкі навакольнай шляхты.

Першапачатковы драўляны касцёл быў фундаваны Пацамі ў 1751 г. і перададзены ксяндзам-езуітам[1]. Згарэў у 1804 г.

Помнік архітэктуры класіцызму. Трохнефавая прамавугольная ў плане базіліка з прамавугольнай апсідай і 2 квадратнымі сакрысціямі. Галоўны фасад вылучаны 4-калонным дарычным порцікам з трохвугольным франтонам на развітым антаблеменце з трыгліфным фрызам, які апяразвае будынак па перыметры. Порцік фланкіраваны арачнымі экседрамі, аформленымі класіцыстычнымі парталамі. Аналагічнымі порцікамі вылучаны цэнтральныя рызаліты бакавых фасадаў. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены сандрыкамі. Унутраная прастора падзелена 2 радамі калон дарычнага ордэра на 3 нефы.



Капліца ў в. Расла.



Капліца ў в. Расла.



Касцёл святога Казіміра ў в. Расна.

У вугле агароджы, справа перад касцёлам, стаяла 2-ярусная шатровая драўляная званіца каркаснай канструкцыі (не захавалася).

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 99.

## в. Раўбічы

Мінскага раёна

### Касцёл святога апостала Мацвея

Каля рэспубліканскага спартыўнага комплексу «Раўбічы», на перасячэнні 2 узгорыстых град, сярод



Касцёл святога апостала Мацвея ў в. Раўбічы.

ляснога ландшафту, на могілках. Пабудаваны ў 1858—62 гг. з цэглы паводле праекта ксяндза А.Варанецкага на ахвяраванні навакольных памешчыкаў пад кіраваннем графіні М.Тышкевіч[1]. У 1975—78 гг. касцёл рэстаўрыраваны (архітэктар Л.Паўлава) і прыстасаваны пад Музей беларускага народнага мастацтва — філіял Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Першапачаткова тут стаяла капліца, замест якой на мяжы 18—19 ст. быў пастаўлены драўляны Халяўшчынскі касцёл (па назве бліжэйшай вёскі). Нованазбудаваны ў сярэдзіне 19 ст. мураваны касцёл пасля 1863 г. скасаваны і ў 1866 г. пераўтвораны ў праваслаўную Успенскую царкву, у якой у 1869 г. быў устаноўлены іканастас (не захаваўся) работы мінскіх мастакоў Ф.І.Ягорава і Зотава[2]. Каля касцёла былі адасобленыя агароджай жылы дом, стайня, хлеў, гумно і свіран (не захаваліся). У 1880 г. перад храмам пастаўлены драўляныя званіца і капліца (не захаваліся).

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Манументальны 1-нефавы з капліцамі каля алтара будынак на магутным бутавым цокалі. Галоўны фасад фланкіраваны 3-яруснымі 8-ераннымі вежамі з шатровымі завяршэннямі. Высокі шматъярусны атыкавы франтон паміж імі падкрэслівае форму стральчатага ўваходнага партала з ганкам з часанага каменю. У дэкоры галоўнага фасада выкарыстаны накладныя 3-ярусныя пілоны з перакінутымі паміж імі стральчатымі броўкамі. Над парталам круглы аконны праём у выглядзе гатычнай ружы. Рытм бакавых фасадаў ствараецца чаргаваннем магутных контрфорсаў і стральчатых аконных праёмаў з фігурнымі дубовымі пераплётамі і вітражамі. Багацце раскраповак, вітражоў надае фасадам дэкаратыўна-каларыстычную выразнасць. Элементы архітэктурнага дэкору (карнізы, ліштвы, абломы) вырашаны спрошчана. Дах накрыты чырвонай чарапіцай (да рэстаўрацыі быў бляшаны).

Прастора інтэр'ера перакрыта стральчатым скляпеннем на падпружных арках з люнетамі. Распор скляпення ўспрымаюць бакавыя пілоны, што адпавядаюць вонкавым контрфорсам. Пры ўваходзе на 2 квадратных у сячэнні слупах размешчаны хоры, якія звязаны з залай лесвіцай усходняй вуглавой вежы. Алтарная частка інтэр'ера асветлена вялікім стральчатым акном. Склеп-пахавальня замураваны.

---

[1] НАРБ, ф. 136, воп. 14, спр. 80: «Церковная летопись Холявщинской Успенской церкви Минского уезда».

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. C. 96.

[3] НАРБ, ф. 1477, воп. 1, спр. 1564, арк. 1.

## в. Родзевічы (Мішуты),

Вілейскі раён

Мінскай вобласці

### Капліца

За 0,5 км на поўнач ад шашы Вілейка—Смаргонь, пры лясной дарозе да в. Лемешы. Пабудавана ў 19 ст. з бутавага каменю

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранай тумбай пад 2-схільным дашкам на квадратным



Капліца ў в. Родзевічы (Мішуты).

подыуме. Франтальная грань крапавана прамавугольнай нішай з абразам.

## в. Росіца,

Верхнядзвінскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1906 г. з цэглы (завод у в. Сар'я) на месцы драўлянага парафіяльнага храма 1778 г., фундаванага разам з уніяцкай царквой М.Т.Лапацінскім[1]. Пасля 1917 г. зачынены, пасля савецка-польскай вайны 1919—20 гг. вернуты католікам, дзейнічаў да Вялікай Айчыннай вайны, пасля якой выкарыстоўваўся ў гаспадарчых мэтах. Адкрыты і рэстаўрыраваны ў 1988 г.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з шырокім трансептам і 5-граннай апсідай з сакрысціямі. Фасад 3-часткавай кампазіцыі — паміж высунутымі наперад бакавымі вежамі 2-гранны шчыпец. Такім жа шчыпцом завершаны прамавугольны партал арачнага ўваходнага праёма, над якім — акно-трыфорыум. Над бакавымі арачнымі ўваходамі — вокны-біфорыумы. Яруснасць і шматпланавасць франтальнаму фасаду надаюць бакавыя нізкія 5-гранёныя эркеры. Цагляная архітэктура будынка насычана архітэктурнай пластыкай: шырокія лапаткі, аркатурныя фрызы, архівольты аконных праёмаў, карнізы з сухарыкамі.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 435—436.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Росіца.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г.п. Рось.

## г.п. Рось,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры гарадскога пасёлка. Пабудаваны ў 1807 г. з цэглы. Пасля паўстання 1863—64 гг. (ксёндз Рамановіч схіляў парафіян далучыцца да паўстанцаў) закрыты, у 1865 г. гродзенскі губернатар адмовіў графу Сцяпану Патоцкаму ў рамонце храма. В 1877 г. выданы дазвол на хросныя хады ў межах агароджы храма[1]. У 1908 г. асобна ў межах агароджы касцёла пастаўлена 2-ярусная мураваная званіца.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны працяглым прамавугольным аб'ёмам з трансептам і паўкруглай апсідай. Над галоўным фасадам 2-ступеньчаты парапет з фігурным усечаным шчытом. Фасады расшыты гарызантальным рустам, апяразаны спрошчаным карнізам і трыгліфным фрызам

Унутры прадаўгаватая зала перакрыта драўляным цыліндрычным скляпеннем, уздоўж асновы якога праходзіць абходная галерэя і масіўны карніз з сухарыкамі. Пры ўваходзе залу перасякае пастаўленая на 4 калоны галерэя хораў з арганам. Сцены, скляпенні, парапеты хораў і галерэі пакрыты жывапісам на біблейскія сюжэты, архітэктурна-дэкаратыўнай размалёўкай. Па перыметры сцен у арачных нішах размешчаны выявы 12 апосталаў; пад хорамі — 4 сімвалы евангелістаў у медальёнах; над хорамі — выявы музычных інструментаў. На скляпенні левага трансепта выява «Цуд Міхаіла», у правым — «Маці Божая з дзіцем». Тры драўляныя алтары вырашаны карынфскай каланадай са скульптурамі святых і анёлаў і дэкарыраваны накладной пазалочанай разьбой. Абраз 17 ст. «Маці Божая з дзіцем» (перанесены з капліцы в. Мачульна Ваўкавыскага р-на ў 1945).

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3426, арк. 3; ф. 8, воп. 1, спр. 1557, арк. 22, 23; ф. 78, воп. 1, спр. 155, арк. 3.





Касцёл святога Юзафа ў в. Рубяжэвічы.

## в. Рубяжэвічы,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святога Юзафа

На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, у акружжы агароджы з вапняковых квадраў і з 3-пралётнай «гатычнай» брамай. Пабудаваны ў 1907—11 гг. з часанага вапняку намаганнямі ксяндза І.Скакоўскага і на ахвяраванні А.Ленскай (15 тыс. руб.)[1].

Помнік архітэктуры неаготыкі. Да асноўнага прамавугольнага ў плане 3-нефавага аб'ёму, накрытага высокім 2-схільным дахам, з усходняга боку далучаны ніжэйшыя выцягнутая паўкруглая апсіда і сіметрычныя сакрысціі пад вальмавымі дахамі. Па баках галоўнага фасада ўзвышаюцца 2 магутныя 3-ярусныя 4-гранныя вежы, умацаваныя па вуглах ступеньчатымі контрфорсамі і завершаныя спічастымі шатрамі. Тарэц нефа паміж вежамі завершаны 2-схільным зубчастым шчыпцом з круглым вітражным акном-ружай у цэнтры і бетонным лацінскім крыжом у завяршэнні. Уваход вырашаны высокім гатычным парталам, фланкіраваным аналагічнымі аконнымі праёмамі. Высокія стральчатыя аконныя праёмы з вітражным ашкленнем рытмічна чляняць бакавыя фасады. Уражанне архаічнай старажытнасці архітэктуры храма надае магутная, каларыстычна насычаная муроўка сцен з абчасаных вапнавых квадраў.

Унутраная прастора падзелена вытанчанымі 8-граннымі слупамі на высокі цэнтральны і ніжэйшыя бакавыя нефы, перакрытыя стральчатымі крыжовымі скляпеннямі з нервюрамі. У неагатычным стылі выкананы драўляныя цэнтральны і бакавыя алтары у выглядзе стральчатай аркі з вімпергам, спавядальні, амбон (1912, навешаны на левым слупе прэсбітэрыя). У інтэр'еры 12 насценных барэльефных пано-стацый на тэму Крыжовага шляху Хрыста. На ўзнятым на 2 слупы балконе хораў неагатычны арган.

---

[1] НГАБ, ф. 242, воп. 1, спр. 2256, арк. 3 адв.; Описание церквей и приходов Минской епархии. І. Минский уезд. Мн., 1878. С. 134—135; Россия. Полное географическое описание нашего отечества. СПб., 1905. Т. IX; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. C. 194—198.

## в. Руда Яварская,

Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святога Юзафа

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1936 г. з дрэва, зачынена ў 1940 г. і прыстасавана пад магазін. Вернута прыхаджанам ў 1989 г.

Помнік народнага дойлідства. Складаецца з прамавугольных у плане нартэкса, малітоўнай залы, 5-граннай апсіды з бакавымі сакрысціямі. Вертыкальнай дамінантай з'яўляецца 1-ярусная чацверыковая шатровая вежа-званіца. Над вальмавым дахам апсіды — шатровая чацверыковая сігнатурка. Рытміку бакавых фасадаў ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы і брусы-сцяжкі ў прасценках. Франтон галоўнага фасада ашаляваны «ў елку». У перакрытую плоскай столлю залу выступаюць хоры на 4 слупах з бакавой лесвіцай.



Капліца святога Юзафа ў в. Руда Яварская.

## в. Рудзьма,

Карэліцкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

За 2 км на захад ад вёскі, каля дарогі на в. Сіняўская Слабада. Узведзена ў 1-й палавіне 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана гонтавай шатровай на 4 слупах навіссю-сенню над драўляным крыжом.

## г.п. Ружаны,

Пружанскі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца святога Казіміра

На паўночнай ускраіне гарадскога пасёлка, на могілках каля шашы на Слонім. Пабудавана ў 1792 г. з цэглы паводле праекта архітэктара І.Г.Бекера і па фундацыі канцлера Вялікага княства Літоўскага А.М.Сапегі. Была прыпісана да базыльянскага кляштара.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які выходзіць на франтальны фасад трохвугольным франтонам 4-калоннага порціка дарычнага ордэра. Фасад пад ім расчлянёны прамавугольнымі ўваходным праёмам і флакіруючымі яго нішамі ў прафіляваных ліштвах. Атынкаваныя бакавыя фасады расчлянёны высокім і прамавугольнымі



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Ружаны.



Капліца ў в. Рудзьма.



Капліца святога Казіміра ў г.п. Ружаны.

аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках, апразаны прафіляваным карнізам на дэнтыкулах. У інтэр'еры ў канцы залы мураваны алтар ў выглядзе дарычнага порціка.

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры гарадскога пасёлка, на плошчы 17 Верасня. Пабудаваны ў 1615—17 гг. з цэглы па фундацыі канцлера Вялікага княства Літоўскага Л.Сапегі і яго жонкі Аляксандры (з Тышкевічаў) для манахаў-дамініканцаў[1]. Касцёл абкружаны мураванай агароджай з брамай.

Першапачатковы драўляны храм тут закладзены ў 1595 г. Тышкевічамі і абсталяваны на сродкі Я.Язблавецкай. У 1768 г. прыбудавана капліца Св. Крыжа, у 1787 г. — капліца св. Варвары і зроблены купал над апсідай (архітэктар Я.С.Бекер). Аднаўляўся пасля пажараў 1891 і 1895 гг. на сродкі навакольнай шляхты і субсідыі з Варшавы[2]. На 1935 г. налічвалася 1100 парафіян.

Помнік архітэктуры ранняга барока. Рэканструкцыя 1850 г. надала архітэктуры касцёла рысы класіцызму. Аднанефавы 1-вежавы будынак з паўцыркульнай апсідай прэсбітэрыя. Да прамавугольнага ў плане нефа з бакоў сіметрычна прыляга-





Капліца ў в. Рускае Сяло.



Капліца святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Русота.

юць невысокія капліцы, да апсіды — такія ж па вышыні сакрысціі. Пры ўваходзе размешчана 4-ярусная (3 васьмярыкі на чацверыку) вежа-званіца, накрытая высокім гранёным шатром. Ярусы падзелены прафіляванымі карнізамі, аздоблены плоскімі нішамі і скразнымі арачнымі праёмамі. Сцены бакавых фасадаў рытмічна падзелены контрфорсамі, паміж якімі прарэзаны аконныя праёмы з арачным завяршэннем і люнеты. Знадворку ў нішы сцяны апсіды скульптура св. Дамініка.

Неф касцёла перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Скляпенне і конха прэсбітэрыя ўмацаваны падпружнымі аркамі. Капліцы і сакрысціі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Над уваходам размешчаны хоры на драўляных крыжападобных у сячэнні слупах з разнымі фігурнымі кранштэйнамі. Мастацкае афармленне інтэр'ера храма вырашана ў стылі позняга барока і ракако. Памяшканні багата ўпрыгожаны архітэктурнай пластыкай, скульптурай і фрэскавым жывапісам, які імітуе архітэктурныя кулісы. Амбон, скляпенні і падпружныя аркі аздоблены ляпным стукавым арнаментам фларальнага характару. Прастору прэсбітэрыя замыкае 4-калонны галоўны алтар з раскрапаваным лучковым франтонам, які ўпрыгожваюць скульптуры анёлаў, ляпны арнамент і герб Сапегаў. Абапал калон размешчаны драўляныя паліхромныя скульптуры святых апосталаў Пятра і Паўла. Бакавыя алтары выкананы ў выглядзе класічных порцікаў са скульптурамі Ісуса і Марыі. Прэсбітэрый ад нефа аддзяляе каваная рашотка 18 ст., кампазіцыя якой складаецца з акантавых звіваў, валют, кветак і манаграмы фундатара касцёла. Стукавая і драўляная скульптура галоўнага алтара і бакавых капліц работы скульптараў І. Прукнера (1789), М. і К. Роўбаў. Алтарны абраз «Св. Казімір», габеленавыя і шаўковыя арнаты, кандэлябры выкананы ў 18 ст. Над уваходамі ў сакрысціі, аформленымі класічнымі парталамі, учынены драўляныя ложы ў стылі ракако, на хорах устаноўлены арган 18 ст. барочна-ракайльнай стылёвай трактоўкі.

---

[1] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 118.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 747, арк. 28 адв—29.

## в. Русакі,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1930-я гг. з дрэва, у канцы 20 ст. адноўлена.

Кампактнае прамавугольнае ў плане збудаванне пад 2-схільным дахам. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарэзаны 2 бакавымі прамавугольным аконнымі і ўваходным праёмамі. Памяшканне аформлена ў народна-этнаграфічным стылі: алтарная полка з тканай посцілкай, бакавыя лавы, металічнае ўкрыжаванне на тарцовай сцяне, штучныя кветкі.

## в. Рускае Сяло,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

За 1 км на захад ад вёскі, пры павароце з шашы Вілейка—Смаргонь на Ярмолічы. Пабудавана на мяжы 19—20 ст. з бутавага каменю.

Помнік народнай архітэктуры. Вырашана ўзнятай на квадратны цокаль 4-граннай прысадзістай вежай пад шатровым дашкам з крыжом. Франтальная і бакавыя грані крапаваны прамавугольнымі ашклёнымі нашамі з абразамі.

## в. Русота,

Гродзенскага раёна

### Капліца святых апосталаў Пятра і Паўла

За 1 км на поўдзень ад в. Чашчаўляны, на могілках каля шашы Гродна—Парэчча. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва як пахавальня ўладальнікаў маёнтка Прушынскіх. Адноўлена ў 1998 г.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам з 3-сценнай алтарнай часткай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Над усечаным трохвугольным франтонам фасада ўзведзена 4-гранная шатровая званічка. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Уваход адзначаны 2-слуповым ганкам пад 2-схільным пакрыццём. Унутры на алтарнай сцяне драўляная эдыкула з абразамі Маці Божай Вастрабрамскай, святых Пятра і Паўла.

## в. Ручыца,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі, насупраць царквы. Пабудавана ў 1765 г. з цэглы віленскім архітэктарам Т.Жаброўскім у сядзібе «Ганута» (не захавалася) трокскага ваяводы Т.Агінскага.

Помнік архітэктуры ракако. Вежападобнае 4-граннае збудаванне, узнесенае на высокі цыліндрычны пастамент. Грані раскрыты высокімі арачнымі прасветамі, вуглавыя пілястры ў аснаванні скручаны ў валюты. У завяршэнні вежы фігурны S-падобнага профілю цагляны купал. Архітэктура насычана крапоўкамі, хвалістымі прафіляванымі карнізамі, філёнгамі. Пад купалам была пастаўлена скульптура Маці Божай. Помнік вызначаецца зграбнымі прапорцыямі, паветранай лёгкасцю, маляўнічым сілуэтам.

### Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудавана ў 1765 г. з цэглы віленскім архітэктарам Т.Жаброўскім пры ўездзе ў сядзібу «Ганута».

Помнік архітэктуры ракако. Вырашана ўзнятай на пастамент 4-граннай вежай, завершанай фігурным купалам над хвалістым прафіляваным карнізам. Грані прарэзаны высокімі арачнымі прасветамі, за якімі была пастаўлена сакральная скульптура.

## в. Рэпля,
Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

За 1 км на ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з бутавага каменю як радовая пахавальня.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашана цыліндрычнай 2-яруснай вежай пад стромкім шатром, апяразаным у аснаванні крэмальерным парапетам. Другі ярус прарэзаны вузкімі стральчатымі аконнымі праёмамі, аб'яднанымі такой жа аркатурай. З тыльнага боку далучаны прамавугольны ў плане накрыты 2-схільным дахам цагляны аб'ём мемарыяльнай залы, асветленай бакавымі стральчатымі вокнамі.


Капліца ў в. Ручыца.


Капліца ў в. Ручыца.

### Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1902—09 гг. з цэглы на месцы папярэдняга драўлянага храма[1]. Пасля Вялікай Айчыннай вайны закрыты, асвячоны 8.12.1992 г. біскупам А.Кашкевічам. На 1997 г. налічвалася каля 1600 парафіян.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Буйнамаштабны храм вырашаны паводле канона 3-нефавай 2-вежавай базілікі з прамавугольнай апсідай і 2 сакрысціямі. Архітэктурная кампазіцыя пабудавана на імкненні да вертыкальнага дынамізму, што дасягаецца спічастымі шпілямі вежаў, высокімі стральчатымі аконнымі праёмамі і нішамі, аркатурамі, ступеньча-





Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Рэпля.



Капліца каля касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Рэпля.



тымі контрфорсамі. Тарцы аб'ёмаў завершаны зубчастымі 2-граннымі шчытамі. Над стральчатым уваходным парталам размешчана круглае акно-ружа, фасад завершаны ступеньчатым атыкам.

У інтэр'еры цыліндрычныя нервюрныя скляпенні. Абразы пачатку 19 ст. «Святая Сям'я» і «Св. Казімір».

У кутку бутавай агароджы размешчана мураваная капліца, вырашаная ў адзіным з касцёлам архітэктурным стылі. Прамавугольнае ў плане збудаванне пад 2-схільным дахам, тарцы якога закрыты 2-граннымі зубчастымі шчытамі. На фоне бутавай муроўкі бакавых сцен вылучаны чырвонацагляныя вуглавыя лапаткі і аркатурны фрыз.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 747, арк. 8; ф. 8, воп. 2, спр. 1933, арк. 39; ф. 78, воп. 1, спр. 155, арк. 2—2адв.

## г. Рэчыца

Гомельскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры горада. Пабудаваны ў 1896—1903 гг. з цэглы намаганнямі ксяндза Лапацінскага[1].

У 1634 г. рэчыцкі староста, потым ваявода мінскі і трокскі А.Служка фундаваў кляштар і касцёл дамініканцаў. З 1832 г. кляштар скасаваны, касцёл у 1862 г. згарэў. Існуючы храм у 1932 г. зачынены, выкарыстоўваўся як склад, музей, піўны бар. Вернуты прыхаджанам у 1999 г., адноўлены.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавая 1-вежавая базіліка пад 2-схільным дахам. Фасады па тарцах закрыты зубчатымі шчыпцамі, апраразаны аркатурным фрызам. Да галоўнага фасада далучана 3-ярусная (васьмярык на 2 чацверыках) вежа-званіца, завершаная шатром-шпілем і ўмацаваная вуглавымі 3-яруснымі контрфорсамі. Да бакавых граняў вежы далучаны высокія гранёныя эркеры лесвічных клетак. Галоўны ўваход вылучаны глыбінным перспектыўным парталам з вімпергам; над ім — стральчатае акно-біфорыум, што асвятляе хоры. Такія ж вокны і контрфорсы-пілоны ў прасценках на бакавых фасадах. Скляпенні нефаў цыліндрычныя з распалубкамі.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 275—276.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г. Рэчыца.

# С

## в. Савейкі,
Ляхавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

За 1 км на поўдзень ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры класіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам. Фасад вырашаны вынасным 4-калонным порцікам. Бакавыя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, апяразаны прафіляваным карнізам, крапаваны вуглавымі пілястрамі. З тыльнага боку прыбудавана нізкая сакрысція пад 2-схільным пакрыццём — уваход у склеп-пахавальню.

## в. Сакалойці,
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святога Станіслава

На поўдзень ад вёскі, у полі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Кампактны прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны кампазітным трохвугольным франтонам, крапаваны пілястрамі на 3 праслы, у цэнтральным — прамавугольны ўваходны праём з арачнай нішай над ім, у бакавых — высока ўзнятыя арачныя аконныя праёмы. Плоскасныя бакавыя фасады прарэзаны 2 лучковымі аконнымі праёмамі.

## в. Салаўі,
Клецкі раён
Мінскай вобласці



Капліца ў в. Савейкі.



Капліца святога Станіслава ў в. Сакалойці.

### Капліца

У паўднёвай частцы вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1911 ст. з драўлянага брусу як праваслаўная на месцы каталіцкай капліцы св. Роха. У 1928 г. перададзена католікам.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Плоскасныя фасады прарэзаны прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі.



Капліца ў в. Салаўі.

## г. Салігорск
Мінскай вобласці

### Касцёл святога Францішка Асізскага

У цэнтры горада. Пабудаваны на мяжы 20—21 ст. з цэглы.

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Дамінантай складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з'яўляецца высокая стральчатая арка над дахам. Уваходная частка ўчынена на вуглу будынка ў выглядзе тэрасы на 1-м паверсе, падтрыманым вуглавым слупом. Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.


Капліца ў г.п. Сапоцкін.


Капліца ў г.п. Сапоцкін.

## г.п. Сапоцкін
Гродзенскага раёна

### Капліца

На заходняй ускраіне пасёлка, на могілках. Пабудавана ў 1868 г. з цэглы як пахавальня Ю.Дзяконскай (пам. 1858).

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Кампактны прамавугольны ў плане будынак накрыты стромкім 2-схільным дахам. На фасадзе 2-гранны шчыт завершаны 4-граннай вежачкай з пакатым шатровым пакрыццём. Уваходны праём, ніша над ім, 2 бакавыя аконныя праёмы стральчатыя. Сцены атынкаваны з украпінамі дробнага друзу, на шэрым фоне якога вылучаюцца пабеленыя вертыкальныя і гарызантальныя цягі, ліштвы праёмаў. Мемарыяльнае памяшканне перакрыта плоскай столлю на падугах.

### Капліца

На заходняй ускраіне пасёлка, на могілках. Пабудавана ў 1893 г. з цэглы як пахавальня Ю.Гурскага (пам. 1873).

Помнік архітэктуры неаготыкі. Прамавугольны ў плане кампактны аб'ём пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны ўсечаным 2-гранным шчытом з 8-граннымі шатровымі вежачкамі-фіяламі па вуглах; крапаваны слаістымі арачнымі нішамі. Стральчаты ўваходны праём фланкіраваны і завершаны эдыкуламі, у верхняй з якіх размешчана скульптура «Укрыжаванне». Бакавыя фасады расчлянёны 4 стральчатымі аконнымі праёмамі. Унутры капліца перакрыта плоскай драўлянай столлю на падугах. Алтарная сцяна ў інтэр'еры дэкарыравана плоскім 4-пілястравым порцікам з трохвугольным франтонам.


Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г.п. Сапоцкін.



Капліца ў в. Сарокі.



Капліца ў в. Сваятычы.

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У заходняй частцы пасёлка. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы, адноўлены ў пачатку 20 ст. і ў 1990-я гг. Абнесены мураванай агароджай з манументальнай брамай па восі фасада.

Помнік эклектычнай архітэктуры са стылізаванымі элементамі готыкі, барока і класіцызму. Манументальная 3-нефавая 2-вежавая базіліка з трансептам. Плоскасць фасада расчлянёна прафіляванымі карнізамі на 4 ярусы і вылучана ў цэнтральнай частцы плоскасным порцікам з трохвугольным франтонам і паўкруглым шчытом над ім. Фасад фланкіруюць чацверыковыя ярусы званіц з фігурнымі купаламі і зашклёнымі ліхтарамі над імі. Архітэктура заснавана на геаметрычных чляненнях фасадаў лапаткамі, нішамі, прамавугольнымі і арачнымі аконнымі праёмамі ў плоскасных ліштвах. Сілуэт галоўнага фасада ўзбагачаны дэкаратыўнымі вазамі.

Унутраная прастора падзелена на нефы магутнымі аркадамі на 4-гранных пілонах, перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках. У завяршэнні цэнтральнага нефа неабарочны алтар.

# в. Сарокі,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках каля шашы Докшыцы—Глыбокае. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам. Атынкаваныя сцены крапаваны вуглавымі лапаткамі, прарэзаны 2 невялікімі акенцамі і прамавугольным уваходным праёмам.

# в. Сваятычы,

Ляхавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 4-граннай прысадзістай вежай пад пакатым шатровым пакрыццём. Грані раскрыты арачнымі прасветамі, крапаваны вуглавымі пілястрамі і апяразаны прафіляваным антаблементам. Пад сенню пакрыцця пастаўлены крыж.

## Капліца

На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Вырашана ў форме антычнага саркафага. Кампактны кубапа-



Капліца ў в. Сваятычы.



Касцёл святога мучаніка Юрыя ў в. Сваятычы.



Званіца касцёла святога мучаніка Юрыя ў в. Сваятычы.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Сверынава.



добны аб'ём пад 2-схільным пакрыццём. Глухія сцены крапаваны вуглавымі пілястрамі, завершанымі стральчатымі акратэрыямі. Франтальная грань прарэзана прамавугольным уваходным праёмам.

## Касцёл святога мучаніка Юрыя

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1825 г. з цэглы паводле праекта польскага архітэктара П.Х.Айгнера на сродкі ўладальніцы маёнтка графіні С.Чапскай[1] насупраць палаца (не захаваўся).

У 1864 г. парафія скасавана, касцёл перароблены пад праваслаўную царкву[2]. З 1920-х гг. вернуты католікам.

Помнік архітэктуры ампіру. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам; да алтарнай часткі далучаны бакавыя нізкія сакрысціі пад 1-схільнымі пакрыццямі. Фасад вылучаны дарычным 2-калонным з бакавымі антамі порцікам-лоджыяй з трохвугольным франтонам на фоне высокага атыка з 2-гранным ступеньчатым шчыпцом у завяршэнні. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі паўкруглымі вокнамі-люкарнамі і пілястрамі ў прасценках, апяразаны карнізам на дэнтыкулах.

Пад храмам крыпта-пахавальня ўладальніка маёнтка. Іканаграфія інтэр'ера ўключала 12 абразоў пачатку 19 ст., выкананых у акадэмічнай манеры.

Перад храмам пастаўлена мураваная званіца аналагічнай архітэктурна-стылёвай трактоўкі. Вырашана 4-граннай 2-яруснай вежай пад шатровым пакрыццём. Ніжні ярус глухі з прамавугольным уваходным праёмам, другі — раскрыты арачнымі прасветамі, крапаваны вуглавымі пілястрамі і апяразаны карнізам на дэнтыкулах.

---

[1] Описание церквей и приходов Минской епархии. Новогрудский уезд. Мн., 1879. С. 159—160.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 332—333.

# в. Сверынава,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца Узвышэння Святога Крыжа

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1991 г. з дрэва на падмурках капліцы 1920-х гг.

# г. Светлагорск

Гомельскай вобласці

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

На вул. Савецкай. Узведзены ў 1992—97 гг. з цэглы.

У 1650 г. бабруйскія езуіты пабудавалі тут мураваны касцёл, спалены ў 1812 г., але ўжо ў 1818 г. па-



Капліца ў г.п. Свір.



Касцёл святога біскупа Мікалая ў г.п. Свір.

рафіяне збудавалі новы храм, які ў 1939 г. быў зруйнаваны.

Архітэктура храма вырашана ў постнеагатычным стылі. Пабудаваны на ўзор 1-нефавай 2-вежавай базілікі з трансептам. Высока ўзнесеныя шатровыя 4-гранныя вежы, вузкія арачныя праёмы, вуглавыя лапаткі і стральчатыя завершы ярусаў, 2-гранныя шчыты трансепта надаюць кампазіцыі дынамічную вертыкальную накіраванасць. На перакрыжаванні стромкіх дахаў нефа і трансепта 4-гранны шатровы барабан. Галоўны ўваход вылучаны 2-слуповым ганкам, бакавыя — 2-схільнымі навісямі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі, апяразаны гафрыраваным фрызам.

## г.п. Свір,

Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На паўночнай ускраіне гарадскога пасёлка, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з бутавага каменю і цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прысадзістай 4-слуповай 2-яруснай вежай пад стромкім шатром з крыжом у завяршэнні. Першы ярус вымураваны з бутавага каменю, другі адкрыты і прызначаўся для сакральнай скульптуры.

### Касцёл святога біскупа Мікалая

У цэнтры гарадскога пасёлка. Пабудаваны ў 1653 г. з цэглы па фундацыі Ф.Козел-Паклеўскага і плябана Г.Ясінскага, асвячоны ў 1680 г. біскупам М.Слупскім (першы драўляны храм заснаваны ў 1452 князем Свірскім)[1]. У 1903—09 гг. грунтоўна перабудаваны і значна пашыраны. У 1961 г. закрыты. У 1990 г. перададзены вернікам. Абнесены бутавай агароджай з убудаванымі ў яе капліцамі, абсаджаны ліпамі і клёнамі.

Помнік архітэктуры неабарока. Вырашаны паводле канону 3-нефавай базілікі (пад уплывам езуіцкага касцёла 16 ст. Іль Джэзу ў Рыме), але з вертыкальнай дамінантай — вежай-званіцай не на галоўным фасадзе, а асіметрычна пастаўленай да крыла трансепта. На супрацьлеглым фасадзе званіцы адпавядае капліца-ратонда пад сферычным купалам і ліхтаром у завяршэнні. Фасад 2-ярусны, раскрапаваны арачнымі нішамі і пілястрамі, пра-



Інтэр'ер касцёла святога біскупа Мікалая ў г.п. Свір.




Капліца Божай Міласэрнасці ў в. Свіслач Гродзенскага раёна.

філяванымі карнізам з пінаклямі па баках. У завяршэнні фасада шчыт з бакавымі валютамі і трохвугольным франтонам. Шчытавое завяршэнне і над алтарным кубападобным аб'ёмам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны буйнымі пілястрамі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. У дэкоры выкарыстаны стылізаваныя барочныя элементы (валюты, ліштвы паўцыркульных аконных праёмаў, пуцці), матывы архітэктурнай архаікі (пінаклі), ордэрныя формы класікі (карынфскія калоны, кесоны, трыгліфы).

Унутраная прастора перакрыта крыжовымі скляпеннямі, падтрыманымі 6 магутнымі пілонамі, на цэнтральныя з іх пры дапамозе ветразяў абапіраецца купал. Апсіда адкрыта шырокім арачным прасветам з арнаментаванай архівольтай. Цэнтральны неф асветлены паўкруглымі люкарнамі. Сцены інтэр'ера дэкарыраваны пілястрамі, прафіляванымі карнізамі, фрэскавай размалёўкай, лепкай, разеткамі. Над уваходам размешчаны хоры (меўся арган, устаноўлены ў 1931), пад алтаром — крыпта.

[1] Kościół w Swirze // Dwutygodnik djecezji Wileńskiej. 1913. R. 4. S. 188—190.


Касцёл святога Францішка Асізскага і Найсвяцейшай Тройцы ў г.п. Свіслач.



## в. Свіслач

Гродзенскага раёна

### Капліца Божай Міласэрнасці

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2002 г. з цэглы.

Твор сучаснай авангарднай культавай архітэктуры. Дынамічна-асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю фарміруюць прамавугольная ў плане малітоўная зала пад стромкім 1-схільным дахам і ўрэзаная ў вугал франтальнага скошанага фасада 4-гранная вежа-званіца пад усечаным 3-гранным шатром. Яруснае нарастанне да яе кампазіцыі падкрэслена нізкай бакавой сакрысціяй пад 2-схільным пакрыццём. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, галоўны фасад — асіметрычна круглымі люкарнамі. Уваход адзначаны 2-слуповым ганкам пад 3-гранным пакрыццём. Унутры зала перакрыта драўляным корабавым скляпеннем. Па цэнтры алтарнай сцяны лучковая ніша-экседра з драўлянай скульптурай «Укрыжаванне».

## г.п. Свіслач

Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога Францішка Асізскага і Найсвяцейшай Тройцы

У центры гарадскога пасёлка. Пабудаваны ў 1990-я гг. з цэглы і бутавага каменю.

Твор архітэктуры постнеараманскага стылю. Вырашаны працяглым прамавугольным у плане 2-частковым аб'ёмам пад 2-схільным дахам (малітоўная зала і адміністрацыйны корпус). Над плоскасным, расчлянёным на 3 праслы і 3 ярусы франтальным фасадам узвышаецца 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца. Бакавыя плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны парнымі арачнымі аконнымі праёмамі і пілонамі ў прасценках.

## в. Свяцілавічы,

Бялыніцкі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл святога Людвіка

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1903 г. з цэглы. У 1951 г. вежа-званіца разабрана, да фасада дабудаваны бакавыя 2-павярховыя крылы і будынак прыстасаваны пад праўленне калгаса імя Заслонава і бібліятэку.

Помнік архітэктуры з рысамі неаготыкі. Вырашаны працяглым прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і 3-ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. З тыльнага боку выступае рызаліт апсіды.



Касцёл святога Людвіка ў в. Свацілавічы.



Капліца Божай Міласэрнасці ў в. Свяцк.

## в. Свяцк
Гродзенскага раёна

### Капліца Божай Міласэрнасці

На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1889 г. з цэглы пры палацава-паркавым комплексе магнатаў Валовічаў як родавая пахавальня. Перададзена католікам, асвячона 6.8.1996 г.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Кампактны і прысадзісты прамавугольны ў плане аб'ём з 3-сценнай алтарнай часткай накрыты стромкім 2-схільным дахам. Фасад вырашаны суцэльным 2-гранным шчытом-вімпергам, сіметрычна расчлянёным 3 стральчатымі ўваходным і аконнымі праёмамі і крапаваным у тымпане круглай разеткай (імітацыя гатычнага акна-ружы).



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Сейлавічы.

## в. Сейлавічы,
Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які пераходзіць у вальмавы над 5-граннай апсідай. Трохвугольны франтон фасада завершаны 4-граннай шатровай сігнатуркай. Уваход вырашаны нізкім прамавугольным прытворам пад 2-схільным пакрыццём. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.



Касцёл Перамянення Гасподняга ў в. Селіванаўцы.

## в. Селіванаўцы
Гродзенскага раёна

## Касцёл Перамянення Гасподняга

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1899(67) г. з бутавага каменю і цэглы. На 1997 г. налічвалася 1379 парафіян.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Прамавугольны ў плане храм накрыты 2-схільным дахам, над алтарнай часткай — вальмавым. Трохвугольны франтон фасада ўсечаны, над ім — 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) званіца пад самкнутым купалам. Фасад расчлянёны лапаткамі на 3 праслы, у цэнтральным з якіх прамавугольны ўваходны праём з паўкруглай люкарнай над ім, у бакавых — арачныя экседры з круглымі люкарнамі над імі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачным аконнымі праёмамі, аб'яднанымі міжярусным прафіляваным карнізам. У дэкоры выкарыстаны вуглавы руст. Атынкаваныя белыя дэталі дэкору (руст, лапаткі, ліштвы праёмаў) кантрастуюць з паліхромнай, фактурна насычанай бутавай муроўкай. Галоўны фасад упрыгожаны 2 прызначанымі пад скульптуру паўцыркульнымі нішамі і круглымі люкарнамі над імі. У інтэр'еры 4 круглыя калоны дзеляць прастору на 3 нефы, перакрытыя плоскай столлю. Трохарачныя хоры агароджаны драўлянай балюстрадай.

# в. Селішча,
Ушацкі раён
Віцебскай вобласці



Касцёл святой Веранікі і кляштар бернардзінцаў у в. Селішча.

## Касцёл святой Веранікі і кляштар бернардзінцаў

На паўднёвай ускраіне вёскі. Касцёл пабудаваны ў 1726 г. з цэглы на грошы падчашага і ротмістра полацкага Я.Я.Рагозы, полацкага падсудка І.А.Сяляві і яго жонкі Элеаноры (з Коцелаў). Кляштар бернардзінцаў заснаваны ў 1674 г. харужым Вялікага княства Літоўскага А.Слушкам[1]. Скасаваны ў 1832 г. Касцёл у сярэдзіне 19 ст. часткова перабудаваны пад праваслаўную царкву. Дах і верх вежаў касцёла разбураны ў Вялікую Айчынную вайну.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры позняга барока. Трохнефавая базіліка з трансептам і прамавугольнай апсідай (унутры паўкруглай). Фасад фланкіраваны дзвюма 3-яруснымі вежамі (былі завершаны фігурнымі ківорыямі), паміж якімі шчыт з 2 валютамі па баках. Плоскасць фасада надзелена вытанчанай архітэктурнай пластыкай: 3 ярусы арачных экседраў, высокія лапаткі, тонкапрафіляваныя карнізы. Сцены расчлянёны шырокімі пілястрамі і лучковымі аконнымі праёмамі, якія на 2-м ярусе паўцыркульныя.

Унутры цыліндрычныя скляпеністыя перакрыцці нефаў абапіраліся на 4 масіўныя слупы. Апсіда вылучана ў глыбіні цэнтральнага нефа паміж 2 сакрысціямі. З 5 алтароў высокімі мастацкімі якасцямі вылучаўся алтар св. Антонія са скульптурнай групай у завяршэнні і паміж 6 карынфскімі калонамі. У галоўным алтары быў змешчаны прывезены з Кубліщчанскага касцёла абраз Маці Божай. Над нартэксам на магутнай арцы размешчаны хоры, на якіх стаяў барочны арган.

Да касцёла з паўночнага боку прымыкае 2-павярховы Г-падобны ў плане, з калідорнай планіроўкай паўразбураны будынак к л я ш т а р н а г а к о р п у с а.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Diecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1912—1913. T. I—II. S. 33.

# в. Сергі,
Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца святых апосталаў Пятра і Паўла

Пабудавана ў 1930-я гг. з дрэва. Перададзена вернікам у 1992 г., перабудавана і абкладзена цэглай у канцы 20 ст.

Помнік архітэктуры мадэрна. Прамавугольны ў плане будынак з 3-граннай алтарнай часткай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Дах над тарцовым фасадам завершаны драўлянай 2-яруснай 4-граннай шатровай званічкай. Па цэнтры франтальнага фасада, над уваходам узведзена 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца, якая ўносіць элемент асіметрыі ў сіметрычна-восевую

аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю будынка. Шатры званіц маюць лускаватае пакрыццё. Фасады прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі.

## в. Сёклы (Ярканцы),
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На паўночны ўсход ад вёскі, на могілках каля шашы Браслаў—Відзы. Пастаўлена ў 19 ст. з бутавага каменю.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-граннай вежай пад шатровым дашкам з каваным крыжом. Верхні ярус адкрыты лучковымі прасветамі, пад яго сенню — крыж.

## в. Сёмкаў Гарадок
Мінскага раёна

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі, на могілках. Пабудаваны ў канцы 18 ст. (пасля 1791) з цэглы па фундацыі ўладальніка маёнтка Адама Хмары. Узяты пад царкву ў 1868 г.[1] У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры барока. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам. У адрозненне ад плоскасных, расчлянёных лучковымі аконнымі праёмамі бакавых фасадаў, насычаных архітэктурнай пластыкай, галоўны фасад завершаны высокім фігурным атыкам з бакавымі валютамі (барочная рэтраспекцыя), крапаваны буйнымі руставанымі лапаткамі, завершаны трохвугольным франтонам (матывы класіцызму). Прамавугольны ўваходны праём аформлены рэнесансным парталам, над якім круглая люкарна. Унутры ў залу выступаюць хоры. Апсіда з бакавымі сакрысціямі вылучана шырокім арачным прасветам.

[1] Maliszewski Ed. Przewodnik po Gub. Mińskiej. Warszawa, 1919. S. 9.

## в. Сігневічы,
Бярозаўскі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У паўднёвай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1795 г. з цэглы. Пасля рэстаўрацыі ў 1848 г. пераўтвораны ў Пакроўскую царкву. У канцы 19 — пачатку 20 ст. цалкам знаходзіўся на ўтрыманні памешчыцы Ганны Мікульскай[1]. У 1989 г. перададзены вернікам.

Помнік архітэктуры з рысамі барока. Прысадзісты 2-вежавы будынак з 1-нефавым асноўным аб'ёмам, слаба развітым трансептам і паўкруглай апсідай. Бакоўкі трансепта аб'яднаны з невысокімі сакрысціямі. Кампазіцыя фасада 3-частковая, 2-ярусная. Цэнтральная частка завершана атыкам з трохвугольным франтонам, бакавыя — масіўнымі з


Капліца святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Сергі.


Капліца ў в. Сёклы (Ярканцы).


Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Сёмкаў Гарадок.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Сігневічы.



Капліца Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Скідаль.



Касцёл святога Юзафа Рамесніка ў г. Скідаль.

шатровымі пакрыццямі 4-граннымі вежамі, высунутымі за межы будынка. Бакавыя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках.

Унутры ў малітоўную залу шырокімі арачнымі прасветамі раскрываюцца апсіда і крылы трансепта. Над нартэксам размешчаны хоры. Бакавыя сцены раскрапаваны пілястрамі, якія ўверсе злучаны паўцыркульнымі і лучковымі аркамі. Перакрыцце бэлечнае, з падшыўной столлю. З закрыццём касцёла ў Бярозе ўсё яго начынне 4.4.1866 г. перададзена ў Сігневіцкі храм[2].

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 747, арк. 27.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 259, арк. 5 адв.

## в. Сініла
Мінскага раёна

### Касцёл Маці Божай — Зоркі Евангелізацыі

На паўднёвай ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў канцы 20 ст. з цэглы[1].

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над алтарнай часткай 8-гранным барабанам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках. Зала перакрыта лучковым драўляным скляпеннем, над уваходам хоры.

[1] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Мн., 2003. С. 222.

## г. Скідаль
Гродзенскай вобласці

### Капліца Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У паўночна-ўсходняй частцы горада, у старажытным прысядзібным парку Чацвярцінскіх. Пабудавана як родавая пахавальня ў 1870 г. з цэглы. Рэстаўрыравана ў 1990—93 гг.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Прамавугольны ў плане зальны храм з 5-граннай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Фасад фланкіраваны цыліндрычнымі шатровымі вежамі, паміж якімі трохвугольны франтон са стральчатым акном-трыфорыумам у тымпане. Вось фасада адзначана стральчатым уваходным парталам, да якога вядзе лесвічны каскад. Тэма гатычнай стральчатай аркі падоўжана ў абрамлённях вокнаў бакавых фасадаў і крапоўцы пілонаў у іх прасценках, завершаных фіяламі. Храм узняты на высокі 3-ярусны цокаль.

Унутры зала перакрыта стральчатым крыжовым скляпеннем на падпружных арках і рэбрах-гуртах, абапёртых на насценныя пілястры-пілоны; апсіда перакрыта стральчатай конхай.

### Касцёл святога Юзафа Рамесніка

Каля шашы Мінск—Гродна. Пабудаваны ў 2004 г. з цэглы.

Твор сучаснай авангарднай сакральнай архітэктуры. Вырашаны асіметрычна-дынамічнай аб'ём-

на-прасторавай кампазіцыяй, дамінантай якой з'яўляецца ўрэзаная ў фасад шматгранная званіца з фігурным купалкам-шпілем. Сілуэт будынка фарміруюць разнастайныя дахі аб'ёмаў складанай планіровачнай арганізацыі. Плоскасныя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі і ўваходнымі праёмамі.

## в. Скокі

Брэсцкага раёна

### Капліца святога Рафаіла

За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, у полі. Пабудавана ў канцы 18 ст. з цэглы на месцы сядзібы Нямцэвічаў 17 ст. (не захавалася).

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана накрытай шатром калонай, узнятай на кубападобны пастамент, грані якога крапаваны прамавугольнымі нішамі.



Капліца святога Рафаіла ў в. Скокі.

## в. Скрундзі,

Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога архангела Міхаіла

Пабудаваны ў 1996 г. з дрэва на месцы храма 18 ст., які быў зруйнаваны ў 1960 г.

Твор народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным над трохвугольным франтонам крыжом на гранёным барабане. Да фасада далучаны прамавугольны прытвор пад 2-схільным пакрыццём. Бакавыя фасады парублены прамавугольнымі аконнымі праёмамі.



Капліца ў в. Слабодка Астравецкага раёна.

## в. Слабодка,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Кубападобнае збудаванне пад 2-схільным дахам. Глухія сцены гарызантальна ашаляваны (цокальная частка — вертыкальна). Фасад завершаны трохвугольным франтонам, прарэзаны шырокім дзвярным праёмам.

## в. Слабодка,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Нараджэння Божага

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1901—06 гг. з цэглы на месцы храма 1806 г., фундаванага князямі Мірскімі. Акаймаваны бутавай агароджай.



Касцёл Нараджэння Божага ў в. Слабодка Браслаўскага раёна.



Партал касцёла Наканавання Божага ў в. Слабодка Браслаўскага раёна.



Інтэр'ер касцёла Наканавання Божага ў в. Слабодка Браслаўскага раёна.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Уяўляе сабой 3-нефавую 2-вежавую базіліку з 5-граннай апсідай, трансептам і сакрысціямі. Дынаміку сілуэту галоўнага фасада надаюць высокія 5-ярусныя вежы са спічастымі шатрамі. Цэнтральны неф храма на фасадзе выступае рызалітам пад 2-гранным шчыпцом, вылучаны перспектыўным арачным парталам з вімпергам (такія ж па баках вежаў) і вялізным акном-ружай над ім (такія ж на шчыпцах трансепта). Сцены расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі ў розных спалучэннях (адзінкавыя, біфорыумы і трыфорыумы, круглыя люкарны) з вітражным запаўненнем і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках і па вуглах. Аб'ёмы храма і ярусы вежаў акаймаваны аркатурнымі фрызамі і прафіляванымі карнізамі, крылы трансепта дэкарыраваны накладной раманскай аркатурай-каланадай і паясамі чатырохлісніказ, калонкамі з капітэлямі раслінных форм. У пластычна-дэкаратыўным вырашэнні храма шырока выкарыстаны ордэрныя элементы раманскай архітэктуры: аркатурныя паясы, нішы,

Нефы ў інтэр'еры перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, апсіда — конхай з люнетамі над вокнамі-люкарнамі. Апсіда раскрыта ў неф высокім арачным прасветам з пучкамі тонкіх калон у 2 ярусы па баках. Над нартэксам на 3-пралётнай лучковай фаркадзе антрэсоль хораў з арганам неагатычнай стылёвай трактоўкі. Архітэктурныя плоскасці празмерна насычана пакрыты арнаментальна-арабескавым і фларальным роспісам, шматлікімі сюжэтнымі пано. Галоўны і бакавыя драўляныя алтары трактаваны ў стылі неарэнесансу, насычаны скульптурнымі выявамі. У стылі неарэнесансу трактаваны і драўляны амбон, навешаны на левы пілон прэсбітэрыя.

Мастацкую каштоўнасць маюць жалезныя акоўкі вонкавых дзвярэй касцёла, выкананыя мясцовым кавалём. Кампазіцыі аковак складаюцца з сіметрычна ўкладзеных па баках завесаў (царгаў) са спіралепадобнымі пышнымі сцёбламі, што заканчваюцца чатырохлісцевымі кветкамі альбо пальметападобным лістком. Пры кампазіцыйным адзінстве аковак усіх дзвярэй дэталі не паўтараюцца. Пышныя букеты з арнаментальных элементаў паўтараюцца ў акоўцы і бакавых дзвярэй.

## в. Слабодка,

Навагрудскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1820-я гг. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры класіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам. Фасад вырашаны 4-пілястравым порцікам з трохвугольным франтонам, па цэнтры прарэзаны прамавугольным ўва-



Капліца ў в. Слабодка Навагрудскага раёна.

ходным праёмам і паўкруглай люкарнай над ім. Бакавыя фасады расчлянёны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках. Будынак апяразаны шырокім антаблементам з карнізам на сухарыках

## г. Слонім

Гродзенскай вобласці

### Капліца

На могілках, пры выездзе на в. Дзераўная. Пабудавана ў 1970-я гг. з цэглы як надмагільная.

Помнік архітэктуры гістарызму з элементамі рэтраготыкі. Вырашана 4-граннай тумбай пад сферычным пакрыццём. Грані крапаваны лапаткамі і квадратнымі нішамі ў стральчатым абрамленні, апяразаны прафіляваным карнізам з выкружкай.



Капліца ў г. Слонім.

Капліца святога Дамініка ў г. Слонім.

### Капліца святога Дамініка

У паўночна-заходняй частцы горада, на скрыжаванні вуліц Міцкевіча і Пушкіна. Пабудавана ў 1745 г. з цэглы манахамі-дамініканцамі мясцовага кляштара. Была акаймавана муравана агароджай з брамкай. Разам з ёю стаяла яшчэ адна капліца (не захавалася). Капліцы з'яўляліся своеасаблівым межавым знакам пры ўездзе ў горад.

Помнік архітэктуры ракако. Цэнтрычнае вежападобнае 3-яруснае збудаванне. Першы ярус масіўны, маналітны, з увагнутымі і зрэзанымі гранямі, другі — скразны, з 4 арачнымі прасветамі, трэці — завяршэнне складанай увагнута-выпуклай канфігурацыі з шатровым пакрыццём. Ярусы капліцы выразна падкрэслены чарапічнымі злівамі і пластычнымі карнізамі. На франтальнай грані маецца выступ-алтар для ўскладання дароў падчас святаў. У 2-м ярусе пад крыжовым скляпеннем была ўстаноўлена пазалочаная драўляная скульптура святога Дамініка[1].



[1] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство. 1980. № 28. С. 123.

### Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар бернардзінак

У цэнтры горада, на вул. Першамайскай. Кляштар фундаваны ў 1645 г. старостам Аляксандрам Юдзіцкім і яго жонкай Кацярынай Канстанцыяй Юдзіцкай-Салатыцкай пры ўдзеле братоў З. і К. Працлаўскіх[1]. Спачатку ў Казіміра Лявона Сапегі была набыта драўляная сядзіба (называлася Валовіцкай), у якой пасяліліся запрошаныя з Вільны сёстры-бернардзінкі[2]. Першапачатковы драўляны касцёл быў куплены ў бернардзінцаў, якія к гэтаму часу пабудавалі для сябе мураваны. Існуючы касцёл пабудаваны ў 1664—70 гг., асвячоны 4.12.1690 г. віленскім біскупам Канстанцінам Бжастоўскім[3]. У



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар бернардзінак у г. Слонім.

1790 г. касцёл і кляштар пашкоджаны пажарам, адбудаваны ў 1793 г. архітэктарам Ігнаціем Абадовічам. У 1905 г. імператар Мікалай II дазволіў дзейнасць бернардзінак, якія капітальна адрамантавалі



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар бернардзінак у г. Слонім. Жылы корпус.

слонімскі прыстанак і правілі ў ім службы да 1907 г. Кляштарны комплекс быў абнесены суцэльнай мураванай агароджай з уязной барочнай брамай-званіцай (не захавалася), уключае касцёл і прыбудаваны да яго з паўднёва-заходняга боку жылы корпус, які ўтварае ўнутраны двор-карэ.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры барока, ракако і класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам з паўкруглай апсідай, да якой далучаны бакавыя рознавялікія прамавугольныя ў плане сакрысціі. Уздоўж паўночнага фасада цягнецца нізкая прыбудова — капліца Бічавання (Крыжовага шляху) — у час рамонту ў 1930-я гг. пад капітэлямі насценных пілястраў выяўлены ракайльныя картушы з надпісамі, якія прысвечаны пакутам Хрыста на шляху да Галгофы. У кампазіцыі храма дамінуе 3-ярусная 4-гранная вежа-званіца, вылучаная ў самастойны масіўны аб'ём. Верхні ярус вежы з больш насычанай дэкаратыўнай апрацоўкай (здвоеныя лапаткі, арачныя нішы) завершаны 4-схільным пакатым дахам. Аконныя праёмы дэкарыраваны франтонамі з галоўкамі крылатых херувімаў, раслінным арнаментам. Фасады крапаваны плоскімі пілястрамі, апраразаны прафіляванымі карнізам і фрызам. Плоскасць паўкруглай апсіды, што арыентавана на плошчу, дэкарыравана фігурнай стукавай рамай, у якой было памешчана іканаграфічнае пано. Унутры зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, пераходзіць у больш вузкую паўкруглую апсіду. Сцены члянёны масіўнымі пілонамі, капітэлі якіх дэкарыраваны стылізаваным раслінным арнаментам. Начынне інтэр'ера (5 стукавых алтароў, амбон, спавядальня) выканана дэкаратарам Іаганам Гедэлем («мастацтва штукарскага з фальшмармуру магістрам») і яго памочнікам Антоніем па малюнках І.К.Глаўбіца ў 1751—64 гг. У вырашэнні алтароў сінтэзуюцца дэкаратыўная скульптура, жывапіс і прыкладное мастацтва. Галоўны алтар Беззаганнага Зачацця 2-ярусны, у выглядзе здвоеных карынфскіх калон, выкананых у тэхніцы ружовага стука; на раскрапаваным антаблеменце размешчаны скульптуры анёлаў. У цэнтры знаходзіцца абраз «Маці Божая з дзіцем» (18 ст.), абапал — скульптуры евангелістаў. Другі ярус дэкарыраваны пілястрамі і валютамі, скульптурамі анёлаў; у цэнтры абраз «Святая Тройца». Вянчае алтар ляпны картуш «Глорыя». Па баках алтара размешчаны сядзячыя фігуры святых з атрыбутамі, фігуры анёлаў, вазы. Меншыя па маштабе 4 бакавыя алтары (Укрыжавання Хрыста, св. Францішка, св. Юзафа, абраза Найсвяцейшай Дзевы Марыі) нібы ўмураваны ў прасценкі і маюць аналагічную з галоўным алтаром кампазіцыю і мастацка-стылёвую трактоўку. Арнаментальная лепка (ракавіны, ракайлі, вазы, маскі жывёл), гіпсавая скульптура выкананы ў стылі ракако. Амбон вырашаны ў выглядзе фігурнай кафедры з балдахінам, аздобленым ракайлямі, вазамі, пуцці, атрыбутамі евангелістаў, драпіроўкамі. У правую сцяну прэсбітэрыя ўмуравана спавядальня пад балдахінам — у стылі ракако. Пры ўваходзе на 3-пралётнай аркадзе — хоры з арганам. Каштоўным творам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва барока 17 ст. з'яўлялася печ ў сакрысціі, абліцаваная зялёнай паліванай кафляй з фларальным арнаментным малюнкам (у 1970 знішчана).

Ж ы л ы к о р п у с прыбудаваны да касцёла ў 1720 г. пад кіраўніцтвам архітэктара І.Авадовіча. Утварае ўнутраны прамавугольны ў плане двор. Фасады рытмічна члянёны пілястрамі, контрфорсамі, дэкарыраваны прафіляваным карнізам. Паўднёва-заходні вугал корпуса вылучаны рызалітам рэфекторыя з магутнымі контрфорсамі. Планіроўка галерэйная. У келлях і калідорах крыжовыя і цылін-



Алтар касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштара бернардзінак у г. Слонім.

дрычныя скляпенні з распалубкамі. Пад будынкам скляпеністыя сутарэнні.

[1] Encyklopedyja powszechna. Warszawa, 1866. S. 615; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1889. T. 10. S. 824—825.

[2] Rosiak S. Prowincja litewska Siostr Miłosierdzia. Wilno, 1933. S. 48.

[3] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 90; Goldberg G. Zarys Dziejów miasta Słonima. Słonim, 1934. S. 58; Lorentz S. Wycieczki słonimskie: Krótki przewodnik krajoznawczy po Słonimie oraz Albertynie, Byteniu, Synkowiczach, Ździeciole i Żyrowicach. Słonim, 1933. S. 4.

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Ва ўсходняй частцы горада (раён Альбярцін), на вул. Войкава. Пабудаваны ў 1920(38) г. з цэглы і жалезабетону паводле праекта маёра Сланаша як гарнізонны касцёл[1]. В 1924 г. пры садзейнічанні У.Пуслоўскага была адкрыта езуіцкая місія. Дзейнічае як касцёл аднаўленага езуіцкага прыстанка.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. У прасторавай кампазіцыі прамавугольнага ў плане аб'ёму пад высокім 2-схільным дахам дамінуе 4-гранная вежа-званіца, якая завершана высокім спічастым шпілем. Высокі цокаль і шырокая лесвіца галоўнага ўвахода выкладзены з вапняковых блокаў. Уваход вылучаны прамавугольным перспектыўным парталам, над ім круглае акно-ружа. Плоскасныя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі.

Унутраная прастора 2 парамі слупоў падзелена на 3 нефы. Цэнтральны неф перакрыты люстравым скляпеннем, бакавыя — прафіляванымі плафонамі. Пры ўваходзе на 3-пралётнай аркадзе — хоры.

[1] Zorza Sionimska. Jednodniówka Parafjalnej Akcji Katolickiej w Słonimie. Sierpień, 1935. S. 25.

## Касцёл святога Андрэя

У зарэчнай частцы горада (Замосце), на пл. Сапегі. Пабудаваны ў 1775 г. з цэглы намаганнямі ксяндза Анкуты і біскупа Гедройца[1]. У 1990 г. перададзены вернікам, асвячоны ў 1993 г. нунцыем Г.Манталірам, архібіскупам К.Свёнтакам, біскупам А.Кашкевічам. На 1997 г. каля 10 тыс. парафіян.

Першы драўляны храм у гонар св. Андрэя Апостала і Марыі Магдалены фундаваны ў 1490 г. (першая культавая фундацыя горада) пры Казіміру IV Ягелончыку і пабудаваны ў 1493 г.[2] Адбудаваны пры Л.Сапегу ў 1595 г. У 1655—61 гг. храм зруйнаваны, адноўлены ў 1660 г.[3] Пасля руйнаванняў 1-й сусветнай вайны (гарматны абстрэл, знішчэнне плябаніі) адноўлены ў 1925 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны выкарыстоўваўся як саляны склад. Перададзены вернікам у 1990 г. Рэстаўрыраваны паводле



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Слонім.

праекта архітэктара В.Атас, мастакамі М.Залатухам і У.Ракіцкім (фрэскавы жывапіс).

Помнік архітэктуры барока і ракако. Кампактны 1-нефавы прамавугольны ў плане аб'ём з бакавымі нізкімі крыламі трансепта накрыты 2-схільным чарапічным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Плоскасць галоўнага фасада ўвагнута-выпуклая, раскрапавана пілястрамі, хвалістымі карнізамі, арачнымі нішамі з броўкамі-дугамі. Бакавыя 2-ярусныя вежы-званіцы пастаўлены пад вуглом да



Касцёл святога Андрэя ў г. Слонім.



Алтар касцёла святога Андрэя ў г. Слонім.

плоскасці фасада і завершаны ліхтарамі на фігурных галоўках. Тэктанічная структура фасада мае ярка выяўлены ярусны характар, што дасягаецца гарызантальнымі і вертыкальнымі чляненнямі, узмоцненай крапоўкай контурных ліній. Верхні ярус вылучаны крапаваным шмат'ярусным антаблементам, над якім узвышаецца высокі фігурны шчыт з бакавымі валютамі. Бакавыя часткі галоўнага фасада дэкарыраваны арачнымі нішамі-конхамі з драўлянымі скульптурамі святых Пятра і Паўла, трактаваных па-барочнаму ў дынамічных ракурсах і разваротах, плоская сцяна апсіды — скульптурай «Укрыжаванне». Бакавыя фасады ў прасценках высокіх арачных аконных праёмаў чляnёны высокімі адзінарнымі пілястрамі. Уражанне вертыкальнага руху, пульсацыі архітэктурных плоскасцей дасягаецца шматлікімі крапоўкамі, выцягнутымі прапорцыямі, насычаным драбленнем антаблементаў і карнізаў, дэкаратыўнай пластыкай субархітэктуры.

Інтэр'ер асветлены высокімі арачнымі вокнамі. Неф (вышыня 14,1 м) перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках і распалубках. Да алтарнай часткі прымыкаюць бакавыя квадратныя ў плане сакрысціі. У паўночнай частцы храма на 3-пралётнай аркадзе з бочкападобнымі слупамі і крыжовых скляпеннях — хоры. Іх тыльная сцяна пакрыта ілюзорна-перспектыўным фрэскавым роспісам у тэхніцы грызайль, на парапеце былі выявы музычных інструментаў. Бакавыя сцены (таўшчыня 1,84 м) крапаваны пілястрамі з капітэлямі ў выглядзе пальмет і маляванымі панэлямі з ракайльнымі картушамі наверсе. Плоскасці сцен паміж пілястрамі таксама аформлены прамавугольнымі панэлямі з ракайльным абрамленнем. Каларыстычная гама інтэр'ера — светла-блакітны, белы і ружовы колеры, пазалота.

Галоўны пластыка-дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — цэнтральны стукавы алтар у выглядзе порціка са здвоенымі карынфскімі калонамі, якія нясуць трохвугольны раскрапаваны франтон. Уздоўж схілаў франтона 2 стукавыя скульптуры анёлаў, у завяршэнні — сфера з крыжом. У алтары скульптура «Укрыжаванне» і абраз «Маці Божая Жыровіцкая». Бакавыя алтары пабудаваны на ўзор галоўнага, завершаны фігурнымі шчытамі на валютах, раскрапаваны карнізамі, пучкамі пілястраў. Алтары вырашаны ў тэхніцы стука, сродкамі якой імітуецца чырвона-карычневы і светла-жоўты мармур. На бакавых сценах прэсбітэрыя — 2 прамавугольныя фрэскавыя пано (3 × 2 м) на біблейскія сюжэты. Мастацкія кампазіцыі выкананы ў тэхніцы аль-фрэска на вохрыста-карычневым грунце з падмалёўкай. Смелая падача фігур у складаных ракурсах, аб'ёмнае вырашэнне іх у прасторы, цёплыя тоны, мяккая лепка твараў і мадэліроўка складак адзення надаюць карцінам маляўнічасць. Евангельскі сюжэт набліжаны да свецкай трактоўкі, характэрнай для сакральнага жывапісу ракако. Унутранае ўбранне касцёла дапаўняюць дэкаратыўны роспіс сцен і архітэктурная ляпніна. Падоўжныя сцены аздоблены роспісам у спалучэнні з ілюзорна-прасторавымі архітэктурнымі формамі: пілястры з пышным арнаментальным убраннем, магутная каланада на заходняй сцяне, карніз і фрыз, мноства арнаментальных уставак, медальёнаў, картушаў, ракавін, разетак і інш., якія размешчаны на плоскасцях пілястраў і паміж імі, на аконных адхілах і ў прасценках паміж вокнамі, а таксама ўпрыгожваюць алтары. Дэкаратыўны роспіс выкананы на ружовым фоне блакітна-белым і шэрым колерамі. На ўсходняй сцяне алтара быў размешчаны амбон у форме чаўна пад ветразем. Пад алтаром знаходзіцца крыпта.

Пры касцёле стаяла плябанія (не захавалася), вырашаная па тыпу старапольскай шляхецкай сядзібы — 1-павярховы прамавугольны ў плане мура-



Кляштар бенедыкцінак у г. Слонім.

ваны будынак з мансардай пасярод высокага з заломам даху. Цэнтральны ўваходны рызаліт завяршаўся ампірным атыкам з люкарнай па цэнтры.

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 90; Goldberg G. Zarys Dziejów miasta Słonima. Słonim, 1934. S. 13; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1889. S. 823—825.

[2] Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 186; Lorentz S. Wycieczki Słonimskie. Słonim, 1922. S. 10.

[3] Zorza Sionimska. Jednodniówka Parafjalnej Akcji Katolickiej w Słonimie. Sierpień, 1935. S. 24.

## Кляштар бенедыкцінак

У цэнтры горада, на вул. Чырвонаармейскай. Фундаваны жонкай смаленскага падстольніка Ганнай Пшаслаўскай у 1669 г.[1] Першыя манашкі прыйшлі сюды з закрытага смаленскага кляштара (называліся смаленскімі выгнанніцамі)[2]. Першыя драўляныя пабудовы кляштара ў 1801 г. заменены на мураваныя[3]. Кляштарны комплекс складаўся са злучаных у агульную кампазіцыю касцёла ў імя Адшукання Святога Крыжа і жылога корпуса. Дзейнічаў да 1850 г. У 1863 г. выкарыстоўваўся пад турму для палітычных вязняў[4], потым да Вялікай Айчыннай вайны — пад настаўніцкую семінарыю, у якой вучыўся беларускі паэт В.Таўлай[5]. Цяпер у будынку кляштара сярэдняя школа.

Касцёл (не захаваўся) уяўляў сабой манументальнае 2-вежавае збудаванне ў стылі класіцызму. Яго фасады ўпрыгожвала каланада, у інтэр'еры знаходзіліся алтары і сюжэтныя фрэскі.

Жылы корпус Г-падобны ў плане, 2-павярховы, галерэйнага тыпу. Галоўнае крыло накрыта 2-схільным дахам і выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход уздоўж вуліцы. Пластыку будынку надаюць арытмічна размешчаныя лапаткі.

У інтэр'еры часткова захаваліся фрагменты скляпеністых перакрыццяў, якія сведчаць пра іх складанае канструкцыйнае вырашэнне: акрамя цыліндра з распалубкамі захавалася скляпеністае перакрыцце аднаго з пакояў, вырашанае 2 паралельнымі цыліндрамі з цэнтральнай падпружнай аркай і распалубкамі. Па ўсёй даўжыні будынка сутарэнні галерэйнай планіроўкі. Кладоўкі ў іх перакрыты крыжовымі скляпеннямі, шырокі калідор — цыліндрычным з распалубкамі.

[1] Encyklopedyja powszechna. Warszawa, 1866. S. 615.

[2] Lorentz S. Wycieczki Słonimskie. Słonim, 1933. S. 14.

[3] Zorza Sionimska. Jednodniówka Parafjalnej Akcji Katolickiej w Słonimie. Sierpień, 1935. S. 24.

[4] НГАБ, ф. 8, воп. 1, спр. 1345.

[5] Encyklopedia kościelna. Warszawa, 1837. T. II. S. 159.

# г. Слуцк
Мінскай вобласці



Брама-капліца ў г. Слуцк.

## Брама-капліца

У паўночнай частцы горада, на могілках на вул. 14 Партызан. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана цэнтрычным 4-гранным аб'ёмам пад шатровым дахам. Бакавыя грані прарэзаны высокімі арачнымі прасветамі, франтальная грань — лучковым ўваходным праёмам, фланкіраваным арачнымі экседрамі.

## Касцёл святога Антонія Падуанскага

На паўночна-ўсходняй ускраіне горада. Пабудаваны ў 1992—2000 гг. з чырвонай цэглы ў комплексе з парафіяльным цэнтрам (архітэктар І.Далматовіч). Твор дойлідства постнеараманскага стылю. Франтальная кампазіцыя касцёла вырашана глухім фасадам з 2-схільным шчыпцом і калоннай тэрасай на 1-м ярусе. З правага боку далучана 4-гранная вежа-званіца пад шатровым пакрыццём. Вокны запоўнены вітражамі. Па баках да касцёла далучаны 3-павярховыя жылыя карпусы пад 2-схільнымі дахамі. У касцёле пастаўлены арган.



Касцёл святога Антонія Падуанскага ў г. Слуцк. Канец 20 ст.



Касцёл святога Антонія Падуанскага і кляштар бернардзінцаў у г. Слуцк. 18 ст.

## Касцёл святога Антонія Падуанскага і кляштар бернардзінцаў

У цэнтры горада, на вул. Чырвонаармейскай. Фундаваны земскім мазырскім суддзёй, палкоўнікам каралеўскіх войск Самуэлем Аскіркам у 1671 г. для ксяндзоў-бернардзінцаў[1]. На месцы драўлянага храма ў 1739(93) г. ўзведзены манументальны мураваны. Пасля пажару адбудаваны ў 1820 г. У 1832 г. кляштар скасаваны, а манахі ў 1842 г. пераведзены ў Нясвіж, кляштар прыстасаваны пад казармы, а касцёл на працягу 1833—45 гг. служыў палкавой праваслаўнай царквой[2]. Пасля 1852 г. спустошаны храм адноўлены і пératвораны ў парафіяльны касцёл. У савецкі час кляштар выкарыстоўваўся пад прамысловае прадпрыемства.

К а с ц ё л (не захаваўся) быў вырашаны ў стылі позняга барока. Прамавугольны ў плане 3-нефавы аб'ём пад 2-схільным дахам. Галоўны фасад завяршаўся фігурным шчытом з бакавымі валютамі, бакавыя — рытмічна расчляняліся высокімі арачнымі аконнымі праёмамі. Нефы былі перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, падтрыманымі 8 пілонамі. У касцёле меўся алтарны абраз «Тайная вечэра» (па ўзору карціны Леанарда да Вінчы).

Да касцёла далучаўся 1-павярховы П-падобны ў плане ж ы л ы к о р п у с пад вальмавым дахам (цяпер маслабаза). Яго сціплая архітэктурная выразнасць дасягалася крапоўкай плоскасных сцен лапаткамі ў прасценках прамавугольны ўрубных аконных праёмаў. Планіроўка корпуса традыцыйна галерэйная, пад ім размяшчаліся скляпеністыя падвалы.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 317—323.

[2] Описание церквей и приходов Минской епархии. Слуцкий уезд. Мн., 1879. С. 12.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканцаў у в. Смаляны.

# г. Смалявічы

Мінскай вобласці

## Капліца святога Валянціна

Будуецца з 2000 г. з цэглы паводле праекта архітэктара У.Даніленкі[1].

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Вырашана паўкруглымі аб'ёмамі малітоўнай залы і апсіды; з фасада далучаны прамавугольны ў плане нартэкс. Аб'ёмы расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі на 1-м і арачнымі на 2-м паверхах. Фасады завершаны 2-ярусным 2-гранным шчытом, крапаваным рэльефным крыжом. Уваход вылучаны 2-слуповым ганкам з арачнымі прасветамі.

---

[1] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Мн., 2003. С. 226.

# в. Смаляны,

Аршанскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканцаў

У цэнтры вёскі. Кляштар заснаваны ў 1678 г. ўладальнікам мястэчка князем Г.Сангушкам. Існуючы касцёл пабудаваны ў 1760-я гг. Кляштар скасаваны паводле царскага ўказа ад 19.7.1832 г., пасля чаго занепаў. У 1899 г. намаганнямі ксяндза Герасімовіча і пад кіраўніцтвам архітэктара Даўкшы паўразбураны храм і кляштарны будынак адноўлены[1]. У 1930-я гг. храм закрыты і да 1989 г. выкарыстоўваўся ў гаспадарчых мэтах. Цяпер у занядбаным стане.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з трансептам і паўкруглай апсідай з бакавымі сакрысціямі. Двух'ярусная 3-восевая кампазіцыя галоўнага фасада падкрэслена пілястрамі, якія разбіваюць яго на 3

злёгку ўвагнутыя паверхні. Двух'ярусныя бакавыя вежы аб'ядноўваюцца на ўзроўні карнізнай цягі фігурным франтонам. Трансепт вылучаны толькі на ўзроўні 2-га яруса, у 1-м ярусе ён выкананы ў адным аб'ёме з бакавымі капэламі, якія пераходзяць у 1-ярусныя сакрысціі. Крылы трансепта таксама завершаны фігурнымі франтонамі. Унутры цэнтральны неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках, абапёртымі на пілоны складанага сячэння. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера і алтароў не захаваліся.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. T. I. S. 105.

# г. Смаргонь

Гродзенскай вобласці

## Капліца

На могілках. Узведзена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства з рысамі класіцызму. Вырашана 2-яруснай 4-граннай вежачкай пад шатровым пакрыццём, апяразаным прафіляваным карнізам і завершаным крыжыкам. Франтальная грань крапавана прамавугольнымі нішамі, верхняя з якіх прызначана для абразка.



Капліца ў г. Смаргонь.

## Касцёл святога архангела Міхаіла

У цэнтры горада, на вул. Савецкай. Пабудаваны ў 1553 г. з цэглы брэсцкім ваяводам Крыштафам Зяновічам як кальвінскі збор на месцы драўлянага касцёла Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі, пабудаванага яго бацькам — слонімскім старостам Юрыем Зяновічам у 1503(05) г.[1] Па іншых крыніцах збор пабудаваны ў 1606—12 гг. Мікалаем Багуславам Зяновічам[2]. Літоўскія гісторыкі адносяць фундацыю храма да 1611 г.[3] У 1621 г. сястра Зяновіча Сафія перадала збор каталікам пад Троіцкі касцёл. У 1655 г. зруйнаваны, але хутка адбудаваны. Рэстаўрыраваны ў 1858 г. У 1866—1921 гг. праваслаўная Міхайлаўская царква (надбудавана шатровая званіца з макаўкай, драўляны барабан з купалам). Храм пашкоджаны ў 1-ю сусветную вайну, адноўлены як касцёл у 1921 г., з 1947 г. зноў закрыты, выкарыстоўваўся ў гаспадарчых мэтах. Пасля рэстаўрацыі 1970 г. (архітэктары В.Сахно, П.Седляроў, С.Друшчыц) прыстасаваны пад выставачную залу. У 1990 г. перададзены вернікам. У 2000 г. пабудавана мураваная плябанія (архітэктар А.Базевіч). На 1997 г. налічвалася 3860 парафіян.



Касцёл святога архангела Міхаіла ў г. Смаргонь.

Помнік архітэктуры рэнесансу з рысамі абарончага дойлідства. Цэнтрычны 8-гранны купальны храм злёгку выцягнуты па падоўжнай планіровачнай восі. Да галоўнага фасада далучана 2-ярусная вежа-званіца (васьмярык на чацверыку), завершаная шатровым чарапічным дахам. У месцы злучэння званіцы і асноўнага аб'ёму асіметрычна пастаўлена цыліндрычная вежачка. Магутныя сцены будынка



Інтэр'ер касцёла святога архангела Міхаіла ў г. Смаргонь.

прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Другі ярус асноўнага аб'ёму раскрапаваны лапаткамі і характэрнай рэнесансавай аркатурай з вісячымі гіркамі. Уваход у храм праз квадратны ў плане ніжні ярус вежы-званіцы, перакрыты крыжовым скляпеннем.

Унутры зала-ратонда перакрыта сферычным, дэкарыраваным фрэскамі купалам. Яго аснова аддзелена ад сцен невялікім карнізам на дэнтыкулах. Плоскасці сцен раскрапаваны шматлікімі арачнымі нішамі. Над прытворам — перакрытыя крыжовымі скляпеннямі хоры, абмежаваныя філёнгавым парапетам. Ярусы званіцы былі аб'яднаны вітой лесвіцай. Пад цэнтральнай часткай храма — крыпта.

---

[1] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym opisana. Warszawa, 1846. T. III. S. 187; Jankowski Cz. Powiat Oszmiański. Petersburg—Kraków, 1896. T.1. S. 173; Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 196—197; [6] Kurczewski J. Kościół Katolicki w Smorgoniach. Wilno, 1907. S. 27.

[2] Белоруссия. Литва. Латвия. Эстония: Справочник-путеводитель. М. 1986. С. 368.

[3] Lietuvos architekturos istorija. Nuo seniasiu laiku XVIIa. Vidurio. Vilnius, 1987. T. 1. S. 260.

## в. Сноў,
Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святога Яна Хрысціцеля

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1760 г. з цэглы Я.Х.Рдултоўскім[1]. У 1866 г. скасаваны і асвячоны ў прыходскую Праабражэнскую царкву, якая капітальна адрамантавана ў 1884 г.[2] Касцёл адноўлены ў 1921 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў зруйнаваным стане. У 1990-я гг. рэстаўрыраваны.

Помнік архітэктуры барока. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму з усходу далучана паўцыркульная на ўсю вышыню будынка апсіда з 2 сакрысціямі. Галоўны фасад мае 3-частказую будову па вертыкалі: з бакоў выступаюць 2 прамавугольныя ў плане аб'ёмы — асновы 3-ярусных чацверыковых вежаў, цэнтр фасада з галоўным уваходам і лучковым аконным праёмам над ім завершаны шчытом крывалінейнага абрысу. На бакавых частках фасада лучковыя аконныя праёмы і нішы. Цэнтральная частка фасада і грані вежаў фланкіраваны пілястрамі, крапаваны шырокім антаблементам. Бакавыя фасады касцёла гладкія, прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі.



Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Сноў.

Унутры зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках, апсіда — конхай. Сцены крапаваны пілястрамі, якія нясуць карніз. У алтары — пілястры карынфскага ордэра. Насценная размалёўка не захавалася.

---

[1] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 250.

[2] Описание церквей и приходов Минской епархии. I. Минский уезд. Мн., 1878. С. 165.

## в. Солы,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Ружанцовай

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1926—34 гг. з цэглы паводле праекта архітэктара-інжынера А.Дубановіча пры ўдзеле ксяндза-настаяцеля У.Курпіса-Гарбоўскага. Фундатарамі выступілі Б.Трахневіч, Ю.Захарэўскі і інш., парафіяне ўнеслі 540 тыс. злотых (ахвярадаўцы пералічаны на металічнай пліце на вонкавай сцяне бакавой галерэі)[1]. Закладны камень быў асвячоны 24.6.1928 г. ксяндзом-канонікам К.Любніцам, храм — 20.9.1934 г. віленскім архібіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім. Будаўніцтва вялося пад кіраўніцтвам прараба Б.Трахневіча. На 1997 г. налічвалася каля 5 тыс. парафіян.

Першы храм заснаваны да 1598 г., калі быў адораны віленскай ваяводзінай Х.Радзівіл, а ў 1620 г. — полацкім ваяводам Янам Кішкам і яго жонкай Крысцінай (з Друцкіх-Сакалінскіх)[2]. У 1624 г. фундуш павялічыў кушлянскі памешчык С.А.Дзядовіч. Касцёл знішчаны ў 1656 г. Быў адбудаваны, але ў 1812 г. спалены. У 1849 г. збудаваны новы храм, асвячоны ў 1853 г. біскупам В.Жылінскім. У пачатку 20 ст. быў пабудаваны драўляны храм, таксама спалены ў 1915 г.

Помнік архітэктуры стылю мадэрн. Будынак асіметрычнай шматпланавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Асновай яе з'ўляецца аб'ём нефа, накрыты 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Да нефа далучаны трансепт і паўцыркульная апсіда з канічным пакрыццём. Вертыкальная дамінанта будынка — бакавая 2-ярусная вежа-зва-

ніца з фігурным купалам і шатровым ліхтаром у завяршэнні. Невысокія прыбудовы сакрысціяў завершаны крывалінейнымі парапетамі. Своеасаблівасць збудаванню надаюць галерэі-аркады (рэнесансавая рэмінісцэнцыя). Уваходны тамбур вырашаны ў выглядзе паўкруглага данжона. Па цэнтры даху ўзведзена 2-ярусная 8-гранная шатровая сігнатурка. Фасады дэкарыраваны фігурнымі шчытамі з валютамі, ступеньчатымі контрфорсамі бутавай муроўкі.

Унутры ў перакрытую сферычным купалам на ветразях прастору малітоўнай залы шырокімі аркамі раскрываюцца крылы трансепта і апсіды; справа пры ўваходзе капліца св. Францішка. Над нартэксам — хоры на 2 калонах, арган. У стылі неабарока выкананы 3 алтары: галоўны Маці Божай Ружанцовай, бакавыя Маці Божай Вастрабрамскай і Сэрца Ісуса. З правага боку прэсбітэрыя навешаны амбон у выглядзе біблейскай ладдзі. Купал, паўавальнае скляпенне, падпружныя аркі і сцены пакрыты размалёўкамі (тэмпера па тынкоўцы) на марыйную (па тытуле касцёла) і ваенную тэматыку, выкананымі ў 1934 г. беларускімі мастакамі П.Сергіевічам і Ф.Таберам[3]. У 2000—02 гг. сценапіс быў амаль поўнасцю перапісаны А.Станкоўскім і Т.Варановіч.

---

[1] Дукса М. Зруйнаваны і адроджаны // Наша вера. 5—6; Ave Maria. 5—6(84—85)2002.

[2] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912.

[3] Kościoły i klasztory rzymokatolickie dawnego województwa Wileńskiego. Kraków, 2005. T. I. S. 257.



Касцёл Маці Божай Ружанцовай у в. Солы.

## в. Сталовічы,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1907—11 гг. з цэглы на сродкі парафіян.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавая 1-вежавая базіліка з 3-граннай апсідай. Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты агульным 2-схільным дахам, расчлянёным трохвугольнымі слыхавымі вокнамі і закрытым над апсідай зубчатым шчыпцом з вуглавымі фіяламі. Дамінантай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з'яўляецца 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) званіца, завершаная спічастым шпілем. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі вокнамі-біфорыумамі і контрфорсамі ў прасценках і па вуглах сцен. Галоўны ўваход вырашаны магутным перспектыўным парталам і фланкіраваны 3-ступеньчатымі контрфорсамі, завершанымі высокімі фіяламі з «крабамі». Архітэктурная выразнасць архітэктурнага манумента дасягаецца багаццем краповак, профіляў і абломаў, выкананых цаглянай муроўкай, насычаным каларыстычным вырашэннем (ярка чырвоны фон адкрытай цаглянай муроўкі, светлыя бляшаныя пакрыцці, паліхромія бутавага цокаля).

Унутраная прастора 6 слупамі і перакінутымі праз іх стральчатымі аркадамі расчлянёна на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі стральчатымі скляпеннямі. Па баках прэсбітэрыя над сакрысціямі ўчынены хоры-эмпоры. Апсіду завяршае неагатычны 2-ярусны 3-часткавы алтар, завершаны спічастымі вімпергамі і вытанчанымі фіяламі. Мастацкую каштоўнасць маюць абразы 18—19 ст. «Св. Антоній» (палатно, алей), «Св. Юзаф», «Св. Альжбета», «Св. Фларыян», «Маці Божая Ларэтанская».

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 340—341.



Размалёўка сцяны касцёла Маці Божай Ружанцовай у в. Солы.



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Сталовічы.



Капліца святой Ядзвігі ў в. Стардворышча (Ясянішкі).



Касцёл Найсвяцейшай Троіцы ў в. Стараельня.



## в. Старадворышча (Ясянішкі),

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца святой Ядзвігі

На ўсход ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1935 г. з бутавага каменю.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным ў плане аб'ёмам з паўкруглай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у канічны. Архітэктурна-дэкаратыўны эфект дасягаецца маляўнічай паліхромнай бутавай муроўкай сцен, прарэзаных арачнымі аконнымі і ўваходным праёмамі.

## в. Стараельня,

Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У паўднёвай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1989 г. з дрэва на месцы касцёла 1729 г.

Помнік народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам. Да фасада далучана 2-ярусная шатровая званіца. Бакавыя гарызантальна ашаляваныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў разных ліштвах.

## в. Старое Сяло,

Зэльвенскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Святой Сям'і

Пабудавана ў 1997 г. з цэглы.

Твор архітэктуры постнеагатычнага стылю. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Над фасадам надбудавана 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца. Да апсіды далучана 5-гранная сакрысцiя пад вальмавым дахам. Уваход вырашаны стральчатым перспектыўным парталам, фланкіраваным і завершаным такой жа формы аконнымі праёмамі. Дзвюхгранны шчыт фасада і карнізы даху дэкарыраваны аркатурнымі фрызамі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі і 2-ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках.

## в. Старынкі,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца Хрыста Збавіцеля

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2000 г. з цэглы на месцы драўлянага храма 1752 г., знішчанага ў 1962 г.

Вырашана прамавугольным у плане пад 2-схільным дахам аб'ёмам, да якога з франтальнага боку далучана прысадзістая 4-гранная званіца, накрытая пакатым 4-схільным дахам з шатровай сігнатуркай у завяршэнні. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.



Капліца Хрыста Збавіцеля ў в. Старынкі Валожынскага раёна.

## в. Старынкі,

Дзяржынскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

У заходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1836 г. з цэглы па фундацыі мясцовага землеўладальніка А.Ленскага. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. На франтальным фасадзе выступае 2-калонны з бакавымі антамі порцік з трохвугольным франтонам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках, апяразаны магутным антаблементам.



Касцёл у в. Старынкі Дзяржынскага раёна.

## в. Старыя Васілішкі,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, у акружжы бутавай агароджы з брамай. Пабудаваны ў 1897—1903 гг. з чырвонай цэглы паводле праекта польскага архітэктара К.Вайцяхоўскага на ахвяраванні парафіян (імёны выбіты на вапнавых блоках цокаля)[1]. Асвячоны ў 1905 г. На 1932 г. налічваў 4992 вернікі. Закрыты ў 1953 г., вернуты парафіянам у 1988 г.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашаны паводле канону 3-нефавай 2-вежавай базілікі. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі пануе высокі і працяглы цэнтральны неф з 5-граннай апсідай, над якой стромкі 2-схільны дах пераходзіць у канічны. Дынамічны вертыкалізм 3-часткавага фасада дасягаецца 3-яруснымі (васьмярык на 2 чацверыках) бакавымі вежамі са спічастымі шатрамі-шпілямі, каскадам вуглавых лапатак, рытмам стральчатых праёмаў, востраканцовымі вімпергамі 3 уваходных парталаў і акном-ружай па цэнтры. Над парталамі ў стральчатых супрапортах скульптурна-барэльефныя керамічныя пано. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі, лапаткамі і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках.

У інтэр'еры прастора расчлянёна магутнымі слупамі на 3 нефы і накрыта высокімі стральчатымі скляпеннямі на падпружных арках. Над нартэксам галерэя хораў з арганам. На 8 міжнефавых слупах



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Старыя Васілішкі.



Алтар касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Старыя Васілішкі.



Капліца-грот у касцёле святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Старыя Васілішкі.

кансольна ўстаноўлены скульптуры апосталаў. На бакавых барэльефных пано-стацыях і аконных вітражах адлюстраваны Крыжовы шлях Хрыста. Галоўны, 2 кулісныя і 2 бакавыя драўляныя алтары, амбон, лавы для вернікаў выкананы ў вытанчаных формах готыкі. У левым нефе створана к а п л і ц а - г р о т — выдатны твор мастацтва мадэрна. У стварэнні высокамастацкага асяроддзя храма выкарыстаны вітражы, фрэскі, скульптура, чаканка, разьба па дрэве, кераміка.

[1] Katalog rysunków architektonicznych z Muzeum narodowego w Warszawie. Warszawa, 1970. Seria A. T. VI. S. 166; Joza St. Architekci i budowniczowie w Polsce. Warszawa, 1954. S. 237.



Капліца ў г. Стоўбцы.

## г. Стоўбцы

Мінскай вобласці

### Капліца

У цэнтры горада, на каталіцкіх могілках. Узведзена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 4-гранным слупом пад шатровым дашкам. Грані крапаваны вуглавымі пілястрамі. На франтальнай грані была ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

### Капліца святога Казіміра

У паўночнай частцы горада. Пабудаваны ў 1990-я гг. з цэглы.

Твор сучаснай авангарднай архітэктуры. Вырашаны прамавугольным у плане 3-павярховым аб'ёмам з 2-гранным франтальным фасадам. Яго вуглавая частка вырашана 2-яруснай стральчатай ар-



Капліца святога Казіміра ў г. Стоўбцы.

кай з прамавугольным уваходным праёмамі і высокім стральчатым акном-біфорыумам у завяршэнні. Бакавыя грані расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Струбніца (Плябанаўцы),

Мастоўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

За 1 км на поўнач ад в. Струбніца. Пабудаваны ў 1740 г. з дрэва, у 1798—99 гг. выкананы дэкор інтэр'ера. На касцельных могілках у 1856 г. з бутавага каменю ўзведзены 2-ярусная шатровая званіца і мураваная брама. У 1877 г. гродзенскі генерал-губернатар Зурыеў дазволіў хросныя хады ў межах агароджы касцёла[1]. На 1997 г. налічвалася 1412 парафіян.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Струбніца (Плябанаўцы).

Помнік народнага дойлідства з рысамі барока. Вырашаны прамавугольным зрубам з гранёнай апсідай. Дах на франтальным фасадзе выступае трохвугольным франтонам, пакрытым фігурнай шалёўкай і завершаным 2-яруснай (васьмярык на чацверыку) шатровай званічкай. Верагодна, фасад фланкіравалі вежы — па цэнтры ён вылучаны нішай, прарэзаны над уваходам здвоеным лучковым аконным праёмам. На галоўным фасадзе былі 2 купальныя вежы (не захаваліся). Іх высунутыя наперад асновы яшчэ ствараюць на фасадзе лоджыю з уваходным праёмам і шырокім акном над ім, што асвятляе галерэю хораў унутры храма. Прыкметы стылю праяўляюцца і ў плаўнай форме агульнага даху, 2-схільнага над працяглым зрубам і гранёнага над 5-сценным прырубам апсіды. Маляўнічы элемент асіметрыі ў сілуэт храма і яго аб'ёмную поліганальнасць уносіць шатровае пакрыццё 8-граннай сакрысціі і 1-схільнае — прамавугольнай. Сцены традыцыйна ашаляваны і ўмацаваны брусамі-сцяжкамі ў прасценках шырокіх парных лучковых вокнаў. Франтон галоўнага фасада завяршае чацверыковая шатровая вежачка.

У інтэр'еры 3 разныя алтары арганічна ўпісаны ў канфігурацыю залы і апсіды, што хавае плоскасную архітэктуру інтэр'ера з яго шаляванымі сценамі і столлю. Асабліва гэтаму садзейнічае пластычная насычанасць алтароў барочнай дынамічнай архітэктонікай і скульптурна-арнаментальнай пластыкай. Галоўны алтар у глыбіні апсіды, яго скульптурна-арнаментальны антураж акаймоўвае алтарны абраз «Каранаванне Марыі» (1753, мастак К.Бінеўскі). Па баках — скульптурныя выявы (вышыня 1,5 м) крылатых анёлаў, якія разам з магутнымі звівамі валютаў у аснове і галоўкамі крылатых серафімаў у завершы нясуць вытанчана прафіляваны і крапаваны антаблемент. Над ім пад самую столь узносіцца арнаментальна-скульптурны шчыт з абразам-ронда «Архангел Міхаіл» у цэнтры, якую акаймоўваюць клубы воблакаў і пуцці. Эстэтычны эфект павялічваецца контражурным асвятленнем бакавымі вокнамі апсіды, што ставарае актыўную гульню святлацені, блікаванне пазалоты і мармуровую празрыстасць формаў. Разны дэкор невысокага пастамента алтара таксама пазалочаны. На адкрытыя арачным прасветам хоры ўзняты арган. Сцены размаляваны арнаментальным фрызам, сюжэтным жывапісам у тэхніцы грызайль.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 78, воп. 1, спр. 155, арк. 1.

## в. Студзянец,

Лагойскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў зруйнаваным стане.



Інтэр'ер касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў в. Струбніца (Плябанаўцы).



Твор архітэктуры класіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам з паўкруглай апсідай. Фасад быў прарэзаны прамавугольным уваходным праёмам, фланкіраваным арачнымі экседрамі. Бакавыя фасады праразалі 2 прамавугольныя аконныя праёмы.



Капліца ў в. Студзянец.

## в. Суботнікі,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога Уладзіслава

У цэнтры вёскі, у акружжы бутавай агароджы з брамай. Пабудаваны ў 1904—07 гг. з чырвонай цэглы па фундацыі графа У.Умястоўскага. Часткова пашкоджаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1947 г. адноўлены. На 1997 г. налічвалася каля 2500 парафіян.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём накрыты 2-схільным дахам з вытанчанай сігнатуркай над прэсбітэрыем, 5-гранная апсіда — вальмавым, сіметрычныя сакрысціі — 2-схільнымі дахамі. Масіўная 3-ярусная вежа на фасадзе завершана высокім гранёным шатром. Сцены рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. Па баках вежы — невялікія гранёныя аб'ёмы лесвічных клетак.



Касцёл святога Уладзіслава ў в. Суботнікі.

Унутраная прастора храма падзелена аркадамі на магутных слупах на 3 нефы, перакрытыя стральчатымі скляпеннямі на распалубках і падпружных арках, апсіда перакрыта стральчатай конхай і адкрыта шырокім стральчатым арачным прасветам. Над нартэксам на трохпралётнай стральчатай аркадзе размешчана антрэсоль хораў з гатычнай балюстрадай. Драўляныя цэнтральны і бакавыя алтары, навешаны на правы пілон прэсбітэрыя амбон, арган вырашаны ў стылі неаготыкі. Панэльна-арнаментальны роспіс выканаНы ў стылі неаракако. Уздоўж сцен навешаны пано-стацыі на сюжэты Крыжовага шляху. У інтэр'еры шмат мемарыяльных дошак у гонар прадстаўнікоў рода Умястоўскіх. Пад касцёлам вялізная скляпеністая крыпта, падпружныя аркі якой пакрыты мазаічнымі пано; у склепе труны роду Уладзіслава Умястоўскага — фундатара касцёла.




Мемарыяльныя дошкі графаў Умястоўскіх у касцёле святога Уладзіслава ў в. Суботнікі.



## в. Сула,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з цэглы і бутавага каменю як пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Твор архітэктуры класіцызму. Вырашана круглай купальнай ратондай, да якой далучаны прама-



Капліца ў в. Сула.



Званіца ў в. Сурвілішкі.

вугольны аб'ём склепа пад 2-схільным пакрыццём. Фасад вырашаны паўкруглай каланадай-аркадай.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 164.

## в. Сурвілішкі,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Званіца

На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. Пастаўлена ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю каля драўлянага Троіцкага касцёла 2-й палавіны 18 ст. (не захаваўся). Вырашана 4-гранным 2-ярусным аб'ёмам (2-і ярус драўляны) з шатровым пакрыццём. Грані прарэзаны лучковымі аконнымі і ўваходным праёмамі.

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

На паўднёвай ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1993 г. з дрэва, у пачатку 21 ст. абкладзены цэглай. На 1997 г. налічвалася каля 1400 парафіян.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Сурвілішкі.

## в. Сцешыцы,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Перамянення Гасподняга

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1993—96 гг. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане падоўжным аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які на фасадзе завершаны драўлянай трох'яруснай 4-граннай шатровай званіцай. З тыльнага боку далучана ніжэйшая квадратная ў плане апсіда пад вальмавым пакрыццём. Элемент асіметрыі ў агульную кампазіцыю ўносіць прыбудова бакавой квадратнай сакрысціі пад 2-схільным пакрыццём. Плоскасныя фасады рас-



Касцёл Перамянення Гасподняга ў в. Сцешыцы.


Капліца святога архангела Міхаіла ў в. Сцяфанава.


Капліца ў в. Сэрвач.


Капліца святога Лаўрэнція ў в. Сялец.



члянёны арачнымі аконнымі праёмамі з руставанымі архівольтамі. Унутры зала перакрыта лучковай драўлянай столлю, апсіда адкрыта арачным прасветам. Уздоўж сцен развешаны пано-стацыі «Крыжовы шлях Хрыста».

## в. Сцяфанава,
Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца святога архангела Міхаіла

На ўсход ад вёскі. Пабудавана ў 1750 г. з дрэва[1], рэканструявана ў пачатку 20 ст., адноўлена ў 1990-я гг.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам з 3-граннай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Да грані апсіды дыяганальна далучана прамавугольная ў плане нізкая сакрысція пад 2-схільным пакрыццём. Над усечаным трохвугольным франтонам фасада ўзведзена 8-гранная каркасная шатровая званічка. Гарызантальна ашаляваныя фасады прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі.

[1] Rzymskokatolicka diecezja Witebska (Białorus). Witebsk, 2004. S. 170.

## в. Сэрвач,
Карэліцкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, каля дарогі на в. Каўшоўка. Пабудавана ў 1851 г. з цэглы і бутавага каменю як родавая пахавальня ў сядзібе Несялоўскіх. З'яўлялася філіяльнай пры касцёле Святой Ганны ў в. Варонча[1]. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Вырашана 8-граннай ратондай пад шатровым дахам (не захаваўся). На фоне паліхромнай бутавай муроўкі вылучаюцца атынкаваныя ліштвы стральчатых аконных і ўваходнага праёмаў, вуглавыя лапаткі. З тыльнага боку да будынка далучаны склеп-пахавальня ў плане няправільнай 6-граннай формы з 8 нішамі для пахаванняў. Памяшканне перакрыта плоскай столлю па металічных бэльках.

## в. Сялец,
Бярозаўскі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца святога Лаўрэнція

На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад

2-схільным дахам (не захаваўся). Сцены прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі ў рэльефных ліштвах, крапаваны па вуглах руставанымі лапаткамі.

## Касцёл святога Аляксея

У цэнтры вёскі, на былой кірмашовай плошчы мястэчка. Пабудаваны ў 1912 г. з цэглы паводле праекта гродзенскага губернскага архітэктара В.А.Срока[1].

Помнік архітэктуры неаготыкі. Трохнефавая базіліка сіметрычна-восевай кампазіцыі. У сілуэце будынка дамінуе трох'ярусная шатровая вежа-званіца (васьмярык на 2 чацверыках) цяжкіх прысадзістых прапорцый. Бакавыя нізкія з 1-схільнымі дахамі прыдзелы кампазіцыйна аб'ядноўваюць званіцу з асноўным аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным над алтарнай часткай плоскай сігнатуркай. Ярусы званіцы па восі сіметрыі прарэзаны стральчатымі ўваходным парталам і акном-ружай над ім, акном-трыфорыумам на 2-м ярусе і арачным прасветам наверсе. Раўнамерны рытм бакавых фасадаў ствараецца стральчатымі вокнамі-біфорыумамі і 2-ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. Пяцігранная апсіда фланкіравана нізкімі сакрысціямі з самастойнымі ўваходамі.

Прастора інтэр'ера 2 парамі магутных слупоў расчлянёна на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках. Над нартэксам хоры, злучаныя лесвіцай з бакавым прыдзелам.


Касцёл святога Аляксея ў в. Сялец.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1018, арк. 114; ф. 8, воп. 2, спр. 1825, арк. 3—9.

# в. Сялявічы,
Слонімскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл святой Барбары

У паўночнай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1819 г. з дрэва. На 1997 г. налічвалася 150 парафіян.

Помнік народнага дойлідства. Асноўны зруб прамавугольны ў плане з трохграннай алтарнай часткай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Да алтарнай часткі па баках далучаны ніжэйшыя прамавугольныя ў плане сакрысціі пад 2-схільнымі пакрыццямі і павышаным аб'ёмам нартэкса з самастойным 2-схільным гонтавым дахам, які завершаны 2-яруснай васмерыковай шатровай вежай. Двухсхільны дах над асноўным аб'ёмам пераходзіць у вальмы над апсідай. Да бакавых фасадаў прырубленыя прамавугольныя сакрысціі пад самастойнымі 2-схільнымі дахамі. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах.

Унутры зала перакрыта плоскай столлю. Неабарочны алтар вырашаны 4-калонным порцікам з крапаваным франтонам, упрыгожаны драўлянымі скульптурамі анёлаў. Над уваходам на 2 слупах хоры, пры правай сакрысціі навісае амбон.

# в. Сяўрукі,
Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл

Пабудаваны ў канцы 20 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які на фасадзе завершаны трох'ярусным фігурным франтонам (неарэнесансная інтэрпрэтацыя). Плоскасныя бакавыя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках. Арачны ўваходны праём афармлены накладным 2-гранным парталам, фланкіраваным наверсе арачнымі аконнымі праёмамі.





Касцёл святой Барбары ў в. Сялявічы.



Касцёл святога Антонія Падуанскага ў г. Талачын.



Касцёл Раждажства Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Трабы.







# Т

## г. Талачын

Віцебскай вобласці

### Касцёл святога Антонія Падуанскага

У цэнтры горада. Пабудаваны ў 1853 г. з цэглы ў гонар перамогі ў Айчыннай вайне 1812 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны прыстасаваны пад клуб, перададзены вернікам у 1993 г., адноўлены. Побач з храмам да 1960-х гг. стаяла 3-ярусная званіца.

Помнік архітэктуры класіцызму з элементамі рэтраготыкі. Прамавугольны ў плане будынак пад 2-схільным дахам, з тыльнага боку далучана паўкруглая апсіда пад конхавым пакрыццём. Да руставанага фасада далучаны нізкі прамавугольны аб'ём нартэкса пад 2-схільным пакрыццём. Вылучаныя пілястрамі бакавыя праслы фасада крапаваны стральчатымі нішамі-экседрамі. Бакавыя фасады расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках, апяразаны прафіляваным карнізам.

Зала храма 2 парамі магутных пілонаў падзелена на 3 нефы, цэнтральны з якіх паглыблены паўкруглай апсідай. Пры ўваходзе вылучаны бакавыя каморы, над якімі галерэя хораў.

## в. Трабы,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Раждажства Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У паўднёвай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1900—05 гг. з цэглы намаганнямі ксяндза Паўла Сухоцкага на месцы папярэдняга драўлянага храма. На 1997 г. налічвалася 2850 парафіян.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Двюхвежавы прамавугольны ў плане храм з 5-граннай апсідай і невялікім трансептам. Асноўны аб'ём накрыты 2-схільным дахам з сігнатуркай над прэсбітэрыем, трох'ярусныя вежы — высокімі шатрамі. Крылы трансепта прылягаюць адначасова да асноўнага аб'ёму і апсіды, накрыты 2-схільнымі дахамі і з трох бакоў завершаны 2-граннымі шчытамі. Сцены рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі з гатычнымі пераплётамі і контрфорсамі ў прасценках. У дэкаратыўнай апрацоўцы выкарыстаны аркатурныя і шырынкавыя фрызы, пінаклі.

Унутраная прастора падзелена слупамі на 3 нефы, цэнтральны з якіх перакрыты стральчатым скляпеннем з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі. Над уваходам — хоры. Абразы пачатку 19 ст. «Маці Божая Вастрабрамская», «Маці Божая з дзіцем».

## в. Тракелі,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1809 г. з дрэва на месцы касцёла 1740 г. У 1928 г. адрамантаваны. Закрыты ў 1961 г., вернуты парафіянам у 1975 г. З 1994 г. — дыяцэзіяльны Марыйны санктуарый. На 1997 г. налічвалася 2500 парафіян. Побач з кас-



Інтэр'ер касцёла Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Тракелі.



Капліца-пахавальня Б.Шукевіч каля касцёла Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Тракелі.

цёлам пастаўлена драўляная 2-ярусная каркасная званіца.

Помнік народнага дойлідства з рысамі барока і класіцызму. Будынак складаецца з аднолькавых па вышыні прамавугольных зрубаў нартэкса, малітоўнай залы і апсіды з бакавымі нізкімі сакрысціямі, якія скампанаваны ў выцягнуты па падоўжнай восі манументальны аб'ём, накрыты агульным вальмавым дахам. Шатровы дах нартэкса завершаны цыбулепадобным купалам на гранёным барабане. Вертыкальна ашаляваныя фасады расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

Унутры зала перакрыта плоскай столлю, апсіда — цыліндрычным скляпеннем. Над уваходам хоры на 4 калонках, на якіх устаноўлены арган з элементамі ракайльнага дэкору. Драўляны алтар выкананы ў стылі неабарока. Шануецца цудадзейны абраз 16 ст. «Маці Божая Тракельская» (вывезены з Вільні ў 1595).

У кутку касцельнай агароджы ў пачатку 19 ст. з цэглы пабудавана капліца-пахавальня Б.Шукевіч. Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 8-граннай ратондай пад шатровым дахам. Бакавыя грані прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, франтальная — уваходным.



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Тракелі.

## в. Траццякі,

Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Пастаўлена ў 1-й палавіне 20 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольнай на прызматычным цокалі стэлай з 2-гранным верхам. Франтальная плоскасць па цэнтры крапавана прамавугольнай нішай з абразом.

## в. Трылесіна,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці



Капліца ў в. Трылесіна.



Капліца Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Тумашы.

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана кубападобным, узнятым на бутавы цокаль аб'ёмам пад сферычным пакрыццём, завершаным мураваным крыжом.

## в. Тумашы,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана квадратным зрубам малітоўнай залы і вузейшым прырубам прамавугольнай апсіды, накрытых агульным 2-схільным дахам. Вертыкальна ашаляваныя фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі і ўваходным праёмамі ў разных ліштвах.



Капліца ў в. Угляны.

## Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з цэглы.

Твор народнай творчасці. Вырашана прамавугольнай стэлай з фігурным завяршэннем. На франтальнай грані зашклёная ніша са скульптурай Маці Божай. З тыльнага боку пастаўлены высокі драўляны крыж з металічным укрыжаваннем.



# У

## в. Угляны,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў 2-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю.

Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным аб'ёмам пад шатровым пакрыццём. Грані крапаваны лучковымі зашклёнымі нішамі з абразкамі.

## в. Удзела,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з сілікатнай цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі і ўваходным праёмамі. Над трохвугольным франтонам фасада 4-гранны барабан з крыжом.

## Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар францысканцаў

У цэнтры вёскі. Касцёл пабудаваны ў 1766—91 гг. з цэглы на месцы драўлянага храма 1643 г., фундаванага разам з кляштарам францысканцаў Язэпам Корсакам[1]. Комплекс уключаў касцёл, жылы комплекс, гаспадарчыя пабудовы, цагляную агароджу з брамай-званіцай. Будаўніцтва мураванага жылога корпуса скончана ў 1805 г. (гарэў у 1809). Кляштар скасаваны ў 1851 г., касцёл пераведзены ў прыходскі. У 1948 г. закрыты, вернуты парафіянам і рэстаўрыраваны ў 1989 г. У 2002 г. на тэрыторыі касцёла адкрыты помнік св. Максіміліяну Кольбе. Адлюстраваны на фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.[2]

К а с ц ё л — помнік архітэктуры з рысамі барока і класіцызму. Узорам для яго стварэння з'явілася базыльянская царква ў Беразвеччы. Прамавугольная ў плане трохнефавая 2-вежавая базіліка з паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. У 1809 г. фасад пазбаўлены вежаў, у 1837 г. фігурны шчыт заменены трохвугольным франтонам. Нефы маюць аднолькавую вышыню і накрыты агульным 2-схільным дахам. Хвалістая плоскасць фасада расчлянёна 2-граннымі пілонамі і калонамі, квадратнымі плакеткамі, арачнымі экседрамі. Бакавыя і алтарны фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках.

Унутраная прастора падзелена на нефы 6 магутнымі 4-граннымі пілонамі і перакрыта цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках і распалубках. Над прытворам размешчаны выгнутыя хоры. Барочнае афармленне інтэр'ера ў 1809 г. зменена на класіцыстычнае. Сцены апяразаны шырокім карнізным поясам, крапаваны іанічнымі канелюраванымі пілястрамі. Пад храмам крыпта (пахаванні 42 францысканцаў).

К л я ш т а р н ы к о р п у с вырашаны 2-павярховым П-падобным у плане будынкам, які быў злучаны з касцёлам калідорам (захавалася адно крыло, іншыя разабраны ў 1882). Перад галоўным фасадам касцёла па восі цэнтральнага ўвахода ў 2-й палавіне 19 ст. пабудавана з цэглы квадратная ў плане 2-ярусная б р а м а - з в а н і ц а, вырашаная ў формах класіцызму.

---

[1] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioccesis vilnensis. Vilnae, 1936. S. 54; Morelowski M., Tochterman. Przewodnik turystyczny po województwie Wileńskiem. Wilno, 1938—39. Cz. 1—2. S. 298.

[2] Кулагін А.М., Герасімовіч В.А. Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках Яна Балзункевіча. Пачатак XX стагоддзя. 2-е выд. Мн., 2001. С. 161.



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар францысканцаў у в. Удзела.



Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар францысканцаў у в. Удзела. Кляштарны корпус.

## в. Ужанка,

Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці



Капліца Маці Божай Вастрабрамскай у в. Ужанка.



Інтэр'ер касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Удзела.





Інтэр'ер капліцы Маці Божай Вастрабрамскай у в. Ужанка.



Касцёл Адшукання Святога Крыжа ў г.п. Узда.



Капліца ў г.п. Узда.

## Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

Пабудавана ў 18 ст., рэканструявана ў 19 ст., адноўлена ў канцы 20 ст.

Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да алтарнай часткі далучаны ніжэйшыя цыліндрычныя апсіда і сакрысція, накрытыя канічнымі дахамі.

Плоскасныя бакавыя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

Унутры зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, апсіда — конхай. Пры ўваходзе хоры.

# г.п. Узда

Мінскай вобласці

## Капліца

На заходняй ускраіне гарадскога пасёлка, на могілках. Пабудавана ў 1800 г. з цэглы і бутавага каменю як родавая пахавальня ўладальнікаў маёнтка Кухцічы Завішаў[1].

Збудаванне нагадвае егіпецкую піраміду. У цокалі мае нізкі лучковы праём уваход і стральчатае акенца склепа. У верхняй частцы невялікае патаемнае памяшканне-малельня. Сутарэнне перакрыта стральчатым скляпеннем, па баках у 3 рады чаргуюцца нішы для пахаванняў. У тарцы склепа 3-гранны подыум і ніша для алтара. Сцены склепа атынкаваны і расшыты пад руст.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 158.

## Касцёл Адшукання Святога Крыжа

На Чырвонай плошчы. Пабудаваны ў 1798 г. з дрэва генералам рускай арміі Казімірам Завішам[1]. У пачатку 20 ст. прыбудавана мураваная 3-гранная апсіда ў неагатычным стылі. Храм абкружаны мураванай агароджай з брамай. У 1842 г. налічвалася 3248 парафіян. Цяпер у будынку касцёла Дом культуры.

Помнік архітэктуры класіцызму. Прамавугольны ў плане будынак пад пакатым 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Фасад вырашаны 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам. Калонам порціка на фасадзе адпавядаюць прысценныя паўкалоны на высокіх цагляных базах. Уваход вырашаны шырокім прамавугольным парталам. У цэнтры бакавых фасадаў — рызаліты, завершаныя трохвугольнымі франтонамі. Прамавугольныя аконныя праёмы размешчаны ў 2 ярусы. У інтэр'еры слупы падзяляюць залу на 3 нефы. На алтарнай сцяне была нанесена ілюзорная выява алтара[2].

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa,1912. T.I. S. 200—201.

[2] Ignacy Borejko Chodźko. Diecezja Mińska około 1830 roku. I. Struktury parafialne. Opracował i wydał Marian Radwan. Lublin, 1998.

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У паўднёвай частцы гарадскога пасёлка, за касцёлам 18 ст. Пабудаваны ў пачатку 2000 г. з цэглы паводле тыпавога праекта «Рэнавабіс».

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Плоскасны фасад завершаны 2-гранным шчыпцом, па восі сіметрыі прарэзаны аб'яднанымі агульнай высокай аркай прамавугольнымі ўваходным і аконным праёмамі, арачным праёмам над імі. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, 2-гранныя ліштвы якіх прагразаюць карніз даху.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г.п. Узда.

# г.п. Ула,

Бешанковіцкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар дамініканцаў

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Зах. Дзвіна, пры ўпадзенні ў яе р. Ула. Пабудаваны ў 1853—64 гг. з цэглы намаганнямі ксяндза Мотуза (вёў набажэнствы на беларускай мове[1]).

У 1669 г. тут, на месцы зруйнаванага старажытнага замка, каралеўскі сакратар Яўстахій Лукомскі і велікамірскі войскі Браніслаў Прысецкі збудавалі драўляны касцёл Св. Духа для манахаў-дамініканцаў[2]. Адзін з нашчадкаў Прысецкага ў 1782 г. адабраў маёнтак у дамініканцаў, якія пакінулі Улу праз два гады. У 1800 г. Ігнацій Рэут аднавіў касцёл і парафію. Існуючы храм рамантаваўся ў 1882 і 1914 гг., акаймаваны агароджай з трохслуповай брамай. На 1913 г. налічвалася 4860 парафіян. У 1935 г. забраны пад склад, пасля Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў паўзруйнаваным стане (знішчаны дах, столь, вежы). У 1999 г. рэстаўрыраваны і асвячоны. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1875—76 гг.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Двухвежавы трохнефавы базілікальны храм з паўкруглай апсідай мае лапідарную кампазіцыйную пабудову — прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам. Плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны вялікімі арачнымі аконнымі праёмамі ў прафіляваных ліштвах, апяразаны тонкапрафіляваным карнізам. Франтальны фасад быў фланкіраваны 2-яруснымі 4-граннымі вежамі з цыліндрычнымі сігнатуркамі (не захаваліся), расчлянёны на 3 праслы шырокімі лапаткамі. Уваход вырашаны прамавугольным праёмам пад паўкруглым сандрыкам і круглай люкарнай над ім (асвятляе хоры).

Унутраная прастора 4 магутнымі крыжовымі ў сячэнні слупамі і перакінутымі праз іх аркамі падзелена на 3 нефы, цэнтральны з якіх быў перакрыты плоскай столлю, бакавыя вузкія — крыжовымі скляпеннямі, апсіда — конхай. Апсіда вылучана шырокім арачным прасветам, у ёй на высокім п'едэстале стаяў 4-калонны алтар з разарваным лучко-



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар дамініканцаў у г.п. Ула. Малюнак Н.Орды.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар дамініканцаў у г.п. Ула. Сучасны выгляд.

вым франтонам. Дзве цэнтральныя калоны неслі на сабе фігуры святых, 2 скульптуры стаялі паміж бакавымі калонамі. Два разныя алтары ў стылі неаготыкі былі ўстаноўлены па баках прэсбітэрыя. Алтарная сцяна раскрапавана прамавугольнай і арачнымі нішамі, бакавыя — крапаваны падаконнымі прамавугольнымі нішамі. Над уваходам на трайной аркадзе галерэя хораў.

[1] Васільева А.М. Да пытання аб узнікненні беларускага каталіцкага руху // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. 1995. № 2. С. 10—13.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 415—420.

## в. Ураджайная,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з цэглы. Твор народнай творчасці. Вырашаны невысокай 4-граннай тумбай пад паўкруглым завяршэннем. На франтальнай грані прамавугольная зашклёная ніша для абраза. З тыльнага боку пастаўлены драўляны крыж.



Капліца ў в. Ураджайная.

### Касцёл святога Іллі

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 2005 г. з бутавага каменю і цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. У фасад урэзана 4-гранная вежа-званіца, завершаная спічастым шатром. Трансепт на бакавых фасадах адзначаны кампазіцыйнымі трохвугольнымі франтонамі. Паліхромная бутавая муроўка сцен расчлянёна арачнымі аконнымі праёмамі, выкладзенымі цэглай гарызантальнымі цягамі і прасценачнымі лапаткамі.

## в. Урбаны,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл святой Тэрэзы

Пабудаваны ў 2002 г. з цэглы.

Твор сучаснай авангарднай архітэктуры, у якой адчуваецца ўплыў раманскага хрысціянскага дойлідства. Дамінантай складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з'яўляецца вуглавая 4-гранная



Касцёл святога Іллі ў в. Ураджайная.

2-ярусная шатровая вежа-званіца, у ніжнім ярусе якой учынены ўваход у храм, верхні прарэзаны арачнымі праёмамі-трыфорыямі. Далучаныя да яе 2-павярховыя прамавугольныя ў плане адміністрацыйна-жылыя карпусы накрыты 2-схільнымі дахамі, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Урцішкі,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У паўднёва-заходняй частцы вёскі. Пастаўлена ў 1930-я гг. з дрэва, адноўлена ў канцы 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Вырашана цэнтрычным 4-гранным аб'ёмам, завершаным шатровым дахам. Вертыкальна ашаляваны франтальны фасад прарэзаны шырокім прамавугольным аконным праёмам.



Капліца ў в. Урцішкі.

### Капліца

На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пастаўлена ў 1930-я гг. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана каркасна-дашчаным 4-гранным шатровым павільёнам, раскрытым з франтальнага боку шырокім прасветам. Унутры на тарцовай сцяне драўляны крыж са скульптурай «Укрыжаванне» (народная разьба па дрэве).



Капліца ў в. Урцішкі.

### Капліца Маці Божай Міласэрнай

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1926 г. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане з 2-граннай апсідай зрубам пад 2-схільным дахам, трохвугольны франтон якога на фасадзе завершаны 4-граннай шатровай сігнатуркай. Бакавыя гарызантальна ашаляваныя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Малітоўная зала перакрыта плоскай столлю.



Капліца Маці Божай Міласэрнай у в. Урцішкі.

## в. Усава,

Капыльскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1830-я гг. з цэглы на сродкі ўладальніка маёнтка Станіслава Рэйтана.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, закрытым на фасадзе трохвугольным франтонам з паўкруглай люкарнай па цэнтры. Плоскасныя фасады прарэзаны арачнымі аконнымі і прамавугольным уваходным праёмамі. Унутры памяшканне перакрыта плоскай столлю,



Капліца ў в. Усава.

сцены крапаваны пілястрамі, апяразаны ў цокальнай частцы прафіляванай цягай.

## в. Уселюб,

Навагрудскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках за касцёлам. Пабудавана ў 1837 г. з цэглы як родавая пахавальня ўладальнікаў маёнтка О'Руркаў.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Квадратны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам на галоўным фасадзе вырашаны тасканскім 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам, крапаваным паўкалонкамі. Уваходны і бакавыя адзінарныя аконныя праёмы маюць лучковыя перамычкі.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Уселюб.

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1433 (1489?) г. па фундацыі канюшага Вялікага княства Літоўскага Яна Няміры (паводле інвентару 1849 — князя Андрэя Ўсялюбскага) і асвячоны ў гонар св. Андрэя (нябеснага патрона фундатара)[1]. З 1576 па 1642 г. аддадзены Мікалаем Радзівілам пад кальвінскі збор[2]. Пасля зноў пераасвячоны ў касцёл св. Казіміра. Касцёл і фундуш вернуты католікам паводле рашэння трыбунала Рэчы Паспалітай, перад якім хадайнічаў віленскі біскуп Абрагам Война. Ён прызначыў у касцёл святаром Лаўрэнція Мазарскага. Праўнук Няміры Станіслаў Давойна фундаваў для касцёла 2 алтары св. Тройцы і св. Георгія. Касцёл неаднойчы перабудоўваўся на працягу 16—18 ст., у 2-й палавіне 19 ст. да галоўнага фасада далучана трох'ярусная вежа. У 1986 г. касцёл знішчаны пажарам. У 1988 г. адноўлены, асвячоны 14.9.1991 г. біскупам Т.Кандратовічам. Прыпісная капліца ў в. Верасква.

Помнік архітэктуры готыкі[3]. Набліжаны да квадрата ў плане асноўны аб'ём (23,5 × 13 м) накрыты 2-схільным дахам з заломам, які ўступам пераходзіць у пластычнае пакрыццё гранёнай апсіды (надбудавана на мяжы 16—17 ст.), да яе далучаны 2 сакрысціі. У 1897 г. да галоўнага фасада прыбудавана трох'ярусная шатровая вежа-званіца (васьмярык на 2 чацверыках), вырашаная ў стылі рэтраспектыўнай готыкі. Магутныя сцены змураваны ў гатычнай канструкцыйнай тэхніцы з гладкай цэглы на фундаменце, выкладзеным з валуноў, былі ўмацаваны контрфорсамі (захаваліся на галоўным фасадзе). Плоскасць галоўнага фасада завершана спічастым крапаваным нішамі шчыпцом.



Капліца ў в. Уселюб.

Унутры памяшканні былі перакрыты гатычнымі зорчатымі скляпеннямі (абваліліся ў час пажару ў 2-й палове 16 ст.) і асвятляліся праз стральчатыя вокны. Апсіда адкрываецца ў залу шырокім арачным прасветам. Першапачаткова зала была перак-



Інтэр'ер касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў в. Усе-люб©.

рыта мураваным скляпеннем. У тоўшчы сцяны галоўнага фасада зроблены вітыя ўсходы на хоры і паддашак.

[1] Baliński M., Lipiński T. Starozytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. Warszawa, 1886. T. 4. S. 659.

[2] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 30—31.

[3] Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 188. T. . S. 65; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 331.

## г.п. Ушачы
Віцебскай вобласці

### Касцёл святога Лаўрэнція

У паўднёвай частцы гарадскога пасёлка. Пабудаваны ў 1908—13 гг. з цэглы. Сродкі былі вылучаны мясцовымі абывацелямі Рэутам (14 тыс. руб.), Івашэўскай і ўладамі (9 тыс. руб.)[1]. Зачынены ў 1932 г., адноўлены ў 2001—04 гг.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Шчыт фасада і дах над алтарнай часткай завершаны гранёнымі фіяламі. Трохчасткавае чляненне фасада адзначана трыма ўваходнымі стральчатымі



Касцёл святога Лаўрэнція ў г.п. Ушачы.

парталамі, завершанымі спічастымі вімпергамі. Архітэктура храма заснавана на рэгулярным рытме стральчатых аконных праёмаў і прасценачных ступеньчатых контрфорсаў.

[1] Gozdawa M. Szkoły w woj. Połockiem w XVIII w. po pierwszym kraju rozbiorze // Kwartalnik litewski. 1910. N 6. T. 2. S. 71—74; Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 413—414.



# Ф

## в. Фашчаўка,
Шклоўскі раён
Магілёўскай вобласці



Капліца ў в. Фашчаўка.



## Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пастаўлена ў канцы 1812 г. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана калонай, узнятай на 2-ярусны 4-гранны п'едэстал і завершанай драўлянай скульптурай (захавалася часткова). На франтальнай грані ніжняга яруса лучковая ніша для абраза.



# X



Капліца ў в. Халаімаўшчына.

## в. Халаімаўшчына,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці



Кляштар дамініканцаў у г.п. Халопенічы.

## Капліца

На могілках. Пастаўлена ў пачатку 21 ст. з цэглы на месцы драўлянай капліцы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана кампактным прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе крыжом.

## г.п. Халопенічы,

Крупскі раён
Мінскай вобласці

## Кляштар дамініканцаў

У цэнтры гарадскога пасёлка. Кляштар заснаваны ў 1703 г. старостам навасельскім Марціянам Дамінікам Халецкім і яго жонкай Канстанцыяй (з Сакалоўскіх). Драўляны кляштарны комплекс уключаў касцёл, брацкі корпус на 12 келляў, шпіталь, парафіяльную школу, капліцу, шэраг гаспадарчых пабудоў; быў акаймаваны мураванай агароджай з брамай і званіцай. Мураваны жылы корпус пабудаваны ў 1798 г., новы драўляны касцёл Святога Крыжа ў 1750 г. Царскім указам ад 12.6.1832 г. кляштар скасаваны, касцёл згарэў у 1844 г. У 1904 г. пад новы касцёл было адведзена працяглае крыло жылога будынка (зняты міжпавярховыя перакрыцці, дабудавана 3-гранная апсіда, над дахам узведзена сігнатурка). У 1930-я гг. выкарыстоўваўся пад Дом культуры.

К а с ц ё л (не захаваўся) з'яўляўся творам архітэктуры барока. Быў вырашаны крыжовым у плане аб'ёмам, 2-схільныя дахі якога завяршаліся ў сяродкрыжжы, над крыламі трансепта і па баках фасада 5 купаламі. Унутраная прастора храма 4 калонамі размяжоўвалася на 3 нефы, якія завяршаліся 3 тарцовымі і 4 бакавымі алтарамі. На хорах знаходзіўся 11-галосы арган.

Ж ы л ы к о р п у с — помнік архітэктуры класіцызму. Вырашаны Г-падобным у плане 2-паверховым будынкам пад вальмавым дахам. Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, крапаваны лапаткамі. Планіроўка галерэйнага тыпу; першы паверх быў адведзены пад вестыбюль з вахтай, араторыум, кухню, гаспадарчыя і службовыя памяшканні, другі — пад келлі.

## в. Хатава,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

За 2 км на ўсход ад вёскі, на тэрыторыі былой сядзібы Ленскіх. Пабудаваны ў 1931—34 гг. з цэглы.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. З алтарнага боку далучана паўкруглая апсіда з бакавымі сакрысціямі. Асімет-

рыю ў аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю ўносіць далучаная з боку фасада 4-гранная вежа-званіца, адкрытая наверсе арачнымі прасветамі-трыфорыумамі. Вось фасада адзначана ўваходным арачным перспектыўным парталам і акном-ружай над ім. Бакавыя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках, маюць рызаліты трансепта, завершаныя 2-граннымі шчыпцамі.

Унутраная прастора магутнымі пілонамі і перакінутымі праз іх аркадамі падзелена на 3 нефы, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках. З боку прэсбітэрыя ўчынены хоры з амбонам, адкрытыя раманскай аркадай.

## г. Хойнікі

Гомельскай вобласці

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На вул. Савецкай. Пабудаваны ў 1997—2003 гг. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад стромкім 2-схільным дахам. З тыльнага боку далучана ніжэйшая 5-гранная апсіда пад вальмавым пакрыццём. Плоскасны фасад завершаны 2-гранным шчыпцом з круглай люкарнай па цэнтры. Уваход арганізаваны праз нізкі прытвор пад 2-схільным пакрыццём і з 3-пралётнай аркадай. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках.

## в. Хоўхлава,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У заходняй частцы вёскі, каля касцёла. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы як пахавальня Язвінскіх.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам. Фасад трактаваны пілястравым порцікам з трохвугольным франтонам спрошчанай і утрыраванай ордэрнай пластыкі. Сціплы дэкор фасадаў абмежаваны пілястрамі, спрошчаным антаблементам. Вокны ў плоскіх арачных ліштвах з дэкаратыўным замковым каменем. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі над вокнамі.

### Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У заходняй частцы вёскі, на ўзгорку. Пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. з дрэва. У 1863 г. скасаваны і ў 1866 г. прыстасаваны пад царкву. У 1930-я гг. рэстаўрыраваны.



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Хатава.



Інтэр'ер касцёла Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Хатава.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Хойнікі.



Капліца ў в. Хоўхлава.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Хоўхлава.



Помнік народнага дойлідства з рысамі барока і класіцызму. Асноўны зруб і гранёная апсіда з нізкай сакрысціяй накрыты высокім гонтавым дахам з плаўнымі хвалістымі выгінамі над апсідай і заломам над галоўным фасадам. Сілуэт будынка фарміруюць дзве 4-гранныя шатровыя вежы і франтон паміж імі. У 19 ст. да галоўнага фасада дабудаваны утрыраваны 4-слуповы порцік, які парушыў кампазіцыйную цэласнасць храма. Складзеныя з сасновага брусу сцены прарэзаны парнымі арачнымі і лучковымі аконнымі праёмамі ў фігурных ліштвах, вертыкальна ашаляваны і ўмацаваны брусамі-сцяжкамі, апяразаны карнізам складанага профілю.

Унутры асноўны аб'ём і 5-сценная апсіда фарміруюць адзіную ўнутраную прастору, перакрытую драўляным люстраным скляпеннем. Пры ўваходзе ў залу перагародкай вылучаны нартэкс з бакавой лесвіцай на званіцу і хоры, якія выступаюць у залу крывалінейным выгінам парапета. Інтэр'ер упрыгожвала паліхромная размалёўка (не захавалася).

## в. Хрольчыцы,

Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Дапаможніцы Верных

На могілках. Пабудаваны ў 2002 г. з дрэва на месцы храма, знішчанага падчас Вялікай Айчыннай вайны.

Твор народнага дойлідства. Вырашаны прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам, завершаным над фасадам 2-яруснай 4-граннай шатровай вежачкай. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарублены бакавымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Хутар-Дзедзіна,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На могілках, у 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Кампактная прамавугольная ў плане пабудова пад 2-схільным дахам. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі і ўваходным праёмамі.



Капліца ў в. Хутар-Дзедзіна.



# Ц

## в. Цеснавая 1-я,
Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святога Максіміляна

На ўсходняй ускраіне вёскі, каля шашы Стоўбцы—Івянец. Пабудаваны ў 1994—98 гг. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Да фасада далучана трох'ярусная 4-гранная шатровая званіца. Да алтарнай часткі далучаны бакавыя сакрысціі, апсіда выступае неглыбокім рызалітам. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.



Касцёл святога Максіміляна ў в. Цеснавая 1-я.



Інтэр'ер касцёла святога Максіміляна ў в. Цеснавая 1-я.

## в. Цудзенішкі,
Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога апостала Якуба

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы на месцы храма, заснаванага ў 1629 г. па фундацыі Аляксандра Калецкага[1]. У 1866 г. перабудаваны пад праваслаўную царкву. У 1920-я гг. вернуты католікам. На 1997 г. налічвалася каля 950 парафіян.

Помнік архітэктуры барока з пазнейшымі напластаваннямі форм рэтраспектыўна-рускага стылю. Аднанефавы храм з паўкруглай апсідай і трох'ярусная (васьмярык на 2 чацверыках) званіцай з невысокім шатром і цыбулепадобнай галоўкай у завяршэнні (вынік перабудовы пад царкву). Атынкаваныя плоскасныя фасады прарэзаны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі з глыбокімі адхіламі ў тоўшчы сцен і крапаваны шырокімі лапаткамі ў прасценках. Па перыметры будынак апяразаны тонкапрафіляваным карнізам з ажурным дробным аркатурным фрызам. Элемент асіметрыі ў падоўжна-восевую кампазіцыю храма прыўносіць нізкі аб'ём сакрысціі, далучаны да паўднёвага боку апсіды. Галоўны ўваход вылучаны манументальным аб'ёмным парталам з перспектыўным арачным праёмам і 2-гранным шчытом над ім, вуглавымі ўразнымі калонкамі.

Унутры зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, на заходняй сцяне мае галерэю хораў. Пад конхай апсіды ўстаноўлены манументальны мураваны алтар.



Касцёл святога апостала Якуба ў в. Цудзенішкі.

## в. Цэнтральная,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

[1] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 186.





Капліца Узвышэння Святога Крыжа ў в. Цэнтральная.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Чавусы.





## Капліца Узвышэння Святога Крыжа

На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 2002 г. з цэглы паводле праекта архітэктара А.Яроменкі па фундацыі мясцовага прадпрымальніка Ф.В.Бярозы.

Твор сучаснай авангарднай архітэктуры. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя дынамічна нарастае да ўзнятага ў вышыню фасада, прашытага рамбічным акном з крыжчатым пераплётам. Плоскасць фасада інтэнсіўна крапавана, па восі вылучана 2-гранным зломам і ўваходным парталам з казырком. У інтэр'еры алтарная сцяна таксама прашыта рамбічным аконным праёмам з укрыжаваннем. Зала разлічана



Інтэр'ер капліцы Узвышэння Святога Крыжа ў в. Цэнтральная.

на 85 пасадачных месц. Над нартэксам балюстрадная галерэя хораў.



# Ч

### г. Чавусы

Магілёўскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На паўднёва-заходняй ускраіне горада, каля шашы Магілёў—Чэрыкаў. Пабудаваны ў 1997—2005 гг. з сілікатнай цэглы.

Твор сучаснай авангарднай архітэктуры. Вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, які над фасадам завершаны прамавугольнай сценкай-званічкай з люкарнай па цэнтры. Да алтарнай сцяны далучана паўкруглая апсіда пад канічным пакрыццём, крапаваная высокай і глыбокай аркатурай. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны ўзнятымі пад карніз даху стральчатымі аконнымі праёмамі, ліштвы якіх выступаюць і ствараюць гафрыраваны пояс уздоўж яго. Паралельна побач з храмам пастаўлена 1-паверхавая прамавугольная ў плане плябанія, злучаная з алтарнай часткай храма крылом-пераходам.

### в. Чарнаўчыцы

Брэсцкага раёна

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1583—95 гг. з цэглы як парафіяльны па фундацыі Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі і асвячоны пасля вяртання яго з

паломніцтва ў Палесціну[1]. З 1867 г. — праваслаўная царква[2]. У 1918 г. вернуты каталікам (на 1935 каля 1900 парафіян). У 1998 г. вернута плябанія, у якой пасля вайны быў размешчаны шпіталь, а пазней музычная школа. На паўночны захад ад касцёла на высокім цокалі стаіць 3-ярусная 4-гранная званіца з шатровым дахам. На 1935 г. налічвалася каля 1900 парафіян.

Помнік архітэктуры з элементамі готыкі і рэнесансу, мае рысы абарончага дойлідства. 1-нефавы бяскупальны храм з трансептам. Неф, трансепт і аднолькавая з ім па вышыні паўкруглая апсіда накрыты высокім дахам, які ўступам пераходзіць у паўшатровае завяршэнне апсіды. Да крылаў трансепта і бакоў апсіды прылягаюць больш нізкія сакрысціі пад 1-схільнымі пакрыццямі. З паўднёвага боку да апсіды прымыкае цыліндрычная вежа з самастойным шатровым пакрыццём і вітой лесвіцай унутры. Да галоўнага фасада прыбудаваны нізкі аб'ём нартэкса. У дэкаратыўным вырашэнні высокага трохвугольнага франтона фасада — асобныя элементы рэнесансу: плоскія прамавугольныя і круглыя нішы, прафіляваны карніз, вертыкальныя цягі. Атынкаваныя масіўныя сцены бакавых фасадаў (таўшчыня сцен 1,3 м) выкладзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі, умацаваны контрфорсамі, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі з глыбокімі адхіламі, завершаны прафіляваным карнізам[3].

Унутры цыліндрычнае скляпенне на распалубках аздоблена ляпнымі нервюрамі геаметрычнага малюнка — матыў архітэктуры рэнесансу. Сцены апрацаваны пілястрамі. У інтэр'еры 3 барочныя драўляныя паліхромныя скульптуры 18 ст.: «Св. Дамінік» у алтары (прывезены з закрытага касцёла ў г. Высокае Камянецкага р-на), «Укрыжаванне», «Св. Антоній» і «Св. Марцін» у нішы галоўнага фасада. На паверхні скульптур захаваліся сляды афарбоўкі залаціста-карычневых і чырвоных тонаў. У сакрысціі храма захаваўся арнат, аблямаваны слуцкім поясам.

---

[1] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X — XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 56.

[2] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 76.

[3] Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 105—106.

## в. Чарневічы,

Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Пабудаваны ў 1920—30 гг. з цэглы. Зачынены ў 1950 г., вернуты ў 1991 г., адноўлены к 1993 г.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Чарнаўчыцы. Выгляд з фасада.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Чарнаўчыцы. Выгляд з боку апсіды.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Чарневічы.

Помнік архітэктуры з рысамі канструктывізму. Вырашаны працяглым прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да фасада далучана магутная трох'ярусная 4-гранная шатровая званіца. Плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі і ўваходным праёмамі, крапаваны вуглавымі лапаткамі.



Капліца ў в. Чарнелі.

## в. Чарнелі,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Вырашана цэнтрычным 4-гранным аб'ёмам пад гонтавым шатровым дахам, завершаным каваным крыжом. Адкрыта стральчатымі праёмамі, на алтарнай сценцы драўляная скульптура «Укрыжаванне».






Капліца ў в. Чыжэўшчына і мемарыяльная піраміда ў ёй з надпісам.

## г. Чашнікі
Віцебскай вобласці

### Капліца Перамянення Гасподняга

Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы.

Твор сучаснай культавай архітэктуры. Асіметрычная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з прамавугольнага ў плане аб'ёму малітоўнай залы пад 2-схільным дахам і далучанага да яго з левага боку франтальнага фасада прытвора з надбудаванай над ім 4-граннай шатровай званіцай. Фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

## в. Чыжэўшчына,
Жабінкаўскі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 20 ст. з цэглы. З'яўляецца мемарыяльнай капліцай 2 канфесій — праваслаўнай і каталіцкай.

Вырашана крыжовай у плане 8 слуповай ратондай пад шатровым дахам, завершаным 4-граннай шатровай званічкай, адкрытай арачнымі прасветамі. Перад капліцай пастаўлены мемарыяльны камень. У цэнтры капліцы піраміда з надпісам на франтальнай грані: «За нашу і вашу волю. 17 верасня 1794 г. Крупчыцы. Найвялікшая бітва часоў касцюшкаўскага паўстання на землях Беларусі». На тыльнай грані надпіс: «Рэчпаспалітныя палкі і аддзелы (Генерал Караль Саракоўскі). 3-і і 4-ы палкі народнай стражы літоўскай. Літоўскі, Драгічынскі, Гарадзецкі палкі. 5-ы пяхотны аддзел. 2-я Пінская брыгада. Каронная гвардыя. Берасцейскі батальён. Кобрынскія стральцы. Берасцейская і Драгічынская павятовыя міліцыі». Унутры над аркамі паўкруглыя супрапорты з роспісамі на падзеі Крупчыцкай бітвы.

## г. Чэрвень
Мінскай вобласці

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У цэнтры горада. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

Вырашаны прамавугольным аб'ёмам, перакрыжаваным крыламі трансепта, накрытых 2-схільнымі дахамі. Да фасада далучана 4-гранная вежа-званіца з уваходным арачным парталам, завершаным стромкім вімпергам.

## г. Чэрыкаў
Магілёўскай вобласці



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г. Чэрвень.

## Касцёл

Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. У 1950-я гг. прыстасаваны пад Дом культуры (перароблены фасад).

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашаны працяглым прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам; з тыльнага боку далучана 5-гранная апсіда. Бакавыя фасады расчлянёны лапаткамі, крапаваны рустам, апяразаны гарадковым фрызам.

## в. Чэхі,
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці



Капліца ў в. Чэхі.



Касцёл у г. Чэрыкаў.

## Капліца

На паўночнай ускраіне вёскі. Пастаўлена ў канцы 19 ст. з цэглы.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным вертыкальным аб'ёмам, пастаўленым на кубападобны пастамент і накрытым шатровым дашкам з каваным крыжом у завяршэнні. Грані крапаваны прамавугольнымі нішамі з абразкамі.



# Ш

## в. Шабуні,
Пухавіцкі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл святога Роха

На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Узведзены ў 1796 г. з дрэва, перабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. і ў 1920-я гг.



Касцёл святога Роха ў в. Шабуні.

Помнік народнага драўлянага дойлідства. Вырашаны 2-зрубным аб'ёмам пад агульным 2-схільным дахам, завершаным над трохвугольным фасадным франтонам 4-граннай шатровай званічкай. Вынас даху падтрыманы 4 слупамі. З тыльнага боку далучана 3-гранная апсіда з бакавой сакрысціяй. Бакавыя гарызантальна ашаляваныя фасады прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі.


Капліца ў цэнтры г.п. Шарашова.

## г.п. Шарашова,
Пружанскі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

У цэнтры пасёлка, каля моста. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 2-ярусная 4-граннай вежай пад шатровым пакрыццём, завершаным крыжом. Першы ярус крапаваны рустам і квадратнымі нішамі, другі — адкрыты арачнымі зашклёнымі прасветамі.


Капліца на могілках у г.п. Шарашова.

### Капліца

На каталіцкіх могілках, за касцёлам. Пастаўлена ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана 4-гранным павільёнам пад пакатым шатровым дахам. Франтальная і бакавыя грані адкрыты арачнымі прасветамі, крапаваны пілястрамі. Унутры алтарная сцяна крапавана нішай-экседрай са скульптурай Мадонны.

### Капліца

На каталіцкіх могілках, за касцёлам. Пастаўлена ў 19 ст. з цэглы.

Помнік архітэктуры ампіру. Вырашана кубападобным павільёнам, накрытым сферычным купалам і завершаным па вуглах пінаклямі (на ўзор антычнага саркафага). Франтальная і бакавыя грані раскрыты арачнымі прасветамі, крапаваны пілястрамі. Унутры алтарная сцяна крапавана нішай.


Капліца на могілках у г.п. Шарашова.

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У цэнтры гарадскога пасёлка. Пабудаваны ў 1830—40-х гг. з цэглы.

Парафія вядома тым, што ў ёй адпраўляў набажэнствы на беларускай мове з часу пабудовы касцёла уніяцкі святар, доктар тэалогіі, прафесар Віленскага універсітэта Міхаіл Баброўскі, які і пахаваны на касцельных могілках у 1848 г.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Прамавугольны ў плане будынак накрыты 2-схільным дахам з вальмай над апсідай. Галоўны фасад фланкіраваны дзвюма 4-граннымі 1-яруснымі шатровымі вежамі, аб'яднанымі атыкам з трохвугольным франтонам. У верхніх ярусах вежаў арачныя праёмы. Фасад упрыгожваюць 2 драўляныя скульптуры апосталаў, пастаўленыя ў бакавых арачных нішах.



Капліца святога Антонія каля касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў г.п. Шарашова.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г.п. Шарашова.

Падобныя скульптуры размешчаны і ў прамавугольных нішах на бакавых гранях ніжняга яруса вежаў. Над прамавугольным уваходным праёмам — паўцыркульнае акно, якое асвятляе хоры. Фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі арачнымі броўкамі з замкавым каменем, і пілястрамі ў прасценках.

Інтэр'ер 3 парамі магутных калон расчлянёны на 3 нефы, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках. У прастору залы выступаюцць хоры на калонах. Алтарная частка займае шырыню цэнтральнага нефа і па баках абмежавана сакрысціямі з тэрасамі на іх перакрыццях. Алтар вырашаны карынфскай каланадай, у ім змешчаны 2 драўляныя скульптуры святых і «Укрыжаванне» 19 ст. На бакавой сцяне апсіды навешаны амбон.

У 1995 г. перад касцёлам парафіянамі і ксяндзом Э.Лоекам пастаўлена к а п л і ц а ў гонар 800-годдзя нараджэння св. Антонія.

Вырашана 2-ярусная 4-гранная шатровай вежай. Ніжні ярус крапаваны прамавугольнымі нішамі з мемарыяльнымі мармуровымі дошкамі, верхні адкрыты арачнымі зашклёнымі прасветамі, за якімі пастаўлена скульптурка св. Антонія.

## г.п. Шаркаўшчына

Віцебскай вобласці

## Капліца

На паўночнай ускраіне гарадскога пасёлка, у былой сядзібе Лапацінскіх. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як пахавальня.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам з трохграннай алтарнай часткай. Двухсхільны дах на фасадзе зашыты трохвугольным франтонам. Фасад крапаваны пілястрамі абапал прамавугольнага ўваходнага праёма, бакавыя сцены прарэзаны адзінарнымі арачнымі аконнымі праёмамі.



Капліца ў г.п. Шаркаўшчына.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г.п. Шаркаўшчына.

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

У цэнтры гарадскога пасёлка. Пабудаваны ў 1992—95 гг. з цэглы. Прамавугольная ў плане трохнефавая 1-вежавая базіліка з 5-граннай апсідай. На фасадзе выступае трох'ярусная 4-гранная шатровая званіца. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі. Вальмавае пакрыццё апсіды завершана 4-граннай сігнатуркай.

# в. Шастакоўцы,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Ісуса Міласэрнага

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1996 г. з цэглы.

Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад стромкім 2-схільным дахам, завершаным над фасадам сігнатуркай з макаўкай. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі ў рэльефных ліштвах. Над прамавугольным уваходным праёмам паўкруглая люкарна.



Капліца Ісуса Міласэрнага ў в. Шастакоўцы.



Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла ў г. Шклоў.



# г. Шклоў

Магілёўскай вобласці

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар дамініканцаў

У паўднёвай частцы горада, на вул. Ленінскай. Касцёл пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы, рэканструяваны на мяжы 19—20 ст.

У 1619 г. ваявода троцкі Аляксандр Хадкевіч скасаваў кальвінскі збор і замест яго заснаваў кляштар дамініканцаў, забяспечыў яго багатай бібліятэкай[1]. Цэнтрам кляштарнага комплексу з'яўляўся мураваны касцёл са званіцай[2]. На яго будаўніцтва была выкарыстана цэгла разабранага будынка тэатра 1780 г.[3] Драўляны кляштар уключаў клець, лядоўню, авін, 2 стайні, карэтную, бровар, лазню, калодзеж, сад. Прыстанак скасаваны царскім указам ад 19.7.1832 г. і прызначаны для воінскага пастою, манахі пераведзены ў Пінск, забальзаміраванае цела Ал.Хадкевіча перанеслі ў касцёл на могілках[4]. Касцёл у 1930-я гг. быў прыстасаваны пад кінатэатр. Парафія адноўлена ў 1994 г., касцёл асвячоны 20.09.1999 г. кардыналам Казімірам Свёнтакам.

Помнік архітэктуры з рысамі класіцызму і неаготыкі. У аснове кампазіцыі храма — прамавугольны ў плане аб'ём з закругленай алтарнай часткай, накрыты 2-схільным дахам. Плоскасны франтальны фасад (перабудаваны) завершаны 2-гранным шчытом і фланкіраваны здвоенымі гранёнымі пілонамі. Над уваходным прамавугольным праёмам — стральчаты аконны праём-трыфорыум. Бакавыя фасады крапаваны пілястрамі, апяразаны тонкапрафіляваным карнізам, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў. Унутры зала перакрыта плоскай столлю, падзелена 4 слупамі на 3 нефы, у бакавых нефах па баках апсіды вылучаны сакрысціі. Алтарная сцяна мела наверсе круглую люкарну і 2-калонны алтар. Інтэр'ер быў дэкарыраваны скульптурнымі пано «Крыжовы шлях Хрыста», на хорах меўся арган (не захаваўся).

---

[1] Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней же относящихся. С.-Петербург, 1855. / Перавыданне ООО «Алфавит». Мн., 1995. С. 207—210. Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 54.

[2] Topolska M. Szklow i jego rola w gospodarce Białorusi wschodniej w 17 i 18 wieku. Poznań, 1969. S. 12—13.

[3] Лукашэвіч А. Новае з гісторыі Шклова // Газета «Ударны фронт». 1991, 31 ліп.

[4] Россия. Полное географическое описание нашего отечества. Т. IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. С.-Петербург, 1905. С. 468.

# г.п. Шуміліна

Віцебскай вобласці

## Касцёл Маці Божай Фацімскай

У паўднёва-ўсходняй частцы гарадскога пасёлка. Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы з выкарыстаннем няскончанага будынка клуба і спартзала.

Манументальны буйнамаштабны будынак сучаснай авангарднай архітэктуры. У аснове развітой аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі прамавугольны ў плане 3-нефавы 2-ярусны аб'ём пад 2-схільным дахам, закрытым па тарцах паўкруглымі шчыпцамі. Такім жа шчытом завершаны і далучаны да фасада прытвор з 3-пралётнай уваходнай аркадай. Кампазіцыю будынка ўскладняе прыбудова 1-павярховага службовага крыла ўздоўж бакавога фасада. Плоскасныя бакавыя фасады расчлянёны прамавугольнымі і арачнымі аконнымі праёмамі, круглымі люкарнамі.



Касцёл Маці Божай Фацімскай у г.п. Шуміліна.

# г. Шчучын

Гродзенскай вобласці

## Капліца

На каталіцкіх могілках, на захад ад касцёла. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як пахавальня. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам (не захаваўся). Франтальны фасад завершаны трохвугольным франтонам, крапаваны пілястрамі, па цэнтры прарэзаны лучковым уваходным праёмам.

## Касцёл святой Тэрэзы і кляштар піяраў

У цэнтры горада, на вул. Савецкай. Пабудаваны ў 1826—29 гг. з цэглы па фундацыі ўладальніка мястэчка (з 1807) князя Ксаверыя Друцкага-Любецкага[1]. У 1832 г. закрыты, вернуты ў 1919 г.; зноў закрыты ў 1959(62) г. Пасля рэстаўрацыі 1987—89 гг. дзейнічае.

У 1718—1832 гг. тут існаваў вядомы калегіум піяраў, якіх запрасіў уладальнік мястэчка полацкі войскі Іосіф Глябіцкі, перадаўшы ім парафіяльны драўляны касцёл св. Георгія (Ежы) і ахвяраваўшы 23 735 злотых. У 1726 г. фундацыю піярскага пристанка пацвердзіла яго дачка кашталянка смаленская Тэрэза Сцыпіёнава і сойм. Яна ж у 1742 г. асадзіла тут сясцёр міласэрнасці і заснавала шпіталь. Пазней калегіум падпарадкоўваўся Адукацыйнай камісіі, якая рэарганізавала яго ў вучылішча. У ім навучаліся геолаг І.Дамейка, філосаф К.Нарбут, гісторык М.Догель, паэт Ю.Корсак, натураліст С.Юндзіл і інш. Пасля раскрыцця паліцыяй існаваўшага пры школе філіяла віленскага нелегальнага таварыства філаматаў навучальная ўстанова ў 1825 г. пераўтворана ў звычайнае 4-класнае павятовае вучылішча, а ў 1832 г. каталіцкі пристанак канчаткова скасаваны. Піяры аднавілі сваю дзейнасць на працягу 1927—1959 гг.; зноў дзейнічаюць з 1988 г.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры класіцызму. Мае выцягнутую па падоўжнай восі крыжова-купальную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У ёй над сяродкрыжжам дамінуе самкнуты сферычны купал на 8-гранным светлавым барабане. Галоўны фасад вырашаны 4-калонным дарычным порцікам. Вось сіметрыі галоўнага фасада падкрэслена ўваходным



Капліца ў г. Шчучын.



Касцёл святой Тэрэзы ў г. Шчучын.



Касцёл святой Тэрэзы і кляштар піяраў у г. Шчучын. Кляштарны корпус.



Капліца каля касцёла святой Тэрэзы і кляштара піяраў у г. Шчучын.

праёмам з сандрыкамі, акном у фігурнай ліштве і круглай люкарнай на франтоне. Бакавыя фасады члянёны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і дэкарыраваны рустам.

Інтэр'ер 2-светлавы. Нартэкс з тамбурам і хоры над імі аддзелены ад асноўнага памяшкання 2 калонамі. Сцены расчлянёны паўкалонамі і апяразаны па перыметры шырокім карнізам. У алтары драўляная скульптура Маці Божай Фацімскай, прывезеная з Фацімы ў Польшчу святарамі-палацінцамі і перададзена шчучынскаму касцёлу.

К л я ш т а р н ы  к о р п у с — 2-павярховы працяглы будынак складанай формы, вылучаны па цэнтры 4-калонным порцікам і рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

У двары кляштара пастаўлена 2-ярусная 4-гранная к а п л і ц а пад 2-схільным пакрыццём. Верхні цагляны ярус адкрыты арачнымі прасветамі, ніжні глухі выкладзены бутам.

---

[1] РДГА, ф. 822, воп. 12, спр. 3079, арк. 23.



Капліца ў в. Шчэчыцы (Ябланова).

## в. Шчэчыцы (Ябланова),

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 18 ст. з цэглы па фундацыі ўладальнікаў маёнтка Ябланоўскіх. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры позняга барока. Вырашана квадратным у плане аб'ёмам з вугламі. Грані крапаваны плоскімі парнымі іанічнымі пілястрамі і вуглавымі руставанымі лапаткамі, прарэзаны па цэнтры высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі і круглымі люкарнамі над імі. У дэкоры выкарыстаны сандрыкі з ляпнымі гірляндамі, прамавугольныя плакеткі, арнаментальныя разеткі. Ва ўнутранай прасторы вылучаны вуглавыя акруглыя ў плане алькові.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Шылавічы.

## в. Шылавічы,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У паўднёвай частцы вёскі. Пабудаваны ў 1907—1914 гг. з цэглы замест струхнелага драўлянага храма 1600 г. Адноўлены і адчынены ў 1993 г. На 1997 г. налічвалася каля 2200 парафіян.

Помнік архітэктуры неаготыкі. Вырашаны паводле канону трохнефавай 1-вежавай базілікі з трансептам, 3-граннай апсідай і 2 сакрысціямі. Вежа вышынёй 55 м, яе верхні 8-гранны ярус завершаны высокім шатром з лацінскім крыжом. Грані і вуглы вежы ўмацаваны контрфорсамі, завершанымі фіяламі і крапаванымі стральчатымі нішамі. Галоўны ўваходны партал завершаны вімпергам. Бакавыя фасады расчлянёны стральчатымі вокнамі-біфорыумамі, у прасценках умацаваны контрфорсамі і аркбутанамі. Крылы трансепта з адным вялікім 4-часткавым акном, завершаны ступеньчатымі шчыпцамі з вуглавымі фіяламі. Кантрастнае каляровае рашэнне заснавана на спалучэнні чырвонага колеру цаглянага фону і пабеленых элементаў дэкору.

У інтэр'еры нефы падзелены стральчатымі арачнымі праёмамі, якія абапіраюцца на прафіляваныя слупы. Перакрыцце — крыжовыя скляпенні з нервюрамі. Шырока выкарыстана лякальная цэгла, з якой зроблены нервюры, абрамленні арак і крапоўка слупоў.



Інтэр'ер касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў в. Шылавічы.

## в. Шынаўшчына (Кубаркі),

Пастаўскага раёна
Віцебскай вобласці

### Капліца

За 0,7 км на поўнач ад шашы Вільнюс—Полацк, на паўночны ўсход ад в. Кубаркі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы і бутавага каменю.

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны трохвугольным франтонам, крапаваны лапаткамі па баках прамавугольнага ўваходнага праёма з паўкруглай люкарнай над ім. Такімі ж 2 люкарнамі прарэзаны бакавыя фасады.

## в. Шэметава,

Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Нястомнай Дапамогі

За 2 км на поўдзень ад в. Шэметава, каля шашы Камарова—Занарач, у былой сядзібе Сулістроўскіх і Скірмунтаў. Пабудаваны ў 1902 г. з цэглы ўладальнікам маёнтка Баляславам Скірмунтам на аснове капліцы 1816 г., якая была ўзведзена папярэднім уладальнікам мінскім губернатарам Казімірам Сулістроўскім як родавая пахавальня.

Помнік архітэктуры неакласіцызму. Крыжовы ў плане будынак пад 2-схільнымі дахамі; да апсіды далучана нізкая тарцовая сакрысція пад 1-схільным пакрыццём. Фасад вырашаны прысценным 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам, тарцы крылаў трансепта — 2-калоннымі порцікамі. Над прамавугольным парталам увахода паўкруглая люкарна, па баках арачныя нішы-экседры. Плоскасныя фасады крапаваны пілястрамі, апяразаны антаблементам з прафіляваным карнізам, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з каляровым вітражным зашкленнем (выявы святых Казіміра, Станіслава, Саламеі).

Унутры зала перакрыта драўляным авальным скляпеннем, сцены крапаваны карынфскімі пілястрамі, вокны запоўнены каляровымі вітражамі. Алтарная сцяна пакрыта роспісам на сюжэт «Укаранаванне Найсвяцейшай Дзевы Марыі». Барочны



Капліца ў в. Шынаўшчына (Кубаркі).





Касцёл Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў в. Шэметава.

1-ярусны алтар дэкарыраваны пазалочанай драўлянай разьбой, у яго цэнтры абраз «Маці Божая Вастрабрамская», вышэй — «Маці Божая Нястомнай Дапамогі». На балконе хораў, якія трымаюцца на 2 гранёных слупах, пастаўлены 9-галосы арган. Драўляны амбон выкананы ў выглядзе чашы (арнаментальная разьба, пазалота), якую падтрымлівае голуб.

Справа перад касцёлам размешчаны помнік народнага драўлянага дойлідства — званіца. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва Скірмунтамі[1]. Квадратная ў плане, на невысокім мураваным фундаменце, мае 2-ярусную канічную кампазіцыю. Ніжні ярус вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, верхні — адкрыты, са званам, завершаны шатровым дахам з крыжом. За касцёлам 1-павярховая цагляная плябанія 1904 г.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 154.



Капліца ў в. Юзафова (Баяры).



Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі і калегіум езуітаў у в. Юравічы.



# Ю

## в. Юзафова (Баяры),

Шаркаўшчынскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пастаўлена ў канцы 20 ст. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным з вальмай над алтарнай часткай дахам, які выступае на фасадзе трохвугольным франтонам. Сцены прарэзаны прамавугольнымі ўваходным і 2 бакавымі аконнымі праёмамі.

## в. Юравічы,

Калінкавіцкі раён
Гомельскай вобласці

### Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі і калегіум езуітаў

Ва ўсходняй частцы вёскі.

Кляштар узнік у выніку місіянерскай дзейнасці езуітаў у 1670-я гг. У 1674 г. Барбара Лосчына і Марыяна Катарская перадалі ім вёскі Юравічы, Пінніцы, Хабна, Крышычы і 11 381 злотых, па тэстаменце мужа Міхаіла Лоскі Барбара была павінна перадаць ордэну яшчэ 10 тыс. злотых; у 1677 г. жонка рэчыцкага маршалка Настасся Пагірская ахвяравала маёнтак Хазін; пазней езуіты набылі в. Тулавічы, у 1687 г. Лукаш Валовіч перадаў у заклад маёнтак Віленкі. У 1681 г. ўзнікла місія ад Астрожскага калегіума, у тым жа годзе польскі кароль Ян III Сабескі надаў Юравічам статус мястэчка. У падпарадкаванні кляштару знаходзіліся Мазырская і Брагін-

ская езуіцкія рэзідэнцыі[1]. У 1705 г. драўляны кляштар з касцёлам знішчаны пажарам. Мураваны касцёл пабудаваны ў 1717(26)—56(58) гг.[2] Рэзідэнцыя існавала да 1747 г., калі была разрабавана маскоўскім войскам. У 1756 г. адкрыты школа і бурса, з 1778 г. дзейнічаў калегіум, мелася бібліятэка ў 1500 тамоў, фізічны і заалагічны кабінеты, дзейнічаў школьны тэатр. Кляштар з'яўляўся буйным уладальнікам. Пасля скасавання ордэна кляштар у 1817 г. перайшоў да мазырскіх бернардзінцаў, пасля да капуцынаў (па іншых звестках у 1783—88 належаў капуцынам, у 1788—1800 дамініканцам, у 1800—32 бернардзінцам[3]). Імператар Павел I на ўтрыманне кляштара вылучыў штогадовую субсідыю ў 112 руб. Пасля паўстання 1830—31 гг. указам імператара Мікалая I ад 1832 г. кляштар скасаваны, касцёл з 1841 г. стаў прыходскім, а ў лістападзе 1864 г. закрыты. Касцёл паўзруйнаваны падчас Вялікай Айчыннай вайны.

Касцёл — помнік архітэктуры позняга барока. трохнефавая 2-вежавая базіліка з выцягнутай паўкруглай апсідай з бакавымі сакрысціямі. Фасад падзелены на 3 ярусы буйнымі раскрапаванымі антаблементамі, расчлянёны пучкамі пілястраў і арачнымі экседрамі, завершаны фігурным франтонам. Бакавыя фасады расчлянёны здвоенымі лапаткамі і неглыбокімі нішамі.

Прастора інтэр'ера падзелена на 3 нефы шасцю магутнымі пілонамі і перакінутымі праз іх аркадамі. Над уваходам паміж вежамі ўчынена невялікая галерэя хораў, на якія вядзе вітая лесвіца ў таўшчыне сцяны. Бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі, цэнтральны — цыліндрычным з люнетамі. У бакавых нефах створаны авальныя ў плане капліцы, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі. К 1732 г. рэзчыкам Тарасам Аршыцкім і злотнікам Сцяпанам Пятроўскім скончаны работы над галоўным алтаром. Пад касцёлам вялікая скляпеністая крыпта.

Калегіум — 2-павярховы, П-падобны ў плане будынак з унутраным дваром-курданёрам. Сіметрычная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка падкрэслена дзвюма 3-яруснымі вежамі па вуглах дваровага фасада. Сцены рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў фігурных ліштвах і пілястрамі ў прасценках. Планіроўка галерэйная з вялікай залай па цэнтры, перакрыцці абодвух паверхаў скляпеністыя. Пад будынкам скляпеністыя сутарэнні.

[1] Квитницкая Е.Д. Белорусские коллегиумы XVIII в. // Архитектурное наследство. 1972. № 19. С. 18—20; Описание церквей и приходов Минской епархии. III. Речицкий уезд. Мн., 1879.

[2] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001.

[3] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II. S. 6—11 (254—269).



Касцёл Перамянення Гасподняга ў в. Юрацішкі.

## в. Юрацішкі,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Перамянення Гасподняга

Пабудаваны ў 2003 г. з цэглы.

Твор архітэктуры постмадэрнізму. Асіметрычна-дынамічную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю фарміруюць прамавугольная ў плане малітоўная зала пад 2-схільным дахам і службовая 2-павярховая прыбудова з 5-гранным эркерам да алтарнай часткі. Над 2-гранным з круглай люкарнай шчытом фасада ўзведзена 4-гранная шатровая званіца, такой жа формы сігнатурка — над алтарнай часткай. Уваход аформлены 2-слуповым ганкам пад 2-схільным пакрыццём і аркатурнай перамычкай. Бакавыя плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

## в. Юшкавічы,
Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Юшкавічы Баранавіцкага раёна.





Касцёл у в. Юшкавічы Мядзельскага раёна.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

На заходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудаваны ў 1934—38 гг. з цэглы.

Помнік архітэктуры неараманскага стылю. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Асноўная архітэктурная тэма — арачны аконны праём не фоне плоскаснага фасада. З архітэктурных абломаў выкарыстаны пра-



Капліца ў в. Янкавічы.



Капліца святой Алены ў в. Янцавічы.

сценачныя лапаткі-пілоны і міжʼярусныя і паддахавыя прафіліраваныя карнізы.

# в. Юшкавічы,

Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл

На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1930-я гг. з бетонных блокаў. Закрыты пасля Вялікай Айчыннай вайны, прыстасаваны пад школу. У паўзруйнаваным стане.

Помнік архітэктуры з рысамі канструктывізму. Вырашаны прамавугольнымі ў плане абʼёмамі малітоўнай залы і апсіды. Да фасада далучана 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца. Бакавыя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Унутры па баках апсіды прасценкамі вылучаны сакрысціі.



# в. Янкавічы,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў 1990-я гг. з дрэва. Твор народнага дойлідства. Вырашана 4-гранным павільёнам пад пакатым 4-гранным пакрыццём. Вертыкальна ашаляваныя франтальная і бакавыя грані прарублены прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі.

# в. Янцавічы (Дзевергі),

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца святой Алены

На могілках. Пабудавана ў 1993 г. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам. Фасад завершаны трохвугольным франтонам з фрызам. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарублены прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі.

# в. Яромічы (хутар Горбанка),

Кобрынскі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

На захад ад вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1860-я гг. з цэглы як пахавальня Васілеўскіх.



Капліца ў в. Яромічы (хутар Горбанка).

Помнік архітэктуры позняга класіцызму. Вырашана 2-ярусным 4-гранным аб'ёмам пад шатровым дахам (не захаваўся). Ярусы па гранях аб'яднаны высокімі арачнымі нішамі, якія ў верхняй частцы адкрыты арачнымі прасветамі.



Капліца Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Яськавічы.

## в. Яськавічы,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

На могілках. Пабудавана ў 1998 г. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам. Сцены прарэзаны прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі.



Капліца ў в. Ясянец.

## в. Ясянец,
Ганцавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На паўднёвай ускраіне вёскі, на каталіцкіх могілках. Пабудавана з цэглы ў 1-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю як пахавальня ўладальнікаў маёнтка Вендорфаў.

Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам, закрытым на фасадзе паўкруглым франтонам. Арачныя аконныя і ўваходны праёмы вылучаны цагляначырвонымі ліштвамі на паліхромным фоне бутавай муроўкі сцен.



Капліца ў в. Ятвеск (Будраўцы).

## в. Ятвеск (Будраўцы),
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На ўсход ад вёскі Будраўцы, у полі. Узведзена ў 19 ст. з цэглы як мемарыяльная. Помнік архітэктуры класіцызму. Вырашана цыліндрычнай калонай.



Капліца Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Ятоўтавічы.

## в. Ятоўтавічы,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным зрубам з трохграннай алтарнай часткай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у вальмавы. Трохвугольны франтон фасада завершаны цыбулепадобным купалкам на 4-гранным барабане. Вертыкальна ашаляваныя сцены прарублены прамавугольнымі ўваходным і аконнымі праёмамі, умацаваны брусамі-сцяжкамі.



Капліца ў в. Яя.

## в. Яя,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пастаўлена з цэглы і бетону ў 1938 г.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана трох'ярруснай вежай: 4-гранны п'едэстал, пірамідальны абеліск і 8-гранны слуп з крыжом у завяршэнні. Франтальная грань п'едэстала крапавана прамавугольнай нішай.



# А

## в. Абольцы (Клебань),
Талачынскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл

Знаходзіўся на плато высокага пагорка ў 1-й вярсце ад былога мястэчка. У гістарычных крыніцах вёска ўпершыню ўпамінаецца ў 1385 г. як маёмасць вялікага князя літоўскага Уладзіслава Ягайлы, які заснаваў тут у 1378 г. ў ліку першых на Беларусі невялікі драўляны касцёл[1]. Пры Жыгімонце III створаны дэканат, а потым зацверджана суфраганія (вікарыят) віленскага біскупства. У 1542—45 гг. вялася судовая цяжба паміж уладальнікамі маёнтка Сянно князем Дз.Відуніцкім-Любецкім, яго пасынкам Р.І.Сенненскім-Грыбоўскім з плябанам Аболецкага касцёла за наезды і рабункі апошняга на іх землях[2]. У 1809 г. касцёл быў адноўлены. Да 1-га падзелу Рэчы Паспалітай тут служыў вядомы біскуп-суфраган Богуш-Сестранцэвіч. Касцёл яшчэ існаваў на пачатку 20 ст. (месцазнаходжанне выяўлена археалагічнымі раскопкамі 1981). Надмагільная пліта з лацінскім надпісам вызначыла месца пахавальні.



[1] Насевіч В.Л. Абольцы // ЭГБ. Мн., 1993. Т. 1. С. 15; Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 103.

[2] Удальцоў В. Сянно // ЭГБ. Мн., 2001. Т. 6. С. 479.

## в. Азаркі
Віцебскага раёна

### Касцёл

Пераведзеныя з Віцебска ў Дуброўна манахі-піяры атрымалі ад графа Р.Пацёмкіна на ўтрыманне школы заможную в. Азаркі, у якой за свой кошт у 1804 г. Пацёмкін збудаваў драўляны 2-вежавы касцёл з 3 алтарамі, а таксама шпіталь для сваіх падданых. З 1818 г. набажэнствы адпраўляліся уніяцкім святаром, які знаходзіўся на ўтрыманні піяраў.

## в. Азёры
Гродзенскага раёна

### Касцёл Хрыста Валадара

Знаходзіўся на рынкавай плошчы мястэчка. Быў пабудаваны ў 1676(9) г. з дрэва. Аднаўляўся ў 1779 г. за кошт польскага караля Ст.Панятоўскага[1]. Убогі стан будынка прымусіў парафіян у 1897—1904 гг. хадайнічаць перад уладамі аб будаўніцтве новага мураванага храма, што не было задаволена[2]. Старажытны касцёл прыйшоў у заняпад. У час Вялікай Айчыннай вайны згарэў. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Храм быў выкананы ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства. Працяглы прамавугольны зруб пераходзіў у вузейшую 5-гранную апсіду з бакавой сакрысціяй і аб'ядноўваўся агульным гонтавым дахам. Над галоўным фасадам узвышалася чацверыковая 2-ярусная званіца. Бакавыя фасады чляніліся шырокімі паўкруглымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

Зала храма была перакрыта люстраным скляпеннем. Апсіду і крылы прэсбітэрыя запаўнялі драўляныя 2-ярусныя алтары, вырашаныя карынфскай каланадай, якая несла драўляныя скульптуры святых. Высокамастацкай каштоўнасцю вылучаліся разны амбон і шытыя са слуцкіх паясоў арнаты.

[1] Hirszel St. Z. Przyczynki do monografii pow. Grodzieńskiego. Grodno, 1923. S. 12.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 462, арк. 1—40; спр. 747, арк. 8; ф. 8, воп. 2, спр. 2140.

## в. Азіна (да 1975 в. Белае),
Полацкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл

Згадваецца ў 1821 г. як мураваны.

# в. Азяраны,

Рагачоўскі раён
Гомельскай вобласці

## Кляштар канонікаў латэранскіх

Існаваў у 1773—1844 гг.

# в. Акалова,

Лагойскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл

Пабудаваны ў 1798 г. Выгляд храма вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны 3-нефавым прамавугольным зрубам пад 2-схільным гонтавым дахам. Франтальны фасад быў вырашаны 4-калонным порцікам з арачным прасветам у трохвугольным франтоне, над якім узвышалася 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) званічка пад сплюшчаным сферычным купалкам. Інтэр'ер вызначаўся ансамблем алтароў (галоўны і 4 бакавыя), выкананых у стылі ракако на палатне і навешаных на сцены. Галоўны алтар быў вырашаны архітэктанічнай кампазіцыяй 2 калон, якія неслі крылы «разарванага» выгнутага антаблемента з вазамі і ракайльным картушам па цэнтры. Каля калон стаялі 2 скульптуры апосталаў.

# пас. Акцябр (в. Старчыцы),

Салігорскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл

Першапачатковы храм тут пабудаваны з дрэва ў 1625 г. па фундацыі Радзівілаў. У 1816 г. пажар знішчыў святыню, і на яе месцы князь К.Радзівіл са сваёй сястрой графіняй Ржавуцкай пабудаваў новы касцёл[1]. У 1864—75 гг. закрыты. У пачатку 20 ст. пастаўлены новы мураваны храм. Існаваў да 1939 г.

Архітэктура касцёла была вырашана ў стылі неакласіцызму. Уяўляў сабой манументальны, але просты прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай сцяной. Галоўны фасад быў вырашаны 6-калонным порцікам з трохвугольным франтонам і бакавымі валютамі. Плоскасныя бакавыя фасады былі рытмічна расчлянёны стральчатымі аконнымі праёмамі (уплыў рэтраспектыўна-гатычнага стылю) і шырокімі пілястрамі ў прасценках.

Унутры зала храма магутнымі слупамі і аркадай была падзелена на 3 нефы, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі. У цэнтральным з іх на высокі пастамент быў узняты магутны мураваны алтар-перагародка, вырашаны карынфскай каланадай, завершанай крапаваным антаблементам са скульптурамі анёлаў. Цэнтр алтара займаў невялікі класічны порцік, па баках якога стаялі 2 скульптуры святых. У інтэр'еры меліся 2 кулісныя алтары (у адным з іх знаходзілася скульптура Укрыжаванне). Абразы 4 евангелістаў былі напісаны вядомым мастаком, мясцовым парафіянінам Вільгельмам Картарвінскім.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 317—319.

# в. Альшаны,

Карэліцкі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл святога Яна Хрысціцеля

Заснаваны ў 15 ст. князямі Альгімунтовічамі Альшанскімі, пры Сапегах пераўтвораны ў кальвінскі збор. У 1618 г. князь П.Сапега фундаваў мураваны кляштар з касцёлам для манахаў-францысканцаў і ахвяраваў ім зямлю пад плябанію, в. Плешын з 16 валокамі зямлі, лес і інш. Да храма адносілася капліца на могілках побач з кляштарам.

# в. Амнішава,

Лагойскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл

Быў пабудаваны як парафіяльны ў 1795 г. з дрэва па фундацыі Іосіфа і Анеліі Корсакаў[1]. У 1867 г. быў перароблены на праваслаўную царкву. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.



Касцёл у в. Амнішава.



Касцёл у в. Анопаль. Малюнак Н.Орды.

Твор народнага дойлідства. Плоскасны фасад фланкіравалі 2 чацверыковыя шатровыя вежы, паміж якімі ўзвышаўся высокі шчыт з франтонам плаўнага малюнку і бакавымі стылізаванымі валютамі (барочны архітэктурны матыў). Гонтавы дах з вальмамі над 5-граннай апсідай апяразваў шырокі прафіляваны карніз, які пры дапамозе гонтавага адліва падзяляў франтальны фасад на 2 ярусы. На вертыкальнай шалёўцы сцен вылучаліся лучковыя аконныя праёмы. У інтэр'еры на апсіднай сцяне была нанесена ілюзорная выява алтара[2]. Перад храмам з боку мураванай брамы стаяла 4-слуповая каркасная званіца з шатровым пакрыццём.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. T. 1—2. Warszawa; Petersburg, 1912 —13. C. 218.

[2] Ignacy Borejko Chodźko. Djecezja Mińska około 1830 roku. I. Struktury parafialne. Opracował i wydał Marian Radwan. Lublin, 1998.



Касцёл у в. Антушы.

## в. Анопаль

Мінскага раёна

### Касцёл

Стаяў над р. Пціч у сядзібна-паркавым комплексе. Драўляны храм пабудаваны ў 1776 г. з дрэва як пахавальня ўладальніка маёнтка князя Радзівіла[1]. У 1855 г. адносіўся як філіяльны да Мінскай Кальварыйскай парафіі. У 1863 г. быў закрыты і да 1878 г. выкарыстоўваўся пад праваслаўную царкву[2]. У 1870-я гг. адноўлены Альбрэхтам Радзівілам і Ганнай Халецкай. Вядомы па акварэлі Н.Орды 1864—76 гг.[4] У 1912 г. разабраны, у 1920-я гг. пачалося будаўніцтва новага мураванага храма, якое не было скончана[3].

Архітэктура храма мела рысы народнага дойлідства з рысамі стылю барока. Уяўляў сабой крыжовы ў плане зруб, сяродкрыжжа 2-схільных гонтавых дахаў якога завяршала барочная фігурная сігнатурка. Гарызантальна ашаляваныя сцены былі прарэзаны высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, умацаваны брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Уваход быў вырашаны нізкім прытворам пад 2-схільным дахам.

Інтэр'ер храма вылучаўся насычаным мастацка-дэкаратыўным афармленнем. Плафон люстранога скляпення пакрывала сюжэтная размалёўка, падугі па перыметры распісаны пад балюстраду. Але асноўным архітэктурна-пластычным акцэнтам з'яўляўся галоўны алтар, выкананы ў барочна-ракайльным стылі: калонны порцік з «разарваным» франтонам і разной кампазіцыяй «Глорыя» вакол верхняй люкарны. У інтэркалумніях былі пастаўлены 2 драўляныя скульптуры святых. На левай сцяне прэсбітэрыя быў навешаны барочны амбон. Касцельны пляц акаймоўваўся мураванай агароджай з 3-аркаднай брамай, з левага боку стаяла 1-павярховая плябанія з ганкам.

[1] Maliszewski Ed. Przewodnik po gub. Mińskiej. Warszawa, 1919. S. 11

[2] Описание церквей и приходов Минской епархии. Минский уезд. Мн., 1878. С. 126.

[3] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. S. 152.

[4] Katalog rysunków architektonicznych ze zbiorów muzeum Narodowego w Krakowie. Seria A. T. 10. Warszawa, 1975. S. 27. Il. 2

## в. Антушы,

Рагачоўскі раён

Гомельскай вобласці

### Касцёл

Знаходзіўся на паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Быў пабудаваны ў пачатку 19 ст. з дрэва. У савецкі час выкарыстоўваўся медыцынскай установай. Зруйнаваны ў 1990-я гг.

Твор архітэктуры класіцызму. Быў вырашаны прамавугольнымі ў плане нефам і апсідай, аб'яднанымі агульным 2-схільным дахам з застрэшкамі ў месцы злучэння зрубаў. Па баках да апсіды далучаліся нізкія сакрысціі. Фасад быў атынкаваны і завершаны трохвугольным франтонам з трыгліфным фрызам. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады чляніліся 2 ярусамі прамавугольных аконных праёмаў з сандрыкамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Унутры пры ўваходзе над нартэксам знаходзіліся хоры.

## в. Асвея,

Верхнядзвінскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Адпаведна каралеўскаму дазволу ад 24.2.1585 г. І.Кішка аддаў Асвею полацкім езуітам, якія заснавалі тут кляштар і адкрылі школу. Вялізны мураваны храм быў узведзены ў 1765(82) г. па фундацыі графа Аўгуста Броель-Плятэра і яго жонкі Канстанцыі з Гільзенаў (па іншых звестках — мінскім ваяводам Я.А.Гільзенам, які заснаваў тут кляштар місіянераў, памёр у 1767)[1]. Касцёл уваходзіў у палацава-паркавы ансамбль Гільзенаў 18 ст. (з 1781 Шадурскіх). Касцёл адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1875—76 гг. Знішчаны ў 1937 г. (захаваліся падмуркі). Перад выбухам начынне касцёла часткай было разрабавана, астатняе спалена перад храмам.

Архітэктура манументальнага будынка была вырашана ў стылі барока. Плоскасны галоўны фасад быў завершаны фігурным франтонам з бакавымі валютамі і крапаваны пілястрамі. Карабель храма быў перакрыжаваны трансептам. Скляпенні нефа былі пакрыты роспісам. Стукавы алтар меў абраз св. Вінцэнта. Пад храмам знаходзіліся пахаванні фундатараў касцёла і ўладальнікаў мястэчка. У вугле муравай аркаднай агароджы стаяла чацверыковая шатровая званіца. Захаваліся падмуркі і крыпта храма.



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Асвея. Малюнак Н.Орды.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. T. 1—2. Warszawa; Petersburg, 1912 —13; Rzymskokatolicka djecezja Witebska (Białoruś). Witebsk, 2004. S. 203.

## в. Асмолаўка,

Бярэзінскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Была пастаўлена сялянамі сярод вясковай забудовы ў пачатку 20 ст.

Твор архітэктуры неабарока. Была зрублена з брусоў у выглядзе цэнтрычнага 8-граннага аб'ёму пад адпаведным гранёным шатровым дахам, у завяршэнні якога знаходзіўся выцягнуты цыбулепадобны купал. Гонтавы дах, неашаляваныя адкрытыя сцены зруба, «урубныя» прамавугольныя аконныя праёмы надавалі храму народна-этнаграфічны характар. Рысы эклектызму прыўносіў 4-калонны порцік з фігурным увагнута-пукатым франтонам — рэмінісцэнцыі стыляў класіцызму і барока.

## в. Астрагляды,

Брагінскі раён
Гомельскай вобласці

### Касцёл

Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Твор архітэктуры эклектызму. Быў вырашаны крыжовым у плане аб'ёмам, завершаным магутным 2-ярусным 8-гранным барабанам з цыбулепадобным купалам у завяршэнні. Франтальны фасад меў глыбокі 4-калонны порцік з магутным антаблементам і высокім трохвугольным франтонам. Фасады чляніліся стральчатымі аконнымі праёмамі, вылучанымі на фоне гарызантальнай шалёўкі.

## в. Астроўна,

Бешанковіцкі раён
Віцебскай вобласці

### Кляштар дамініканцаў

Існаваў у 1612—1832 гг.

## в. Атоўчыцы,

Іванаўскі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Маці Божай Ружанцовай

Мураваны парафіяльны касцёл быў фундаваны ў 17 ст., забраны пад праваслаўную царкву ў 1867 г., вернуты католікам у 1923 г. Намаганнямі парафіян і ксяндза Дзімітровіча ў 1926 г. адрэстаўрыраваны.

## г. Ашмяны

Гродзенскай вобласці



## Кляштар дамініканцаў

Заснаваны ў 1667 г., скасаваны ў 1850 г.



# Б

### в. Бабінавічы,

Лёзненскі раён

Віцебскай вобласці

## Касцёл

Невялікі храм быў пабудаваны ў 1782 г. з дрэва як філіяльны пры кляштары манахаў ордэна трынітарыяў у Оршы[1]. Закрыты і зруйнаваны пасля Вялікай Айчыннай вайны.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 104—105.

### в. Бабровічы,

Івацэвіцкі раён

Брэсцкай вобласці

## Касцёл святога апостала Яна Багаслова

Пабудаваны ў 1932 г. на ахвяраванні і намаганнямі святара Баляслава Пачопкі[1]. У 1935 г. налічваліся 1023 прыхаджаніны.

---

[1] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 116; Babrowicki P. Nowaja carkwa // Chryscijanskaja Dumka. 1932. № 11. S. 7—8.

### г. Бабруйск

Магілёўскай вобласці

## Кляштар марыявітак

### в. Бакшты,

Іўеўскі раён

Гродзенскай вобласці

## Касцёл святога Губерта

Быў пабудаваны ў пачатку 20 ст.

### г. Баранавічы

Брэсцкай вобласці

## Касцёл Маці Божай Каралевы Польскай

Пабудаваны ў 1930-х гг. як прыходскі.

## Касцёл святога Антонія Падуанскага

З'яўляўся вайсковым, прыходскім.

### г. Барысаў

Мінскай вобласці

## Капліца

Была размешчана на могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва[1].

Твор народнага дойлідства. Была вырашана прамавугольным зрубам пад стромкім 2-схільным гонтавым дахам з цыбулепадобным купалам на 2-ярусным 8-гранным барабане па цэнтры вільчыка. Над высокім трохвугольным франтонам фасада ўзвышалася каркасная сігнатурка-званічка. Над шырокім прамавугольным уваходам знаходзілася акно хораў. Прамавугольнымі, высока ўзнятымі аконнымі праёмамі расчлянёны і бакавыя, вертыкальна ашаляваныя фасады.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. S. 206.

### в. Батурына,

Вілейскі раён

Мінскай вобласці

## Капліца святога Мікалая

Знаходзілася ў маёнтку Шумскіх. Была пабудавана ў 18 ст. як уніяцкая. У 1796 г. асвячона па рымска-каталіцкаму абраду і стала філіяльнай першапачаткова пры касцёле в. Гайна (Лагойскі р-н), потым пры касцёле в. Радашковічы. Да касцёла была прыпісана капліца ў в. Карповічы. У 1864 г. касцёл закрыты і перададзены праваслаўным. У 1920 г. вернута католікам і перайменавана ў гонар Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Дзейнічала да Вялікай Айчыннай вайны, падчас якой спалена разам з вёскай.

Твор народнага драўлянага дойлідства. Інтэр'ер упрыгожвалі 3 маляваныя на сценах алтары.

### в. Баяры (Цераздвор),

Мядзельскі раён

Віцебскай вобласці

## Капліца

Знаходзілася ў маёнтку Аскеркаў Цераздвор у 2 км на поўдзень ад вёскі. Згадваецца ў 2-й палавіне 19 ст. як драўляная. У 1932 г. перавезена ў Мядзел на Кальварыю і была асвячона пад назвай Апошняй Вячэры Хрыста[1].

---

[1] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. І. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мн., 2003. С. 28.

## в. Белагруда,

Лідскі раён

Гродзенскай вобласці

### Касцёл

Быў пабудаваны ў канцы 18 — пачатку19 ст. з дрэва. Знесены з-за струхнеласці, на яго месцы ў 1900—07 гг. узведзены мураваны храм. Захавалася званіца.

## в. Белае,

Полацкі раён

Віцебскай вобласці

### Касцёл

Невялікі драўляны храм знаходзіўся сярод вясковай забудовы. Пабудаваны ў пачатку 19 ст., у архіўных дакументах адзначаецца пад 1841 г.

Архітэктура храма мела рысы правінцыяльнага класіцызму. Уяўляў сабой прамавугольны ў плане зруб пад 2-схільным дахам, без асабіста вылучанай апсіды. На фасадзе 4 прысценныя іанічныя драўляныя калоны з трохвугольным франтонам у завяршэнні вылучалі галоўны ўваход. У тымпане франтона была размешчана драўляная скульптура «Укрыжаванне». Гарызантальна ашаляваныя фасады чляніліся высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Беняконі,

Воранаўскі раён

Гродзенскай вобласці

### Касцёл

Да будаўніцтва ў 1900—06 гг. існуючага манументальнага мураванага храма ў вёсцы існаваў драўляны касцёл, фундаваны Я.Чаплінскім у 1634 г.[1]

Храм быў вытрыманы ў традыцыях народнага дойлідства і меў рысы стылю барока. Працяглы прамавугольны зруб пад 2-схільным дахам на фасадзе быў вылучаны своеасаблівым 6-слуповым порцікам з фігурным увагнута-пукатым франтонам, над якім узвышалася чацверыковая шатровая вежа-званіца. Рытм гарызантальна ашаляваных бакавых фасадаў стваралі прамавугольныя аконныя праёмы ў простых ліштвах.

---

[1] Zmigrodzki J. Nowogródek i okolice. Nowogródek, 1927. S. 48.

## в. Бяражніца,

Шчучынскі раён

Гродзенскай вобласці



Касцёл у в. Белагруда.

### Касцёл

З'яўляўся філіяльным пры Петра-Паўлаўскім касцёле ў в. Ражанцы. Вядомы па малюнку Н.Орды 1861—77 гг.[1]

Твор народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны прамавугольным зрубам з высунутым прытворам і прэсбітэрыем, дах над якім быў завершаны сігнатуркай.

---

[1] Katalog rysunków architektonicznych ze źbiórów muzeum Narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975. Seria A. T. X. S. 28. № 40.

## г. Беразіно

Мінскай вобласці

### Касцёл

Стаяў пасярод Рынкавай плошчы. Пабудаваны ў 1644 г. з дрэва па фундацыі ўладальніка мястэчка Л.Сапегі з дазволу польскага караля ад 24.9.1641 г. Нанава адбудаваны ў 1803 г. пры графіні Васовіч і асвячоны ігуменскім дэканам па загадзе мінскага



Касцёл у в. Беняконі.



біскупа Дзядзеркі. За кошт Васовіч зноў перабудаваны ў 1844 г. Згарэў у 1914 г. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Архітэктура драўлянага храма была трактавана ў стылі позняга класіцызму. Прамавугольны зруб пад 2-схільным дахам. Над трохвугольным франтонам галоўнага фасада ўзвышалася 2-ярусная 8-гранная шатровая вежачка з крыжом. Падобны невялікі барабанчык узвышаўся над апсідай. Бакавыя фасады па цэнтры былі вырашаны шырокай прамавугольнай 3-слуповай лоджыяй.

У інтэр'еры галоўны алтар меў абраз Маці Божай, пакрыты сярэбраным абкладам. Перад касцёлам збоку стаяла мураваная 2-арачная званіца.

## в. Беразіно,

Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл і кляштар бернардзінцаў

У 1682 г. надворны харунжы літоўскі К.У.Пац заснаваў тут драўляныя касцёл і кляштар манахаў ордэна бернардзінцаў; у фундацыі касцёла ўдзельнічаў К.Л.Сапега[1]. У інтэр'еры касцёла на апсіднай сцяне была нанесена ілюзорная выява алтара[2]. Кляштар існаваў да 1832 г.

---

[1] Грыцкевіч А. Казімір Леў Сапега // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000. С. 145.

[2] Ignacy Borejko Chodźko. Djecezja Mińska okolo 1830 roku. I. Struktury parafialne. Opracował i wydał Marian Radwan. Lublin, 1998.

## в. Бердаўка,

Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл

Пабудаваны ў 1920-я гг. з дрэва.

Твор архітэктуры мадэрна. Быў вырашаны квадратным у плане зрубам пад стромкім 2-схільным дахам, завершаным па цэнтры 8-граннай каркаснай купальнай сігнатуркай. Да фасада далучаўся прамавугольны ў плане нартэкс, над якім узвышаўся ярус званіцы пад 2-схільным пакрыццём. Фасады чляніліся арачнымі аконнымі праёмамі.



Касцёл у в. Бердаўка.



## г.п. Бешанковічы

Віцебскай вобласці

### Касцёл святых Казіміра і Рафаіла

Знаходзіўся ў цэнтры. У 15 ст. польскі кароль Казімір Ягелончык пабудаваў тут храм св. Юліуша. У 17 ст. ўладанне Бешанковічы належала Сапегам, з якіх Казімір Леў дамогся ў 1650 г. гораду магдэбургскага права і пабудаваў касцёл[1]. У 1876 г. на яго месцы на сродкі ксяндза Керсноўскага пабудаваны новы храм[2]. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1876 г. У 1935 г. ён яшчэ існаваў, налічваў 1340 парафіян.

З'яўляўся творам драўлянага дойлідства з рысамі рэтрагатычнага стылю. Уяўляў сабой 2-вежавы 3-нефавы зрубны храм з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Дахсхільны дах карабля храма перападаў у больш нізкі гранёны над апсідай. 2-ярусныя васьмерыковыя шатровыя вежы «выраслі» над плоскасным галоўным фасадам. Асацыяцыі з класіцызмам выклікаліся трохвугольнымі франтончыкамі над прамавугольнымі аконнымі праёмамі, вылучанымі на фоне гарызантальнай шалёўкі фасадаў. Ад гатычнай касцельнай архітэктуры было пазычана акно-ружа над прамавугольным парталам увахода з вімпергам. Зала храма, расчлянёная на 3 нефы тонкімі драўлянымі слупамі, была перакрыта драўляным латковым скляпеннем. У 4 алтарах знаходзіліся высокамастацкія абразы «Дзева Марыя», «Св. Антоні», «Укрыжаванне». На левай сцяне быў навешаны гранёны амбон.

---

[1] Грыцкевіч А. Казімір Леў Сапега // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000. С. 145.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohilowska. Warszawa, 1913. S. 407—408.

## в. Блонь,

Пухавіцкі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл езуітаў

Тут існавала рэзідэнцыя манахаў-езуітаў, заснаваная вядомым літаратарам і грамадскім дзеячам Равай. Іосіф, сын мінскага казначэя Адама з роду Бакаў, у 1723 г. ўступіў у ордэн, якому падараваў маёнтак і пабудаваў у 1742 г. драўляны касцёл, у 1745 г. — кляштар[1]. Пасля скасавання ордэна касцёл стаў парафіяльным. Храм грунтоўна перабудаваны ў 1901 г.

Твор народнага драўлянага дойлідства. Прамавугольны пад 2-схільным дахам зруб на галоўным фасадзе быў вылучаны 2-яруснай чацверыковай званіцай і 4-калонным порцікам пры ўваходзе.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, Petersburg, 1912. T.II. S. 243—244.

## г.п. Бобр,
Крупскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл марыянаў

Невялікі мураваны храм быў фундаваны ў 1760 г. князямі Агінскімі[1]. У пачатку 20 ст. быў пабудаваны новы драўляны храм. У 1913 г. налічвалася 2526 прыхаджан.

Архітэктура будынка мела рысы стылю неаготыкі. Прамавугольны выцягнуты зруб пад 2-схільным дахам на фасадзе вылучаўся дзвюма 2-яруснымі чацверыковымі вежамі з макаўкамі на 4-схільных пакрыццях. Стылёвую афарбоўку будынку надавалі стральчатыя арачныя прасветы і нішы вежаў, такой жа формы ўваходны партал з круглым акном-ружай над ім, 2-гранныя шчыпцы цэнтральнага рызаліта і даху.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohilowska. Warszawa, 1913. S. 113—114.

## г. Брагін
Гомельскай вобласці

### Кляштар езуітаў

Каля 1770 г. ў горадзе існавала місія езуітаў з касцёлам.

## г. Браслаў
Віцебскай вобласці

### Кляштар базыльян

Знаходзіўся за 4 км на паўднёвы ўсход ад горада, на адным з астравоў возера Неспіш пад назвай Манастыр, звязаным з берагам мостам. На невялікім суседнім востраве Святы быў пастаўлены крыж, шанаваны як цудатворны. Першапачаткова заснаваны мужчынскі праваслаўны манастыр, на ўтрыманне якога каля 1500 г. жонка вялікага князя літоўскага Аляксандра Алёна ахвяравала 15 сялян з зямлёй, сенажацямі, млынам і возерам. У 16—17 ст. на манастыр рабілі ахвяраванні ўладальнікі горада Масальскія, Тышкевічы і інш. У выніку яго маёмасць дасягнула звыш 1 тыс. дзесяцін зямлі (вёскі Агані, Дубкі, Княжына, Літоўшчына, Маскоўцы, Мутуроўшчына, Салакоўшчына, Татароўшчына і інш.). У даравальнай грамаце старосты Я.Тышкевіча ў 1631 г.



Касцёл езуітаў у в. Блонь.

названы манастыром Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы. 5.7.1633 г. кароль Уладзіслаў IV пацвердзіў валоданні манастыра і граматай ад 14.3. 1635 г. перадаў яго базыльянскаму ордэну. Існаваў да 1827 г.[1] На манастырскім пагосце побач з в. Шауры стаяла царква св. Георгія (у 1852 разабрана), кляштару належала царква Св. Духа на Замкавай гары ў Браславе (у 1812 згарэла). Падчас Паўночнай вайны 1700—21 гг. і Айчыннай вайны 1812 г. кляштар разрабаваны, у 1827 г. закрыты, у 1832 г. яго будынкі знішчаны пажарам. Паводле падання, захаваўся толькі абраз Багародзіцы, які знаходзіцца ў Браслаўскім касцёле. На працягу 19 — пачатку 20 ст. востраў быў месцам рэлігійнага паломніцтва.

У 1864 г. яго даследаваў мастак Д.Струкаў, які па раскапаным падмуркам зрабіў малюнак-рэканструкцыю кляштара[2]. Архітэктурны комплекс складаўся з драўляных царквы Прачыстай Багародзіцы, капліцы, званіцы, шэрагу жылых і гаспадарчых пабудоў.

[1] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 52.
[2] ЭГБ. Мн., 1994. Т. 2. С. 67.






Кляштар базыльян у г. Браслаў. Малюнак-рэканструкцыя Д.Струкава. 1864.

## в. Брашэвічы,

Драгічынскі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл

Вядомы па малюнку Н.Орды 1863 г.[1] Драўляны храм паказаны з боку галоўнага фасада. Быў 1-нефавым з сігнатуркай над дахам. З левага боку стаяла драўляная 4-гранная званіца.

---

[1] Katalog rysunków architektonicznych ze żbiórów muzeum Narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975. Seria A. T. X. S.39.

## г. Брэст

### Касцёл Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі і кляштар бернардзінак

Драўляны кляштар бернардзінак фундаваны ў 1624 г. Геленай Копцавай з Дольскіх на Валынскім прадмесці, насупраць кляштара бернардзінцаў[1]. Мураваны касцёл пабудаваны ў 1750 г., у 1781 г. ўзведзены мураваны жылы корпус, які 3 крыламі акаймоўваў квадратны ўнутраны двор з садам. Існаваў да 1831 г., калі быў знесены падчас будаўніцтва крэпасці. Захаваліся рэшткі і падмуркі архітэктурнага комплексу.





Касцёл Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі і кляштар бернардзінак у г. Брэст. Чарцёж.



Касцёл Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі і кляштар бернардзінак у г. Брэст. Сучасны выгляд.

Касцёл — твор архітэктуры позняга барока. Аднанефавы 2-вежавы храм з прамавугольнай апсідай. Галоўны фасад вылучаўся насычанай архітэктурнай пластыкай — шматслойная пілястравая і карнізная крапоўка на 3 вертыкальныя праслы і 2 ярусы. Сілуэт фасада фарміравалі цыбулепадобныя купалы бакавых вежаў і фігурны «разарваны» франтон паміж імі. Унутраную зальную прастору перакрывала авальнае скляпенне, распор якога ўспрымаўся парнымі сценавымі пілонамі; асвятлялася верхнім ярусам лучковых аконных праёмаў і ніжнім ярусам паўкруглых люкарнаў. Паміж сценавымі пілонамі былі ўстроены капліцы авальнага абрысу. Неф завяршаўся 2-ярусным пазалочаным алтаром, бакавыя алтары размяшчаліся пры крапаваных пілястрамі пілонах.

---

[1] Квитницкая Е.Д. Монастыри Бреста XVII — XVIII вв. // Архитектурное наследство. 1979. № 27. С. 16.

### Касцёл і кляштар брыгітак

Драўляны кляштар брыгітак фундаваны ў 1624 г. А.Гансеўскім, Янам і Кацярынай Пацамі, старостам слонімскім І.Садоўскім у гарадскім прадмесці Пескі. На яго месцы ў 1751 г. пабудаваны мураваны касцёл і жылы корпус. Скасаваны ў 1830 г. і знесены ў сувязі з будаўніцтвам крэпасці[1].

К а с ц ё л — твор архітэктуры барока. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дамініраваў авальны ў плане аб'ём, завершаны 8-гранным шатровым барабанам. Па падоўжнай восі прылягалі квадратная апсіда з 2 бакавымі сакрысціямі і прасторны нартэкс. Галоўны фасад меў багатую пластычную апрацоўку: вязкі пілястраў і раскрапаваны антаблемент, над якім узвышаўся «разарваны» лучковы франтон і высокі фігурны шчыт, завершаны вазамі і скульптурамі.

Дынамічную арганізацыю атрымала ўнутраная прастора храма, расчлянёная магутнымі слупамі на 3 акруглыя нефы, якія кантрастна спалучаліся з прамавугольнымі памяшканнямі апсіды і шырокага нартэкса. Насычанае дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера было выканана ў тэхніцы стука ў стылі ра-

како. Каля 8 міжнефавых слупоў стаялі драўляныя пазалочаныя скульптуры святых. Акрамя галоўнага было 10 бакавых кулісных алтароў. Падлога была пакрыта мармуровай пліткай.

Праз сакрысцію і капліцу касцёл злучаўся з 2-павярховым П-падобным у плане **кляштарным корпусам**. Рытм ствараўся за кошт сціплай архітэктуры прамавугольных аконных праёмаў на плоскасных фасадах. Корпус традыцыйна меў галерэйную планіроўку з аднабаковым размяшчэннем келляў, трапезнай, камор і інш.

---

[1] Квитницкая Е.Д. Монастыри Бреста XVII — XVIII вв. // Архитектурное наследство. 1979. № 27. С. 18; Лавровская И. Судьба памятников истории и архитектуры Бреста (XIV—XIX вв.) // Архитектура и строительство Белоруссии. 1991. № 6. С. 42—44.

## Касцёл Ісуса і Святога Крыжа і калегіум езуітаў

Знаходзіўся на тэрыторыі крэпасці. Езуіты з'явіліся ў горадзе ў 1615 г. (па іншых звестках у 1609) па запрашэнні луцкага біскупа П.Валуцкага. Спачатку ў 1620 г. заснавалі рэзідэнцыю ў падараваным брэсцкім ваяводам А.Валовічам фальварку Адамкава. У 1629(23) г. збудавалі калегіум[1]. У фундацыі кляштара прымалі ўдзел віленскі ваявода Л.Сапега (1653) і кароль Міхал Вішнявецкі (1669), надзяліўшы яго зямлёй[2]. У 1656 г. К.Л.Сапега ахвяраваў кляштару 30 тыс. злотых на будаўніцтва мураваных касцёла і калегіума. Манументальны мураваны храм быў узведзены ў 1656—1713 гг., будынак калегіума — да 1750 г.[3] В 1696—1760-я гг. пры калегіуме дзейнічаў школьны тэатр, мелася вялікая бібліятэка. У калегіуме вучыліся вядомы беларускі мысліцель-атэіст К.Лышчынскі, знакаміты польскі пісьменнік і гісторык Ю.У.Нямцэвіч. Падчас знаходжання з палком у Брэсце ў 1813 г. кляштар наведаў рускі пісьменнік А.Грыбаедаў (граў на аргане)[4]. Пры будаўніцтве Брэсцкай крэпасці будынак калегіума быў прыстасаваны пад канцылярыю камендантa і ваенную казарму; касцёл зруйнаваны ў 1840-я гг., захаваліся падмуркі.

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока. Быў вырашаны 3-нефавай 2-вежавай базілікай з трансептам і паўкруглай апсідай; над сяродкрыжжам узвышаўся купал. Насычанай архітэктурнай пластыкай вылучаўся галоўны фасад, завершаны высокім 2-ярусным шчытом з бакавымі валютамі,





Касцёл і кляштар брыгітак у г. Брэст. Чарцёж.

інтэнсіўна крапаваны пілястрамі, магутнымі прафіляванымі карнізнымі паясамі, дэкарыраваны пластычнымі ліштвамі арачных аконных праёмаў, картушамі, арнаментальнай ляпнінай. Элемент асіметрыі ў кампазіцыю фасада ўносіла далучаная ў 1692 г. з паўднёва-заходняга боку чацверыковая вежа-званіца, завершаная скульптурай св. Іосіфа. Кампазіцыя кляштарнага комплексу была заснавана на кантрастным спалучэнні вертыкальнага фасада касцёла з працяглай гарызанталлю 2-павярховага корпуса калегіума, што далучаўся з паўночнага боку (дабудаваны ў 1750). Уваход у калегіум быў аформлены пластычна насычаным рызалітам з барочным фігурным франтонам і кантрастна вылучаўся на фоне плоскасных сцен, рытмічна расчлянёных лучковымі вокнамі і лапаткамі ў прасценках.



Касцёл Ісуса і Святога Крыжа і калегіум езуітаў у г. Брэст. Чарцёж.





Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар аўгусцінцаў у г. Брэст. Чарцёж.

Супрацьлеглы ад касцёла бок калегіума завяршаўся перпендыкулярным крылом тэатра.

Інтэр'ер меў алтарны ансамбль, амбон, арган, спавядальні высокамастацкага выканання; пад будынкам мелася крыпта з пахаваннямі. У афармленні касцёла ўдзельнічалі польскі дэкаратар І.Барч, які служыў пры калегіуме ў 1725—28 гг., а потым афармляў Віленскі езуіцкі калегіум.

[1] Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 103.

[2] Грыцкевіч А. Казімір Леў Сапега // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000. С. 145.

[3] Квитницкая Е.Д. Белорусские коллегиумы XVIII в. // Архитектурное наследство.1972. № 19. С. 16.

[4] Букчин С. ...Народ, издревле нам родной: Рус. писатели и Белоруссия. Очерки. Мн., 1984. С. 49.





Касцёл святой Барбары і кляштар трынітарыяў у г. Брэст. Чарцёж.

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

Знаходзіўся ў Граеўскім прадмесці, па вул. Мяшчанскай. Быў учынены ў драўляным чыгуначным будынку намаганнямі ксяндза І.Манюшкі, асвячоны ў 1932 г.[1] Абслугоўваў 4500 парафіян.

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 75—76.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар аўгусцінцаў

Пасля 1380 г. (паводле іншых звестак у 1410) на ўскраіне горада, паміж рэкамі Угрынка і Мухавец, пабудаваны драўляны кляштар аўгусцінцаў, фундаваны вялікім князем літоўскім Вітаўтам. Спалены татарамі ў 1666 г., у 1672 г. манахі перабраліся ў цэнтр горада, на гандлёвую плошчу, на якой у 1683—86 гг. пабудавалі мураваны храм (перабудоўваўся пасля пажараў 1801 і 1808). Архітэктурны комплекс знішчаны ў 1830 г. з пачаткам будаўніцтва крэпасці[1].

Касцёл быў вырашаны ў стылі барока паводле канона 1-нефавага 1-вежавага храма. Сілуэт галоўнага фасада фарміравала 2-ярусная шатровая вежа-званіца з бакавымі валютамі і пінаклямі. Зала храма пад плоскай столлю была ўпрыгожана маляванымі на сценах алтарамі.

Да касцёла прылягаў 1—2-павярховы кляштарны корпус, у якім традыцыйна размяшчаліся галерэйна звязаныя тыповыя келлі, трапезная, кухня, пякарня, меліся 3 крамы. Усе будынкі кляштара, аб'яднаныя мураванай агароджай, утваралі маляўнічы архітэктурны комплекс асіметрычна-дынамічнай кампазіцыі.

[1] Лавровская И. Судьба памятников истории и архитектуры Бреста (XIV—XIX вв.) // Архитектура и строительство Белоруссии. 1991. № 6. С. 42—44.

## Касцёл святога Казіміра

Існаваў як гарнізонны ў крэпасці ў 16 — 2-й палавіне 20 ст. Фундаваны ў 16 ст., у 19 ст. забраны пад праваслаўную царкву, у 1919 г. вернуты парафіянам, у 1928 г. перабудаваны намаганнямі ксяндза А.Мацейкевіча[1].

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 75—76.

## Касцёл святой Барбары і кляштар трынітарыяў

Існаваў у 1729—1830 гг. на Кобрынскім прадмесці. Касцёл і жылы корпус пабудаваны ў 1730—60-я гг. з цэглы па фундацыі навагрудскага ваяводы Я.Радзівіла. Манастырскі двор акаймоўвала мура-

ваная агароджа з бакавымі брамамі. Касцёл асвячоны ў 1761 г., зруйнаваны ў 1830-я гг.[1]

Касцёл — твор архітэктуры позняга барока. Быў вырашаны кубападобным аб'ёмам з вузейшай прамавугольнай апсідай і крыламі трансепта. Франтальны фасад карнізнымі паясамі падзяляўся на 3 ярусы: ніжні па восі сіметрыі меў уваходны партал і арачны аконны праём хораў над ім, складана крапаваны пілястрамі; сярэдні вырашаны прамавугольным атыкам-парапетам з «разарваным» франтонам і круглай люкарнай па цэнтры. Завяршаў кампазіцыю вузейшы прамавугольны шчыт з арачным выгінам завяршальнага карніза. Тымпан шчыта запаўняў фрэскавы роспіс з сімвалічнай выявай эмблемы ордэна трынітарыяў (пазней заменена выявай крыжа). Над дахам узвышаўся 8-гранны светлавы барабан са званападобным купалам.

Арыгінальна вырашалася ўнутраная прастора храма: у квадратным памяшканні бакавымі і вугלавымі капліцамі, магутнымі пілонамі і перакінутымі праз іх аркадамі вылучалася выцягнутая па падоўжнай восі 8-гранная зала, светлавы барабан над якой быў перакрыты скляпеннем. У бакавых сценах прэсбітэрыя меліся ўнутраныя лесвіцы, якія аб'ядноўвалі паверхі кляштарнага корпуса з касцёлам. Інтэр'ер упрыгожвалі 7 разных алтароў, дэкарыраваных скульптурай.

Касцёл арыгінальна быў убудаваны па цэнтры П-падобнага ў плане кляштарнага корпуса, утвараючы сіметрычна-восевую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю франтальнага фасада. Зала храма і келлі корпуса аб'ядноўваліся праз бакавыя сакрысціі. Архітэктура 2-павярховага пад вальмавым дахам корпуса мела спрошчаны характар, плоскасныя сцены чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

---

1 Квитницкая Е.Д. Монастыри Бреста XVII — XVIII вв. // Архитектурное наследство. 1979. № 27. С. 19.

## Касцёл святога Яна Хрысціцеля і кляштар бернардзінцаў

Знаходзіўся ў Валынскім прадмесці горада. Драўляны кляштар бернардзінцаў быў фундаваны біскупам луцкім М.Шышкоўскім у 1605 г.; адбудаваны пасля пажару 1617 г. мсціслаўскім ваяводай і брэсцкім старостам Г.Хадкевічам. Яго мураваныя будынкі — касцёл і жылы корпус узведзены ў 1623 г. па фундацыі канцлера Вялікага княства Літоўскага Л.Сапегі. Пры кляштары мелася аптэка, у 1647 г. налічвалася 30 манахаў. Кляштар моцна пацярпеў падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг., аднаўленне фінансаваў з казны кароль Ян Казімір і П.Сапега. Пасля рэстаўрацыі ў канцы 18 ст. кляштар прыстасаваны пад кадэцкі корпус. Скасаваны ў 1830 г. Зруйнаваны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Барочны касцёл быў вырашаны кананічнай 3-нефавай базілікай, розная вышыня нефаў ствара-ла ярусную кампазіцыю, завершаную па цэнтры 2-схільнага даху фігурнай сігнатуркай-ківорыем. Карабель храма пераходзіў у выцягнутую паўкруглую апсіду. Да бакавога паўднёвага фасада далучалася кубападобная капліца. Бязвежавы галоўны фасад меў 3-ярусную кампазіцыю і завяршаўся трохвугольным франтонам. Плоскасць фасада крапавалася арачнымі праёмамі, тонкапрафіляванымі карнізнымі паясамі і вязкамі пілястраў, над якімі ўзвышаліся скульптуры святых.



Касцёл святога Яна Хрысціцеля і кляштар бернардзінцаў у г. Брэст. Чарцёж.

Цэнтральны высокі неф перакрывалі крыжовыя скляпенні на падпружных арках, ніжэйшыя бакавыя, расчлянёныя на 6 папарных капліц, — сферычнымі купаламі. Галоўны алтар апсіды і 8 бакавых у капліцах былі створаны ў 18 ст. ў стылі ракако. У прыбудаванай капліцы знаходзілася копія абраза «Божая Маці» з рымскага касцёла Санта-Марыя-Маджорэ, падараваная Іпацію Пацею папай рымскім Кліментам VIII разам з візантыйскім абразом «Хрыстос».

Галерэя, далучаная да паўночнага бакавога фасада касцёла, звязвала яго з 2-павярховым прамавугольным у плане жылым кляштарным корпусам, што надавала комплексу дынамічную асіметрычна-ўраўнаважаную кампазіцыю. Выступ рызаліта на франтальным фасадзе і тарцовы фасад умацоўвалі контрфорсы і завяршалі барочныя фігурныя франтоны з валютамі. На 1-м паверсе галерэйная планіроўка аб'ядноўвала скляпеністыя памяшканні кухні, пякарні, трапезнай, 2 камор, сакрысцій, скарбніцы і 3 келляў; 2-і паверх займалі 22 келлі. Пры спалучэнні корпуса з касцёлам мелася цыліндрычная вежа з вітой лесвіцай.

## Касцёл святой Сафіі і кляштар дамініканцаў

Кляштар дамініканцаў заснаваны ў 1635 (або 1629) г. С.Бухавецкай. Мураваны касцёл пабудаваны ў 1696 г.[1], знесены ў 1830 г. ў сувязі з будаўніц-

Касцёл святой Сафіі і кляштар дамініканцаў у г. Брэст. Чарцёж.



твам крэпасці. Аб лёсе касцёла смуткуе польскі пісьменнік Ю.У.Нямцэвіч у сваіх мемуарах: «Як прыгожы трыумф рэлігіі! Няма ўжо тых місій, маскалі з сямі касцёлаў у Брэсце пакінулі толькі адзін, астатнія ператвораны ў склады... горад ператвораны ў цытадэль»[2].

Касцёл — твор архітэктуры барока. Прамавугольны ў плане аб'ём з 2 купальнымі капліцамі і прамавугольнай апсідай, з поўдня да якой далучаліся квадратныя сакрысція і скарбніца. Галоўны фасад чляніўся пілястрамі на 5 праслаў, развітым антаблементам падзяляўся на 2 ярусы. Верхні ярус фасада завершаны фігурным барочным шчытом з бакавымі валютамі. Першапачаткова фасад фланкіравалі 4-гранныя вежы з вінтавымі лесвіцамі ўнутры[3]. Неф перакрывала цыліндрычнае на распалубках і падпружных арках скляпенне. Інтэр'ер упрыгожвалі галоўны і 6 бакавых пазалочаных алтароў.

У 18 ст. да храма з паўднёвага боку праз вузкую працяглую галерэю быў далучаны 2-павярховы прамавугольны ў плане кляштарны жылы корпус.

[1] Квитницкая Е.Д. Монастыри Бреста XVII — XVIII вв. // Архитектурное наследство. 1979. № 27. С. 14.

[2] Niemcewicz J.U. Pamiętniki czasow moich. Tarnów, 1880. S. 6.

[3] Brykowska M. Nowozytne fasady kościelne na obszarze WKL (do początku XVIII wieku) // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995. S. 177—181.

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар базыльян

Знаходзіўся на месцы старажытнага археалагічнага Бярэсця. Запрошаныя сюды уніяцкім мітрапалітам І. Руцкім манахі-базыльяне аселі ў 1629 г. пры старажытнай праваслаўнай Мікалаеўскай царкве (у ёй была заключана царкоўная унія 1596)[1]; да 1631 г. быў сфарміраваны драўляны кляштар з П-падобным у плане 1-павярховым жылым корпусам. Пачатае ў 1788 г. будаўніцтва муравананага храма не было завершана. Пасля скасавання уніі тут месціўся праваслаўны Дабравешчанскі манастыр з аднайменнай хатняй царквой (на 3-м паверсе кляштарнага корпуса). Адзін час пасля скасавання ў 1824 г. з-за пажару тут месціўся Сімяонаўскі манастыр. Кляштар знішчаны ў сувязі з будаўніцтвам у 1830—40-х гг. крэпасці.

Касцёл — твор архітэктуры барока: 3-нефавая 2-вежавая базіліка з паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. У адну лінію з фасадам храма быў пастаўлены мураваны 2-павярховы корпус 5-класнага вучылішча. Галоўны фасад меў хвалісты абрыс, дыяганальна пастаўленыя пілоны і ордэрная пластыка (высокія пілястры на магутным руставаным цокалі) стваралі яго аб'ёмна-прасторавую структуру.

Унутры нефы перакрывалі цыліндрычныя скляпенні на падпружных арках, абапёртых на прафіліраваныя пілоны і прысценныя пілястры. Пры ўваходзе былі ўстроены хоры з пластычным, хвалістага абрысу парапетам. Апафеозам дэкаратыўнага ўбрання інтэр'ера з'яўляўся галоўны алтар 2-яруснай архітэктанічнай ордэрнай кампазіцыі; з папярэдняга драўлянага храма былі перанесены 6 драўляных кулісных алтароў.

## Кляштар кармелітаў

Існаваў у сярэдзіне 18 — 1-й палавіне 19 ст. Пабудаваны ў 1752—65 г. па фундацыі Касцюшкаў[1].

[1] Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.

# в. Будзькі,

Вілейскі раён

Мінскай вобласці

## Капліца святога архангела Міхаіла

Знаходзілася на могілках. Згадваецца ў 1840 г. Дзейнічала да 1946 г. Існавала да 1980-х гг. і была разабрана.

# г. Быхаў

Магілёўскай вобласці

## Касцёл і кляштар канонікаў латэранскіх

Размяшчаліся на беразе Дняпра. Фундаваны ў 1619 г. Хадкевічамі. У занятым рускім войскам горадзе падчас вайны 1654—67 гг. цар Аляксей Міхай-

лавіч загадаў «у мураваным касцёле быць саборнай царкве»[1]. З часам горад страціў значнасць каталіцкага асяродка з-за малалікасці вернікаў, у 1844 г. касцёл зруйнаваны. Новы храм пабудаваны ў 1930-я гг. як парафіяльны.

Архітэктура храма не несла выразных мастацка-стылёвых адзнак. Храм — прамавугольны ў плане будынак без асобна вылучанай апсіды. Алтар быў вырашаны ў неабарочным стылі — 2-калонны порцік з лучковым франтонам і бакавымі валютамі.

## Касцёл святога Казіміра і кляштар аўгусцінцаў

Быў заснаваны Я.К.Хадкевічам у пачатку 17 ст., у 1765 г. пры П.Сапегу драўляны касцёл заменены на мураваны[1].

Касцёл вядомы па фотаздымку 1930-х гг. з архіва Б.Р.Віпера, калі быў закрыты і ўзарваны[2]. Твор архітэктуры барока. Уяўляў сабой 3-нефавую 2-вежавую базіліку. Франтальны фасад меў 3-частковую кампазіцыю; у цэнтры завяршаўся 2-гранным шчыпцом і калонным рызалітам. Бакавыя 2-ярусныя вежы накрывалі паўсферычныя купалы.

---

[1] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 28, 43.

[2] Пушкін І.А. Як зачыняліся цэрквы ў Магілёве // Магілёўская даўніна. Магілёў, 1996. С. 87—91.

# в. Быцень,

Івацэвіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл святога Юзафа

Знаходзіўся ў цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства з элементамі стылю неаготыкі. Прамавугольны ў плане зруб быў накрыты высокім гонтавым дахам з паўвальмай над алтарнай часткай. Галоўны фасад прарэзвалі 2 сіметрычна размешчаныя стральчатыя аконныя праёмы, якія асвятлялі хоры. Тры пары падобных аконных праёмаў і вертыкальныя брусы-сцяжкі рытмічна чляніді бакавыя фасады. Уваход быў арганізаваны праз нізкі прытвор, франтон якога спалучаўся з высокім франтонам даху.

# г.п. Бялынічы

Магілёўскай вобласці

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар кармелітаў

Знаходзіўся на ўскраіне мястэчка. Кляштар быў заснаваны ў 1609—18 гг. віленскім ваяводам канцлерам Вялікага княства Літоўскага Л.Сапегам пасля перамогі над войскам Маскоўскай дзяржавы. У яго



Касцёл святога Юзафа ў в. Быцень.

радавым маёнтку былі пабудаваны драўляны манастырскі комплекс з касцёлам, высаджаны вялікі пладовы сад[1]. У 1624 г. ў ім аселі манахі-кармеліты чаравічкавыя, якіх канцлер адарыў вёскамі Угольшчына, Царкоўшчына, Цехціц (на 1667 у валоданні кляштара мелася 30 двароў)[2]. Пры манастыры існавала друкарня. У наступным апекунамі кляштара былі ўладальнікі мястэчка Агінскія. Ранейшыя драўляныя будынкі (згарэлі ў 1742) заменены мураванымі ў сярэдзіне 18 ст. пры прыёры кляштара П.Пятроўскім. Касцёл пабудаваны ў 1742—63 гг. Пасля скасавання кляштара па царскім указе ад 19.7.1832 г. касцёл стаў парафіяльным, пасля пажару 1859 г. намаганнямі настаяцеля вядомага і таленавітага прамоўцы магілёўскага каноніка Л.Гадлеўскага адноўлены[3]. У 1832 г. кляштар скасаваны, у 1876 г. па загадзе магілёўскага губернатара касцёл перароблены ў Раждэства-Багародзіцкую царкву, а манастыр — у праваслаўны Раджаства-Багародзіцкі мужчынскі прыстанак 2-га класа, у які пераведзена брацыя Тупічаўскага мужчынскага манастыра. Прычынай закрыцця касцёла з'явілася актыўная прапаганда каталіцкага веравызнання[4]. У 1930-я гг. ператвораны ў клуб (зняты купал і пера-



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар кармелітаў у г.п. Бялынічы. Малюнак Н.Орды.

роблены фасад). Пасля вайны выкарыстоўваўся як кінатэатр, потым — склад, у корпусе кляштара некаторы час была школа. Кляштар узарваны ў 1960-я гг. для пабудовы на яго месцы гандлёвага цэнтра. Каталіцкі прыстанак з 18 ст. з'яўляўся цэнтрам рэлігійнага жыцця ў Беларусі, доўгі час быў адным з найбольш шанаваных святынь каталіцкага свету, месцам няспыннага паломніцтва вернікаў і пілігрымаў (асабліва з-за культа абраза «Маці Божая Бялыніцкая», манастыр называўся «Беларускім Чанстаховам»). Вядомы па малюнку Н.Орды 2-й палавіны 20 ст.

Касцёл — манументальны твор архітэктуры позняга барока. Быў створаны па канону 3-нефавай крыжова-купальнай базілікі (даўжыня 43, шырыня 22, вышыня да скляпення 18 м). Трох'ярусны 5-восевы франтальны фасад багата дэкарыраваны ордэрнай пластыкай (вязкамі пілястраў, крапаванымі антаблементамі) і скульптурай. У сілуэце фасада дамінуючымі былі 3-ярусныя чацверыковыя купальныя вежы, паміж якімі размяшчаўся фігурны франтон, завершаны скульптурай Хрыста з крыжом. Бакавыя праслы завяршаліся завітымі ў валюты ўвагнутымі атыкамі. Над магутным арачным уваходным парталам выступала тэраса-балкон з ажурнай каванай агароджай.

Скляпенні, сцены храма і кляштарнага корпуса былі пакрыты фрэскавымі сюжэтнымі размалёўкамі (мастак Іосіф і вучні-памочнікі Прозар і Шульц), дэкарыраваны драўлянай скульптурай, стукавай ляпнінай. Фрэскі ўдалося зберагчы, яны знаходзяцца на рэстаўрацыі ў спецыяльных майстэрнях у Мінску. Дзевяць стукавых алтароў былі выкананы ў стылі ракако мастакамі Шульцам і Слудзінскім, скульптарам Себасцьянам, злотнікам Сліжкам, ліцейшчыкам Пігарэвічам. Арган быў выкананы майстрам А.Мацевічам. Святыняй інтэр'ера з'яўляўся абраз «Маці Божая», выкананы невядомым мастаком у 1534 г. (у 1655 перанесены ў замак г. Ляхавічы з-за ваеннай небяспекі); вернуты ў кляштар у сярэдзіне 18 ст. намаганнямі князёўны А.Агінскай, каранаваны ў 1761 г. гербамі Сапегаў і Агінскіх, асвячонымі ў Рыме папай Бенядзіктам XIV. Абраз знік у Магілёве ў Вялікую Айчынную вайну.

За касцёлам размяшчаўся мураваны Т-падобны ў плане 2-павярховы жылы корпус кляштара, памяшканні якога таксама мелі фрэскавы сюжэтны роспіс у стылі ракако на сюжэты Крыжовага шляху. Сценыараднай лесвіцы былі пакрыты роспісамі на біблейскія і евангельскія сюжэты: «Перамяненне», «Сон Іакава», «Нясенне крыжа», «Рэчы пакут Хрыста», «Сімвалы пакут».

У ансамбль кляштара ўваходзілі мураваная агароджа з брамай, званіца, вежа з гадзіннікам.



---

[1] Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.

[2] Грыцкевіч А. Казімір Леў Сапега // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000. С. 145; Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев-на-Днепре, 1884. Кн. 1. С. 36; Православные русские обители. Полное иллюстрированное описание всех православных русских монастырей в Российской империи и на Афоне. СПб., 1909. С. 609.

[3] Живописная Россия. СПб.; М., 1882. С. 412.

[4] Жудро Ф. Белыничский Рождество-Богородичный монастырь. Могилев, 1910.

## Кляштар марыявітак

Скасаваны ў 1845 г.

# г. Бяроза

Брэсцкай вобласці

## Касцёл

Закрыты ў 1866 г.
Твор народнага драўлянага дойлідства.



# в. Вавёрка,

Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Перамянення Господняга

Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Выгляд храма вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Храм не меў выразнай архітэктурна-стылёвай трактоўкі. Прамавугольны ў плане аб'ём, да якога далучаўся прытвор з бакавымі прыдзеламі. Рознавялікія кубападобныя аб'ёмы будынка былі накрыты суцэльным 2-схільным гонтавым дахам, які над карнізам набыў плаўныя выгіны. Плоскасны фасад быў завершаны спічастым трохвугольным франтонам з арачным аконным праёмам, па восі сіметрыі прарэзаны арачным уваходным праёмам, над якім арачнае акно-біфорыум.

# в. Валынцы,

Верхнядзвінскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл святога Юрыя і кляштар дамініканцаў

Маляўнічае мястэчка на беразе р. Дрысы ў старажытнасці належала полацкай Мікалаеўскай царкве, потым кароль Стафан Баторый аддаў яго ксяндзам-езуітам. Пазней мястэчка трапіла ва ўладанне Забельскіх-Шчытаў, якія ў 1716 г. пабудавалі тут драўляныя касцёл св. Юрыя, а ў 1731 г. кляштар для манахаў-дамініканцаў, надзяліўшы іх маёнткамі[1]. У

1749—66 гг. ксяндзы А.Тракеніцкі і Р.Загароўскі пабудавалі побач з мястэчкам (былы фальварак Забелы) архітэктурны комплекс — мураваныя касцёл і кляштар, гаспадарчы двор, высадзілі парк, сад і агарод[2]. Для будаўніцтва заказчык абат Р.Ленартовіч запрасіў буйнейшага на той час віленскага архітэктара, выхадца з Сілезіі І.К.Глаўбіца[3]. З ім супрацоўнічаў архітэктар-дамініканец Л.Грыневіч. Будаўніцтвам кіраваў майстар Лаўбе, які распачаў яго ў 1749 г., а ў 1756 г. касцёл быў асвячоны[4]. Але ўзвядзенне 2 вежаў-званіц працягвалася яшчэ 10 год. У 1759—66 гг. віленскімі майстрамі была ажыццёўлена дэкаратыўная апрацоўка касцёла, пастаўлены алтары. У 1752—58 гг. настаяцель кляштара эксправінцыял Р.Загароўскі ўстанавіў новы 82-галосы арган і пераліў старыя званы[5]. У 1756—59 гг. пабудаваны 2-павярховы мураваны кляштар, злучаны з касцёлам галерэяй. Будаўніцтва кляштара пачалося пад кіраўніцтвам архітэктара Я.Вішнеўскага, скончылася ў 1759 г. пад кіраўніцтвам архітэктара Ядлоўскага.

Кляштар быў адным з найбольш заможных на Беларусі: на пачатак 19 ст. яму належала 4,5 тыс. сялян. У 1772 г. ў выніку 1-га падзела Рэчы Паспалітай Валынцы апынуліся ў складзе Расіі. З 1813 г. кляштар з'яўляўся рэзідэнцыяй візітатара (куратара вучэбных устаноў) Літоўскай правінцыі дамініканскага ордэна. Сярод святароў кляштара выказваліся адмоўныя адносіны да расійскага ўрада і праваслаўнай царквы. У сувязі з гэтым у 1840 г. нават разглядалася справа «о противозаконных поступках забельских ксендзов доминикан», звязаная з тым, што частка былых уніяцкіх прыхаджан, не жадаючы пераходзіць у праваслаўе, апынулася пад апекай касцёла. У гэтым былі абвінавачаны дамініканцы. Пасля падаўлення паўстання 1830—31 гг. з 1.6. 1838 г. калегіум быў закрыты. У канцы 19 ст. касцёл адкрыты як прыходскі, у 1910 г. адноўлены ксяндзом Арзалам, на 1913 г. налічваў звыш 3 тыс. прыхаджан. Пасля 1917 г. з пераносам цэнтра раёна ў мястэчка Валынцы ў памяшканнях калегіума размясціліся райвыканкам (1-й паверх) і Валынцаўская 7-гадовая школа, у сувязі з чым была праведзена рэканструкцыя будынка. Да 1923 г. касцёл быў закрыты.[6] У гады Вялікай Айчыннай вайны ўзарваны нямецка-фашысцкімі акупантамі. Уяўленне пра яго дае акварэль Н.Орды 1875—76 гг.

Касцёл з'яўляўся шэдэўрам архітэктуры ракако; вылучаўся высотнасцю, развітым вертыкалізмам, пластычнасцю франтальнага фасада. Карабель храма завяршаўся паўкруглай апсідай. Дзве фасадныя 4-ярусныя вежы з фігурнымі ківорыямі зрокава аб'ядноўваліся пры дапамозе фігурнага шчыта. На між'ярусных прафіляваных карнізах былі ўстаноўлены дэкаратыўныя вазы. Уваход у храм быў вырашаны прытворам накшталт барбакана з пластычным шатровым пакрыццём. Над ім размяшчалася фігурнае арачнае акно, што асвятляла хоры. Перад



Касцёл святога мучаніка Юрыя і кляштар дамініканцаў у в. Валынцы. Малюнак Н.Орды.

касцёлам была пастаўлена арачная барочная брама з фігурным шчытом.

Магутныя крапаваныя слаістымі пілястрамі слупы і перакінутыя цераз іх аркады падзялялі прастору інтэр'ера на 3 нефы, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі, у апсідзе — конха. Інтэр'ер быў афармлены ў стылі ракако. У афармленні інтэр'ера прымаў удзел ксёндз-дамініканец Людзвік Грынцэвіч (1717—83)[8]. Апсіда абмяжоўвалася бакавымі каланадамі, якія неслі антаблементы са скульптурамі пуцці, а ў інтэркалумніях мелі скульптуры святых. Галоўны алтар асвячоны ў 1766 г.; быў вырашаны 3-ярусная архітэктанічнай кампазіцыяй, завершанай люкарнай у абрамленні ляпнога пано «Глорыя». Другі ярус 2-калонны са скульптурай Укрыжаванне па цэнтры; крапаваны антаблемент насялялі скульптуры гуллівых пуцці. На левы слуп прэсбітэрыя быў навешаны ракайльны амбон. Храм меў 10 кулісных алтароў, выкананых «штукатурамі з Вільні» і асвячоных у 1759 г., і ансамбль тэракотавых рэльефных пано-стацый на сюжэт «Крыжовы шлях Хрыста», у 1910 г. быў устаноўлены новы арган. Пад касцёлам знаходзіўся фамільны склеп Забельскіх-Шчытаў, дзе «за трунамі радзіны» меліся пахаванні іншых абывацеляў Забельскай парафіі — Свалынскіх, Хельхоўскіх, Медуніцкіх і іншых шляхецкіх родаў.



---

[1] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Верхнядзвінскага раёна. У 2-х кн. Кн. 1. Мн., 1999. С. 48; Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1895. T. XIV. S. 179.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 421—424.

[3] Lorentz St. Materiały do historii wileńskiej architektury barokowej i rokokowej. Warszawa, 1989. S. 41.

[4] Lorentz St. O architekturze wileńskiej // Biuletyn Historii Sztuki. Warszawa, 1993. № 2—3. S. 160.

[5] Ліхач Т. Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. №2. 2000; НАРБ, ф. 2514, воп. 1, спр. 114, арк. 76 адв., спр. 1621.

[6] Занальны дзяржаўны архіў у горадзе Полацку: ф. 122, воп. 1, спр. 3, 6, 15, 74, 136, 167; ф. 129, воп. 1, спр. 305.

[7] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый: літаратура Беларусі пераходнага перыяду (2-я палова XVII—XVIII стст.). Мн., 1980. С. 321.

[8] Karpowicz M. Sztuka polska XVIII w. Warszawa, 1985. S. 101.

## в. Вародзькаў,

Крычаўскі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл кармелітаў

Невялікі драўляны храм быў пабудаваны ксяндзамі-кармелітамі і айцом Аляксеем у 1619 г. з дрэва[1]. Пра яго існаванне сведчаць архіўныя дакументы 1882 г.[2] На 1913 г. мелася каля 500 прыхаджан, абслугоўваў і мястэчка Маляцічы. Спалены разам з вёскай нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў верасні 1943 г. Архітэктура храма была вырашана ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 97.

[2] Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 3. С. 284—285.

## в. Варонча,

Карэліцкі раён
Гродзенскай вобласці



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў г. Вілейка.



### Касцёл

Існаваў на могілках да 2-й сусветнай вайны. Пабудаваны на мяжы 19—20 ст. з дрэва. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст

Твор народнага дойлідства. Уяўляў сабой прамавугольны ў плане зруб пад высокім 2-схільным гонтавым дахам. Да 5-граннай апсіды далучаліся нізкія бакавыя сакрысціі. Да галоўнага фасада была прырублена 2-ярусная чацверыковая званіца пад пакатым шатровым пакрыццём з крыжом. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзвалі лучковыя аконныя праёмы ў прафіляваных ліштвах.

Збоку перад касцёлам сярод драўлянай агароджы стаяла брама-званіца, таксама вырашаная ў традыцыях народнага дойлідства: 4-граннае 2-яруснае каркаснае збудаванне пад шатровым пакрыццём; верхні 4-слуповы ярус-звон быў адкрыты, ніжні з уваходным праёмам зашыты дошкамі.

## в. Весялуха (не існуе),

Мядзельскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл святога Юрыя

Знаходзіўся на пагорку пры дарозе Мядзел—Ваўкалата. Быў пабудаваны ў 1815 г. з дрэва па фундацыі ўладальніка маёнтка Гутаровіча. У 1837 г. перароблены пад царкву, вернуты парафіянам у 1914 г. Зачынены ў 1949 г. і разабраны на будаўнічы матэрыял для клуба в. Слабодка. На месцы храма пастаўлены крыж у памяць 50-годдзя яго знішчэння[1].

Твор народнага дойлідства. Быў вырашаны прамавугольным зрубам пад вальмавым гонтавым дахам. Да фасада далучалася 3-ярусная 4-гранная шатровая званіца. Бакавыя вертыкальна ашаляваныя фасады рытмічна чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Інтэр'ер упрыгожвала драўляная скульптура (фігура Ісуса ў Будслаўскім касцёле).

[1] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. І. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мн., 2003. С. 28.

## в. Віктарын,

Буда-Кашалёўскі раён
Гомельскай вобласці

### Капліца-пахавальня

Стаяла на ўскраіне пейзажнага парку панскай сядзібы. Служыла фамільнай пахавальняй Дзярніловічаў і мела мураваны склеп. Знішчана ў час 1-й сусветнай вайны.

Архітэктура невялікай драўлянай святыні была вырашана, як і панскі дом, у стылі класіцызму. Прамавугольны ў плане зруб быў накрыты гонтавым да-

хам. Галоўны ўваход размяшчаўся пад калонным порцікам з трохвугольным франтонам.

## г. Вілейка

Мінскай вобласці

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Знаходзіўся ў цэнтры горада. 22.2.1861 г. быў атрыманы дазвол улад на будаўніцтва мураванага касцёла, якое пачалося ў 1862 г. пад кіраўніцтвам ксяндза Севярына Мікутовіча. У наступным годзе няскончаны будынак з-за польскага паўстання быў канфіскаваны ўладамі і перададзены праваслаўнаму ведамству, якое ў 1874 г. скончыла будаўніцтва ўжо праваслаўнага храма. Зруйнаваны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор архітэктуры з рысамі класіцызму і рэтраспектыўна-рускага стылю. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Атынкаваныя фасады чляніліся арачнымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках і па вуглах. Галоўны фасад набыў 3-лопасцевы франтон, шатровыя вежы — макаўкі, высокі дах па цэнтры — магутны 8-гранны барабан з цыбулепадобнай галоўкай над шатром; фасады апяразвалі гарадковы карніз і шырынкавы фрыз.

## в. Вістычы

Брэсцкага раёна

### Капліца

Стаяла на могілках. Была пабудавана ў пачатку 19 ст. з цэглы П.Ягмінам (1747—1808) як фамільная пахавальня ўладальнікаў маёнтка[1]. Вядома па фотаздымку 1928 г.[2]

Твор архітэктуры класіцызму. Была вырашана цэнтрычным 8-гранным аб'ёмам пад пакатым шатровым пакрыццём. Вуглы граней крапаваліся пілястрамі, апяразваліся высокім антаблементам з карнізам на дэнтыкулах. Шырокія грані ў верхняй частцы прарэзваліся паўкруглымі вокнамі-люкарнамі, на ліцавой грані — над прамавугольным уваходным праёмам.

---

[1] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X — XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 47.

[2] Aftanazy R. Dzieje rezydencji na kresach Rzeczypospolitej. T. 2. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1992. S. 153.

## г. Віцебск

### Касцёл і кляштар дамініканцаў

Знаходзіўся на левым беразе Заходняй Дзвіны пры ўпадзенні ў яе ручая. Быў заснаваны ў 1682 (1642?) г. падкаморыем Адамам Кісялём (з Брусілава) пры уніяцкай царкве[1]. У канцы 17 ст. арганістам служыў Раймунд Мурашкевіч[2]. Будаўніцтва муранага касцёла пачалося ў 1771 г. і скончылася ў пачатку 19 ст. Кляштар скасаваны ў 1832 г., пасля 1839 г. касцёл перададзены праваслаўным, кляштар — Віцебскаму гарнізоннаму батальёну. У кляштарны комплекс уваходзілі мураваныя 1-павярховыя будынкі касцёла, 2 жылых карпусоў, кузня і гаспадарчая пабудова. Згарэў у 1868 г.

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока. Быў вырашаны 3-нефавай 2-вежавай базілікай з паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Плоскасны галоўны фасад слаістымі пілястрамі чляніўся на 3 праслы, завершаныя трохвугольнымі франтонамі. Прамавугольныя ўнізе і лучковыя наверсе аконныя праёмы дзялілі яго на 2 ярусы. Унутры нефы былі перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках і падвойных падпружных арках, абапёртых на крыжовыя ў сячэнні пілоны.



Касцёл святога Антонія і кляштар бернардзінцаў у г. Віцебск (справа). Малюнак Н.Орды.



Касцёл святога Францішка Ксаверыя і кляштар езуітаў у г. Віцебск.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 357—366.
[2] Ліхач Т. Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. №2. 2000.

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар піяраў

Існаваў у раёне Задзвіння на правым беразе р. Зах. Дзвіна. Манахі ордэна піяраў пасяліліся ў горадзе ў сярэдзіне 18 ст. ў часы караля Аўгуста III (1696—1763), трымалі школу і шляхецкі канвікт[1]. У 1751 г. Андрэй Свіршчэўскі з жонкай Ганнай (з Лапаў) фундавалі будаўніцтва муравага касцёла; кляштарныя жылыя і гаспадарчыя будынкі былі драўлянымі. Прэфектамі калегіума былі: Ян Лапацінскі (1755), Ян Сіпко (1756), сын віцебскага суддзі Ян Гурко (1758), Лявон Ігольнік (1759), Андрэй Сіпко, Сяргей Сіпко (1762), сыны мірскога суддзі Антон Карніцкі (1766) і Алаіз Карніцкі (1769), Іосіф Вяшчынскі (1767). Доўгі час прафесарам быў ксёндз Аляксандр Глагоўскі, мінскі шляхціц, які 16-гадовым (у 1775) уступіў у Любяшове ў ордэн піяраў і скончыў мясцовы калегіум. Філасофію і логіку выкладаў вядомы беларускі мысліцель Анёл Доўгірд, манах ордэна піяраў з 1791 г. Піяры ставілі п'есы. У 1780-я гг. граф Г.Пацёмкін перавёў манахаў у сваю вотчыну Дуброўна, дзе пасяліў у скасаваным бернардзінскім кляштары; у Віцебску засталіся 2 ксяндзы для вядзення набажэнстваў і прагляду за касцёлам. З Дуброўны манахі-піяры ў 1799 г. адкліканы архібіскупам С.Богуш-Сестранцэвічам, па загадзе імператара Паўла I пасяліліся французскія манахі-трапісты.

У пачатку 19 ст. ў Віцебску аднавілася пастырская дзейнасць піяраў ксяндзом Іосіфам Астроўскім. У асобных дамах учынілі канвікт (пансіён) і інтэрнат для збяднелых вучняў. Сканчэнне піярскага калегіума давала права на паступленне ва універсітэт. Кляштар скасаваны ў 1822 г., калегіум перанесены ў Полацк і праўтвораны ў гімназію; касцёл у пачатку 20 ст. перадалі пад лютэранскую кірху[2].

Архітэктурны комплекс кляштара апісаны «візітай» 1818 г. Касцёл Божай Маці Шкаплернай стаяў пры вуліцы Полацкай на квадратным у плане ўчастку (5 моргаў), акаймаваным мураванай сцяной з брамай. На ўчастку акрамя касцёла месціліся будынкі кляштара, канвікта, флігеля для чэлядзі, гаспадарчыя пабудовы: стайня, карэтная, амбар, бровар, хлявы; меўся агарод. У зрубным, ашаляваным і пакрытым гонтам будынку канвікта было 12 пакояў і зала музея з лабараторыямі; 4 пакоі займаў рэктар, столькі ж выхавальнікі і прэфект; астатнія прызначаліся пад класы. Бібліятэчны фонд налічваў 1900 тамоў, сабраных у спецыяльным памяшканні над касцельнай сакрысціяй. У чалядным драўляным флігелі жылі арганіст, эканом і парабкі.

Мураваны касцёл з'яўляўся творам архітэктуры позняга барока. Буйнамаштабны 1-нефавы храм з паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Галоўны фасад фланкіраваўся 2 вежамі з фігурнымі купаламі, гонтавы дах завяршаўся купалам. Унутры на хорах стаяў 9-галосы арган. У галаўным алтары змяшчаўся абраз Маці Божай Шкаплернай; было 2 бакавых алтары: Ісуса Хрыста і св. Іосіфа.

[1] Gozdawa M. Wspomnienie o Pijarach Witebskich // Kwartalnik Litewski. 1910. T. 1. S. 89—110.
[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 357—366.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар марыявітак

Знаходзіўся побач з Дабравешчанскай царквой на левым беразе р. Зах. Дзвіна. Вядомы па акварэлі Ю.Пешкі пачатку 19 ст. Мураваны касцёл пабудаваны як прыходскі ў сярэдзіне 18 ст., пры ім меліся драўляныя пабудовы плябаніі і кляштара. Існаваў у 1749—1897 гг. Паводле люстрацыі казённых зямель 1865 г. валодаў 174,3 дзесяцінамі зямлі.

Касцёл — твор архітэктуры барока. Быў пабудаваны па каноне 3-нефавай 2-вежавай базілікі. Плоскасны галоўны фасад чляніўся пілястрамі і карнізнымі паясамі на 3 ярусы і 5 праслаў, завяршаўся фігурным франтонам, фланкіраваным 5-яруснымі шатровымі вежамі.

## Касцёл святога Антонія і кляштар бернардзінцаў

Знаходзіўся на ўсходнім баку Рынкавай плошчы (перад ратушай). У 1676 г. ваявода віцебскі Ян Антоній Храпавіцкі заснаваў кляштар ксяндзоў-бернардзінцаў, у 1685 г. пабудаваны драўляныя будынкі[1]. Пасля пажару 1733 г. ў 1737—55 гг. на сродкі Казіміра і Тэклі (з Ларскіх) Саковічаў яны заменены мураванымі (верагодна, паводле праекта архітэктара Іосіфа Фантаны III): 3-паверхавы кляштарны корпус і касцёл св. Антонія [асвячоны ў 1762

(1772?) г. беларускім біскупам-суфраганам Феліксам Тавянскім]. У 1812 г. французы выкарыстоўвалі будынак кляштара пад правіянцкі магазін. Манах-бернардзінец кляштара П.Есман разам са служыцелем Стэфановічам у 1830—31 гг. садзейнічалі забеспячэнню паўстанцаў зброяй. У 1832 г. кляштар скасаваны. У 1843 г. касцёл стаў парафіяльным (дзейнічаў да 1920-х гг.), а спустошаны кляштарны корпус у 1855 г. перайшоў да дзяржаўных устаноў. Вядомы па малюнку Ю.Пешкі пачатку 19 ст. і Н.Орды 1875—76 гг. 4.7.1922 г. канфіскаваны храмавыя каштоўнасці, арыштаваны настаяцель касцёла за супраціўленне другой канфіскацыі каштоўнасцей савецкай уладай[2]. Зруйнаваны ў 1930-я гг., узарваны ў 1956 г. ў сувязі з рэканструкцыяй цэнтра горада.

Касцёл св. Антонія быў вырашаны ў стылі віленскага барока. Уяўляў сабой 3-нефавую 2-вежавую базіліку пад 2-схільным дахам, які на галоўным фасадзе быў аформлены фігурным шчытом, а над паўкруглай апсідай з бакавымі сакрысціямі — аналагічным пластычным шчытом і 2-ярусная фігурнай сігнатуркай. Трох'ярусныя 4-гранныя вежы вытанчаных прапорцый з вуглавымі паяруснымі валютамі і фігурнымі купаламі выступалі перад фасадам і фарміравалі яго маляўнічы сілуэт. Плоскасць галоўнага фасада мела хвалісты пластычны характар, інтэнсіўную пілястравую і карнізную крапоўку. Бакавыя фасады былі вырашаны плоскасна, мелі рытм арачных аконных праёмаў.

Паўкруглую апсіду ў інтэр'еры запаўняў магутны 2-ярусны барочны алтар, падсвечаны 2 высокімі бакавымі арачнымі аконнымі праёмамі. Першы ярус алтара быў вырашаны карынфскай каланадай, што несла крапаваны прафіляваны антаблемент, другі ўяўляў сабой прамавугольны шчыт з ляпным пано «Глорыя» і бакавымі валютамі з фігуркамі анёлаў. Ідэнтычна, але ў меншым маштабе, былі вырашаны кулісныя алтары. Падлога была выкладзена тэракотавай пліткай. Сярод касцельнага начыння вылучаўся абраз-палатно «Св. Іасафат» у фігурнай разной раме ў стылі ракако.

Размешчаны ніжэй па рэльефу мясцовасці 3-павярховы П-падобны ў плане кляштарны корпус далучаўся з паўднёвага боку да касцёла і ўтвараў з ім замкнёны ўнутраны двор, у які раскрываліся калідоры-галерэі, што аб'ядноўвалі манаскія келлі. Уваход на кляштарны двор быў арганізаваны праз барочную браму паміж жылым корпусам і гаспадарчымі пабудовамі.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 366—367.

[2] ДА Віц. вобл., ф. 123, воп. 1, спр. 762, арк. 2, 16.

## Касцёл святога архангела Міхаіла

Згарэў у 1868 г.

## Касцёл святога Францішка Ксаверыя і кляштар езуітаў

Знаходзіўся на тэрыторыі Ніжняга замка, на Саборнай пл. Заснаваны ў 1637 г. Пабудаваны ў 1640—44 гг. з дрэва па фундацыі смаленскага ваяводы Корвін-Гансеўскага і намаганнямі ксяндза Ст.Касінскага. На ахвяраваным каралём пляцы былі ўзведзены драўляныя кляштар і касцёл езуітаў, асвячоны ў імя св. Юзафа[1]. Для іх забеспячэння Гансеўскі ахвяраваў тысячу квадратных міль зямлі на Смаленшчыне і прыстань на Дзвіне[2]. Акрамя таго, у 1641 г. жонка смаленскага ваяводы Паца выкупіла за 16 тыс. злотых для віцебскіх езуітаў маёнтак Камунёва. У тым жа годзе падстолі Андрэй Гурко і суддзя Юрый Хамалінскі даруе пляцы з будынкамі: «...Учитывая, что фундация иезуитов быстро растет, следовательно, для умножения божьей славы этот мой пляц наследственный в их собственность передаю»[3]. Жыццё прыстанка парушыла руска-польская вайна 1654—67 гг., якая пазбавіла езуітаў усіх валоданняў: з захопам Віцебска маскоўскім войскам манахі былі высланы на пасяленне ў Расію, а касцёл пераўтвораны пад праваслаўную царкву Аляксееўскага манастыра[4]. Адзначаны на «Чарцяжы» Віцебска 1664 г. (1-нефавы крыжовы ў плане будынак касцёла меў над уваходам 3-ярусную шатровую вежу з цыбулепадобнай галоўкай). Толькі ў 1682 г. прыстанак быў вернуты езуітам і пераўтвораны ў калегію, што юрыдычна замацавала Сеймавая канстытуцыя 1690 г.[5] З 1676 г. пры ім дзейнічала музычная бурса, з 1697 г. — аптэка. Паводле інвентара 1693 г. віцебская калегія валодала 7 маёнткамі і 24 вёскамі. У 1712 г. Антон Крэчатоўскі падараваў 2 маёнткі «как на коллегию, так и на постройку и внутреннее убранство костела». У гэты час калегія знаходзілася ў заняпадзе. Падчас Паўночнай вайны касцёл і кляштар былі спалены шведамі ў 1704—08 гг. У 1713—31 (па іншых звестках у 1716—51) гг. на ахвяраванні віцебскага кашталяна Марціна Агінскага, яго жонкі Тэрэзы і каталіцкай шляхты на месцы драўлянага храма пабудаваны мураваны касцёл. Кіраваў будаўніцтвам Базыль Часновіч і італьянскі дойлід К.Ангіяліні, аўтар алтара касцёла і выкладчык тэорыі архітэктуры ў кляштары. З 1756 г. пры калегіуме дзейнічалі семінарыя, тыпаграфія, тэатр. Будаўніцтва калегіума працягвалася да 1799 г., у 1804—20 гг. у ім размяшчалася павятовае вучылішча. У 1822 г. будынак калегіума перададзены базыльянам. Пасля скасавання кляштара ў 1831 г. здзейснена яго абмерна-чарцёжная фіксацыя[6]. Пасля 1863 г. касцёл перададзены праваслаўнаму духавенству і стаў Мікалаеўскім саборам, перабудаваным у 1872 г. з наданнем яго архітэктуры рыс рэтраспектыўна-рускага стылю[7]. У кляштарным будынку размясцілася Духоўная семінарыя (перабудавана архітэктарам П.А.Порта ў 1841). Архітэктурны комплекс адлюстраваны на ма-



люнку Н.Орды 1875—76 гг.[8] і на гравюры 1891 г.[9] Зруйнаваны ў 1930-я гг.

Манументальны мураваны касцёл з'яўляўся творам архітэктуры позняга барока, пабудаваным па каноне крыжова-купальнай 3-нефавай 2-вежавай базілікі з паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Цэнтральная частка галоўнага і тарцовыя фасады крылаў трансепта завяршаліся пластычнымі фігурнымі шчытамі; паўсферычны купал на высокім цыліндрычным светлавым барабане завяршаўся высокім ліхтаром. У сілуэце храма панавалі дзве зграбныя купальныя вежы галоўнага фасада (перабудаваны ў 1843 і набылі макаўкі ў завяршэнні). Пластыка-дэкаратыўны акцэнт створаны на 2-яруснай плоскасці галоўнага фасада, насычанага крапаванымі слаістымі пілястрамі, шматпрафіляванымі карнізамі і паясамі, фігурнымі ліштвамі арачных аконных праёмаў.

Да касцёла з паўночнага боку ў 1799 г. дабудаваны П-падобны кляштарны жылы корпус і калегіум, якія ўтваралі замкнёны ўнутраны двор. Архітэктура будынка мела пераходны характар ад барока да класіцызму (выходзіў франтальным фасадам на Саборную плошчу). Заходняе крыло корпуса завяршалася 3-яруснай вежай-званіцай з гадзіннікам. Планіроўка будынка была галерэйная, на першым паверсе змяшчаліся пакоі вучняў, архіў, трапезная з кухняй, на другім — келлі манахаў, капліца, у сутарэннях — гаспадарчыя памяшканні. Памяшканні перакрываліся крыжовымі скляпеннямі, трапезная і капліца — люстранымі скляпеннямі на падугах. На поўнач ад касцёла, на супрацьлеглым баку вул. Вялікай, адасоблена стаяў будынак школы пры калегіуме.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 357—366; Без-Корнилович М.О. Витебская губерния. Историко-географический и статистический обзор. Витебск, 1890. Вып. 1. С. 41; Сементовский А.М. Витебск и уездные города Витебской губернии. СПб., 1864. С. 8.

[2] Zaleski St. Jezuici w Polsce. Kraków, 1905. T. IV. Cz. 3. S. 1410—1414.

[3] ИЮМ, вып. 26. Витебск, 1895. С. 439—440.

[4] Сапунов А.П. Витебская старина. Витебск, 1883—1888. Т. I—V. С. 223.

[5] Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 103.

[6] РДГА, ф. 1488, воп. 1, спр. 361, арк. 1; спр. 362, арк. 2; спр. 363, арк. 1—4.

[7] Павловский А.А. Всеобщий Иллюстрированный Путеводитель по монастырям и святым местам Российской империи и Афону. Нижний Новгород, 1907. С. 541.

[8] Katalog rysunków architektonicznych ze żbiórów Muzeum Narodowego w Krakowie. Seria A. Tom X: Rysunki Napoleona Ordy. Warszawa, 1975. S. 207. Kat. 828.

[9] Оттиски видов храмов, священных предметов, городов Северо-Западного края, народных типов Витебской губернии и предметов древности. Витебск, 1891 (Приложение к Витебским губернским ведомостям за 1891 г.).



## Касцёл Сімяона Богапрыімцы

Знаходзіўся на правым беразе р. Зах. Дзвіна, насупраць Успенскага сабора, у раёне вуліц Ільінскай, Энгельса (былой Богаяўленскай) і Савецкай Арміі (былой Мікольскай). Вядома па акварэлі Юзафа Пешкі пачатку 19 ст. Была пабудавана ў 1790—1805 гг. з цэглы на месцы драўлянай царквы 15—16 ст., вядомай па «Чарцяжы» Віцебска 1664 г.[1]

Твор архітэктуры пераходнага стылю ад барока да класіцызму[4]. Была вырашана 3-нефавай крыжова-купальнай 2-вежавай базілікай з трансептам і паўкруглай апсідай. У сяродкрыжжы перасячэння цэнтральнага нефа і аднолькавага па вышыні трансепта ў выглядзе лацінскага крыжа ўзвышаўся магутны цыліндрычны светлавы барабан са сферычным купалам і ліхтаром у завяршэнні. Такімі ж купаламі завяршаліся 4-гранныя 2-ярусныя вежы фасада, паміж якімі быў пастаўлены магутны прамавугольны атык з трохвугольным франтонам. Галоўны ўваход афармляў прысценны 4-калонны порцік з класічным парталам арачнага ўваходнага праёма; паміж калонамі меліся арачныя экседры са скульптурамі, над імі — прамавугольныя плакеткі з барэльефнымі пано. Інтэр'ер быў упрыгожаны фрэскавай размалёўкай.

---

[1] РДГА, ф. 799, воп. 33, спр. 1453, арк. 25; Сементовский А.М. Витебск и уездные города Витебской губернии. СПб., 1864. С. 64.

[3] ГА Віцебскай вобл., ф. 123, воп. 1, спр. 761, арк. 32.

## Касцёл у гонар Укрыжавання Хрыстова (Апекі Найсвяцейшай Дзевы Марыі) і кляштар трынітарыяў

Знаходзіўся ў паўднёва-ўсходняй частцы горада, у Заручаўі, на паўночны ўсход ад Узгоркавага замка. Існаваў у 1759(8)—1831(2) гг.[1] Касцёл пасля скасавання ордэна быў пераўтвораны ў Пакроўскую царкву, кляштарныя карпусы перададзены грамадзянскаму ведамству для арганізацыі жаночага сірочага прытулку (пасля 1839). Касцёл быў пабудаваны з дрэва, адасоблены кляштарны корпус — з цэглы. Адлюстраваны на акварэлі Ю.Пешкі пачатку 19 ст. У пачатку 20 ст. епархіяльным архітэктарам В.Коршыкавым распрацоўваецца праект мураванага касцёла[2].

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 357—366.

[2] РДГА, ф. 835, воп. 1, спр. 764, арк. 1.

## Кляштар францысканцаў

Згадваецца з пачатку 15 ст. з часоў польскага караля Ягайлы як першы каталіцкі ордэн у Віцебску[1].

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 357—366.

## в. Войстам,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл

Быў пабудаваны ў 1811 г. з дрэва. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст. Зруйнаваны ў 1930-я гг.

Твор архітэктуры класіцызму. Вялікі прамавугольны зруб меў шырокія бакавыя крылы трансепта, на галоўным фасадзе фланкіраваўся дзвюма 3-яруснымі чацверыковымі вежамі з барочнымі купаламі. Разам з трохвугольным франтонам яны ўтваралі на галоўным фасадзе 2-калонную лоджыю. Па восі храма стаяла буйнамаштабная драўляная 3-ярусная чацверыковая званіца-брама пад шатровым дахам.



Касцёл у в. Войстам. Фота пачатку 20 ст.

## в. Волма,
Дзяржынскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Знаходзіўся ў цэнтры вёскі. Фундаваны як парафіяльны ў 1584 г. кн. Агінскай. Адбудаваны ў 1667 г. пасля пажару. Чарговы храм пабудаваны ў 1738 г. па фундацыі мясцовага памешчыка Ваньковіча[1]. У 1867 г. забраны пад праваслаўную Успенскую царкву. У 1918 г. вернуты католікам. На 1935 г. налічвалася 2150 прыхаджан[2]. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст. У пасляваенны час закрыты і выкарыстоўваўся пад калгасны склад. Згарэў у 1980-я гг.

Касцёл з'яўляўся помнікам драўлянага дойлідства з элементамі стылю барока. Уяўляў сабой 3-нефавы храм з трансептам і 5-граннай апсідай з бакавымі сакрысціямі. Галоўны фасад быў фланкіраваны дзвюма 2-яруснымі 4-граннымі шатровымі вежамі з цыбулепадобнымі макаўкамі ў завяршэнні і над апсідай. Дзвярныя і аконныя праёмы мелі гранёную арачную форму і вылучаліся на гарызантальнай шалёўцы фасадаў. У інтэр'еры на апсіднай сцяне была нанесена ілюзорная выява алтара[3]. Збоку перад храмам стаяла 2-ярусная шатровая зрубна-каркасная званіца.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Волма. Фота пачатку 20 ст.



Капліца святога Яна Хрысціцеля ў в. Вопытная (Бігосава).

[1] Описание церквей и приходов Минской епархии. Минский уезд. Мн., 1878. С. 53.

[2] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 87.

[3] Ignacy Borejko Chodųko. Diecezja Minska okolo 1830 roku. I. Struktury parafialne. Opracowal i wydal Marian Radwan. Lublin, 1998.

## в. Вопытная (Бігосава),
Верхнядзвінскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца святога Яна Хрысціцеля

Знаходзілася ў былым палацава-паркавым комплексе Нітаслаўскіх «Бігосава». Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як родавая пахавальня ўладальнікаў маёнтка[1].

Твор архітэктуры класіцызму. Была вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам. Франтальны фасад дэкарыраваны 4 паўкалонамі, у цэнтры меў прамавугольны ўваходны партал з сандрыкам і прамавугольнай плакеткай над ім. Першапачаткова фасад завяршаўся фігурным франтонам[2].

---

[1] Aftanazy R. Materiały do dziejów rezydencji. Warszawa, 1986. T. 1a. S. 9—12.

[2] Wiesz ilustrowana. 1913. № 5. S. 29.

# г.п. Воранава
Гродзенскай вобласці

## Калегіум піяраў

Заснаваны ў 1735 г. на сродкі смаленскага кашталяна Я.Сцыпіёна дэль Кампа і яго сына Іосіфа, якія ахвяравалі манахам-піярам 50 тыс. злотых і фальварак Лапацызна з вёскай Вільканцы. 12.1. 1756 г. пераведзены ў Ліду. Выгляд драўлянага касцёла вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст. Быў вырашаны прамавугольным 3-нефавым зрубам, які на галоўным фасадзе выступаў трохвугольным франтонам і фланкіраваўся гранёнымі сігнатуркамі. З левага боку ад касцёла стаяла драўляная 2-ярусная шатровая званіца; сярод бутавай агароджы мелася мураваная 2-ярусная 3-арачная брама.



Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса і Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Воўчкавічы.

# в. Восава,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл

Пабудаваны ў 19 ст. на пагорку. Быў абнесены бутавай агароджай. Збоку ад храма адасоблена стаяла 2-ярусная шатровая зрубна-каркасная званіца. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Касцёл з'яўляўся творам народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны працяглым прамавугольным зрубам пад 2-схільным гонтавым дахам, які над 5-граннай апсідай пераходзіў у вальмавы. За межы зруба на галоўным фасадзе выступалі ніжнія ярусы бакавых вежаў. Плоскасны фасад завяршаўся вялізным трохвугольным франтонам, у авальнай раме якога размяшчалася драўляная скульптура святога. Бакавыя фасады чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

# в. Воўчкавічы
Мінскага раёна

## Касцёл

Знаходзіўся на могілках. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з дрэва як уніяцкая царква[1]. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Быў вырашаны працяглым прамавугольным зрубам з трохграннай апсідай, над якой 2-схільны гонтавы дах пераходзіў у вальмавы. Над франтонам галоўнага фасада ў дах была ўрублена чацверыковая шатровая званіца з макаўкай у завяршэнні. Ашаляваныя сцены былі прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Уваход быў арганізаваны праз нізкі прыруб прытвора пад 2-схільным пакрыццём.

---

[1] Описание церквей и приходов Минской епархии. Минский уезд. Мн., 1878. С. 120.

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса і Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Пабудаваны ў 1904 г. з цэглы на пагорку каля р. Пціч, на месцы драўлянай капліцы Раждаства Найсвяцейшай Дзевы Марыі, пабудаванай уладальнікам маёнтка Марцэлем Іваноўскім у 1810 г. У 1880 г. ўзнікла патрэба ў новым капітальным храме. На гэтыя мэты парафіяне сабралі 4650 руб., графіня Юзэфа Чапская фундавала 10 850 руб., граф Ежы Чапскі — 48 тыс. руб. Сяляне падвозілі цэглу, каменне і дрэва. Касцёл асвячоны 9.11.1904 г. архібіскупам Ежы Шэмбекам[1].

З'яўляўся творам архітэктуры неаготыкі. Аднанефавы з трансептам і 5-граннай апсідай храм меў

динамічна-асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У вугал плоскаснага галоўнага фасада і яго 2-гранны шчыпец была ўрэзана высокая чацверыковая вежа-званіца пад 2-схільным дахам. Яе вертыкалізм падкрэсліваў высокі стральчаты прасвет яруса-звона і перспектыўны ўваходны партал з вімпергам. Неф быў перакрыты стральчатым скляпеннем, асвятляўся бакавымі і апсіднымі стральчатымі вокнамі з калярова-вітражным зашкленнем. У апсідзе, што адкрывалася ў залу вялізным арачным прасветам, меўся неагатычны драўляны алтар.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 152.

## в. Вязынь,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца святой Ганны

Стаяла ў цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1830 г.[1] Вядома па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Невялікі храм быў творам архітэктуры неаготыкі. Уяўляў сабой кампактны прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам. Франтальны фасад вылучаўся вялізным стральчатым уваходным парталам і акном-ружай над ім. 2-схільны шчыт фасада па вуглах завяршалі гранёныя шатровыя сігнатуркі-пінаклі, апяразваў аркатурны фрыз. Белакаменныя бакавыя фасады рытмічна чляніліся вузкімі стральчатымі аконнымі праёмамі.

[1] Zyskar J. Nasze Kościoły. Djecezja Mińska. T. 2. Warszawa; Petersburg, 1912 —13. S. 194.

## в. Вязынь,

Дзяржынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца Найсвяцейшай Тройцы

Вядома з 1733 г. як прыпісная да грэка-каталіцкай царквы ў в. Крысава. У 1751 г. асвячона па каталіцкім абрадзе і прыпісана да Койданаўскай парафіі. У 1846 г. мінскі прэлат Павел Рава асвяціў краевугольны камень мураванага храма, які быў пабудаваны ў 1847 г. Сродкі на будаўніцтва вылучыў уладальнік Вязыні Стэфан Багдашэўскі. Справа ад касцёла знаходзіўся будынак плябаніі, у якой акрамя жылля ксяндза месцілася нядзельная школа. У 1930-я гг. касцёл закрыты і пасля вайны знесены.

## в. Вялікая Сэрвач,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці



Капліца святой Ганны ў в. Вязынь.

### Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Быў пабудаваны ў 1852 г. з дрэва на сродкі Яна Напалеона Козел-Паклеўскага на месцы папярэдняга храма, заснаванага ў 1617 г. па фундацыі Яна Бжастоўскага і Рафаіла Сулістроўскага[1]. Пасля Вялікай Айчыннай вайны закрыты і ў 1950-я гг. разабраны.

Твор народнага дойлідства. Быў вырашаны квадратным у плане зрубам пад 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Да фасада далучалася 2-ярусная 4-гранная званіца пад пакатым шатровым пакрыццём; з тыльнага боку — 5-гранная ап-



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Вялікая Сэрвач.



сіда з бакавой сакрысціяй. Гарызантальна ашаляваныя фасады чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі, былі пакрыты вуглавымі нашчыльнікамі і накладнымі паўкалонамі (у апсідзе). Унутры над уваходам меліся хоры на 2 слупах.

---

[1] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. І. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мн., 2003. С. 93.

## в. Вялікія Сяхновічы,

Жабінкаўскі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

Знаходзілася ва ўрочышчы Жулкаўшчызна. Пабудавана ў 17 ст. як родавая пахавальня Касцюшкаў-Сяхновіцкіх. Пашкоджана пажарам у канцы 18 ст., канчаткова знішчана ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1938 г. польскімі даследчыкамі быў ускрыты склеп, пахаванні перавезены ў Варшаву[1].

---

[1] Бензярук А. Гісторыка-культурная спадчына роду Касцюшкаў-Сяхновіцкіх // Каштоўнасці мінуўшчын. Мн., 2001. № 5. С. 59—65; Бензярук А.Р. З гісторыі населеных пунктаў Жабінкаўшчыны // Памяць: Гіст.-дакумент. хроніка Жабінкаўскага раёна. Мн., 1999. С. 502—503.



# Г

## в. Гайна,

Лагойскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Стаяў на ўзвышаным беразе р. Гайны, на месцы былога язычніцкага капішча. Першапачатковы драўляны храм быў заснаваны Уладзіславам Ягайлам каля 1386 г. (па звестках Стрыйкоўскага і Бельскага пазней) сярод першых сямі каталіцкіх святынь, узведзеных з мэтай распаўсюджання ў краі каталіцкага веравызнання (пры касцёле ў 1522 створана адна з першых каталіцкіх школ)[1]. Вялікі князь Ягайла надаў храму фальварак побач з Гайнай у 6 валок. Пазней вялікі князь Вітаўт надаў касцёлу размешчаны побач з Гайнай маёнтак Кацялі з 6 вёскамі (яго жонка забяспечыла храм сярэбранымі літургічнымі рэчамі). Пасля бітвы пад Оршай у 1514 г. Жыгімонт І стаяў тут з войскам і адбываў набажэнства ў гонар перамогі і памяці загінуўшых сваіх паплечнікаў, адарыў храм багатымі каралеўскімі фундушамі і новымі землеўладаннямі, забяспечыў прывілеямі[2]. Бажніца прастаяла каля чатырох стагоддзяў. У 1720 г. граф Тышкевіч хацеў аднавіць састарэлы драўляны храм, але перашкодзіла смерць. І толькі ў 1781 г. (па іншых звестках у 1796) князі Тышкевічы і Цыдзік пабудавалі магутны мураваны храм, які быў асвячоны ў 1788 г. жмудскім суфраганам біскупам Тадэвушам Букатым[3]. Каталіцкія набажэнствы ў храме былі спынены пасля 1865 г. (парафія налічвала да 6 тыс. вернікаў), калі ён быў перададзены праваслаўнаму ведамству (парафіяне былі далучаны да лагойскага касцёла), а зямельная маёмасць перайшла ў царскую казну[4]. У 1866 г. храм ператвораны ў праваслаўную Успенскую царкву, але па дамоўленасці з праваслаўнымі 2 разы на год у храме адбывалася жалобная імша за душу вялікага князя Вітаўта. Муры архітэктурнага манумента існавалі да канца 19 ст. Вядомы па малюнку Н.Орды 1876 г. Зруйнаваны ў 1-ю сусветную Айчынную вайну.

Белакаменны храм быў вырашаны ў стылі барока, уяўляў сабой 3-нефавую 2-вежавую базіліку. Трох'ярусныя 4-гранныя вежы завяршаліся шатрамі, вылучалі цэнтральнае прасла, завершанае 2-ярусным фігурным франтонам. Фасад пульсіраваў хвалістымі плоскасцямі, вылучанымі на абломах пастаўленымі вуглом лапаткамі, апяразанымі тонкапрафіляванымі карнізнымі паясамі. Карабель храма быў накрыты агульным 2-схільным дахам з 2-гранным шчытом над алтарнай часткай. Бакавыя фасады рытмічна чляніліся высокімі арачнымі аконнымі праёмамі.

Унутраная прастора 4 пілонамі была падзелена на 3 нефы з чатырма бакавымі капліцамі. У інтэр'еры было ўстаноўлена 5 алтароў, у галоўным з якіх размяшчаўся абраз «Успенне», у бакавых — «Св.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Гайна.

Міхаіл», «Св. Казімір» і інш. Парафіянамі найбольш шанаваўся абраз «Дзева Марыя Гайнаўская». Сярэбраны крыж італьянскай работы пач. 16 ст., падараваны касцёлу польскім каралём Жыгімонтам І Старым, захоўваўся ў зборы Тышкевічаў у Лагойскім палацы. Крыж прададзены ў прыватныя рукі тагачасным уладальнікам палаца Аскарам Тышкевічам (1837—97). На хорах быў устаноўлены 12-галосы арган.

[1] Скрабатун У. Касцёл у Гайне // ЛіМ. 31 студзеня 1997. С. 16.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 208.

[3] Borejko-Chodџko J. Diecezja Mińska okolo 1830 roku. I. Struktury parafialne. Lublin, 1998. S. 17—18.

[4] Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1884. T. 5. S. 683.

## в. Галоўчын,

Бялыніцкі раён
Магілёўскай вобласці

### Кляштар дамініканцаў

Існаваў з 1677 да 1832 г.[1]

[1] Канфесіі на Беларусі (к. XVIII—XX ст.). Мн., 1998. С.26.

## в. Галынка

Гродзенскага раёна

### Касцёл

Існаваў у вёсцы да Вялікай Айчыннай вайны. Быў пабудаваны ў 1920-я гг. з цэглы. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

З'яўляўся творам архітэктуры гістарызму. Трохнефавы храм быў вырашаны адзіным прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Архітэктурная выразнасць галоўнага фасада дасягалася высакаякаснай цаглянай муроўкай, на фоне якой вылучаліся атынкаваныя пілястры, шырынкавы фрыз. Трохвугольны франтон быў прарэзаны круглым акном-ружай, плоскасць фасада — паўкруглымі люкарнамі.

На восі храма адасоблена стаяла квадратная ў плане брама-званіца, завершаная цыбулепадобнай галоўкай на гранёнай шыі. Другі ярус званіцы адкрываўся арачнымі праёмамі.

## г. Ганцавічы

Брэсцкай вобласці

### Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

У 1911 г. быў пабудаваны часовы храм і пачата будаўніцтва новага мураванага, завяршыць якое перашкодзіла 1-я сусветная вайна. Парафія налічвала 3 тыс. прыхаджан, мелася прыпісная капліца ў в. Малкавічы[1].

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 125.

## в. Гарадзец,

Кобрынскі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

Быў фундаваны ў 1633 г. каралём Уладзіславам IV. У 1723 г. пабудаваны драўляны барочны храм. У 1865—66 гг. пастаўлены мураваны будынак, які адразу быў забраны пад праваслаўную царкву, таму што існаваўшая струхнела і пагражала разбурэннем[1]. Пераробку касцёла і праект іканастаса склалі архітэктары Кадрунцаў, Чэкмасаў і М.Барташэўскі ў 1867—71 гг.[2] У 1918 г. вернуты католікам, парафія налічвала 1080 вернікаў[3]. Меў прыпісныя капліцы Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Грушава (мураваная, фундавана ў 19 ст. Радзевічамі) і св. Казіміра ў в. Іласк[3].

Твор архітэктуры рэтраготыкі. Быў пабудаваны па тыпе 3-нефавай 2-вежавай базілікі з прамавугольнай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Малітоўная зала трыма парамі пілонаў падзялялася на 3 нефы, уперад быў вынесены прамавугольны нартэкс. З перабудовай пад царкву бакавыя 8-гранныя шатровыя вежы былі знесены і над павышаным цэнтральным рызалітам надбудавана 1-ярусная 8-гранная шатровая званіца; над алтарнай часткай над 2-схільным дахам узведзены 8-гранны шатровы барабан. Зала перакрывалася драўляным цыліндрычным скляпеннем.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 34, спр. 3349, арк. 12.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 97, воп. 1, спр. 154, арк. 9.

[3] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 109.




## в. Гарадзілава,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

У пісьмовых крыніцах вёска ўпамінаецца ў 1443 г. як прыватнаўласніцкі маёнтак, уладальнік якога Я.Раловіч заснаваў тут касцёл. Быў разбураны ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай у 1654—67 гг., пазней адбудаваны. У крыпце была пахавана вядомая польская пісьменніца Альбіна Габрыэля[1]. У 1866 г. перададзены праваслаўным.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 89.

# г. Гарадок
Віцебскай вобласці

## Касцёл

Быў пабудаваны ў 18 ст. з дрэва. У 1799 г. меўся арган[1]. Ксёндз І.Кністовіч быў згодзен перайсці ў праваслаўе[2].

[1] Библиотека Вильнюсского университета, ф. F57, оп. 1, д. Б-53-342, л. 405; Дадзіёмава В.У. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: гісторыка-тэатральнае даследаванне. Мн., 2002. С. 113.
[2] Канфесіі на Беларусі (к. XVIII—XX ст.). Мн., 1998. С. 28.

# в. Гарбацэвічы,
Бабруйскі раён
Магілёўскай вобласці

## Касцёл

Быў пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з абчасанага вапняку. Адзначаны ў 1880 г. як прыпісны да касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў Бабруйску[1]. Першы храм пабудаваны нашчадкамі бабруйскага старосты Пятра Трызны ў канцы 17 ст. з дрэва ў вёсцы, падараванай бабруйскім езуітам шляхціцам Пятром Суляціцкім у 1643 г.[2] Езуіты тут стварылі місіянерскі пункт.

Двухвежавы храм меў неараманскую архітэктурна-стылёвую трактоўку, асноўнай архітэктурнай тэмай якой быў арачны праём акон і экседраў. У невялікім 2-калонным алтары, выкананым у стылі неакласіцызму, быў змешчаны абраз.

[1] Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1880. T. 1. S. 265—266.
[2] БГЭ. Мн., 1993. Т. 1. С. 255.

# г.п. Глуск
Магілёўскай вобласці

## Касцёл і кляштар бернардзінцаў

Знаходзіўся на тэрыторыі замка 16 ст. Быў фундаваны маршалкам ваўкавыскім Аляксандрам Гілярыем Палубінскім у 1662—67 гг.[1] Кожная гарадская сядзіба была павінна да канца года вылучыць кляштару асьміну і 7 гарнцаў жыта, 12 гарнцаў аўса, 12 гарнцаў грэчкі, 5 фунтаў мёду, гарнец хмеля, 1 гуся[2]. У 18 ст. пабудаваны мураваныя касцёл і кляштар. Да яго былі прыпісаны могілкавая капліца, капліцы ў вёсках Радуцічы, Завалошыцы, Дварэц, Барысаўшчына, Усцерхі. Скасаваны па ўказе ад 19.7.1832 г., паводле якога кляштар перададзены праваслаўным, а касцёл стаў прыходскім. На 1882 г. налічвалася 1384 парафіян.

Твор архітэктуры барока. Уяўляў сабой крыжова-купальны буйнамаштабны храм. Над сяродкрыжжам 2-схільных дахаў узвышаўся 8-гранны барабан з паўсферычным гранёным купалам і ліхтаром у завяршэнні. Маляўнічы сілуэт галоўнага фасада фарміравалі 2-ярусныя чацверыковыя вежы з фігурнымі купаламі і трохвугольны франтон паміж імі. Плоскасць фасада прафіляванымі карнізамі чляніласся на 5 ярусаў.

[1] Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в. Справочное пособие. Мн., 198; Słownik geograficzny Krolewstwa Polskiego i innych krajow slowianskich. Warszawa, 1882. T. III. S. 78—79; Witalis. kościoł w Hłusku // Ziemia. 1920. № 2. S. 39—40; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 255—257.
[2] Памяць. Акцябрскі раён. Мн., 1997. С. 54.

## Кляштар марыявітак

Заснаваны ў 1630 г. князем Альбрэхтам Радзівілам, які надзяліў яго багатай маёмасцю. Скасаваны ў 1850 г.[1]

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 255—257.

# в. Глушні,
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

## Кляштар базыльян

Захаваўся фундушавы запіс смаленскіх чашнікаў Аўгусціна і Марыяны Доўгірдаў Глушнянскаму базыльянскаму кляштару на маёнткі Глушні і Земяпішы ад 9.1.1745 г.

[1] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Шчучынскага раёна. Мн., 2001. С. 43—44.

# г. Глыбокае
Віцебскай вобласці

## Капліца

Знаходзілася пры ўездзе ў горад. Вядома па фотаздымку 1958 г.[1] Пабудавана ў сярэдзіне 18 ст. з цэглы.

Твор архітэктуры барока. Была вырашана квадратным у плане аб'ёмам пад пакатым шатровым дахам, узнята на невысокі цокаль, крапаваны прамавугольнымі нішамі. У сплошчанай арачнай нішы франтальнай грані знаходзілася паліхромная скульптура святога.

[1] Квитницкая Е.Д. Капліцы Белоруссии // АН. 1980. № 28. С. 12.

## г. Гомель

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Знаходзіўся ў паўднёвым вугле Рынкавай плошчы перад палацава-паркавым ансамблем фельдмаршала П.А.Румянцава. Быў пабудаваны намаганнямі старосты Міхаіла Чартарыйскага ў 18 ст. З 1768 г. ў ім служыў будучы біскуп, паплечнік імператрыцы Екацярыны II Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч[1]. У 1779 г. пры ім дзейнічала езуіцкая місія. У 1822 г. нанава адбудаваны пры князі П.А.Румянцаве-Задунайскім, які пабудаваў пры ім таксама жылы будынак для духавенства[2]. У 1831 гг. перабудаваны паводле праекта Л.Руска і асвячоны ў імя св. Екацярыны[3]. У 1930-я гг. пашыраны ксяндзом Піятроўскім.

Быў пабудаваны ў стылі класіцызму. Галоўны фасад быў фланкіраваны чацверыковымі купальнымі вежамі, па цэнтры вылучаўся 4-калоннай лоджыяй і завяршаўся масіўным антаблементам. Над 2-схільным дахам узвышаўся магутны сферычны купал на цыліндрычным барабане з ліхтаром.

---

[1] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 85.

[2] Гомель. Историко-экономический очерк. Мн., 1972. С. 20—21; Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 65—67.

[3] ЦДГА СССР, ф. 384, воп. 1, спр. 536, арк. 12—224.

## г. Горкі

Магілёўскай вобласці

## Касцёл святога Андрэя

Адзначаўся ў 1780 г.

## в. Гошчава,

Івацэвіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Кляштар дамініканцаў

Існаваў з 1692 да 1776 г.

## г. Гродна

## Капліца

Знаходзілася пры каралеўскім Новым замку (вул. Замкавая). Пабудавана ў 1734—51 гг. арх. І.Ф.Кнобелем для набажэнстваў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і яго світы[1]. У пачатку 20 ст. выкарыстоўвалася як праваслаўная царква размешчанага ў палацы ваеннага лазарэта. Зруйнавана ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

З'яўлялася творам архітэктуры ракако, знаходзілася ў завяршэнні восі сіметрыі палаца, за вестыбюлем і парадным залай. Была вырашана кампакт-



Капліца ў г. Гродна. Чарцёж галоўнага фасада.

ным прамавугольным у плане аб'ёмам пад вальмавым дахам. Франтальны фасад быў завершаны 2-яруснай званіцай, шацёр якой быў увіты кветкавай гірляндай і ўвенчаны каралеўскай каронай; на арачную нішу тарцовага фасада была «накінута» ляпная драпіроўка; 2-і ярус-звон быў вылучаны балюстрадай і пакрыты ракайльнай ляпнінай з картушамі, гірляндамі, кубкамі. Фасады чляніліся высокімі арачнымі аконнымі праёмамі ў рамных абрамленнях.

Залу капліцы перакрываў плафон на падугах, сцены пакрываліся залачонымі панэлямі і філёнгамі цякучага крывалінейнага малюнка. Алтар — калонная кампазіцыя з балдахінам у цэнтры, па баках якога «лунаЛі» 2 скульптуры анёлаў. На левай сцяне на апоры ў выглядзе пальмы быў устаноўлены ам-



Капліца ў г. Гродна. Чарцёж бакавога фасада.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Гродна.

бон, пакрыты гірляндамі руж і накрыты балдахінам з драпіроўкамі, ламбрэкенамі і махрамі.

---

[1] Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гор. Гродно. Гродно, 1910. С. 210.

## Касцёл і кляштар бернардзінак

Знаходзіўся ў гістарычным цэнтры горада (на месцы Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра). Быў фундаваны старостам жмудскім Геранімам Валовічам у 1618(20) г.[1] У маі 1854 г. перададзены Барысаглебскаму праваслаўнаму манастыру.

З'яўляўся творам архітэктуры барока. Трохнефавая 1-вежавая базіліка. Пры прыстасаванні пад праваслаўную царкву будынак набыў шатровую званіцу і 8-гранны купальны барабан над цэнтрам даху. У саборы быў створаны іканастас, у які 2.10.1854 г. ганарова быў перанесены з Барысаглебскай (Каложскай) царквы шанаваны абраз «Маці Божая Адзігітрыя». Манастырскі корпус стаяў перад касцёлам; 2-павярховы будынак складанай планіровачнай канфігурацыі; аб'ёмы завяршаліся 2-схільнымі дахамі. Комплекс акаймоўвала мураваная агароджа з 2-ярускай брамай-званіцай. Зруйнаваны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

---

[1] Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гор. Гродно. Гродно, 1910. С. 92—93.



## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Таксама меў назву Фара Вітаўта. Першы драўляны каталіцкі храм горада быў заснаваны вялікім князем літоўскім Вітаўтам у 1389 г. і размяшчаўся на заходнім баку плошчы Стары рынак (сучасная Савецкая), пры вуліцы Замкавай. У 1494 г. ўзведзены новы мураваны вялікім князем Аляксандрам Ягелончыкам[1], у 1551 г. — рэканструяваны каралевай Бонай. Вядомы па гравюры Г.Адэльгаўзера і М.Цюндта 1568 г., на якой касцёл названы «польскім храмам у горадзе». Уяўляў сабой 1-нефавы прамавугольны ў плане будынак пад 2-схільным дахам і з вуглавой цыліндрычнай шмат'яруснай вежай. Польскія гісторыкі прыпісваюць будаўніцтва храма каралю Стафану Баторыю ў 1584—87 гг., які меў намер узняць у горадзе адукаванасць, пабудаваць школу, калегіум і мураваны касцёл, у якім жадаў быць пахаваным[2]. Будаўнікамі храма лічацца італьянскія дойліды (вядомы Антоні Дзігрэп, магчыма, Я.М.Бернардоні); вядомы па гравюры Т.Макоўскага 1600 г.[3] У 1721 і 1798 гг. згадваецца «арган а трох мялях и трынаццаци галасах»[4]. Неаднаразова перабудоўваўся пасля пажараў 1753, 1782 гг.[5] У 1804 г. касцёл быў перададзены пад праваслаўную царкву, адрамантаваны і ў 1807 г. асвячоны ў імя св. Сафіі[6]. Перабудаваны ў 1870-я гг. архітэктарам Гур'евым. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1861—69 гг. Пасля пажару 9.5.1892 г. ў 1896—99 гг. перабудаваны ў руска-візантыйскім стылі паводле праекта акадэміка архітэктуры, варшаўскага епархіяльнага архітэктара М.М.Чагіна пад кафедральны Сафійскі сабор. Пасля перабудовы пад праваслаўны сабор набыў традыцыйнае пяцікупалле на высокіх барабанах, какошнікі, з усходняга боку створана апсіда, з паўночнага боку прыбудаваны прыдзел, званіца стала вышэй і завяршалася шатром з макаўкай. Мастацкае афармленне храма было даручана мастакам Мураўёву і Белавусаву. З 1919 г. храм вернуты каталікам і выкарыстоўваўся як гарнізонны касцёл. Перабудаваны пасля пажару 1923 г. архітэктарам В.Генебергам і ў 1935 г. архітэктарам А.Сасноўскім, якія зноў надалі храму рысы раманска-гатычнага стылю. Пасля Вялікай Айчыннай вайны не дзейнічаў. 29.11.1961 г. ўзарваны.

Старажытны мураваны храм — твор архітэктуры гатычна-рэнесанснага (маньерыстычнага) стылю з элементамі абарончага дойлідства. Буйнамаштабны будынак (58,6 × 23 м) уяўляў сабой 3-нефавую 1-вежавую базіліку з 5-граннай апсідай і бакавой (паўночнай) сакрысціяй, з поўдня была прыбудавана капліца. Чатырох'ярусная (3 васьмерыкі на чацверыку) вежа-званіца з фігурным купалам фланкіравана абарончымі цыліндрычнымі вежамі з вітымі ўсходамі ўнутры. Сцены ў прасценках высокіх

стральчатых аконных праёмаў умацаваны контрфорсамі-пілонамі, аб'яднанымі ўверсе аркатурай.

[1] Квитницкая Е.Д. Планировка Гродно в XVI—XVIII вв. // Архитектурное наследство. 1964. № 17. С. 25.
[2] Пашэнда Е., Мілінкевіч А.У. Фара Вітаўта ў Гродне // Матер. 1-й и 2-й межреспубликанских науч. конф. по ист. краеведению Белоруссии и генеалогии // Наш радавод. Гродна, 1990. Кн. II. С. 182—183.
[3] Paszenda J. Kościół pojezuicki (farny w Grodnie) // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995. S. 191—213.
[4] Дадзіёмава В.У. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: гісторыка-тэатральнае даследаванне. Мн., 2002. С. 113.
[5] Глинник В., Кушнеревич А. Фара Витовта в Гродно // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1989. № 5. С. 38—39.
[6] Корчинский И.В. Православный Софийский собор в г. Гродно: Кратк. ист. очерк по документам архивов Гродн. духовной консистории: К 100-летию собора, исполняющемуся 7 авг. 1907 г. 2-е изд. Гродно, 1915. С. 5—6.

## Касцёл Святога Духа

Знаходзіўся на вул. Дамініканскай[1]. Фундаваны ў 1551 г. каралевай Бонай.

Касцёл з'яўляўся творам гатычна-рэнесанснай архітэктуры[2]. Уяўляў сабой 1-нефавы храм з паўкруглай апсідай, унутры быў перакрыты стральчатым скляпеннем. Аконныя праёмы былі на галоўным фасадзе і ў апсідзе, да бакавых фасадаў далучаліся крылы кляштарнага корпуса. Галоўны фасад завяршаў высокі трохвугольны франтон.

[1] Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 100—101.
[2] Квитницкая Е.Д. Особенности средневековых храмов Белоруссии // Архитектурное наследство. М., 1975. Т. 23. С. 79—80.

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа і кляштар кармелітаў

Знаходзіўся на вул. Маставой, побач са старажытнай плошчай Стары рынак. Драўляны кляштар фундаваны Катовічамі ў 1676(68) г.[1] У 1738—65 гг. кармеліты пабудавалі мураваныя касцёл з перпендыкулярна прыбудаваным да яго жылым корпусам (верагодна, арх. І. Фантана III). Скасаваны ў 1845 (або 1848) г., у 1881 г. быў перададзены пад вайсковыя казармы 103-га Петразаводскага палка. З гэтай мэтай перабудоўваўся архітэктарам Фардонам, які выканаў і абмерныя «черцяжи»[2]. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1861—69 гг. Захаваўся 3-павярховы кляштарны корпус.

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры ракако. Быў вырашаны па тыпу 3-нефавай бязвежавай базілікі. Галоўны хваліста выгнуты фасад тонкапрафіляванымі карнізнымі паясамі падзяляўся на 4 ярусы: асноўная моцна крапаваная слаістымі пілястрамі плоскасць, атык і прамавугольны шчыт з бакавымі валютамі, фігурны франтон. Над уваходам і арачным акном над ім былі размешчаны пластычныя ляпныя картушы ў стылі ракако, у бакавых нішах-экседрах — культавая скульптура. Пласціна галоўнага фасада выходзіла за габарыты асноўнага карабля храма, што хавала яго адносна сціплую архітэктурна-пластычную трактоўку. Мастацка-дэкаратыўным акцэнтам афармлення інтэр'ера з'яўляўся мураваны алтар з каланадай.



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа і кляштар кармелітаў у г. Гродна.

[1] Квитницкая Е.Д. Монастыри XVIII вв. с безбашенными храмами в Белоруссии // Архитектурное наследство. 1985. № 33. С. 94—98.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 1474, арк. 6.

## Кляштар аўгусцінцаў

Існаваў з 1503 па 1673 г., заснаваны вялікім князем літоўскім Вітаўтам.

## Кляштар баніфратаў

Знаходзіўся ў канцы вул. Баніфрацкай (у 19 ст. Татарская). Першапачаткова касцёл быў драўляным, пры ім быў шпіталь на 20 ложкаў і капліца. Мураваны кляштар пабудаваны ў 1727(29) г. па фундацыі віленскага біскупа Панцяжынскага[1], у 1798 г. атрымаў ахвяраванні ад расійскага імператара Паўла I. У 1836 г. скасаваны і перададзены ваеннаму ведамству, касцёл закрыты ў 1843 г.

[1] Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гор. Гродно. Гродно, 1910. С. 144—146.

# в. Груздава,
Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці



## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Адзін з першых каталіцкіх храмаў на Беларусі. Заснаваны, паводле падання, у 15 ст. вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Кейстутавічам. На мяжы 19—20 ст. пабудаваны драўляны храм. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Храм быў вырашаны па тыпу 3-нефавай 2-вежавай базілікі. Сілуэт плоскаснага гарызантальна ашаляванага фасада фарміравалі трохвугольны франтон і бакавыя 3-ярусныя 4-гранныя вежы са спічастымі шатрамі. Быў вядомы цудатворным абразом «Св. Рох».



# г.п. Давыд-Гарадок,

Столінскі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Божага Цела

Пабудаваны ўладальнікам клецкага маярата Янам Радзівілам у 1623 г. з дрэва. У 1811 г. храм згарэў, але быў адноўлены. У 1839 г. зноў згарэў і адноўлены ў 1848 г. Пасля пажару 1890 г. ўжо не аднаўляўся — набажэнствы адбываліся ў плябаніі[1]. У апсідзе знаходзілася малявяная на сцяне выява алтара[2].

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 295—296.

[2] Ignacy Borejko Chodźko. Diecezja Mińska okolo 1830 roku. I. Struktury parafialne. Opracował i wydał Marian Radwan. Lublin, 1998.

# в. Данілавічы,

Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Кляштар дамініканцаў

Існаваў з 1683 да 1850 г.

# в. Дарава,

Ляхавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Драўляны храм пабудаваны ў 1440 г. навагрудскім намеснікам Пятром Мантыгровічам. Каталіцкая парафія Віленскага біскупства заснавана ў 1540 г. Новы драўляны касцёл пабудаваны намаганнямі ксяндза Бернарда Місевіча ў 1841 г.[1] Да касцёла былі прыпісаны філіяльныя капліцы ў вёсках Сноў, Сваятычы і Друкавічы. На 1864 г. налічвалася каля 1700 парафіян, у 1885 — 3686, у 1912 — 10 000. Разбураны ў 1915 г. У 1925 г. намаганнямі ксяндза Казіміра Ваньковіча пабудавана драўляная капліца[2]. У 1930-я гг. распачата будаўніцтва новага мураванага храма.

Уяўляў сабой прамавугольны зруб пад 2-схільным дахам, які на галоўным фасадзе фланкіраваўся 3-яруснымі чацверыковымі шатровымі вежамі; гарызантальна ашаляваныя сцены чляніліся нехарактэрнымі для драўлянага дойлідства арачнымі аконнымі праёмамі. У архіўных дакументах згадваюцца скульптурныя выявы Саваофа, Іакіма і Ганны (канец 18 ст.), якія аздаблялі барочны алтар.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 332.

[2] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 56—57.

# в. Дварэц,

Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл

Быў пабудаваны ў 19 ст. з дрэва, рамантаваўся ў 1895 г.[1], дзейнічаў да 1904 г. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Быў вырашаны цэнтрычнай 6-граннай ратондай пад шатровым гонтавым дахам. Плоскасныя вертыкальна ашаляваныя грані зруба чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках; уваход вылучаў 2-слуповы ганак з трохвугольным франтонам, тымпан акна запаўняла разная кампазіцыя «Усёбачнае Вока». Вертыкальна ашаляваныя фасадныя грані па цэнтры мелі лучковыя аконныя праёмы з бакавымі брусамі-сцяжкамі.

Перад касцёлам з боку брамы стаяла 2-ярусная чацверыковая зрубна-каркасная званіца пад гонтавым шатровым дахам. Верхні ярус меў адкрытую каркасную канструкцыю з выгнутымі падкосамі.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 1079, арк. 2; спр. 334.

# в. Дзеравянчыцы,

Слонімскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

З'яўлялася фамільнай пахавальняй Ордаў. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з цэглы. Вядома па малюнку Н.Орды 1861—77 гг. з надпісам: «Грабніца

Пятра і Эveліны з Мікульскіх Ордаў у Дзеравянчыцах»[1].

Будынак быў умацаваны контрфорсамі, завершаны сігнатуркай.

[1] Katalog rysunków architektonicznych ze źbiórów muzeum Narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975. Seria A. T. X.

## в. Дзеткавічы,

Драгічынскі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Першапачатковы храм фундаваны як парафіяльны ў 1431 г. Станіславам і Пятром Дзедзісамі. У 1802 г. пабудаваны мураваны храм намаганнямі ксяндза В.Ябланоўскага, у 1867 г. стаў праваслаўнай царквой[1]; перабудаваны ў 1884 г.[2] У 1915 г. пашкоджаны, у 1919 г. вернуты каталікам. У 1921 г. адноўлены намаганнямі парафіян і святара М.Іконавіча. Да храма былі прыпісаны могілкавая драўляная капліца св. Ганны (фундавана ў 1826 Урзынскімі) і філіяльны касцёл святога архангела Міхаіла ў в. Палонка[3]. На 1935 г. налічвалася 2905 парафіян.

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 92.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 2, спр. 294, арк. 21, 21 адв., 344.

[3] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 57.

## в. Дзядзілавічы,

Барысаўскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

Пабудаваны на могілках у 1798 г. з дрэва па фундацыі Р.Слізня, род якога валодаў маёнткам з 1709 г.[1] Пасля 1863 г. закрыты, у 1898 г. адноўлены дзякуючы намаганням біскупа Сымона, а таксама святароў Янкевіча і Вылажынскага. Да касцёла належаў філіяльны касцёл у в. Мсціж. Знішчаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Твор архітэктуры класіцызму. Храм меў выгляд круглай ратонды (18 х 18 м), накрытай сферычным купалам з вежачкамі па вуглах. Уваход быў вылучаны 2-слуповым ганкам. Вылучаўся высокамастацкім аздабленнем барочнага інтэр'ера — разныя галоўны і 2 бакавыя алтары са скульптурамі, амбон, спавядальні, роспіс сафіта аль-фрэска, ансамбль разных з дрэва пано «Крыжовы шлях Хрыста» на бакавых сценах. Пры галоўным 2-ярусным алтары сталі разныя скульптуры святых Яна і Алаізы Ганзагі.




Інтэр'ер касцёла Найсвяцейшага Сэрца Ісуса ў в. Дзядзілавічы.

Меўся балкон-хоры з 9-галосым арганам. Мелася мемарыяльная пліта з генеалагічным дрэвам Слізняў, 4 пакаленні якіх былі пахаваны ў крыпце храма.

[1] Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. Wilno, 1909. S. 58; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II. S. 215—218.

## в. Дзярэчын,

Зэльвенскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканцаў

Знаходзіўся каля могілак. Кляштар і драўляны касцёл заснаваны ў 1618 г. мсціслаўскім кашталянам К.Палубінскім (з 1629 ахвяраванні рабіла яго жонка Сафія з Сапегаў)[1]. Мураваны касцёл пабудаваны ў 1690 г. з цэглы італьянскім архітэктарам на сродкі кашталяна Вялікага княства Літоўскага князя М.Сапегі. Прыстанак увесь час існаваў пад апекай рода, а касцёл быў пахавальняй Сапег. У 1741 г. храм перабудаваны і асвячоны віленскім біскупам М.Зянковічам. Кляштар скасаваны царскім указам ад 19.7.1832 г.; касцёл пераўтвораны ў прыходскі, дзейнічаў да 1866 г., калі згарэў. Канчаткова разабраны на цэглу, што адзначана ў «Журнале присутствия Гродненского Губернского Правления» ад 31.10.1880 г.: «По случаю устранения неисправной



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканцаў у в. Дзярэчын. Малюнак Н.Орды.

подрядчицы Кустиновой от окончания разборки обгоревшего упраздненного костельного здания ... дальнейшие работы ... отданы гродненскому мещанину Ставеру ... Осталось разобрать нижние стены около 70 куб. саж. каменной кладки и вывоз со двора 200 куб. саж. мусора»[2]. Вядомы па малюнку Н.Орды 1877 г., калі ўжо знаходзіўся ў руінах.

Касцёл — твор архітэктуры барока. Уяўляў сабой 3-нефавую бязвежавую базіліку. Галоўны фасад быў крапаваны пілястрамі на 3 часткі і завершаны трохвугольным франтонам, над якім узвышалася 4-гранная купальная званіца. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна чляніліся арачнымі аконнымі праёмамі. Справа да храма ў сярэдзіне 18 ст. быў прыбудаваны мураваны 2-паверхавы кляштарны корпус складанай планіровачнай арганізацыі з рытмам прамавугольных аконных праёмаў.

У інтэр'еры бакавыя нефы падзяляліся на 5 капліц, 2 з якіх завяршаліся купаламі. Унутры меліся хоры; на мяжы 18—19 ст. арганістам служыў Якуб Зябедзіюш Фалькоўскі (1778—1836)[3]. Інтэр'ер упрыгожваў фрэскавы роспіс «італьянскай школы» на біблейскія сюжэты[4]; меліся стукавыя алтары святых Антонія, Томаша Аквінскага, Вінцэнта і Анёлаўахоўнікаў, амбон. Меліся мармуровыя надмагіллі са скульптурнымі выявамі М.Сапегі, вядомага военачальніка і мецэната А.Г.Палубінскага (1626—79).

Перад храмам адасоблена сталі высокая 2-ярусная чацверыковая вежа-званіца пад фігурным купалам са спічастым шпілем і курантамі і манументальная мураваная брама.

---

[1] Lorentz S. Wycieczki słonimskie: Krótki przewodnik krajoznawczy po Słonimie oraz Albertynie, Byteniu, Synkowiczach, Zdzieciole i Żyrowiczach. Słonim, 1933. S. 29; Zwolski B. Wileńszczyzna, nowogródczyzna i białostoczyzna za Zygmunta III. Wilno, 1938. S. 20.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 2, воп. 38, спр. 813, арк. 198.

[3] Ліхач Т. Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. № 2. 2000.

[4] Katalog rysunków architektonicznych ze zbiórów Muzeum narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975. S. 53.

## в. Дзярэчына,

Капыльскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

Быў пабудаваны на мяжы 19—20 ст. ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства.

Уяўляў сабой прамавугольны зруб з 3-сценным прырубам апсіды, 2-схільны гонтавы дах над якой пераходзіў у вальмавы і завяршаўся галоўкай. На франтальным фасадзе дах выступаў трохвугольным франтонам на 4 драўляных слупах-калонах. У дах былі ўрэзаны 2 нізкія чацверыковыя званічкі з галоўкамі. Уваход афармляў невялікі прытвор з 2-слуповым ганкам.

Інтэр'ер асвятляўся 2 шырокімі квадратнымі бакавымі вокнамі і праёмамі апсіды. Перад касцёлам стаяла драўляная каркасная 2-ярусная чацверыковая званіца з шатровым верхам і галоўкай.

## г. Докшыцы

Віцебскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Размяшчаўся на цэнтральнай гандлёвай плошчы. У 1698 г. біскуп жмудскі С.Кішка фундаваў тут першы драўляны касцёл, які быў спалены шведамі ў 1708 г. У 1745 г. святар М.Фіадаровіч пачаў будаўніцтва новага храма, які быў асвячоны ў 1753 г.[1] На 1932 г. налічваў 1102 парафіяніны. Існаваў да Вялікай Айчыннай вайны. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Касцёл з'яўляўся творам народнага драўлянага дойлідства. Уяўляў сабой невялікі прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам, які па цэнтры быў завершаны цыбулепадобным купалам на 8-гранным барабане. Арыгінальным было вырашэнне галоўнага фасада: значна вынесены трохвугольны франтон даху па цэнтры меў цыліндрычнае скляпенне і падтрымліваўся 6 слупамі. Галоўны і бакавыя разныя алтары былі выкананы ў стылі барока.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Diecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 209—211.

## г. Драгічын

Брэсцкай вобласці

### Кляштар бенедыкцінак

Скасаваны ў 1856 г.

### Кляштар францысканцаў

Існаваў з 1749 г.

## г.п. Друя,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Апекі Маці Божай і кляштар дамініканцаў

Фундаваны ў 1706 г. (паводле іншых звестак у 1690) браслаўскім падчашым П.К.Качаноўскім[1]. У 1767 г. паводле праекта італьянскага архітэктара Парака створаны мураваны кляштарны архітэктурны комплекс стылю барока, які складаўся з касцёла св. Антонія (асвячоны беларускім біскупам-суфраганам Ф.Тавянскім) і келейнага корпуса[2]. Кляштар скасаваны ў 1832 г. У 1839 г. яго будынкі перададзены праваслаўнаму ведамству. Пераабсталяваць касцёл у царкву царскім загадам было даручана мясцоваму памешчыку Мілашу, але з-за недахопу сродкаў перабудова не адбылася. Спустошаныя будынкі ў канцы 19 ст. сталі разбіраць на цэглу, касцёл узарваны ў 1909 г.

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока[3]. Уяўляў сабой 2-вежавую 3-нефавую крыжова-купальную базіліку ў выглядзе лацінскага крыжа ў верхнім сячэнні і паўкруглай апсідай. Купал быў схаваны пад высокі дах. Архітэктурнай пластыкай вылучаўся франтальны фасад з тэлескапічнымі 3-ярусны́мі вежамі з фігурнымі купаламі, высокім 2-ярусным шчытом паміж імі. Плоскасць фасада крапавалася слаістымі пілястрамі, прафіляванымі карнізнымі паясамі, бакавымі валютамі, фігурнымі нішамі. Унутры нефы перакрывалі крыжовыя скляпенні, крылы трансепта раскрываліся пад купальную прастору сяродкрыжжа, пры ўваходзе над нартэксам мелася галерэя хораў.

---

[1] Довгяло Д.И. Друя. Вильна, 1907. С. 35—38.

[2] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 141—142, 273.

[3] Morozow V. Tradycje i wpływy w barokowej architekturze Białorusi w końcu XVIII wieku // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995. S. 233.

## г. Дуброўна
Віцебскай вобласці

### Касцёл і кляштар дамініканцаў

Першы касцёл пабудаваны Глябовічамі. Існаваў пры мураваным 3-павярховым кляштары дамініканцаў, якія аселі тут у 1630 г. Манахі былі выгнаны па настаянні князя Пацёмкіна і замест іх з Віцебска прыбылі манахі-піяры (знаходзіліся тут у 1787—97), потым іх месца занялі манахі ордэна трапістаў.



Касцёл Апекі Божай Маці і кляштар дамініканцаў у г.п. Друя. Чарцёж.

## в. Дудаковічы,
Круглянскі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл і кляштар дамініканцаў

Існаваў з 1701 г., скасаваны царскім указам ад 19.7.1832 г.[1]

---

[1] Канфесіі на Беларусі (к. XVIII—XX ст.). Мн., 1998. С. 26.

## в. Дудзічы,
Пухавіцкі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

Знаходзіўся ў палацава-сядзібным комплексе Прозараў. Быў пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. У 1839 г. пераведзены ў праваслаўе. Крыпта храма служыла пахавальняй Заранкаў-Гарбоўскіх, Ф.Букатага (памёр у 1797). Пасля пажару 1895 г. пахаванні (24 труны) былі перанесены ў капліцу, пабудаваную Міхалам і Аляксандрам Ельскімі на Кобаньскіх каталіцкіх могілках[1].

---

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 71.

## в. Дунайчыцы,
Клецкі раён
Мінскай вобласці



## Капліца

Была пабудавана ў 1760 г. з дрэва памешчыкам Г.Еленскім у парку сядзібы[1]. Вядома па малюнку Е.Смалінскага 1900 г.[2] і фотаздымку 1956 г.[3] Існавала ў 1-й палавіне 20 ст.

Твор архітэктуры барока. Была вырашана 8-гранным зрубам, накрытым шатровым з заломам гонтавым дахам і каркасным ліхтаром з цыбулепадобным купалкам. Фасады былі апрацаваны пад руст. Франтальны фасад адзначаны прамавугольным уваходным праёмам з 2-схільным казырком і прамавугольным акном хораў над ім. Памяшканне асвятлялася 2 бакавымі арачнымі вокнамі, быў устаноўлены алтар, над уваходам на 2 слупах учынены хоры.

---

[1] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство.1980. № 28. С. 130; Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 280—281.

[2] Glogier Z. Budownictwo drzewne i wyroby z drzewa w dawniej Polsce. Warszawa, 1907. S. 77—78.

[3] Библиотека АН Лит. ССР. Отдел редкой книги и картографии, коллекция Я.Булгака, № 174/21.

# в. Дунілавічы,

Пастаўскі раён

Віцебскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і святога архангела Міхаіла

Пасля скасавання ў 1866 г. мураванага Троіцкага касцёла і перадачы яго праваслаўным насупраць быў узведзены драўляны касцёл[1]. Гарэў у 1890 г., адноўлены ў пачатку 20 ст. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Пасля перабудовы ў пачатку 20 ст. набыў рысы стылю неаготыкі. Уяўляў сабой буйнамаштабнае крыжовае ў плане зрубнае збудаванне з 5-сценнай апсідай, да якой далучаліся ніжэйшыя прырубы сакрысцій. Над франтальным фасадам узносілася 3-ярусная чацверыковая шатровая званіца. Гарызантальна ашаляваныя фасады былі прарэзаны стральчатымі аконнымі прёмамі. Вільчык вальмавага пакрыцця апсіды завяршаўся 4-граннай шатровай сігнатуркай.

---

[1] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aźdo dni obecnych. Wilno, 1912. S. 217—218.



# Е

# в. Ельня (Зарачаны),

Лідскі раён

Гродзенскай вобласці



Касцёл Маці Божай Ружанцовай і кляштар дамініканцаў у в. Ельня (Зарачаны).

## Касцёл Маці Божай Ружанцовай і кляштар дамініканцаў

Дамініканцы аселі тут у 1667 г. (па іншых звестках у 1788) і пабудавалі кляштар па фундацыі Адахоўскіх[1]. Скасаваны ў 1832 г., калі налічваў 1658 парафіян. Па хадайніцтву віленскага біскупа Ключэвіча драўляны касцёл у 1837 г. быў вернуты католікам і пераўтвораны ў прыходскі[2]. Існаваў да 2-й сусветнай вайны. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Касцёл з'яўляўся творам народнага дойлідства. Быў вырашаны працяглым прамавугольным зрубам з 5-граннай апсідай, аб'яднанымі агульным гонтавым дахам праз вялікія застрэшкі. У канцы 19 ст. прыбудаваны мураваныя крылы трансепта пад 2-схільнымі пакрыццямі. Гарызантальна ашаляваныя сцены члянiліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі і вертыкальнымі брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Трохвугольны франтон фасада завяршала каркасная шатровая сігнатурка-званічка. Па восі храма адасоблена стаяла 2-ярусная шатровая зрубна-каркасная брама-званіца.

---

[1] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 122.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 19, спр. 1273, арк. 7—8.



# г. Жабінка,

Брэсцкая вобласць

## Касцёл святога Юзафа

Пабудаваны пасля 1914 г. як парафіяльны па хадайніцтве памешчыкаў К.Бельскага і Выганоўскага. Пасля скасавання ў 1866 г. парафіяне былі павінны

наведваць храм у Кобрыне, які знаходзіўся ў 20—35 вярстах. Дазвол на будаўніцтва новага касцёла атрыманы 8.12.1908 г.[1] Праект храма склаў губернскі архітэктар Данцоў[2]. На 1935 г. налічвалася 169 парафіян[3].

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1276, арк. 36.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1276, арк. 2.
[3] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 111.

## в. Жабчава,
Капыльскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, пры прасёлкавай дарозе, у былым маёнтку Узлоўскіх Боркі (не існуе). Пабудавана ў 1850-я гг. з цэглы як пахавальня ўладальнікаў маёнтка Узлоўскіх на месцы драўлянай капліцы, вядомай з 1745 г. Дзейнічала да 1920-х гг., захаваліся рэшткі.



Капліца ў в. Жабчава.

## в. Жары,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

Згадваецца ў 19 ст. як філіяльны пры касцёле св. Станіслава ў в. Даўгінава.

## в. Жуpавічы,
Рагачоўскі раён
Гомельскай вобласці

### Касцёл

Драўляны храм пабудаваны ў 1720 г. па фундацыі мясцовага абываццеля Юдзіцкага, было звыш 800 парафіян[1]. Пасля паўстання 1863—64 гг. не быў скасаваны і прыняў парафіян суседняга закрытага касцёла ў в. Свержань. У пачатку 20 ст. ксяндзом Вайцяхоўскім была ўзведзена адасобленая мураваная 3-ярусная шатровая званіца-брама.

У канцы 18 ст. архітэктура храма набыла рысы стылю класіцызму. Быў вырашаны цэнтрычным крыжова-купальным аб'ёмам, завершаным у сяродкрыжжы вялікім 8-гранным барабанам пад сферычным з заломам купалам. Тарцы 2-схільных дахаў былі закрыты трохвугольнымі франтонамі. Восі фасадаў адзначаліся паўкруглымі люкарнамі. У галоўным алтары знаходзілася скульптура Хрыста, меўся алтар св. Антонія.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 59—62.



# З

## в. Забрэжжа,
Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Быў размешчаны ў цэнтры вёскі. Пабудаваны на пачатку 20 ст. з дрэва. На 1932 г. налічвалася 2645 парафіян. Існаваў да Вялікай Айчыннай вайны. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.[1]

З'яўляўся творам архітэктуры стылю неаготыкі[2]. Быў вырашаны па канону 3-нефавай 2-вежавай базілікі. Вертыкальна накіраваную кампазіцыю галоўнага фасада фарміравалі бакавыя 2-ярусныя чацверыковыя шатровыя вежы з 2-схільным шчытом паміж імі, стральчатыя аконныя праёмы і ўваходны партал. Да храма праз кароткі пераход далучалася мураваная капліца пад вальмавым дахам з сігнатуркай па цэнтры вільчыка.

Перад храмам стаяла зрубна-каркасная 2-ярусная шатровая званіца — твор народнага драўлянага дойлідства.

[1] Кулагін А.М., Герасімовіч В.А. Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках Яна Балзункевіча. Пачатак XX стагоддзя. 2-е выд. Мн., 2001. С.75.
[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I.

## в. Завішына,
Лагойскі раён
Мінскай вобласці





Касцёл святога Антонія ў в. Завішына.

## Касцёл святога Антонія

Быў пабудаваны ў 1670 г. з дрэва падкаморыем М.Завішам, які асадзіў пры ім місію францысканцаў. У 1770 г. новыя ўладальнікі маёнтка Валовічы фундавалі новы храм (асвячоны ў 1802 як філіяльны). У 1859 г. рэканструяваны. Пасля 1863 г. перададзены праваслаўным. К пачатку 20 ст. прыйшоў у трухлявы стан і зруйнаваўся. На яго месцы пастаўлены крыж.

Твор народнага дойлідства з рысамі класіцызму. Быў вырашаны працяглым прамавугольным зрубам з 5-граннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. Двухсхільны гонтавы дах над апсідай пераходзіў у вальмавы і завяршаўся гранёным шатровым барабанчыкам. Інтэр'ер упрыгожвалі 3 алтары: цэнтральны 2-ярусны з абразамі св. Антонія і Найсвяцейшай Дзевы Марыі, бакавыя ў гонар Ісуса і Маці Божай.

# в. Загацце,

Полацкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл езуітаў

Маляўнічая вёска («беларуская Швейцарыя») у 18 ст. была летняй рэзідэнцыяй полацкіх езуітаў[1].



Касцёл у в. Задзвея.

Быў пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з дрэва па фундацыі ўладальніцы маёнтка Л.Івашэўскай[2]. На 1913 г. парафія налічвала каля 2300 прыхаджан, значна пашырылася пасля закрыцця касцёла ў в. Палюдавічы.

Твор народнага дойлідства. Над трохвугольным франтонам галоўнага фасада ўзвышалася чацверыковая шатровая званіца з макаўкай. Уваход арганізаваны праз нізкі прасторны прытвор пад 2-схільным дахам. Храм меў 3 барочныя алтары, у галоўным з якіх у 5-граннай апсідзе стаяла драўляная скульптура Хрыста. На левым вуглу прэсбітэрыя быў навешаны амбон. У кутку агароджы з цаглянай арачнай брамай стаяла званіца. На восі храма стаяла цагляная брама з фігурным франтонам. Побач з ёй знаходзілася 2-ярусная шатровая драўляная званіца.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 400—401.

[2] Список населенных мест Витебской губ. С. 174.

# в. Задзвея,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл

Пабудаваны ў 1617 г. з дрэва як парафіяльны харунжым Е.Галаўнёй[1]. У 1867 г. зачынены, у 1870 г. перароблены на Казанскую царкву, прыпісаную да Троіцкай царквы в. Вольна[2]. У 1889 г. пабудаваны драўляны будынак царкоўнапрыходскай школы. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Уяўляў сабой зруб з бярвён, абшыты дошкамі, на цагляным падмурку (22 × 10,5 × 8 арш.), накрыты гонтавым дахам з 2 галоўкамі. Фасады чляніліся 5 вялікімі і 2 малымі аконнымі праёмамі[3]. Званіца стаяла адасоблена, была вырашана шатровай гонтавай навіссю на 4 слупах.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 346.

[2] Zmigrodzki J. Nowogródek i okolice. Nowogródek, 1931. S. 102.

[3] РДГА, ф. 799, воп. 33, спр. 805, арк. 78.

# в. Замосце,

Верхнядзвінскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Першапачаткова вёска з'яўлялася філіяй кляштара дамініканцаў у мястэчку Асвея. Касцёл фундаваны ў 1779 г. мясцовым абывацелем Гільзенам[1]. Парафіяльны храм дамініраваў сярод вясковай за-

будовы, з яго былі відаць вежы асвейскага касцёла, што стаяў на другім беразе воз. Асвейскае. На 1913 г. парафія налічвала 4120 прыхаджан.

Вялізны храм быў збудаваны з часанага каменю і цэглы ў стылі барока, меў 3 алтары. Фасад завяршаўся фігурным шчытом з дэкаратыўнымі вазамі, быў крапаваны пілястрамі і па восі сіметрыі меў лучковыя праёмы ўвахода, хораў і люкарну на франтоне.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 427—428.

## в. Замошша,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Анёльскай

На 1932 г. налічвалася 2225 парафіян[1].

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913.

## в. Зарэчча,

Чавускі раён
Магілёўскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася ў сядзібна-паркавым комплексе Бішэўскага. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва як родавая пахавальня[1] У 1930-я гг. прыйшла ў заняпад.

Твор народнага дойлідства. Невялікі 4-сценны зруб пад 2-схільным дахам. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя фасады былі прарублены прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Да фасада была прырублена 4-гранная званіца, падзеленая на 3 ярусы шырокімі гонтавымі адлівамі і завершаная шатровым пакрыццём. Верхні ярус-звон быў адкрыты стральчатымі праёмамі.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. T. 1. Cz. 1. S. 45—48.

## в. Заскоркі,

Полацкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Пабудаваны ў 1792 г. па фундацыі Т.Корсака[1]. Існаваў да 2-й сусветнай вайны. Па Полацкай рэвізіі 1552 г. «палац Заскоркі» меў 6 старых хат парабкаў, тут жыў пан Траян — ксёндз касцёла[2]. У 1886 г. вёска — валоданне праваслаўнага памешчыка А.І.Асмініна, які прыстасаваў касцёл пад царкву. На 1913 г. парафія налічвала каля 1600 прыхаджан. 4.4.1944 г. вёска і храм знішчаны нямецка-фашысцкімі акупантамі.

Архітэктура магутнага храма была вырашана ў стылі барока. На фасадзе меў два 3-ярусныя 4-гранныя купальныя вежы, прамавугольны карабель нефа пераходзіў у паўкруглую апсіду. Бакавыя фасады рытмічна чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі.

Зала храма была перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, апсіда — конхай. У галоўным барочным 4-калонным з «разарваным» франтонам алтары стаяла разная скульптура Хрыста. Меліся 2 бакавыя алтары. На левай сцяне прэсбітэрыя быў навешаны амбон, кафедра якога была крапавана разнымі панэлямі. У пачатку 20 ст. быў пастаўлены арган.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913.

[2] Чарняўская С. Полаччына вясковая: адкуль яе карані? // Полацкі веснік. 14 ліпеня 1998 г.

## г. Заслаўе

Мінскага раёна

### Кляштар дамініканцаў

Знаходзіўся на тэрыторыі замка, з муроў якога быў збудаваны. Існаваў у 1678—1832 гг.

## в. Зялёная,

Талачынскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля шашы Талачын—Круглае. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы. Захаваліся рэшткі.





## г. Іванава

Брэсцкай вобласці

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Знаходзіўся ў цэнтры былога мястэчка. Пабудаваны ў 15 ст. з дрэва як прыходскі. Перабудаваны ў 1764 г. пры князі Шуйскім, з'яўляўся родавай пахавальняй[1]. Непадалёку ад касцёла знаходзілася месца пакутнай смерці дабраверная Андрэя Баболі. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1861 г.[2]



Твор народнага дойлідства з рысамі барока. Быў вырашаны падоўжным прамавугольным зрубам пад 2-схільным гонтавым дахам, які над алтарным трохсценкам пераходзіў у вальмавы. Галоўны фасад фланкіравалі дзве 2-ярусныя чацверыковыя вежы-званіцы, завершаныя выцягнутымі цыбулепадобнымі купалкамі. Такім жа купалком завяршаўся дах над апсідай. Бакавыя фасады рытмічна чляніліся высока ўзнятымі невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі; да апсіды далучаліся нізкія прырубы сакрысцій пад 1-схільнымі дахамі.

Побач з касцёлам на плошчы стаяла драўляная званіца народна-этнаграфічнай трактоўкі. Была вырашана ў 2 ярусы: ніжны ярус — квадратны зруб, які праз шырокія гонтавыя адлівы пераходзіў у верхні адкрыты каркасны ярус-звон, накрыты шатровым дахам з макаўкай. Побач па цэнтры плошчы стаяла мураваная капліčка св. Андрэя Баболі ў выглядзе зграбнай 4-граннай 2-яруснай вежы, накрытай сферычным купалкам. Белакаменныя грані крапаваліся фігурнымі нішамі, вуглавымі пілястрамі.

[1] Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. СПб., 1863. С. 1056; Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 51—52.

[2] Кулагін А.М., Герасімовіч У.А. Беларусь у малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX стагоддзя. Мн., 2001. С. 67.

## в. Івары
Віцебскай вобласці

### Капліца

Была пабудавана полацкімі езуітамі ў 1762 г.[1]

[1] Zaleski St. Jezuici w Polsce. Kraków, 1905. T. IV. Cz. 1. S. 227.

## г. Івацэвічы
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Парафіяльны храм пабудаваны каля 1750 г. з цэглы родам Глухоўскіх, у 1866 г. забраны пад праваслаўную царкву[1]. Мелася прыпісная драўляная капліца ў в. Станвічы. У 1922 г. вернуты каталікам. На 1935 г. налічвалася 1756 парафіян.

[1] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 117.

## в. Ізюмава (Дурынічы),
Бабруйскі раён
Магілёўскай вобласці

### Капліца

У маёнтку Дурынічы графа Ш.Забелы існавала родавая пахавальня. Са стварэннем у ёй алтара ў 1905 г. ім быў атрыманы дазвол на будаўніцтва ў вёсцы капліцы[1].

Мела рысы архітэктуры мадэрна. Была складзена з часанага каменю, а ўсё ўнутранае начынне выканана з чорнага дубу. На хорах быў устаноўлены прывезены з Прагі арган.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. T. 1. Warszawa; Petersburg, 1912. S. 252.

## в. Ілья,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

Першы касцёл згадваецца ў 1669 г. на тэрыторыі панскай сядзібы; у 1726 г. ўладальнік мястэчка М.Савіцкі перанёс яго ў паселішча і адначасова стварыў пры ім шпіталь. Чарговы храм збудавала ў 1772 г. новая ўладальніца маёнтка Б.Салагуб (з Радзівілаў); скасаваны ў 1863 г. і пераўтвораны ў праваслаўную царкву. Храм згарэў у гады Вялікай Айчыннай вайны (на яго месцы будынак клуба).

Твор народнага дойлідства. Быў вырашаны прамавугольным у плане зрубам пад стромкім 2-схільным дахам, завершаным над алтарнай часткай сігнатуркай; апсіда фланкіравалася сакрысціямі. Да фасада далучалася 3-ярусная 4-гранная вежа-званіца, завершаная барочным купалкам. Фасады былі прарублены прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

У апсідзе быў пастаўлены 2-ярусны алтар з абразом «Беззаганнае Зачацце Найсвяцейшай Дзевы Марыі» па цэнтры і скульптурай «Укрыжаванне» ў завяршэнні. Алтар фланкіравалі скльптурныя постаці св. Юзафа з дзіцем Ісусам і св. Яўхіма з Маці Божай. Бакавыя падобныя да цэнтральнага 2-ярусныя алтары былі прысвечаны Найсвяцейшай Дзеве Марыі і св. Антонію. Над нартэксам былі ўчынены хоры з 8-галосым арганам.

## в. Імянін,
Драгічынскі раён
Брэсцкай вобласці

### Кляштар базыльян

Знаходзіўся ў фальварку Таракань (цяпер у межах вёскі Імянін). Быў заснаваны ў 1-й палавіне 17 ст. ў маёнтку, падараваным базыльянам валынскай кашталянкай А.Песачынскай[1]. Кляштар быў адным з галоўных у базыльян, з 1656 г. тут праходзілі ордэнскія кангрэгацыі. Мітрапаліт Ц.Жахоўскі пабудаваў тут рэзідэнцыю, якая пасля яго смерці перайшла да базыльян; з 1743 г. — адна з рэзідэн-

цый Літоўскай правінцыі ордэна. Паводле хронікі Аляшэўскага (памёр у 1721) мураваная царква св. Іасафата Кунцэвіча і жылы корпус пабудаваны ў 1710—12 гг. генералам ордэна базыльян Л.Кішкам. Прыкладна з 1780 г. пры кляштары існавала школа з выкладаннем моў, гісторыі, геаграфіі, арыфметыкі. Кляштару належаў фальварак Таракань (87 сядзіб, 73 валокі зямлі), працавала 5 варштатаў па ткацтву палатна. Пасля скасавання уніі (1839) кляштар быў месцам высылкі непакорных святароў-уніятаў. У 1920—30-я гг. тут размяшчалася сельская школа. У 1950-я гг. кляштар зруйнаваны.

Царква ўяўляла сабой 3-нефавую базіліку з 2-вежавым фасадам. Паводле інвентару 1821 г. скляпенні і сцены былі размаляваны, мелася 7 алтароў, арган, жалезны каваны іканастас з пазалотай, намаляваныя на медных лістах на царскіх варотах абразы «Маці Божая», «Спас» і «Звеставанне», каваны амбон. У 1821 г. было 24 манахі і 23 чалавекі прыслугі. Паводле інвентару 1836 г. ў храме мелася мноства сярэбранага літургічнага начыння.

Да царквы далучаўся вялікі 1-павярховы жылы корпус, які акаймоўваў квадратны ўнутраны двор; меўся мураваны флігель. Бібліятэка налічвала каля 1750 тамоў.

[1] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 323.



# К

## в. Казімірава,
Полацкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл святога Казіміра

Паводле каралеўскай рэвізіі 1773 г. меўся невялікі касцёл св. Казіміра[1].

[1] Таямніцы Полацкай зямлі. Мн., 1994. С. 352.

## в. Казярнікі (Тупальшчына),
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Была пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю як пахавальня. Захавалася ў рэштках. Пад збудаваннем скляпеністыя сутарэнні.

## в. Калеснікі,
Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці



Кляштар базыльян у в. Імянін. Сучасны выгляд.

### Кляштар кармелітаў

Скасаваны ў 1832 г., перададзены грамадзянскаму ведамству.

## в. Камарышкі,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, пры ўездзе ў былую сядзібу Груздзяніца (не захавалася). Капліца захавалася ў рэштках.

## в. Каменка
Гродзенскага раёна

### Касцёл Трох Вешчуноў

Быў пабудаваны ў 18 ст. з дрэва. Існаваў да Вялікай Айчыннай вайны. Выгляд храма вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.



Капліца ў в. Казярнікі (Тупальшчына).



Твор народнага драўлянага дойлідства з рысамі барока. Быў вырашаны вялікім прамавугольным у плане зрубам, да якога далучалася прамавугольная апсіда. Высокі гонтавы дах за кошт застрэшкаў плаўна пераходзіў у перакрыцце апсіды, на галоўным фасадзе выходзіў фігурным барочным франтонам. Бакавыя фасады рытмічна чляніліся высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

## в. Камень,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

Стаяў каля дарогі з Івянца на Налібокі, на беразе р. Каменная. Першы касцёл у пісьмовых крыніцах згадваецца ў 1451 г. як фундацыя кашталяна віленскага С.Гедыголдавіча. На яго месцы ў 1522 г. уладальнікі мястэчка Замбжэзінскія фундавалі фарны касцёл. Наступныя ўладальнікі Белазёры на яго рэштках у 1679 г. пабудавалі драўляны касцёл[1]. Аднаўляўся ў 1848 і 1897 гг. Спалены ў 1944 г.

Твор народнага дойлідства з рысамі стылю барока. Быў вырашаны прамавугольным у плане 3-нефавым аб'ёмам пад высокім 2-схільным дахам з вальмай над апсідай. Па баках выступалі ніжэйшыя крылы трансепта. Галоўны фасад фланкіравалі 4-гранныя вежы, завершаныя 2-яруснымі шатрамі з выцягнутымі цыбулепадобнымі купалкамі; такі ж купалок завяршаў цэнтральны трохвугольны франтон. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады чляніліся здвоенымі арачнымі вокнамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Інтэр'ер упрыгожвалі 5 барочных алтароў з гіпсавымі скульптурамі. Перад храмам стаяла драўляная 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца; ніжні ярус зрубны з арачным уваходным праёмам, другі — адкрыты каркасны.



Званіца касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў в. Камень.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 154.

## в. Камянполле,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва, верагодна, на месцы старога храма, узведзенага ў 1762—77 гг. італьянскім архітэктарам А.Парака. Выгляд капліцы вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Была вырашана простым 4-сценным зрубам пад 2-схільным гонтавым дахам, які над галоўным фасадам завяршаўся 4-граннай шатровай вежачкай-званічкай. Уваход вылучалі 2-слуповы ганак пад 2-схільным пакрыццём і лучковае акно хораў над ім. Памяшканне асвятлялася такімі ж 2 бакавымі вокнамі ў простых ліштвах. Гарызантальна ашаляваныя фасады чляніліся брусамі-сцяжкамі.

## г. Камянец

Брэсцкай вобласці

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

Драўляны касцёл быў фундаваны ў 1501 г. каралём Аляксандрам. У 1619 г. перададзены манахам ордэна барталамістаў. Настаяцель кляштара Р.Гіжэцкі адбудаваў касцёл у 1723 г. Спалены ў 1924 г.

## в. Канвелішкі,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл

Быў фундаваны ў 1781 г. уладальнікам маёнтка маршалкам ігуменскай шляхты С.Прушынскім[1]. Пабудаваны ў ансамблі з драўлянай 2-яруснай 4-граннай шатровай званіцай; разабраны да 1916 г. пры будаўніцтве новага храма. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.[2]

Твор народнага драўлянага дойлідства з рысамі утрыраваных форм барока і класіцызму. Фасад быў фланкіраваны 2-яруснымі 4-граннымі вежамі, накрытымі самкнутымі купаламі з 8-граннымі ліхтарамі, завершанымі фігурнымі купалкамі. Плоскасць фасада была вырашана неглыбокай 4-стоўпнай ло-

джыяй, завершанай фігурным пуката-ўвагнутым франтонам. На фоне вертыкальнай шалёўкі вылучаліся прамавугольныя аконныя праёмы ў простых ліштвах. У левым вугле драўлянай агароджы касцёла стаяла 2-ярусная 4-гранная каркасная званіца пад шатровым дахам.

---

[1] Aftanazy R. Materiały do dziejów rezydencji. Warszawa, 1986. T. 1a. S. 214.
[2] Кулагін А.М., Герасімовіч В.А. Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках Яна Балзункевіча. Пачатак ХХ стагоддзя. 2-е выд. Мн., 2001. С. 78.

# в. Канюхі,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Кляштар дамініканцаў

Існаваў з 1735 да 1832 г.

# в. Капаткевічы,

Петрыкаўскі раён
Гомельскай вобласці

## Касцёл

Адзначаны ў 1886 г.

# г. Капыль

Мінскай вобласці

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

Драўляны храм пастаўлены ў 1439 г. сынам вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча, літоўскім намеснікам Міхаілам, які шчодра яго адарыў. У 1856 г. касцёл згарэў, у 1859 г. пабудаваны з цэглы новы парафіяльны[1]. На 1912 г. налічвалася 3830 прыхаджан.

Магутная 3-нефавая 2-вежавая базіліка была вырашана ў рэтраспектыўна-гатычным стылі. Кампазіцыя буйнамаштабнага, прысадзістых прапорцый будынка асноўвалася на кантрастным спалучэнні высокіх чацверыковых шатровых вежаў і аднosна нізкага працяглага карабля храма. Яго агульны 2-схільны дах на галоўным фасадзе прыкрываўся 2-гранным шчытом. Асацыяцыі з готыкай выклікалі фіялы ў аснаванні вежавых шатроў, вузкія выцягнутыя стральчатыя аконныя праёмы, аркатурныя паясы.

Унутры 5-гранную апсіду і тарцы бакавых нефаў запаўнялі драўляныя разныя алтары, трактаваныя ў стылі неабарока. На левай сцяне прэсбітэрыя быў навешаны драўляны амбон. У адным стылі з храмам была выканана 3-арачная мураваная брама з шатровымі фіяламі.



Касцёл у в. Канвелішкі.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I.

# в. Каралішчавічы

Мінскага раёна

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Знаходзіўся ў цэнтры вёскі, перад мостам цераз р. Свіслач. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы на месцы драўлянага храма 1785 г., фундаванага ўладальнікам маёнтка маршалкам ігуменскай шляхты Станіславам Прушынскім[1]. Неаднаразова аднаўляўся (1859, 1883, 1888). У 1930-я гг. разабраны на будаўнічы матэрыял (узведзены клуб).

Архітэктура храма несла рысы класіцызму і неаготыкі. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Фасад фланкіраваўся вежамі, пасля іх зняцця набыў класічны порцік. Вільчык даху над ім завяршала 8-гранная шатровая вежачка. Дах над прэсбітэрыем завяршала неагатычная сігнатурка. Плоскасныя фасады былі пазбаўлены архітэктурнай крапоўкі і чляніліся стральчатымі аконнымі праёмамі. Унутры зала падзялялася 6 слупамі на 3 нефы. Інтэр'ер упрыгожвалі 4 маляваныя на сценах алтары, цэн-



Інтэр'ер касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў г. Капыль.



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Каралішчавічы.

тральны з якіх Апекі Маці Божай быў вырашаны ў стылі ракако.

У тым жа стылі была вырашана мураваная 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) шатровая званіца, пастаўленая адасоблена з левага боку ад храма.

Папярэдні драўляны храм стаяў на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Твор народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны працяглым прамавугольным зрубам пад 2-схільным гонтавым дахам з вальмай над алтарнай часткай, па баках да якой далучаліся нізкія сакрысціі. Плоскасны галоўны фасад завяршаўся трохвугольным франтонам з 8-граннай шатровай вежай над ім. Вертыкальна ашаляваныя сцены чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Перад касцёлам асіметрычна стаяла драўляная 3-ярусная 4-гранная званіца, накрытая шатровым 4-схільным дахам.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 86.

## в. Карачоўшчына,

Капыльскі раён
Мінскай вобласці



Капліца ў в. Карчова (Туганавічы).

### Касцёл

Знаходзіўся на ўсходняй ускраіне вёскі. Быў пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Храм складаўся з 3 неашаляваных, пастаўленых на бутавы падмурак зрубаў — прытвора, малітоўнай залы і прамавугольнай апсіды. Над прытворам быў узведзены чацверыковы ярус званіцы, завершанай шатром з крыжом. Над асноўным кубападобным аб'ёмам быў надбудаваны магутны чацверыковы ярус, накрыты пакатым 4-схільным гонтавым дахам з макаўкай у завяршэнні, апсіда — асабістым вальмавым пакрыццём. Перакрытая корабавым дряўляным скляпеннем зала была асветлена невялікімі квадратнымі вокнамі і верхнім святлом чацверыка.

## в. Карчова (Туганавічы),

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

Была размешчана на могілках Туганавіцкага сядзібна-паркавага двара Верашчакаў (тут жыла Марыля Верашчака — першае, вялікае і нешчаслівае каханне паэта Адама Міцкевіча, які гасцяваў тут у 1818—20). Пабудавана на мяжы 18—19 ст. з цэглы як іх фамільная пахавальня. У 1860-я гг. капліца перасвячона на Крыжаўзвіжанскую царкву. Вядома па малюнках Н.Орды 1876 г.[1] і В.Дмахоўскага 1861 г.[2]

Знішчана ў гады 1-й сусветнай вайны.

Твор архітэктуры класіцызму. Была вырашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам з 5-граннай апсідай пад 2-схільным дахам з крыжом над трохвугольным франтонам 4-слуповага порціка.

[1] Кулагін А.М., Герасімовіч В.А. Беларусь у малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX стагоддзя. Мн., 2001. С. 124.

[2] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 78.

## в. Качанавічы

Віцебскай вобласці

### Капліца

Вядома па малюнку Я.Драздовіча 1926 г.[1]

[1] Адамковіч А. «Я ўкланяюся яму» // Наша вера. № 1(3). 1997.

## в. Кемешаўцы,

Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл

Быў пабудаваны ў 1675 г. з дрэва на сродкі Мацкевічаў, у 1843 г. касцельныя фундушы закрыты. У 1885 г. зачынены, у 1909 г. зноў адкрыты.

Буйнамаштабны драўляны храм крыжова-купальнай кампазіцыі. Сяродкрыжжа 2-схільных гонтавых дахаў завяршалася фігурнай сігнатуркай, вільчык даху над галоўным фасадам — невялікім шатровым чацверыком. Плоскасць галоўнага фасада завяршалася трохвугольным франтонам, прарэзаным вялікай аркай на ўсю вышыню фасада, якая аб'ядноўвала арачныя дзверы і лучковае акно-біфорыум над імі. Такія ж высока ўзнятыя аконныя праёмы прарэзвалі бакавыя фасады і крылы трансепта.

# г. Клецк

Мінскай вобласці

## Капліца

Існавала да 1939 г. на ўскраіне горада. Была вырашана ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства з інтэрпрэтаванымі формамі класіцызму. Невялікі прамавугольны зрубны будынак быў накрыты гонтавым 2-схільным дахам, які пераходзіў у вальмавы над гранёнай апсідай з бакавой сакрысціяй. Галоўны фасад быў вырашаны шырокім 6-слуповым порцікам з трохвугольным гарызантальна ашаляваным франтонам даху.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Быў заснаваны як фарны ў 1450 г. Андрэем Масцівілоўскім, яго будаўніцтва скончана ў сярэдзіне 16 ст. пры вялікай княгіні Боне Сфорца (магчыма, архітэктар Дж.М.Бернардоні). У 1560-я гг. перададзены Мікалаем Радзівілам Чорным кальвіністам. Тут у 1560-я гг. служыў міністрам (прапаведнікам) і выступаў з пратэстанцкімі казаннямі беларускі гуманіст Сымон Будны. Уладальнік горада і маршалак Вялікага княства Літоўскага Альбрэхт II Радзівіл зноў вярнуў яго каталікам, і храм быў асвячоны віленскім біскупам Юрыем Радзівілам у 1607 г. На 1912 г. налічваў 6760 парафіян. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў пашкоджаны, а ў 1950-я гг. ўзарваны (захавалася частка заходняй сцяны).

Касцёл быў вырашаны ў гатычна-рэнесансным стылі. Уяўляў сабой 1-нефавы высокі карабель, 2-схільны дах над якім пераходзіў у вальмавы над 5-граннай апсідай. На франтальным фасадзе меў магутную 3-ярусную (2 васьмерыкі на чацверыку) вежу-званіцу з цыбулепадобным купалам і ліхтаром з галоўкай. Плоскасныя грані, невялікія квадратныя і круглыя вокны-байніцы надавалі ёй абарончы характар. Над прэсбітэрыем вільчык даху завяршаўся невялікай вежачкай па форме верхняга яруса званіцы. Рудыментамі готыкі з'яўляліся пілоны-контрфорсы ў прасценках высокіх арачных аконных пра-


Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў г. Клецк.

ёмаў і гатычная цагляная муроўка сцен. З паўночнага боку да апсіды асіметрычна далучалася 2-павярховая сакрысція.

Зала храма была перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, у яе прастору выступала драўляная галерэя хораў. Пад апсідай знаходзілася скляпеністая крыпта.

# г. Клімавічы

Магілёўскай вобласці

## Кляштар дамініканцаў

Заснаваны ў 1626 г., скасаваны ў 1832 г.

# в. Клявіца,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

Верагодна, пабудавана ў канцы 19 ст. з дрэва. Вядома па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Была вырашана прамавугольным вертыкальна ашаляваным зрубам пад 2-схільным гонтавым дахам. Бакавыя фасады рытмічна чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Плоскасны фасад завяршаўся трохвугольным франтонам. Справа перад храмам была пастаўлена высокая каркасная 3-слуповая званічка пад 2-схільным дашкам з крыжом у завяршэнні.



## в. Княгінін,
Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася ў панскай сядзібе. Пабудавана ў 1803 г. з дрэва. Дзейнічала да 1940-х гг.

Твор архітэктуры класіцызму. Была вырашана 8-граннай ратондай

## в. Княжыцы
Магілёўскага раёна

### Касцёл кармелітаў

Кляштар кармелітаў заснаваны каля 1640 г. Сапегамі. Скасаваны паводле царскага ўказу ад 19.7.1832 г. Драўляны касцёл не захаваўся.

## г.п. Копысь,
Шклоўскі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл

Знаходзіўся ў заходнім баку ад замка, на Рынкавай плошчы[1]. Згадваецца ў 1846 г.: «Он (Копысь — *А.К.*) тянется на версту и состоит из бедных деревенских хат, набитых, как здесь водится, евреями. Над халупами возвышается древняя каменная католическая церковь и всё здесь»[2].

---

[1] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 53.

[2] Шчукін Н.С. Нататкі аб Беларусі. Газета «Ударны фронт». 1993, 31 сак.

## в. Корань,
Лагойскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца святога архангела Міхаіла

Была пабудавана ў 1783 г. з дрэва, у 1834 г. перабудавана.

Твор народнага дойлідства. Прамавугольны ў плане будынак над 2-схільным дахам, які над 5-граннай с бакавой сакрысціяй апсідай пераходзіў у вальмавы; завяршаўся над фасадам купальнай званічкай. Бакавыя фасады чляніліся 6 аконнымі праёмамі. Унутры галерэя хораў абапіралася на 2 слупы. Інтэр'ер упрыгожваў алтар з абразом, падараваным фундатарам.

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Пабудаваны ў 1575 г. з дрэва як філіяльны ў Гаеўскай парафіі. У 1605 г. Віцебскай капітулай пабудаваны новы касцёл і створана самастойная парафія[1]. Зруйнаваны падчас руска-польскай вайны 1654—67 гг. У 1730-я гг. пабудаваны новы драўляны касцёл, перад якім пастаўлена драўляная званіца. Паводле апісання Кораньскай парафіі 1740 г. да плябаніі належала 13 двароў. Прыход ахопліваў капітульныя маёнткі Вялікія і Малыя Корані, Прудкі. На 1912 г. налічвалася каля 6700 парафіян. Згарэў у 1943 г.

Твор народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны прамавугольным у плане зрубам з 5-граннай, фланкіраванай сакрысціямі апсідай, над якой 2-схільны гонтавы дах пераходзіў у вальмавае пакрыццё, завершанае цыбулепадобнай галоўкай на барабане. Вынасны трохвугольны франтон на фасадзе трымаўся на 6 драўляных слупах, завяршаўся 2-яруснай (васьмярык на чацверыку) шатровай званічкай. Над прамавугольным уваходным праёмам было навешана ўкрыжаванне, знаходзіліся 2 акны хораў. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

Інтэр'ер упрыгожвалі тры 2-ярусныя алтары. Цэнтральны алтар запаўняўся абразамі «Унебаўзяцце Найсвяцейшай Дзевы Марыі» і «Найсвяцейшая Тройца», фланкіраваўся скульптурамі Ісуса Назарэцяніна і апосталаў Пятра і Паўла. Правы алтар св. Тадэвуша меў абраз «Святы Антоній Падуанскі», левы — «Укрыжаванне» і «Святы Ігнацій Лаёла». На хорах над нартэксам знаходзіўся 9-галосы арган.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 224—225.

## в. Крайск,
Лагойскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

Быў размешчаны ў цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва, існаваў да 1937 г.

Твор народнага дойлідства. Быў вырашаны падоўжным прамавугольным зрубам пад 2-схільным гонтавым дахам. Яго трохвугольны франтон на галоўным фасадзе быў вынесены на 6 слупах і завяршаўся 2-яруснай вежай-званіцай (васьмярык на чацверыку) з цыбулепадобным купалам.

## в. Краснікі,
Берастаўіцкі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святога архангела Міхаіла і Марыі Магдалены

Знаходзіўся ў цэнтры вёскі, у скверы. Пабудаваны ў 1-й палове 19 ст. з цэглы як філіяльны. Вядомы па малюнку Н.Орды 1868 г.

З'яўляўся творам архітэктуры класіцызму. Быў вырашаны кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Франтальны фасад быў вылучаны 4-калонным дарычным порцікам з трохвугольным франтонам. Будынак апяразваў трыгліфны фрыз. Аднанефавая зала храма асвятлялася бакавымі паўкруглымі люкарнамі і 2 прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

За касцёлам стаяла 3-слуповая званіца.

## в. Красняны,
Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася на могілках. Была пабудавана ў пачатку 19 ст. з дрэва. Дзейнічала да Вялікай Айчыннай вайны.

Твор народнага дойлідства. Была вырашана прамавугольным зрубам з 3-граннай апсідай, над якой 2-схільны гонтавы дах пераходзіў у вальмавы. Франтон фасада завяршала сігнатурка. Бакавыя фасады былі прарублены 2 прамавугольнымі аконнымі праёмамі і ўмацаваны брусамі-сцяжкамі. Пад капліцай мураваная крыпта.

## в. Крошын,
Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Божага Цела

Пабудаваны ў 19 ст., існаваў да 1920-х гг.

Твор народнага драўлянага дойлідства з выкарыстаннем класіцыстычнага 4-калоннага порціка з трохвугольным франтонам. Бакавыя вертыкальна ашаляваныя фасады прамавугольнага пад 2-схільным гонтавым дахам зруба былі прарэзаны 3 парамі прамавугольных аконных праёмаў.

## г. Крычаў
Магілёўскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася на могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Існавала да 1980 г.

Твор народнага дойлідства. Была вырашана цэнтрычным 4-гранным адкрытым зрубам, накрытым пакатым шатровым дахам з крыжом у завяршэнні. Сцены былі прарублены прамавугольным уваходным і алтарным аконнымі праёмамі.

### Касцёл

Знаходзіўся на гандлёвай плошчы горада. У 1620(8) г. пабудаваны драўляны касцёл, які пазней быў адноўлены жонкай караля Аўгуста III Марыяй Юзэфай[1]. На кароткі час (1824—32) пры ім аселі манахі-дамініканцы. Кляштар скасаваны царскім



Касцёл Божага Цела ў в. Крошын.

указам 19.7.1832 г.[2] На пачатак 20 ст. пры князі Галынскім на месцы драўлянай святыні (адзначана на плане горада 1788[3]), якая згарэла ў 1855 г., быў пабудаваны мураваны храм. На 1913 г. налічвалася каля 500 парафіян.

Архітэктура будынка была вырашана ў стылі неаготыкі. Двухвежавы франтальны фасад па цэнтры быў вылучаны 3-пралётнай гатычнай аркадай на 4 гранёных слупах, аб'яднанай агульным кілепадобным франтонам у завершы. Фасады і 4-гранныя ярусы вежаў рытмічна чляніліся гатычнымі стральчатымі аконнымі праёмамі. Перспектыўным стральчатым парталам быў вырашаны галоўны ўваход у храм. Над ім размяшчалася круглае акно-ружа. Гатычны характар будынка ўзмацняла афармленне вежаў вуглавымі гранёнымі пілонамі з востраву-



Касцёл у г. Крычаў.

гольнымі вімпергамі паміж імі, аркатурныя нішы са стральчатымі броўкамі.

Унутраная прастора касцёла падзялялася магутнымі слупамі і аркадамі на 3 нефы. Пяцігранную апсіду запаўняў 2-ярусны алтар, вырашаны ў формах барока — 4 калоны неслі магутны крапаваны хвалісты антаблемент, паміж калонамі стаялі скульптуры святых Пятра і Паўла; 2-і ярус — прамавугольны шчыт з выгнутым карнізам.

Напярэдадні антыфеадальнага паўстання 1734—44 гг. у Крычаве быў адліты звон з выявай рускага герба. Калі паўстанне было задушана, Геранім Фларыян Радзівіл загадаў пакараць звон — ён быў скінуты ў Сож. 20.9.1748 г. быў адліты новы звон, які такім жа чынам быў пакараны. У 1772 г. яго дасталі з Сажа, цяпер ён знаходзіцца ў музеі.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 95—97.
[2] Канфесіі на Беларусі (к. XVIII—XX ст.). Мн., 1998. С. 26.
[3] РДГА, ф. ВУА, спр. 22075.

## Касцёл святога Іліі

Яшчэ ў 1935 г. існаваў драўляны касцёл, пабудаваны пры каралі Казіміру I на месцы старажытнага капішча з выпадку выратавання яго жонкі ад смерці. Пасля 1863 г. перароблены ў праваслаўную царкву[1].

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 95—97.

# в. Крэва,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Перамянення Гасподняга

Знаходзіўся ў цэнтры вёскі. Вялікі драўляны храм пабудаваны ў 1934—36 гг. паводле праекта архітэктара Стаброўскага ў сааўтарстве з Норбскім пад кіраўніцтвам ксяндза Чэслава Кардэля на месцы папярэдняга храма, пабудаванага ў 1387 г. па загаду Ягайлы пасля падпісання Крэўскай уніі[1]. У 1961 г. быў закрыты, перабудаваны пад шпіталь, разабраны ў пачатку 21 ст.

Паводле архітэктурна-стылёвай характарыстыкі будынак адносіўся да стылю мадэрн. Буйнамаштабная сіметрычна-восевая кампазіцыя храма заснавана на класічнай 3-нефавай з трансептам базілікальнай планіровачнай схеме. Сілуэт галоўнага фасада фарміравалі 2 высокія 4-ярусныя 4-гранныя вежы са шпілямі ў завяршэнні (знесены пасля закрыцця касцёла). Перапады ярусаў адзначаны шырокімі гонтавымі адлівамі, верхні ярус завяршаўся адкрытай слуповай тэрасай-звонам. Асноўны «карабель» храма меў 2-ярусную аб'ёмную пабудову за кошт перападу вышынь бакавых і цэнтральнага нефаў; 2-схільны дах на франтальным фасадзе выступаў фігурным барочным франтонам паміж вежамі, вальма апсіды завяршалася зграбнаай сігнатуркай. Прамавугольныя крылы трансепта таксама мелі 2-ярусную пабудову з вальмавымі дахамі. Неашаляваныя брусчатыя сцены чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі з брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Замест карніза будынак апразаны рытмічным радам бэлек-кранштэйнаў, якія трымаюць вынас гонтавага даху. Пасля скасавання храма надбудаваны 2-і паверх.

[1] Chryscijanskaja Dumka. 1936. № 12. S. 6.

## Касцёл святога Яна Хрысціцеля

У цэнтры вёскі. Быў пабудаваны на мяжы 16—17 ст. з цэглы[1].

У 1626 г. храм аднаўляў Гаштольд. У 1704 г. Закрэўскі фундаваў у касцёле 2 алтары і ахвяраваў фальваркі Закрэўшчына і Таншчызна. У 1743 г. ў касцёле быў устаноўлены звон, адліты ў віленскай майстэрні Т.Апановіча. Касцёл адбудаваны ў 1850 г., пасля паўстання 1863—64 гг. перароблены ў 1868 г. пад праваслаўную царкву. Адлюстраваны на фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст. Парафія аднаўлена ў 1906 г.

Помнік архітэктуры барока. Манументальная 3-нефавая базіліка. Цэнтральны высокі неф і апсіда, выкананыя адзіным прамавугольным у плане аб'ёмам, былі накрыты 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай, у якую ўрэзаны 8-гранны шатровы барабан. Да галоўнага фасада далучаўся бабінец, над якім узвышаўся магутны чацвярык званіцы і 8-гранны каркасны шатровы ярус-звон. Пасля прыстасавання пад царкву архітэктура будынка набыла рысы рэтраспектыўна-рускага стылю: рэльефныя крыжы, паяскі гарадкоў, арачныя броўкі, аркатурныя фрызы.

[1] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 197.


Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў в. Крэва.

## в. Кублічы,
Ушацкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі

Знаходзіўся на высокім пагорку. Пабудаваны ў 1642 г. з цэглы па фундацыі полацкага стольніка Іосіфа Клакоўскага. Па іншых крыніцах, пабудаваны ў 1731 г. Паводле люстрацыі казённых зямель 1865 г. храму належалі 33 дзесяціны зямлі. У 1867 г. закрыты і перададзены праваслаўным пад Петрапаўлаўскую царкву[1]. Усё начынне храма было перанесена ў суседні касцёл у Селішчах. Касцёл зруйнаваны ў 1942 г. Захаваўся ў рэштках.

Твор архітэктуры барока. Трохнефавая 2-вежавая базіліка. З перабудовай пад царкву вежы і дах над караблём набылі цыбулепадобныя галоўкі, па цэнтры даху ўзведзены купал; пазней вежы заменены цэнтральнай 2-яруснай званіцай вышынёй у 9 саж. Атынкаваныя фасады чляніліся 15 вялізнымі і 13 малымі аконнымі і 2 уваходнымі праёмамі. Храм меў значныя памеры: даўжыня са званіцай 21, вышыня да карніза 9 саж.



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі ў в. Кублічы. Сучасны выгляд.

---

[1] РДГА, ф. 799, воп. 33, адз. зах. 1479, арк. 96; Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 412—413.

## в. Куранец,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася на могілках. Згадваецца ў 1796 г.

Твор народнага драўлянага дойлідства. Завяршалася вежачкай. Алтар упрыгожвала скульптура «Укрыжаванне». Адасоблена была пастаўлена званіца.

### Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Першы драўляны касцёл быў узведзены ў 1539 г. па фундацыі ўладальніка мястэчка І.І.Міхайлавіча. У 1652 г. быў пабудаваны новы драўляны 2-вежавы храм. Згарэў у 1809 г., праз год адбудаваны на сродкі Казіміра Суліstроўскага. Скасаваны ў 1863 г., у 1866 г. перабудаваны пад царкву. У 1920-я гг. храм вернуты парафіянам і асвячоны ў гонар Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі, перабудаваны. Разабраны пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Твор народнага дойлідства з рысамі класіцызму. Уяўляў сабой працяглы прамавугольны зруб з 5-граннай апсідай пад 2-схільным гонтавым дахам, завершаным над трохвугольным франтонам фасаднага 6-калоннага порціка цыбулепадобнай галоўнай на 2-ярусным гранёным барабане. Вертыкальна ашаляваныя фасады чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер упрыгожвалі 3 алтары: цэнтральны са скульпурай Дзевы Марыі Ларэтанскай, левы з абразом «Укрыжаванне», правы з абразамі святых Антонія і Ганны.

## в. Куцавічы,
Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

На заходняй ускраіне вёскі, каля дарогі. Пабудавана ў 19 ст. з драўлянага брусу. Разабрана ў канцы 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Прамавугольны зруб накрыты 2-схільным гонтавым дахам з вальмамі над 3-граннай апсідай. З боку галоўнага фасада далучана 2-ярусная званіца; 2-і ярус каркасны, накрыты 4-схільным дахам з цыбулепадобнай галоўкай. Сцены бакавых фасадаў прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі.



Капліца ў в. Куцавічы.

Л

## г. Лагойск
Мінскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася на каталіцкіх могілках. Была пабудавана ў 1793 г. з дрэва разабранага касцёла.

Твор народнага дойлідства. Была вырашана амаль квадратным у плане зрубам, накрытым гонтавым дахам з сігнатуркай у завяршэнні. Як і ў касцёле, алтар быў выкананы насценным жывапісам.

### Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Першы храм фундаваны А.Ю.Тышкевічам у 1609 г. як прыходскі, з'яўляўся пахавальняй лагойскага роду Тышкевічаў[1]. Згарэў у 1655 г. падчас вайны Рэчы Паспалітай з Масковіяй, адбудаваны, знішчаны шведамі ў 1706 г., у 1709 г. зноў адбудаваны. Новы мураваны храм узведзены ў 1787—93 гг. па фундацыі графа Тышкевіча[2]. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст. На 1884 г. налічвалася каля 6 тыс. парафіян, меліся прыпісныя капліцы ў вёсках Тадуліна і Емяльянава (цяпер Смалявіцкага р-на). Касцёл дзейнічаў да 1950-х гг., разабраны ў канцы 20 ст.

Драўляны храм Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі быў вырашаны крыжовым у плане зрубам з 2 сакрысціямі. Франтальны фасад фанкіравалі 2 вежы. Трохвугольны франтон паміж імі, сяродкрыжжа гонтавых дахаў і алтарная частка завяршаліся сігнатуркамі. Інтэр'ер быў упрыгожаны 2-яруснымі алтарамі, выкананымі насценным жывапісам. Каля храма стаяла 2-ярусная 4-гранная званіца, накрытая гонтавым шатровым дахам.



Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Лагойск.

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры класіцызму. Быў вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным гонтавым дахам з сігнатуркай над алтарнай часткай. На бакавых фасадах выступалі крылы трансепта пад 2-схільнымі пакрыцямі. Франтальны фасад быў аформлены 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам, над якім узвышалася 2-калонная вежа-званіца з гадзіннікам (надбудавана ў 1806). Шматкалонны цэнтральны алтар быў выкананы насценным жывапісам, у цэнтральнай арачнай экседры памяшчалася скульптура Ісуса Назарэцяніна. Такім жа чынам былі выкананы алтары ў крылах трансепта (св. Антонія і Бязгрэшнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі). Пад храмам мелася крыпта-пахавальня Тышкевічаў, на алтарнай сцяне было навешана ўкрыжаванне.

---

[1] Słownik geograficzny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1884. T. V. S. 682—684.

[2] Zyskar J. Nasze koscioły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 228.

### Кляштар базыльян

Знаходзіўся на тэрыторыі замка. У 1387 г. тут быў заснаваны праваслаўны Іаана-Прадцечанскі манастыр. У 17 ст. звернуты ў унію па фундацыі Станіслава і Евы (з Белазёраў) Тышкевічаў з ахвяраваннем фальварка Сялец і 20 тыс. злотых[1]. Пасля 1752 г. пры манастыры базыльян пабудаваны мураваны касцёл. Да 1795 г. прыстанкам кіраваў пінскі уніяцкі біскуп Адрыян Бутрымовіч. Скасаваны ў 1834 г., у 1841 г. храм разабраны, на яго месцы пасля 1845 г. была пастаўлена праваслаўная царква. Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока з вежай-званіцай на галоўным фасадзе[2].

---

[1] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 306; Słownik geograficzny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1884. T. V. S. 683.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1912—13. T. II. S. 228.

### Кляштар дамініканцаў

Візіта 1796 г. адзначае дамініканскую школу[1].

---

[1] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. С. 306.

## в. Лазавіца,
Клімавіцкі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл і кляштар дамініканцаў

Заснаваны ў пачатку 17 ст. Невялікі драўляны храм быў пабудаваны Кіркорамі ў 18 ст. Тут існавала езуіцкая місія. Касцёл зруйнаваны ў 1930-я гг.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 91—92.

## в. Лахва,
Лунінецкі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Быў пабудаваны ў 1746 г. па фундацыі князя Радзівіла. У 1869 г. пераўтвораны ў праваслаўную царкву[1].

[1] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 126; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I.

## в. Лебедзева,
Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

У пісьмовых крыніцах Лебедзева згадваецца ў 15 ст. як вотчыннае ўладанне князёў Гальшанскіх. У 1476 г. уладальнік маёнтка князь Аляксандр Гальшанскі пабудаваў касцёл. У 18 ст. на яго месцы намаганнямі плябана Міхаіла Капакоўскага быў узведзены барочны драўляны храм Найсвяцейшай Тройцы (крыжовы ў плане, 5-купальны). Гарэў у 1809 г., але адноўлены ў сярэдзіне 19 ст. Дзейнічаў у 1921 г., у 1938 г. згарэў. Да яго была прыпісана мураваная капліца на могілках (захавалася). Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор архітэктуры з рысамі канструктывізму. Быў вырашаны прамавугольным зрубам з гранёнай апсідай. Галоўны фасад завяршаўся 2-гранным шчытом, які фланкіравалі высунутыя 3-ярусныя 4-гранныя шатровыя вежы. Іх ярусы вылучаліся шырокімі гонтавымі адлівамі, якія апяразвалі будынак па перыметры. Прамавугольны ўваходны праём быў паглыблены ў лоджыю. Гарызантальна ашаляваныя фасады чляніліся прамавугольнымі вокнамі з 2-граннымі перамычкамі.

## г. Лельчыцы
Гомельскай вобласці

### Касцёл

Пабудаваны ў 1909 г. з дрэва па фундацыі ўладальнікаў горада[1].

Твор архітэктуры стылю мадэрн. Манументальнае збудаванне мела дынамічна-асіметрычную кампазіцыю, якую фарміравалі працяглы прамавугольны ў плане аб'ём малітоўнай залы і высокая 4-гранная вежа з востраканцовым шатром-шпілем, прыбудаваная з левага боку да галоўнага фасада. Ашаляваныя і пабеленыя фасады надавалі храму характар мураванай пабудовы, рытмічна расчляНёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Плоскасны галоўны фасад завяршаўся востраканцовым 2-гранным шчыпцом з круглым акном-ружай па цэнтры. Гатычны характар будынку надаваў высокі 2-схільны дах, яго шчыпцы, высокі гранёны шацёр званіцы. Унутры зала перакрывалася драўляным лучковым скляпеннем. З левага боку прэсбітэрыя быў навешаны амбон, вырашаны ў стылі неаракако. Алтарная карціна фланкіравалася 2 скульптурамі святых, пастаўленымі на фігурныя насценныя кансолі.


Касцёл Найсвяцейшай Троіцы ў в. Лебедзева.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 221.

## в. Лешня,
Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Стаяла ў заходняй частцы вёскі, пры ўездзе на в. Лебедзева, у былым маёнтку Саковічаў. Прываблівала пілігрымаў цудатворнай крыніцай каля капліцы. Вядома з 2-й палавіны 18 ст. У 1990-я гг. пастаўлены крыж і павільён для набажэнстваў.

## г. Ліда
Гродзенскай вобласці

### Капліца Узвышэння Святога Крыжа

Знаходзілася на былых парафіяльных могілках пры дарозе на Навагрудак. Пастаўлена ў 19 ст.



## Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар кармелітаў

Пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. пры кляштары кармелітаў, які быў фундаваны Адамам і Кацярынай Нарбутамі ў 1672 г. і існаваў да 1832 г.[1] Будынак зруйнаваны ў 1900-я гг.

Касцёл з'яўляўся помнікам архітэктуры барочна-класіцыстычнага стылю. Быў вырашаны магутным прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Галоўны фасад меў плоскасную трактоўку, быў завершаны трохвугольным франтонам з карнізамі на сухарыках, крапаваны высокімі пілястрамі і апразаны тонкапрафіляваным карнізам. Бакавыя фасады рытмічна чляніліся магутнымі арачнымі аконнымі праёмамі з глыбокімі адхіламі і пілястрамі ў прасценках.

[1] Komorowski J. Nad Lidzieją // Spotkania z zabytkami. Marzec 1993. S. 32; Podręczna Encyklopedya Koscielna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.

# в. Лінова,

Пружанскі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл

Быў пабудаваны ў 1935 г. з сасновага брусу.

Помнік драўлянага дойлідства з рысамі неаготыкі. Аднаэрубная з 5-граннай апсідай пабудова. Да алтарнай часткі з 2 бакоў далучаюцца квадратныя прырубы сакрысцій. Прамавугольны зруб накрыты высокім пластычна ўвагнутым гонтавым дахам. Яго паўвальмавы адхіл стварае на галоўным фасадзе навісь-падценне, аформлены ў аснове дашчанай абшыўкай у выглядзе аркатуры. Пластычнасць даху надае больш нізкае гранёнае пакрыццё апсіды. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі ў прафіляваных ліштвах, графічна вылучаных на адкрытым зрубе сцен. Бакавыя грані апсіды прарэзаны круглымі люкарнамі (тэхнічна складаны будаўнічы прыём).


Касцёл у в. Лінова.

У залу храма выступае балкон хораў на 2 слупах, асветлены паўкруглай люкарнай галоўнага фасада. Зала і апсіда перакрыты цыліндрычнымі драўлянымі скляпеннямі на падугах.

# в. Ліпень (Халуі),

Асіповіцкі раён
Магілёўскай вобласці

## Кляштар езуітаў

# г. Лоеў

Гомельскай вобласці

## Касцёл

Адзначаны ў канцы 19 ст.

# в. Лукомль,

Чашніцкі раён
Віцебскай вобласці

## Кляштар францысканцаў

Заснаваны ў 1636 г. У 1868 г. касцёл закрыты і перададзены пад праваслаўную царкву (да 1905).

# в. Лунін,

Лунінецкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл піяраў

Пабудаваны ў 1749 г. з цэглы па фундацыі полацкага кашталяна Валерыяна Жабы[1].

З'яўляўся творам архітэктуры позняга барока. Аднанефавы храм з 2 вежамі, павернутымі вуглом да плоскасці фасада[2]

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1912—1913. T. 1—2. S. 292.
[2] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 30.

# в. Лясная,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Маці Божай Анёльскай

Пабудаваны ў 1930 г. з дрэва на сродкі парафіян і намаганнямі ксяндза Баляслава Ціхановіча[1].

Твор народнага дойлідства. Аднazрубная пабудова з 5-гранным апсідным прырубам. З паўночнага боку да яго прыбудавана прамавугольная сакрысція. Бакавыя, вертыкальна ашаляваныя фасады расчлянёны 2 парамі прамавугольных аконных праёмаў. Унутры зала перакрыта плоскай столлю.

[1] Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 57—58.

## г. Ляхавічы
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Першапачаткова драўляны касцёл, заснаваны ў 1535 г. А.М.Гаштольдам (ці Я.К.Хадкевічам), згарэў у канцы 16 ст. У 1-й палавіне 18 ст. (да 1745) збудаваны новы храм, які пацярпеў ад пажару 1750 г. і быў аднаўлены князем Міхаілам Масальскім[1]. У касцёле быў пахаваны навагрудскі пасол на сейм Тадэвуш Рэйтан — вядомы праціўнік падзелаў Польшчы. Пасля 1863 г. храм аддадзены пад праваслаўную царкву; пашкоджаны пажарам 1874 г. (згарэў іканастас).

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока, які пасля перабудовы пад царкву набыў элементы рэтраспектыўна-рускага стылю. Над яго фасадам была ўзведзена драўляная вежа-званіца ў выглядзе 2-яруснага чацверыка з шатровым пакрыццём і макаўкай у завяршэнні; пад алтарнай часткай надбудаваны 2-ярусны 12-гранны барабан з цыбулепадобным купалам; аконныя праёмы цэнтральнага нефа набылі характэрную для старажытнарускага дойлідства форму аркі з вісячай гіркай. Грані барабана раскрапаваны аркатурай з пілястрамі. Нягледзячы на гэтыя пераўтварэнні, будынак захоўваў свае першапачатковыя барочныя рысы — узбуйненую пластыку аб'ёмаў галоўнага і больш нізкіх бакавых нефаў, манументальную паўкруглую апсіду. У рытмічнай арганізацыі фасада захаваліся лучковыя і парныя арачныя праёмы ў пластычных ліштвах. У інвентары 1831 г. ўпамінаюцца арганіст Міхал Сліва і званары Ян Байчык і Юзэф Юркевіч. Інвентар 1745 г. новазбудаванага касцёла апавядае пра «сныцарскую» работу ў касцёле: «малярскі пазалочаныя» рамы на абразах, разныя ківорый і табернакль «чорналакіраваны, часткова залочаны, адарнацыямі сныцарскімі ўпрыгожаны», хрысцільня ў выглядзе букетніка з цудоўнымі сныцарскімі аздобамі і амбон з вольхі, нічым апроч «адарнацый сныцарскіх» не ўпрыгожаны. Інвентар 1782 г. апісвае алтарны абраз: «у галоўным алтары шата малая срэбная, часткова пазалочаная; пры тым жа абразе промыкі (ззянне) падвойныя, срэбныя, пазалочаныя, штук 2, кароны белых срэбных 2, церне пана Езуса, срэбнае 1; вотаў (прадметы-ахвяраванні) у выглядзе розных фігур — штук 37». Уяўляла цікавасць васьміпудовая (144 кг) залачоная жырандоля з бронзы і медзі. Інвентар 1782 г. нагадвае шэраг высокамастацкіх арнатаў, пакрывал, дываноў.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. T. 1. Cz. 2. S. 335.

## в. Ляцешын,
Клецкі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася ў сядзібна-паркавым комплексе Чарнецкіх. Была пабудавана ў 1811 г. з дрэва як пахавальня[1]. Вядома па фотаздымку 1956 г.[2]

Твор архітэктуры класіцызму. Была вырашана ў выглядзе невялікага антычнага храма — прамавугольная ў плане пабудова пад 2-схільным дахам на галоўным фасадзе вырашана дарычным 4-калонным прысадзістым порцікам з трохвугольным франтонам. Яго тымпан запоўнены салярнай выявай, завершаны мураваным крыжом. Фасад пад порцікам на восі сіметрыі праразаў прамавугольны ўваходны праём у партале і бакавыя стральчатыя аконныя праёмы — матыў рэтраспектыўнай готыкі.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 127.

[2] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство. 1980. № 28. С. 128. Мал. 16.



## г. Магілёў

### Касцёл і кляштар дамініканцаў

У былым касцёле дамініканцаў пасля 1863 г. размяшчалася праваслаўная семінарыя. Згарэў у час пажару 1858 г.

### Касцёл і кляштар марыявітак

Знаходзіўся непадалёк ад касцёла св. Антонія. Пасля 1863 г. касцёл быў забраны пад праваслаўную царкву, кляштарны корпус існаваў у 1882 г.

### Касцёл святога Антонія і кляштар бернардзінцаў

На беразе Дняпра, у былым Пакроўскім прадмесці пад сценамі замка, пры Алейных варотах[1]. Заснаваны ў 1687(96) г. па фундацыі рэчыцкага лоўчага Т.Ржавуцкага і М.Пяцюхі, якія ахвяравалі манахам пляц са свірнам, які ў 1696—98 гг. перароблены на капліцу[2]. У 1702 г. пабудаваны драўляны касцёл, у 1705 г. — жылы корпус. У 1720 г. пабуда-



ваны мураваны храм, рэстаўрыраваны ў 1760-я гг.[3] У 1864 г. кляштар скасаваны, а касцёл стаў парафіяльным для 2 тыс. прыхаджан зарэчнай часткі горада. Але 21.11.1865 г. па загаду генерал-губернатара храм зачынены і з 1872 г. тут знаходзіўся цэнтральны архіў судовых месцаў, у 1897 г. размясціўся царкоўна-археалагічны музей і праваслаўная семінарыя (да 1918). Будынак разбураны ў Вялікую Айчынную вайну. Выгляд кляштара адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1877 г.[4]

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока. Быў вырашаны 1-нефавым, прамавугольным у плане аб'ёмам, які пераходзіў у крыху вузейшы за яго выцягнуты прэсбітэрый, завершаны паўкруглай апсідай зканічным пакрыццём. Фасад быў фланкіраваны 2 невялікімі 4-граннымі вежамі (у заходняй лесвіца вяла на званіцу і хоры). У 18 ст. з поўначы да касцёла быў прыбудаваны прамавугольны ў плане аб'ём з дзвюма 2-яруснымі вежамі, якія завяршаліся купаламі. Неф і прэсбітэрый былі накрыты адзіным дахам, тарэц якога з боку галоўнага фасада закрываў фігурны франтон. Рытм бакавых фасадаў ствараўся лучковымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках. З усходу да касцёла быў прыбудаваны П-падобны ў плане 2-павярховы калідорнай планіроўкі кляштарны корпус. Храм меў 7 алтароў, з якіх галоўны ў імя св. Антонія меў цудатворны абраз, у 1813 г. пастаўлены новы арган.

---

[1] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 27, 57.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II.

[3] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 188—189.

[4] Katalog rysunków architektonicznych ze źbiórów Muzeum narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975. Seria A. T. X. S. 119. Il. 87.

## Касцёл святога Францішка Ксаверыя і анёлаў-ахоўнікаў і калегіум езуітаў

Знаходзіўся паміж вуліцамі Ветранай (цяпер Ленінская) і Шклоўскай (цяпер Першамайская), каля Каралеўскай брамы ў Старым горадзе (раён сучаснай Тэатральнай плошчы). Езуітаў запрасіў у горад у 1678(68) г. смаленскі канонік і магілёўскі святар ксёндз Я.Здановіч[1]. Стольнік расійскага цара Пятра I П.А.Талстой у 1697 г. адзначыў у сваім дзённіку: «в Могилеве же вновь строят езуиты кляштор каменный, то есть монастырь немалый, построено уже много того монастыря каменным строением»[2]. Каля 1684 г. адкрыта музычная бурса, у 1720 — аптэка, у 1780 — музей, з канца 17 ст. дзейнічаў тэатр, у 1820 г. бібліятэка налічвала каля 5 тыс. кніг. Першапачаткова на працягу 1680—1779 гг. місія (рэзідэнцыя) была ўчынена пры фарным касцёле, у 1684 г. ўзведзена капліца, у 1725 г. манахі пабудавалі па вул. Шклоўскай уласны мураваны касцёл (на



Касцёл святога Францішка Ксаверыя і анёлаў-ахоўнікаў і калегіум езуітаў у г. Магілёў.

месцы спаленага ў Паўночную вайну 1700—21 драўлянага), калегіум (1779—1820). У будаўніцтве прымалі ўдзел архітэктары-езуіты Я.Алендскі (1756—57), прафесар матэматыкі і архітэктуры В.Абрэнпольскі (1786—96) і інш.[3] Магілёўскім езуітам падпарадкоўваліся езуіцкія місіі ў Гомелі, Фашчаве, Хальчы, Чачэрску і інш. Калегіуму належалі маёнткі Бялянічы, Варатынічы, Галынец, Дабрасневічы, Дубнікі, Куты, Параеўка, Паўлаўка, Турэц, Цёплае, Хронеў, Ямны і інш.[4] Мураваны касцёл пасля скасавання ордэна ў 1773 г. (манахі жылі да 1820) перароблены ў 1833 г. ў праваслаўную Васкрасенскую царкву, будынак калегіума прыстасаваны з 1820 г. пад ваенна-афіцэрскую школу, у 1826 г. тут працавала следчая камісія па справе дзекабрыстаў. Езуіцкі архітэктурны комлекс разабраны пасля Вялікай Айчыннай вайны. У 1983 г. на яго месцы пабудаваны 9-павярховы жылы дом.

Касцёл — твор архітэктуры барока. Быў вырашаны 3-нефавай базілікай з паўкруглай апсідай, да якой далучаліся трапецападобныя ў плане сакрысціі. Галоўны фасад фланкіраваўся 2 вежамі з фігурнымі купаламі. У 1848 г. над дахам храма ўзведзены несапраўдны барабан пад купальным пакрыццём. Франтальны фасад быў дэкарыраваны ордэрнай пластыкай: слаёнымі пілястрамі, выгнутымі карнізамі.

Інтэр'ер быў аздоблены карынфскім ордэрам, сцены і скляпенні размалёўкай.

Будынак калегіума, які далучаўся да касцёла тарцовай сцяной, быў вырашаны 2-павярховым прамавугольным у плане аб'ёмам, плоскасныя сцены якога рытмічна чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II. S. 40—41.

[2] Путешествие стольника П.А. Толстого. Путевой дневник // Русский архив. Кн. 1. М., 1877. С. 177.

[3] Poplatek J., Paszenda J. Słownik jezuitów artystów. Kraków, 1972. S. 244.

[4] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001.

## в. Магільна,
Уздзенскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

Знаходзіўся на тэрыторыі старажытнага замка. Пабудаваны каля 1512 г. віцебскім ваяводам С.Пацам[1]. Адпаведна інвентарам 1536, 1592 і 1663 гг. яго патронам быў слуцкі князь Юрый Сямёнавіч Слуцкі. Адпаведна інвентару 1592 г. ў замкавым свірне захоўвалася касцельнае начынне.

[1] Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в. Мн., 1991. С. 206.

## г. Мазыр
Гомельскай вобласці

### Касцёл і кляштар марыявітак

Пабудаваны ў 1752 г. навагрудскім кашталянам Гедэонам Еленскім для запрошаных з Вільні марыявітак[1]. Скасаваны ў 1856 г. Пры ім працавала акадэмічная пачатковая 3-класная школа.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II. S. 264—269.

### Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Закладзены ў 1616 г. як прыходскі мазырскім старостам Стравінскім[1]. Адбудоўваўся пасля пажару 1757 г. Існаваў у пачатку 20 ст.

Твор архітэктуры класіцызму. Крыжовы ў плане драўляны будынак быў завершаны магутным 8-гранным светлавым барабанам, накрытым сферычным купалам з макаўкай на гранёнай шыі. Асобна перад храмам стаяла 3-ярусная (васьмярык на 2 чацверыках) драўляная званіца, ярусы вылучаліся шырокімі адлівамі, на 2-м ярусе мела арачныя вокны-прасветы.

[1] Słownik geograficzny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1885. T. VI. S. 754.

### Касцёл фарны

Знаходзіўся на вяршыні Замкавай горы. Заснаваны ў 1616 г. старостам Б.Стравінскім[1]. У 1723—73 гг. пры касцёле дзейнічала езуіцкая місія, якая з 1726 г. трымала школу (з 1773 свецкае вучылішча).

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa—Petersburg, 1913. T. II. S. 267.

## в. Малімоны,
Светлагорскі раён
Гомельскай вобласці

### Капліца

Адзначана ў 1880 г., была прыпісана да касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла ў Бабруйску[1].

[1] Słownik geograficzny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1880. T. 1. S. 265—266.

## в. Малькавічы,
Ганцавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

Пабудавана на мяжы 19—20 ст. з дрэва. Зруйнавана ў 2-й палавіне 20 ст.

## в. Маляцічы,
Крычаўскі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл святога Станіслава

Пабудаваны ў 1787—94 гг. з цэглы. Узведзены Кацярынай II на пасаду магілёўскага архібіскупа Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч пасля смерці імператрыцы трапіў у няміласць новага цара Паўла і вымушаны быў выехаць у часовае выгнанне ў в. Маляцічы[1]. Па заказе і на сродкі архібіскупа тут, у яго рэзідэнцыі, узведзены касцёл паводле праекта літоўскага архітэктара Л.Стукі-Гуцэвіча. Будаўніцтвам кіраваў яго вучань архітэктар Я.Падчашынскі. Пры касцёле архібіскуп пасяліў манахаў-дамініканцаў, якія мелі тут місію з 1677 г. Пасля паўстання 1830—31 гг. святыня была выведзена з-пад юрыс-



Капліца ў в. Малькавічы.

дыкцыі касцельнай улады і перададзена гораду — у ёй размясціліся казначэйства і некаторыя іншыя службы, кляштар дамініканцаў скасаваны ў 1832 г. У 1835 г. прыстасаваны пад праваслаўную царкву. Разбураны ў 1934 г.

Касцёл — паменшаная ў 32 разы копія сабора св. Пятра ў Рыме[2]. Складаўся з асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму і бакавых паўкруглых каланад, якія ўтваралі авальны курданёр. Асноўны аб'ём завяршаўся купалам на глухім шматгранным барабане, які фланкіравалі 2 невялікія купалы. Галоўны фасад меў ярусную кампазіцыю: ніжні 2-павярховы раскрапаваны пілястрамі і 3-чацвяртнымі калонамі, паўцыркульнымі і прамавугольнымі вокнамі і нішамі, аформленымі франтончыкамі, і завершаны трохвугольным франтонам у цэнтры; верхні раскрапаваны пілястрамі, паміж якімі былі прамавугольныя вокны і нішы, завяршаўся пакатым трохвугольным франтонам.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 97.

[2] Морозов В.Ф. Костел св. Станислава в Молятичах // Строительство и архитектура Белоруссии. 1988. № 2. С. 32.

## в. Маркава,
Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святога архангела Міхаіла

Фундаваны пры каралі Уладзіславе IV у 17 ст., новы храм пабудаваны ў 1740 г. з дрэва за кошт сродкаў інфлянцкага кашталяна Я.Шчыта; пры храме існавала школа. З'яўляўся філіяльным пры касцёле ў в. Беніца. Скасаваны ў 1866 г.

## г. Масты
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Знаходзіўся ў паўднёва-ўсходнім вугле цэнтральнай плошчы. Быў пабудаваны ў пачатку 19 ст. з дрэва. У 1882 г. адрамантаваны[1]. Існаваў да 1920-х гг.

Быў вырашаны прамавугольным зрубам пад 2-схільным дахам, вальмамі над 5-граннай апсідай з бакавымі сакрысціямі. Фасад меў шырокую неглыбокую нішу з арачным акном хораў наверсе, быў завершаны вялізным трохвугольным франтонам з сігнатуркай на вільчыку даху і люкарнай у тымпане. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады чляніліся высокімі арачнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 747, арк. 9; ф. 8, воп. 2, спр. 324, арк. 58.

## в. Матыкі,
Мядзельскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл

Быў пабудаваны ў пачатку 19 ст. з дрэва па фундацыі ўладальніка маёнтка польскага генерала Слізня[1]. З'яўляўся філіяльным пры касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Будслаў. Зачынены і зруйнаваны пасля Вялікай Айчыннай вайны. Месца храма адзначана высокім металічным крыжом.

[1] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. І. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мн., 2003. С. 27.

## г. Міёры
Віцебскай вобласці

### Кляштар канонікаў рэгулярных

Існаваў з 1-й палавіны 17 ст. да 1822 г. У 1690 г. праваслаўны кляштар (заснаваны ў 1640-я гг.) стаў уніяцкім базыльянскім; у 1728 г. царква пераўтворана ў касцёл, а кляштар перайшоў да канонікаў рэгулярных[1]. Скасаваны ў 1832 г.

[1] Rzymskokatolicka djecezja Witebska (Białoruś). Witebsk, 2004. S. 166.

## в. Мікалаеўшчына,
Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

У рапарце станькаўскага благачыннага П.Трускоўскага ад 30.07.1866 г. адзначана, што жыхары мястэчка Мікалаеўшчына далучыліся да праваслаўнай царквы і просяць, «чтобы костел их со всеми годными для православной церкви и вещами и иконами был обращён в православную церковь»[1]. У рапарце адзначаецца касцёл «деревянный, крепкий, построенный престолом на восток, снаружи благолепный, о двух куполах, годный к переделке на православную церковь».

[1] Зямля Волатаў. «Новая Зямля» ў кантэксце нацыянальнай гісторыі // Наша вера. 3(21)2002.

## в. Мікуліна,
Талачынскі раён
Віцебскай вобласці

### Кляштар бернардзінцаў

Быў фундаваны ў 1704 г. кашталянам віцебскім М.М.Агінскім і яго жонкай Тэрэзай (з Бжастоўскіх). У 1832 г. скасаваны.

## г. Мінск

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Знаходзіўся на ўзвышэнні левага берага р. Свіслач, з-за чаго гэта частка горада атрымала назву Троіцкая Гара, потым — Троіцкае прадмесце. Пабудаваны каля 1508 г. з дрэва як прыходскі[1].

[1] Дзянісаў Ул. Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996. С. 9.

## Касцёл святога Антонія і кляштар францысканцаў

Знаходзіўся на месцы гастранома па вул. Леніна, на рагу былых вул. Францысканскай і Юр'еўскай. Фундаваны ў 1676 г. мінскім падкаморыем Т.К.Горскім, які вылучыў 19.10.1680 г. манахам участак для кляштарнай забудовы[1]. У 1681 г. мінскі стольнік і падстароста Т.А.Ванькові ч ахвяраваў кляштару ўчастак на Татарскай вуліцы і 2 тыс. злотых; у 1689 г. новыя ўчасткі яму ахвяравалі Е.Кастравіцкі і С.Заблоцкі[2]. На месцы драўляных пабудоў у 18 ст. ўзведзены мураваныя кляштарны жылы корпус і драўляны касцёл; разам з 2 жылымі дамамі, стайняй, броварам, агародам, фруктовым і дэкаратыўным садамі былі акаймаваны высокай мураванай сцяной з брамай. У 18 ст. папячыцелямі кляштара былі А.Прушынскі, С. і К.Камоцкія, Ю.Світы-Ііч і інш., да канца стагоддзя было ўсяго 5 манахаў. У 1798—99 гг. францысканцы пераведзены ў кляштар кармелітаў, а прыстанак скасаваны ў 1832 г., драўляны касцёл перанесены на Кальварыйскія могілкі; у кляштарных будынках размясцілася каталіцкая семінарыя, з 1843 г. — кансісторыя Мінскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі, у 2-й палавіне 19 ст. — Мінская гарадская ўправа; у канцы 1940-х гг. знесены.

Драўляны к а с ц ё л св. Антонія з'яўляўся творам архітэктуры барока; меў выгляд крыжовага ў плане зруба з 2 вежамі на франтальным фасадзе. У інтэр'еры меліся 4 драўляныя разныя алтары.

Мураваны к л я ш т а р н ы к о р п у с узведзены ў 18 ст. на месцы драўлянага 2-й палавіны 17 ст. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак пад 2-схільным чарапічным дахам. Паўночна-заходні тарцовы фасад завяршаў трохвугольны франтон са скульптурамі 2 анёлаў і барэльефнай кампазіцыяй «Усёбачнае Вока» ў тымпане. Плоскасныя фасады рытмічна члянiліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

[1] Дзянісаў Ул. Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996. С. 9.
[2] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001.

## Касцёл святога Войцеха і кляштар бенедыкцінак

Знаходзіўся на вул. Інтэрнацыянальнай, на месцы сучаснага будынка пракуратуры.

Першапачатковы драўляны кляштар быў заснаваны па фундацыі віленскага ваяводы К.Хадкевіча, яго жонкі С.Горскай-Друцкай і віленскага каноніка В.Сялявы ў 1633 г., якія купілі манашкам 2 будынкі з пляцамі і агародамі па Зборавай вуліцы (раён сучаснай вул. Інтэрнацыянальнай) і вылучылі на будаўніцтва 20 тыс. польскіх злотых[1]. Фундацыя была пацверджана каралём Уладзіславам IV 14.7.1633 г. і віленскім біскупам А.Войнам. У 1661 г. М.Зянкевіч (з Рагозаў) адпісала кляштару фальварак Колкі ў Мазырскім павеце. Першапачатковы драўляны кляштар быў заснаваны для запрошаных з Нясвіжа манашак-бенедыкцінак. Падчас вайны 1654—67 гг. кляштар моцна пацярпеў і быў адбудаваны пасля 1682 г. на сродкі Кацярыны-Схаластыкі Свірскай: узведзены мураваны жылы корпус, касцёл рэканструяваны віленскім суфраганам М.Слупскім. Да канца 18 ст. кляштар валодаў 3 фальваркамі, 8 вёскамі, 3 корчмамі, млынам і амаль 93 валокамі зямлі; у ім жылі 22 манашкі. З матэрыяльным усталяваннем ордэна драўляныя будынкі прыстанка ў 1780-я гг. архітэктарам Т.Раманоўскім былі заменены на мураваныя, у 1797—1800 гг. архітэктарам Ф.Крамерам рэканструяваны фасад храма. У Мінску меўся бенедыкцінскі прыярат (1700—1832, фундатар — жонка менскага харунжага Стацкевіча), у якім навучаліся 18 паслушніц. У 1867 г. кляштар скасаваны. У снежні 1871 г. мінскі епіскап А.Дабрынін хадайнічаў пра перавод у яго будынкі 2 праваслаўных жаночых манастыроў: «У Мінскай епархіі знаходзяцца два трэцякласныя жаночыя манастыры, адзін у Пінску ў 252 вярстах ад Мінска, другі ў сяле Вольне Наваградскага павета, у 140 вярстах. У абодвух гэтых манастырах няма поўнай, вызначанай штатамі,



Касцёл святога Войцеха і кляштар бенедыкцінак у г. Мінск.

колькасці манашак; Вальнянскі манастыр не мае нават сваёй царквы, бо царква, дзе для манашак адпраўляюцца богаслужэнні, лічыцца прыходскай... Я перакананы ў неабходнасці злучэння абодвух названых манастыроў у адзін, з пераводам іх у Мінск»[2]. Дазвол на перавод быў атрыманы, 2.02.1874 г. новаўладкаваны жаночы манастыр асвячоны ў гонар Праабражэння Гасподняга (храм перабудаваны), сёстры-бенедыкцінкі высланы ў Нясвіж, а потым у Слонім[3]. Храм перабудаваны архітэктарам С.Івановым. На манастыр адразу пачалі паступаць шматлікія ахвяраванні — настаяцельніца Кастрамскога Богаяўленскага манастыра ігумення Марыя Давыдава даслала іканастас, выкананы ў візантыйскім стылі, з Яраслаўля атрымана дакладная копія абраза «Маці Божая Толгская». Кляштарны комплекс акрамя касцёла ўключаў 2-павярховы жылы корпус, 2 флігелі, бровар, свіран, стайню, сад і агарод. У 1930-я гг. кляштар перабудаваны пад клуб. Знішчаны ў 1960-я гг.

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока. Аднанефавы храм з 5-граннай апсідай меў характэрны маляўнічы сілуэт галоўнага фасада — фігурны франтон, што закрываў тарэц высокага 2-схільнага даху, фланкіравалі дзве 3-ярусныя купальныя вежы. Фасад быў насычаны вытанчанай архітэктурнай пластыкай, падзяляўся на 2 ярусы тонкапрафіляваным раскрапаваным карнізным поясам і чляніўся на 3 праслы пілястрамі, аконныя праёмы мелі лучковую перамычку. З перабудовай пад царкву храм страціў барочныя рысы і набыў рэтраспектыўна-рускую стылёвую трактоўку: замест бакавых вежаў і франтона па цэнтры з'явілася драўляная 3-ярусная званіца з высокім шатром і макаўкай у завяршэнні, над караблём храма ўзвышалася традыцыйнае 5-купалле.

Перакрытую цыліндрычным скляпеннем залу ўпрыгожвалі цэнтральны і 4 кулісныя барочныя алтары. У галоўным алтары знаходзіўся абраз Маці Божай з Дзіцем у багатых сярэбраных шатах і такіх жа каронах. Згодна з інвентаром пачатку 19 ст., абраз быў намаляваны на палатне; сярэбраная шата з пазалотай, карона, вакол галавы 12 сярэбраных зорак. Бакавыя алтары прысвечаны апекунам ордэна св. Бенядзікту і яго сястры св. Схаластыцы[4].

З касцёлам быў звязаны 2-павярховы прамавугольны ў плане кляштарны корпус пад вальмавым дахам. У процілегласць архітэктуры касцёла меў сціплае пластычнае вырашэнне, фасады рытмічна чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

[1] Дзянісаў Ул. Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996. С. 9; Дзянісаў У.М. Кляштар бенедыкцінак у Мінску // Каштоўнасці мінуўшчыны. Мн., 2000. № 3. С. 77—78.

[2] Минские епархиальные ведомости. 1899. № 3.

[3] Павловский А.А. Всеобщий Иллюстрированный Путеводитель по монастырям и святым местам Российской Империи и Афону. Нижний Новгород, 1907. С. 343; РДГА, ф. 799, воп. 33, спр. 821, арк. 54.

[4] Ярмоленка А. «Напачатку было слова...» // Наша вера. 1999. № 4.

## Касцёл святога Томаша Аквінскага і кляштар дамініканцаў

Знаходзіўся на Верхнім рынку, на скрыжаванні сучасных вуліц Энгельса і Інтэрнацыянальнай. Заснаваны ў 17 ст. Архітэктурны комплекс быў абнесены высокай мураванай агароджай з брамай, у межах якой размяшчаліся касцёл, 2-павярховы жылы корпус, гаспадарчыя пабудовы і сад.

Першы драўляны касцёл быў пабудаваны ў 1600 г. па фундацыі жонкі ваяводы К.Слушкі — Сафіі (з Завішаў); у 1605 г. перададзены манахам-дамініканцам[1]. Пасля пажару 1615 г. мінскі ваявода П.Тышкевіч ахвяраваў манахам участак для будаўніцтва мураваных касцёла і кляштара[2]. У 1623 г. касцёл згадваецца як «нядаўна закладзены» на вуліцы, якая ідзе ад рынку да ракі Свіслач[3]. У дакументах часоў руска-польскай вайны 1654—67 гг. упамінаецца «костел... добре велик, каменной и высок», які разам з кляштарам меў абарончае значэнне, з яго было магчыма весці «полковой и подошвенный и мушкетный бой»[4]. У 1692—96 гг. арганістам служыў Р.Мурашкевіч, з 1698 г. — К.Ластоўскі[5]. У 1703 г. завершана будаўніцтва новага кляштарнага корпуса, у 1709 г. была пачата «рэстаўрацыя касцёла, асабліва другой палавіны нефа, якую належала выраўняць разам з капліцамі і астатняй часткай касцёла»[6]. Касцёл рэканструяваны ў 18 ст., для чаго праваслаўны ігумен Петра-Паўлаўскага манастыра М.Даніleўскі аддаў дамініканцам у арэнду цагельны завод ва ўрочышчы Нядзвежын[7]. У 1781 г. мінскі бургамістр і старшыня цэха муляраў А.Макарэвіч заключылі кантракт з настаяцелем кляштара Б.Рыбчынскім на будаўнічыя работы[8]. У 1798 г. біскуп Я.Дзядзерка прыстасаваў кляштарны корпус пад сваю рэзідэнцыю[9]. Кляштар скасаваны 19.7. 1832 г., ксёндз М.Ліпіц пераўтварыў касцёл у прыходскі пад назвай Святой Тройцы, а ў кляштарным корпусе размясцілася каталіцкая семінарыя[10]. З



Касцёл святога Томаша Аквінскага і кляштар дамініканцаў у г. Мінск. Фота пачатку 20 ст.

1840 г. кіраўнік Мінскай дыяцэзіі прэлат Рава скасаваў касцёл, набажэнствы былі перанесены ў могілкавую капліцу на Залатой Горцы, якая ў 1842 г. атрымала статус парафіяльнага касцёла. У 1869 г. кляштарны комплекс адведзены пад казармы, на верхнім паверсе размясціўся афіцэрскі клуб[11]. Кляштарны архітэктурны комплекс быў абнесены высокай мураванай агароджай з брамай, у межах якой знаходзіліся мураваныя касцёл і жылы корпус, 2 драўляныя флігелі, стайня, свіран і іншыя гаспадарчыя пабудовы, пладовы сад. У пачатку 20 ст. касцёл выкарыстоўваўся Мінскім пажарным дэпо. Знішчаны ў 1951 г.

Касцёл быў пабудаваны на працягу 1620—40 гг. у стылі барока па канону 3-нефавай бязвежавай базілікі з 2 купальнымі капліцамі ў бакавых нефах[12]. Высокі карабель храма на галоўным фасадзе завяршаў шмат'ярусны фігурны шчыт, моцна раскрапаваны карнізнымі паясамі, руставанымі пілястрамі, пластычнымі ліштвамі лучковых і арачных аконных праёмаў, бакавымі валютамі, дэкаратыўнымі вазамі і інш. Маляўнічасць сілуэта фасада значна ўзбагачалі купальныя 8-гранныя ратонды-капліцы над бакавымі нізкімі нефамі. З паўночна-заходняга боку да апсіды далучалася прамавугольная ў плане сакрысція па фронту бакавога нефа.

Унутраная прастора храма 3 парамі магутных пілонаў падзялялася на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі. Інтэр'ер упрыгожвалі фрэскавая размалёўка і барочна-ракайльныя стукавыя і драўляныя алтары — галоўны і 12 кулісных каля 6 міжнефавых слупоў. Мелася 8 ляпных гербаў фундатараў і патронаў кляштара[13]. Стольнік Пятра І П.Талстой у 1697 г. адзначыў выдатны арган[14].

---

[1] Дзянісаў Ул. Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996. С. 6.

[2] Wołyniak. Wykaz klasztorów dominikańskich prowincyi ruskiej. Kraków, 1923. Cz. 2. S. 185.

[3] Беларускі архіў. Т. 3. С. 131.

[4] Беларускі архіў. Т. 3. С. 204.

[5] Ліхач Т. Ордэн даміміканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. №2. 2000.

[6] Афонский П. Триста лет в православии (Исторический очерк трёхсотлетия существования Минского Екатерининского собора). Мн., 1913. С. 37.

[7] Oddział rękopisów Biblioteki PAN w Krakowie. № 1064. K. 20, 34.

[8] Łopaciński E. Wiadomości o artystach Wilna i ziem okolicznych // Prace Sekcji Historii Sztuki. III. Wilno, 1938/39. S. 330; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 172—177.

[9] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 3.

[10] Łopaciński E. Wiadomości o artystach Wilna i ziem okolicznych // Prace i materiały sprawozdawcze Sekcji hist. Sztuki Tow. Przyjaciół nauk w Wilnie. 1938/39. T. 3. S. 330.

[11] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T.I. S. 172—177.



Касцёл святога Томаша Аквінскага ў г. Мінск. Чарцёж.

[12] Дзянісаў У.М., Пазняк З.С. Мінскі кляштар дамініканцаў // Помнікі мастацкай культуры: Новыя даследаванні. Мн., 1985. С. 124—130; Шчакаціхін М. Помнікі старадаўняе архітэктуры XVII—XVIII сталецьцяў у Менску // Запіскі аддзела гуманітарных навук Інбелкульта. Кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Мн., 1928. Т. 1. Сш. 2. С. 1—38.

[13] Balicski M., Lipicski T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym opisana. Warszawa, 1846. T. III. S. 820.

[14] Путешествие стольника П.А.Толстого по Европе, 1697—1699. М., 1992.

## Касцёл святога Яна і кляштар баніфратаў

Знаходзіўся на Старым рынку. Заснаваны ў 1704(9) г. стольнікам мінскім Т.Ваньковічам[1]. У 1833 г. кляштар і касцёл прададзены з публічнага торгу. У бакавым алтары быў цудатворны абраз Маці Божай, аздоблены сярэбранымі шатамі і каронамі.

---

[1] Дзянісаў Ул. Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996. С. 11.

## Касцёл святой Марыі Магдалены і кляштар кармелітаў

Знаходзіўся ў гістарычным цэнтры горада па вул. Новафранцысканскай, ці Юр'еўскай (пачатак сучаснай вул. Ракаўскай). Заснаваны ў 1677 г. мінскім стольнікам А.Т.Ваньковічам (па іншых крыніцах у 1733 Цеханавецкімі)[1]. Кляштару належаў



фальварак Кальварыя з невялікім драўляным касцёлам і комплексам гаспадарчых пабудоў. У 1763 г. староста мінскі М.Валадковіч фундаваў мураваныя кляштар і касцёл Марыі Магдалены. У 1797 г. біскуп Дзядзерка перавёў сюды францысканцаў. У 1833 г. яны былі выдалены[2]. У 1872 г. будынкі кляштара прададзены з таргоў і прыстасаваны пад жыллё.

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока. Прамавугольная ў плане 2-вежавая 3-нефавая 4-стоўпная базіліка з паўкруглай апсідай. Інтэр'ер упрыгожвалі 6 алтароў: галоўны стукавы, бакавыя — прысценныя фрэскавай паліхромнай размалёўкі. У бакавым алтары знаходзіўся абраз «Маці Божая Шкаплерная» ў сярэбранай шаце (лічылася цудатворнай).

Побач з касцёлам стаяў 1-павярховы Г-падобны ў плане драўляны кляштарны корпус. Меўся комплекс гаспадарчых пабудоў (стайня, карэтная, свіран і інш.).

[1] Дзянісаў Ул. Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996. С. 11; Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.

## Кляштар марыявітак

Заснаваны ў 1771 г.[1], скасаваны ў 1850 г.

[1] Дзянісаў Ул. Касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены. Мн., 1996. С. 11.

# в. Мсцібава,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл святога Яна Хрысціцеля

Быў пабудаваны ў 18 ст. з дрэва. Першы касцёл, закладзены па ўказе каралевы Боны ў 1-й палавіне 16 ст., быў спалены шведамі падчас Паўночнай вайны 1700—21 гг. У 1715 г. адбудаваны мсцібаўскім старостам К.Агінскім. У 1770 г. храм перабудаваны з-за трухлявасці. Пасля пашкоджання ў 1849 г. адноўлены ў 1877—80 гг. на сродкі парафіян і памешчыкаў Талочкаў з в. Вярдамічы і Ельскіх з в. Хоцькаўцы. Зруйнаваны ў 2-й палавіне 20 ст. Адлюстраваны на фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.[3]

Храм меў арыгінальную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю: прамавугольны зруб і 5-гранная апсіда мелі самастойныя шатровыя гонтавыя пакрыцці. Над асноўным аб'ёмам яно завяршалася 4-гранным ліхтаром з крыжом. На вертыкальна ашаляваных фасадах вылучаліся здвоеныя лучковыя аконныя праёмы, фланкіраваныя брусамі-сцяжкамі. Вуглавыя грані апсіды былі прарэзаны круглымі люкарнамі.



Перед храмам у 1899—1900 гг. была пастаўлена званіца з жоўтай цэглы, выкананая ў выглядзе трыумфальнай аркі з падвешаным пад ёй звонам[1].

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 747, арк. 8.

# г. Мсціслаў

Магілёўскай вобласці

## Касцёл Бога Збавіцеля

Пабудаваны старостам мсціслаўскім Пятром Пацам каля 1626 г. Перароблены на царкву.

## Касцёл і кляштар дамініканцаў

Знаходзіўся ў цэнтры горада. Быў фундаваны Уладзімірам Даджыбогам Каменскім каля 1676 г. Перароблены на царкву.

## Касцёл кармелітак

Перароблены на царкву.

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі Анёльскай і кляштар бернардзінцаў

Знаходзіўся ў цэнтры горада, на месцы старажытнай Афанасьеўскай царквы. Кляштар фундаваны віцебскім харунжым Я.І.Рамейка-Гутком і яго жонкай Хрысцінай (з Галынскіх) у 1729(7) г. Бернардзінцы ўтрымлівалі 6-класную гімназію (праіснавала да 1831). Па царскім указе ад 19.7.1832 г. кляштар скасаваны. У 1858 г. пашкоджаны пажарам, у 1870 г. перароблены на Аляксандра-Неўскую царкву (захавалася). У перапісцы Сінода і магілёўскага губернатара даецца парада «перабудаваць б. бернардзінскі касцёл выгодна, бо ён займае месца пры самой галоўнай бульварнай плошчы»[1].

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока. Быў узведзены па канону 3-нефавай 2-вежавай базілікі[2].

[1] РДГА, ф. 797, воп. 34, спр. 195.
[2] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 36, 127.

# г. Мядзел

Мінскай вобласці

## Касцёл святога Станіслава

Знаходзіўся ў Новым Мядзелі, узвышаўся на пагорку, абнесеным бутавай агароджай. Заснаваны ў 1454 г. па фундацыі мядзельскага старосты А.Саковіча. У 1852 г. пасля пажару рэканструяваны на сродкі парафіян. Згарэў у Вялікую Айчынную вайну. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор народнага драўлянага дойлідства з рысамі барока і класіцызму. Пабудаваны па канону 3-нефавай 2-вежавай базілікі з бакавымі сакрысціямі пры прэсбітэрыі. Прамавугольны ў плане зруб быў накрыты 2-схільным гонтавым дахам, які на галоўным фасадзе выходзіў трохвугольным франтонам. Франтальны фасад фланкіравалі 2-ярусныя 4-гранныя вежы, завершаныя фігурнымі яруснымі купаламі-ківорыямі. Уваходны праём фланкіравалі 2 пары калон, якія неслі 2-гранны шчыт з паўкруглай люкарнай па цэнтры. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады рытмічна чляніліся высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

## в. Мяжаны,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Маці Божай Анёльскай

Знаходзіўся ў цэнтры вёскі. Быў пабудаваны ў 1-й палавіне 20 ст. з дрэва, згарэў у канцы 20 ст.

Твор архітэктуры неабарока. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка складалася з асноўнага прамавугольнага зруба, да якога далучаўся прытвор са званіцай над ім і 2 апсіды: алтарная з рызніцай — прамавугольная, бакавая — 5-гранная. Прытвор акаймоўвала адкрытая абходная галерэя з навіссю (усходняя яе частка пабудавана ў больш позні час). Сцены з абчасаных бярвён прарэзвалі прамавугольныя і паўцыркульныя аконныя праёмы, чляніліся карнізным поясам. Будынак быў накрыты высокім фігурным дахам з мяккімі пераходамі формаў, з пластычнымі гранямі і плаўнымі выгнутымі абрысамі. Выгін у ніжняй частцы даху быў утвораны дадатковымі прыстаўнымі кроквамі, якія абапіраліся на бэлькі, што выступалі за плоскасці сцен. Пакрыццё з тонкай дранкі. Завяршалі храм 2 розныя па форме 8-гранныя фігурныя вежачкі над асноўным аб'ёмам і над званіцай.



## г. Навагрудак

Гродзенскай вобласці

### Касцёл

Існаваў на дзяцінцы замка. Першапачаткова ў 14—16 ст. была ўзведзена мураваная царква з рысамі раманска-гатычнага стылю. У 2-й палавіне 17 ст. храм перабудаваны пад касцёл. Да 1775 г. ў ім праводзіліся сесіі Трыбунала Вялікага княства Літоўскага. Храм існаваў да 1850 г. Адлюстраваны ў рэштках на акварэлі І.Пешкі пачатку 19 ст. і малюнку невядомага аўтара сярэдзіны 19 ст.

Твор архітэктуры барока. Трохнефавая 1-вежавая базіліка даўжынёй з прамавугольнай апсідай 34 м. Фасад быў вырашаны ў пластычных формах позняга барока: з дапамогай бакавых валют яго крапаваная на 3 праслы плоскасць пераходзіла ў 2-ярусную вежу-званіцу з фігурным купалам-ківорыем, была насычана калоннай і пілястравай крапоўкай, конхавымі нішамі-экседрамі, складанапрафіляванымі паяруснымі антаблементамі[1].

[1] Ткачоў А.М. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978. С. 48.

### Касцёл і кляштар баніфратаў

Згадваецца ў 1649 г.

### Касцёл і кляштар езуітаў

Першапачаткова ў 1624—31 гг. па фундацыі К.Л.Сапегі, на ахвяраванні навагрудскага харунжага Е.Галаўні і Я.Машынскага была заснавана езуіцкая місія (першы настаяцель Я.Разнавольскі)[1]; у 1631—1714 гг. рэзідэнцыя, у 1714—73 гг. калегіум. У 1649 г. адкрыты клас граматыкі, у 1653 г. — паэтыкі і рыторыкі, каля 1680 г. — музычная бурса, у 1705 г. — канвікт (пансіён), у 1721 г. — аптэка, мелася бібліятэка. Кляштару падпарадкоўваліся місіі ў Бурдыкове, Варончы, Востраве, Гарадзішчах, Любчы, Мажэйкаве, Моладаве, Пачапаве, Слоніме, Шчорсах. На працягу 17 — 1-й палавіны 18 ст. драўляныя пабудовы кляштара неаднаразова гарэлі. У 1752 г. ўзведзены мураваны вучэбны корпус, у 1714—54 гг. — касцёл[2]. У калегіуме атрымаў адукацыю філасаф і тэолаг Б.Дабшэвіч (1722—99), які ў 1760 г. выдаў кнігу пад назвай «Погляды новых філасафаў...» , што складаецца з яго лекцый у Навагрудскім калегіуме. Пасля скасавання кляштара ў 1773 г. калегіум закрыты, выкарыстоўваўся пад вайсковы шпіталь, у 1815 г. касцёл прыстасаваны пад ратушу[3]. Будынак быў моцна пашкоджаны ў 1-ю сусветную вайну, у 1930-я гг. рэстаўрыраваны, захаваліся фрагменты фундамента.

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока. Уяўляў сабой 3-нефавую 2-вежавую базіліку. Уваход быў праз прыбудаваны прытвор. Унутры падлога была выкладзена мармуровай пліткай, інтэр'ер упрыгожвалі стукавыя алтары і разны драўляны амбон, сцены і скляпенні пакрываў фрэскавы роспіс.

[1] Грыцкевіч А. Казімір Леў Сапега // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000. С. 145. Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 103.

[2] Lowmiacski H. Rys hystoryczny woj. Nowogródzkiego. Wilno, 1935. S. 102.

[3] Niemcewicz J.U. Podrozne historyczne po ziemiach polskich. Paris, 1858. S. 391—392.



## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканак

Існаваў у 1654—1864 гг. Заснаваны М.Дамброўскім (па іншых звестках — у 1678 А.Пратасевіч, жонкай навагрудскага земскага натарыуса). У 1690 г. пабудаваны мураваны касцёл. На мяжы 18—19 ст. кляштару належала частка в. Каменка ў Навагрудскім павеце. У 1864 г. скасаваны, 20 яго манашак пераведзены ў Гродзенскі кляштар брыгітак і Мінскі кляштар бенедыкцінак. Каля 1900 г. касцёл разабраны на цэглу. У жылым корпусе кляштара ў 1920-я гг. размясцілася ваяводская ўправа. Зруйнаваны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

## Кляштар марыявітак

# в. Навасады,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса

На 1935 г. парафія налічвала 1150 прыхаджан. Твор народнага драўлянага дойлідства.

# в. Навасёлкі,

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Знаходзіўся на могілках. Быў пабудаваны ў 1804 г. з дрэва. Разабраны ў 1939 г.

# г. Нароўля

Гомельскай вобласці

## Капліца

Знаходзілася ў цэнтры горада, на беразе р. Прыпяць. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы. Зруйнавана ў 1930-я гг.



# в. Нача,

Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Знаходзіўся ў цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 18 ст. з дрэва. Вядомы по фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Нача.

Твор народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны працяглым прамавугольным зрубам з 5-граннай апсідай пад агульным гонтавым дахам з вальмамі і пластычнымі згібамі над гранямі апсіды, да якой далучалася нізкая сакрысція. Над фасадам узвышаўся 8-гранны барабан з увагнутым шатровым верхам, над апсідай — 4-гранная шатровая сігнатурка-званічка. Вертыкальна ашаляваныя сцены рытмічна чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

# в. Непароты,

Шумілінскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Пабудаваны ў 1777 г. з дрэва жыхарамі вёскі М.Міткевічам і яго сынамі Шымонам і Барталамеем[1]. У 1812 г. згарэў. Адноўлены ў 1930-я гг. намаганнямі ксяндза Бузіцкага.

Архітэктура храма мае рысы стылю барока: над крыжовым у плане аб'ёмам узвышаецца 8-гранны барабан пад пластычна выгнутым звонападобным купалам. Крылы планіровачнага крыжа пад 2-схільнымі пакрыццямі завершаны трохвугольнымі франтонамі.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidjecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. 372.

# в. Ніўкі,

Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл

Згадваецца ў дакументах Віленскага Сінода 1669 г.

# в. Новая Мыш,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

Пабудавана на каталіцкіх могілках у канцы 19 ст.

Была вырашана ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства: падоўжны прамавугольны зруб, які пераходзіў у трохсценак апсіды. Двухсхільны дах над ёй пераходзіў у вальмавы, а на франтальным фасадзе выходзіў трохвугольным франтонам на 4 слупах (утрыраваная трактоўка порціка). У тымпане франтона размяшчалася ўкрыжаванне (драўляная скульптура). Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады былі расчлянёны брусамі-сцяжкамі. Зала асвятлялася 2 парамі лучковых аконных праёмаў.

# в. Нябышына,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл

Стаяў на пагорку, быў абкружаны бутавай агароджай. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Быў вырашаны 1-нефавым аб'ёмам з трансептам і 5-граннай апсідай. Агульны 2-схільны гонтавы дах пераходзіў у вагнуты вальмавы, над фасадам выступаў трохвугольным франтонам, якімі завяршаліся і крылы трансепта. Вертыкальна ашаляваныя фасады чляніліся высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. На ўсход ад касцёла асобна стаяла 2-ярусная 4-гранная шатровая брама-званіца.

# г. Нясвіж

Мінскай вобласці

## Капліца святога Ісідара

Знаходзілася на ўскраіне горада. Была пабудавана ў 1625 г. з цэглы езуітамі[1]. Вядома па фотаздымку 1956 г.

Прамавугольная ў плане пад 2-схільным гонтавым дахам пабудова. Плоскасныя фасады апраразваў прафіляваны карніз. Зала асвятлялася парай бакавых арачных аконных праёмаў і меншым акном на фасадзе. Трохвугольны франтон над ім быў прарэзаны круглай люкарнай.

[1] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // АЕ. 1980. № 28. С. 126—127. Рис. 10; Spis kościołów i duchowieństwa djecezji Pińskiej w r.p. 1939. Pińsk, 1939.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Знаходзіўся ў паркавым ансамблі Альба, насупраць дома войта. Пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст. з дрэва.

З'яўляўся творам архітэктуры барока. Быў накрыты медным дахам з 3 пазалочанымі купаламі. Інтэр'ер упрыгожвалі мастацкая размалёўка і 12 скульптурных алтароў.



Капліца ў в. Новая Мыш.

## Касцёл святога архангела Міхаіла

Знаходзіўся на Анёльскай гары (0,7 км на паўднёвы ўсход ад Нясвіжа), насупраць касцёла Св. Крыжа. Пабудаваны ў 1589 г. з цэглы[1]. Першая фундацыя капліцы ў імя св. Рафаіла адносіцца да канца 16 ст. і належыць М.К.Радзівілу Сіротку па яго абету пасля вандроўкі ў Святую Зямлю ў 1582 г. Магчыма, што храм праектаваў архітэктар-італьянец Дж.М. Бернардоні[2]. Паміж 1616—20 гг. капліца пашырана па фундацыі гетмана Вялікага княства Літоўскага Я.К.Хадкевіча і асвячона ў 1629 г. Гетман польны літоўскі М.К.Радзівіл у 1660 г. ўзвёў мураваны касцёл святога архангела Міхаіла і аддаў яго езуітам, а таксама ахвяраваў даход з вядомага так званага Міхайлаўскага кірмашу. Князь вельмі паважаў гэтую святыню, у штодзённіку адзначаў: «Імяніны мае пачаў з таго, што спазаранку, праехаўшы чатыры мілі, зупыніўся ў Нясвіжы і пайшоў проста да касцёла святога архангела Міхаіла, дзе выспаведа-



Капліца святога Ісідара ў г. Нясвіж.

ваўся і маліўся майму патрону ля цудатворнага абраза»[3]. У 1720—32 гг. касцёл перабудаваны прыдворным архітэктарам Радзівілаў К.А.Здановічам (было пастаўлена 7 новых алтароў). У 1830 г. звалілася вежа храма, а касцёл выкарыстоўваўся пад парахавы склад.

Паводле рэканструкцыі польскага гісторыка архітэктуры Е.Пашэнды на падставе інвентарнага вопісу 1788 г. езуіцкі кляштарны комплекс складаўся з касцёла па цэнтры 8-граннага ўчастка, які акаймоўваўся мураванай агароджай з 8 цыліндрычнымі шатровымі капліцамі. Па люстрацыі касцёла пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 г. кляштар меў «гай бярозавы на гары, агароджу мураваную на 8 граняў. У першай грані — брама з франтонам, дахоўкай крытая, брама абітая цвікамі. Званіца драўляная, зробленая ў квадрат, дах таксама квадратны, абіты гонтам, узняты на два ярусы на вугле першай грані агароджы». З алтарнага боку касцёла, па яго падоўжнай планіровачнай восі адасоблена знаходзіўся жылы корпус, збоку да яго далучаўся прамавугольны ўчастак гаспадарчага двара.

К а п л і ц а першапачаткова ўяўляла сабой невялікую пабудову (каля 5,4 × 7,8 м) у выглядзе цэнтрычнай 6-products граннай ратонды. Будынак пашыраецца ў час перабудовы 1616—20 гг. — капліца становіцца апсідай (прэсбітэрыем), да яе дабудоўваецца прамавугольны неф (каля 13,8 × 26,4 м) з уваходнай крухтай. Да 1635 г. былі пастаўлены 3 алтары — галоўны святога архангела Міхаіла фундацыі А.У.Радзівіла (сына Сіроткі), бакавыя св. Гаўрыіла фундацыі яго жонкі Ганны Соф'і Радзівіл (з Зяновічаў) і св. Рафаіла фундацыі Соф'і Ганны Слушкі. У 1643—44 гг. касцельны цвінтар абнесены мураванай агароджай з 9 капліцамі на сродкі рэктара нясвіжскага калегіума езуітаў А.Гінкевіча. У 1660 г. ўзводзіцца новы касцёл, які перабудоўваецца ў 1720—32 гг. прыдворным архітэктарам Радзівілаў Здановічам (было пастаўлена 7 новых алтароў). У 1675 г. пачалося будаўніцтва жылога манаскага корпуса езуітаў.

К а с ц ё л уяўляў сабой прамавугольны ў плане аб'ём, які на фасадзе завяршаўся 3 вежамі, цэнтральная 8-гранная завяршалася купалам са скульптурай святога архангела Міхаіла, бакавыя 4-гранныя — купалкамі з галоўкамі. Храм меў 5-гранную апсіду з самастойным купальным пакрыццём. Унутры неф перакрывала авальнае скляпенне, апсіду — купал. Адна з 2 сакрысцій была аб'яднана з жылым корпусам галерэяй.

Кляштарны ж ы л ы к о р п у с быў вырашаны 2-павярховым П-падобным у плане аб'ёмам галерэйнай планіроўкі са скляпеністымі перакрыццямі на 1-м паверсе. Па цэнтры дваровага фасада ўзвышалася 3-ярусная 4-гранная вежа з барочным купалам-ківорыем.

---

[1] Описание церквей и приходов Минской епархии за 1879 год. Мн., 1879. Слуцкий уезд. Ч. III. С. 181.

[2] Bernartowicz T. Miles Christianus et peregrinus. Fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordinacji Nieswieskiej. Warszawa, 1998.

[3] Бажэнава В. Ксёндз Ян Пашакоўскі — гісторык, тэолаг, пісьменнік // Наша вера. 2002. №3(21).

## Касцёл Святога Крыжа і кляштар бенедыкцінцаў

Знаходзіўся ў 1 км на поўдзень ад горада, у лесе. Пабудаваны ў 1673 г. з дрэва па фундацыі гетмана польнага літоўскага М.К.Радзівіла, які вылучыў 30 тыс. злотых; ахвяраванні кляштару рабіў і яго сын Караль Станіслаў[1]. Мураваны касцёл узведзены ў сярэдзіне 18 ст. і асвячоны ў 1766 г. віленскім біскупам Т.Зянковічам. Гарэў у 1793 г. Скасаваны 6.12. 1864 г. Выгляд вядомы па малюнку Н.Орды 1876 г.

Твор архітэктуры барока. Касцёл быў вырашаны 1-нефавым аб'ёмам з трансептам, скрыжаванне якіх на даху адзначалася купалам на светлавым барабане. Да фасада далучалася вежа-званіца. З левага боку да касцёла далучаўся 2-павярховы жылы кляштарны корпус.

У інтэр'еры мелася 5 алтароў, выкананых насценным фрэскавым роспісам. Адзін алтар і амбон былі драўлянымі разнымі. На хорах стаяў арган.

---

[1] Описание церквей и приходов Минской епархии за 1879 год. Мн., 1879. Слуцкий уезд. Ч. III. С. 181; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 309.

## Касцёл святога Яна і кляштар дамініканцаў

Знаходзіўся ў гістарычным цэнтры горада. Заснаваны ў 1672 г. падстоліем смаленскім Б.Ш.Баканоўскім і князем М.К.Радзівілам, якія пабудавалі драўляны касцёл, пры якім пасадзіў ксяндзоў ордэна дамініканцаў[1]. У 1690 г. манахі на ўласныя сродкі ўзвялі новы мураваны храм у гонар св. Яна Хрысціцеля (па іншых крыніцах — у 1-й палавіне 18 ст. паводле праекта архітэктара-дамініканца Л.Грынцэвіча[2]). У 1842 г. маёмасць кляштара складала 268 валок зямлі і 12 тыс. руб. Ксяндзы-дамініканцы пасля скасавання кляштара абслугоўвалі нясвіжскую парафію, утрымлівалі гімназічныя, пазней павятовыя школы. Ксяндзы-дамініканцы пасля касацыі кляштара езуітаў абслугоўвалі нясвіжскую парафію. Нягледзячы на лаяльныя адносіны манахаў да расійскай улады, кляштар пасля паўстання 1863 г. скасаваны ў 1877 г. (але манахі жылі тут яшчэ да 1872), а касцёл у 1866(69) г. перароблены пад праваслаўную Георгіеўскую царкву за кошт казны (каля 2500 руб.). На час скасавання прыстанак налічваў 19 законнікаў. На базе закрытага кляштара па ініцыятыве міністра асветы Расіі графа Д.А.Талстога створана настаўніцкая семінарыя[3]. Школу скончыў вядомы паэт і краязнаўца У.Сыракомля (у 1833—35), семінарыю — этнограф і фальклярыст А.Багдановіч, бацька паэта М.Багдановіча

(у 1882), Я.Колас (у 1902), К.Чорны (у 1919). У 1877 г. згарэў бакавы прыдзел храма (адноўлены ў 1900). Кляштар зруйнаваны ў 1-ю сусветную вайну. Кляштарны будынак быў адноўлены ў 1900 г.

Храм з'яўляўся творам архітэктуры барока, быў вырашаны 3-нефавай базілікай у выглядзе выцягнутага прамавугольнага аб'ёму, накрытага 2-схільным дахам. Яго сілуэт фарміравалі купал на светлавым барабане, 2 галоўкі па баках галоўнага фасада і званіца над франтонам. Сцены былі прарэзаны 12 вялізнымі аконнымі праёмамі, нефы і апсіда перакрыты скляпеннямі, размаляванымі мастаком Ю.К. Гескім. Адзінаццаць алтароў былі выкананы ў тэхніцы стука. У 1870-я гг. пастаўлены 3-ярусны драўляны іканастас па 10 абразоў (4 былі выкананы мінскім іканапісцам Зотавым, 6 — у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў), які быў ахвяраваны Мінскім кафедральным саборам — на блакітным фоне вылучаліся белыя калоны, пілястры, карнізы, пазалочаныя капітэлі і арнаментальная разьба. У інтэр'еры звяртаў на сябе ўвагу высокамастацкі амбон. Пад храмам вялізная крыпта, каталіцкія пахаванні якой былі перанесены ў 1870-я гг. на могілкі.

Да касцёла далучаўся мураваны 2-павярховы жылы корпус. Адасоблена ад храма была пастаўлена драўляная званіца, якая згарэла ў 1878 г.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 309.

[2] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu. Wilno, 1938—39. S. 243.

# в. Нястанішкі,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл

Быў пабудаваны ў 19 ст. з дрэва. Зафіксаваны на фотаздымку Я.Балзункевіча ў пачатку 20 ст.

Твор народнага дойлідства. Трохнефавая базіліка на галоўным фасадзе вылучалася бакавымі чацверыковымі вежамі з 2-ярусным шатровым пакрыццём і макаўкамі, паміж якімі высокі 2-схільны шчыт, плоскасць якога апрацавана аркатурным разным фонам. Асноўная плоскасць фасада глухая, па восі сіметрыі прарэзана шырокім прамавугольным уваходам і арачным аконным праёмам над ім. Адзінарныя і здвоеныя вокны прарэзвалі шчыт і грані вежаў. Храм быў акаймаваны бутавай агароджай з 3-пралётнай цаглянай брамай.



# г. Орша

Віцебскай вобласці

## Капліца

Знаходзілася на могілках левага берага р. Аршыца. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Была вырашана цэнтрычным квадратным у плане аб'ёмам, вуглы якога адзначаліся цыліндрычнымі вежамі з купалкамі. Плоскасныя грані капліцы завяршалі 2-гранныя шчыты з круглымі люкарнамі па цэнтры.

## Кляштар бенедыкцінак

Заснаваны да 1669 г.

## Кляштар марыявітак

Знаходзіўся ў Наддняпроўскім пасадзе, каля замка, побач з кляштарам езуітаў. У 18 ст. пабудаваны 1-павярховы драўляны корпус, храм адсутнічаў[1]. Скасаваны ў 1845 г. Манашкі знаходзіліся на самазабеспячэнні за кошт навучання «всяких обывательских девиц рукоделию».

[1] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 32.

## Кляштар місіянераў

Знаходзіўся за межамі горада. Заснаваны ў сярэдзіне 17 ст. Жылы корпус пабудаваны каля 1752 г. Кляштар скасаваны ў 1842 г.



# в. Пагост,

Аршанскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл

У 18 ст. быў пабудаваны невялікі драўляны храм, які абслугоўвалі аршанскія ксяндзы-езуіты[1]. Пасля скасавання ордэна касцёл зруйнаваны. На мяжы 19—20 ст. пабудаваны драўляны храм, які існаваў да Вялікай Айчыннай вайны.

Храм з'яўляўся творам народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны прамавугольным зрубам пад 2-схільным дахам. Галоўны фасад завяршаў высокі трохвугольны франтон і быў фланкіраваны шмат'яруснымі шатровымі вежамі. Да 5-граннай апсіды далучаліся бакавыя нізкія сакрысціі. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя фасады рытмічна чляніліся арачнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры на апсіднай сцяне была нанесена выява алтара[2].

[1] Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 122.



[2] Ignacy Borejko Chodżko. Diecezja Mińska około 1830 roku. I. Struktury parafialne. Opracował i wydał Marian Radwan. Lublin, 1998.

# в. Падгайцы,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл

Пабудаваны як парафіяльны ў 18 ст. з дрэва, у 1863 г. закрыты, у 1930-я гг. быў адрэстаўраваны. Вядомы па малюнку Я.Драздовіча 1926 г.

Твор народнага дойлідства з рысамі стылю барока. Быў вырашаны васьміграным зрубам, да якога далучаліся прамавугольны прытвор і гранёная апсіда з сакрысціяй. Зрубы былі накрыты агульным вальмавым гонтавым дахам з плаўнымі пераходамі праз застрэшкі ў месцах іх злучэння. Па цэнтры даху ўзвышалася цыбулепадобная галоўка на гранёным барабане. Вертыкальна ашаляваныя фасады чляніліся брусамі-сцяжкамі, прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў фігурных разных ліштвах.

# в. Падстарынне,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл

Быў пабудаваны ў 1814 г. як філіяльны. Закрыты пасля 1863 г.

# в. Паласня,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл

Зруйнаваны ў 1960-я гг.

# в. Палачаны (Аборак),

Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл святога Роха

Знаходзіўся ў цэнтральнай частцы былой в. Аборак (злілася з в. Палачаны). Быў пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. з дрэва на месцы папярэдняй драўлянай капліцы (верагодна, перанесены з суседняй в. Груздава ў 1773 князем Ф.К.Агінскім)[1]. Адзначаны ў каталогах Ватыкана як маючы 750-гадовую гісторыю. У савецкі час быў закрыты, выкарыстоўваўся ў гаспадарчых мэтах. На падмурку храма пастаўлены мемарыяльны крыж.

Твор народнага дойлідства з рысамі стылю барока. Быў вырашаны 1-нефавым зрубам з вузейшай 5-граннай апсідай з 2 бакавымі нізкімі сакрысціямі; накрыты агульным 2-схільным гонтавым дахам, які над апсідай з дапамогай застрэшкаў плаўна пераходзіць у вальмавы. Франтальны фасад фланкіраваны 3-яруснымі шатровымі вежамі, якія выступаюць за межы асноўнага аб'ёму, па цэнтры фасад завершаны высокім трохвугольным франтонам. Вертыкальна ашаляваныя фасады расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Інтэр'ер упрыгожвалі 7 алтароў і размалёўка.

У кутку бутавай агароджы стаяла драўляная званіца, вырашаная 2-яруснай 4-граннай шатровай вежай. Перад храмам захаваліся скляпеністыя сутарэнні, у якіх быў пахаваны вядомы святар Дзядзерка.

[1] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. І. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. Мн., 2003. С. 96—97.



Брама касцёла святога Роха ў в. Палачаны (Аборак). Сучасны выгляд.



Касцёл святога Роха ў в. Палачаны (Аборак). Малюнак.

## в. Палонка,
Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл іконы Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар дамініканцаў

Барочны храм належаў кляштару манахаў ордэна дамініканцаў, фундаваны ў 1536 г. (па іншых звестках — у пачатку 17 ст.). Скасаваны ў 1832 г., перададзены грамадзянскаму ведамству. Касцёл разбураны ў 1830 г. На яго месцы ў 1924 г. на сродкі вернікаў быў пабудаваны парафіяльны драўляны касцёл. На 1935 г. налічвалася каля 1200 прыхаджан. Мелася прыпісная капліца ў в. Лахозва (не існуе)[1].

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 53.

## в. Памошша,
Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася на могілках. Была пабудавана ў 1787 г. з дрэва манахамі-кармелітамі з Засвір'я, якім фальварак Памошша ахвяраваў у 1703 г. яго ўладальнік ашмянскі маршалак К.Зяновіч. У 1910 г. разабрана з-за струхлеласці (захаваўся падмурак).

## в. Парэчча,
Пінскі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл

Фундаваны як парафіяльны ў 1907 г. Скірмунтамі.

## г. Паставы
Віцебскай вобласці

### Капліца Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Была пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы з нагоды збаўлення гараджан ад халеры. Вядома па фотаздымку 1955 г.[1]

Твор архітэктуры класіцызму. Была вырашана ўзнятай 2-яруснай 4-граннай вежай пад шатровым пакрыццём. Другі ярус быў раскрыты арачнымі праcветамі, ніжні крапаваны прамавугольнымі нішамі з рэльефным крыжом на франтальнай грані. У верхняй арачнай нішы месцілася рэльефная выява Маці Божай з дзіцем.

[1] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // АЕ. 1980. № 28. С. 125—126. Рис. 9.

### Касцёл

Знаходзіўся на цэнтральнай плошчы горада. Быў пабудаваны ў пачатку 19 ст. з цэглы, у 1860-я гг. пераасвячоны ў праваслаўную царкву. Вядомы па фотаздымку Я.Клоса 1930-х гг.[1]

З'яўляўся творам архітэктуры класіцызму[2]. Быў вырашаны прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам, над якім у 1860-я гг. быў узведзены цыбулепадобны купал на драўляным 8-гранным барабане. Франтальны фасад быў вырашаны 4-калонным тасканскім порцікам. Плоскасныя сцены члянiліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

[1] Bulhak J. Polska w krajobrazach i zabytkach. Warszawa, 1930. T. II. S. 132.
[2] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikóm po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 152.

### Касцёл і кляштар францысканцаў

У 1700 г. пабудаваны 1-павярховы жылы корпус: брусчаты зруб на цагляным падмурку, накрыты гонтавым дахам. Сцены 15 жылых і 6 службовых памяшканняў былі атынкаваны. У 1717 г. ўзведзены драўляны касцёл[1]. Асобна пастаўлена званіца. Гаспадарчы двор уключаў драўляныя свіран, хлеў і стайню. Меліся сад і агарод[2].

[1] Квитницкая Е.Д. Строительство Тизенгауза в Поставах // Архитектурное наследство. М., 1961. № 13. С. 56.
[2] РДГА, ф. 405, воп. 7, спр. 2370, арк. 91—94, 99—101.

## в. Паўлінова,
Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

## в. Пескі,
Мастоўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Кляштар дамініканцаў

Існаваў у 1677—1788 гг.

## г. Пінск
Брэсцкай вобласці

### Капліца

Стаяла на вул. Спакойнай, на могілках. Пабудавана ў 1820 г. з дрэва францысканцамі[1]. Адлюстравана на малюнку Я.Драздовіча 1926 г. і фотаздымку 1956 г.[2] У 1927 г. адрэстаўрыравана. Існавала да канца 20 ст.

Прамавугольны зруб з 3-граннай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіць у гранёнае вальмавае пакрыццё. Апсіда завершана 2-ярусным 8-гранным барабанам з цыбулепадобнай галоўкай. З





Капліца ў г. Пінск.

паўднёвага боку да апсіды далучаны нізкі прыруб сакрысціі пад 3-схільным дахам. Галоўны ўсходні фасад вырашаны 4-калоннай галерэяй з балюстраднай агароджай і трохвугольным франтонам у завяршэнні. Над ім на партатыўным атыку пастаўлены крыж. Фасады вертыкальна ашаляваны, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Зала перакрыта плоскай столлю, на 2 слупах узнята галерэя хораў.

---

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 41.
[2] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // АЕ. 1980. № 28. С. 128. Рис. 25.

## Касцёл святога Дамініка і кляштар дамініканцаў

Манахі-дамініканцы з'явіліся ў горадзе ў 1542 г. Кляштар заснаваны жонкай полацкага ваяводы Я.К.Копаця маркграфіняй М.Л.Строцы (Стожэн-Копцевай), якая ў 1678—97 гг. вылучыла сродкі на будаўніцтва драўляных касцёла і жылога корпуса, ахвяравала 12,7 тыс. злотых, маёнтак Шышава, фальварак над р. Ясельдай, пляцы ў горадзе, вылучыла 3 тыс. злотых на стварэнне алтара Маці Божай Ружанцовай. Кляштару належала сядзіба Вяляцічы, ахвяраваная ў канцы 18 ст. Скірмунтамі[1]. У 18 ст. пры кляштары дзейнічала музычная капэла, меўся арган («касцельны пазітыў»)[2].

Кляштар знішчаны пажарам 1747 г., пасля якога манахі на свае сродкі і ахвяраванні В.Пуслоўскага пачалі будаўніцтва мураванага прыстанка. У 1785 г. касцёл разабраны, у 1787—1810 гг. пабудаваны новы. Кляштар скасаваны ў 1840 г., а касцёл перададзены праваслаўнаму ведамству і ў 1865 г. перааб-сталяваны ў Фёдараўскі сабор[3]. Пры гэтым абраз «Маці Божая Ружанцовая» 18 ст. перанесены ў касцёл францысканцаў, у гонар яе створаны аднайменны бакавы алтар[4]. У 1949 г. кляштар зруйнаваны.

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока. Быў збудаваны па каноне 3-нефавай 1-вежавай базілікі, аб чым сведчыць інвентарны вопіс: «...Базиликальное сооружение с окнами в два света. Своды поддерживаются шестью столбами, главный вход — портик с треугольным фронтоном. При перестройке костёла под православный храм было возведено два купола...».



Касцёл святога Дамініка і кляштар дамініканцаў у г. Пінск.

---

[1] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X — XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 253.
[2] Ліхач Т. Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. №2. 2000.
[3] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 285—286.
[4] Ярашэвіч А. Абразы Маці Божай Ружанцовай // Наша Ніва. 2002. № 3(21).

## Касцёл святога Казіміра і кляштар кармелітаў

Існаваў у 1734—1832 гг. Фундаваны ландвойтам пінскай магдэбургіі Ш.Асоўскім.[1] Касцёл быў драўляны, кляштарныя пабудовы — мураваныя. У 1791 г. манахі ордэна кармелітаў босых на свае сродкі і ахвяраванні ўзвялі мураваны касцёл, надзелены маёмасцю князем А.Друцкім-Любецкім. Скасаваны царскім указам ад 19.7.1832 г., касцёл разабраны, а прыстанак прададзены яўрэям пад паравы млын.

---

[1] Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.
[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 286.

## Кляштар марыявітак

Заснаваны ў 1756 г. С.Турчыновічам. Існаваў за кошт асветніцкай дзейнасці. Скасаваны ў 1856 г., манашкі былі пераведзены ў Вільну[1].

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 286.

## г. Полацк
Віцебскай вобласці

### Касцёл і кляштар дамініканцаў

Уваходзіў у ансамбль Параднай плошчы. Кляштар фундаваны ў 1670 г. віленскім канонікам К.Гурскім з дазволу віленскага біскупа А.Сапегі[1]. У 1774 г. быў закладзены мураваны касцёл Маці Божай. Аднак з-за недахопу сродкаў яго будаўніцтва завершана толькі ў 1804 г. У 1837 і 1843 гг. будынкі кляштара пацярпелі ад пажару. Паводле люстрацыі казённых земляў 1865 г. валодаў 181 дзесяцінай зямлі. У 1863 г. кляштар скасаваны (у ім размясціліся казармы пажарнай аховы), а касцёл перароблены на парафіяльны. На пачатку 20 ст. з'яўляўся адзіным у горадзе парафіяльным касцёлам. У 1864 г. пасля закрыцця кляштара касцёл стаў прыходскім. У комплекс уваходзілі таксама гаспадарчыя пабудовы, сад, палісаднік і каменная агароджа з уязной брамай. Кляштарны двор быў забрукаваны. Касцёл адлюстраваны на гравюры 19 ст. Комплекс разбураны ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Твор архітэктуры класіцызму. Касцёл — 3-нефавая 6-слуповая базіліка, цэнтральны неф якой завяршаўся паўкруглай апсідай (30 × 18,9 м). Галоўны ўваход з боку плошчы быў аформлены 6-калонным іанічным порцікам без франтона з балконам, на які быў выхад з хораў, другі — з боку кляштара. У інтэр'еры касцёла былі 5 алтароў, упрыгожаныя разьбой і размалёўкай, на хорах — 12-галосы арган[2]. Кляштарны корпус уяўляў сабой 2-павярховы Г-падобны ў плане корпус з калідорнай планіроўкай. Першы паверх меў скляпеністыя перакрыцці, 2-і — драўляныя. Будынкі кляштара былі пакрыты чарапіцай.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 392.

[2] Ліхач Т. Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. №2. 2000.

### Кляштар марыявітак

Існаваў да 1860-х гг.

## в. Поразава,
Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва паводле праекта дзесятніка па будаўнічай частцы А.Ліванові́ча.

Была вырашана кампактным прамавугольным зрубам з 3-граннай апсідай, над якой 2-схільны дах пераходзіў у вальмавы і завяршаўся над фасадам 4-граннай шатровай званічкай. Фасад быў вырашаны 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам. Прамавугольныя аконныя праёмы на бакавых фасадах і гранях апсіды мелі класіцыстычныя ліштвы.

## в. Празарокі,
Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Кляштар францысканцаў

Заснаваны ў 1677 г.

## в. Прылукі
Мінскага раёна

### Капліца

Знаходзілася ў былым палацава-паркавым комплексе Чапскіх. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы.

Твор архітэктуры гістарызму[1]. Была вырашана ў выглядзе 3-яруснай вежы: 1-ы ярус — 4-гранны, крапаваны вуглавымі пілястрамі пастамент, 2-і — 4-гранная, завершаная вуглавымі пінаклямі навісь з арачнымі прасветамі, пад якой была пастаўлена культавая скульптура; 3-і — масіўны слуп, апаразаны карнізам.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 280.

## в. Пяршаі,
Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святога Юрыя

Знаходзіўся на цэнтральнай плошчы. Першы драўляны касцёл і парафію заснаваў віленскі біскуп і кардынал Е.Радзівіл і граф Б.Тышкевіч у 1588 г. У 1864 г. касцёл адбудаваны графамі Тышкевічамі. Згарэў у 1933 г.

Драўляны 2-вежавы храм з 5-граннай апсідай і трансептам быў сціплы па архітэктуры, але даволі вялікі. Над апсідай узвышалася барочная фігурная сігнатурка. У інтэр'еры на апсіднай сцяне была нанесена ілюзорная выява алтара. У вугле бутавай агароджы мелася драўляная званіца.







## в. Рабунь,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

У 17—18 ст. маёнтак бернардзінак. У 1669 г. тут згадваецца парафіяльны касцёл.

## г. Рагачоў
Гомельскай вобласці

### Касцёл св. Антонія

Да пачатку 20 ст. існаваў драўляны бернардзінскі касцёл, які прыйшоў у заняпад і не адпавядаў колькасці парафіян (каля 1500). Кляштар бернардзінцаў скасаваны па царскім загадзе 19.7.1832 г.[1]

[1] Канфесіі на Беларусі (к. XVIII—XX ст.). Мн., 1998. С. 26.

## в. Радамля,
Чавускі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл

Невялікі мураваны храм фундаваны Хадкевічамі ў пачатку 20 ст. на месцы папярэдняга.

Архітэктура будынка была вырашана ў стылі неакласіцызму. Галоўны фасад фланкіравалі дзве 2-ярусныя 4-гранныя купальныя вежы, на гарызантальна руставаных плоскасцях якіх вылучаліся арачныя аконныя праёмы з замковым каменем, вуглавыя слаёныя пілястры. Цэнтральная частка фасада была завершана ступеньчатым атыкам, галоўны ўваход аформлены рэнесансным парталам з лучковым франтонам, над якім была размешчана круглая люкарна.

### Кляштар кармелітаў

З 1619 г. тут была рэзідэнцыя кармелітаў, з 1743 да 1832 г. кляштар[1]. Скасаваны і зруйнаваны ў 1930-я гг.[2]

[1] Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.
[2] Пушюн І.А. Як зачыняліся цэрквы ў Магілёве // Магілёўская даўніна. Магілёў, 1996, С. 87—91.

## г.п. Радашковічы,
Маладзечанскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і святога Стафана

Пабудаваны ў 1736 г. з дрэва, асвячоны ў 1740 г.[1] Разабраны ў сярэдзіне 19 ст.

Твор народнага дойлідства з рысамі барока. Манументальны будынак з 2-вежавым фасадам, трансептам і вялікім цэнтральным купалам на барабане над сяродкрыжжам дахаў. Храм быў абнесены 2-яруснай галерэяй-гульбішчам. У інтэр'еры купал быў размаляваны сюжэтамі «Тайная вячэра», «Мелхіседэк з ахвярай хлеба», «Ахвяра Аўраама». У барабане над пано «Тайная вячэра» былі размешчаны выявы манстранцыі пад балдахінам і 2 анёлаў па баках. Сцены і столь касцёла былі размаляваны сцэнамі Еўхарысціі «добрай штукай малярскай» (не пазней 1782)[2].



Касцёл у в Радамля.

[1] Ярашэвіч А. Росписы беларускіх касцёлаў // Наша вера. № 2 (16). 2001.
[2] НГАБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 219. Візітацыя касцёла (1782 г.).

## в. Радунь,
Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл

Драўляны храм існаваў да ўзвядзення ў 1929—30 гг. мураванага касцёла. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

З'яўляўся творам народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны вялізным прамавугольным зрубам з 5-граннай апсідай і прамавугольнымі крыламі трансепта. Галоўны фасад завяршаў вялізны трохвугольны гарызантальна ашаляваны франтон. Гонтавы дах па цэнтры вільчыка завяршаўся 8-гранным шатровым барабанам. Гарызантальна ашаляваныя фасады чляніліся здвоенымі лучковымі аконнымі праёмамі ў прамавугольных разных ліштвах.

## в. Ракаў,
Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

Існаваў з 19 ст. да 2-й сусветнай вайны.

З'яўляўся творам народнага драўлянага дойлідства. Прамавугольны зруб пад 2-схільным дахам. Уваход вырашаны вялізным 4-слуповым ганкам з трохвугольным франтонам. Над вільчыкам гонтавага даху над алтарнай часткай узвышалася цыбулепадобная галоўка на 8-граннай шыйцы. Перад касцёлам, сярод бутавай агароджы, стаяла высокая мураваная 2-ярусная званіца-брама са стральчатымі праёмамі.

## Кляштар баніфратаў

Заснаваны ў 1638 г., скасаваны ў 1832 г.

## Касцёл і кляштар дамініканцаў

Існаваў у 1684—1832 гг. Першы касцёл пабудаваў князь Геранім Сангушка ў 1676 г. Праз 10 гадоў Канстанцыя Тэадора Сангушка (з Сапегаў) заснавала кляштар дамініканцаў, існаванне якога адзначае ў сваім вандроўным дзённіку 1698—99 гг. сакратар аўстрыйскай амбасады Ёган Корба: «Мы тут знайшлі два кляштары: адзін Дамініканскі, другі Базыліянскі». У 1712 г. ўвесь кляштарны комплекс згарэў; быў адбудаваны намаганнямі айца Валадковіча.

# г. Расоны

Віцебскай вобласці

## Касцёл езуітаў

Полацкія езуіты пабудавалі ў мястэчку касцёл[1].

[1] Zaleski St. Jezuici w Polsce. Kraków, 1905. T. IV. Cz. 1. S. 227.

# в. Рачканы,

Ляхавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Пабудаваны з дрэва як філіяльны на тэрыторыі Ляхавіцкай парафіі ў 1928 г. на сродкі парафіян і намаганнямі ксяндза Леанарда Кавецкага.

# в. Роткаўшчына,

Смалявіцкі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

Знаходзілася ў былым сядзібна-паркавым комплексе Манюшкаў. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы як фамільная пахавальня[1].

Твор архітэктуры рэтраспектыўна-гатычнага стылю. Была вырашана прамавугольным прысадзістым аб'ёмам пад стромкім 2-схільным дахам. Фасад фланкіраваны 2 гранёнымі шатровымі вежамі, паміж якімі выступаў 2-гранны шчыпец. Плоскасныя бакавыя фасады чляніліся 2 парамі стральчатых аконных праёмаў.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 248.

# г.п. Ружаны,

Пружанскі раён
Брэсцкай вобласці

## Кляштар кармелітаў

Існаваў на працягу 1617—1850 гг., фундаваны канцлерам Вялікага княства Літоўскага Львом Сапегам.

# в. Рукшаніцы,

Ушацкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл Апекі Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Першы драўляны парафіяльны храм існаваў з 1774 г. пры ксяндзу Стафану Леановічу. У 1804 г. намаганнямі парафіян і ксяндза Якубоўскага пастаўлены новы драўляны касцёл. Калісьці тут была езуіцкая місія, потым сяліліся дамініканцы. Існаваў да 1939 г.

Архітэктура крыжова-купальнага храма мела народна-этнаграфічны характар і рысы стылю барока. Галоўны фасад фланкіравалі дзве 3-ярусныя чацверыковыя шатровыя вежы, якія завяршаліся макаўкамі. Цэнтральны 8-гранны зруб завяршаўся ад-



Касцёл Апекі Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў в. Рукшаніцы.

крытым у інтэр'еры шатром з цыбулепадобнай галоўкай на 8-гранным барабане. Ніжэйшыя бакавыя прамавугольныя прырубы пад 2-схільнымі дахамі і 3-гранная апсіда з бакавымі сакрысціямі надавалі кампазіцыі будынка барочную яруснасць і аб'ёмную паліганальнасць. З вертыкалізмам кампазіцыі храма кантраставала гарызантальная шалёўка, на фоне якой вылучаліся прамавугольныя вокны і брусы-сцяжкі. Мастацкімі рарытэтамі інтэр'ера з'яўляліся разная драўляная скульптура Хрыста і арган з бубнамі і званочкамі старажытнай работы. Галерэя хораў раскрывалася ў залу ступеньчатай аркай і мела парапет, філёнгі якога запаўняла алейная размалёўка з выявамі музычных інструментаў.

## в. Ручыца,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася на могілках. Была пабудавана ў 1809 г. з дрэва ксяндзом Грынеўскім. Рэканструявана ў 1890 г. Закрыта пасля Вялікай Айчыннай вайны, згарэла ў 1980-я гг.

Твор народнага дойлідства. Была вырашана 4-гранным брусчатым зрубам пад гонтавым пакатым шатровым дахам, які завяршаўся 4-гранным барабанам пад 2-схільным дашкам. Да фасада далучаўся каркасны, абшыты дошкамі прытвор. Неашаляваныя сцены па баках чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах.



## в. Савічы,
Капыльскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл

Знаходзіўся на паўднёвай ускраіне вёскі. Быў пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з дрэва. У 1894 г. прыхаджане ахвяравалі храму літургічныя рэчы. Зруйнаваны ў 1980-я гг.

Твор народнага дойлідства з рысамі стылю класіцызму. Вырашаны крыжовым у плане зрубам — нартэкс, малітоўная зала, бакавыя крылы трансепта і апсіда, накрытыя агульным 2-схільным дахам з вальмамі над апсідай. Да галоўнага фасада далучана шатровая вежа-званіца (васьмярык на чацверыку, верхні ярус каркасны). Вокны дэкарыраваны арачнымі імпастамі, уваходныя дзверы дэкарыраваны фігурнай шалёўкай.

У інтэр'еры крылы трансепта вылучаны 2 парамі калон. Пад будынкам мураваная крыпта з цыліндрычным скляпеннем.

Аднанефавы прамавугольны падоўжны зруб накрыты 2-схільным дахам з вальмамі над прамавугольнай апсідай. Схілы даху накрываюць бакавыя прамавугольныя прыбудовы трансепта. Да апсіды далучаны нізкія і вузкія бакавыя сакрысціі, да галоўнага фасада — невялікі прытвор, над якім узвышаецца 8-гранная каркасная шатровая вежа-званіца. Бакавыя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі.

У інтэр'еры ад асноўнага аб'ёму 2 пары калон аддзяляюць крылы трансепта. Пад апсідай мураваная крыпта.

## в. Салаўі,
Клецкі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Была пабудавана ў 18 ст. з дрэва памешчыкам Каэтанам Ячынцам як родавая пахавальня і як прыходскі храм для сялян[1].

Твор народнага драўлянага дойлідства. Была вырашана прамавугольным зрубам, які пераходзіў у трохгранную алтарную частку[2]. Унутры пры ўваходзе на 4 калонах былі размешчаны хоры; у алтарнай частцы перагародкамі вылучаліся 2 бакавыя рызніцы, якія прарэзваліся 2 парамі вокнаў.

---

[1] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство. 1980. № 28. С. 130—131. Рис. 23.
[2] РДГА, ф. 821, воп. 125, спр. 865.

## в. Сарокі,
Глыбоцкі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл

Пабудаваны ў пачатку 19 ст. Вядомы па малюнку Я.Драздовіча 1926 г.

Твор народнага драўлянага дойлідства з рысамі стылю класіцызму. Прамавугольны зруб пераходзіў у трохгранную апсіду і пасярэдзіне гонтавага даху завяршаўся магутным васьміграным купальным барабанам з ліхтарыкам. На бакавых вертыкальна ашаляваных фасадах выступалі крылы трансепта, завершаныя па тарцах трохвугольнымі франтонамі. Перад касцёлам стаяла 4-слуповая каркасная званічка пад шатровым дахам.

## в. Свіслач,
Асіповіцкі раён
Магілёўскай вобласці

## Кляштар францысканцаў

Заснаваны ў 1705 г.

# г.п. Свіслач

Гродзенскай вобласці

## Капліца

Была пабудавана на мяжы 18—19 ст. з дрэва.

Твор архітэктуры класіцызму. Была вырашана 8-граннай ратондай, шацёр якой завяршаў цыбулепадобны купал на 8-гранным барабане. У 1880-х гг. адзначаецца як струхнелая[1].

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 747, арк. 7, 32; ф. 8, воп. 2, спр. 271, арк. 1.

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар францысканцаў

Знаходзіўся ў цэнтры мястэчка, на Гімназічнай плошчы. Вядомы па акварэлі Н.Орды 1868 г.[1] Драўляны касцёл быў пабудаваны паміж 1633 і 1654 (1666) гг., знаходзіўся пад апекай езуітаў. Рэестры 1709 і 1721 гг. даюць апісанне драўлянага храма пад 2-схільным гонтавым дахам, пасярэдзіне якога ўзвышалася вежачка-званіца з цыбулепадобнай галоўкай; у інтэр'еры на столі меўся роспіс. У 1705 г. пры касцёле гродзенская харунжая Алёна Іаанна з роду Агінскіх заснавала францысканскі кляштар, надзяліўшы яго 45 тыс. «золотовок», маёнткам Глядавічы і в. Індура; 7 тыс. «золотовок» падараваў лоўчы Уладзіслаў Кміта Трэмбалеўскі[2]. У 1733 г. касцёл згадваецца ў дрэнным стане. Новы драўляны храм пабудаваны ў 1754 г. уладальнікамі мястэчка Тышкевічамі. У 1793 г. створана парафія. Скасаваны ў 1832 г. і перададзены ў 1850-я гг. ваеннаму ведамству[3]. У 1860-я гг. касцёл закрыты і разабраны; будаўнічы матэрыял выкарыстаны на ўзвядзенне праваслаўнага храма ў в. Лаша. Намаганні ўладальніцы маёнтка графіні Красінскай у 1905 г. пабудаваць на выкупленай зямлі мураваны храм не прынеслі вынікаў з-за пярэчання гродзенскага і брэсцкага праваслаўнага епіскапа Міхаіла[4]. Вядомы па акварэлі Н.Орды 1868 г.

Касцёл — твор народнага драўлянага дойлідства з рысамі стылю барока. Храм быў вырашаны прамавугольным зрубам з 3-граннай апсідай, 2-схільны гонтавы дах над якой пераходзіў у вальмавы і завяршаўся сігнатуркай. Над фасадам узвышалася 2-ярусная 4-гранная шатровая званіца. Асіметрыю ў кампазіцыю будынка ўносіла бакавая прамавугольная сакрысція. Вертыкальна ашаляваныя фасады чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Рэестры адзначаюць 3 алтары, у галоўным з якіх знаходзіўся абраз «Найсвяцейшая Дзева Марыя і св. Францішак» са старога касцёла; бакавыя алтары прысвячаліся св. Антонію Падуанскаму і св. Юзафу. Пералічваюцца манстранцыя «аўгсбургскай работы», пазітыў, рака св. Антонія, 2 скульптуры Хрыста і амбон. Падлога ў храме была выкладзена мураванымі плітамі, у прэсбітэрыі — мармуровымі. Перад касцёлам стаяла шмат'ярусная званіца з гадзіннікам.

Жылы корпус першапачаткова быў драўляны, уключаў трапезную, 6 келляў і 4 спальні. У 1799 г. ужо стаяў мураваны 2-павярховы корпус з цаглянымі падлогамі і скляпеннямі; унізе знаходзіліся трапезная, кладоўка, склад і амбар. У 1817 г. дах пакрыты чарапіцай. Паводле рэестра 1721 г. кляштарны комплекс уключаў таксама фортку, шэраг гаспадарчых пабудоў, дзяцінец, агарод, могілкі са званіцай.

[1] Кулагін А.М., Герасімовіч В.А. Беларусь у малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX стагоддзя. Мн., 2001. С. 111.

[2] Borowik P. Kościoł i klasztor oo. Franciszkanów w Swisłoczy Ogińskich // Przeglad Wschodni. 2001. T. VII. Zesz. 4(28). S. 1027—1042.

[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 1104.

[4] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 18, спр. 1179, 1281.

# в. Серنікі

Віцебскай вобласці

## Капліца і званіца

Знаходзіліся ў цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 18 ст. з дрэва. Адлюстраваны на малюнках Я.Драздовіча 1926 г.

Капліца — твор народнага дойлідства. З'яўлялася 4-граннай каркаснай пабудовай пад шатровым гонтавым дахам.

Званіца — твор народнага драўлянага дойлідства. Была вырашана цэнтрычнай 3-яруснай 4-граннай вежай пад гонтавым шатровым пакрыццём з макаўкай у завяршэнні. Першы ярус зрубны з прамавугольным з падкосамі ўваходным праёмам. Другі і трэці ярусы каркасныя, адкрытыя, вырашаны 3-пралётнымі аркадамі. Ярусы падзяляліся шырокімі гонтавымі адлівамі.

# в. Скокі

Брэсцкага раёна

## Касцёл

Пабудаваны ў 1776 г. з дрэва бацькам польскага пісьменніка Юліяна Урсына Нямцэвіча Марцэлем як сямейная пахавальня пры іх сядзібна-паркавым комплексе (стаяў насупраць палаца)[1]. У 1850 г. уладальніку маёнтка памешчыку Б.К.Мазеўскаму быў дадзены дазвол на будаўніцтва мураванага касцёла[2]. У 1864 г. стаў праваслаўным храмам. Разбураны ў 1-ю сусветную вайну.

[1] Niemcewicz J.U. Pamietniki czasow moich. Warszawa, 1957. T. I. S. 84—85; Spis kosciolow i duchowienstwa diecezji Pinskiej w r.p. 1936. Pinsk, 1936. S. 69.

[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 2, воп. 11, спр.1129, арк. 10.



## в. Скрундзі,
Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл святога архангела Міхаіла

Знаходзіўся каля могілак. Філіяльны драўляны касцёл 18 ст. пасля паўстання 1863—64 гг. скасаваны і асвячоны ў праваслаўную царкву, якая 24.3.1867 г. перададзена прычту Дзмітраўскай царквы в. Шчорсы і перабудаваны[1]. У 4 сажанях ад касцёла стаяла драўляная 4-слуповая званіца. Ашаляваны дошкамі будынак касцёла ўжо тады быў трухлявы, а ў 1900 г. зруйнаваны, таму што генерал-ад'ютант Троцкі палічыў «...не заслуживающим удовлетворения ходатайство Виленской римско-католической Духовной консистории о возстановлении Скрундзевского костёла»[2]. Стары касцёл не захаваўся.

Меў надзвычай арыгінальную барочную аб'ёмна-прасторавую будову: выцягнуты па падоўжнай восі 8-гранны зруб завершаны высокім шатровым дахам з цыбулепадобнай галоўкай; да бакавых граняў алтарнай часткі вуглом далучаны квадратныя сакрысціі, якія разам з нізкім прытворам надавалі храму тэктанічную ярусную вертыкальную накіраванасць[3].

---

[1] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 9, спр. 324, арк. 3.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 9, спр. 324, арк. 64.
[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 1, воп. 9, спр. 324, арк. 42, 43.

## в. Слабодка,
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі Шкаплернай і кляштар кармелітаў

Знаходзіўся ў маёнтку памешчыка Канчэўскага. Фундаваны ў 1710 г. мазырскім падстаростам Казімірам (Феліцыянам) Беліковічам. Кляштар скасаваны ў 1850 г.[1] Канчэўскі, перайшоўшы ў 1864 г. ў праваслаўе, перабудаваў касцёл у царкву ў 1868 г.[2] 5.5.2002 г. біскуп Аляксандр Кашкевіч асвяціў скульптуру Маці Божай на франтоне новазбудаванага касцёла.

---

[1] Канфесіі на Беларусі (к. XVIII—XX ст.). Мн., 1998. С. 26.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 295, воп. 1, спр. 1730, арк. 290—298.

## г. Слонім
Гродзенскай вобласці



Касцёл Найсвяцейшага Божага Цела і кляштар канонікаў латэранскіх у г. Слонім.

## Касцёл Божага Цела і кляштар канонікаў латэранскіх

Знаходзіўся на вул. Панятоўскага, паміж вул. Студэнцкай і Панасаўскай. Фундаваны ў 1635(50) г. маршалкам Вялікага княства Літоўскага Янам Станіславам Сапегам (старэйшым сынам канцлера Л.І.Сапегі) пры кляштары канонікаў латэранскіх. Ён перадаў ім маёнтак Дарава. У 1653 г. Ян Казімір Сапега выдаў ім мастовы налог (права праезду па мастах горада)[1]. Па ўспамінах Адынца, храм пабудаваны італьянскім архітэктарам, які першы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай выкарыстаў «плоскія скляпенні» (верагодна, драўляныя фермы вялізнага пралёту). Пасля рэканструкцыі асвячоны ў 1800 г. біскупам Адамам Клакоцкім. Пасля скасавання кляштара ў 1832(45) г. будынак прыстасаваны пад праваслаўны Спаса-Праабражэнскі сабор. У першапачатковым выглядзе касцёл вядомы па гравюры 19 ст. Зруйнаваны ў 1950-я гг., з 2000 г. аднаўляецца.

Мураваны храм — твор архітэктуры стылю барока. Манументальны аднанефавы бязвежавы храм з трансептам. Прамавугольны ў плане з паўкруглай алтарнай часткай карабель храма накрыты 2-схільным дахам, закрытым з франтальнага фасада 2-ярусным фігурным франтонам з вуглавымі вазамі. Такімі ж, але меншага маштабу франтонамі завершаны франтальныя фасады крылаў трансепта. Плоскасныя фасады чляніліся высокімі арачнымі аконнымі праёмамі з контрфорсамі ў прасценках. Галоўны фасад фланкіравалі чацверыковыя вежы-пілоны, накрытыя фігурнымі шлемамі. Храм быў славуты абразом, які належаў пэндзлю мастака 18 ст. Ф.Смуглевіча.

Перад касцёлам стаяла 1-павярховая плябанія пад вальмавым дахам і 2-калонным порцікам пры ўваходзе. Кляштарны комплекс уключаў 2-павярховы жылы і 1-павярховы гаспадарчы карпусы, сад, агарод.

---

[1] Lorentz S. Wycieczki Słonimskie. Słonim, 1922. S. 10; Zorza Słonimska. Jednodniówka Parafjalnej Akcij Katolickiej w Słonimie. Sierpień, 1935. S. 24.

## Касцёл піяраў

Быў пабудаваны ў выглядзе ратонды.

## Касцёл святога архангела Міхаіла і кляштар дамініканцаў

Знаходзіўся ў канцы былой вул. Сінкевіча ў раёне Гандлёвай плошчы. Фундаваны ў 1680 г. Крыштафам Пакрашынскім (Пакаржэўскім), пры якім пры храме аселі манахі-дамініканцы[1]. Пры кляштары мелася значная бібліятэка. Кляштар скасаваны ў 1845 г.[2] У 1848 г. касцёл згарэў, мураваныя скляпенні абваліліся, засталіся толькі сцены з высокімі вежамі[3]. З-за пагрозы абвалу рэшткаў касцёла ў 1853 г. назначаны таргі на аддачу ў падрад зносу кляштарных будынкаў, што было ажыццёўлена да 1856 г.[4] На месцы ачышчанага пляца меркавалася паставіць будынак прысутных месцаў.

Паводле архіўнага праекта 18 ст. манументальны будынак быў вырашаны ў стылі барока. Касцёл уяўляў сабой кампактную 3-нефавую 2-вежавую базіліку. Амаль кубападобны карабель храма завяршаўся паўкруглай апсідай з адной сакрысціяй. Сілуэт галоўнага фасада фарміравалі чацверыковыя вежы з высокімі барочнымі ківорыумамі і фігурным шчытом з валютамі паміж імі. Трохчасткавае чляненне фасада адзначалі пілястры і арачныя праёмы.

[1] Zorza Sionimska. Jednodniówka Parafjalnej Akcij Katolickiej w Słonimie. Sierpień, 1935. S. 24.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 1092, арк. 11.
[3] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 1092, арк. 11 адв, 13, 59.
[4] НГАБ у г. Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 913, арк. 7.

## Касцёл святога Юзафа і кляштар езуітаў

Знаходзіўся паміж былымі вул. Панасаўскай (Панятоўскага), Студэнцкай і Касцельнай (Магістрацкай). Першая спроба ўчыніць езуіцкую місію зроблена ў 1664—65 гг. У 1709(17) г. Альжбета Пісецкая-Гандэнбоўская пераводзіць з навагрудскага калегіума ў Слонім манахаў-езуітаў, для якіх у 1709 г. фундуе драўляныя кляштар з касцёлам; у 1725—73 гг. рэзідэнцыя[1]. Пры місіі дзейнічалі школы граматыкі (з 1713), паэтыкі і рыторыкі (з 1714), у 1736 г. пры рэзідэнцыі створана школа філасофіі, з 1750 г. навучаліся гісторыі і матэматыцы, мелася музычная бурса, канвікт (інтэрнат) для дзяцей збяднелай шляхты, бібліятэка; пасля скасавання ордэна школа стала павятовым вучылішчам. У пачатку 18 ст. зямельныя ахвяраванні кляштару рабілі жмудскі кашталян А.Уніхоўскі, муж і жонка Талаконскія, М.Кошчыц, ксёндз Вілейскага касцёла П.Палубінскі; кляштару належалі маёнткі Вішнева, Грынкі, Дабосня, Шулякі. У 1713—15 гг. пабудаваны драўляны касцёл, у 1740(68) г. пачалося будаўніцтва мураванага, якое было завершана ў 1769 г. Пасля касацыі ордэна касцёл і школа перайшлі да канонікаў латэранскіх. У 1834 г. меркавалася перадаць касцёл уніяцкай царкве[2]. Падчас Вялікай Айчыннай вайны касцёл зруйнаваны прамым пападаннем авіябомбы, пасля вайны руіны знесены. На месцы касцёла ў 1990-я гг. ўзведзена праваслаўная царква.

[1] Zorza Słonimska. Jednodniówka Parafjalnej Akcij Katolickiej w Słonimie. Sierpień, 1935. S. 24.
[2] НГАБ у г. Гродна, ф. 2, воп. 3, спр. 668.

## Кляштар марыявітак

Фундаваны з капліцай у 1743 г. Скасаваны ў 1850 г., у 1863 г. прыстасаваны пад лазарэт.

## Кляштар францысканцаў

Фундаваны ў 1680 г.

# г. Слуцк

Мінскай вобласці

## Капліца

Стаяла сярод жылой забудовы ў невялікім скверы. Пабудавана ў пач. 20 ст. Існавала да 1939 г.

Архітэктура драўлянай капліцы несла рысы стылю неакласіцызму. Уяўляла сабой кампактны прамавугольны зруб пад 2-схільным дахам. Галоўны фасад быў вырашаны 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам. Над ім на вільчыку даху ўзвышалася сігнатурка з крыжом. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя сцены былі прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах з сандрыкамі. Побач з капліцай, з левага боку, стаяла



Капліца ў г. Слуцк.

драўляная званіца. Над яе першым кубападобным зрубам размяшчаўся каркасны шатровы навес з гранёным купальным ліхтаром.

## Касцёл і кляштар марыявітак

Манашкі ордэна марыявітак аселі тут у 1745 г. па запрашэнні старасціхі Канягунды Рушчыц і трымаліся да 1856 г.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар езуітаў

Знаходзіўся ў Зарэччы, за мостам цераз р. Случ. Езуіты з'явіліся ў горадзе ў канцы 17 в. Людзвіка, дачка ўладальніка Зарэчча Багуслава Радзівіла, атрымаўшы яго ў пасаг, узяла шлюб з нейбургскім князем Карлам Філіпам. Ён як прыхільнік каталіцызму адкрыў місіянерскі дом для 3 манахаў-езуітаў. Паводле іншых крыніц, у 1689(96) г. ў раёне Падвалле, побач з гарадской Астроўскай брамай, асадзіў манахаў-езуітаў камянецкі стольнік Станіслаў Чобар Ляшчынскі[1]. У 1692(96) г. віцебскі падчашы Ян Слонскі з жонкай Кацярынай адпісалі кляштару двор у Слуцку і 2 вёскі, другая яго жонка Мар'яна ў 1696 г. — 10 тыс. злотых[2]. Кляштару належалі навакольныя маёнткі Багурын, Багурынак, Бокшыцы, Бранчыцы, Кіявічы, Новы Двор, Румок, Уса, Ямінск; місіянерскія пункты меліся ў Багурыне, Румцах, Ямінску. У 1698 г. адкрыта школа граматыкі, у 1702 г. — паэтыкі, у 1704 г. — рыторыкі. Прыстанак узнік на месцы былой сядзібы старосты рэчыцкага Гераніма Клакоцкага, які ахвяраваў яе ордэну езуітаў і неўзабаве ў 1707 г. стаў яго манахам і фундатарам будаўніцтва ў 1704(45) г. драўлянага касцёла ў гонар Найсвяцейшай Тройцы (мяркуюць, што аўтарам праекта быў ксёндз Рыгор Энгел[3]). У 1689—1704 гг. місія, у 1704—15 рэзідэнцыя, у 1714 г. комплекс набыў статут калегіума, у якім вучыўся і выкладаў грамадскі дзеяч гісторык Ю.Р.Князевіч (1737—1804). На працягу 1735—39 гг. рэктарам калегіума быў прыдворны тэолаг нясвіжскіх Радзівілаў ксёндз Ян Пашакоўскі[4]. У 1713 г. адкрыты музычная бурса (у 1773 адзначаны «орган на восемь голосов»[5]), бібліятэка, з 1762 г. — аптэка. Пасля касацыі ордэна ў 1773 г. кляштар перададзены кальвіністам, але хутка перайшоў у распараджэнне Камісіі Народнай Адукацыі, на працягу 20 гадоў тут дзейнічала школа. У красавіку 1804 г. кляштар і касцёл гарэлі. У 1819 г. пры касцёле ўчынены дом міласэрнасці і кляштар марыявітак (ордэн з'явіўся тут у 1745 па запрашэнні Канягунды Рушчыц). У 1840 г. кляштар скасаваны, у ім размясцілася ўрадавая канцылярыя, а касцёл у 1865 г. пераўтвораны ў праваслаўную царкву.

Комплекс калегіума складаўся з шэрагу будынкаў, размешчаных вакол унутранага двара. Драўляны будынак калегіума (у прыстасаваным у 1710-я гг. жылым доме) уяўляў сабой 2-паверхавую (1-ы для келляў, 2-і — для кабінетаў), прамавугольную ў плане пабудову пад пластычным «з заломам» дахам; над слуповым ганкам з балюстрадай знаходзілася зала, уздоўж франтальнага фасада была ўчынена галерэя-падценне. У глыбіні двара стаяў драўляны жылы корпус са слуповым ганкам, па баках якога 2 драўляныя флігелі. Адзін служыў трапезнай і кухняй, быў вырашаны 1-павярховым прамавугольным у плане аб'ёмам, накрытым гонтавым дахам з мезанінам, які прызначаўся пад залу. Другі флігель у цэнтры меў праезд, які завяршаўся купальнай званіцай. Меліся драўляныя будынкі бурсы (1-павярховы, прамавугольны ў плане), школы (1-павярховы, крыжовы ў плане з ганкам), аптэкі, 3-павярховай скарбніцы. Уздоўж агароджы (першапачаткова частакол, у 1772 г. 3 мураваныя сцяны) размяшчаліся пякарня, амбар, кузня, стайня з карэтнай, сталярная майстэрня, васкабойня, бровар, хлявы. Да кляштара далучаўся сад. У 1724 г. пастаўлены мураваны будынак бібліятэкі са скарбам кляштарных каштоўнасцей. У 1732 г. ўзведзена званіца і ў хуткім часе новы мураваны корпус калегіума.

Уяўленне аб касцёле даюць рэканструкцыя польскага даследчыка Е.Пашэнды і інвентарнае апісанне 1802 г., у якім згадваецца размешчаны ў некалькіх кроках ад брамы драўляны касцёл (1710—15). Па апісанні ён быў зрублены з часаных васьміграннікам брусоў, да якога далучаліся 5-гранная апсіда з сакрысціямі, крухта, 4 вуглавыя дыяганальна павернутыя купальныя капліцы, завершаныя 4-граннымі купальнымі вежачкамі (на адной з франтальных вежаў у 1717 размешчаны гадзіннік-куранты). Асноўны зруб завяршаў купал з ліхтаром з галоўкай, крухту — франтон са скульптурай Маці Божай з дзіцяткам. У 1773 г. ашаляваны фасады, якія чляніліся 73 аконнымі праёмамі. Малітоўная зала перакрывалася драўляным скляпеннем, у якім адкрываўся цыліндрычны барабан купала. Інтэр'ер быў пакрыты «аптычнай» размалёўкай, дэкарываны разьбой. Адзінаццаць прывезеных з Прагі алтароў і амбон былі пакрыты лакам і пазалотай. Пры ўваходзе месціліся хоры — «кальтанка для музыкаў». У 1736 г. князёўна Радзівіл падаравала храму 5 жырандоляў з налібоцкага шкла.

---

[1] Paszenda J. Kościoł pojezuicki w Słucku // Biuletyn historii sztuki. 1978. № 4. S. 464.

[2] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 306.

[3] Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 103, 123—124; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 317—323.

[4] Бажэнава В. Ксёндз Ян Пашакоўскі — гісторык, тэолаг, пісьменнік // Наша вера. 2002. №3(21).

[5] Дадзіёмава В.У. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: гісторыка-тэатральнае даследаванне. Мн., 2002. С. 113; НГАБ, ф. 694, воп. 2, спр. 7445, арк. 1.

## Касцёл фарны

Папярэдні драўляны фарны касцёл знаходзіўся пры ўездзе ў горад з боку Мінска, непадалёку ад Васкрасенскай царквы. Быў старэйшым храмам горада. Пабудаваны з дрэва ў 1419 (або 1410—32) г. па фундацыі вялікага князя літоўскага Міхала Кейстутавіча, які ў 1439 г. даў яму прывілей[1]. Аб старажытнасці храма яго настаяцель князь-езуіт Шантыр распаўсюдзіў прымаўку: «Старая фара, як кальвінская вера» («Starsza fara jak kalwinska wiara»)[2]. Зачынены і разабраны з-за струхнеласці ў 1852 г., набажэнствы былі перанесены ў бернардзінскі касцёл. З будаўнічага матэрыялу касцёла была ўзведзена могілкавая капліца.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 317-323.

[2] Описание церквей и приходов Минской епархии. Слуцкий уезд. Мн., 1879. С. 11.

# г. Смалявічы

Мінскай вобласці

## Касцёл

Быў пабудаваны ў 1910 г. як Мікалаеўская царква, з 1917 г. касцёл. Папярэдні касцёл быў пабудаваны ў 1759 г., пасля 1863 г. Мікольская царква[1]. Выгляд храма вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча 1910—14 гг.

Твор народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны прамавугольным зрубам, які пераходзіў у вузейшую 5-гранную з маленькімі бакавымі сакрысціямі апсіду, вальмавы гонтавы дах над якой уступам пераходзіў у 2-схільнае пакрыццё асноўнага аб'ёму. У франтон даху на галоўным фасадзе быў урэзаны чацвярык шатровай званіцы з макаўкай. Вертыкальна ашаляваныя фасады рытмічна чляніліся высока ўзнятымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

---

[1] Минская старина. 1909. Вып. 1. С. 141—146.

# г. Смаргонь

Гродзенскай вобласці

## Касцёл

Знаходзіўся на рагу вуліц Вілейскай і Мінскай. Манументальны мураваны храм пабудаваны ў 1911 г. з цэглы намаганнямі ксяндзоў Станіслава Кліма, Юсціяна Петраніса і парафіян[1]. Зруйнаваны ў 1-ю сусветную вайну.

Твор архітэктуры неараманскага стылю. Уяўляў сабой магутную 3-нефавую 2-вежавую базіліку з трансептам. Сілуэт храма фарміравалі дзве 4-ярусныя 4-гранныя шатровыя вежы буйных прапорцый (вышыня 30 м) і трохвугольны франтон паміж імі. Галоўны ўваход быў вылучаны арачным парталам са



Касцёл у г. Смаргонь. Чарцёж.

стылізаваным вімпергам і акном-ружай над ім. Архаічны выгляд храму надавала кантраснае спалучэнне невялікіх арачных аконных праёмаў з вялізнымі фасаднымі плоскасцямі. Верхнія ярусы вежаў адкрываліся вялізнымі вокнамі-біфорыумамі з гадзіннікамі над імі. Элементы архітэктурнай пластыкі (аркатурныя фрызы, руставаныя ліштвы вокнаў, гарызантальныя цягі) выкладзены высакаякаснай муроўкай з чырвонай цэглы.

---

[1] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. S. 196—197.

# г.п. Смілавічы,

Чэрвеньскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл і кляштар місіянераў

Знаходзіўся на ўскраіне паселішча, пры тракце Мінск—Чэрвень. Існаваў у 1747—1832 гг. Касцёл пабудаваны на сродкі гетмана Міхаіла Казіміра Агінскага і памешчыцы Марцыбіліяны Завішы (з Агінскіх) у в 1757—67(81) гг. пры кляштары місіянераў, заснаваным у 1747 г.[1] Значныя ахвяраванні на кляштар зрабіў гетман Агінскі, багата абсталяваў касцёл. У 1774 г. пабудаваны 2-паверхавы мураваны жылы корпус. Пры кляштары да 1831 г. дзейнічала місіянерская школа, меўся канвікт для шляхецкай моладзі, заснаваны настаяцелем Міхаілам





Касцёл і кляштар місіянераў у г.п. Смілавічы. Малюнак Н.Орды.

Гродзкім[2]. Кляштар скасаваны царскім указам ад 19.7.1832 г., касцёл стаў прыходскім, налічваў да 1600 парафіян. Да храма былі прыпісаны капліцы на могілках вёсак Дварцы і Убель. У 1841 г. палову кляштара займала брацiя, другую — станавы прыстаў. У 1866 г. ў Смілавічах у праваслаўе перайшоў 1081 парафіянін, што паслужыла 29.12.1866 г. асnаваннем для перадачы касцёла праваслаўнаму ведамству. 22 студзеня 1867 г. касцёл пераасвячоны ў праваслаўную прыходскую Троіцкую царкву (астатнія 326 асоб каталіцкага веравызнання спраўлялі набажэнствы ў капліцы на могілках). Але з-за адсутнасці дзяржаўнай падтрымкі і беднасці прыхаджан храм пачаў прыходзіць у заняпад. Не набыў фінансавай падтрымкі кансісторыі і праект рэканструкцыі касцёла, распрацаваны ў 1888 г. архітэктарам Нектар'еўскім. Храм яшчэ існаваў у 1920-я гг., але быў спустошаны. Выгляд кляштара і касцёла адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1864—76 гг.[3]

Касцёл з'яўляўся творам архітэктуры позняга барока. Уяўляў сабой 3-нефавую 2-вежавую базіліку. Яруснасць аб'ёмнай кампазіцыі манументальнага будынка стваралі 2-схільны дах цэнтральнага і больш нізкія 1-схільныя дахі бакавых нефаў. Высокая плоскасць галоўнага фасада завяршалася магутным тонкапрафіляваным антаблементам; над ім стаялі 2-ярусныя чацверыковыя купальныя вежы, паміж якімі ўзвышаўся барочны фігурны шчыт з выгнутым прафіляваным карнізам. Фасад шчыльна крапаваны высокімі пілястрамі, якія фланкіравалі бакавыя арачныя нішы-экседры, лучковыя і цэнтральны арачныя аконныя праёмы і 3 арачныя ўваходы. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі аконнымі праёмамі, раскрапаваны пілястрамі ў прасценках. Унутры нефы перакрываліся скляпеннямі, падтрыманымі 2 парамі пілонаў. У касцёле меліся творы іканапісу 18 ст., у тым ліку абраз св. Вінцэнта работы мастака С.Чаховіча. Пад касцёлам крыпта, дзе адбываліся фамільныя пахаванні Агінскіх і Манюшкаў.

Справа ад касцёла стаяў мураваны П-падобны ў плане 2-павярховы жылы манаскі корпус, які выходзіў на «чырвоную лінію» вуліцы бакавымі 3-павярховымі рызалітамі з фігурнымі барочнымі франтонамі. Па фронце кляштарны комплекс быў аб'яднаны мураванай агароджай з 2 барочнымі арачнымі брамамі.

---

[1] Описание церквей и приходов Минской епархии. I. Минский уезд. Мн., 1878. С. 131; Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 308; Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1889. T. 10. S. 886—887.

[2] Misjonarze w Siemiatyczach, Smiłowiczach, Orszy i Oswieju. Kraków, 1913.; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 237.

[3] Кулагін А.М., Герасімовіч В.А. Беларусь у малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX стагоддзя. Мн., 2001. С. 116.

## в. Солы,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі Ружанцовай

Знаходзіўся ў цэнтры вёскі. Першы драўляны храм заснаваны да 1598 г., калі быў адораны віленскай ваяводзінай Гальшкай Радзівіл, а ў 1620 г. — полацкім ваяводам Янам Кішкам і яго жонкай Крысцінай з Друцкіх-Сакалінскіх[1]. У 1624 г. фундуш павялічыў кушлянскі памешчык Самуэль Адамавіч Дзядовіч. Касцёл зруйнаваны маскоўскім войскам у 1656 г., адбудаваны, але ў 1812 г. спалены. У 1849 г. ўзведзены новы храм, асвячоны ў 1853 г. біскупам Вацлавам Жылінскім. У пачатку 20 ст. быў пабудаваны чарговы драўляны храм, спалены ў 1915 г.

Апошні драўляны касцёл вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст. Быў вырашаны 3-нефавай базілікай. Франтальны фасад фланкіравалі 3-ярусныя 4-гранныя шатровыя вежы па баках прамавугольнага шчыта з трохвугольным франтонам[5]. У кутку бутавай агароджы стаяла 2-ярусная 4-гранная званіца.

---

[1] Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie od jego załozenia az do dni obecnych. Wilno, 1912.

## в. Сошна,

Пінскі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл бенедыкцінак

Драўляны храм пабудаваны ў 17 ст. манашкамі-бенедыкцінкамі. У 1864 г. забраны пад праваслаўную царкву. У 1927 г. вернуты парафіянам.

## в. Ставы,

Камянецкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Драўляны храм фундаваны ў 1460 г. Янам і Ежы Стаўскімі як парафіяльны.

# в. Стайкі
Магілёўскага раёна

## Кляштар кармелітаў

Адзначаўся ў 1-й палове 18 ст.

# в. Станькава,
Дзяржынскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

Знаходзілася ў сядзібна-паркавым комплексе Чапскіх. Пабудавана ў 1835 г. з цэглы як родавая пахавальня[1].

Твор архітэктуры стылю ампір.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 268.

# в. Станькаў,
Рагачоўскі раён
Гомельскай вобласці

## Кляштар кармелітаў

Існаваў у 1704—1832 гг.[1], фундаваны Тэдорам Лукомскім.

[1] Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.

# в. Станькі,
Сенненскі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл

# в. Стараельня,
Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Першы касцёл пабудаваны ў 1650 г. канцлерам Вялікага княства Літоўскага Львом Сапегам. У 1864 г. парафія скасавана, касцёл перададзены праваслаўным. Існаваў да 1939 г.

Храм быў пабудаваны ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства: шырокі і працяглы прамавугольны зруб пад 2-схільным гонтавым дахам. Цэнтральная частка галоўнага фасада была вырашана выкладзеным з бутавага каменю рызалітам,



Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў в. Стараельня.

завершаным трохвугольным франтонам, над якім стаяла барочная сігнатурка з крыжом.

# в. Стараселле,
Шклоўскі раён
Магілёўскай вобласці

## Касцёл

Быў пабудаваны ў 18 ст. На 1913 г. налічвалася каля 1200 парафіян[1]. Знішчаны ў 1939 г.[2]

Храм быў вырашаны ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства пад уплывам стылю барока. Уяўляў сабой магутны, выцягнуты па падоўжнай восі прамавугольны зруб, што пераходзіў у вузейшую 5-гранную апсіду, 2-схільны гонтавы дах над якой пераходзіў у вальмавы і быў завершаны чацверыковай купальнай сігнатуркай. Сілуэт галоўнага фасада фарміравалі 2 чацверыковыя вежы з фігурнымі барочнымі купаламі. На фоне вертыкальнай шалёўкі вылучаліся высокія прамавугольныя аконныя праёмы. Справа перад касцёлам стаяла 2-ярусная чац-



Касцёл у в. Стараселле.

верыковая шатровая званіца з адкрытым верхнім каркасным ярусам.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 106.

[2] Прочаков Ю.В. Римско-католическая Церковь на территории бывшего Могилевского округа (1920—1990 гг.); Старонкі гісторы Магілёва. Магілёў, 1998; Пушкін І.А. Як зачыняліся цэрквы ў Магілёве // Магілёўская Даўніна. Магілёў, 1996, С. 87—91.

## в. Старынкі,

Вілейскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца святога Яна

Вядома з 16 ст. У 1639 г. была асвячона. З'яўлялася філіяльнай пры касцёле Найсвяцейшага Сэрца Ісуса в. Ільля, у 1864—1905 гг. — Звеставання Найсвяцейшай Дзеве Марыі в. Альковічы.

## в. Старыя Васілішкі,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла

Знаходзіўся на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 18 ст. з дрэва. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

З'яўляўся творам народнага дойлідства. Уяўляў сабой падоўжны прамавугольны зруб пад 2-схільным гонтавым дахам, вільчык якога па краях завяршалі цыбулепадобная галоўка і гранёная сігнатурка-званічка. Пяцігранную з бакавымі сакрысціямі апсіду перакрываў ніжэйшы вальмавы дах таксама з сігнатуркай. Вертыкальна ашаляваныя фасады чляніліся арачнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.



Касцёл святога Казіміра і кляштар дамініканцаў у г. Стоўбцы.

## г. Стоўбцы

Мінскай вобласці

### Капліца

Была пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Вядома па фотаздымку 1956 г.[1]

Твор народнага дойлідства[2]. Мела выгляд 4-слуповай навісі пад гонтавым шатровым дахам, пад якой была пастаўлена драўляная скульптура «Укрыжаванне».

---

[1] Библиотека АН ЛитССР. Отдел редкой книги и картографии, коллекция Я.Булгака.

[2] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // Архитектурное наследство. 1980. № 28. С. 130.

### Касцёл святога Казіміра і кляштар дамініканцаў

Заснаваны ваяводам мінскім і навагрудскім Аляксандрам Слушкам і яго жонкай Сафіяй (з Зяновічаў) 23.4.1623 г. з благаслаўлення віленскага біскупа Я.Валовіча. Слушкі ахвяравалі кляштару фальваркі Кучкуны і Атцадкі, 6 тыс. злотых, у 1681 г. ўдава падскарбія надворнага Б.Ю.Слушкі Г.Патоцкая падаравала 10 тыс. злотых на ўпрыгожанне інтэр'ера касцёла стукавай ляпнінай. Першы драўляны касцёл быў асвячоны ў гонар Марыі Магдалены, спалены шведамі[1]. У 1625—26 гг. узведзены мураваны касцёл, у 1640 г. — кляштар дамініканцаў[2]. У 1654—67 гг. касцёл асвячоны ў імя святога Казіміра віленскім біскупам Мікалаем Слупскім[3]. У 1833 г. кляштар скасаваны, у жылым корпусе размясцілася жаночае вучылішча, касцёл пераўтвораны ў прыходскі, у 1867—68 гг. — у праваслаўную царкву ў імя Марыі Магдалены[4]. Перабудову выканаў архітэктар Ваўковіч. У 1872 г. паводле праекта Нектар'еўскага майстар-рэзчык І.Н.Санчукоўскі выканаў 4-ярусны іканастас, абразы да якога намаляваў маскоўскі мастак Зотаў. У 1921 г. зноў перайшоў да каталікаў, адрэстаўрыраваны са зняццем рэтрарускіх архітэктурна-стылёвых напластаванняў. У 1940-я гг. зноў зачынены. У 1960-я гг. касцёл зруйнаваны.

К а с ц ё л — помнік архітэктуры ранняга барока. Трохнефавая прамавугольная ў плане мураваная базіліка з 2-вежавым галоўным фасадам. Вежы мелі аднолькавае на ўсю вышыню квадратнае папярочнае сячэнне, што надавала ім манументальнасць. Рэканструкцыя будынка пад праваслаўную царкву ў 2-й палове 19 ст. надала яму рэтраспектыўна-рускі архітэктурна-стылёвы характар. Намаганні губернскіх архітэктараў вызначыліся ў зніжэнні фасадных вежаў і іх завяршэнні цыбулепадобнымі купаламі, над шчытом фасада ўзведзена чацверыковая шатровая вежа з макаўкай. Такімі ж макаўкамі завершаны цыбулепадобны купал высокага васьмерыковага барабана над 2-схільным дахам цэнтральнага нефа і дахам прыбудаванага прытвора. Сіметрычнасць кампазіцыі парушала прыбу-



Інтэр'ер касцёла святога Казіміра ў г. Стоўбцы.

даваная з паўднёвага боку цэнтрычная капліца св. Дамініка, завершаная магутным цыбулепадобным купалам з макаўкай. Звонку будынак меў сціплы дэкор: плоскія пілястры і нішы, бакавыя нефы набылі арачныя вокны-біфорыумы.

У сярэдзіне 18 ст. італьянскі мастак Ц.Тэнцаллі і яго майстэрня багата дэкарыравалі інтэр'ер храма стукавай ляпнінай і скульптурай у стылі ракако[6]. Скляпенні нефаў і купал аздоблены ляпнымі кесонамі і фрэскавай размалёўкай. Асноўным дэкаратыўным акцэнтам інтэр'ера з'яўляліся галоўны і 8 кулісных алтароў. Галоўны алтар выкананы ў стылі барока ў выглядзе калонна-пілястравай разгорнутай паўкругам па сцяне апсіды, завершанай ляпным балдахінам. Па цэнтры ў прамавугольнай нішы знаходзілася скульптура «Укрыжаванне». 2-і ярус быў вырашаны пілястравай кампазіцыяй і «Глорыяй» вакол круглай люкарны — клубы аблокаў з лунаючымі анёламі. Інтэр'ер быў насычаны шматлікімі творамі іканапісу, сярод якіх абраз Ф.Смуглевіча «Архангел Міхаіл», скульптурай высокамастацкай работы. У пышнай ракайльнай раме быў размешчаны партрэт фундатара А.Слушкі. Багатым стукавым дэкорам былі пакрыты купал капліцы святога Фабіяна. У падлогу было ўмуравана 13 мемарыяльных пліт, у сцены — мармуровыя пліты-эпітафіі, у скляпах пахаванні прадстаўнікоў феадальнай знаці (Слушкаў) і духавенства (у 1644 манаха Фабіяна Малішэўскага).

Наведванне касцёла апісвае ў сваім вандроўным часопісе рускі пісьменнік Фанвізін: «В местечке Столбцы лежат мощи святого Фабиана, удивляющего всю Польшу своими чудотворениями»[7].

---

[1] Жаўняркевіч Р. Кляштар айцоў дамініканцаў у Стоўбцах // Наша вера. 1999. № 2(9). С. 59.

[2] НАРБ, ф. 242, воп. 1, спр. 2256, арк. 3 ад.; Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 201—202.

[3] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 311—312; Abramowicz Wl. Strony Nowogródzkie. Lwów, 1938. S. 31; Maliszewski E. Przewodnik po Gubernji Mińskiej. Warszawa,1919. S. 7; Zwolski B. Wileńszczyzna, nowogródczyzna i białostoczyzna za Zygmunta III. Wilno, 1938. S. 22.

[4] Описание церквей и приходов Минской епархии. I. Минский уезд. Мн., 1878. С. 156—158.

[6] Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wilenskiej od gotyku do neoklasycyzmu z przewodnikom po zabytkach między Niemnem a Dzwiną. Wilno, 1938—1939. S. 122, 251.

[7] Букчин С. ... Народ, издревле нам родной: Рус. писатели и Белоруссия. Очерки. Мн., 1984. С. 9—10.

## в. Стрэшын,
Жлобінскі раён
Гомельскай вобласці

### Касцёл

Заснаваны ў пачатку 17 ст. ўладальнікамі мястэчка Солтанамі і з'яўляўся іх родавай пахавальняй.

## в. Суляцічы,
Навагрудскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У баку ад вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы як пахавальня ўладальнікаў маёнтка. Захавалася руіна.

Твор архітэктуры неакласіцызму. Фасад меў накладны калонны порцік, быў дэкарыраваны вуглавым рустам.

## в. Сурвілішкі,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці



Капліца ў в. Суляцічы.



## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

На могілках. Пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. з дрэва на месцы касцёла 1550 г. па фундацыі Розы Гайкоўскай і яе братоў Івана і Антона. У левым вугле бутавай агароджы — 2-ярусная мураваная брама (захавалася).

Помнік народнага дойлідства з рысамі барока. Храм крыжападобны ў плане. Складаецца з аднолькавых па вышыні прамавугольнага асноўнага аб'ёму, вузкага трансепта і 5-граннай апсіды, да якой прылягаюць нізкія сакрысціі. Асноўны аб'ём і апсіда аб'яднаны агульным 2-схільным дахам з вальмамі над алтарнай часткай і сігнатуркай у завяршэнні. Сцены прарэзаны лучковымі і круглымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах і завершаны шырокім карнізам, які праходзіць па перыметры асноўнага аб'ёму, трансепта і апсіды. Галоўны фасад расчлянёны 2 тонкімі пілястрамі на 3 часткі: цэнтральная з уваходным лучковым праёмам і акном ашалявана гарызантальна, бакавыя — вертыкальна. Галоўны фасад і крылы трансепта завершаны фігурнымі франтонамі, франтальны ашаляваны гарызантальна, прарэзаны лучковым праёмам, дэкарываваны пілястрамі, якія візуальна прадаўжаюць пілястры сцен галоўнага фасада.

У залу храма, вертыкальна ашаляваную і перакрытую столлю, арачным праёмам раскрываюцца хоры, на якіх пастаўлены арган, аформлены ў стылі барока. Часткова захаваліся 2 алтары ў трансепце, выкананыя ў стылі барока. Яны аформлены калонамі і пілястрамі карынфскага ордэра, разным арнаментам раслiннага характару, галоўкамі пуцці.

# в. Сухавічы,

Калінкавіцкі раён
Гомельскай вобласці

## Кляштар базыльян

Заснаваны ў 1720 г.

# г. Сянно

Віцебскай вобласці




## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар дамініканцаў

Мураваны касцёл пабудаваны ў 18 ст. манахамі ордэна дамініканцаў. Стаяў у цэнтры горада, на ўзвышаным беразе воз. Сянно побач з праваслаўнай царквой. Вядомы па акварэлі Н.Орды 1877 г.

Твор архітэктуры барока. Галоўны фасад 3-нефавай базілікі з трансептам быў вырашаны прамавугольнай плоскасцю, завершанай «разарваным» барочным франтонам з бакавымі валютамі. Галоўны ўваход вылучаў 4-калонны порцік. Бакавыя фасады кампактнага прамавугольнага аб'ёму расчлянёны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках.

## Касцёл святой Фартунаты і кляштар францысканцаў

Знаходзіўся ў цэнтры горада, на ўзвышаным беразе воз. Сянно, побач са старажытным бастыённым замкам Л.Сапегі[1]. Існаваў з пачатку 17 ст. да 1844 г. Францысканскі канвент у горадзе ўзнік у 1609 г. па фундацыі падкаморыя Яўстафія Курча і Рэгіны з Валовічаў[2]. Па іншых звестках, Л.Сапега ў 1613 г. пасяліў тут манахаў-францысканцаў, якія трымалі пры кляштары вучылішча для бедных[3]. У 1760 г. ўзведзены мураваны прамавугольны ў плане 2-павярховы жылы корпус. Мураваны храм быў пабудаваны ў 1768—72 гг. віленскім архітэктарам Я.В.Фрэзерам[4], калі князем Тадэвушам Агінскім з Рыма былі прывезены мошчы святой Фартунаты[5]. 28.6.1772 г. пачаліся 3-дзённыя ўрачыстасці асвячэння храма з унясеннем рэлiквіі[6]. У гонар гэтай падзеі кашталянша Агінская запісала за кляштарам 10 тыс. злотых. Перад 1837 г. прыёр Фулгенці Касакоўскі ажыццявіў рэстаўрацыю касцёла. Кляштар скасаваны каля 1848 г. Адлюстраваны на акварэлі Н.Орды 1877 г.[7] і фотаздымках 1940-х гг. У 1937 г. касцёл закрыты, пацярпеў у вайну, 17.09.1962 г. рэшткі знесены, кляштарны будынак прыстасаваны пад гаспадарчыя патрэбы.

К а с ц ё л — твор архітэктуры позняга барока і ракако[8]. Галоўны фасад 3-нефавай базілікі з трансептам (прамавугольнік 30 × 54 аршыны) быў вырашаны прамавугольнай плоскасцю, раскрапаванай па цэнтры дынамічна згрупаванымі паўкалонамі і антаблементам, завершанай разарваным барочным франтонам з бакавымі валютамі і невялікай вежачкай-званічкай. Уваход быў аформлены 4-калонным порцікам. Бакавыя фасады чляніліся высокімі лучковымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках. Тарцовыя сцены прамавугольнай апсіды з сіметрычнымі сакрысціямі і крылы трансепта завяршаліся трохвугольнымі франтонамі. У інтэр'еры меўся насценны роспіс, залачоны алтар і арган. Візітацыі 1805,



Касцёл святой Фартунаты і кляштар францысканцаў у г. Сянно.

1823 і 1843 гг. адзначаюць 8 новых, яшчэ не афарбаваных кулісных алтароў, стукавы амбон[9].

[1] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX вв. Мн., 1992. С. 46—47.
[2] Boberski W. Jan Wilhelm Frezer — architekt wileński trzeciej czwierci XVIII wieku // Przegląd Wschodni. 2001. T. VII. Zesz. 4(28). S. 1005.
[3] Россия. Полное географическое описание нашего отечества: Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПб., 1905. Т. 9. С. 398; Ave Maria. № 9—10(88-89). 2002.
[4] Boberski W. Jan Wilhelm Frezer — architekt wileński trzeciej czwierci XVIII wieku // Przegląd Wschodni. 2001. T. VII. Zesz. 4(28). S. 1005—1009.
[5] Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев-на-Днепре, 1884. Кн. II. С. 127.
[6] Karwacki O.A. Materiały do historii klasztorów. T. V: Materiały do historii prowincji litewskiej i konwentów oo. Franciszkanów. S. 207—208, 211.
[7] Katalog rysunków architektonicznych ze zbiórów muzeum Narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975. Seria A. T. X. S. 165.
[8] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 111—113.
[9] НАРБ, ф. 1781, воп. 26, спр. 1387, 1414; воп. 38, спр. 1472.




## в. Тадуліна
Віцебскага раёна

## Касцёл базыльян

Пабудаваны ў 1769—71 гг. з цэглы па фундацыі трокскага ваяводы Тадэвуша Агінскага[1]. Будаўніцтвам кантраляваў суперыёр Ян Фідзельскі. Кляштарны мураваны жылы корпус сціплай архітэктуры ўзведзены ў 1777—78 гг. намаганнямі суперыёра Рабца. У 1799 г. ў ім пасяліліся выгнаныя з Віцебска базыльяне, у 1832 г. ўчынены вайсковыя казармы[2].

[1] Boberski W. Jan Wilhelm Frezer — architekt wileński trzeciej cwierci XVIII wieku // Przegląd Wschodni. 2001. T. VII. Zesz. 4(28). S. 1009.
[2] Абрамава І. Фундуш Тадулінскаму кляштару Тадэвуша і Ізабэлы Агінскіх // Віцебскі Сшытак. 1995. 1. С. 52—57.

## в. Такары,
Камянецкі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Драўляны парафіяльны касцёл быў пабудаваны ў 1935 г. намаганнямі парафіян і ксяндза М.Каспяровіча на месцы храма, фундаванага ў 1528 г. Новы храм пабудаваны ў 1728 г. ў стылі барока. У 1876 г. зачынены і зруйнаваны[1]. Набажэнствы адбываліся ў капліцы плябаніі. У 1935 г. налічвалася 1065 парафіян.

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 82.

## в. Талкачэвічы,
Уздзенскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл
Існаваў у 19 ст.[1]

[1] Описание церквей и приходов Минской епархии. IV. Игуменский уезд. Мн., 1879. С. 149.

## в. Трабы,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Драўляны храм існаваў на месцы сучаснага касцёла, пабудаванага ў 1905 г. Быў пабудаваны з дрэва ў 18 ст. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Архітэктура храма была вырашана ў традыцыях народнага драўлянага дойлідства з рысамі барока. Меў 3-часткавую падоўжна-восевую прасторавую будову: асноўны прамавугольны зруб пад 2-схільным гонтавым дахам, квадратны прыруб прытвора пад вальмавым дахам з цыбулепадобнай галоўкай у завяршэнні, 5-гранная апсіда з бакавымі сакрысціямі. Вертыкальна ашаляваныя бакавыя фасады чляніліся высока ўзнятымі прамавугольнымі вокнамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Над шырокім уваходным праёмам размяшчалася паўкруглае акно-люкарна хораў.







## в. Ухвішча,
Полацкі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца святога апостала Юды Тадэвуша

Стаяла ў парку на высокім пагорку. Фундавана ў 1861 г. ўладальнікам маёнтка Аркадзем Любенскім і сястрой Аркадзіей Івашэўскай. Знішчана ў гады 2-й сусветнай вайны.

Архітэктура мураванага будынка была вырашана ў стылі рэтраспектыўнай готыкі (па ідэі фундата-

ра капліца мусіла асацыіравацца з гатычным касцёлам св. Ганны ў Вільні). Уяўляла сабой прамавугольны аб'ём з 5-граннай апсідай і сакрысціямі. Над галоўным фасадам узносілася высокая васьмерыковая вежа-званіца са шпілем. Стракаты сілуэт будынка фарміравалі шматлікія вастраверхія фіялы, вертыкальную дынамічную накіраванасць кампазіцыі надавалі стральчатыя нішы і аконныя праёмы. На чырвоным фоне цаглянай муроўкі вылучаліся пабеленыя элементы архітэктурнай пластыкі: ажурны аркатурны фрыз, фіялы прасценачных контрфорсаў, ліштвы стральчатых аконных праёмаў. Галоўны фасад быў фланкіраваны гранёнымі пілонамі са шпілямі.

У галоўным алтары вісеў абраз св. Тадэвуша, у склепе знаходзіліся пахаванні роду ўладальнікаў. Помнік з белага мармуру ўвекавечваў памяць Адэлі Сялявы, з чорнага — Эльвіры Мікульскай, дачкі Аркадзя Любенскага.

## г.п. Ушачы

Віцебскай вобласці

### Касцёл святога Іераніма і кляштар дамініканцаў

У 1716 г. падваявода полацкі Іеранім Жаба разам з жонкай заснавалі касцёл і кляштар дамініканцаў (у ім вучыўся уніяцкі царкоўны дзеяч мітрапаліт Іраклій Лісоўскі). У 1747 г. Ушачы — уласнасць мінскага ваяводы Казіміра Жабы. У 1787 г. манахі-дамініканцы ўзвялі 2-паверхавы мураваны кляштар, заклалі 6-класную школу-вучылішча (дзейнічала да 1839). У 1799 г. пры касцёле ўзнікла Ружанцовае брацтва[1]. У 1832 г. касцёл і кляштар зачынены, будынкі часткова разбураны, усё літургічнае начынне ўрачыстай працэсіяй перанесена ў касцёл у в. Селішча. Верагодна, пасля закрыцця касцёл належаў базыльянам, якія ў 1835 г. не пажадалі пераходзіць у праваслаўе. У 1868 г. касцёл перададзены пад праваслаўную Аляксандра-Неўскую царкву[2].

Храм з'яўляўся творам архітэктуры барока. Фасад фланкіравалі 2 вежы. Атынкаваныя фасады члянiліся 11 вялікімі і 20 малымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер быў распісаны фрэскамі адным з таленавітых ксяндзоў кляштара, паводле інвентару 1818 г. на хорах стаяў 12-галосы арган[3].

---

[1] Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992, с. 16.

[2] Gozdawa M. Szkoły w woj. Połockiem w XVIII w. po pierwszym kraju rozbiorze // Kwartalnik litewski. 1910. N 6. T. 2. S. 71—74; Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 413—414.

[3] Ліхач Т. Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. №2. 2000.

### Манастыр базыльян

Калі ў 1672 г. мястэчка Ушачы перайшло да Давіда Радзімінскага-Францкевіча, ён разам са сваёй жонкай фундаваў тут манастыр базыльян. З вялікімі цяжкасцямі ў 1830-я гг. манастыр быў пераведзены ў праваслаўе.



## в. Фашчаўка,

Шклоўскі раён
Магілёўскай вобласці

### Касцёл Спаслання Святога Духа

Фундаваны ў 1765 (альбо ў 1754) г. князем Чарталыйскім для езуітаў[1]. Пастанова пра яго закрыццё ў 1876 г. не была здзейснена з-за ўпартага процістаяння парафіян, але касцёл стаў парафіяльным (набажэнствы адбываліся на беларускай мове)[2]. На могілках стаяла мураваная калона з драўлянай скульптурай воіна, пастаўленая езуітамі ў 1812 г. ў памяць аб загінуўшым тут рыцары Сімпліцыяне[3]. У выніку рэпрэсій 1930-х гг. былі арыштаваны і расстраляны святары Ян Баравік, Альбін Шаціла, Пётр Януковіч. Арыштавалі і саслалі ў Вятку ксяндза Паўла Карповіча. Быў расстраляны і старшыня савета касцёла Ігнат Давідовіч[4], касцёл закрыты.[5] Зруйнаваны ў 1960-я гг.[6] Выгляд храма пад назвай Найсвяцейшай Дзевы Марыі вядомы па малюнку Н.Орды 1877 г. На месцы храма пастаўлены мемарыяльны драўляны крыж з картушам, на якім надпіс «Тут, на гэтым месцы з 1630 па 1967 гг. знаходзіўся касьцёл Наведваньня Панны Марыі».

Архітэктура будынка была вырашана ў стылі «віленскага барока». Трохнефавая 2-вежавая базіліка з магутным 2-ярусным трансептам. Апсіда была вылучана ў габарытах храма і фланкіравалася 2 сакрысціямі. Двухсхільны дах прамавугольнага карабля храма на галоўным фасадзе схаваны фігурным франтонам з экседрай па цэнтры, у якой месцілася скульптура святога, і фігурным ківорыем у завяршэнні. Аналагічнымі франтонамі былі завершаны крылы трансепта. Над карнізам фасада ўзвышаліся дзве 2-ярусныя чацверыковыя вежы. Франтальная архітэктурная плоскасць была насычана пілястравай крапоўкай, валютамі. Меўся мясцовашанаваны абраз «Маці Божая».

---

[1] Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971. С. 122.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 52—54.

[3] Архивная выписка. Газета «Шклоўскія навіны». 1993, № 1.

[4] Грудзіна А. «Бачыў... руіны касцёла». З гісторыі каталіцкага касцёла на Шклоўшчыне // Наша вера.
[5] Пушкін І.А. Як зачыняліся цэрквы ў Магілёве // Магілёўская даўніна. Магілёў, 1996. С. 87—91.
[6] Грудзіна А. «Бачыў... руіны касцёла». З гісторыі каталіцкага касцёла на Шклоўшчыне // Наша вера.



# Х

## г.п. Халопенічы,
Крупскі раён
Мінскай вобласці

### Кляштар кармелітаў
Існаваў каля 1640—1684 гг.[1]

[1] Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.

## в. Хальч,
Веткаўскі раён
Гомельскай вобласці

### Касцёл і кляштар езуітаў
Уладальнікі мястэчка над Сожам Халецкія ў 2-й палове 17 ст. пабудавалі касцёл і перадалі яго езуітам, якія знаходзіліся тут да выгнання ў 1829 г. У 1731—73 гг. існавала місія.

## в. Харомцы,
Акцябрскі раён
Гомельскай вобласці

### Касцёл
У 1930-я гг. разабраны і перанесены ў райцэнтр.

## в. Харужанцы,
Лагойскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца
Знаходзілася на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Дзейнічала да 1930-х гг. У алтары знаходзіўся абраз Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

## в. Хатава,
Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса
Парафіяльны храм пабудаваны Янам Затнасінскім у 1776 г. з дрэва на ўласныя сродкі.[1] У 1876 г. аддадзены праваслаўнай царкве[2]. У 1931 г. муж і жонка Незабытоўскія з удзелам парафіян пабудавалі новы мураваны касцёл, асвячоны біскупам Букрабам у 1934 г. У 1935 г. налічваў каля 3250 парафіян.

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 104—105; *Zyskar J.* Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. T. 1. Cz. 2. S. 156.
[2] Описание церквей и приходов Минской епархии. I. Минский уезд. Мн., 1878. С. 169.

## г. Хойнікі
Гомельскай вобласці

### Калегіум езуітаў
Быў заснаваны ў 1622 г.[1] У 1849 і 1886 гг. адзначаецца капліца[2].

[1] Сагановіч Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Мн., 2001. С. 248.
[2] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Хойніцкага раёна. Мн., 1993. С. 28.

## в. Хоцемля,
Лёзненскі раён
Віцебскай вобласці

### Касцёл Маці Божай
Яшчэ ў 1910-я гг. існаваў драўляны касцёл, у алтары якога меўся вельмі шанаваны мясцовым насельніцтвам абраз Маці Божай. На званіцы вісеў звон, адліты ў Рызе ў 1756 г.



# Ц

## г.п. Целяханы,
Івацэвіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Узвышэння Святога Крыжа
Храм пабудаваны як парафіяльны ў 1816—17 гг. па фундацыі графа Пуслоўскага.




## в. Цімкавічы,
Капыльскі раён
Мінскай вобласці

### Касцёл святога архангела Міхаіла
Пабудаваны ў 1560 г. слуцкім князем Янам Сямёнам Юр'евічам Алелькавічам, асвячоны кардыналам віленскім біскупам Юрыем Радзівілам у 1580 г.

У 1647 г. Лявонам Сапегам пастаўлены новы, таксама драўляны касцёл. У 2-й палавіне 19 ст. перароблены пад царкву. Згарэў у 1985 г.

Твор народнага драўлянага дойлідства з рысамі стылю барока. Трохнефавы храм з 5-граннай апсідай, якая, прарэзаўшы дах, выходзіла наверх, што забяспечвала ёй 2-яруснае асвятленне. Да апсіды сіметрычна далучаліся 2 сакрысціі. Асаблівасцю храма з'яўлялася 3-вежавая кампазіцыя яго галоўнага фасада, аздобленага паўкруглымі слупамі і падзеленага на 2 ярусы прычолкам з прафіляваным карнізам. Верхні ярус вырашаны атыкам з паўвальмавым дахам. Уваходныя дзверы мелі мастацкую акоўку ў выглядзе дубовых галінак.

Унутраная прастора была падзелена архаічнымі калонамі на 3 нефы з плоскай столлю. На левай сцяне была навешана квадратная кафедра амбона. Над уваходам хоры з філёнгавым парапетам і вітымі драўлянымі лесвіцамі. Мастак Францішак Бруздовіч распісаў інтэр'ер храма: міжнефавы фрыз запоўніў карцінамі, пакрыў сцены, столь і канструкцыйныя элементы раслінна-кветкавым арнаментам у стылі мадэрн — стылізаваныя букеты ружаў і кусты шыпшыны, галінкі яблынь, дубовае лісце, кветкі сланечнікаў, белыя рамонкі, блакітна-сінія валошкі, белыя лілеі, незабудкі і інш.



## г. Чавусы

Магілёўскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар кармелітаў

Займаў адзін з бакоў Рынкавай плошчы. Мураваны храм і кляштар фундаваны Мікалаем (Пятром) Казімірам Падбіпятам у 1651(3) г. для ксяндзоў-кармелітаў, які ахвяраваў ім в. Гарадзішча (Крычаўскі р-н)[1]. У 1780 г. (па іншых звестках — пасля царскага ўказа ад 19.7.1832) манахі былі выгнаны, а касцёл і кляштар закрыты[2]. Нягледзячы на скасаванне кляштара кармеліты валодалі маёмасцю да 1828 г., у 1882 г. касцёл ужо не існаваў. Пасля атрымання дазволу ў 1913 г. было распачата будаўніцтва новага касцёла (зруйнаваны падчас Вялікай Айчыннай вайны).

Першапачатковы касцёл з'яўляўся творам архітэктуры барока (вядомы па фотаздымку пачатку 20 ст.[3]). Быў вырашаны 3-нефавай 2-вежавай базілікай. Франтальны фасад быў расчлянёны на 3 праслы і 3 ярусы, фланкіраваўся 4-яруснымі тэлескапічнымі вежамі з фігурнымі купальнымі завершамі; быў крапаваны пілястрамі, рустам. Бакавыя плоскасныя фасады чляніліся высокімі арачнымі аконнымі праёмамі і лапаткамі ў прасценках. Над высокім 2-схільным дахам у 19 ст. быў надбудаваны драўляны 8-гранны барабан з самкнутым сферычным купалам і галоўкай у завяршэнні.

Архітэктура новазбудаванага храма была вырашана ў стылі неаготыкі. Унутры гранёнымі слупамі і перакінутай праз іх стральчатай аркадай падзяляўся на 3 нефы, перакрытыя стральчатымі скляпеннямі. Трохгранную апсіду запаўняў барочны алтар у выглядзе 2 калон, што неслі фігурны франтон. На левай сцяне прэсбітэрыя быў навешаны кансольны амбон.

---

[1] Podręczna Encyklopedya Koscielna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.

[2] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 16.

[3] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 50.

## в. Чарнаўчыцы

Брэсцкага раёна

### Капліца

Знаходзілася на цэнтральнай плошчы вёскі, непадалёку ад Троіцкага касцёла. Была пабудавана ў 19 ст. з цэглы. Вядома па фотаздымку пачатку 20 ст.[1]

Твор архітэктуры класіцызму. Уяўляла сабой 4-гранную 2-ярусную вежу пад пакатым шатровым пакрыццём. Грані верхняга яруса былі раскрыты арачнымі прасветамі, крапаваны па вуглах пілястрамі; ніжні ярус быў крапаваны арачнымі нішамі.

---

[1] Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў (гісторыя, стан, перспектывы). Мн., 2002. С. 56.

## в. Чарэя,

Чашніцкі раён

Віцебскай вобласці

### Касцёл святога архангела Міхаіла

Стаяў у цэнтры мястэчка на рынку. Калісьці тут, на беразе возера, існаваў вялізны праваслаўны манастыр, які пры правядзенні Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. быў пераўтвораны ў каталіцкі кляштар. У генеральнай візіце ад 1809 г. змешчаны звесткі, што мясцовы парафіяльны касцёл фундаваў 6.8.1604 г. канцлер Вялікага княства Літоўскага князь Лявон Сапега, сядзіба якога пад назвай Замак знаходзілася непадалёку на ўзгорку. Вядома, што ў 1644 г. тут стаяла вялізная базіліка, у алтары якой быў змешчаны абраз «Св. архангел Міхаіл» (меў вялікую гісторыка-мастацкую каштоўнасць). У 1510 г. абраз быў прэзентаваны цару Івану Грознаму ад патрыярха Базыля з Канстанцінопаля. У 1584 г. падаравана царом Льву Сапегу падчас яго візіту з мэтай заключэн-

ня міру паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй[1]. Маскоўскае войска 27.9.1650 г. спаліла касцёл, пасля чаго на працягу 20 гадоў вёска і парафіяне не мелі храма, пакуль падольскі ваявода Міхаіл Іосіф Сапега не пабудаваў новы і багата яго адарыў. Але і ён у 1793 г. згарэў. У 1828—39 гг. дзякуючы намаганням мясцовага ксяндза Насалеўскага пабудаваны мураваны храм. Пасля пажару 1859 г. адбудаваны ксяндзом Белым.

Архітэктура храма была вырашана ў стылі класіцызму. Уяўляў сабой 3-нефавую базіліку з паўкруглай апсідай. Галоўны плоскасны фасад завяршаў трохвугольны франтон з круглай люкарнай-ружай, яго вуглы вызначалі скульптурныя акратэрыі (наверсе — Хрыстос з прадстаячымі анёламі). Вось сіметрыі фасада вылучалі арачны ўваходны і высокі прамавугольны аконны праём; па баках меліся конхавыя арачныя нішы з дэкаратыўнымі вазамі. Бакавыя фасады рытмічна чляніліся арачнымі аконнымі праёмамі.

У 1906 г. пры ксяндзу Яну Янкевічу зала храма замест плоскай атынкаванай столі перакрыта цыліндрычным з распалубкамі і падпружнымі аркамі скляпеннем, а паўкруглая апсіда — конхай, падлога выкладзена тэракотавай пліткай. Магутныя пілоны і перакінутая праз іх аркада падзялялі залу на 3 нефы. На правым пілоне прэсбітэрыя быў навешаны амбон, выкананы ў стылі барока са скульптурай анёла, 2 драўляныя барочныя скульптуры святых былі кансольна навешаны на сценах абапал апсіды. У інтэр'еры былі 4 алтары: галоўны, за ім 2-і з цудатворным абразом святога архангела Міхаіла і 2 алтары ў капліцах: у левай Ісуса, у правай — Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Галоўны алтар быў вырашаны ў стылі барока 2-калоннай архітэктанічнай кампазіцыяй з «разарваным», моцна крапаваным антаблементам, над якім месцілася скульптурная група анёлаў. Другі ярус алтара быў вырашаны фігурным шчытом з круглай люкарнай па цэнтры.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 115—118.

## г. Чачэрск
Гомельскай вобласці

### Касцёл

Знаходзіўся перад замкам. З адыходам горада ў 1773 г. да Расіі імператрыца Кацярына II падаравала яго першаму намесніку края графу Чарнышову, які ў наступным годзе пабудаваў аднолькавыя па велічыні мураваныя царкву і касцёл, верагодна, паводле планаў вядомага рускага архітэктара Д.Кварэнгі[1]. Віцэ-губернатар нават заснаваў у маёнтку езуіцкую місію з 2 шпіталямі (існавала ў 1774—1820[2]). На пачатку 20 ст. налічвалася звыш 2 тыс. парафіян.

Архітэктура мураванага храма была вырашана ў стылі класіцызму. Двухвежавы галоўны фасад па цэнтры вылучаўся 4-калонным порцікам-лоджыяй з трохвугольным франтонам над інтэнсіўна прафіляваным карнізам. Трох'ярусныя 4-гранныя вежы завяршаліся сферычнымі купаламі, верхнія ярусы мелі арачныя прасветы. Магутны сферычны з ліхтаром купал на нізкім цыліндрычным барабане ўзвышаўся па цэнтры даху. Бакавыя фасады крапаваліся арачнымі нішамі.

---

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 71—73.

[2] Слюнькова И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX в. Мн., 1992. С. 67, 76.

## г. Чашнікі
Віцебскай вобласці

### Касцёл Перамянення Гасподняга і кляштар дамініканцаў

Знаходзіўся на беразе р. Ула, на замчышчы, сярод нізкапавярховай жылой забудовы. Заснаваны літоўскім харунжым Дамінікам Слушкай у 1674 г. У 1786 г. пабудаваны мураваны храм. З 4.9.1690 г. кантарам прызначаны Павел Падымоўскі, з 23.2.1698 г. арганістам служыў Раймунд Мурашкевіч[1]. Пасля касацыі ў 1832 г. некаторы час выкарыстоўваўся як прытулак для інвалідаў, за якімі да 1842 г. прыглядалі манахі-дамініканцы. Пасля 1863(8) г. касцёл пераўтвораны ў праваслаўную Мікалаеўскую царкву[2]. Выгляд кляштара вядомы па малюнку Н.Орды 1876 г.[3]

Твор архітэктуры барока. Манументальная 2-вежавая 3-нефавая базіліка з трансептам. Франтальны фасад фланкіравалі 3-ярусныя вежы, завершаныя цыбулепадобнымі купаламі, і завяршаў фігурны франтон.

---

[1] Ліхач Т. Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. №2. 2000.

[2] РДГА, ф. 799, воп. 33, спр. 1480, арк. 81.

[3] Katalog rysunkow architektonicznych ze zbiorow muzeum Narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975. Seria A. T. X. S. 203.

### Кляштар марыявітак

Скасаваны ў 1845 г.

## в. Чучаліцы,
Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Знаходзілася на могілках. Была пабудавана ў 1930-я гг. з дрэва, прыпісана да касцёла святога апостала Андрэя ў в. Нарач. Разабрана пасля Вялікай Айчыннай вайны.



Твор народнага дойлідства. Была вырашана кампактным зрубам з 3-граннай алтарнай часткай на бетонным падмурку. Унутры меліся хоры на 2 слупах.

## в. Чыжэўшчына,

Жабінкаўскі раён
Брэсцкай вобласці

### Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі і кляштар кармелітаў

Часам кляштар называлі Нелаеўскім па маёнтку Нелаевічы, у межах якога знаходзіўся. Манахі-кармеліты аселі тут у 2-й палавіне 17 ст., у дакументах згадваецца пад 1676 г. Драўляны храм пабудаваны ў 1701 г. па фундацыі мужа і жонкі Нестаровічаў, па іншых звестках, у канцы 17 ст. Андрэем Асоўскім і Янам Пятром Нестаровічам[1]. Асвячоны ў 1729 г. біскупам Іосіфам Альшанскім, у 1728 г. ўстаноўлены арган. На працягу 18 ст. навакольная шляхта перадала кляштару фальваркі Налаевічы (1701) і Багданы з в. Чыжэўшчына (1714), у 1737 г. Нестаровічы заклалі кляштару маёнтак Кававерты-Хадасы. У 1738 г. М.Непакайчыцкая заснавала пры кляштары брацтва святога Іосіфа, а князь В.Шуйскі ў 1747 г. адпісаў 4 тыс. злотых, забяспечаных маёнткам Рыкавічы[2]. У 2-й палавіне 18 ст. налічвалася 14 манахаў на чале з прыёрам. У 1794 г. побач з кляштарам адбыўся бой паўстанцаў з расійскім войскам. Па загадзе імператара Паўла I у 1797 г. кляштар перададзены ў Віленскую дыяцэзію, у 1800 г. касцёл стаў прыходскім, у кляштары існавала духоўная школа, бібліятэка. Кляштар скасаваны ў 1832 г., касцёл у 1866 г. забраны пад праваслаўную царкву, замест якой у 1894 г. ўзведзена існуючая Уладзімірская царква. Кляштар спалены падчас Першай сусветнай вайны.

[1] Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146.
[2] Рэлігія і царква. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001. С. 168.




## в. Чырвоная Дубрава (Макраны),

Капыльскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

У былым сядзібна-паркавым комплексе. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы як пахавальня ўладальнікаў маёнтка Вайніловічаў[1]. Захаваліся скляпеністыя сутарэнні.

[1] Федорук А.Т. Старинные усадьбы Минского края. Мн., 2000. С. 187.

## г. Чэрвень

Мінскай вобласці

### Касцёл

Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы. Пры храме мелася смілавіцкая калонія місіянераў св. Вінцэнта[1]. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор архітэктуры класіцызму. Быў вырашаны прамавугольным аб'ёмам пад 2-схільным гонтавым дахам, які на галоўным і алтарным фасадах выходзіў трохвугольнымі франтонамі. Алтарная сцяна ўмацоўвалася 2 магутнымі контрфорсамі. Бакавыя атынкаваныя сцены рытмічна чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках. Да алтарнай сцяны далучалася нізкая сакрысція. Перад храмам стаяла 2-ярусная каркасная драўляная званіца, накрытая гонтавым шатром.

[1] Zyskar J. Nasze kościoły. Djecezja Mińska. Warszawa, 1912. T. I. S. 235—236.
[2] Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі. Мн., 2001. С. 203.
[3] Ignacy Borejko Chodұko. Diecezja Mińska okolo 1830 roku. I. Struktury parafialne. Opracował i wydał Marian Radwan. Lublin, 1998.

## г. Чэрыкаў

Магілёўскай вобласці

### Касцёл і кляштар кармелітаў

Драўляны храм пры кляштары кармелітаў (заснаваны каля 1790) фундаваны Маладковічам і парафіянамі ў 1792 г., скасаваны ў 1832 г.[1] У 1856 г. на яго месцы ўзведзены новы мураваны храм у стылі рэтраспектыўнай готыкі.

[1] Podręczna Encyklopedya Kościelna. Warszawa, 1916. T. 43—44. S. 144—146; *Zyskar* J. Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa, 1913. S. 94.




## в. Шайбакі,

Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Кляштар францысканцаў

Скасаваны ў 1832 г., перададзены ваеннаму ведамству.

## в. Шклянцы,

Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

## Касцёл

Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з дрэва, пасля 1863 г. забраны пад царкву. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.

Твор архітэктуры позняга класіцызму. Прамавугольны ў плане зруб пераходзіў у 5-гранную апсіду з бакавымі сакрысціямі. Франтальны фасад быў вырашаны 4-калонным порцікам з трохвугольным франтонам, меўшым у аснаванні арачны выгін; у завяршэнні — 4-гранны барабан з каркасным купальным ліхтаром. Падобным ліхтаром завяршаўся канёк даху над апсідай. Гарызантальна ашаляваныя бакавыя фасады рытмічна чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках.

Перад храмам стаяла драўляная 2-ярусная 4-гранная званіца — твор народнага дойлідства. Ніжні зрубны ярус праз шырокі гонтавы адліў пераходзіў у верхні каркасны, накрыты пакатым шатром.

# в. Шчытна,

Пружанскі раён
Брэсцкай вобласці

## Касцёл

Час будоўлі невядомы, быў парафіяльным, потым філіяльным у Ружанскай парафіі. Пасля 1863 г. забраны пад праваслаўную царкву. У 1926 г. вернуты католікам, існаваў у 1935 г. Адзначаны ў даваенны час, налічваў каля 450 парафіян[1]. Адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1863 г.

Твор народнага драўлянага дойлідства. Быў вырашаны прамавугольным зрубам з сігнатуркай над гонтавым дахам. Адасоблена стаяла драўляная званіца.

[1] Spis kościołów i duchowieństwa diecezji Pińskiej w r.p. 1936. Pińsk, 1936. S. 119.

[2] Katalog rysunkow architektonicznych ze zbiórów muzeum Narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975. Seria A. T. X. S. 110. № 398.

# в. Шылавічы,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Знаходзіўся ў цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 19 ст. з дрэва на месцы храма 1600 г. На яго месцы ў 1907—14 гг. узведзены існуючы мураваны храм. Вядомы па фотаздымку Я.Балзункевіча пачатку 20 ст.[1]

Твор народнага дойлідства. Уяўляў сабой спалучэнне буйнамаштабных прамавугольных у плане зрубаў малітоўнай залы і апсіды, накрытых агульным 2-схільным гонтавым дахам, які на франтальным фасадзе выходзіў вялікім трохвугольным франтонам і завяршаўся партатыўнай 4-граннай шатровай званіцай. Гарызантальна ашаляваныя фасады арытмічна чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. Паводле інвентару 1749 г. меўся алтар Найсвяцейшай Тройцы з абразом «Святая Сям'я» 1620 г.

[1] Кулагін А.М., Герасімовіч В.А. Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках Яна Балзункевіча. Пачатак XX стагоддзя. 2-е выд. Мн., 2001. С. 171.

# в. Шэметава,

Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

## Кляштар кармелітаў

Дзейнічаў з канца 18 ст. (па іншых звестках з 1813), скасаваны ў 1832 г.



# в. Юстыянава,

Верхнядзвінскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

Знаходзілася побач з палацам Шчытаў. Адлюстравана на акварэлі Н.Орды 1875—76 гг.[1]

Твор народнага драўлянага дойлідства. Была вырашана прамавугольным зрубам з 3-граннай апсідай, гонтавы дах завяршаўся 8-гранным шатровым барабанам.

[1] Katalog rysunków architektonicznych ze zbiórów muzeum Narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975. Seria A. T. X. S. 83—84.

## Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Знаходзіўся на беразе Зах. Дзвіны насупраць палаца Шчытаў. Пасля 1866 г. перароблены на царкву. Адлюстраваны на акварэлі Н.Орды 1875—76 гг.

Пры прыстасаванні пад царкву касцёл набыў рысы рэтраспектыўна-рускага стылю: шатровая званіца з макаўкай, 8-гранны 2-ярусны купальны барабан над дахам.



# в. Язна,

Міёрскі раён
Віцебскай вобласці





Касцёл у в. Яршэвічы.

## Касцёл Маці Божай Вастрабрамскай

Існаваў у 1930-я гг.

## в. Яноўцы,

Навагрудскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

Была пабудавана ў 18 ст. з цэглы. З'яўлялася элементам сядзібна-паркавага комплексу, стаяла побач з гаспадарскім домам[1]. Вядома па фотаздымку 1956 г.[2]

Твор архітэктуры барока. Была вырашана цэнтрычнай, квадратнай у плане пабудовай, накрытай пластычным з заломам шатровым дахам. Грані крапаваліся вуглавымі пілястрамі. На франтальным фасадзе ў вялікай арачнай нішы быў прарублены прамавугольны ўваходны праём, над ім — прамавугольны аконны праём хораў.

---

[1] Квитницкая Е.Д. Каплицы Белоруссии // АЕ. 1980. № 28. С. 127.

[2] Библиотека АН ЛитССР. Отдел редкой книги и картографии, коллекция Я.Булгака, № 178/59.

## в. Яршэвічы,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

## Касцёл

У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў канцы 18 ст. як уніяцкая царква. У 1860-я гг. праваслаўны храм, у 1920-я гг. пераабсталяваны пад касцёл. Пасля Вялікай Айчыннай вайны не дзейнічаў. З-за струхнеласці разабраны ў канцы 20 ст.

Помнік народнага дойлідства. Адназрубны храм з 5-граннай апсідай і паўднёвай сакрысціяй. Вальмавы дах над асноўным зрубам пераходзіў у ніжэйшы гранёны дах апсіды. У 1920-я гг. прыбудавана 3-ярусная 4-гранная зрубна-каркасная званіца, архітэктура якой вылучалася авангарднай канструктывісцкай трактоўкай, вертыкальнасцю выцягнутых прапорцый. Вертыкальна ашаляваныя сцены чляніліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі і брусамі-сцяжкамі ў прасценках. У інтэр'еры апсіда раскрывалася ў залу шырокім арачным прасветам. Пры ўваходзе меліся хоры.

## в. Ятвеск,

Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

## Касцёл

Існаваў пры калоніі шчучынскіх піяраў у 1756—1845 гг.



# РЭЕСТР

## в. Акалова,

Лагойскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца святога архангела Міхаіла

Учынена ў канцы 20 ст. ў драўляным будынку былога магазіна.

## г.п. Акцябрскі (Рудабелка)

Гомельскай вобласці

### Касцёл святога архангела Міхаіла

Пабудаваны ў пачатку 21 ст. з цэглы.

## в. Амбілеўцы,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Узвышэння Святога Крыжа

Пабудавана ў 2002 г. з цэглы.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Да фасада далучаны нізкі прамавугольны прытвор пад 2-схільным пакрыццём. Плоскасныя фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Анетава,

Пухавіцкі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Пабудавана ў 1905 г. з цэглы як прысядзібная. У 1960-я гг. перабудавана пад жылы дом.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам.

## в. Аслаўяняты,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

### Касцёл Перамянення Гасподняга

Пабудаваны ў 1992 г. з бутавага каменю і цэглы.

## в. Астравы,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

Пабудавана ў 1990 г. з дрэва.

## в. Астромічы,

Кобрынскі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

Пабудавана ў 1920-я гг. з вапнава-пясчаных блокаў. У канцы 20 ст. пашырана і прыстасавана пад пратэстанцкі малітоўны дом.

Вырашана прамавугольным у плане аб'ёмам пад увагнутым 2-схільным дахам, завершаным па цэнтры 4-граннай шатровай вежай. Старая частка бакавых фасадаў расчлянёна арачнымі аконнымі праёмамі.

## ст. Ашмяны,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Божай Міласэрнасці

На чыгуначнай станцыі «Ашмяны», за 15 км на паўночны ўсход ад г. Ашмяны. Учынена ў 1990-я гг. ў былым адміністрацыйным будынку 2-й палавіны 20 ст.




## в. Бабонеўка,

Карэліцкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

## в. Багатырэвічы,

Мастоўскі раён
Гродзенскай вобласці

Капліца

в. Багушоўка
Гродзенскага раёна

Капліца

Учынена ў 1995 г. ў былым жылым будынку.

в. Бакшты,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

Капліца святога Губерта

в. Балаі,
Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

Капліца

Учынена ў былым калгасным будынку.

в. Бачэшнікі,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

Капліца

в. Баяры,
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

Капліца святога архангела Міхаіла

г. Белаазёрск,
Бярозаўскі раён
Брэсцкай вобласці

Капліца

в. Белая,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

Капліца




в. Бенін,
Навагрудскі раён
Гродзенскай вобласці

Капліца

г. Беразіно
Мінскай вобласці

Капліца Маці Божай Міласэрнасці

На вул. Піянерскай. Учынена ў 1990-я гг. ў драўляным будынку 2-й палавіны 20 ст.

Прамавугольны ў плане зруб накрыты 2-схільным дахам, завершаным па цэнтры 4-граннай шатровай сігнатуркай. Памяшканне асветлена прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

г. Бешанковічы
Віцебскай вобласці

Капліца святых апосталаў Пятра і Паўла

Учынена ў 2000 г. ў драўляным будынку 2-й палавіны 20 ст.

Прамавугольны ў плане зруб пад 2-схільным дахам. Гарызантальна ашаляваныя сцены расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў разных ліштвах.

в. Більдзюгі,
Шаркаўшчынскі раён
Віцебскай вобласці

Капліца Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

в. Бортнікі,
Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

Капліца

Учынена ў 2003 г. ў былым жылым доме.

в. Брынёў,
Петрыкаўскі раён
Гомельскай вобласці

Касцёл Святой Сям'і

Асвячоны ў 2002 г.

г. Брэст

Касцёл Маці Божай Каралевы

Пабудаваны ў канцы 20 — пачатку 21 ст. з цэглы паводле конкурснага праекта калектыву архітэктараў (А. і Е. Андраюкі, Д. Новік, С. Фралоў).

в. Бучаны,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

Капліца

Учынена ў прыстасаваным будынку.

г.п. Бягомль,
Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

Капліца

Учынена ў 1990-я гг. ў гаспадарчым будынку 2-й палавіны 20 ст.

**Капліца Хрыста Валадара**

Учынена ў 2004 г. ў драўляным будынку былой гасцініцы.

**в. Ваейкаўцы,**
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

**Капліца Найсвяцейшага Сэрца Ісуса**

**в. Валмечка,**
Дзяржынскі раён
Мінскай вобласці

**Капліца**

Пабудавана ў 1990-я гг. з дрэва.

**в. Варапаі,**
Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

**Капліца Маці Божай Чанстахоўскай**

Учынена ў 1990-я гг. ў драўляным будынку былой школы, пабудаваным у 1930-я гг.

**в. Варганы,**
Докшыцкі раён
Віцебскай вобласці

**Капліца**

Пабудавана ў канцы 20 ст. ў двары жылога дома.

**г. Ваўкавыск**
Гродзенскай вобласці

**Касцёл святога Станіслава**

У стане будаўніцтва з цэглы.

**в. Верабейкі,**
Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

**Капліца**

**в. Вінцукі,**
Воранаўскі раён
Гродзенскай вобласці

**Капліца**

Учынена ў 1990-я гг. ў драўляным будынку 2-й палавіны 20 ст.

**г. Віцебск**

**Капліца Ісуса Міласэрнага**

На вул. Воінаў-інтэрнацыяналістаў. Пабудавана ў 2000 г. з дрэва.

Вырашана прамавугольным будынкам пад пакатым 2-схільным дахам. Бакавыя фасады расчлянёны шчыльнымі радамі прамавугольных аконных праёмаў, размежаваных брусамі-сцяжкамі. Сакральную прыналежнасць адзначае крыж над трохвугольным франтонам уваходнага тарцовага фасада.

**Капліца святога Антонія Падуанскага**

На вул. Гагарына. Учынена ў 2001 г. ў прыстасаваным будынку.

**Капліца Святога Духа**

На вул. Чкалава. Учынена ў часовым памяшканні ў 2001 г.

**в. Волька,**
Івацэвіцкі раён
Брэсцкай вобласці

**Капліца Узвышэння Святога Крыжа**

Учынена ў 1990-я гг. ў драўляным будынку 2-й палавіны 20 ст.

**в. Воўкаўшчына,**
Шаркаўшчынскі раён
Віцебскай вобласці

**Капліца**

**в. Вялікія Баброўнікі,**
Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

**Капліца**

**в. Вярдамічы,**
Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

**Капліца**

Пабудавана і асвячона ў 1906 г. як прысядзібная, паўзруйнавана ў 1950-я гг., адбудавана ў 1990-я гг. Папярэдняя драўляная капліца згадваецца ў 1830 г. ў зруйнаваным стане.

**в. Геруцева,**
Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

**Капліца**

**в. Градкі,**
Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці



## Капліца

Учынена ў пачатку 21 ст. ў цагляным будынку былога магазіна, пабудаванага ў 1930-я гг.

### г. Гродна

## Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

На вул. Рэпіна.

## Капліца святога Юзафа

На вул. Сухамбаева.

### в. Грушаўка,
Нараўлянскі раён
Гомельскай вобласці

## Касцёл Божай Міласэрнасці

Пабудаваны ў 1998 г. намаганнямі ксяндза Станіслава Солата.

### в. Гудзяняты,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца святога Юзафа

Учынена ў 1995 г. ў былым будынку школы.

### в. Гуды,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Беззаганнага Сэрца Марыі

Учынена ў 1993 г. ў прыстасаваным будынку.

### в. Дайліды,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

### в. Дамашы,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці



## Капліца

### в. Данілавічы,
Дзятлаўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Найсвяцейшай Дзевы Марыі Тройчы Цудоўнай

Пабудавана ў 1990 г. з дрэва.

### в. Даўнары (Мяговічы),
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца святой Гелены

Асвячона ў 1992 г.

### в. Дворнава,
Шаркаўшчынскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва.

### в. Дзеравянчыцы,
Слонімскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

### г. Драгічын
Брэсцкай вобласці

## Капліца Маці Божай Каралевы

### в. Дружная,
Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца Маці Божай Чанстахоўскай

Пабудавана ў 1999 г. з цэглы на месцы драўлянай капліцы пачатку 20 ст.

### г. Дуброўна
Віцебскай вобласці

## Капліца Маці Божай Фацімскай

Учынена ў пачатку 21 ст. ў драўляным будынку.

### в. Дулеўцы,
Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

Учынена ў 1990-я гг. ў будынку былога клуба.

### в. Ёды,
Шаркаўшчынскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца Маці Божай Шкаплернай

Учынена ў драўляным будынку.

### в. Заборнікі,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

Учынена ў прыватным доме.

## в. Заброддзе,
Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

Пабудавана ў 1991 г. з цэглы.

## в. Завельцы,
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Божай Міласэрнасці

Учынена ў 1990-я гг. ў драўляным будынку 2-й палавіны 20 ст., над трохвугольным франтонам фасада надбудаваны шацёр з крыжом.

## в. Затур'я,
Нясвіжскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

## в. Ініца,
Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

На могілках. Пабудавана ў 1999 г. на месцы драўлянай капліцы 1920-х гг.

## г. Калінкавічы
Гомельскай вобласці

### Касцёл Найсвяцейшай Тройцы

Пабудаваны ў 1997—2001 гг. з цэглы пад кіраўніцтвам айца-цыстэрцыянца Э.Бісагі пры фінансавай падтрымцы дабрачынцаў з Германіі, Аўстрыі і Польшчы.

## в. Капцэвічы,
Петрыкаўскі раён
Гомельскай вобласці

### Капліца святых Бенедыкта і Бернарда

## г. Капыль
Мінскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1989 г. з цэглы.

## в. Карэвічы,
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Маці Божай Нястомнай Дапамогі

## в. Клешнякі,
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Маці Божай Міласэрнасці

Пабудавана ў 1996 г.

## в. Княжыцы
Магілёўскага раёна

### Капліца

Пабудавана ў пачатку 21 ст.

## г.п. Круглае
Магілёўскай вобласці

### Капліца святога Юзафа

## в. Крупава,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

У цэнтры вёскі. Пастаўлена ў пачатку 21 ст. Вырашана 4-гранным абшытым сайдзінгам павільёнам з крыжом на тарцовай сцяне.

## в. Кукавічы,
Капыльскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з бутавага каменю як грэка-каталіцкая. У паўзруйнаваным стане.

## в. Кукалкі,
Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Божай Міласэрнасці

Учынена ў 2002 г. ў былым жылым доме.

## в. Купчэлі,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца

Учынена ў прыватным доме.

## в. Курган,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці



## Капліца

### в. Кушляны,
Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

Каля дарогі Кушляны—Стрыпуны. Пастаўлена ў 20 ст. з дрэва.

Помнік народнага дойлідства. Вырашана 4-слуповай шатровай навіссю над драўляным крыжом са скульптурай «Укрыжаванне» (металічнае ліццё).

### в. Лаздуны 2-я,
Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

Учынена ў канцы 20 ст. ў будынку клуба.

### в. Ламачына,
Аршанскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва.

### в. Латочкі,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца Божай Міласэрнасці

Учынена ў былым жылым доме.

### г.п. Лельчыцы
Гомельскай вобласці

## Касцёл Найсвяцейшага Сэрца Ісуса і Маці Божай Фацімскай

Пабудаваны ў 1991—98 гг. з цэглы.

### в. Ленькі,
Слуцкі раён
Мінскай вобласці




## Капліца святога Вацлава

На могілках. Пабудавана ў 1997 г.

### г. Лёзна
Віцебскай вобласці

## Капліца святога Піо

На вул. Томскага. Учынена ў жылым доме ў 2001 г.

### г. Ліда
Гродзенскай вобласці

## Касцёл Святой Сям'і

На заходняй ускраіне горада. У стане будаўніцтва з цэглы.

## Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

У мікраёне Індустрыяльны. У стане будаўніцтва з цэглы.

### в. Лукавец,
Вілейскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца святых апосталаў Пятра і Паўла

На тэрыторыі былой панскай сядзібы. Учынена ў канцы 20 ст. ў будынку былога дзіцячага сада (1950-я гг.). У 1999 г. зарэгістравана парафія. Папярэдняя капліца была ўчынена ў 1920-я гг. для прыслугі маёнтка ў адным з гаспадарчых будынкаў.

Прамавугольны ў плане 1-павярховы будынак пад 2-схільным дахам, завершаным на фасадзе высокай 4-граннай вежай-званіцай са спічастым шатром. Бакавы ўваход аформлены 2-слуповым ганкам-рундуком. Фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

### в. Лялюшаўцы,
Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Маці Божай Тройчы Цудоўнай

Пабудавана ў 1996 г. з дрэва.

### в. Маісеевічы (Юбілейны),
Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

### в. Макееўшчына,
Ляхавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

### в. Маргуцішкі (Кемелішкі),
Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

### в. Масцвілішкі,
Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

Перабудавана ў 1996 г. з былога грамадзянскага будынка.

### в. Мацевічы,
Лідскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Маці Божай Чанстахоўскай

Учынена ў 1993 г. ў драўляным будынку былога клуба. Асвячона 26.8.1997 г.

### в. Міжрэчча,
Пухавіцкі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Паўзруйнавана.

### в. Мілашкі,
Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

### в. Мількавічы,
Навагрудскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца святога Антонія Падуанскага

### в. Мількаўшчына
Гродзенскага раёна

## Капліца

### г.п. Мікашэвічы,
Лунінецкі раён
Брэсцкай вобласці

## Капліца

Учынена ў пачатку 21 ст. ў цагляным будынку 1930-х гг.

### в. Навалока,
Міёрскі раён
Віцебскай вобласці

## Званіца

Пабудавана ў 19 ст. каля касцёла 16 ст. (знішчаны ў 1943). Званіца ў паўзруйнаваным стане.

### в. Навасёлкі,
Мядзельскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пастаўлена ў канцы 19 ст. з дрэва над родавым пахаваннем Малевічаў.

Твор народнага дойлідства. Вырашана шатровай бляшанай навіссю на 4 тонкіх слупах. У завяршэнні гранёная пірамідка з крыжом. Пастаўлена над драўляным крыжом са скульптурай «Укрыжаванне» (народная драўляная разьба) і мемарыяльнай дошкай.

## Капліца

На могілках. Пастаўлена ў 20 ст. з цэглы.

### в. Навасёлкі,
Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца Божай Міласэрнасці

### в. Навасёлкі,
Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Божай Міласэрнасці

Пабудавана ў 1992 г., асвячона 28.6.1998 г.

### в. Наднёман,
Уздзенскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

Пабудавана ў пачатку 20 ст. як пахавальня Наркевічаў-Ёдкаў. Захавалася ў рэштках.

### в. Ніўнае,
Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

Перабудавана ў 2005 г. з мураванага будынка пачатку 20 ст.

### в. Обаль,
Шумілінскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца святога Вінцэнта

Учынена ў парафіяльным будынку ў 2001 г.

### в. Пабоева,
Мастоўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

### в. Падбалоцце,
Зэльвенскі раён
Гродзенскай вобласці



## Капліца Божай Міласэрнасці

Учынена ў 2002 г. ў будынку былой школы.

### в. Падбярэзь,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Учынена ў 1992 г. ў драўляным будынку былога клуба.

### в. Падольцы,

Астравецкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Маці Божай Чанстахоўскай

Учынена ў канцы 1995 г. ў адміністрацыйным мураваным будынку. Прамавугольны ў плане аб'ём пад 2-схільным дахам, да якога асіметрычна далучаны ўваходны тамбур з трохвугольным франтонам і крыжом у завяршэнні. Зала аднабакова асветлена прамавугольнымі аконнымі праёмамі і перакрыта плоскай ашаляванай столлю.

### в. Палессе,

Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

### в. Пералом

Гродзенскага раёна

## Капліца Найсвяцейшага Імя Марыі і святога Юрыя

Пабудавана ў 1991—95 гг. з дрэва намаганнямі ксяндза Станіслава Гаўліка.

Уяўляе сабой прамавугольную ў плане зрубную і ашаляваную пабудову пад высокім 2-схільным дахам з мансардавым заломам. Бакавыя сцены прарублены прамавугольнымі, алтарная — стральчатымі аконнымі праёмамі. Зала перакрыта самкнутым скляпеннем. На алтарнай сцяне змешчаны тытульны абраз «Св. Юрый» (мастак А.Дуракевіч), вышэй — абраз «Маці Божая Пераломская». Левы алтар прысвечаны св. Юзафу, правы — св. Францішку.




### в. Піктуша,

Ашмянскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва.

Прамавугольны ў плане будынак пад 2-схільным дахам, завершаным над трохвугольным франтонам 4-граннай шатровай вежачкай.

### в. Пільніца,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

Пабудавана ў 1930-я гг. з дрэва.

### в. Плаўскія,

Слонімскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Божай Міласэрнасці

Пабудавана ў 1995 г.

### в. Плябанаўцы,

Бераставіцкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Маці Божай Міласэрнасці

Перабудавана ў 2006 г. з будынка былога клуба.

### г. Полацк

Віцебскай вобласці

## Капліца

У цэнтры горада, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як пахавальня.

### в. Пяршаі,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

На могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст. з дрэва.

### в. Расна,

Дрыбінскі раён
Магілёўскай вобласці

## Капліца

У цэнтры вёскі, каля руін касцёла 19 ст. Учынена ў канцы 20 ст. ў цагляным будынку 1957 г.

### г.п. Расоны

Віцебскай вобласці

## Капліца святога Іасафата Кунцэвіча

Учынена ў пачатку 21 ст. ў былым жылым доме.

### г.п. Рось,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца святога Стафана

На могілках. Пабудавана ў 1903 г.

## в. Роцкішкі,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

## в. Ругаец,

Стаўбцоўскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Пабудавана ў 1990 г. з дрэва.

## в. Рымавічы,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

Учынена ў 1994 г. ў будынку школы 1930-х гг.

## в. Савуткі,

Шаркаўшчынскі раён
Віцебскай вобласці

### Капліца святога Юзафа

Учынена ў драўляным будынку.

## в. Сваятычы,

Баранавіцкі раён
Брэсцкай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў 19 ст. як надмагілле.

## в. Сівіца,

Валожынскі раён
Мінскай вобласці

### Капліца

Учынена ў пачатку 21 ст. ў цагляным будынку былой школы.

Прамавугольны ў плане будынак пад 2-схільным дахам. Франтальны фасад вылучаны прытворам-званіцай, завершаным шатровым дахам, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

## в. Скрыбаўцы,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Хрыста Валадара

Пабудавана ў 1993 г. з дрэва.

Твор народнага дойлідства. Вырашана прамавугольным у плане зрубам пад 2-схільным дахам.

## в. Слабодка,

Шклоўскі раён
Магілёўскай вобласці

### Капліца

На могілках. Пабудавана ў канцы 20 ст.

## в. Станкевічы,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

## г. Столін

Брэсцкай вобласці

### Капліца Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі

## в. Студзенікі,

Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца Маці Божай Чанстахоўскай

Пабудавана ў 1994 г., асвячона 28.6.1998 г.

## в. Субачы,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святой сястры Фаустыны

## в. Сураж,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

Учынена ў 1990-я гг. ў драўляным будынку 2-й палавіны 20 ст.

## в. Сычы,

Нясвіжскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца святых Пятра і Паўла

Пабудавана ў 1929 г.

## г. Сянно

Віцебскай вобласці

### Капліца Найсвяцейшай Тройцы

Учынена ў пачатку 21 ст. ў драўляным будынку.

## в. Талькоўшчына,

Слонімскі раён
Гродзенскай вобласці

### Капліца

## в. Таневічы,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці



## Капліца Маці Божай Тройчы Цудоўнай

Пабудавана ў 1994 г.

### в. Фарынава,

Полацкі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца Святога Духа

Учынена ў прыстасаваным будынку. Побач будуецца мураваны храм.

### г. Фаніпаль,

Дзяржынскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца Сэрца Ісуса і Найсвяцейшай Дзевы Марыі

Учынена ў 2000 г. ў былым жылым доме.

### в. Фрунзе,

Дзяржынскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца Маці Божай Шкаплернай

Учынена ў 2001 г. ў былым жылым доме.

### в. Хадзілоні,

Шчучынскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца Божай Міласэрнасці

Учынена ў драўляным будынку былога дзіцячага сада.

### в. Хацькоўцы,

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

### г.п. Целяханы,

Івацэвіцкі раён
Брэсцкай вобласці




## Капліца Узвышэння Святога Крыжа

Учынена ў 1990-я гг. ў драўляным жылым доме.

### в. Ціўновічы,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

### в. Чарнагубава,

Капыльскі раён
Мінскай вобласці

## Капліца

Пабудавана ў пачатку 21 ст. ў памяць ахвяр рэпрэсій 1929—38 гг.

### в. Шалакундзі,

Браслаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца

Пабудавана ў пачатку 21 ст. з дрэва.

### в. Шандры (Вільчукі),

Ваўкавыскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

### в. Шурычы,

Свіслацкі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца святога Максімільяна Кольбэ

Асвячона 28.6.1998 г.

### в. Шчані,

Смаргонскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

### ст. Юрацішкі,

Іўеўскі раён
Гродзенскай вобласці

## Капліца

За 4 км на поўнач ад в. Юрацішкі, на чыгуначнай станцыі Юрацішкі. Пабудавана ў 2000 г.

### в. Янчукі,

Пастаўскі раён
Віцебскай вобласці

## Капліца Маці Божай Вастрабрамскай

Учынена ў 1994 г. ў былым жылым доме.

# ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

АБЛОМ, архітэктурны профіль рознага папярочнага сячэння (палічка, гусёк, вал, выкружка і інш.); найбольш пашыраны ў ордэрнай архітэктуры.

АБРЫС, агульны чарцёж плана будынка.

АДРАДЖЭННЕ (Рэнесанс), эпоха ў духоўным развіцці краін Еўропы, пераходная ад сярэдневяковай культуры да культуры Новага часу (14—1-я палавіна 17 ст.). Асноўны ідэйны змест Адраджэння, якое мела антыфеадальную накіраванасць, складаў гуманізм, свецкі светапогляд, навуковыя веды. У культуры і мастацтве на першы план выходзяць чалавечая асоба і рэальны свет.

АЖУР, арнаментальная скразная накладная разьба.

АКАНТ, арнаментальна-дэкаратыўны элемент у выглядзе зубчастага ліста аднайменнай расліны (пашырана ў Міжземнамор'і).

АКРАТЭРЫЙ, упрыгожанне вуглоў франтона, атыка ці карніза скульптурай, пальметамі, вазамі, абеліскамі і інш.

АЛТАР, ахвярнік, найважнейшая частка хрысціянскага храма, размешчаная звычайна ў апсідзе. У касцёлах — дэкаратыўная сценка, па-мастацку аформленая скульптурай, жывапісам, разьбой ці ляпнінай, творамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Адрозніваюць галоўны алтар і бакавыя, прысвечаныя якім-небудзь святым.

АЛЬКЕЖ, вуглавая вежападобная прыбудова да будынка самастойнага аб'ёмнага вырашэння, звычайна завершаная купалам ці шатром.

АМБОН (казальніца), узвышанае месца ў храме (трыбуна ці кафедра) перад алтаром, адкуль чытаюць тэксты з Біблії, прамаўляюць казанні. У касцёлах сімвалізуе Ноеў каўчэг (карабель, лодку). Звычайна вылучаны дэкаратыўна-мастацкай апрацоўкай.

АМПІР, стыль у архітэктуры і мастацтве 1-й трэці 19 ст., які завяршыў развіццё класіцызму. Вызначаецца арыентацыяй на антычнае дойлідства Грэцыі і Рыма, на яго больш архаічныя ўзоры, выкарыстаннем масіўных дарычных і тасканскіх порцікаў, ваеннай эмблематыкі на вялікіх нерасчлянёных плоскасцях сцен. У дэкоры пераважаюць егіпецкія арнаментальныя матывы — сфінксы, ільвы, гермы, грыфоны і інш.

АНТАБЛЕМЕНТ, верхняя гарызантальная частка фасада будынка, порціка, падтрыманая калонамі ці пілястрамі. Падзяляецца на архітраў, фрыз і карніз.

АНТЫ, бакавыя сценкі ці пілоны, якія фланкіруюць калонны порцік.

АПСІДА (абсіда), аб'ёмна самастойная частка храма; прамавугольны, шматвугольны, паўкруглы ў плане выступ, які замыкае прастору галоўнага нефа касцёла; прызначана для размяшчэння алтара. У каталіцкіх храмах дапаўняецца прэсбітэрыем.

АРАБЕСКІ, разнавіднасць арнамента, складзенага з геаметрычных фігур, сплячэнняў ліній, завіткоў, стылізаванага лісця, кветак і надпісаў.

АРКА, крывалінейнае перакрыцце праёма ў сцяне ці прасторы паміж дзвюма апорамі—слупамі, калонамі, пілонамі.

АРКАДА, шэраг аднолькавых па памерах і абрысах арак, якія абапіраюцца на калоны або слупы і ствараюць рытмічны паслядоўны рад.

АРКАТУРА, рытмічны рад дэкаратыўных несапраўдных арак на плоскасці сцяны.

АРКБУТАН, адкрытая вонкавая паўарка, якая перадае распор скляпення нефа на контрфорсы, размешчаныя за межамі асноўнага аб'ёму будынка.

АРНАТ, верхняе літургічнае адзенне: 2 полкі, закругленыя ўнізе і замацаваныя плечавымі ўстаўкамі.

АРХІВОЛЬТ, дэкаратыўны элемент аздаблення аркі, які вылучае яе контур.

АРХІТЭКТОНІКА, асноўны прынцып пабудовы архітэктурнай кампазіцыі, вызначаны сістэмай сувязей яе асобных частак і элементаў.

АТЫК, дэкаратыўная сценка ці балюстрада над карнізам будынка ці порціка.

БАБІНЕЦ, памяшканне (звычайна прамавугольнае ў плане) перад галоўным аб'ёмам храма (нефам), першапачаткова прызначанае для «аглашэнных» (тых, хто жадае прыняць хрысціянства). Мог знаходзіцца ўнутры пад хорамі і арганам (у нартэксе).

БАЗІЛІКА, асноўны кананічны тып каталіцкага храма. Прамавугольны ў плане зальны будынак, падзелены радамі калон на некалькі (3 або 5) частак — нефаў.

БАЗЫЛЬЯНЕ, манахі ордэна каталіцкай царквы з праваслаўным абрадам. У Вялікім княстве Літоўскім



першы базыльянскі манастыр быў заснаваны ў канцы 15 ст. Ордэн значна пашырыўся пасля Брэсцкай уніі 1596 г. Іх манастыры ліквідаваны ў 1839 г.

БАЛДАХІН, навес над алтаром, амбонам, тронам; месціўся на стойках ці кансольна, афармляўся купалкамі, драпіроўкамі з ламбрэкенамі.

БАЛЮСТРАДА, агароджа лесвіц, тэрас, балконаў, галерэй і інш., якая складаецца з фігурных слупкоў-балясін, аб'яднаных зверху поручнем ці карнізам.

БАРАБАН, цыліндрычная або шматгранная верхняя частка будынка, якая абапіраецца на сцены, слупы, падпружныя аркі, ветразі і завяршаецца купалам або шатром.

БАРБАКАН, падковападобная прысадзістая прыбудова перад уваходам у касцёл, замак, крэпасць, якая мела абарончае прызначэнне.

БАРОКА, вызначальны стыль у еўрапейскім мастацтве канца 16 — 18 ст. Асноўныя кампазіцыйныя прынцыпы: дынамічнасць і пластычнасць аб'ёмных архітэктурных і мастацка-дэкаратыўных кампазіцый, складанасць святлоценявых і колеравых эфектаў, крывалінейнасць абрысаў, ілюзія бязмежнасці прасторы, арганічнае спалучэнне архітэктурных і скульптурных форм.

БАРЭЛЬЕФ, скульптурны рэльеф, які выступае з плоскасці фону не больш чым на палавіну свайго аб'ёму.

БЕМА, гл. віма.

БЕНЕДЫКЦІНЦЫ, манахі каталіцкага ордэна, заснаванага Бенядзіктам Нурсійскім каля 530 г. ў Італіі. На Беларусі кляштары і касцёлы бенедыкцінцаў узводзіліся ў 17—18 ст. Большасць закрыта ў сярэдзіне 19 ст.

БЕРНАРДЗІНЦЫ, манахі каталіцкага ордэна, які адгалінаваўся ад францысканцаў і меў больш строгі статут. На Беларусь праніклі з Польшчы ў 2-й палове 15 ст. Большасць кляштараў закрыта ў сярэдзіне 19 ст.

БІФОРЫУМ, двухчасткавае аркаднае акно або арачны праём, характэрны для архітэктуры раманскага і гатычнага стыляў.

БЛЕНДА, ніша ў сцяне, якая імітуе аконны праём.

БРАМА, збудаванне найчасцей ярускай кампазіцыі з каменю ці дрэва, з галоўным уваходам ці праездам у замкнёны комплекс пабудоў. Асобны тып брамы — брама-званіца ў культавым будаўніцтве.

ВАЛЬМА, тарцовы схіл чатырохсхільнага даху.

ВАЛЮТА, архітэктурны матыў у выглядзе спіралепадобнага завітка з кружком у цэнтры; састаўная частка іанічнай капітэлі.

ВАСЬМЯРЫК, васьмігранны ў плане архітэктурны аб'ём (будынак ці яго частка, вежа).

ВЕТРАЗЬ, элемент купальнай канструкцыі, які забяспечвае пераход ад квадратнай у плане падкупальнай прасторы да акружнасці купала ці барабана; адзін з асноўных элементаў візантыйскай і старажытнарускай архітэктуры. Мае форму сферычнага трохвугольніка, вяршыня якога павернута ўніз і запаўняе прастору паміж падпружнымі аркамі. У драўляным дойлідстве выкарыстоўваюцца плоскія ветразі, пры дапамозе якіх ажыццяўляецца пераход ад падкупальнага квадрата да васьміграннага барабана.

ВІЛЕНСКАЕ БАРОКА, архітэктурна-мастацкая сістэма ў рэчышчы стылю ракако, якая склалася ў манументальнай культавай архітэктуры Вялікага княства Літоўскага ў сярэдзіне 18 ст. Архітэктурныя помнікі вызначаюцца вытанчанасцю фасадаў, маляўнічасцю сілуэта (хвалістыя фасады, шмат'ярусныя ажурныя вежы, фігурныя франтоны).

ВІЛЬЧЫК, верхняе рабро (грэбень) 2-схільнага даху.

ВІМА (бема), прамежкавая прастора паміж падкупальным аб'ёмам і алтарным паўкружжам у храмах крыжова-купальнага тыпу.

ВІМПЕРГ, высокі дэкаратыўны франтон над уваходным парталам ці аконным праёмам гатычнага будынка. Звычайна аздабляўся рэльефнай контурнай разьбой, завяршаўся выявай крыжакветнай расліны.

ГАЛАВА (галоўка), завяршэнне барабана ў форме шлема, цыбулі, конуса і інш.

ГАРАДКІ, ступеньчатыя цагляныя «падтрымкі» карніза.

ГАРЭЛЬЕФ, скульптурны ці арнаментальны рэльеф, у якім выявы выступаюць над плоскасцю фону больш чым на палавіну свайго аб'ёму.

ГЗЫМС, прафіляваны пояс, карніз.

ГІРКА, фігурная дэталь з цэглы ці каменю, падвешаная на схаваным у муроўцы жалезным стрыжні па цэнтры двухпралётнай вісячай аркі.

ГІРЛЯНДА, арнаментальны ўзор у выглядзе перапляценняў кветак і зеляніны.

ГОТЫКА, мастацкі стыль, пашыраны ў краінах Заходняй, Цэнтральнай і часткова Усходняй Еўропы ў 12—15 ст. Гатычныя саборы маюць у аснове каркас са слупоў, стральчатых арак і нервюрных скляпенняў, распор ад якіх перадаецца праз вонкавыя паўаркі (аркбутаны) на контрфорсы. Для гатычных збудаванняў характэрны востраканцовыя шпілі, стральчатыя аконныя праёмы і парталы, вітражныя вокны-ружы. У дэкоры распаўсюджаны арнамент са стылізаванага лісца аканту, ажурная каменная разьба і скульптура.

ГРАТЭСК, арнаментыка, складзеная з мудрагеліста сплеценых выяў раслін, жывёл, фантастычных істот.

ГУРТ, гатычная стральчатая арка з абчасаных клінападобных камянёў або цаглін, якія ўмацоўваюць рэбры скляпення.

ДАМІНІКАНЦЫ, манахі жабрацкага каталіцкага ордэна, які быў створаны для барацьбы з ерэтычным рухам. У 13 ст. ім была перададзена інквізіцыя. На Беларусь прыйшлі з Польшчы. Асабліва актыўна дзейнічалі ў час Контррэфармацыі. Амаль усе іх кляштары былі скасаваны ў 1-й палавіне 19 ст.

ДАРЫЧНЫ ОРДЭР, адзін з трох асноўных грэчаскіх архітэктурных ордэраў. Вызначаецца масіўнас-

цю, строгасцю прапорцый, лаканізмам дэталей. Калона з простай капітэллю прарэзана канелюрамі, база адсутнічае.

ДЭНТЫКУЛЫ (сухарыкі), рад невялікіх дэкаратыўных прамавугольных выступаў пад карнізам у класічных ордэрах.

ЕЗУІТЫ, манахі каталіцкага ордэна Таварыства Ісуса, створанага ў 1534 г. іспанскім дваранінам І.Лаёлам для барацьбы з Рэфармацыяй. Ордэн пабудаваны на аснове строгай цэнтралізацыі, дысцыпліны і бясспрэчнага падпарадкавання радавых манахаў кіраўніцтву. На Беларусі распачаў дзейнасць у 2-й палавіне 16 ст. Езуіцкія касцёлы, калегіумы, кляштары, узведзеныя ў стылі барока, утваралі вялікія комплексы, часта з'яўляліся архітэктурнымі дамінантамі гарадоў. Забаронены ў 1773 г. і ў 1820 г.

ЗАЛОМ (дах з заломам), ступеньчатая форма даху ці шатра.

ЗАМОК (замковы камень), клінападобны камень ці цагліна ў вяршыні аркі або скляпення.

ЗАСТРЭШАК, край страхі, што навісае над сценамі ў месцы спалучэння рознавялікіх зрубаў (звычайна трохвугольнай формы).

ЗБОР, рэфарматарская царква; тып культавага збудавання, пашыраны на Беларусі ў 16—1-й палавіне 17 ст. з распаўсюджаннем Рэфармацыі. Архітэктура вырашалася ў строгіх лаканічных формах, спалучала мясцовыя будаўнічыя традыцыі з асаблівасцямі готыкі і рэнесансу. У часы Контррэфармацыі многія зборы прыстасоўваліся пад касцёлы.

ІАНІЧНЫ ОРДЭР, адзін з трох асноўных грэчаскіх архітэктурных ордэраў. Капітэль калоны дэкарыравана завіткамі (валютамі).

ІМПОСТ, апорная частка , пята аркі, дэкаратыўна аформленая профілямі.

ІМША, служба ў касцёле, абедня.

ІНТЭРКАЛУМНІЙ, пралёт паміж калонамі, што стаяць побач.

КАЗАЛЬНІЦА, гл. амбон.

КАНЕЛЮРЫ, вертыкальныя жалабкі на ствале калоны або пілястры.

КАНСЕКРАЦЫЯ, асвячэнне касцёла біскупам.

КАНСОЛЬ, выступ у сцяне ці замураваная ў яе адным канцом бэлька, якая падтрымлівае карніз, балкон, скульптуру і інш.

КАНСТРУКТЫВІЗМ, кірунак у архітэктуры, пашыраны ў 1920—30-я гг. У яго аснове — мастацкая выразнасць спалучэнняў жорстка геаметрызаваных аб'ёмаў і лаканічных форм, максімальная мэтазгоднасць планіровачных і функцыянальных вырашэнняў і канструкцый. У архітэктуры будынкаў кантрастнае спалучэнне глухіх паверхняў сцен з вялікімі плошчамі зашклення, плоскія дахі, гарызантальныя вокны, адкрытыя канструкцыі і інш.

КАНФЕСІЯНАЛЬ (спавядальня), элемент касцельнага начыння, прызначаны для здзяйснення хрысціянскага таінства — споведзі. Пераважна размяшчалася каля сцяны нефа.

КАНЦЭЛЬ, агароджа, якая ў інтэр'еры касцёла аддзяляе апсіду ці прэсбітэрый.

КАПІТУЛА, агульны сход кіраўніцтва ордэна і прадстаўнікоў кляштараў.

КАПІТЭЛЬ, пластычна вылучаная верхняя частка вертыкальнай апоры (пілона, калоны, слупа, пілястры), якая перадае нагрузку ад верхняга перакрыцця (архітрава, бэлькі).

КАПЛІЦА, невялікае культавае збудаванне, якое не мае асобнага памяшкання для алтара. Будаваліся пераважна ў гонар нейкай падзеі царкоўнага або дзяржаўнага жыцця. Магнаты і шляхта ставілі капліцы для малітвы і пахаванняў пры сваіх дварах, на могілках. Невялікія, звычайна драўляныя капліцы са скульптурамі святых ставілі пры гасцінцах, мастах, бродах.

КАРАБЕЛЬ, гл. неф.

КАРМЕЛІТЫ, манахі каталіцкага жабрацкага ордэна, заснаванага каля 1154 г. ў Палесціне. У канцы 14 ст. з'явіліся ў Польшчы, адкуль праніклі на Беларусь. У сярэдзіне 19 ст. іх кляштары закрыты.

КАРТУШ, упрыгожанне ў выглядзе па-мастацку акаймаванага шчыта або паўразгорнутага скрутка, на якім адлюстраваны герб, эмблема, надпіс.

КАРЫНФСКІ ОРДЭР, адзін з трох асноўных грэчаскіх архітэктурных ордэраў. Дэкаратыўна насычаны, надзелены лёгкімі прапорцыямі.

КЕСОНЫ, квадратныя ці шматгранныя нішы-паглыбленні на столі, арцы ці скляпенні, якія прызначаюцца для аблягчэння канструкцыі перакрыцця, паляпшэння акустыкі памяшкання, дэкаратыўнага аздаблення.

КІВОРЫЙ, фігурнае купальнае завяршэнне вежы храма.

КЛАСІЦЫЗМ, стыль у еўрапейскім мастацтве ў 17 — 1-й палавіне 19 ст. У архітэктуры Беларусі выявіўся ў канцы 18 — 1-й палавіне 19 ст. Заснаваны на творчай перапрацоўцы антычнай ордэрнай сістэмы. Архітэктуры ўласцівы строгія сіметрычна-восевыя кампазіцыі і формы, стрыманасць дэкаратыўнай аздобы.

КЛЯШТАР, каталіцкі манастыр.

КОНТРФОРС, мураваная папярочная сценка, вертыкальны выступ ці рабро, якія ўзмацняюць сцяну пабудовы ў найбольш напружаным месцы; канструкцыя, якая глушыць ціск распору ад скляпення, грунту на падпорныя сценкі. Найбольш распаўсюджаны ў гатычнай архітэктуры.

КОНХА, паўсферычны купал, які перакрывае паўцыліндрычнае ў плане збудаванне (апсіду) ці арачную нішу (эдыкулу).

КРАБ, дэкаратыўная дэталь у выглядзе стылізаванага лісця ці кветак на шчытах, вімпергах, фіялах і іншых элементах гатычнага будынка.

КРАНШТЭЙН, выступ у сцяне (часта з дэкаратыўнымі завіткамі або інш. ўпрыгожаннямі), які падтрымлівае карнізы, балконы і інш. Разнавіднасць — мадульён.

КРУХТА, невысокі ўваходны прытвор (тамбур) касцёла.



КРЫПТА, скляпеністае падземнае, звычайна пад апсідай, памяшканне для ганаровых пахаванняў, можа быць у капліцы.

ЛАПАТКА, вертыкальны выступ на сцяне без базы і капітэлі (у адрозненне ад пілястры); элемент рытму і дэкору фасадаў.

ЛІХТАР, круглая або шматгранная ў сячэнні надбудова з аконнымі праёмамі над дахам; зашклёная частка даху, прызначаная для натуральнага верхняга асвятлення залы ці купала.

ЛІШТВА, прафіляванае ці арнаментальнае афармленне аконнага ці дзвярнога праёма.

ЛЮКАРНА, невялікі аконны праём на даху, купале, франтоне, прызначаны для частковага асвятлення гарышча, падкупальнай прасторы і інш. памяшканняў.

ЛЮНЕТ, арачны праём у цыліндрычным скляпенні, гарызантальна абмежаваны знізу.

МАДУЛЬЁН, дэкаратыўна трактаваная архітэктурная дэталь тыпу кранштэйна, якая падтрымлівае вынасную пліту карніза.

МАДЭРН, стыль у еўрапейскім мастацтве і архітэктуры канца 19 — пачатку 20 ст. Узнік як рэакцыя на эклектызм. Вызначаецца свабоднай функцыянальна абгрунтаванай планіроўкай, новымі прынцыпамі авангарднага формаўтварэння, асэнсаваннем новых канструкцый і матэрыялаў, шырокім выкарыстаннем хвалістых ліній у дэкоры і цякучых пластычных форм, крывалінейным малюнкам праёмаў, сінтэзам мастацтваў.

МАНЬЕРЫЗМ, плынь у еўрапейскім мастацтве 16 ст.; апошняя ступень развіцця стылю рэнесансу. У архітэктуры ўвасобіўся праз імкненне да эстэтызацыі дэкору, падкрэсленай экстравагантнасці дэталей.

МАСКАРОН, дэкаратыўны рэльеф у выглядзе чалавечага твару або галавы жывёлы, які пераважна размяшчаецца на замках арак, аконных і дзвярных праёмаў.

МЕАНДР, старажытнагрэчаскі геаметрычны арнамент у выглядзе ламанай пад прамым вуглом лініі, якая ў цэлым глядзіцца як вузкая палоса.

МЕДАЛЬЁН, выяўленчая ці арнаментальная кампазіцыя (ляпны або разны рэльеф, размалёўка, мазаіка) у авальным або круглым абрамленні.

МЕТОПА, прамавугольная або квадратная пліта паміж трыгліфамі ў фрызе дарычнага ордэра. Метопы аздаблялі рэльефамі або жывапісам.

НАВІЦЫЯТ, паслушніцтва; установа для падрыхтоўкі да ўступлення ў члены манаскага ордэна.

НАРТЭКС (прытвор), уваходнае памяшканне каталіцкага храма, прызначанае для наведвальнікаў ці «аглашэнных», якія не мелі права ўваходзіць у малітоўную залу. Тое ж, што бабінец у праваслаўным храме.

НЕАБАРОКА, стыль у архітэктуры канца 19 — пачатку 20 ст., заснаваны на стылізацыі форм барока 18 ст.

НЕАГОТЫКА, стыль у архітэктуры мяжы 19—20 ст., заснаваны на авангарднай стылізацыі форм сярэдневяковай готыкі.

НЕАКЛАСІЦЫЗМ, стыль у архітэктуры мяжы 19—20 ст., заснаваны на стылізацыі форм класіцызму.

НЕАРАМАНСКІ СТЫЛЬ, стыль у архітэктуры мяжы 19—20 ст., заснаваны на стылізацыі форм сярэдневяковай раманскай архітэктуры.

НЕАРУСКІ СТЫЛЬ, стыль у архітэктуры мяжы 19—20 ст., заснаваны на авангарднай стылізацыі форм старажытнарускага царкоўнага і цэрамнога дойлідства. Для стылю характэрна не кампіляцыя форм старажытнасці, а стварэнне архітэктурна-мастацкага вобраза, асацыятыўна звязанага з першакрыніцай.

НЕРВЮРА, арка з клінападобных камянёў або цаглін, якая ўмацоўвае рэбры крыжовага, стральчатага, зорчатага ці іншай формы скляпення.

НЕФ (карабель), падоўжнае памяшканне малітоўнай залы храма, абмежаванае па баках радамі калон, слупоў, аркатур. Вылучаюць неф сярэдні, бакавы, папярочны (трансепт). Характэрны для базілікальнага тыпу храма.

ОРДЭР, пэўнае спалучэнне нясучых і нясёных частак стоечна-бэлечнай канструкцыі, іх структура і мастацкая апрацоўка. Вылучаюць тры асноўныя ордэры: дарычны, іанічны, карынфскі. Абавязковыя састаўныя часткі ордэра: нясучыя — калона з капітэллю і базай (у дарычным без базы), нясёныя — антаблемент. Асаблівасць кожнага ордэра — у прапорцыях, прарысоўцы абломаў і формах капітэлі.

ПАДЗОР, дэкаратыўная драўляная дошка з глухой, скразной або краявой разьбой, якая акаймоўвае навіс даху або страхі.

ПАДПРУЖНАЯ АРКА, апорная канструкцыя перакрыцця, якая ўспрымае нагрузку скляпення або купала і перадае яе на слупы, сцены, пілястры і інш.

ПАДУГА, крывалінейная паверхня над карнізам унутры памяшкання, якая служыць пераходам ад сцяны да паверхні столі (плафона).

ПАДЦЕННЕ (падчэні, падсені), адкрытая галерэя ў драўляным збудаванні, вырашаная як вынасная стрэшка на слупах, змацаваных укосінамі з гарызантальнай бэлькай.

ПАЛІ, сваі пад фундаментам.

ПАНО, частка сцяны, абрамленая ляпной рамай, лентай арнаменту, запоўненая якім-небудзь мастацкім ці жывапісным творам дэкаратыўнага характару. Пано называюць таксама кампазіцыі мазічныя, фрэскавыя, ляпныя, разныя, якія выкарыстоўваюцца для мастацкага афармлення сцяны (насценнае пано) ці столі (плафон).

ПАРАПЕТ, невысокая суцэльная сценка, якая адгароджвае пакрыццё будынка, тэрасу, балкон і інш., часам упрыгожваецца дэкаратыўнымі вазамі, статуямі, пінаклямі і інш.

ПАРАФІЯ, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка канфесіі.

ПАРТАЛ, архітэктурнае абрамленне дзвярнога праёма. Звычайна аздабляліся пілястрамі, калонамі, якія неслі антаблемент або франтон, упрыгожваліся скульптурай, разьбой, размалёўкай і інш.

ПАРЭБРЫК, прыём арнаментальнай цаглянай ці каменнай муроўкі ўстаноўкай цаглін пад вуглом да вонкавай паверхні сцяны. Звычайна ўтварае дэкаратыўныя гарызантальныя фрызы і паяскі.

ПІЛОН, масіўны слуп, які падтрымлівае арку, перакрыцці, афармляе партал.

ПІЛЯСТРА, плоскі вертыкальны прамавугольны ў сячэнні выступ на сцяне або слупе, які паўтарае ўсе часткі і прапорцыі калоны архітэктурнага ордэра. Выкарыстоўвалася для члянення і крапоўкі сцяны, канструкцыйнага ўмацавання найбольш нагружаных яе ўчасткаў.

ПІНАКЛЬ, дэкаратыўная вежачка ці слупок на контрфорсе, вуглах франтона, канцах даху.

ПЛАФОН, частка столі, упрыгожаная жывапісам ці лепкай; твор манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, які аздабляе перакрыцце памяшкання.

ПЛЯБАНІЯ, дом каталіцкага святара, размешчаны звычайна каля касцёла.

ПОРЦІК, галерэя, якая ўтвараецца калонамі ці слупамі і завяршаецца франтонам ці атыкам. Звычайна афармляе галоўны ўваход у будынак.

ПРАСЛА, частка фасаднай сцяны храма, акаймаваная лапаткамі і завершаная закамарай.

ПРОТААРХІМАНДРЫТ, галава ордэна.

ПРЫМАС, ганаровы тытул архібіскупа, які старшынствуе на царкоўных сходах.

ПРЫТВОР, гл. нартэкс.

ПРЭСБІТЭРЫЙ, прастора каталіцкага храма паміж нефам і апсідай, прызначаная для богаслужэння і размяшчэння духавенства (прэсвітараў).

РАЗЕТКА, арнаментальны матыў у выглядзе стылізаванай распушчанай кветкі ці лісця аканту.

РАКАЙЛЬ, арнаментальны матыў — стылізаваная марская ракавіна, C- і S-падобныя завіткі, хвалістыя грэбні, языкі полымя. Тэрмін часам ужываюць для абазначэння стылю ракако.

РАКАКО, стыль у заходнееўрапейскім мастацтве 1-й палавіны — сярэдзіны 18 ст. У архітэктуры асноўнымі прыкметамі з'яўляюцца крывалінейныя лініі, выгнутыя плоскасці, скульптурныя кампазіцыі, картушы. Будынкі вызначаюцца пластычнасцю аб'ёмаў, маляўнічасцю сілуэта, утворанага стромкімі шмат'ярuснымі ажурнымі вежамі, фігурнымі франтонамі, насычанай пластычнай арнаментыкай і скульптурай.

РАМАНСКІ СТЫЛЬ, стыль заходнееўрапейскай архітэктуры 10—13 ст. Адметны суровым, крапасным характарам пабудоў, масіўнасцю канструкцый, абстрактна-геаметрычным арнаментам, скульптурнымі парталамі.

РАМАНТЫЗМ, кірунак у еўрапейскай культуры ў канцы 18—19 ст. У архітэктуры выявіўся ў захапленні архітэктурнай архаікай, экзотыкай, гістарычным і нацыянальным матэрыялам.

РАСКРАПОЎКА, невялікі перапад архітэктурнай плоскасці, карніза, антаблемента. Выкарыстоўваецца для члянення або пластычнага ўзбагачэння фасада будынка.

РАСПАЛУБКА, частка скляпення, утвораная перакрыжаваннем яго дзвюх узаемна перпендыкулярных цыліндрычных паверхняў. Выкарыстоўвалася пры размяшчэнні аконнага праёма вышэй пяткі скляпення.

РАТОНДА, круглае ў плане цэнтрычнае збудаванне, звычайна завершанае купалам.

РУЖА, круглы аконны праём з карункавым узорам пераплёту, запоўненага каляровым вітражом. Характэрны элемент галоўнага фасада касцёлаў раманскага і гатычнага стылю.

РУСТ, спосаб апрацоўкі каменю або імітаванага пад камень абліцовачнага матэрыялу, пры якім кожны камень ці яго імітацыя вылучаюцца перыметральным кантам рознай формы.

РУСТЫКА, рэльефная муроўка ці дэкаратыўная абліцоўка або тынкоўка сцяны ў выглядзе прамавугольных ці гранёных квадраў; часцей усяго імітавалася простай расшыўкай тынкоўкі фасада.

РЫЗАЛІТ, частка будынка, якая выступае за плоскасць фасада на ўсю яго вышыню. Выкарыстоўваецца для крапоўкі фасада па асноўных яго кампазіцыйных восях ці для вылучэння ўваходнай часткі.

РЭГАЛЬ, малы пераносны арган з гарызантальна размешчанымі язычковымі трубамі, падобны да фісгармоніі.

РЭЙМСКАЕ АКНО, акно, пераплёт якога мае малюнак у выглядзе дзвюх гатычных арак і ружы паміж іх завяршэннямі.

РЭНЕСАНС, архітэктурны стыль эпохі Адраджэння (14—1-я палавіна 17 ст.), які змяніў готыку і ўспрыняў асновы грэка-рымскай архітэктуры. Вызначаўся логікай і гарманічнасцю антычнай ордэрнай сістэмы, суразмернасцю чалавеку, гуманістычным, свецкім пачаткам. Храмы пазбаўляюцца суровых абарончых рыс (шырока выкарыстоўваліся ордэрныя чляненні сцяны, арачныя аконныя праёмы і галерэі, каланады, купальныя завяршэнні, атыкі), атрымоўваюць багатую фасадную пластыку (аркатура, рустоўка, пілястравая крапоўка і інш.). Інтэр'ер набывае цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, кесонныя столі, архітэктанічныя алтары, падобныя на трыумфальныя аркі. Рэнесансныя архітэктурныя формы пераважна мелі храмы Рэфармацыі. Пранікненню стылю на Беларусь садзейнічалі італьянскія майстры.

РЭТРАСПЕКТЫЎНА-ГАТЫЧНЫ СТЫЛЬ, архітэктурны стыль канца 18 — 19 ст., які кампілятыўна пераймаў формы сярэдневяковай готыкі.

РЭТРАСПЕКТЫЎНА-РУСКІ СТЫЛЬ, архітэктурны стыль 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст., заснаваны на выкарыстанні матываў і форм старажытнарускага дойлідства.



САКРЫСЦІЯ, у касцёле памяшканне каля апсіды, у якім захоўваецца літургічнае адзенне святара і абраднае начынне.

САНДРЫК, дэкаратыўная архітэктурная дэталь у выглядзе невялікага прафіляванага карніза над аконным ці дзвярным праёмам.

СІГНАТУРКА, невялікая вежачка (звычайна са звонам), размешчаная над дахам прэсбітэрыя ці над перакрыжаваннем нефа і трансепта.

СКАРБНІЦА, збудаванне ці памяшканне ў кляштары, у якім захоўвалі найбольш каштоўную яго маёмасць (скарб). Часам скарбніца аб'ядноўвалася з капліцай.

СКЛЯПЕННЕ, нясучая прасторавая канструкцыя для перакрыцця ці пакрыцця збудавання, якая мае крывалінейную паверхню.

СПАВЯДАЛЬНЯ, гл. канфесіянал.

СТАЛА, драўляная ці мураваная лава з высокай спінкай уздоўж сцяны прэсбітэрыя. Прызначалася для вышэйшага духавенства.

СТАЦЫЯ, мастацкае ўвасабленне аднаго з этапаў Крыжовага шляху Ісуса Хрыста.

СТУКА, матэрыял для аздаблення сцен і архітэктурных дэталей пад штучны мармур.

СУФРАГАН, памочнік.

СУХАРЫКІ, гл. дэнтыкулы.

ТАБЕРНАКЛЬ, ніша ў алтарнай сцяне для культавых атрыбутаў; звычайна аформлена невялікім накладным порцікам. Невялікая шафка ў цэнтры касцельнага алтара, на яго подыуме.

ТРАВЕЯ, канструкцыйная ячэйка ўнутранай прасторы гатычнага храма, абмежаваная адным крыжовым скляпеннем і нясучымі яго вертыкальнымі апорамі.

ТРАНСЕПТ, бакавыя крылы планіровачнага крыжа касцёла ці папярочны неф базілікі, які павялічвае прастору інтэр'ера малітоўнай залы перад алтаром і апсідай.

ТРАПЕЗНАЯ, спецыяльны будынак ці памяшканне ў кляштары для сумесных трапез, з касцёлам і дапаможнымі памяшканнямі.

ТРЫБУЛЯЖ, кадзіла.

ТРЫГЛІФ, прамавугольная, крыху выцягнутая па вертыкалі пліта з некалькімі жалабкамі. Чаргуючыся з метопамі, трыгліфы ўтвараюць фрыз у дарычным ордэры.




ТРЫФОРЫУМ, трайная калонная аркада, якой вырашаны ніша, галерэя, аконны праём.

ТРЭЛЬЯЖ, тонкі ажурны каркас-перагародка. Арнаментальны матыў у выглядзе косай сеткі, часам з кветачкамі на скрыжаваннях.

ТЫМПАН, поле трохвугольнага ці фігурнага франтона. Часам запаўняўся скульптурай, геральдычнымі знакамі, надпісамі.

ФАРА (Фарны касцёл), галоўны гарадскі прыходскі касцёл.

ФАЦЫЯТА, паддашак, мансарда.

ФЕРАТРОН , вынасны алтарык з двухбаковым абразом.

ФІЛЁНГА, квадратнае або прамавугольнае поле сцяны, пілястры, столі, скляпення, абведзенае рамкай.

ФІЯЛ, дэкаратыўная востраканцовая каменная пірамідка, якая завяршае пінакль, шчыт, контрфорс, фігурны шпіль. Нярэдка ўпрыгожваецца стылізаванымі лістамі ці кветкамі, часта мае форму крыжа. Пашыраны ў архітэктуры готыкі і неаготыкі.

ФРАНТОН, частка (звычайна ў выглядзе трохвугольніка) фасада будынка, порціка, каланады, абмежаваная схіламі даху і карнізам.

ФРАНЦЫСКАНЦЫ, манахі каталіцкага жабрацкага ордэна, створанага ў Італіі ў 1209 г. Каля 1237 г. паявіліся ў Польшчы, адкуль пазней як місіянеры праніклі на Беларусь. У сярэдзіне 19 ст. іх кляштары закрыты.

ФРЫЗ, сярэдняя гарызантальная частка антаблемента паміж архітравам і карнізам. У шырокім сэнсе — палоса дэкаратыўных, скульптурных ці жывапісных выяў у верхняй частцы сцяны, фасада.

ФУНДАТАР, асоба, якая што-небудзь заснавала ці дала фінансавыя сродкі на заснаванне.

ХОРЫ, адкрытая галерэя ў інтэр'еры храма, прызначаная для аргана.

ЦОКАЛЬ, ніжняя частка вонкавай сцяны будынка, якая ляжыць на фундаменце.

ЦЫБОРЫУМ, балдахін над алтаром.

ЦЯГА, гарызантальны ці вертыкальны паясок ці выступ, які падзяляе сцены будынка ці абрамляе пано і столь. Звычайна складаецца з некалькіх архітэктурных абломаў.

ШЧЫТ, верхняя частка сцяны ў выглядзе фігурнага атыка ці франтона, не аддзеленая ад сцяны карнізам (у адрозненне ад франтона).

ШЫРЫНКА, невялікая квадратная ніша ў сцяне мураванага будынка, фрыза, пілястры і інш.

ЭКЛЕКТЫЗМ, спалучэнне элементаў розных архітэктурных стыляў.

ЭКСЕДРА, паўкруглая ніша ў будынку або паўкруглае паўадкрытае збудаванне з сядзеннямі ўздоўж сцен.

ЭРКЕР, паўкруглы, прамавугольны ці шматгранны выступ на сцяне ці вуглавая частка будынка з самастойным пакрыццём. Звычайна навісае на сцяне кансольна.

# ЗМЕСТ





ДАВЕДАЧНАЕ ВЫДАННЕ

Кулагін Анатоль Мікалаевіч

# КАТАЛІЦКІЯ ХРАМЫ БЕЛАРУСІ

Рэдактар *Ю.В.Бажэнаў*

Мастакі: *З.Э.Герасімовіч, У.П.Свентахоўскі*

Мастацкія рэдактары: *І.А.Грынь, А.А.Драбышэўскі, Т.Я.Кудзіна, М.Г.Раманенкава*

Камп'ютэрная вёрстка: *І.М.Кузьмянкова, А.Л.Шалканаўцава*

Камп'ютэрны набор: *Р.У.Дзявочка, Н.М.Зубкевіч, Н.У.Мітраховіч, Т.М.Саленік*

Карэктары: *В.А.Кульбіцкая, Д.Дз.Лемехава, В.М.Чудакова*

Падпісана да друку 14.1.2008 г. Фармат 84 x 108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура Officina. Ум. друк. акр. 51,24. Ум. фарб.-адб. 205,80. Ул.-выд. арк. 56,92. Тыраж 3000 экз. Заказ 142.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0131958 ад 25.5.2007 г. Рэспубліка Беларусь. 220012, г. Мінск, зав. Калініна, 16.

Надрукавана ў Адкрытым акцыянерным таварыстве «Паліграфкамбінат імя Я.Коласа». Рэспубліка Беларусь. 220600, г. Мінск, вул. Чырвоная, 23.